АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# ТУРАЎСКІ СЛОЎНІК

У ПЯЦІ ТАМАХ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1984

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# ТУРАЎСКІ СЛОЎНІК

ТОМ 3

**Л—О**

Складальнікі
А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1984

ББК 81.2. Бел-4
Т86

Рэдактар
А. А. КРЫВІЦКІ

Рэцэнзенты:
І. К. ГЕРМАНОВІЧ, Ф. Д. КЛІМЧУК

Т 86 **Тураўскі** слоўнік. У 5-ці т. Т. 3 /[Склад. А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін].—Мн.: Навука і тэхніка, 1984.— 311 с.

У пер.: 1 р. 40 к.

У трэці том слоўніка ўключана лексіка мясцовай гаворкі Турава і навакольных вёсак на літары Л—О і тэксты. Слоўнікавыя артыкулы распрацаваны так, як і ў папярэдніх тамах слоўніка.

Прызначан для даследчыкаў і выкладчыкаў усходнеславянскіх моў і наогул славістаў. Значны матэрыял змяшчаюць слоўнікавыя артыкулы для фалькларыстаў і этнографаў. Карысны для работнікаў культуры, пісьменнікаў, аматараў роднай мовы.

**Т $\frac{4602020000-094}{М316-84}$ падпіснае** **ББК 81.2Бел-4**
**4Бел(03)**

## АД РЭДАКТАРА

Трэці том слоўніка змяшчае 3930 слоўнікавых артыкулаў. Распрацаваны яны лексікаграфічна таксама, як і ў двух папярэдніх тамах слоўніка. Але пры падрыхтоўцы гэтага тома былі выкарыстаны дадаткова да матэрыялаў асноўнай картатэкі слоўніка звесткі і прыклады ўжывання слоў, атрыманыя ў час экспедыцыйных выездаў групы складальнікаў на Тураўшчыну ў 1982 і 1983 гг. Летам 1982 г. група ў складзе А. А. Крывіцкага, П. А. Міхайлава, Т. М. Трухан, І. Я. Яшкіна працавала ў в. Старажоўцы. Наведаліся таксама ў вв. Знаменка, Кароцічы, Крэмна, Цераблічы і ў Тураў, дзе пазнаёміліся з гаворкай іх жыхароў і запісалі звесткі па фанетыцы, марфалогіі і лексіцы паводле пытанняў апытальніка Дыялектнага мікраатласа Тураўшчыны. Летам жа 1983 г. група ў складзе А. А. Крывіцкага, Т. М. Трухан, Г. А. Цыхуна, І. Я. Яшкіна працавала ў Тураве, Запясоччы і Дварцы. Па апытальніку Дыялектнага мікраатласа Тураўшчыны сабраны былі таксама звесткі аб гаворцы в. Рыдча і г. Давыд-Гарадок. У працы экспедыцыйнай групы ў 1982 г. прымаў удзел настаўнік Малешаўскай сярэдняй школы мясцовы жыхар в. М. Малешава Мікалай Паўлавіч Клімовіч. Яго тлумачэнні і прыклады на ўжыванне слоў садзейнічалі паляпшэнню распрацовак рада слоўнікавых артыкулаў у томе. У 1983 г. у складзе групы працаваў М. А. Саскевіч, які з'яўляецца нашым пастаянным кансультантам па лексіцы Тураўшчыны (в. Пагост). Ён зрабіў шмат каштоўных заўваг і дадаткаў у некаторыя слоўнікавыя артыкулы гэтага тома. Акрамя таго, у в. Пагост ён запісаў досыць дэталёвае апавяданне пра традыцыйны мясцовы вясельны абрад, а таксама і тэксты песень, выкананнем якіх ён суправаджаўся. У раздзеле «Тэксты» змешчан пачатак гэтага апавядання.

У гэтым жа раздзеле змешчана таксама новая нізка

апавяданняў жыхаркі в. Старажоўцы Праскоўі Мікітаўны Жукоўскай пад агульнай назвай «Цётка Парўлюшка расказвае». Праскоўя Мікітаўна — вельмі добрая, прыветлівая і гаваркая жанчына. Яна з цікавасцю і разуменнем адносілася да нашых пытанняў па словах і мясцовых звычаях і з ахвотай расказвала (і нават пераказвала па нашай просьбе) шмат чаго са свайго вясковага жыцця. Яе жывую гаворку мы слухалі заўсёды з задавальненнем і з яе дазволу многія апавяданні запісалі на магнітафонную стужку. Апавяданні Праскоўі Мікітаўны вызначаюцца цікавым зместам, дынамізмам і сюжэтнай закончанасцю. Па сваёй форме і будове гэта ў большасці досыць яркія ўзоры вуснай навелы як асаблівага жанру вуснай народнай моўнай творчасці.

Слоўнікавыя артыкулы на літару *Л* распрацаваў І. Я. Яшкін, на літары *М* і *О*—А. А. Крывіцкі, на літару *Н*—Г. А. Цыхун, тэксты падрыхтаваў П. А. Міхайлаў, а таксама часткова І. Я. Яшкін і А. А. Крывіцкі. Значны ўдзел у падрыхтоўцы тома да выдання прыняла Т. М. Трухан.

# Л

ЛАБА′З *м.* Старая абы-якая пабудова. *Будзеш іці дорогою, там будзе лабаз стояць, то повернеш лéво.* М. Малешава.

ЛАБА′ЗА *ж.* 1. Баржа. *Лабаза і барлíна — это однóе. Рáншэй лабáзы незакрытые булі, на іх дзéрэво ложылі у штабель і вéзлі у Кíеў.* Старажоўцы. *На лабазі дошкі вершкоў дзесець, іх раней дзелалі ў Петрыкóві.* Там жа. 2. Пабудова. *Булі бáцьковуе лабазы і тые продаў.* М. Малешава. *От здзелаў лабазу такую большую, дом.* Старажоўцы.

ЛАБА′ЗЬЕ *н. перан.* Няўклюда, нязгрэба. *Да прыўёз лобазье этэ: нога крывая, кóсые обедзве очы.* М. Малешава.

ЛА′ВА *ж.* 1. Лава (у хаце). *Бувало, на лаві сядзе душ дзесець сем'é!* М. Малешава. *Хоць под лавою посежу, да на хорошого поглежу* (прымаўка). Старажоўцы. 2. Абшар (поля, сенажаці). *Ек лава поля, то во ўсіх одно посеяно.* Альшаны. 3. Рад хат. *Та лава булі однúе мужыкі, а тут — ляхі.* Хачэнь. 4 *перан.* Маса, лавіна. *Сомý дзвігаліса такою лавою, а тут попаліса.* Верасніца. *Ішло дорогою лавамі тэ войско.* Дварэц.

ЛА′ВІЦА *ж.* 1. Абшар (поля, сенажаці). *Бачыце, як куму, то отвалілі такую лавіцу, да такого поля!* М. Малешава. 2 *метаф.* Поўная, мажная жанчына. *Эта лавіца ек по дорозі йдзе, то земля дрыжыць.* М. Малешава. 3. Лава (у загадцы). *Лапý-лапу по лавіцы, налáпала кошманіцу, уложыла голышá* (загадка). *Рукавіца* (адгадка). Сямігосцічы.

ЛАГВО′ *н.* Логава. *Залетось лесніки натрапілі на воўчэе лагво да побралі воўчэнята.* Запясочча. *У том лесі однúе лагвá, там свіньня. У мурáўніку лежало дзвенаццаць штук!* Старажоўцы.

ЛАГЕ′НДА *м.* і *ж. экспр.* Брыдкі, агідны, несумленны

чалавек. *От лагенда, от паскуда, чого вон плешчэ не то, шчо трэба!* Старажоўцы.

ЛА'ГНУЦЬ *зак.* Глэмнуць, грызануць. *Конь ек ла́гнуў, шо рука шчорнела!* Верасніца.

ЛАГО'ДЗІЦЬ *незак.* Лагодзіць. *От ужэ перэпадваецца, лаго́дзіць, шоб не плакаў!* Бярэжцы.

ЛАГУ'ТА *ж.* Лодар, гультай. Неахайнік. *От, цягнецца лагута, аж гідко на ёго́ гледзець.* Сямурадцы.

ЛАГУ'ЦІШЧЭ *н.* Тое ж. *Онь лагуцішчэ пошло!* Старажоўцы.

ЛАД *м.* 1. Лад, згода. *Дзе лад, там і добрэ жывуць.* М. Малешава. *Нема толку ні ладу.* Луткі. *На том ладу́ дасі посагу дзесець тысеч.* Альшаны. 2. Клавіш (у гармоні). *Ва́жко грацць, лады́ туго ходзяць.* Азяраны. △ Ч э́ р э з л а д. Звыш меры. *Вельмі ужэ чэрэз лад дала́ груша летось.* Старажоўцы. *Чэрэз лад добры!* Аздамічы. *Кашляе чэрэз лад, беспрэрыўно.* Там жа. *Через лад і свіньня не едзяць* (прыказка). Цераблічы. Д о л а д у́. Акуратна, умела. *Довела ўсе до ладу́ у ёго́ хата́х.* Мачуль. *Хоць чорны на віду, але зроблены до ладу́* (прымаўка). Старажоўцы. Б е з л а́ д у. Без парадку, без прычыны. *От говорыць без ладу!* Старажоўцы. *Так біліса, шчо без ладу.* Б е з д а й л а д у. Без прычыны. *Без дай ладу не́куды пошоў? Е прычына!* Луткі. *Без дай ладу нельга піць горэлкі.* Цераблічы. Р о б і ц ь л а д. Дамаўляцца. *Прышоў свёкор робіць лад да путаецца, дзе ж та невестка.* Сямігосцічы. Д а́ ц ь л а́ д у. Упарадкаваць. *Коты далі кураку́ ладу — з'елі чысто ўсе!* Аздамічы. У в е́ с ц і ў л а д. Давесці да парадку. *Нема нічого трудней, пока гэту сорочку ў лад уведзеш.* В. Малешава.

ЛА'ДЗІЦЦА *незак.* Дамаўляцца. *Пыталіса, чы ладзіліса мы з вамі, як бралі до себэ́.* Мачуль. *Прыходзіць жэніх да ладзіцца.* Альшаны.

ЛА'ДЗІЦЬ *незак.* Уступаць адзін аднаму. *Трэба ладзіць, шоб не сварыліса.* Аздамічы. *Вон не ладзіў ні з жонкою, ні з прымаком, ні з дочкою.* Старажоўцы. *Бувае, бацько і сын і то не ладзіць.* Сямігосцічы. △ Л а́ д з і ц ь к о р о в а́ я. Рыхтаваць каравай. Бярэжцы.

ЛА'ДКА, ОЛА'ДКА *ж.* 1. Аладка. *З этое грэцкое мукі ладкі пеклі.* Старажоўцы. *Ладкі спекла да намоча́ла ўверх.* Сямурадцы. *Му цепер ладок на сне́данье напеклі, да такіе смачные!* Кароцічы. *Мою ладку собака занёс под стол да кінуў.* Запясочча. 2. Мера валакна

льну, канапель. *Дзве жмені — ладка, а дзесець ладок — дзесяток.* Луткі. *Ладка — гэто дзве жмені да ўместо.* Старажоўцы. *А чотыры жменькі лёну, то ладка.* М. Малешава. *Твоя така добра церніца, шчо я ек бачыш сцёрла тры ладкі льну.* Кароцічы. *Перэпіваю ладку коно-пель, шоб до году буў сынок, ек пень* (вясельнае пажаданне). Старажоўцы. 3. Дзіцячая песенька, пры выкананні якой дзіця пляскае далонямі. *Му спеваем ладку: ла́дкі, ладусі, побіліса ба́бусі. За екéе ліхо — не седзелі ціхо.* Луткі. 4. Спосаб завязвання хусткі (хустку згортваюць у жгут і абвязваюць кругом галавы). *Ла́дкамі заўязвалі хустку дзеўча́та.* М. Малешава. *Я шчэ мале́нька була, да тоды ладку носілі.* Луткі. *Памянш.* л а́ д о ч к а. *Ладочка була — дзве жменькі скручвалі.* Хачэнь. *З картопля́ное мукі ладочкоў напеклі.* В. Малешава.

ЛА'ДНО *часц.* Добра, хай будзе так. *Ну, ладно, оддам тобе грошы.* Хачэнь. *Ладно, ты вугодовала дзеці, то й пора́дкуй.* Старажоўцы.

ЛАДОВА'ЦЦА *незак.* Збірацца, рыхтавацца. *Ладу́йцеса спаць собе!* Чэрнічы.

ЛАДОВА'ЦЬ *незак.* Рыхтаваць, парадкаваць. *Ек плелі лапці, то надра́тэ полосье ладова́лі у верчэ́.* Тураў.

ЛАДО'М *прысл.* Парадкам, як трэба. *Трэба ладом коб усе було.* М. Малешава. *Памянш.* л а д к о́ м. Сямурадцы.

ЛАДО'ЧНІК, НАДО'ЧНІК *м.* Бадзяга, прэснаводная губка. *Ладочнік ву́ймі да ву́сушы, то колю́чэ-колючэ!* В. Малешава. *Як наложу того надочніка, то нога загарваецца.* Там жа.

ЛАДО'ШКА *ж.* △ У л а д о́ ш к і. Дзіцячая гульня. *У ладошкі гуляюц, ложа́юц нічком да б'юц.* Тураў.

ЛАДУ'НКА *ж.* Брыж, складка (на адзенні, вопратцы). *Колісь прасо́ў не було, то клалі сподніцу под камень, коб гэтые ладункі дзержаліса.* Луткі. *У Клаўшы́хі е ешчэ світка ў ладунках, такіе шырокіе ладункі, як у гармоніку.* Там жа.

ЛА'ДЫ *мн.* △ П л е с к а́ ц ь у л а д ы. Пляскаць у далоні. *Ужэ ў лады плешчу́ць, шчо прылецеў веселец.* Рубель.

ЛА'ЗІЦЬ *незак.* Лазіць. *Мо воны лазілі на тэ стоўпу́?* Запясочча. *Покарай хлопца, шо лазіць у клубніку.*

М. Малешава. *Багато дзірочо́к у огород е, то курочкі й лазяць.* Там жа.

ЛА'ЗБЕ'НЬ *ж.* Пасудзіна для мёду. *Ла́збень на мед з ўяза робілі, а то мед проедае і чэчэ́.* М. Малешава. *У лазбень рэзалі сцельнікі, а суш кідалі на зе́млю.* В. Малешава. *Лазбе́нь робілі з коры ліпо́вое.* Запясочча. *Лазбень — на мед така кантова́та шанька з вушамі, з о́блубка робілі.* Кароцічы.

ЛА'ЗНЯ *ж.* Дзіцячая гульня. *Дзеці однэ́ на однэ попадаюць — то і лазня.* Запясочча.

ЛА'ЙБА *ж.* 1. Баржа. *Лайба була метроў мо трыццаць, і робіліса воны ў Петрыко́ві.* Старажоўцы. 2 *перан.* Мажная асоба. *Сам мале́нькі, а жонка лайба.* Верасніца.

ЛА'ЙБІШЧЭ *н.* 1. Вялікая баржа. *Ек прывезе лайбішчу дроў, то на тры го́ды.* Старажоўцы. 2 *перан.* Мажная асоба. *От лайбішчэ, сова́ецца, не робіць!* Сямурадцы.

ЛАЙДА'К *м.* Лодар, гультай. *Лайдак вон, робо́тацъ нідзе не хочэ.* Старажоўцы.

ЛАЙДЫКОВА'ЦЬ *незак.* Лайдачыць. *Лайдыку́еце, не хочэце слухаць нікого!* (да дзяцей). Аздамічы. *Лайдыку́е, нішто не робіць вон увесь век.* Сямігосцічы.

ЛАЙНО' *н.* 1. Абы-якая адзежына, лахман. *Поткінуў лайно дай лёг спаць.* Сямурадцы. *Піньджарно́ — лайно, плохі, драхлы.* М. Малешава. 2. Адкіды пры апрацоўцы льну. *Як труць лён, то однэ бувае лайно — нема нічого з волокна, усе падае з кострыцою.* Аздамічы. 3. Абы-што, штосьці дрэннае. *На плохе́ лайно говорацъ.* В. Малешава. *Нічого не забралі, так, лайно нейке.* Аздамічы. *Памянш.* л а е́ н ц э. Запясочча.

ЛА'МАНКА *ж.* Від паляўнічай стрэльбы. Старажоўцы.

ЛАМНУ'ЦЬ *зак.* Глэмнуць, грызнуць. *Гэты конь як ламне́, то так і прокоўтне́ цебе!* Кароцічы.

ЛАМПЕ'КА, ЛАПЕ'КА *ж.* Нязграбны чалавек, ламіна. *От чортова лампека, чого ты моўчыш?* Сямурадцы. *Вона не захочэ браць еку лампеку, а ву́берэ собе кого хочэ.* Старажоўцы. *Лапе́ка.* Аздамічы.

ЛАНДА' *ж.* 1. Мямля. М. Малешава. 2. Хлус, абманшчык. *То ж ланда — праўды й калівa у ёго́ нема.* Верасніца.

ЛА'НДЗІ'ЦЬ *незак.* Многа гаварыць, плявузгаць. *Ты вельмі любіш много ла́ндзіць.* М. Малешава. *Пры-*

*шла й ландзіць абу-шчо.* Сямігосцічы. *Ой, не ландзі ты того, шчо не след!* Луткі.

ЛА′НТУХ *м.* 1. Вялікі мяшок. *Гэтого лантуха і не поднімеш.* Тураў. *Цэлы лантух картохлеў насыпала.* Запясочча. 2 *перан.* Нязграбны, непаваротлівы чалавек. *Ідзе лантух, нагодовай брухо!* Луткі. *О, пошоў, неповоротліву лантух!* М. Малешава. 3 *мн.* Лахманы, рызманы. М. Малешава.

ЛАНТУХОВА′ТЫ *прым.* Нязграбны, тоўсты. *Така лантуховата жонка.* Цераблічы. *Якое то опўдало, лантуховаты чоловек.* Старажоўцы.

ЛА′НЦІ *мн.* Лахманы. *Ланці трэсуцца, а з іх людзі смеюцца* (прыказка). Сямурадцы. △ Л а́ н ц я́ м і т р у с і ц ь (т р э́ с ц і). Жыць у беднасці, хадзіць у рызманах. *Сам ланця́мі трўсіць, а золото складáе.* Запясочча. *Вон лáнцямі трасе, а грошы é.* Старажоўцы.

ЛАНЦУ′Г *м.* Ланцуг. *На ланцуг браць ёгó ці шчо?* Аздамічы.

ЛАНЦУГО′М *прысл.* Ланцугом, адзін за другім. *Язі ланцугом ідуць да брахоня́ць.* Луткі.

ЛА′ПА *ж.* 1. Лапа. *А ў кажного коценяці по чотыры лапу.* Бярэжцы. *Не схоцела собача лапа на лаві лежаці, то нехай под лавою лежыць* (прыказка). Хачэнь. *Хоць чорна папа, абы поўна лапа* (прымаўка). Запясочча. 2. Латка. *Продае чоботы новуе, а сáм у лапах ходзіц.* Запясочча. 3. Бакавы корань дрэва. *Отсечы етые лапы, вона і падае* (пра елку). Цераблічы. *Пообсекáць трэба тые лапы, бо не вўцягнеш корчá.* Хачэнь. 4. Шырокі ліст. *У того зéлья велізные, ек долоні, лапы.* Хачэнь. 5. Прылада для выцягвання цвікоў. Запясочча. 6. Шавецкая прылада для падбівання ботаў. Запясочча. 7. Лопасць у якары. Запясочча. 8. Сошка над вогнішчам для падвешвання кацялка. Хотамель. 9 *перан.* Нязграбны чалавек. Аздамічы. *Памянш.* л а́ п к а. *Гэту шкуру з гусіных лапок ховаюць да кладуць на одморожэнэ месцэ.* Луткі. *Павел.* л а́ п ш а. *От лапша нога!* Луткі.

ЛА′ПА′ЦЬ *незак.* 1. Лавіць. *Цéнеток зробіў, шчо рыбу лáпаюць.* Сямігосцічы. *У такую жару роздзеваецца, на гэтого кўста ложыцца і там лáпае рыбу рукамі.* Старажоўцы. 2. Тупаць. *Вон лапáе, а той кульгае.* Луткі. *Етому дзеду на печé ўже пора седзець, а вон кожін дзень некуды лапáе.* Пагост.

ЛА′ПЕЦЬ, ЛА′ПОЦЬ *м.* 1. Лапаць. *Мой бацько не*

*ўмее хорошые лапці плéсці, а так, верэнькі.* Луткі. *У Цераблічах — постолы́, а ў Оздамічах — лапці.* Аздамічы. *З верэвок лапець дорого обходзіцца, а ёмў копейка цэна.* В. Малешава. *Не шура́й, не бура́й, свое лапці забірай!* (прымаўка). Там жа. *Танцуй, Панцелей, не шкодуй лапцей, учоро булі на базары, лапці нову заказалі* (прыпеўка). Хачэнь. *Не вучыцца волочыцца, ек лапці е* (прыказка). Старажоўцы. 2 *перан.* Прасцяк. *Хоць вон лапець, абы за ім не плакаць* (прымаўка). Запясочча. *Павел.* лапцішчэ. *Лапцішча пообува́ём, світкі наложым і пошлі!* В. Малешава. *От лапцішчэ, хоць садзіса да едзь!* Сямурадцы.

ЛАПІДО'Х *м.* Неахайнік, абадранец. Альшаны.

ЛА'ПІК *м.* Латка, абрэзак, кавалак, пляма. *Лапіка нема дзе прышыць.* В. Малешава. *З лапікоў мі дзелаем половікі.* В. Малешава. *Лапік на картоплех буў, то буракоў посадзіла.* Хачэнь. *Нехорошы ўсход карто́плёў — лапікі гуляюць, то потсадзіць бурака трэба, хай росце.* М. Малешава. *Ек лапікі белые і чорные по ёй, то ра́ба корова.* Сямігосцічы.

ЛА'ПІНА *ж.* Тое ж. *Лапіной залапіла мешка, шо мушы проелі.* Сямурадцы. *Усе поўмока́ло ў том году, одна лапіна карто́плёў остала́са.* Верасніца. *Памянш.* ла́пінка. Сямурадцы.

ЛА'ПІЦЬ *незак.* Латаць. *Вона седзіць да лапіць мешкі.* Верасніца.

ЛАПІЧА'НКА, ЛАПЧА'НКА *ж.* Посцілка, вытканая з вузкіх палосак або абрэзкаў тканіны. *Лапіча́нкі ткалі з шмацья́ усякого.* Верасніца. *Лапічанкі ў рады колісь ткалі.* Сямігосцічы. *Лапчанкой одзеніса!* Хотамель.

ЛА'ПКА *ж.* Матыка з загнутымі зубамі і з кароткім дзяржаннем. *У бабу ўсе е: і мотыка, і ца́пка, і лапка.* Тураў.

ЛА'ПКІ' *мн.* 1. Гусіная лапка. *Там не сено, а одные лапкі горкіе!* М. Малешава. 2. Спарыш. *Лапкі — воны по дорозі ростуць.* Пагост. 3. Расянка. *Усе урэм'е на ём роса́, на лапках.* Хачэнь. 4. Бадзяга, прэснаводная губка. *Лапкі ростуць коло берэга, імі націрaюцца, іх п'юць.* Цераблічы.

ЛА'ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Латаны. *Не ла́плену бабу сем сёл не одзене* (прымаўка). Луткі. *Лаплены мешок доўго не будзе* (прымаўка). Дварэц.

ЛА'ПНУЦЬ *зак.* Хапіць, узяць. *Я рукою лап — уко-*

*лоў ру́ку!* Сямурадцы. *Лапнуў рукою за ту ме́сціну.* Старажоўцы.

ЛАПО'ЦЬКО *н.* 1. Вахлак. *То некі п'яніца, некі лапоцько той, шчо багато разоў жэніцца.* Цераблічы. 2. Хлам, старызна. *Той станок, шчо зносіўса, то лапоцько.* Цераблічы.

ЛАПУ'ЗІЦЬ *незак.* Ілгаць, хлусіць. *Не лапу́зь, хваціць ты лапузіў!* Цераблічы. *Ведо́мо лапузіць, слухаць аж брыдко.* М. Малешава.

ЛАПУ'КАЦЬ *незак.* Шлэпаць нагамі пры хадзьбе. *Мой певень лапукае, ек Пеця.* Дварэц.

ЛАПУ'Н *м.* Нягоднік, валацуга. *Лапу́н побіў чугун, розліў воду, прынёс беду́* (прыгаворка). М. Малешава. *Павел.* лапуні шчэ. *Той лапунішчэ дзенно у хаці свішчэ, над людзьмі смеецца да з жонкою б'еццa.* М. Малешава.

ЛАПУ'ТА *м.* Нядбайла, няўклюда. *Така ўжэ лапута чоловек, шчо свет не бачыў!* Дварэц.

ЛАПЦЕВА'ТЫ *прым.* Лапцяваты, пазбаўлены прывабнасці. *Від такі лапцёваты.* Бярэжцы.

ЛАПШУ'Н *м.* Нязгрэба, недарэка. Аздамічы.

ЛА'СІЦА *ж.* Ласіца, ласка. *Мо з поўчаса́ бусько хапаў ласіцу і ўхопіў.* Альпень. *Спіна рыжа, а чэрэво беленьке ў ласіцы.* Цераблічы. *Ласіца беленька, ек снег, вона вельмо шустра.* Сямігосцічы.

ЛА'СІЦЦА *незак.* Хацець завалодаць. *Вон на туюдзеўку даўно ласіцца.* Верасніца. *Ек толькі с хаты, так кот ласіцца на сало.* М. Малешава. *Кто ласіцца на муш, коб ухопіць.* Старажоўцы.

ЛА'СІЦЫ *мн.*, ЛА'СІЦА *ж.* Узор на шыбах ад марозу. *Ласіцы на вокнах, мороз велікі.* Альшаны. *О, кажэ, ужэ і ласіца лезе ў вокно, мороз.* Старажоўцы.

ЛА'СКА *ж.* 1. Ласка, пяшчота. *Мо не ў ласцы була з ім?* Альпень. *Як ласкі нема, то й жыткі нема.* Старажоўцы. *Як земле ласка, то будзе і хлеб і паска* (прыказка). Там жа. 2. Ласіца. Кароцічы.

ЛАСКА'ЦЦА *незак.* Лашчыцца. *Годзі, Жучко, ласкацца, ведаю, шо ты добры ласун.* М. Малешава.

ЛАСКА'ЦЬ *незак.* 1. Лашчыць. *Я дзеток ласку́ю, ласкую, то воны до мене і хіляцца.* М. Малешава. 2. Лашчыцца. *Шо собака тобе ласкае?* М. Малешава.

ЛАСКОВА'ЦЬ *незак.* Лашчыць. *Я іх ласкую, ласкую!* Запясочча.

ЛА'СКОВУ *прым.* Ласкавы. *Ласковэ целятко дзве маткі ссе, а гордое — ні одноé* (прыказка). Старажоўцы.

ЛАСЛІ'ВУ *прым.* Ласы. *Моя Мурка ласліва.* М. Малешава.

ЛА'СОВАЦЦА *незак.* Ласавацца. *Пекла б млінцэ да ласоваласа.* В. Малешава.

ЛА'СОВАЦЬ *незак.* Хацець завалодаць. *От лáсуе на ее, ек кот на сало.* Сямурадцы. Збродаваць. *Кот ек наесца, то не йдзе ласоваць.* Пагост.

ЛА'СОВУ *прым.* Ласы, памаўзлівы. *Ласові коток, шоб вон здох!* Сямігосцічы.

ЛА'СОЧКА *ж.* Ласкавы зварот (да дзяўчыны, жанчыны і інш.). *Ох, моя ласочка, да моя ты вýтоўка!* Сямурадцы.

ЛАСТОВЕ'НЬЕ, ЛАСТОВІ'НЬЕ *н.* Вяснушкі. *По прыродзе пояўляецца то ластовенье.* В. Малешава. Ямкі на скуры пасля воспы. *Як будзеш ластоўку браць, то ластовіньє нападзе* (павер'е). Лутні.

ЛАСТОВЕНЯ' *н.* Ластавяня. Кароцічы. *Памянш.* л а с т о в е н я́ т к о. *Ластоўка под крышою злепіць гнездо з глею і ластовенятка вуведзе.* Кароцічы.

ЛАСТОВЕ'ЧЫ *прым.* Ластаўчыны. *Ластоўку йб'еш, то будзе рабоценье ластовéчое* (павер'е). Старажоўцы.

ЛА'СТОЎКА *ж.* Ластаўка. *Просо сеюць, то ластоўка ужэ е.* В. Малешава. *Ластоўка кубло з гразе злепіць дай жыве.* Старажоўцы. *Памянш.* л á с т о в о ч к а. Альшаны.

З прылётам ластавак звязана павер'е, што трэба мыць твар і абціраццa чым-небудзь чырвоным або белым, каб быць увесь год прыгожым. *А ешчэ ек ластоўкі прылецяць, то муюцца і красным абціраюцца.* Лутні. *Ластоўка ек прылеціць, то умываюцца да белым рушніком уціраюцца.* Там жа. Паводле другога павер'я, небяспечна, калі ластаўка падлятае пад карову. *Ластоўка под корову подлеціць, то ведро можэ крóві буць.* Сямігосцічы. Спеў ластаўкі мясцовыя жыхары перадаюць словамі: *Пастушок прокляты ў полі есць і дома есць, шчэ з ёго мало, шчоб ёго розорвало!* Цераблічы.

ЛА'СТОЎЧЫН *прым.* Ластаўчын. *Як яйца ластоўчыны озьмéш, то нападзе ластовіньє* (павер'е). Лутні.

ЛАСУ'Н *м.* Ласун. *Ухопіў кот пóдмазку, от ласун!* Цераблічы. *Ты такі ласун до мое дзеўкі!* Кароцічы.

ЛА'СУ'НЬЕ *н.* Ласункі. *Нам баба, як прыдзе, навек ласуньє прынесе.* М. Малешава.

ЛАСУ'НЬЯ *ж.* Ласуха. *Вона ласунья, усе ёй смачнэ подавай.* М. Малешава.

ЛА'СЫ *прым.* Ласы. *А вы, бра, хлопцы, вы на сон не ласые!* В. Малешава. *Ек ласа жонка, то сыр схопіць, а ты хлебчы сыро́ватку.* Там жа. *Кот ласы на сало, берэ сам без спроса.* М. Малешава.

ЛА'ТА *ж.* 1. Лата, лаціна. *Коліся чэрэ́т прыўязвалі к латам.* М. Малешава. *Ходзяць у той нову короўнік, там латы лежаць з гвоздамі, то попробіваліса жэрэб'ята.* Сямігосцічы. *Вон за ту лату прыўязвае дубцэм солому.* Цераблічы. 2. Вялікая рыбалоўная сетка. *Латою лоўяць на рэцэ і ў озёрах по чыстому.* М. Малешава. 3. Латка. *Лата на лаці і шва не познаці* (прымаўка). Старажоўцы.

ЛА'ТКА *ж.* Латка. *Латку шукалі, шоб залапіць сорочку.* Старажоўцы.

ЛА'ТОЧНІК *м.* Рыбалоў пры *лаце.* Альшаны.

ЛАТУ'Н *м.* Лахман. *Латун — еке старэ́: хустка, кохта.* Дварэц.

ЛАТУ'НЬЕ *н. зб.* Лахманы. *От, назбірай латунья сякого-такого.* Сямурадцы.

ЛА'ЎКА *ж.* 1. Лава (у хаце). *Пад лаўкою седзець да на мілую гледзець* (прымаўка). Старажоўцы. 2. Дошка для сядзення ў лодцы. Запясочча. 3 *мн.* Папярочныя паскі ў набедрыках. *У набэдрыках е лаўкі перэдніе і задніе.* Верасніца. 4. Слясак у пастцы. *На лаўку пац наступіць — і бох!* Старажоўцы. △ У л а ў к і. Ткацкі ўзор. *Скацерсцэ́ ткалі ў лаўкі.* Луткі. *Памянш.* л а́ в о ч к а. *Лавочку кожны свою мае, коб поседзець коло хаты.* Старажоўцы.

ЛА'ХІ *мн.* Лахманы. *Лах наодзевала на себе.* Запясочча. △ Л а́ х і п о д п а́ х і. Пра збіранне ў хапошчах. *Лахі под пахі і пойшоў.* Бярэжцы.

ЛА'ХМАН, ЛО'ХМАН *м.* 1. Старая вопратка. *От, одзела некого лахмана́, сорома́ нема тобе!* Верасніца. 2 *перан.* Лахмач, неакуратны чалавек. *Прычэшыса ты, лохман!* Хачэнь. *Геты лохман мо век не зносіў доброе кухайкі.* Любавічы.

ЛАХМА'НІК *м.* Лахман, дрэннае адзенне. *Лахма́ніка надзе́ла подра́ного.* Запясочча.

ЛАХМАНІ'ШЧЭ *н.* 1 *павел.* Лахман. Сямурадцы. 2 *перан.* Абадранец. *Ах ты лахманішчэ, лахманьё начэпіў да ходзіць!* Сямурадцы.

ЛАХМА'НЬЕ' *н. зб.* Барахло. *Цепе́р лахма́нья даволі, толькі носі.* Запясочча.

ЛАХМА'ТЫ *прым.* 1. Лахматы, касматы, калматы. *Петрык прынёс шчэня да таке лахматэ, а вушы доўгіе!* М. Малешава. 2. З доўгімі ўскудлачанымі валасамі. *Отгодуе тые косы да ходзіць лахматы, не прычэсаны.* Варонiна. 3. Абтрапаны. *От лохмата одзежа, вісіць, як на колку.* Сямурадцы.

ЛАХМА'ЦЬЕ, ЛАХМО'ЦЬЕ *н. зб.* Барахло. *Поткіну еке лахмáцье дай сплю. Сямурадцы. От, поскідала тэ лахмоцье да валяецца.* Там жа.

ЛА'ХМОЦЬ *м.* Абадранец. *Шоб ты не ехаў, лахмоцьl* Дварэц.

ЛАХМО'ЦЬКО *н.* Тое ж. *Лахмоцько, бороду ўжэ загодоваў!* Дварэц.

ЛАХНО' *н.* Лахман, дрэннае адзенне. *Вон тэе лахно скінуў з себе.* Хотамель.

ЛА'ХНУ'ЦЬ *зак. перан.* Памерці. *Лахнуць—не хворс, а трэ вужыць да вубрацца з гэтого пекла!* М. Малешава.

ЛАХТА'Н *м.* Лахман. *Лахтанá скінь!* Бярэжцы.

ЛАХУ'ДРА *ж.* Растропа. *Лахудра ты нека, неўстроена.* Бярэжцы. *Лахудра ты раскамáчэная!* М. Малешава.

ЛАХУ'ДРО *н.* Лахман, дрэннае адзенне. *Надзець не було чого очымовум дзецям, надзене порванэ лахудро, дай не грэе.* М. Малешава.

ЛА'ЦІНА *ж.* Лацiна. *Дубцэм за лаціну прыўязваюць колоду.* Кароцічы.

ЛА'ЧКА *ж.* Брыца. *Лачка ў просі е.* Цераблічы.

ЛАШТОВА'ЦЬ *незак.* Класці пластамі. *Лаштýюць лáштамі чэрэт, солому.* Аздамічы.

ЛА'ШЧЫЦЦА *незак.* Лашчыцца. *Му ўжэ лашчымса коло ее.* Цераблічы. *Як дзіця лашчыцца, то кожны шкодуе.* Сямурадцы. *Лісáвое дзіця лашчыцца да свого татка.* Старажоўцы.

ЛА'ЯЦЬ *незак.* Лаяць. *Як ідзе весна, но ешчэ морозы да благовешчанья, то зіму не лай і саней не хавай* (прымаўка). Верасніца.

ЛЕБЕДА', ЛОБОДА', ЛЕБОДА' *ж.* Лебяда. *Не вуполола, то лебеда, бі лён.* В. Малешава. *Лебоду свінье едзяць добрэ.* Чэрнічы. *Лебоды хватае, коб шчо! У людзей варать, а ў нас — свіньям!* Альпень. *З лебеды варылі квас.* Хільчыцы. *Зробі хату з лебоды, а ў чужую не ведзі* (з песні). Сямігосцічы.

ЛЕБЕДЗІ'НА *ж.* Адно каліва лебяды. *Там-сям е ле-*

*бедзіна на моей дзялцы.* В. Малешава. *Памянш.* л е б о-д з і н к а. Запясочча.

ЛЕ'БЕДЗЬ *м.* Лебедзь. *Ой, лецелі белы лебедзі, селі воны, палі на ціхом Дунаі* (з песні). М. Малешава.

ЛЕ'ВО *прысл.* Улева, налева. *Берыса лево, а то право колдобіна веліка.* М. Малешава.

ЛЕГАМІ'НЫ *мн.* Смачная, асабліва прыгатаваная страва, прысмакі. Цераблічы.

ЛЕ'ҐАР, ЛЕ'ҐЕР *м.* Падруба. *Дубовы леґар у хаці клаўса на зёмлю.* Хотамель. *Погнілі ў мене хатніе лёґары.* Дварэц. Брус, на якім насцілаюць падлогу. *Леґары урубліваюцца у стёну, а потом кладзецца подлога.* Рубель. Падкладка. *Леґары положы, шчоб не гнілі доскі, не гніло дэрэво.* Рубель. *Подложы леґеры, шчоб легло ройно тэ дзерэво!* Альшаны.

ЛЕГА'ЦЦА *незак.* Лажыцца, класціся. *Ты цепер не легайса спаць.* Хачэнь.

ЛЕГА'ЦЬ *незак.* Класці, лажыцца. *Будам спаць легаць.* Аздамічы. *Голье махаецца, чуць до земле не легае.* Бярэжцы. *Ну, так легаймо ўжэ спаць!* Кароцічы.

ЛЕ'ГЦІ *зак.* Легчы. *Баба лёгла ўжэ спаць.* Запясочча. *Нельга легці коровам у хлёвё, гразко, трэ подослаць вішу.* Луткі. *Твоя корова лёгла ў болоці.* Цераблічы.

ЛЕГЧА'Й *м.* Чалавек, які пакладае жывёлу. Сямігосцічы.

ЛЕГЧА'НЬЕ *н.* Пакладанне. Старажоўцы.

ЛЕГЧА'ЦЬ *незак.* Пакладаць. *Легчаць лепш у молодзік.* Сямурадцы. *Под поўное буду легчаць кабанчыка, то вопухолі не будзе.* Старажоўцы.

ЛЕГЧЫ'ЦЬ *незак.* Лячыць. *Думалі легчыць бацька да не вулегчылі.* Верасніца. *Вона его лёхчыць хворого.* Луткі.

ЛЕДА'ШЧЫ, ЛЕДЗЯ'ШЧЫ, ЛЕДА'ЧЫ *прым.* Ляніві, разбэшчаны. *Ледашчы — гэто з рук вон чоловек, нідзе не роботае, водку п'е, вон неправільны чоловек.* Старажоўцы. *Ледзяшчая, волочашчая дзеўка, абу-шчо!* М. Малешава. *Ідзе ек не своімі ногамі, такі потвар, такі ледачы!* Сямурадцы.

ЛЕДВО'М *прысл.* Ледзь, ледзьве. *А вона, ледвом задацца, подубіла дроў.* В. Малешава.

ЛЕ'ДЗЬВЕ, ЛЕ'ДЗЬВО, ЛЕДЗЬ, ЛЕ'ДВО, ЛЕДВА', ЛЕ'ДБО, ЛЕ'ДБЫ, ЛЕД *прысл.* Тое ж. *Ледзьве сцеклянка була молока.* Бярэжцы. *Наготовіла, ледзьві несу —*

*да гуркоў, да ўсёго́ настроіла.* Чэрнічы. *Ле́дзьве-не-ле́дзьве ўстала, так болело!* Сямурадцы. *То я ледзьво не померла тут зо смеху.* Кароцічы. *Ледзь прыце́глі на самотужках ту рыбу.* Пагост. *За мусу ледзь одвернула корову.* Там жа. *Ледво сама прышла.* Дварэц. *Ледва вон подняў сумку.* В. Малешава. *Дно гразкее, то ледбо ногі поўцягаў.* Лутunion. *Ледбы прышоў, затоміўса.* Аздамічы. *Тая жонка лед поворочваецца, хот ты под ее жару подсып.* Лутunion.

ЛЕДОВІ'ТЫ *прым.* Абледзянелы. *Голье ледовітое зробілосо* (пра галалёдзіцу). Сямурадцы.

ЛЕ'ЖА *дзеепрысл.* Лежачы. *Сядзь, а як жэ лежа знімеш свою сукню?* М. Малешава.

ЛЕЖА'К *м.* 1. Ляжак у коміне. *Лежак од грубы до печы, вон у хаці е.* Лутні. *Лежак на горэ шчэ лежыць, не роскідаўса.* Сямурадцы. 2. Ляжачы вулей, калода. Хотамель. 3. Упаўшае дрэва ў лесе. Запясочча.

ЛЕЖА'НКА *ж.* Кушэтка. Альпень.

ЛЕ'ЖАНЫ *прым.* Ляжалы. *Лес буў лежаны.* Бярэжцы.

ЛЕЖА'ЦЦА *незак.* △ Н е  л е ж ы́ ц ц а. Пра вялікі клопат. *Не спіцца, не лежыцца, сон голоўкі не берэ* (з песні). Сямурадцы.

ЛЕЖА'ЦЬ *незак.* 1. Ляжаць, размяшчацца. *Спрашывалі ленівого, шо луччэй: лежаць чы есці. А вон кажэ — ле́жа есці.* Альшаны. *Свіньня така, ек лоша, ма́хіна лежыць.* Лутні. *Ліньні лежаць на дне. Едом, помахаем у водзе почыною, вон брохне і лежыць. Лова́ць можно і рукою.* Сямігосцічы. *На коміні лежаць сернікі ў коробцы.* Дварэц. *Лежыць бацько ў другом концэ могліц.* Хачэнь. 2 *перан.* Хварэць. *Вона моцно лежыць, умрэ.* Дварэц.

ЛЕЖА'ЧЫ *прым.* Ляжачы. *Под лежачы камень вода не цечэ* (прымаўка). Верасніца. △ Л е ж а́ ч ы  х л е б. Забеспячэнне, якое здабываецца лёгкай працай. *От найшоў лежачы хлеб! От робота ў його лёхкая!* Сямурадцы.

ЛЕ'ЖБІШЧЭ *н.* Логавішча, лежбішча. *Буў вон на охоці да натрапіў на воўчэ лежбішчэ.* М. Малешава.

ЛЕ'ЖНЕВУ *прым.* Гультайскі. *Вусваталі дочку́ лежневу, але, дзякуй богу, вона ў бацька не ўдаласа, роботніца.* М. Малешава.

ЛЕЖНЕ́ЎКА, ЛЕЗНЕ́ЎКА *ж.* Вымашчаная дарога.

*Лежнёўку прокладом да вувезом колоды.* Сямурадцы. *Лезнёўка.* Пагост.

ЛЕ́ЖНІ *мн.* Ляжанне. *У цебе одные лежні от лені!* Сямурадцы.

ЛЕ́ЖНІШЧЭ *н.* Гультай, лежань. *Ох ты лежнішчэ, лежэнь, полено!* Запясочча.

ЛЕЖНЮ́КА *м.* Тое ж. *Дзело робіць ленуецца — гэто лежнюка.* Луткі.

ЛЕ́ЖНЯ *ж.* Тое ж. *Шо то за лежня! Уставай!* Сямурадцы.

ЛЕЖЫ́ЎКА *ж.* Вымашчаная дарога. *Лежыўку ту военную робілі.* Старажоўцы.

ЛЕ́ЖЫШЧЭ *н.* Зброд, зборышча. *Собаччэ лежышчэ.* Пагост.

ЛЕЖЭБО́КА *м.* Гультай, лежань. *У моей до́чкі не чоловек, а лежэбока.* Тураў.

ЛЕ́ЖЭНЬ *м.* 1. Тое ж. *А чому ж воны лежні, воны ж робяць.* Цераблічы. *Такі лежэнь, шо пройдзі свет-мір, такого не найдзеш!* Луткі. *То хозяйка? То лежэнь, ена будзе ходзіць за гусіма, будзе клопат маць?* Кароцічы. *Лежэнь лежыць, а на лежня бежыць* (прымаўка). Верасніца. 2. Ляжачы вулей, калода. Аздамічы.

ЛЕ́ЗІВО *н.* Пад'ёмнае прыстасаванне ў пчаляроў. *Лезіво — така дошчэчка з дзірка́мі і воро́ўка до́ўга, кіне ее за сук, воро́ўку цягне і сам себе цягне.* Мачуль.

ЛЕ́ЗЦІ *незак.* Лезці. *Узяла дробіну на вушкі лезці по сено.* М. Малешава. *Сініцы слепіцою лезуць у вокно на мецеліцу.* Пагост. *Не лезце, русаўка седзіць у жыце!* (да дзяцей). Цераблічы. *Колёса по колодкі е лезуць у песок, по самые оплені.* Луткі. *Не лезь на дзерэво, то не ўпадзеш* (прымаўка). Сямігосцічы. Змяшчацца. *Гуркі не лезуць у дзежку.* Дварэц. △ Л е́ з ц і  н а  п л е́ ч ы. Навальвацца. *І косіць, і молоціць — усе на мое плечы лезло.* М. Малешава. Л е́ з ц і  с л е п і́ ц э ю. Быць вельмі назойлівым. *А мухі лезуць слепіцэю у хату.* Старажоўцы. Л е́ з ц і  з  п о́ л я. Буяць. *Картоплі с поля лезуць, такое хо́роство́!* Старажоўцы. *Так цепер росце жыто, аж з поля лезе!* Там жа.

ЛЕ́ЙЦЫ *мн.* Лейцы. *Вона грузіць, а я за лейцы дзержу коня.* В. Малешава.

ЛЕЙЧА́ЦЬ *незак.* Лягчаць, пакладаць. *Скоро поросят трэ лейчаць, а то ек старые, то воны важко перэносяць гэтэ.* Верасніца.

ЛЕЙЧЫ'НА *ж.* Ляйчына, адна бакавіца ў лейцах. *За лейчыну рвані добрэ — боліць коню.* В. Малешава.

ЛЕК *м.* Лячэнне. *Ек дасць бог век, то дасць і лек* (прыказка). Сямурадцы.

ЛЕ'КОВУ *прым.* Лекавы. *Ой, екіе там лековые зелья!* Луткі.

ЛЕКОЦЕ'ЦЬ *незак.* Дрыжаць, трэсціся. *Покі ўвогрэешса, то лекоціш у той клеці.* Цераблічы. *Лекоціць, рэве, да спасайце ёго людзі!* Хачэнь. *А на мне усе лекоціць.* М. Малешава.

ЛЕЛЕ'ЦЬ, ЕЛЕ'ЦЬ *незак.* Блішчаць, пераліваацца. *Вот лелее вода!* Запясочча. *Лелее вода ужэ у горо́дзі.* Мачуль. *Елее вода кругом.* Аздамічы.

ЛЕЛЯ'К *м.* 1. Ястраб. Запясочча. 2 *перан.* Недалуга, недарэка. Хотамель.

ЛЕ'МА *ж.* Нязгрэба, маруда. *Лема — непроворны чоловек.* Луткі.

ЛЕ'МЕНТ *м.* Лямант, крык. *Вышла я — кругом крык, лемент!* Запясочча.

ЛЕМЕНТОВА'ЦЬ *незак.* Лямантаваць, крычаць. *От лементу́е, шчо не дай бог!* Луткі. *Воны́ дзень будуць лементоваць, шчо не пісана робота.* Луткі. *От лементуе, места не находзіць, як ёму́ вэ́льмо погано.* Бярэжцы.

ЛЕМЕНТУ'ХА *ж.* 1. Крыклівая жанчына. *От лементуха, лементуе дзень і ноч!* Сямурадцы. 2. Страва з ягад. *Як з ягод зробяць тую му́рзу, то зовуць і лементуха.* Луткі.

ЛЕМЕ'НУ'ЦЬ *зак.* Хутка пабегчы. *Поро́біць час да і леме́не спаць у кусты.* М. Малешава.

ЛЕМЕ'Х *м.,* ЛЕМЕ'ХА *ж.* Таўстун, няўклюда. Сямурадцы.

ЛЕМЕ'ХОВА'ТЫ *прым.* Няўклюдны, непаваротлівы. *Лемеховаты — то непроворны чоловек.* Луткі. *Е ж усякіе, е такіе лемеховатые дзеўкі', непроворные, а е ж — кру́ціцца.* Хачэнь.

ЛЕМЕ'ШКА *ж.* 1. Рэдкая страва з мукі, кулеш. *Зо дного ме́шка хлеб і лемешка* (прымаўка). Дварэц. *За ложкаю лемешкі трэба іці сто кіломе́троў пе́шкі* (прымаўка). Старажоўцы. 2 *перан.* Няўклюдны, непаваротлівы чалавек. М. Малешава. *Павел.* лемешышчэ *н.* Вельмі няздатны, няздольны, непаваротлівы чалавек. Кароцічы.

ЛЕ'МЗА'ЦЬ *незак.* 1. Неапетытна павольна есці. *Не*

*есць, да так лёмзае.* М. Малешава. 2. Румзаць. *Годзі лемза́ла, а то як урэжу!* М. Малешава.

ЛЕМЗНУ'ЦЬ *зак.* З'есці крышку з неахвотай. *Чу́ценькі раз лемзне́ дай ні есць.* М. Малешава.

ЛЕНА' *ж.* Лянота, ленасць. *Нека лена упала на нас, нешчо ленуюса дзело робіць.* Цераблічы. *З лены́ нічого не робім.* Верасніца.

ЛЕНІ'ВУ *прым.* Лянівы. *Леніву два раз ходзіць, а с скупого чорт утро́й берэ* (прыказка). Мачуль. △ Л е н і в у д у б. Від дуба. *Кажуць, леніву дуб, бо вон позно розвіваецца.* Луткі.

ЛЕНІ'ЦЦА *незак.* Ленавацца. *А моя баба леніцца да леніцца, спіць да спіць, нічого не робіць.* Хачэнь.

ЛЕНОВА'ЦЦА *незак.* Ленавацца. *Не лену́йса, сыночок, вучыса.* Азяраны. *Хто роботу робіць да тру́дзіцца, а хто ворон ловіць да лену́ецца.* Хачэнь. *Вона леноваласа пахаць, у іх хлеба не було* (пра шляхту). Мачуль.

ЛЕНОГУ'З *м.* Гультай, лежабок. *Ходзіць по селу леногуз, хоця б полено перэсёк.* Верасніца. *Леногуз чортоў, ленуецца робіць.* Сямурадцы.

ЛЕНО'ТА *ж.* Лянота, ленасць. *Ленота такая, робіць нічого не хочэцца.* Азяраны.

ЛЕНЫ' *прым.* Лянівы. *Лены два разы́ ходзіць, а скупы два разы́ траціць* (прыказка). Мачуль.

ЛЕНЬ *ж.* △ Л е н ь-д у б. Від дуба, які позна распускаецца. *Лень-дуб е ў нас коло рэкі.* Сямурадцы.

ЛЕПА'Й *м.* Муляр. *Вон гэто лепай сам, лепіў короўнікі.* Верасніца.

ЛЕ'ПА'К *м.* 1. Цяльпук. *Лёпак лепакова́ты!* Цераблічы. *Лепа́к.* Луткі. 2. Пляскач. *Дай дзіцяці лепака́, шоб не дурылосо.* Сямурадцы. 3. Муляр. *Трапіла лепака́! Вон тобе такую злепіць гру́бу, шчо на другі дзень обернецца.* М. Малешава.

ЛЕ'ПАНКА *ж.* Мазанка (хата). *Гэтой бабі і лепанкі хваціць.* Хачэнь. *Лепанка була і ў Семурадцах, ек на Украіні.* Старажоўцы. Глінабітная печ. *Лепанка — бітая печ.* Бярэжцы.

ЛЕПА'Р *м.* Муляр. *Лепарэ́ забагацелі ў нас!* Дварэц.

ЛЕ'ПАЦЬ *незак.* Лёпаць, шлёпаць (пра вусны). *Лёпаю губамі, а сказаць не могу.* Старажоўцы.

ЛЕПЕ'НДА' *ж.* 1. Вадкая гразь. *От лепенда, не вулезці.* Луткі. 2 *перан.* Прымітыўная пабудова. *Злепіў лепенду́ да не нахваліцца про ту хату.* М. Малешава.

3 *перан.* Пустаслоў, балбатун. *Ох і лепенда ж ты, лепенда, не помоўчыш, лепендаеш дзе трэба і дзе не трэба.* М. Малешава.

ЛЕПЕНДА'ЦЬ *незак.* Шмат гаварыць, балбатаць. *Ему і есці не давай, а дай лепендаць.* М. Малешава.

ЛЕПЕ'НІК *м.* Варэнік з начынкай. *Колісь мое дзеткі ніколі хлеба не елі, воны, бедные, на лепеніках поўростаі.* М. Малешава.

ЛЕПЕ'ТА *ж. метаф.* Сабака. *Мормóта прышоў да путаецца ў лепеты: ці дома воркóта?* (загадка). *Воўк, собака, кот* (адгадка). Хачэнь.

ЛЕПЕТА'ЦЬ *незак.* Лапатаць, балбатаць, хлусіць. *Лепетала, лепетала да долепеталаса, шчо й рак свішчэ.* М. Малешава.

ЛЕПЕТУ'ХА *ж.* Вадкая гразь. *Свінья купаецца ў лепетýсі.* Цераблічы. *Дзеці робілі з лепетухі пампушкі.* Верасніца.

ЛЕПЕ'ХА' *ж.* 1. Аер. *Лепехі на тройцу нарвуць да накідаюць і на дворэ і ў хаці.* Аздамічы. *Лепехá.* Там жа. 2. Маннік вялікі. *Поросла у доліні одна лепеха скрозь.* Альпень. *Лепеха по лозах росце.* Кароцічы. △ С в ó й с к а л е п е х á. Аер. *Лепеху свойску рвалі на тройцу да кідалі ў хаці.* Луткі. П а х ý ч а л е п е х á. Тое ж. *Лепеха пахуча по долінáх росце.* Бярэжцы. С і в а л е п е х á. Касачы. *Лепеха сіва жоўтым цветом цвіце і на ей струч'е е.* Луткі. К у р ы́ н а л е п е х á. Тое ж. Луткі. Г л у х á л е п е х á. Тое ж. Аздамічы. К ó н ь с к а л е п е х á. Маннік вадзяны. Луткі.

ЛЕПЕХО'ВУ *прым.* Аеравы. *Корэнье лепеховэ сушылі.* Луткі.

ЛЕ'ПЕЦЬ *ж.* Слота (снег з дажджом). *Не можно на двор вуйці, лепець така!* Аздамічы.

ЛЕПЕ'ШНІК *м.* Аер. *Кóрэня лепешніка ломляць да сушаць.* Рычоў.

ЛЕПЕШЫ'ЛО *н.* Целяпень. *Дзіця таке лепешыло, подняць не можно.* М. Малешава.

ЛЕПІ'ЦЦА *незак.* Ляпіцца. *Лéпіцца усе, прыстае.* М. Малешава.

ЛЕПІ'ЦЬ *незак.* Тынкаваць. *Му екраз у год свою хату лепілі.* Сямурадцы. △ Л е п í ц ь к о р о в а я́. Рабіць каравай з цеста. *Одные жонкі лепяць коровая.* Сямурадцы.

ЛЕ'ПКАЦЦА *незак. экспр.* Цалавацца. *На свадзьбі цэлы дзень лепкаюцца!* Хачэнь.

ЛЕПКОВА'ТЫ, ЛЕПОКОВА'ТЫ *прым.* Цяжкаваты ў руках, грузны, не стройны. *Іван у нас лепковаты.* Лут-кі. *Така тоўста, лепоковата та дзеўка.* Цераблічы. *Му кладку перэшлі, а Юрка бобухнуў у воду, вон лепокова-ты.* М. Малешава.

ЛЕПЛЯ'ВО *прысл.* Марудна, павольна. *Вона лепля-во робіць, ленуецца.* Старажоўцы. *Памянш.* л е п л я́-в е н ь к о. *Так леплявенько зове — Натáленько!* В. Ма-лешава.

ЛЕПЛЯ'ВУ *прым.* 1. Прыліпчывы, назойлівы. *Коб вон буў такі лепля́ву, то не!* М. Малешава. 2. Марудны (пра работу). *Робота така леплява.* Хотамель.

ЛЕ'ПОК *м.* Нявыпечаны, няўдалы хлеб. *Як хлеб не-ўдачны, то кажуць: от некі лепок замесіла да ўкінула ў печ.* Цераблічы.

ЛЕПО'ТА *ж.* 1. Слота. *От шля́кіць, лепота, ідзе снег з дожджэ́м, добры хозяін дурного собакі не вы́гоніць!* Аздамічы. 2. Вадкая гразь. *Там не зроблена дорога — одна лепота.* Верасніца. 3 *перан.* Пэцкаль. *Ой, лепота, седзі!* Сямурадцы.

ЛЕПШ *прысл.* Лепш. *Жытні хлеб за ўсе лепш.* Луткі. *У гóсцях добрэ, а дома лепш* (прыказка). Цераблічы.

ЛЕ'ПШАЦЬ *незак.* Лепшаць, ачуньваць. *Не лéпшаю да не поміраю.* Аздамічы.

ЛЕПШОТА' *ж.* Выгада, карысць. *Екая вам лепшота, колі ву робіце, а воны галя́юць.* Старажоўцы.

ЛЕ'ПШЫ *прым.* Лепшы. *Вон забраў собе лепшу зе́млю.* Хільчыцы. *Самы лепшы чын, ек нічым* (прыказ-ка). Луткі.

ЛЕ'РА, ЛЕ'РЭЯ *ж.* Ліра. *Мо умру, то і там загада-юць неку леру круціць.* Мачуль. *Колісь на лерэю старцы́ ігралі.* Старажоўцы.

ЛЕС *м.* 1. Лес, дрэвастой. *Пошла ў лес — і брусніцы мое, і лісіцы мое.* Хачэнь. *Лес багаты на ўсе.* Сямурадцы. *Лес чуе, а поле бачыць* (прымаўка). Там жа. *Воўк жыве ў селе, а ў лес позірае* (прымаўка). Старажоўцы. *Шо дáлей у лес, то болей труснікóў* (прымаўка). Там жа. *Як у лес, так і з лесу* (прымаўка). М. Малешава. 2. Лес (лесаматэрыял). *Купіў лес на хату.* В. Малешава. *Трэба лес покласці на лега́рах, коб не по́гніў.* Луткі. *На лесі е стан* (пра плыт). Сямігосцічы. △ О б о л о́ н і с т ы л е с.

Дрэнны, слабы лес, з тоўстым слоем абалоны. Альпень. С т р ы ж н ё в ы  л е с. Буйны, добры лес, з тоўстым стрыжнем і тонкім слоем абалоны. Альпень. Ч о р н ы  л е с. Лісцевы лес. Мачуль. Л е с  з  н е́ б о м  г о в о́ р ы ц ь. Пра гонкі высокі лес. *Дзе га́ло, попас от гэто во, гэтты лес быў, з небом говорыў!* Пагост.

ЛЕ′СА *ж.* 1. Лесвіца, драбіны. *А туды ні ле́сы не поставіш, нічого, коб залезці.* Тураў. *Трэба вусо́ка вельмо леса, шоб оборваць ту рабіну.* Дварэц. 2. Плот з вертыкальных дубцоў, перавітых паміж трох жэрдак. Сямігосцічы. 3. Калкі ў езе. Альшаны.

ЛЕСІ′НА′ *ж.* Лясіна, дзеравіна. *От лесіна попалас сыроватая.* Аздамічы. *Кругом тое лесіны́ можно танцоваць!* Альпень.

ЛЕ′СКА *ж.* 1. Лесвіца, драбіны. *Зробіў леску вусоку да шырокіе цэпкі, то не могу злезці.* Хачэнь. *По лесцы на горў лезом, ек шчо трэба узяць там.* Кароцічы. *І ляскі нема, і залезе ў вулей тая муш.* Цераблічы. 2. Дужка ў палукашку (на возе). *Леску з орэшніку коно́плямі перэўе на возе — і готовы полу́кошок.* М. Малешава. 3. Плот з вертыкальных дубцоў, перавітых паміж трох жэрдак. Сямігосцічы. 4. Насціл з дубцоў на санях. Альшаны. 5. Травяністая лясная расліна. *Леска зовецца, то вона ў лесе росце, дзеўкі подкрашваліса колісь.* Сямурадцы.

ЛЕ′СКА′ЎКА *ж.* Падлешчык. *У лескаўкі бо́йстра спіна.* Дварэц. *Лескаўка — шыро́ка да то́нонька рыба.* Там жа. *Ле́скаўка.* Аздамічы.

ЛЕСКОНЕ′ЦЬ *незак.* Ляскатаць. *Лесконіць церніцэю той бонаве́ла!* Сямурадцы.

ЛЕСКУ′ХА *ж.* Падлешчык. *Малая — лескуха, а вуросце, то ўжэ лешч зовецца.* Старажоўцы.

ЛЕСНО′ *прысл.* Лясіста, паросшы лесам. *Було лесно, корчэ́, не відно́. а цепер — га́ло.* В. Малешава.

ЛЕСОВІ′К *м.* Лясун. *Хвоя ці дзерэво ву́вернено з корнем, то лесовік. Лесовік едзе да ла́міць.* Луткі.

ЛЕСО′ВУ′ *прым.* Лесавы, лясны. *Лесо́ву бусько дзікі, вон людзей боіцца.* Кароцічы. *Суніца — лесова́, клубніка — садова́.* Дварэц. *Гэто ў лесову́х людзей тые рабіны, а ў нас нема.* Верасніца. △ Л е с о́ в у  с о б а́ к а. Паляўнічы сабака. Запясочча.

ЛЕ′ТА′ЦЬ, ЛЯ′ТАЦЬ, ЛЁТАЦЬ *незак.* 1. Лятаць. *Ластоўкі ле́таюць перэд дожджэм, мабуць, воны знаюць!*

Старажоўцы. *Стане смеркáць, то коржаны лётаюць.* Пагост. *Бабкі е такіе, лётаюць у вýльі. Эта бабка з'едае усе пчолы.* Дварэц. *Бабінэ лето не летáе, то будзе лето шчэ* (прыкмета). Сямігосцічы. *Летáй муха, да не прылетáй до вуха* (прымаўка). Луткі. 2. Хутка рухацца. *Е такіе паукі, шо по водзе лётаюць.* Хачэнь. *Шо то усе летáюць коньмі?* Сямігосцічы.

ЛЕТВА′ *ж.* Лятанне, лёт. *От у моіх пчол летва хорóша, у шэсць, восем пчол лётаюць.* Хотамель.

ЛЕ′ТНІ *прым.* 1. Летні. *Баба — велікіе грушы летніе.* Луткі. *Ну, летне ўрэм'е, ягоды, тóе-сёе — так і піталаса.* Кароцічы. *Летні дзень год корміць* (прымаўка). Сямігосцічы. 2. Летні, цеплаваты. *Лéтню вóду вон не п'е, дай холодну, то п'е.* Запясочча. △ Л é т н і х л ó п е ц. Пажылы, у гадах. Запясочча. Л é т н і е д р ó в а. Дровы, нарыхтаваныя летам. *Летніе дрова — вон летом порэзаў і посушыў і склаў у клетку.* Старажоўцы.

ЛЕ′ТНІК *м.* 1. Лёгкі, летні пінжак. *Нешчо порваўса мой летнік, трэба другого купляць.* Цераблічы. 2. Пералетаваныя дровы. *Летнік, которые лето стояць дрóва.* В. Малешава.

ЛЕ′ТО *н.* 1. Лета. *Пройшоў Ілья, то лета нема* (прымаўка). Луткі. *Дóбрэ дзеці ў лéці, а зімою — хоць у вір головою* (прыказка). Старажоўцы. 2. Год. *Хлеў нову, шчэ одного лета.* Верасніца. *У гэтом леці дожджэ!* Сямігосцічы. 3 *мн.* л é т а. Узрост, гады. *А ека була ты у ее лéцях?* Цераблічы. *Ой, ты моя маці, шо хóчу сказаці, шо летá проходзяць, а я нежонаты* (з песні). Сямурадцы. *Жіла ў бацько, жіла ў мацер, а ў свекроўкі не буду, летá свое молодые поміnаці буду* (з песні). Там жа. *Екі летá, такі і розум* (прымаўка). Сямігосцічы. *Малые летá — малы й розум* (прымаўка). Там жа. △ Л é т о-л é ц к е. Цэлае лета. *Вона купіла, а той лес стояў лето-лецке незрэзаны.* Дварэц. *Лето-лецьке збірáём, а нема чого есці.* Бярэжцы. Б á б і н е л é т о. Цёплая сонечная пара ў раннюю восень. Запясочча. П о л é т у. Летам. Пагост. Т о г ó л é т а. У той год. *Вáле, ты мо шчэ век не бачыла купáла? — Того лета бачыла.* Цераблічы. *Памянш.* л é ц е ч к о. *Лецечко роботала дома: ні разу не вуйшла на вечорынку.* Запясочча.

ЛЕ′ТОВАЦЬ *незак.* Летаваць, знаходзіцца летам. *І ні одзін сын тут не лётуе.* В. Малешава. *Занесом у озерышчэ, да воны там летуюць, тые гусенята.* Дварэц.

*Сено летовало на болоці.* Бярэжцы. *Летовалі му ў курэнях.* Цераблічы.

ЛЕ'ТОМ *прысл.* Летам. *У хаці летом холоднó.* Запясочча. *Летом нема колі за роботою молодым.* Сямігосцічы. *Летом ногою, а зімою рукою* (прымаўка). Там жа.

ЛЕ'ТОСЬ, ЛЕ'ТОСЯ *прысл.* Летась, мінулы год. *Летось садовінá була неважная, а позалётось хорошая.* Тураў. *Летось була мéньша водá, позалётось бóльша, а позáлетось — самá мéрна.* Там жа. *Летося посыпаў удобрэнія, то картóплёў наросло, шчо ні ў кого столькі не було.* Бярэжцы.

ЛЕ'ТОШНІ *прым.* Леташні. *Летошні год буў ні сухі, ні мокры.* Луткі. *Хлопцы! Летошня пора прышла — летось так було!* В. Малешава. *І цепер летошнее соломі копá е.* Там жа.

ЛЕ'ТОШНІК *м.* Мінулагодняе цяля. *Там целята-летошнікі пасуцца ўсе лето й зімують там.* Дварэц.

ЛЕТУ'ЧЫ *прым.* 1. Лятучы. *Хочэ буська побачыць летучого весною, коб ногі не болелі.* М. Малешава. 2. Гладкі, не шурпаты. *Дуб летучы, а граб летýчэй.* Старажоўцы. △ Л е т ý ч а я м у ш. Кажан. Запясочча. Л е т ý ч ы е в ý т в у. Дзікія качкі. *Летýчые вýтву — это дзікіе вутву, воны навек лецяць у пóўрэй.* Старажоўцы.

ЛЕ'ЎНЫ *прым.* Дажджлівы. *Леўны дзень.* Цераблічы.

ЛЕ'ЎША *м.* і *ж.* Ляўша. *Цвелілі: о, леўша, подай коўша!* Верасніца. *У одных людзей усе дзеці леўшы.* М. Малешава. *Одна баба леўшою жала.* Хотамель.

ЛЕЎШУ'Н *м.* Тое ж. *Леўшун на леву рýку коле, на леву нóгу скачэ.* Сямурадцы.

ЛЕЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Ляцець. *Усе куры лецяць к пеўню.* В. Малешава. *Лецяць гускé, дубовые носкé,— то-то-то, то-то-то!* (з дзіцячай песенькі). Цераблічы. *Лецелá сорока, а за ею сóрок* (загадка). *Дзве сорóкі* (адгадка). М. Малешава. *Віхор лецеў, то я ўпала і крычу: «Сцепан, падай!»* Хачэнь. *Дзікіе гусі лецяць у поўрэй ключамі і ґéўкають, ек свое гусі.* Старажоўцы. *Ек гусі лецяць нізко, то зіма блізко, а ек шчэ высóко, то зіма далёко.* Там жа. *Як леціць стрэла, то поб'е дуба на шчэпкі.* Сямурадцы. *Як дасць, то на берэгі вода леціць.* Луткі. 2. Хутка рухацца. *Трэба ўзяць на бабайку, шоб не буйстро лецеў лес.* Сямігосцічы. *По той дóшчэчцы леціць той сок* (пра бярозавік). В. Малешава. △ Л е ц é ц ь б е з

д у́ х у. Хутка бегчы. Сямурадцы. В о д а л е ц і ц ь. Пра хуткі пад'ём узроўню вады. *Вода леціць увочэвідкі.* Верасніца.

ЛЕЧО'БА *ж.* Лячэнне. *Прыехаў после лечобы да покінуў ліць.* В. Малешава.

ЛЕЧЫ'ЦЬ *незак.* Лячыць. *Баба Матруна зельямі лечыць.* Верасніца.

ЛЕЧЭ'НЬЕ *н.* Лячэнне. *Бобоўнік на лечэнье рвуць да свіньям.* Дварэц.

ЛЕШЧ *м.* 1. Лешч. *Лешчы́ мікольные чорные, на Міколу б'юцца.* Запясочча. 2. Клешч. *Лешч на скоціну насядзе і п'е кроў.* Цераблічы. *Лешчэ́ як нападуць на собаку до одного года, то здыхае.* Там жа.

ЛЕШЧА'ЦЬ *незак.* Голасна сварыцца, крычаць. *От лешчы́ла цепер на вуліцы Ксенька!* Луткі. *От лешчы́ць на дзецей, шчэ хужэй, чым на чоловека.* Сямурадцы. Лапатаць. *Лешчыць, лешчыць, хай бу на мінуціну сціхла.* Верасніца.

ЛЕШЧО'ВУ *прым.* Ляшчовы. △ Л е ш ч о́ в а п л о́ т к а. Падлешчык. *У лешчовуй плотцы багато косцей.* Старажоўцы.

ЛЕШЧО'ТКА *ж.* Драўляныя ціскі. *Возьмі того вужа ў лешчотку!* Мачуль.

ЛЕШЧЫ'НА *ж.* Ляшчына, арэшына. *Лешчына е дрэво.* Бярэжцы.

ЛЕ'ШЫ *м.* Лясун. *Баба казала, шо лешы жыве ў болоці да дзецей пужае.* М. Малешава.

ЛЕ'Я *ж.* Лівень. *У той дзень була страшная лея, дождж ліў як з ведра, і з грымо́тою.* Тураў. *Я после леі ўжэ посеяла, то ўзышлі картоплі.* Чэрнічы.

ЛЕ'ЯЦЬ *незак.* Ліць. *Ле́ело, ле́ело, эта лея, усе поўмока́ло.* Старажоўцы.

ЛЁГКІ, ЛЕ'ГКІ *прым.* Лёгкі, які мала важыць. *Лёгкі хлеб, то вон ву́печэны добрэ.* Старажоўцы. Лёгкі, нязначны, невялікі, слабы. *Ек зіма лёгка, то цепло́, а як зіма мо трыццаць, то холодно́ у моёй хаці.* В. Малешава. *Постаўлю на печэ́ у ле́гком духу, шоб воно нагрэлосо.* Дварэц. *Памянш.* л ё г е н ь к і, л ё г к е н ь к і, л ё г е н е ч к і, л е г е́ н ь к і. *У ее така лёгенечка грэб'ёнка, ягоды самі лезуць!* Верасніца. *А у леге́ньком духу мед нагрэецца, вуцечэ, а воск остане́цца.* Дварэц. *Лёгкенькі.* Верасніца. △ Л ё г к і н а с о н. Чуткі ў час сну. *Лёгка на сон твоя баба.* Луткі. Л ё г к і х л е б. Лёгкі заробак.

*У вас лёгкі хлеб, ву работаеце умўшлено.* Старажоўцы. Л ё г к а с м е р ц ь. Раптоўная смерць. Запясочча.

ЛЁГКО *прысл.* Лёгка. *От лёгко дышу, от хо́рошэ мне!* Старажоўцы. *У Берэ́зцы лёгко доставацца водою.* Луткі. *Лёгко рукам, то голове важэ́й* (прымаўка). Чэрнічы. *Баба з колёс, то колёсам лёгчэй* (прымаўка). Старажоўцы. *Мазалі олівою, то легчэ стала ёго опа́ра.* Сямурадцы. *Як дзеці ў кору́ лежаць, то трэба чы́сто красным кра́мом о́кна запну́ць. Тогды́ лё́гчэй* (прыкмета). Дварэц. *Памянш.* л ё г е н ь к о, л ё г к е н ь к о. *Лёгенько іці без тое то́рбу.* Старажоўцы. *Лёгкенько.* Верасніца.

ЛЁГКОДУ'ШНЫ *прым.* Лёгкі, які мала выдзяляе цяпла. *Осовые дрова бездушные, з іх зы́ру нема, воны лёгкоду́шные.* Сямурадцы.

ЛЁГКОТА', ЛЕГКОТА' *ж.* Лёгкасць. *То колісь було, а цепэ́р лёгкота́!* Сямігосцічы. *За́рэ легкоты дождалі пенсіене́ры!* Рубель. *Колісь плетуць лапці ноч, а цепер легкота́ жыць!* Старажоўцы.

ЛЁГКУ'ШЫ, ЛЕГКУ'ШЫ *мн.*, ЛЁГКУ'ША, ЛЕГКУ'ША, ЛЕЎКУ'ША *ж.* Лёгкія. *Лёгкушы достаў з кабана.* В. Малешава. *Дзеці легкушы не едзяць, то отдала ку́рам.* Верасніца. *Печонка і легку́ша варацца навек коліся.* М. Малешава. *А я наемса леўкушы да зап'ю молоком.* Любавічы.

ЛЁД *м.* Лёд. *Поехалі по лёду́, але слабы́ лёд буў.* Луткі. *Зімой сено по леду везуць.* Кароцічы. *Ой велікіе лёды булі на рэцэ!* Бярэжцы. △ Л ё д л ё д а м. Вельмі халодны. *Навек ногі холодные, лёд лёдом!* Аздамічы. О д л ё д у д о л ё д у. Ад ледаставу да ледаставу. *Бурла́к баржу цегнуў од лёду до лёду на рэцэ.* Тураў. *Коліся од лёду до лёду ў ла́пцях пастухі.* М. Малешава.

ЛЁДО'ЎНЯ, ЛЕДО'ЎНЯ *ж.* Лядоўня. *Шоб рыба не погніла, тут була лёдоўня.* Запясочча. *Не топілі б, було б ек у лёдоўні.* Луткі.

ЛЁЗО' *н.* Лязо. *У ножа́ гэто чэрэ́нкі, а гэто лёзо.* Пагост. *Лёзо ў сокеры вышчэрбілосо.* Аздамічы. *Лёзо́.* Луткі.

ЛЁЛЯ *ж.* Кашулька (дзіцячая), сарочка (жаночая). *Дай лёлю наложым!* Запясочча. *Лёля ў селян звалі, а сорочка — у нас.* Дварэц. *Хоць у одной лёлі, абы по любові* (прыказка). Аздамічы. *Памянш.* л ё л е ч к а. *Наложым лёлечку тобе, Одамко.* Хотамель.

ЛЁН *м.* Лён. *После жыта, пшэніцы сеялі лён, а после*

*лёну — пшэніцу.* В. Малешава. *Лном прыкрыла картоплі на зіму.* Лукі. *За лён забагáцелі людзі ў нас.* Дварэц.

У мінулым існавала павер'е, што лён можа дапамагчы пры уроках, чарах і інш. Лён вешалі ў хляве *як корóву гóніць. Подласіца лну боіцца.* М. Малешава. Выкарыстоўвалі своеасаблівы лён, *як дзіця спужаецца.* Трэба узяць лён, і *шчоб вон буў не этого году, да покласці кругом да запаліць,* каб дымам дзіця абкурылася. Лён з галоўкамі падсцілалі, *як корова мокрэе.* Там жа.

ЛЕНДАР, ЛО'НДАР *м.* Макацёр. *Лёндар, лондар.* Мачуль. *Памянш.* лёндрык. *У лёндрыку, бы ў гóршчыку, крысы е.* Запясочча. *Лёндрык быў чыгунны, откладзістые берэгі, з вýшэчком, наподобіе гладышкі.* Запясочча.

ЛЁНО'К *м.* Макрыца. *Лёнок як зубы болядь, то пáраць і п'юць, да зубы перастаюць.* Лукі.

ЛЁПА *ж.* Тоўстая, неахайная жанчына. *Плуве лёпа, елі ногі перэстаўляе!* Верасніца.

ЛЁПАЦЦА *незак.* Плёскацца, паласкацца. *Ой, там лёпалася ў водзе лозянка.* Сямурадцы.

ЛЁПАЦЬ *незак.* Пляскаць, шлёпаць. *Зімою вéцёр лёпае снегом по вокнах.* М. Малешава.

ЛЁПКІ *прым.* Ліпкі. *Такая лёпкая, такая глеёвáя земля!* Пагост.

ЛЁСТКА *ж.* Лёстка, планка. *Тре було меньш дроў на воз ложіць, а то лёсткі ў глабіні поламаліса.* Пагост. *Трэ зробіць лёстку ў жак, а то поламалаfamа. Лёстка ў крылах жакá, шчоб не збегалос цéнето.* Лукі. *Попэрэд трэсту б'юць у бойцы, а ў церніцы тые самые жмені труць, а послі трэпашкою — застрýганою лёсткою з ручкою — трэпляць.* Сямурадцы. *Лёстку подоб'е, да і сок чэчэ́* (з бярозы). В. Малешава. *Памянш.* лёсточка. *Набілкі вісяць на лёсточках.* Верасніца. *Лёсточкі поклалі з одноé лоткі ў другýю.* М. Малешава. *Лёсточка робіцца з лýпіка лозового.* М. Малешава. *Лёсточкі, шчоб не мешаліс понюжэ́. Лёсточкі дають нормальные зéва.* Аздамічы.

ЛЁТ *м.* Лёт. *Я матку по летý знаю.* Альпень. △ У лёт. Лётам. *Я за курáмі, а воны ў лёт і повулéталі з огороду.* М. Малешава.

ЛЁТКА *ж.* 1. Буйная шраціна, круглая куля. *У велікого звера стрэляюць лёткой.* Тураў. *Лётка крýгла така, бы пучка.* Аздамічы. 2. Дошчачка каля лятка вулея для пчол. Хотамель.

ЛЁТО́М *прысл.* Лётам. *Лётом бегуць жэ́рці тые куры.* М. Малешава. △ Л ё т о м  л е ц е́ ц ь. Вельмі хутка ісці. *Лётом леціць, коб поробіць усе ў сына.* Луткі.

ЛЁХ *м.* Лёх, пограб. *Лёх робяць, як вода позволяе.* Цераблічы. *У лёху́ бульба не померзне.* Аздамічы.

ЛІ'ВЕНЬ *м.* Лівень. *От лівень, уліло́ ек з ведра!* Луткі. *Зышоў лівень, от зліў!* М. Малешава.

ЛІ'ЖБУ *часц.* Абы, толькі каб. *Ліжбу грошы, то купляй!* Луткі. *Сено, война — ліжбу кішка пойна* (прымаўка). Старажоўцы. *Хоць чорт с кубла́, ліжбу шапка веец була* (прымаўка). Там жа.

ЛІ'ЖНІ *мн.* Палачкі для варажбы. *Ліжні — коро́ценькіе палочкі, рукою перэкіда́ють, гадають, колькі остало́со, лічаць. Ек до па́ры остаецца, то кончають, а ек не до пары, то шчэ кідають.* Пагост.

ЛІЗА'ЦЬ *незак.* Лізаць, дакранацца губамі, языком. *Рыба той слюз ліжэ.* Запясочча. *Ву смолу даеце ў мазь, шоб кот не лізаў.* Луткі.

ЛІЗНУ'ЦЬ *зак.* Лізнуць, дакрануцца губамі, языком. *Лізнеце́ языком дай спаць ідзеце́. Шчо ж гэто за е́жа?* Луткі.

ЛІК *м.* Лік, лічба. *Як начаў лічыць тых дзікіх свіне́й, то й ліку не набралосо.* Цераблічы.

ЛІМА'Н *м.* Участак вялікіх памераў. *Геттакі ліман поля ў цебе, сваце, соро́к мо пяцьдзесят будзе, да земля ж ека глеёва! Чому ж тут тобе не жыць!* Луткі.

ЛІ'МАР *м.* Рымар. *Лімар шыў збрую.* Дварэц. *Лімар робіць зброю для ко́ней.* Хотамель.

ЛІН *м.* Лінь. *Ліна́ не есць моя баба.* Бярэжцы. *Памянш.* л і н о́ к,  л і н о́ ч о к. *Лінкі тут кладуць ікру ў майне́, тут ме́лей.* Верасніца. *Раншэ поймай лінка, то можно наесціса усей сем'ей!* Старажоўцы. *Лінок — вельмі смачная рыбіна.* Тураў. *Лінок ходзіць, жмуркі пускае.* Альшаны. *Лінок улез у жа́ка, ужэ, хлопцы, адліга будзе.* Мачуль. *Ты не гледзі, шчо як лінок, воно молоком кормленэ* (пра парася). Рамель.

ЛІ'НА *ж.* Тоўстая вяроўка, канат. *Ліна то́ўста, у чотыры волокі плецена, а ў волоцы по тры ніткі.* Луткі. *Ву́лья цегають на сосну́ ліною.* Аздамічы. *Памянш.* л і н к а. Аздамічы.

ЛІНІ'ШЧЭ *н.* Вялікі лінь. *От это ліні́шчэ поймаў!* М. Малешава.

ЛІНО'ВІШЧЭ *н.* Выпоўзіны. *Ліновішчэм, як хо́ньдзя*

*нападае, накурыцца — і пропадзе* (павер'е). Луткі. *Ліновішчэ, неяк прызнаюць, як на сход лежыць, то заколі пáлца да нельга вýцегці, то прыложы его — вуцегне.* Луткі. *Ужóво ліновішчэ, як нарве на руцэ, то прыкладáлі, скорэй проедае вáву.* Мачуль. *Ліновішчэ у жыце знаходзілі, лежыць воно, аж страхóцье!* Сямурадцы.

ЛІНУ'ЦЬ *зак.* Лінуць, хлынуць. *На веніка ліпе і покрóпіць подлогу.* Луткі. *Лінýў дошч, два раз лінуў, по колено воды зробілосо на полях.* В. Малешава.

ЛІ'НЬКА, ЛІ'НКА *ж.* Скінутая ў час ліньки шэрсць у жывёл, скура гадзюкі або вужа. *З шэ́рсці, з ліньки зробіў м'яч.* Любавічы. *Назбірай ліньки з корову, ек скробкою чысціў.* М. Малешава. *Ліньку скідае вуж.* М. Малешава. *Лінку беруць хітрые людзі, от хондзі употрэбляюць.* Цераблічы.

ЛІНЯ'ВУ *прым.* Ліналы. *Несуцца, несуцца, вынесуцца да стануць ліняць, дай лінявуе куры.* Старажоўцы.

ЛІНЯ'ЦЬ *незак.* Ліняць, скідваць верхняе покрыва. *Куры, вутвý, гусі ліняюць на зіму, і багато пуху валяецца коло плоту.* М. Малешава. *Весною корову ліняюць.* Аздамічы. *Вуж ліняе, вýсунецца з ліновішча, бу сорочка ліновішчэ, рабэ́, як вон сам.* Бярэжцы. *Свіньá не ліняе ніколі.* Старажоўцы. *Як у плохого хозяіна, то собака усе ліняе, навек кошлаты.* Там жа.

ЛІ'ПА *ж.* 1. Ліпа. *А ліпы ў нас нема? — Есць, толькі ў лесу, далеко!* Бярэжцы. *Здоровуе ліпы ў пана булі, з дуплямі.* Луткі. *Хоць вусокі, ліж бы добры, ек ліпа.* Старажоўцы. *Ободрай ек ліпу.* Там жа. 2 *метаф.* Ліпавыя лыкі, кара. *Ліпа на сухé, а на мóкрэ вона не годзіцца.* Хачэнь. *Памянш.* л і п е н ь к а, л і п о н ь к а, л і п о ч к а. В. Малешава.

ЛІ'ПЕЦ *м.* Павітуха льняная. *Ліпец уво льне росце, вон рэзкі, дробны.* М. Малешава. *Ліпец такі корáву, і дзерэзá му ёгó зовóм, дзерэцца вон і на жыто.* Там жа.

ЛІ'ПІНА *ж.* Асобнае дрэва ліпы. *Облупіць кору з ліпіны трэба на óблубку, вона доўго будзе.* Старажоўцы. *Там ліпіна стоіць одна на межэ́ на моей, і столько гудзе там пчол!* Там жа.

ЛІ'ПНІК *м.* 1. Ліпняк, ліпавы зараснік. *Там ліпнік хорошы!* Бярэжцы. 2. Ліпавыя лыкі, кара. *У нас плелі лапці з ліпніку, з лозы і з ўязнікý.* Сямурадцы. *На вóду лапці з ліпніку не годзяцца.* Кароцічы. *Ліпнік на лáзбені годзіцца.* Запясочча,

ЛІПОВА'ТЫ *прым.* Мяккі (пра драўніну). *Одна сосна́ ліповата, а друга крэжэва́та.* Аздамічы.

ЛІ'ПО'ВУ *прым.* Ліпавы. *Цвет этой ліпоў е ў мене.* Хачэнь. *З ліпового лісту пеклі коржыкі.* Сямурадцы. *Ліпову цвет рвуць у чай.* Старажоўцы. *Ліпо́вы.* Альпень.

ЛІПУ'ЦІК *м.* Смолка. Бярэжцы.

ЛІПУ'ЧКІ *мн.* Тое ж. Луткі.

ЛІС *м.* Ліс, ліса. *Кота ліс поймае, там га́ло, дзеро́ў нема.* Цераблічы. *Ліс із собакою бороўса.* Запясочча. *Ліс норў копае.* Там жа. *Перэпіваю ліса, шоб дзеці веліса* (вясельнае пажаданне). В. Малешава. *Памянш.* лісо́к. *А лісок е́жыка берэ, подка́ціць ік водзе і берэ.* Старажоўцы.

ЛІСА' *ж.* 1. Ліс, ліса. *Ліса моіх курэй порэзала ў хлёве́.* Верасніца. *Ліса хапае кўры.* Старажоўцы. 2 *перан.* Хітрая лісліваая асоба. *Памянш.* ліска. *У вочы кажэцца ліскою, а потом швайку упорыць тобе!* Хачэнь.

ЛІСА'ВІЦЦА *незак.* Падлізвацца, падлашчвацца, лісліўіць. *Шо, шо, а лісавіцца вона ўмее, к кожному подлезе.* М. Малешава.

ЛІСА'ВІЦЬ *незак.* Тое ж. *Я не ўмею лісавіць.* Бярэжцы. *Лісавіш, умееш лісавіць, раб ліса́ву!* Запясочча.

ЛІ'СА'ВУ *прым.* Лісліўы, падлізлівы. *Вона лісава цётка.* Хачэнь. *Іван не ліса́ву, вон добры чоловек.* Луткі. *Ну й ліса́ву, ну й ліс!* Там жа. *Памянш.* ліса́венькі. *Ма́чоха лісавенька до мене.* В. Малешава. *Дзіця таке лісавеньке, лоўкеньке!* Сямурадцы. △ Раб ліса́ву. Падлізнік. Запясочча.

ЛІСІ'НЫ *прым.* Лісіны. *Лісіна нора́ бувае ў чэгарніку.* Сямурадцы.

ЛІСІ'ЦА *ж.* Ліштва з дзіркай, у якую ўстаўляецца жэрдка для адзення. *Лісіца для жэрткі робіцца над по́лом, коб пове́сіць посце́ль.* Луткі.

ЛІСІ'ЦКА *ж.* 1. Грыб лісічка. *Лісіцкі жоўценькіе, по ельніку ростуць.* Дварэц. 2. Лісіца. *Ек бацько дасць хлеба, ідучы с сено́жаці, то дзеці казалі: лісіцка дала́ хлеба. Такі вон буў смашны!* Луткі.

ЛІСІ'ЦКІН *прым.* △ Лісі́цкін госці́нец. Зайчыкаў хлеб, падарожны гасцінец. *Як хлеб з дорогі прывезеш, то кажуць: лісіцкін госцінец, лісіцка дала́.* Старажоўцы.

ЛІСІ'ЧА'НКІ *мн.*, ЛІСІЧА'НКА *ж.* 1. Лісічкі. *А чому ты мне лісічанок не прынесла?* В. Малешава. 2. Парэчкі.

*У нас лісічанкі называюць тые красненькіе ягоды.* Альшаны.

ЛІСІ'ЦКІ, ЛІСІ'ЧКІ *мн.* 1. Грыбы лісічкі. *Збірала чэрніцы, дай лісічкі ўкінула ў шаньку.* Верасніца. 2. Чырвоныя парэчкі. *Лісічкі — красная смуродзіна с каменьчыкамі.* Сямігосцічы.

ЛІСНІ'ЦЬ *незак.* Блішчаць, адсвечваць. *От вукорміў коня, аж лісніць, весь у яблуках.* М. Малешава.

ЛІ'СОВУ *прым.* Лісіны. *Собака найшоў лісову нору.* М. Малешава.

ЛІ'СО'ШЧЫ *мн.* Ліслівасць, угодлівасць, падлізванне. *Другі лісошчамі, хітрошчамі, а потом цебе обсмеіць.* Луткі.

ЛІСТ *м.* 1. Ліст (у раслін). *Хамут лістоў вісіць на сцэне.* Чэрнічы. 2 *зб.* Лісце. *Багато лісту назбіраў, коб шўру накрыць было чым.* Сямігосцічы. *На лісті дубовом хлеб печэм.* Хотамель. *Нема ні ветру, ні шчо, а ліст дрыжыць, то будзе дождж* (прыкмета). М. Малешава. *Памянш.* л і с т о́ к, л і с ц і к. *Ек подаецца к осені, то кажуць: прыдзе Петрок — отшчыкне лісток, прыдзе Льля, то отпадзе́ два.* Старажоўцы. *Чэрэт — шчо лісцікі на ём о такіе о.* Бярэжцы.

ЛІСТОНО'СЕЦ *м.* Пісьманосец. *Лістоносец пошту носіць, а мне весточкі нема.* Запясочча.

ЛІСТОНО'СКА *ж.* Пісьманоска. *Лістоноска жонцы лісты оддала́.* Сямурадцы.

ЛІСУ'Н *м.* Лісліведц, падлізнік. *Лісун — колі хто кому подбрэшэ.* Аздамічы.

ЛІСЦІ'НА *ж.* 1. Адзін ліст. *Бабоўнік росце так, шчо тры лісціны ў его е.* Луткі. *Под лісціною седзіць жук, не бачно́.* Запясочча. *Я забыла укінуць лісціну лаўровую ў картоплі.* Хачэнь. 2. Тонкія жэрдачкі, якімі засцілалі под пад стогам збожжа. Альшаны. *Памянш.* л і с ц і н к а. Запясочча.

ЛІСЦІ'ЦЦА *незак.* Падлізвацца, лашчыцца. *Кот лісціцца до цебе, а ты лісцісса до мене.* Хотамель.

ЛІ'СЦЬЕ *н. зб.* Лісце. *Об'ела гусень лісцье.* Луткі. *І лістье мокрэ од меду.* Велямічы. *Памянш.* л і с ц е й к о. *У тонконо́га дро́бненьке лісцейко.* Хачэнь.

ЛІ'СЫ *прым.* △ Л і с ь і х л е б. Зайчыкаў хлеб, падарожны гасцінец. *Лісьі хлеб, бо лісіцка дала́.* Аздамічы.

ЛІТОВА'ЦЬ *незак.* Ныць, моцна балець. *От у мене літўе у році зуб!* Запясочча.

ЛІ'ТЫ *прым.* Літы, выраблены ліццём. *Літы ка́мень на жорна робілі.* Хотамель.

ЛІ'ЎНЫ *прым.* Ліўневы, праліўны. *Суткі ліў лі́ўны дождж!* Цераблічы.

ЛІХІ' *прым.* Ліхі, дрэнны. *Ліхі — то нічогі, такі урэдны.* Запясочча. *Ліхіе маты горне, шо страх подумаць!* Дварэц. *Ліхé ў огне не згорыць, воно не ўтопіцца, воно не заве́сіцца* (прыказка). Сямурадцы. *Не той ліхі, шо крычыць, а той ліхі, шо моўчыць* (прыказка). Хачэнь. *Лу́чшэй не есці, як у ліхо́м месці сесці* (прыказка). Запясочча. *Смерць і родзіны не гледзяць ліхо́е годзіны* (прыказка). Старажоўцы. *З ліхо́го то́ргу шоб з но́сом!* (прыказка). Там жа. △ Л і х á х в о р о́ б а. Падучая хвароба. Старажоўцы. *Подумайце, ліха́ не пускае ложку з тым зельем до рота!* Хачэнь. К р ы ч á ц ь л і х í м к р ы́ к о м. Лямантаваць, нема крычаць. М. Малешава.

ЛІ'ХО *н.* 1. Ліха, гора, бяда. *Од чужого ліха, то й я зелье знаю* (прымаўка). Верасніца. *Не займа́й ліхо, колі спіць ціхо* (прымаўка). Аздамічы. *Сем ліх да ўсе ў одзін мех* (прымаўка). Там жа. *Як прыдзе́цца до ліха, то міла й Бруміха* (прыказка). М. Малешава. *Коб умеў та́нчыць, а робіць і ліхо на́ўчыць* (прыказка). Старажоўцы. *А чужэ ліхо не очэ́піцца* (прымаўка). Там жа. *Ой, шоб на ёго́ ліхо, я́к вон мене трапіў!* (праклён). Дварэц. Хвароба. *Семдзесят ліх вулечвае той зверобой.* Хачэнь. 2. *прысл.* Дрэнна, кепска. *За дурной голову́ і ногам ліхо* (прыказка). Запясочча. △ Л í х о е г о́ з н á е. Пра адсутнасць паняцця, ведаў, звестак. *Ліхо его знае шо вон думае.* М. Малешава. *Ну, а да́лей думаю, а ліхо ёго́ знае, шо робіць?* Бярэжцы. Л í х о п р ы в е з ц í. Не прывезці нічога. *Аж воны ліхо прывезлі!* Старажоўцы. П о е́ х а ц ь (п о й ц і) з м í л ы м л í х о м. Адправіцца ні з чым. *Поехаў бу ты оттуль з мілым ліхом!* Старажоўцы. *Постояў да пошоў з мілым ліхом.* Сямурадцы. П а д у́ ш ч э л í х о. Падучая хвароба. *Падушчэ ліхо ек вукіда́ецца, то езычка́ вупірае.* Цераблічы. Д з і ц я́ ч э л í х о. Тое ж. *Не подхо́дзь, а то ліха того дзіця́чэго наберэшса!* Аздамічы. Б о́ ж'е л í х о. Тое ж. Сямігосцічы. П р ы п á д э ш н э л í х о. Тое ж. *Прыпадэшнэ ліхо стало з войны у ёго́.* М. Малешава. Л í х о т в о е́ й м á ц е р, л í х о е е́ м á ц е р, л í х о в á ш э й м á ц е р ы. Праклён. *Ліхо его́ мацер, жыве!* Аздамічы. *А ліхо твоей мацер, шо ты робіш!* М. Малешава. *А вона богата, ліхо ее мацер!* Мачуль.

*Ліхо вашэй мацеры, не крычэць!* Бярэжцы. *Ох, ліхо твоей мацер, узелі ёго да набілі!* Сямурадцы. К л і х у. К чортавай мацеры. *Да его к ліху своё убілі ў лесу.* Бярэжцы. Д о л і х а. Для чаго, на якую патрэбу. *Хто ж тоды піў ту горелку? До ліха та горелка?* Пагост. Л і х о. Наўрад, не вельмі, не. *Ву шчэ молода! — Ліхо я молода! У мене ужэ унука е.* Бярэжцы. *Ліхо я ім дала! Я ім не дала ўсёго.* Кароцічы.

ЛІХО'ТА *ж.* 1. Жорсткасць, лютасць, бязлітаснасць. *А воны ж не ласкою, а ліхотою коло іх!* Запясочча. *До худобу, ек до чоловека, трэба хорошэ обуходзіцца, ласкою, худоба тожэ не любіць ліхоту.* М. Малешава. 2 *экспр. перан.* Злы дух. *Як ліхота сюды ёго ўперла, так ліхота і вуперла* (пра вялізнага сама, які трапіў у жак і парваў яго). В. Малешава. *А воны ж ліхотою коло іх!* (пра вераб'ёў). Запясочча.

ЛІХО'ЦЬКО *м. пагардл. перан.* Чортаў сын. *По порадку ліхоцько этэ не хочэ брацъ млінцы!* (пра сабаку пры варажбе). Хачэнь.

У мінулым у дзяўчат быў звычай даваць сабаку ў хаце бліны. Чый блін ён з'есць першы, тая першай пойдзе замуж. Хачэнь.

ЛІ'ЦЦА *незак.* Ліцца, струменіць. *Кроў з раны льецца аж роўчэкамі.* Луткі. Абліваццa. *Водою ліліса, як нема дожджу, хто пройдзе, то шам на ёго!* Хачэнь.

ЛІЦЬ *незак.* 1. Ліць, выліваць. *Лі картоплі да ёж!* Дварэц. *Вона лье молоко поросятам.* Запясочча. *Воду, шо небожчыка муюць, льюць, дзе не ходзяць.* Хачэнь. 2. Ісці, падаць (пра дождж). *Лівень лье прамо!* Бярэжцы. *Весь май ліў дождж.* Запясочча. *Цылы дзень дождж леіць!* Верасніца. *Леело, леело — усе поўмокало!* Старажоўцы. △ Л і ц ь в у л і ў к і. Несці яйкі без шкарлупы. *Майскіх жукоў наеласа кура і стала ліць вуліўкі.* Сямурадцы.

ЛІ'ЧАНЫ *прым.* Лічаны, адзінкавы. *Коло для цяганья вулея было ў лічаных людзей.* Мачуль.

ЛІ'ЧБА *ж.* Лік, колькасць. *А ў нас лічба до Семчы сем кілометроў.* Пагост.

ЛІЧЫ'НА *ж.* Прыстойнасць, далікатнасць. *Мне не лічына говорыць, шо я стары.* Старажоўцы.

ЛІЧЫ'ЦЦА *незак.* Лічыцца. *На робоці вон только лічыцца, а наробіць, ек кот наплачэ.* М. Малешава.

ЛІЧЫ'ЦЬ *незак.* Лічыць. *Посадзіў чэшчу к сцене очі-*

*ма да плечыма, шоб мухонькі лічыла* (з песні). Запясочча. Прызнаваць. *Згубіла шэліноўку, то не плач, лічы, шчо зносіла дай ўсе.* Луткі.

ЛІША'Й *м.* Лішай. *Як лішай, то шышку з дуба да почавіць да тым соком помазаць.* Сямігосцічы. *Журавінамі мажуць від от лішая.* Хачэнь. *Лішай бувае на лозе, дзе густо лес.* Цераблічы. *Лішаё ў целят е.* Запясочча. △ М о́ к р ы  л і ш а́ й. Хвароба скуры з мокрай высыпкай. *Мокры лішай на корову нападае.* Сямурадцы. Л е с о в у́  л і ш а́ й, к о р о́ ў я ч ы  л і ш а́ й. Хваробы скуры. *У ее буў лесову лішай.* Хачэнь. *Коройячы лішай перэдаецца от коро́ву.* Там жа.

ЛІ'ШКА *ж.* Лішак. *Я лішку еец здаю ў магазін.* Старажоўцы.

ЛІ'ШНЕ *прысл.* Лішне, празмерна. *Лішне набраўса, бы свіньня.* Аздамічы.

ЛІ'ШНІ *прым.* Лішні. *Вон багато говорыць не будзе лішнего.* Хачэнь. *Колісь горэлка була тобе лішняя.* Старажоўцы. *От лішнее говоркі хлеб будзе горкі* (прымаўка). Аздамічы.

ЛІ'ШНІЦА *ж.* Лішак, лішняе. *Нашчо мне браць лішніцу!* Талмачава. *Шо это за лішніца? На́шчо вона?* (пра курэнне). М. Малешава.

ЛОБ *м.* 1. Лоб. *От даў поленякою, аж ску́ла схопіласа на ло́бе!* М. Малешава. *Дорога — як лоб!* Аздамічы. 2 *перан.* Чалавек моцнага целаскладу. *Гэдакіх тры лобу́ було!* Чэрнічы. *Памянш.* л о б о́ к. *Грыбок, покажы лобок!* (прыгаворка ў грыбнікоў). Хачэнь. △ Л о б  у  л о б. Насустрач адзін аднаму, твар у твар. *Лоб у лоб з во́йком стрэўса, так эты воўк на ўсе ногі назад!* Мачуль. З а  л о б  в о д з і́ ц ц а. Цягацца за валасы. *Біліса невестка з етроўкою, за лоб водзіліса.* Луткі. З а п і с а́ ц ь  н а  л ь б е́. Запамятаць, зарачыся. *Запішы, кажу, на льбе собе!* В. Малешава.

ЛО'БАН *м.* Лабасты чалавек. *Ек лоб велікі, то кажуць лобан.* Сямурадцы.

ЛОБА'ТЫ *прым.* Лабасты. *Отчэпіса, сатана лобата!* М. Малешава.

ЛОБА'ХА *ж. экспр.* Лабатая істота. *А куды ты, о, лобахо!* (на карову). Дварэц.

ЛО'БА'Ч *м. экспр.* 1. Здаравяка. *У его було тры сыны, лобачэ́ такіе!* Верасніца. 2. Невялікі шчупак. Рубель.

ЛОБЕ'Й *м.* Лабасты чалавек. *От лобей вудумаў! Дзерэвяного лісапета зробіў дай поехаў.* М. Малешава.

ЛОБО'К *м.* Невялікі шчупак. *Коровы́ прідўць да во́ду сколо́цяць, то воны очы і лоб вустаўляюць, то іх лобкі зовуць.* Альшаны. *У нас і кожушок е, але чым побольш лобок зовуць.* Там жа. *Памянш.* лобо́чок. *Як ясны лёд, то лобочкі глушылі доўбешкою.* Мачуль.

ЛО'БУ'З *м.* Цяўнік, націнне. *Лобуз сушаць для короў.* Хотамель. *Лобуз гарбузя́ны не значно́ й загона, шо сцена́!* Мачуль. *Лобу́з.* Аздамічы.

ЛОБУ'ЗІНА *ж.* Асобная націна. Верасніца. *Памянш.* лобу́зенка. *От лобузенкі сучок у гарбу́зы.* Верасніца.

ЛОБУЗІ'НЬЕ *н. зб.* Гарбузнік. *Лобузіньe з гарбу́з, а бадылье з картоплінья.* Любавічы.

ЛОБУ'ЗНІК *м.* Цяўнік, націнне. *Лобузнік жжала з гарбузы́ і картоплінья да буду картоплі ўбіраць.* М. Малешава. *Шо поўзе, то гэто лобузнік.* Лутmember. *Лобузнік порос под хлево́м.* Старажоўцы.

ЛОБУ'ЗЬЕ *н.* Тое ж. *Ужэ гарбу́зы зобралі да прывезлі, то йдзі да ўсе лобузье з карто́плёў зволочы у край загона.* М. Малешава. *Лобузье посця́гаць трэба.* Буразі. *Лобузье рукамі зрываюць.* Рубель. *Лобузье з гарбуз.* Рамель.

ЛОБ'Я'К *м.* Прыс, шост, жардзіна. *Лобяк — полено, екім упіраюцца у су́хо, шоб отпіхнуцца од берэга.* Старажоўцы.

ЛОВА'ЦЦА *незак.* Лавіцца. *На блесну добрэ лова́юцца кожушкі.* В. Малешава.

ЛОВА'ЦЬ *незак.* Лавіць. *Воны блізко ловалі рыбу.* Бярэжцы. *Рыбу ловалі ўбрэдзь.* В. Малешава. *Мне некого ловаць у Малешове, нашо мне тые танцы!* Там жа.

ЛОВЕ'Ц *м.* Лавец. *Не поймаў нігодной? — Не! — От, лове́ц!* Кароцічы. *Дай бог нашому лоўцу́ на ўсякому роўцу́* (прымаўка). Чэрнічы.

ЛОВІ'ЦЦА *незак.* Лавіцца. *Там, у курэня́х, старыкі жылі, летовалі, пока рыба ловіцца.* Дварэц. *Пошоў, мабуць, на сено: сено робіць і рыба ловіцца.* М. Малешава.

ЛОВІ'ЦЬ *незак.* Лавіць. *Пошоў мой брат рыбу ловіць із дзедом.* Пагост. *На провесні кілограмоў по одзінанцаць ловілі сому́.* Старажоўцы. *Ра́кі ловілі — палку заложы ў пешчору, вон учэпіцца.* Запясочча. *Кошка мушы ловіць? Доха вона зарэ ловіць!* В. Малешава. *Два*

*зайцы ловіш, то нігодного не поймаеш* (прыказка). М. Малешава.

ЛОГ *м.* Нізкае месца, сенажаць (звычайна ў лесе). *На логу робіцца лён белейшы.* В. Малешава. *Лог у лесі — доліна.* Чэрнічы. *Лог — така долінка з водою между грáдамі.* Старажоўцы. *Памянш.* л о ж ó к. Пагост.

ЛО'ГВІШЧЭ *н.* Логавішча, лежня. *Бачыў логвішчэ воўчэ ў болоці.* Верасніца. *Зробіў собе на печы логвішчэ.* Пагост. *Качаліса дзеці ў жыці да поробілі логвішча.* Сямурадцы.

ЛОГВО', ЛО'ГОВО *н.* Тое ж. *У логвé осóчаць воўкá, а потом окружаць.* Альшаны. *Лóгово.* Пагост.

ЛО'ГМА *прысл.* △ Л ó г м а л е ж á ц ь. Лежма ляжаць. *П'юць вороб'é пшэніцу, логма лежаць на ёй.* Хачэнь. *Коб ужэ лежаў логма, а то ніхвее.* Бярэжцы. Л ó г м а ў л ё г ц і с а. Надоўга ўлегчыся. *Логма ўлёгса і лежыць, ек медзведзь.* Хачэнь.

ЛОГОВА'ЦЬ *незак.* Ляжаць аблогай, адпачываць (пра поле). *Год ці два логýе; тэ поле логуе, а тэ сеецца.* Аздамічы.

ЛОГОВУ' *прым.* △ Л о г о в é п р ó с о. Маннік вадзяны. *Гэто тэе, шчо росце у логóх, тэе логовé просо.* Чэрнічы.

ЛО'ГОМ *прысл.* △ Л е ж á ц ь л ó г о м. Ляжац нерухома, не маючы сіл падняцца. *Лежыць логом пшэніца.* Хачэнь. *Лежыць логом Одамко хворы.* Аздамічы. *От логом розлеглáса под снопамі!* Сямігосцічы.

ЛОГО'ШЫ, ЛОГО'ШЫ *мн.* Розвальні. *У нас логоші зовуць, шо на сані кладуць.* Пагост. *Логошы робяць нарошно на сані, шоб сено роскладáць больш, шоб шырэйшы воз буў і не цягнулосо сено по земле.* М. Малешава.

ЛО'ДАР *м.* Гультай. *Лодар лежыць, а на его бежыць* (прымаўка). В. Малешава.

ЛО'ДАРСКІ *прым.* Гультайскі, лодарны. *Лодар пошоў на лодарскі хлеб.* Мачуль.

ЛОДАРУВА'ТЫ *прым.* Гультаяваты. *Лодаруваты той, хто не хочэ робіць, от сюд-туд — да така ёгó жытка.* Старажоўцы.

ЛОДАРУВА'ЦЬ *незак.* Гультайнічаць, ленавацца. *Вона лодарýе, ходзіць од бабы до бабы.* Старажоўцы.

ЛОДАРЫ'ШЧЭ *н.* Вялікі лодар, гультай. *Лодарышчэ ты, за цебе ніяка дзеўка не пойдзе!* Старажоўцы. *От лодарышчэ ты погáнэ!* Сямурадцы.

ЛО'ДКА *ж.* Лодка. *Лотка зроблена з дóшчок.* Бярэжцы. *Лотку обшыў бляхою, обшыванка вона.* Старажоўцы. *Памянш.* л ó т о ч к а. *Едуць удвох лоточкою.* Чэрнічы.

ЛО'ДОЧКА *ж.* Спосаб завязвання хусткі. Хотамель.

ЛОЖА'ЦЬ *незак.* Прыкладаць, класці. *Еку траву ложáлі до пальца? — Подорожнік!* Буразі. *Шо ву мене у больніцу ложáеце?* Запясочча. *Мене ж не ложáюць, дзе воны лежаць.* Сямурадцы. *У гуркі ложáем хрэн.* Тураў.

ЛО'ЖКА *ж.* Лыжка. *Ложкою беры еж!* Запясочча. *Ложка з дзерэва кленового робіцца, з яблоні вона жóўта.* Хотамель. *Сухá ложка рот дзерэ* (прымаўка). Сямурадцы. *Ек до Купального Йвана з ложку, то будзе і ў ложку* (прыкмета аб просе). Там жа. *За обед ложка пануе!* (прымаўка). Сямігосцічы. *Неродному гóсцю ложкі нема* (прымаўка). Старажоўцы. *Як даў ложку, то дай і ў ложку* (прымаўка). Там жа.

ЛО'ЖОК *м.* Ложак. *Да і ў нас і полы, і тые дзерэўянные ложкі булі.* Верасніца. *Ложок вам будзе вузкі й короткі.* Хотамель. *Мы і на этум ложку мéсцімоса ўдвох.* Тураў.

ЛОЖЧЫ'НА *ж.* Лагчына, нізіна. *По этой ложчыні, казалі, дзерэво росло, оснік.* Альгомель.

ЛОЖЫ'ЦЦА *незак.* Лажыцца, класціся. *Я й не ложыласа, бачу, днее.* М. Малешава. *Коліся столя ў наклáд ложыласа.* Верасніца. *Лучшэ зерне ложыцца до зáпорожні.* Хотамель. *Ложэ́мса спаць, дзеці!* Лутkі. *Спаць ложуса, но за бóкі не беруса* (прымаўка). Старажоўцы.

ЛОЖЫ'ЦЬ *незак.* Лажыць, класці, напаўняць. *Ложылі у богук м'ясо.* Хачэнь. *Пчолы лóжаць мед у оскодáвіну.* Старажоўцы. *Да на гэтой посвéт огонь ложым.* Бярэжцы. *Мокроватэ сено ложылі на край стога, воно вўгорыць.* Старажоўцы.

ЛОЖЭ'ЧНІК *м.* Палічка з дзіркамі для лыжак. *Му ек помуем ложкі, то ў ложэчнік устаўляем.* М. Малешава.

ЛО'ЗА' *ж.* Лаза, лазняк. *Коза ела лóзу, а больш нішчо.* Хачэнь. *А лозы було, а гушча!* Луткі. *Галь, нічого не відаць, ніякое лозы нема!* Сямігосцічы. *На чужыне́ і лоза очы дзерэ* (прыказка). Любавічы. *Полеская лоза — то літоўскі кожух, усе одно грэе* (прыказка). Аль-

шаны. △ Г л у х á я л о з á. Від лазняку. *Глухая лоза, то вона зеленéйша.* Мачуль.

ЛОЗІ′НА *ж.* Адно сцябло, дубец з лазы. *От ек возьму лозіну да ек вуцягну по плéчах!* Верасніца. Адкроенае лыка, лазовы пасак. *У дзве лозіні основа і ў дзве подплёт* (у лапцях). Луткі.

ЛОЗНЮ′ХА′, ЛОЗНУ′ХА *ж.* Лысуха, вадзяная курачка. *Лознюха кы́ркае.* Цераблічы. *Лознюха у лóзе несецца, нанесе еец, насыпле бу ворох.* Там жа. *Лознюхі лецяць на зіму ў поўрэй.* Мачуль. *Лознуха — вона ў лозе седзіць і безугаву крычыць, бы дзерэцца, на дождж.* Луткі. *Лознуха — гэто дзікая курка. Вона у лозе жыве, кубло свое робіць у корчэ́ над водою і кіркае.* В. Малешава.

ЛО′ЗНЯ *ж.* Тое ж. *Лозню ловілі да поймалі хлопцы.* Аздамічы.

ЛОЗНЯ′К *м.* Лазняк. *У той доліні одзін лозняк росце.* Верасніца.

ЛОЗО′ВУ *прым.* Лазовы. *За́верцень з дубца лозового робілі.* М. Малешава. *Лозовою гужвою прыпучвалі стрэ́ху.* Любавічы. *Лозову мох дзерэцца ў лозе, у доліна́х, ім конопацяць лодку.* Старажоўцы.

ЛО′ЗЬЕ *н. зб.* Лаза, лазняк. *З того болонья корова не хочэ есці сена, а шо там есці, однэ лозье!* Сямурадцы.

ЛОЗЯ′НКА *ж.* Лысуха, вадзяная курачка. *Лозянка чорна-чорна, а дзюб красны, кажуць на ее ешчэ морская курочка.* Кароцічы.

ЛОЙ *м.* Лой, тлушч. *Як хто дéржыть овечкі, то й лой е.* Альпень. *От сы́тое целя — лою багато!* Кароцічы. *Лой скоро захолóдвае.* М. Малешава. *А медзвéдзіца шчэ не набрала лою, шчэ ходзіць — осцерэгайса.* Старажоўцы. *Айдзе клаў гной, там і лой* (прымаўка). Цераблічы. *На сенцэ́ — гной, то на коробку — лой* (прымаўка). Дварэц. *Бачыць кошка лой, да не ёй* (прымаўка). Старажоўцы. △ З а л í ц ь л ó ю з а ш к ý р у. Пакараць, пабіць. *Як зальюц лою за шкуру, то будзе знац.* Тураў. Н і л о ю, н і ў д о ю. Ніякай карысці. Мачуль.

ЛО′КЕЦЬ *м.* 1. Локаць. *Локець далікатна штука, як удырыць, то боліць.* Сямурадцы. *Брала ягоды вона, журовіны. А так от на купіне о položыла лóкця, а вона хап о тут о* (пра гадзюку). Хачэнь. 2. Мера даўжыні. *На локці було когда-то мерылі.* Запясочча.

ЛОКІ′ЗА *ж.* Няўклюда, неахайнік. *Локізою пройшла*

*з гэтымі целятамі.* Аздамічы. *Локіза — неповортліву незґрайны такі чоловек.* Там жа.

ЛОКНО′ *н.* Лісты вадзяных раслін на паверхні вадаёма, лапушыстая вадзяная расліннасць. *Озеро веліке, только локном заросшэе.* Луткі. *Локно, не можно вóлока поцегці.* Цераблічы. *Под етым локном кóрэнь дóўгі.* Запясочча.

ЛОКНЯ′НКА *ж.* Краснапёрка. *Локнянкі с чырвоным пер'ем.* М. Малешава.

ЛО′КША *ж.* Локшына. *Локша е ў лаўцы, а я ее на тыжжэнь два раз вару.* Хачэнь.

ЛО′КШЫНА *ж.*, ЛО′КШЫНЫ *мн.* Тое ж. *Росколоцяць муку, потом наліваюць на скóвороду, спечэцца тонкі млінец. Геты млінец рэжуць на полóсы і получыцца локшына.* М. Малешава. *Памянш.* л ó к ш ы н к а. *Локшынка вельмі ўкусна з кýхмаром.* В. Малешава.

ЛО′КШЭНІНА *ж.* Тое ж. *Локшэніну крухмальную з молоком варать.* Альпень.

ЛОМ *м.* 1. Ламачча, павал, буралом. *У лесе лому хватае, валяецца под ногамі.* Альпень. *Бобéр наломáе лому да так загáціць канаву, шчо й не замерзне.* Луткі. *Дзе лом, там і дом* (прымаўка). Старажоўцы. 2. Лоўж. *Пошлі гольé скідац у ломы́.* Запясочча. 3. Лом, металічная палка. Бярэжцы.

ЛОМА′КА *ж.* 1. Ламачына, абломак, палка. *Вон узяў да ссек нéку ломаку да біў той лёд.* Цераблічы. *Вýломлю ломаку і этые вóкна поўбіваю!* Сямурадцы. *Я ўзела ломаку да за кýрамі!* М. Малешава. 2 *перан.* Лянівы нязграбны чалавек, няўмека. *Возьмеш у компанію того ломаку, то будзеш одзін зруб лето дзёўбці, а одрыны не будзе на зіму.* М. Малешава. Крыўляка. *Лéно, ломака ты нéяка!* В. Малешава.

ЛОМА′ЦЦА *незак.* 1. Ламацца, крышыцца. *Опасно перэбірацца церэз озеро, лёд шчэ не моцны, ломацца будзе.* М. Малешава. 2 *перан.* Манернічаць, крыўляцца. *Чого ты ломаесса, як вýпечаны корж?* В. Малешава.

ЛОМА′ЦЬ *незак.* 1. Ламаць, *крышыць. Гóгоць лáміць лес.* Альшаны. 2. Баранаваць упоперак. *Поломаў свое грáны поперэк, а потом бороноваў уздоўж.* Аздамічы.

ЛОМА′Ч'Е *н. зб.* Ламачча, лом. *Там торх, ломач'е, моя дзеўка поймала одзінанцаць штук плоценят.* Луткі. *Гýра голья, а як сухé — то ломач'е.* Аздамічы. *Такого колóдзья нацегаў, такого ломач'я і загаціў* (пра бабра).

Хачэнь. *Ломачья насечэш, одзёнка такого зробіш і там ложыш стога у болоці.* Дварэц. *Як на погоду, то ломач'е носяць, а як на негоду, то віш* (пра буслоў). В. Малешава.

ЛОМ'Е' *н.* Лам'ё, ламачча, лом. *Лом'е подпалі, нехай горыць.* Верасніца. *Дзе зваляць лес, то сцебло́ ідзе у ход, а остаецца однэ́ лом'е.* Старажоўцы.

ЛОМЕ'Ц *м. метаф.* Злая сіла. *От нема на вас ломца́!* Аздамічы. *Ламец ёго́ знае, дзе воно!* Запясочча. *Коб цебе ломец ухопіў!* (праклён). Запясочча. *Очуняе! Ліхого і ломец не берэ!* В. Малешава.

ЛОМІ'ЦЦА *незак.* Ламацца, крышыцца. *Бэрэ́за здоро́вэ дзерэво, воно меншэ ла́міцца.* Мачуль. *Да велікіе, да ла́м'яцца картоплі!* М. Малешава. *З лучаю рогожа ло́міцца, а з робрэю не́.* Аздамічы.

ЛОМІ'ЦЬ *незак.* Ламаць. *На́вісь не ла́міць ні лес, ні сад.* Луткі. *Так сказа́ць — это ужэ язы́ка ла́міш.* Альпень. *Ло́міць лёд веснова́ вода.* Верасніца. *Косці ломіць, рукі ломіць, кожного сустаўчыка.* Бярэжцы.

ЛО'МОЦЬ *м.* Адламаны кавалак хлеба. *Отломі ломоць да перэкусі, здоровейшы будзеш.* М. Малешава.

ЛОМЦО'ВУ *прым.* △ Л о м ц о́ в е ш ч а́ с ц е. Нядоля. *Ломцове шчасце — як попадзецца жонка нічога, норовіста, то свой век му́чыцімеса.* М. Малешава.

ЛОПА'ТА *ж.* 1. Лапата саджаць хлеб у печ. *Цепе́рэка ў бляхах хлеб пекуць дома, а колісь лопатою саджалі: посцелюць на лопату дубового лісця, а тогды цесто кладуць і ў печ саджаюць на чэрэ́нь.* Кароцічы. Лапата для перасыпання збожжа. Альшаны. Лапата для адкідвання мякіны. Хотамель. 2. Стрыхоўка. *Почалі крыць под лопа́ту.* Аздамічы. 3. Лопасць. *Вода падае на лопаты, а лопаты круцяць млін.* Запясочча.

ЛОПА'ТКА *ж.* 1. Лапатка. *Цепер мне далі укола под лопатку.* Верасніца. 2. Ліштва ў жорнах з адтулінай для млёна. *Лопатку прыб'юць к стоўпчыкам і ў ее млёна, да вон і круціцца ге.* Мачуль. 3. Лопасць у кашы над млынавым каменем. Хотамель. 4. Савок для веяння збожжа. Бярэжцы. 5. Язычок у клямцы. *Дай я тобе оччыню, бо загубіласа лопатка с клямкі.* Верасніца. 6. Наогул ўсё плоскае. *На цэпо́ццы лопатка, а на лопатоццы іконка.* Альшаны. 7. Пакаёвая расліна. Верасніца. *Памянш.* л о п а́ т о ч к а. Стручок з завяззю. *Горох толькі у лопаточках шчэ.* Луткі.

ЛО'ПАЦЦА *незак.* Лопацца, трэскацца. *Жэлезяка*

*поверху обгінае і не дае лопацца ббоду.* Сямігосцічы. *Яблука белы наліў поспелі, лопаюцца да гніюць.* Дварэц.

ЛО'ПАЦЬ *незак.* 1. Трэскаць, разрывацца. *Конóплі паджарацъ — онно лопаюць у ступі!* Хачэнь. 2. Гучна ляскаць, бахаць. *Лоп, лоп — як бы рукамі б'е по болоту.* Хачэнь. *Лопае ужэ певень і стане спеваць.* Бярэжцы. *Як стане смеркаць, то вельмі граюць вутвы, крычаць, лопаюць.* Велямічы. 3. Хрустаць. *Так лопаюць грошы, як з завода выйшлі!* Сямігосцічы.

ЛО'ПНУЦЬ *зак.* Лопнуць, трэснуць, знікнуць. *Буў мороз і лопнула кора на ócокоры.* Цераблічы. *Гвалту крычу, шо вона лопне* (пра слоік). Запясочча. *Обруч на бодні лопнуў, то другого набілі.* Сямурадцы. *А шоб ты лопнуў, як ты мене перэедаеш!* Старажоўцы. *У жонкі лопнуло серцэ од страху.* Дварэц. △ Л ó п н у ц ь с о с м ё х у. Зайсціся моцным смехам. *Ек вона роскажэ, то лопнеш со смеху.* Верасніца.

ЛОПОНЕ'ЦЬ *незак.* Лапатаць, шалясцець. *Нешчо тут лопоніць* (пра рыбу). Луткі. *Самэ добрэ, дзеду, спаць — ужэ по лісту лопоніць дождж.* Мачуль.

ЛОПОТА'ЦЬ *незак.* Лапатаць, балбатаць, крычаць. *Вон ек церніца лопочэ.* М. Малешава. *Вýскочыла на вуліцу да там лопочэ.* Старажоўцы.

ЛОПОТУ'ХА *ж.* Лапатуха, балбатуха, крыкуха. *Старá, але лопотуха!* Луткі. *От лопотуха, лешчыць да лешчыць!* Там жа.

ЛО'ПОЦЕ'НЬ *м.* 1. Лопацень. *Одамко, лóпотня зробіш на косе!* М. Малешава. *От ек неройно поклéпана коса, то это лóпотні, бо далéй берэ, ек клепле молотком.* Там жа. *Которы не понімае добрэ клепаць кóсу, то етого лопотня́ зробіць.* Запясочча. 2. Свярдзёлак з шырокімі лопасцямі. *Е такі лóпоцень з двума пéрамі, шырокі.* Цераблічы. 3 *перан.* Лапатун, балбатун. *От лóпоцень, лопочэ да лопочэ!* Запясочча.

ЛОПОЦЕ'ЦЬ *незак. экспр.* Бегчы, спяшацца. *Онь зноў гусі лопоця́ць домоў!* Дварэц.

ЛО'ПУХ *м.* 1. Лопух. *Яка рожа ці болячка, то лісце лопуха рвуць і прыкладваюць.* Луткі. *Лопух под плотом росте, як рожа, то прыкла́да́ють.* Альпень. 2. Белы гарлачык. *Лóпух на водзе расце.* Запясочча. *Боцвіньe, як лопух!* Там жа.

ЛО'ПУХЕНЬ *м.* Лопацень. *Лопухні поробіў на косе твой сын.* Альпень.

ЛОПУХОВА'ТЫ *прым.* Лапушысты, шыракалісты. *Коньскі шчавер лопуховаты, ёго́ ніхто не есць.* Любавічы.

ЛОПУ'ШНІК *м., зб.* 1. Зараснік лопуху. *Колюкі зовом ёго́, лопушнік.* Хачэнь. 2. Зараснік белага гарлачыка. Хачэнь.

ЛОПУШНЫ' *прым.* Лапушысты, шыракалісты. *Гуркі йдуць лопушные!* Верасніца.

ЛОПУ'ШЧЫ *прым.* Хрусткі. *І вішнёвуе такіе лопушчые тые грошы булі.* Чэрнічы.

ЛОПУШЫ'СТЫ *прым.* Лапушысты, шыракалісты. *На бу́йной земле лён лопушы́сты!* М. Малешава.

ЛОПШУ'К *м.* Маруда, нерашучы чалавек. *От лопшук пошоў, бы мокро горыць!* Аздамічы.

ЛОСЁЎ *прым.* Ласіны. *У дзедовой хаці лосёвуе рогі на сцене віселі коло по́лного окна.* М. Малешава. △ Л о с ё ў г р ы б. Рагацік жоўты. *Лосёў грыб росце, ек капуста, велікі, вон пушысты, дзірочкі кругом.* Сямурадцы.

ЛОСІ'ЦА *ж.* Ласіха. *Лосіца то ка́гуць оцелілас, бо гэто ужэ к корова́м подходзіць.* В. Малешава.

ЛО'СКОТ *м.* Казытанне, сверб. *Не боіцца лоскоту, а тут о боіцца.* Кароцічы. *Лоскот проколвае ўсе цело.* В. Малешава.

ЛОСКОТА'ЦЦА *незак.* Казытацца. *Ой, не лоскочыса!* Луткі.

ЛОСКОТА'ЦЬ *незак.* 1. Казытаць, раздражняць. *Не лоскочы́ ёго́, а то умрэ от смеху.* М. Малешава. 2. Ляскатаць, бараніць. *Лоскочэ — страх берэ!* (пра дождж). Цераблічы.

ЛОСЬ *м.* 1. Лось. *А тут і ло́сі ходзяць, ек товар!* Старажоўцы. *Здоро́ву, ек лось!* Там жа. *Лежыць, ек лось у болоці* (пра ахвотніка спаць). Там жа. 2. Пеўнік стракаты (грыб). *Ло́сі пове́рху порэпаные, а под нізом мох.* Хачэнь. 3. Рагацік жоўты (грыб). *Е такіе лосе́ грыбу́, вон уверх, як ёлочка, сівенькі, ек лось, а унізу́ бе́ленькі, з одного ко́рэня ведро нарэжэш.* Хачэнь.

ЛО'ТАЦЬ *ж.* Лотаць. *Лотаць коровы едзяць.* Луткі. *Под лотацью хаваліса людзі.* М. Малешава. *Лотаць росце по доліна́х, і когды во́ду сцягне, то вона жоўта ўся.* В. Малешава.

ЛО'ТРА *ж.* Гультай, лодар. Тураў.

ЛО'ЎКІ *прым.* Лоўкі, спрытны, добры. *Лоўкі чоловек,*

*прыгае так страйно.* Цераблічы. *Лоўкая дзеўка, шчо хоч з ею можно поговорыць.* Там жа. *Мачуха бувае лоўка, чужые дзеці гледзіць, ек свое, а другá прымела б, то поела б.* Сямурадцы. *Сталі сварыцца, да не лоўко.* Сямурадцы. *Лоўкі кругом: і здороўем, і характером, і словáмі.* Луткі. *От лоўкіе тухлі, не цесные.* Там жа. *Памянш.* л ó ў к е н ь к і. *Лоўкенькі чоловек у мое дочкі.* Луткі.

ЛО'ЎКО, ЛО'ЎКЕ *прысл.* Лоўка, спрытна, добра. *Я лоўко з'ем обед, ек похожу по лéсу.* Хачэнь. *Лоўко, хóрошэ рóбіць!* Аздамічы. *Лоўко зложыў стожка, шчо любо поглядзéць!* Бярэжцы. *Запутáла новуе яблуко, ці лоўко воно.* Дварэц. *Подыйшла под дубы, а ў іх там холодок, да так здóрово, так лоўко!* Кароцічы.

ЛО'ЎМА *м.* і *ж.* Гультай, лежань. *Вона захоцела, коб эта лоўма обогнала картоплі?* М. Малешава.

ЛО'ЎЧЫ *прым.* Здатны, спрытны. *То лоўча жонка, за ею не пропадзеш.* Верасніца. Настойлівы. *Лоўчы хлопчáк свого доб'ецца!* Там жа.

ЛОФЕ'РМА *м.* і *ж.* Лахудра, недарэка, неахайнік. *О, лоферма ты дурна!* Запясочча.

ЛОХА'НКА *ж.* Драўляная міска. *Як постарэеш, я буду тожэ цебе у гэтой лоханцы корміці, як ты мацер свою корміў.* Дварэц.

ЛО'ША *ж.* 1. Ласіха. *Сáміца лосé хоць старá, хоць молодá, то лоша.* Запясочча. *Нічого не робіць, зробілася, як лоша.* Луткі. 2 *перан.* Поўная жанчына. *От лоша, на жонку скажуць, ек гладкá.* В. Малешава.

ЛОША'К, ЛОШУ'К *м.* 1. Малады конь, жарабя. *У нас на коня кажуць: от хорошы лошак.* В. Малешава. *От лошука вугодоваў хорошэго!* Цераблічы. 2. Малады лось, ласяня. *Міліцыя знайшла лошука.* Запясочча. *Памянш.* л о ш а ч ó к. *Кобула прывела лошачкá.* Тураў.

ЛОШЭНЯ' *н.* Ласяня. *Лошэня ў лосёў.* Хотамель. *У лошы лошэня було малэ.* Цераблічы.

ЛОШОВІ'К *м.* Пеўнік стракаты. *Лошовікі — такіе гнедые козлякі, по іх бы луска.* Мачуль.

ЛОШЧА'ВІНА, ЛОШЧАІ'НА *ж.* Лагчына, нізіна. *Шчо ты на моей лошчавіні пасеш?* Сямігосцічы. *Поміж горкамі лошчавіны, і по іх грыбы ростуць.* Хотамель. *От богато ягод у той лошчаіні.* Пагост.

ЛОШЧЫ'НА *ж.* Тое ж. *У нас таке болото, лошчына.* Хачэнь.

ЛОШЫ'ЦА *ж.* 1. Маладая кабыла, жаробка. *Нашой*

*лоўыцы ўжэ которы год пошоў?* М. Малешава. 2. *перан.* Поўная мажная жанчына. *Такая лошыца копу на вілкі возьме да церэз стог перэкіне.* М. Малешава. *Памянш.* л о ш ы ц к а. *Кобула ожэрэбіла лошыцку.* Запясочча. *У нас летовала лошыцка, така лоўка, гладка!* Хачэнь.

ЛУБ *м.* Луб, кара ліпы, вяза, бярозы. *Коробку з луба бортнік робіў.* Хотамель. *Здзеры луба з березы.* Хотамель.

ЛУ'Б'Е *н. зб.* Старызна, старычына. *Чого ву ко мне прысталі, старэе луб'е?* Старажоўцы.

ЛУБО'К *м.* Абечак. *Лубок у сіто зробі з драні хвоёвое!* Лутunion.

ЛУБ'Я'НКА *ж.* 1. Абечак. *Луб'янку на рэшэто дзед зробіў з ліпового луба.* Аздамічы. 2. Прыстасаванне для зімняй лоўлі ўюноў. *Луб'янка — облубка з рэшэта, ставілі на рыбу.* Любавічы.

ЛУГ *м.* 1. Луг, нізкае месца, сенажаць (звычайна ў лесе). *У его больш грудка, а ў мене больш лугу.* В. Малешава. *Конём не ўедзеш у луг, мокро нешчотне, корэнье. У нашом бору лугоў немашэка.* Луткі. *Берэзнік у лузі, омела росце, дубў, грабў ростуць.* Запясочча. 2. Пераважна заліўная сенажаць. *Луг — то сеножаць роўна, хороша, ні груд, ні болото.* Мачуль. *Половіну ж луга зламілі, му свого коровая нарадзілі* (з песні). Бярэжцы. 3. Луг, шчолак. *Ек золіла плацье ў жлукці, то нацекло поўны цэбер лугу, а тым лугом шчэ й подлогу помула.* М. Мелашава. *Луг муць шмацьё зробіла.* Цераблічы. *Вулі луг із жлукта!* Верасніца. *Памянш.* л у ж о к. Верасніца.

ЛУГНУ'ЦЬ *зак.* Выпіць залпам. *Лугнуў кружку воды і пойшоў.* В. Малешава.

ЛУГОВА'ЦЬ *незак.* Выбельваць лугам. *Лугуюць попелом пражу.* Аздамічы.

ЛУГОВУ' *прым.* Лугавы, сенажатны. *У нас е луговая трава: муроґ, подмурож, осока, плешняк.* Старажоўцы. *У мене луговая мята росце, ее козе даю.* Старажоўцы.

ЛУЖА'ВІНА *ж.* Лугавіна, невялікая палоска лугу. *Вукосіў лужавіну, дай будзе копа сена.* М. Малешава. *Цёрэз лужок лужавіна була.* Верасніца.

ЛУЖКА'ВІНА *ж.* Нізіна ў лесе. *Вон тою лужкавіною буў дубнік.* Сямурадцы.

ЛУ'ЗАНІК *м.* Лузан (арэх, які сам вылушчыўся). *Лузанікі самі вулезаюць з шыпакоў.* Пагост.

ЛУ'ЗАНЫ *прым.* Лушчаны, вылузаны. *От нашла лузаных орэхоў под кустом!* Старажоўцы.

ЛУ'ЗНУЦЦА *зак.* Стукнуцца, ударыцца. *Об вошчо хоч можно лузнуцца, ек об камень.* Сямурадцы.

ЛУ'ЗНУЦЬ *зак.* Стукнуць, ударыць. *Лузнула кулаком у плечы.* М. Малешава.

ЛУКА' *ж.* 1. Лука, паварот ракі. *А як ву лукою йшлі?* Запясочча. 2. Выгнутая аснова драўлянай бараны. *Гу́жві дзелаюць да прыўязваюць поўперэчкі, а потом обгінаюць бороні́, то называлі лука.* Сямігосцічы.

ЛУКА'ВЕЦ *м.* Лісліваец, хітрун. *Лукавец як так, то ла́скавы, а да́лей ву́м'е ду́шу.* Бярэжцы.

ЛУКА'ВУ *прым.* Лісліва, хітры. *Ён коло́ цебе, ой, а да́лей ду́шу ву́ймуць.* Бярэжцы. *Лукавые такіе гусі, занадзіліса у оўёс.* Мачуль.

ЛУ'ННІК *м.* Чыстацел. *Луннікам лечаць, як нарывае, прыложваюць ёго́ лісце.* Хотамель.

ЛУ'НУЦЬ *зак.* Прапасці. *Хай ёго́ жывот лу́не!* (праклён). Сямурадцы.

ЛУПА' *ж.* Лупіны, шалупіны, высеўкі, вотруб'е. *С тое грэчкі лупу́ больш, чым мукі.* Старажоўцы. *Ечмень тоўклі, да лупа подстае.* Сямурадцы. *Бувало, казалі ў просі лупа.* Там жа. *Ту лупу́ с конопе́ль сцаджвалі на цадзілок.* В. Малешава. *Лу́памі обмешвалі свіньям.* Верасніца.

ЛУПАІ'НЫ *мн.* Тое ж. Луткі.

ЛУПА'ЙКА *ж.* Тое ж. *У еровое пшэніцы лупайка нейка м'якчэйша, а на озімой цвёрдзе́йша.* Луткі. *Картоплю з лупайкамі варылі.* Хачэнь. *У гарбуза́`е м'якіш, зёрнета, лупайка.* Чэрнічы.

ЛУПА'К *м.* Грымак, кухталь. *Дала́ дзіцяці лупака́.* Сямурадцы.

ЛУ'ПАЛКА *ж.* Маргун. *Лупалка, хто часто лупае вочыма.* Аздамічы.

ЛУ'ПАЛО *н.* Тое ж. *Лупало кажуць, ек лупае очамі.* Сямурадцы.

ЛУПА'Н *м.* Тое ж. Сямурадцы. 2. Вірлавокі. Пагост.

ЛУПАНУ'ЦЬ *зак.* Рвануць, пацягнуць. *Як лупанула зу́ба і вылупіла з дзя́сною.* Мачуль.

ЛУПА'ТЫ *прым.* 1. Лупаты, вірлавокі. *Лупаты очы вурочыў, коб воны ёму́ поўлазілі!* (праклён). Старажоўцы. *Вон лупаты, вурочка́ты такі, очы тые круглые.* М. Малешава. 2. Які плюскае вачамі. *Як часто лупае очыма, то ка́эм лупаты.* Альшаны.

ЛУ'ПАЦЦА *незак.* Плюшчыцца, лыпаць. *Як молоды,*

*то буйстро гледзіш, а як стары, то лу́паешса, як овечка.* Хачэнь.

ЛУ'ПАЦЬ *незак.* △ Л у́ п а ц ь о ч ы́ м а. Маргаць ад разгубленасці, збянтэжанасці, здзіўлення, страху. *Вон лупаў, лупаў вочыма да нічого не понімае.* Хачэнь. *Позовеш госцей да чым будзеш угошчаць? Будзеш очыма лупаць!* М. Малешава.

ЛУПА'Ч *м.* Чалавек з выпучанымі вачамі. *Ох, лупач, ох, лупач, хорошэнько побач, то не удовіца ідзе, тобе есці несе* (з казкі). М. Малешава.

ЛУПА'ШЫЦЬ, ЛУПЕ'ШЫЦЬ *незак.* Лупіць (пра дождж), біць. *Дождж лупа́шыў, ой!* Хачэнь. *От лупашыць дождж, су́док трое не сціхае.* Сямурадцы. *По селу лупешыў снарадамі* (пра немцаў). Верасніца.

ЛУПЕ'ІШЧЭ *н.* 1. Маргун. Сямурадцы. 2. Вірлавокі чалавек. *А вон таке лупеішчэ, а не ўгледзеў воўка.* М. Малешава.

ЛУПЕ'Й *м.* Тое ж. *Лупей кажуць, як не хорошэ гледзіць.* Сямурадцы. *Той лупей моўчыць, моўчыць, только лупае по бокам.* М. Малешава.

ЛУПЕНУ'ЦЬ *зак.* 1. Лупянуць, ударыць. *Лупені ёго́!* Запясочча. 2. Раздзерці, падраць. *От, кажэ, лупенуў штаны, разлупіў!* Сямурадцы. 3 *перан.* Наесціся. *У обеда добрэ лупенеш!* М. Малешава. *От лупенула добрэ крышаноў!* Старажоўцы.

ЛУ'ПЕ'НЬ *м.* 1. Лупцоўка, калатня. *Ой, будзе лу́пень од мацер за того кота!* В. Малешава. 2 *перан.* Непамерная плата. *Шчо ступень, то лупень* (прымаўка). Луткі. △ Д а ц ь л у́ п н я. Адлупцаваць, пакараць. *Отла́міць розку да дасць тобе лу́пня.* М. Малешава. *Я гэтой Танюшцы лупня дам!* Хачэнь. З а р о б і ц ь (п о л у ч ы́ ц ь) л у́ п н я. Атрымаць лупцоўку. *Будзеш шче за машінамі по вуліцы бегаць, то лупня доброго заробіш!* Пагост.

ЛУ'ПІК *м.* 1. Лазіна, з якой садрана кара. *Лупікі добрэ на дро́ва, бо воны сухіе.* М. Малешава. *Порося худэ, ек лупік.* Любавічы. *Облуплены, ек лупік.* Там жа.

ЛУПІ'НЫ *мн.* Лупіны. *От я лупіны корові оддаю.* Старажоўцы.

ЛУПІ'ЦЦА *незак.* Лупіцца, лушчыцца. *Спаліла шкуру, дай лу́піцца.* Аздамічы. *Лоза добрэ лупіцца!* Верасніца.

ЛУПІ'ЦЬ *незак.* 1. Ачышчаць ад лупін, абіраць. *Стару бульбу лупім, а молоду́ скрэбо́м.* Альпень. *Картоплі*

*лупіць трэба, лупіны свіньям оддамо.* Луткі. *Картоплі не лупілі колісь.* Верасніца. 2. Здымаць скуру, кару. *Наш Володзя так лупіць целя хорошэ, шо ніхто ў Малешові так не облупіць.* М. Малешава. *Лупі лóзу, то будуць лапці.* Там жа. 3. Лупіць, ліць (пра дождж). *Той дождж лупіў, а гэты сыпле ціхо.* Цераблічы. 4 *перан.* Лупцаваць, хвастаць, біць. *Як зроблю я яку шкоду, то бацько возьме попругу у рукý дай давай лупіць по плéчах.* М. Малешава. *Вон ек стаў лупіць тые волы по плечах, по спінé.* Бярэжцы. *Покладзе на тую бабку кóсу і лупіць.* Сямурадцы. 5 *перан.* Прагна есці. *От лупіць крышаны, бу з голóдного краю прышоў!* М. Малешава. 6 *перан.* Дорага прасіць (пра цану). *Лýпіць вон за корову багато грóшэй.* М. Малешава. △ Лупіць зýбу. Смяяцца. *Ты мне не лупі зубу, говоры к толку.* М. Малешава.

ЛУ'ПЛЕНІЦА *ж.* Лазіна, з якой садрана кара. *Насечы з лупленіцы загнету!* Мачуль. *На лупленіцах добрэ ўюны запéкаць.* Цераблічы. *От возьму лупленіцу да ек вýцягну по спінé, то ты ў мене не дóжджэш!* Верасніца.

ЛУ'ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Луплены, абадраны. *Біч з дуба, а дзержално з лупленой лозы робілі.* Сямігосцічы.

ЛУПЛЁНІКІ *мн.* Ачышчаная вараная бульба. *Солóнікі, рэзóнікі і луплёнікі ешчэ называюць.* Сямурадцы.

ЛУ'ПНУЦЬ *зак.* Лыпнуць. *Гледзіць і не лýпне.* Бярэжцы.

ЛУПНУ'ЦЬ, ЛУПЕНУ'ЦЬ *зак.* 1. Лупянуць, ударыць. *Пры вас засердзіласа да порося як лупенула по спінé!* М. Малешава. 2. Моцна пайсці (пра дождж). *Так як лупнé дождж!* В. Малешава.

ЛУПОВО'КІ *прым.* Вірлавокі, з вялікімі вачамі. *І той лупей луповокі не вутрымаў да пошоў у скокі.* М. Малешава.

ЛУ'ПЦАХ *м.* △ Даць лýпцаха. Адлупцаваць, пакараць. Запясочча.

ЛУПЦОВА'ЦЦА *незак.* Біцца, тузацца. *Воны лупцуюцца між собою.* Сямурадцы.

ЛУПЦОВА'ЦЬ *незак.* Лупцаваць, біць. *Ек сталі лупцоваць і убілі.* М. Малешава.

ЛУСКА' *ж.* 1. Луска. *На лінку тож луска е.* Хотамель. *Луска на кожушку е.* Кароцічы. 2. Шалупайка (з яец). *Косці і луску з еец, шчо свецілі на пáску, прыóрваюць, то добрэ родзíць будзе* (павер'е). Сямігосцічы.

ЛУ'СНУЦЬ *зак.* Луснуць, трэснуць, лопнуць. *Прышлі*

*голые, нідзе нічого ні трэсне, ні лусне.* Буразі. *Як вона жыве, нідзе нічого нема — ні лусне, ні трэсне.* Пагост.

ЛУ'СТА *ж.* Луста, адрэзаны плоскі кавалак (хлеба, сала і г. д.). *Вот лусту сала дала́. До́бра луста!* Запясочча. *Хлеба ўзяў лусту да ўвом'яў.* Аздамічы. *У цебе скібочка тонё́нька, а ў того, поба, ека луста!* В. Малешава. *Поклоніса ку́сту да і вон дасць хлеба лусту* (прымаўка). Сямігосцічы. *Памянш.* л у́ с т к а, л у́ с т о ч к а. *Поделять по лустцы хлеба і схаваюць.* Альпень. *Порэзаў хлеб лусточкамі да пожарыў, шчоб хру́мало под зубамі.* Дварэц. *Несе з хаты хлеба лусточку і сало.* Пагост. △ У л у́ с т ы́. Дзіцячая гульня.

Адна група дзяцей садзіцца ў кружок, а другая становіцца за кожным іграком першай групы. Адзін ігрок пачынае гульню. Ён ходзіць кругом гэтага двайнога кола ігракоў і гаворыць лічылку: *Сем коп одзін сноп. Чорту но́гу замота́ць, а мне лусту поймаць.* Або: *Сем коп одзін сноп, кому прыпадзе, не трэба журыцца.* Верасніца. Заканчваючы яе, дакранаецца рукой да якога-небудзь іграка у першым коле. Той выбягае з кола і гоніцца за лічыльшчыкам, які павінен абабегчы кола. Яго ж месца ў першым коле займае ігрок другога кола. Лічыльшчык, за якім гоніцца ігрок першага кола, калі яго не дагоніць гэты ігрок, павінен заняць свабоднае месца ў другім коле, а выкліканы ім ігрок пасля гэтага выконвае ролю лічыльшчыка. Калі ж выкліканы ігрок дагоніць першага лічыльшчыка, ён займае свабоднае месца, а лічыльшчык пачынае ўсё спачатку.

ЛУТ, ЛЫТ *м.* 1. Лазовы або ліпавы дубец, прыгодны для здымання кары на лыкі. Пагост. 2. Кара з маладой ліпы. *Тры лыты́ зодраў, будзе лапоць.* Аздамічы. *Лыты́ продавалі ліповые не горненые верчамі, а ге дзега́мі.* Там жа. 3 *перан.* Гультай, лежань. *Ах ты лут, не хочэш робіць!* Бярэжцы. *Леніву лежыць, ек тут, под ку́стом.* Старажоўцы. *Памянш.* л у́ ц і к. Старажоўцы.

ЛУТНЯ' *ж.* 1. Скрутак кары з адной лазіны або ліпкі. Запясочча. 2 *перан.* Хлусня, няпраўда. *Лутню́ мелеш, аж нема чого слухаць!* М. Малешава.

ЛУ'ХТА'Н *м.* Таўстун. *Такі лухта́н сеў, шо й моцыклет увогнуўса.* Сямурадцы. *Лу́хтан.* Пагост. *Павел. пагардл.* л у х т а н і ш ч э *н. От тэ лухтанішчэ, ленуецца повэрнуцца, таке непроворнэ!* Пагост.

ЛУ'ЦЬЕ *н. зб.* Луцце, кара на лыкі з маладых ліп.

*Хто кажэ луцье, а хто — полосье на лапці зодраў.* Пагост.

ЛУЦЯ'РО *н. экспр.* Гультай, лежань. *У нас на этого говораць, шо нічого не робіць, это луцяро, лут.* Старажоўцы.

ЛУ'ЧА'Й, ЛУ'ЧЭЙ *м.* Рагоз вузкалісты. *Лу́чай на чотыры ка́нты росце.* Старажоўцы. *Лу́чэй—вон шырокі і рэжэцца.* Хотамель. *Коровы́ луча́й едзяць, хоць і снег.* Мачуль. *Лучай — подобіе, як осока, з ёго рогожы плетуць.* Цераблічы.

ЛУЧА'ЦЬ *незак.* Цэліцца, прыцэльвацца. *Буду стрэляці, буду лучаці з-под зелёненького дуба* (з песні). Сямурадцы.

ЛУЧКІ' *мн.* Унутраныя прыстасаванні ў борці. Луткі.

ЛУЧКО'ВУ прым. △ Л у ч к о́ в а б о р о н а́. Драўляная барана з дужкай наперадзе. Любавічы.

ЛУЧО'К *м.* 1. Ручка ў касе, абагнутая вакол касся. *У гумне дзве косы, то ты возьмі тую, шчо на косье но́ву лучок.* М. Малешава. *Лучок роб'яць з березы.* Там жа. 2. Грабелькі на касе. *Зроблю лучка косіці грэчку.* Цераблічы. *Лучок, шоб ложылася трава ў радок.* Там жа. *Такі дубец под напа́рсток, то лучок.* Там жа. 3. Наморднік для цяляці. *Накладзі лучок на целя, шоб корову не ссаў.* Запясочча.

ЛУ'ЧЧЫ *прым.* Лепшы. *Там луччa паша.* Мачуль. *Ты ж думала, шо ты лучча за мене.* Старажоўцы.

ЛУ'ЧЧЭЙ, ЛУ'ЧЧЭ *прысл.* Лепш. *Луччэй бу поесці сала.* Бярэжцы. *Но му стараліса, коб ёго́ луччэй напасціць.* Старажоўцы. *Луччэй клевала там рыба.* Луткі. *Луччэй одзежа з краму, а свое — грубо́е.* Сямігосцічы. *Там луччэ вы́года.* Кароцічы. *Луччэй з розумным загубіць, чым з дурным найці* (прыказка). Старажоўцы.

ЛУЧЫ'НА *ж.* Кавалачкі сухога або смалістага дрэва, прызначаныя на падпал. *Тут, у Малешове, загнет, а ў нас, у Хільчыцах — лучына.* В. Малешава. *Ву не знаеце, шо за лучіна? Не? Шчэпкі смоловуе! То іх за вечор спаляць немаведома колько.* Хачэнь. *Дубіну з лучыною трэба помешаць, коб лепш горэло* (прымаўка). Талмачава. *Памянш.* л у ч ы́ н к а. *Лучы́нок нарубаем і колодзезя робім* (дзіцячая гульня). Тураў.

ЛУЧЫ'НІНА *ж.* Смаловая трэска. *Запалім лучыніну і грыбы збіра́ём* (уночы). Хачэнь.

ЛУЧЫ'ЦЦА *незак.* Прылучацца, хінуцца. *Ні к ко́му не лу́чыцца.* Дварэц.

ЛУ'ЧЫЦЬ *незак.* Трапіць, сустрэць. *Шо мене лу́чыло?* Запясочча.

ЛУШПА'І *мн.* Лупіны, лушпайкі. *Бараболі з лушпаямі зварыла.* Сямігосцічы. *Шо ві надзелалі мне, лушпаі однэ́е!* В. Малешава.

ЛУШПА'ІНА *ж.* Лупіна, лушпайка. *Онь, подымі лушпаіну!* В. Малешава.

ЛУШПА'ЙКА *ж.* Тое ж. *Вулузнулосо воно з лушпайкі да дойшло — зыр буў на печэ́.* Сямурадцы. *Налупіла я картоплёў, а лушпа́йёк — цэлы таз!* М. Малешава. *Корова́ моя добро есць лушпайкі, як шчэ спа́рыш.* Альпень. *Баба Матруна бараболі з лушпайкамі навек варыла.* Сямігосцічы.

ЛУШПАЯ' *ж.* Лупіны, шалупіны. *Вунесі лушпаю з хаты, годзі вона там буць, ужэ засмердзеласа.* М. Малешава.

ЛУ'ШЧЫК *м.* Спелы арэх, лузан. *О, ужэ лушчыкі е!* Альпень.

ЛЫ'ГАЦЬ *незак.* Павольна ісці. Пагост.

ЛЫГА'ЦЬ *незак.* Хлябтаць, лыкаць. *Во́ду як лыгае, поба́!* Дварэц.

ЛЫ'ГІ *мн. экспр.* Ногі. *Тые до́ўгіе лыґі наставіць і йдзе!* Луткі.

ЛЫГНУ'ЦЬ, ЛЫГЕНУ'ЦЬ *зак.* Грызнуць. *Конь лыґенуў за но́гу.* Верасніца. *Я хоцеў накінуць оброць, а вон мене як лыґенуў за ру́ку!* Там жа.

ЛЫГУ'Н *м.* Памаўза, шкоднік. *Ву́жэні с хаты кота, бо эты лыгун наробіць шкоды.* М. Малешава.

ЛЫ'ЖВА *ж.* Лыжа. Хотамель.

ЛЫ'КО *н.* 1. Лазовая або ліпавая кара на лапці. *Крэпкіе лыка з вяза.* Альпень. *Лыкі ў калачыкі, а ло́зу моталі ў верча́.* Старажоўцы. *Дорога, ек лыко, здзелаецца* (пра роўную, добрую дарогу зімой). Там жа. 2 *перан.* Вязка, нізка. *Купіла лыко грыбоў.* Дварэц. *П'яць лыко́ў здзёр лозы.* Мачуль. △ Не лы́ком шы́ты. Мудрагелісты, не зусім просты. *Хай знаюць, шо і му не лыковуе, тожэ нешчо варт. І му не лыком шытые!* М. Малешава.

ЛЫКОВА'ТЫ *прым.* Мачалісты. Запясочча.

ЛЫКО'ВУ *прым.* Лыкавы. *Лыкову лапці носілі мужыкі, носіла й шляхта.* Верасніца. *На ногах лыковуе лапці, а голову не достанеш* (прымаўка). М. Малешава.

ЛЫ'НДАЦЬ *незак.* Лындаць, хадзіць, без мэты. *Лындаюц по вуліцы без роботы.* Запясочча.

ЛЫ'НДЫ *мн.* △ Л ы н д ы  б і ц ь. Хадзіць без справы. *Б'юць лынды — палец об палец не стукнуць!* М. Малешава. *Лынды б'е, нічого не робіць, перэхныкае абу дзень до вечора.* Там жа. *Годзі тобе лынды біць по селу, ідзі на роботу!* В. Малешава.

ЛЫ'ПНУЦЬ *зак.* Лыпнуць, плюснуць. *Вона лыпне вочыма да зноў спіць.* В. Малешава.

ЛЫ'СІНА *ж.* 1. Свабодная мясціна ў полі, на сенажаці. *Лысіна на картоплях бур'яном заросла.* Хачэнь. 2. Плех на галаве. *На голове лысіна, а на чужых жо́нок загляда́е.* М. Малешава. 3. Белая пляма на лбе ў жывёл. *Колі целя народзілосо з лысіною, то з лысіною й здохне* (прыказка). Стаарражоўцы. *Памянш.* л ы́ с і н к а. *Як корова з лысінкою, то і целятко з лысінкою* (прымаўка). Хачэнь.

ЛЫ'СІЦА *ж.* Птушка лысуха. *Лысіца-вона, як кура, норня́е добре.* Альшаны.

ЛЫ'СКАЦЬ *незак.* 1. Трэскаць. *Возьмеш капшук да наду́неш, да лыскаеш.* М. Малешава. 2. Кідаць позірк. *Вон як зойдзе к кому, то так лыскае вочамі.* М. Малешава.

ЛЫ'СЫ *прым.* 1. З белай плямай на лбе (пра жывёл). *У ее тожэ була корова, така лыса, веліка.* Пагост. 2. Лысы, які мае лысіну. *Лысы, хоч боб молоці.* Запясочча. *Кому шчо, а лысому грэбенец* (прымаўка). Старажоўцы.

ЛЫ'СЬКО *м.* Лысы чалавек. *Это порода лыськоў, у іх і дзед буў лысы.* Верасніца.

ЛЫ'ТКА *ж.* Лытка. *Рана веліка, на ўсю лытку.* Луткі. *Лыткі мерзнуць у старо́е жонкі.* Дварэц. *Булі у ёго́ нежы́тоўкі на лытках.* Сямігосцічы.

ЛЫЧ *м.* Лыч, рыла. *У лыч свіньє́ ўстаўля́е дрот, то дротуе.* Старажоўцы. *Зноў лыча́ ўсадзіў у хату кот!* Бярэжцы. *Памянш.* л ы́ ч ы к. Там жа. △ З а д з і р а́ ц ь  л ы́ ч ы к. Ганарыцца, зазнавацца, фанабэрыцца. *Побуў у го́родзі, то лычык задзірае.* М. Малешава.

ЛЫЧА'ТЫ *прым.* Лычасты, рылаты. *Твой кабан лычаты.* Аздамічы. *Кры́са — то лыча́та, а пацук з вуса́мі.* М. Малешава.

ЛЬГА, ІЛЬГА' *прысл.* Ільга, магчыма. *Ек льга, то дай, а не, то не.* Верасніца. *Як ільга́ зробіць, то зро́біць.* Велямічы.

ЛЮБЕ′ЗНІК *м.* 1. Палюбоўнік, каханак. *Любезнік буў у жонкі, а ее чоловек ідзе, то вон сховаўса на покуці голы.* Цераблічы. *Дзе яна ўзялá? Мабуць, это любезнік ёй даў.* Кароцічы. 2. Нейкая расліна. *Любезнік, то кажуць, було таке зелье, шчоб хлопцы любілі.* Луткі.

ЛЮБЕ′ЗНІЦА *ж.* Палюбоўніца, каханка. *Ёгó жонка забіла любезніцу, а вон не схоцеў своюо жонку.* Цераблічы.

ЛЮБІ′ЦЦА *незак.* Любіцца, мець любоўныя адносіны. *Чоловек ж жонкою любіліса, жылі ўкрадкі.* Сямурадцы. *Любіліса з тым чоловеком, а той чоловек поехаў к сынóм.* Хачэнь. *Кажэ: дзеду, ты чуў, на нашу невестку кажуць, шо вона любіцца.* Сямурадцы.

ЛЮБІ′ЦЬ *незак.* 1. Любіць, кахаць. Матруна казала, *шчо Сцепка казала, шчо вон любіць нашу Таню, а кідае туюо.* Дварэц. *Вон цебе любіць ек собака палку.* Сямігосцічы. *Любі Верку, да мéрай мерку* (прымаўка). Старажоўцы. *Мужык любіць жонку здорóву, а сестру багату* (прыказка). Кароцічы. *Любіць брат сестру багату, а чоловек жонку здорову* (прыказка). Луткі. *Шчо любіш, то не купіш, а шчо не любіш, то не продасі* (прыказка). Чэрнічы. *Стар любіць пар, а мóлод, то любіць хóлод* (прыказка). Тураў. *Як любіш, то беры, а не любіш — не ходзі* (прыказка). Там жа. *Колоці, як грушу, а любі, як дýшу* (прымаўка). Там жа. 2. Любіць, мець вялікую ахвоту. *Я люблю сало, мне абы сало.* Луткі. *Моя хазяйка любіць ходжáць чмелёў.* Цераблічы. *Дурны, дурны, а сало любіць* (прымаўка). Сямурадцы. △ Л ю б і ц ь  б е з  б ó г а. Вельмі любіць. *Я без бога люблю солодкое.* Старажоўцы.

ЛЮ′БО *прысл.* Люба, міла. *Одзежу шановаць умелі. Ек молодзіца, бувало, устроіцца, то любо гледзець на ее, вона, ек пудэ́лочко, екуратно на ей.* Луткі.

ЛЮБОТА′ *ж.* Любата. *Цепер тым дзецям годоўля, то любота!* Дварэц. *Сухо було до гэтого году, любота!* Кароцічы. *Назва Любовічы пошла од того, шо тут любота жыць.* Любавічы.

ЛЮБО′Ў *ж.* Любоў, каханне. *І памру не ў любові.* М. Малешава. *Вон усе про любоў говорыць, а я ёмý кажу, у вас любві поўна хата* (пра дзяцей). Дварэц. *Хоць у адной лёлі, да по любові* (прымаўка). Старажоўцы.

ЛЮБОЦЕ′НЬЕ *н.* Любата (пра штосьці прывабнае, прыгожае, каштоўнае). *От любоценье купіла свойму татку!* Старажоўцы.

ЛЮБО′ЦЬЕ *н.* Тое ж. *Цепер любоцье — ні працi, ні*

*ткаць не трэбо.* Хачэнь. *Любоцье — наўчыласа косіць!* Бярэжцы.

ЛЮ'БЧЫК *м.* Палюбоўнік. *Уже пошла вона шукаць любчыкоў!* Запясочча.

ЛЮ'БЫ *прым.* Любы, любімы. *Ні пілá б, ні ела б, а на любого гледзела б* (з песні). Старажоўцы.

ЛЮБЫ' *прым.* Любы, кожны, усякі. *Вонэ, ж не любэ дзерэво дзерэцца.* Цераблічы. *Леціць пчола на любу пуць.* Мачуль.

ЛЮ'ДЗІ *мн.* Людзі. *Колісь людзі булі малéнькіе, дванаццаць у печы помешчаліса.* Луткі. *Там жэ людзі не так говораць, як мы.* В. Малешава. *Белые людзі слáбые, чорные людзі здоровые, рыжые людзі нічогіе.* Там жа. *Ні собе погледзець, ні людзем показаць* (прымаўка). Старажоўцы. *Неро́ўны лес, неро́ўные людзі* (прымаўка). Сямігосцічы. *На голы лес гром — болéзь на людзей* (прыкмета). Бярэжцы. *Памянш.* л ю д з е н ь к і, л ю д з е ч к і. *Было стрáху, людзенькі!* Альпень.

ЛЮДЗІ'НА *ж. экспр.* Чалавек, асоба. *Это така людзіна, шчо ой!* В. Малешава. *Прóкляты, погана людзіна!* Бярэжцы.

ЛЮ'ДЗКІ' *прым.* 1. Людскі, чалавечы. *Лю́дзкіе там жонкі і капусты наносяць і гуркоў навозяць.* Сямурадцы *За людскóй роботой своя стоіць.* Там жа. 2. Асабісты. *Гэто колхозны товар, а гэто людзкé.* Цераблічы. *Дзесець год лю́дзьскі товар паслі.* Луткі. *Чыя беда, а лю́цькі смех* (прымаўка). Аздамічы.

ЛЮДЗКО'СЦЬ *ж.* Людскасць, чалавечнасць, свецкасць. *Побачыў вон там людзкосці!* Запясочча. *Му ек ідом у госці до кумы, то навек госцінцы дзецям бером. С пустымі рукамі не прыдзеш. Трэба на людзкосць маць* М. Малешава.

ЛЮ'ДНО *прысл.* Людна. *Зайшла, а там людно ў хаці.* Верасніца.

ЛЮ'ДНЫ *прым.* 1. Людскі, добры, прыстойны. *Я зроду там грыба людского не бачыла, а толькі гэто абу-шчо.* Хачэнь. 2 *перан.* Гаваркі, балбатлівы. *Ты вельмі людна, отозваццa не даеш.* Старажоўцы.

ЛЮДОЕ'Д *м.* Людаед, дрэнны чалавек. *Буў людоед, жадный, шчоб над ім могіла ў сем аршын проваліласа!* (праклён). Чэрнічы. *А вон такі людоед буў, ніколі ні одной хусточкі не купіў нам.* Там жа.

ЛЮ'ЛІ *выкл.* Люлі. *Люлі, люлі, засні спаць. Маці одна, а бацькоў — пяць* (жарт-калыханка). Аздамічы.

ЛЮ'ЛЬКА *ж.* Люлька для курэння. *Напіхаў люльку і пак-пак!* Запясочча. *Люльку робілі з берэлозіны.* Сямігосцічы. *Ой, крэпкі табак с тое люлькі!* Луткі. △ У люльку нема. Пра мізэрную колькасць. *Дзе тое солому возьмеш, і ў люльку нема!* Дварэц.

ЛЮ'ЛЮ *выкл.* Спаць (у размове з дзецьмі). *Поседзі ў песочку да пойдом люлю.* Луткі.

ЛЮ'ЛЯ *ж.* Калыска, люлька (у размове з дзецьмі). *Ходзі положу, Одамко, ў люлю!* Сямігосцічы.

ЛЮ'СТРО, Ю'СТРО *н.* Люстэрка. *Не позірай у люстро, бо воно дражніць.* Старажоўцы. *А вона нічого не робіць, только перэд юстром круціцца.* Кароцічы.

ЛЮ'ТЫ *прым.* 1. Люты, вельмі моцны (пра мароз). Верасніца. 2. Другі месяц каляндарнага года. *І прыдзе люты да попутае, ці добро обуты* (прыказка). Верасніца.

ЛЮ'ШКА *ж.* Пячная засаўка або юшка. *Закрый люшкі, шоб цеплей у хаці було!* М. Малешава. *Купіў у грубу люшку з вухом.* Хотамель.

ЛЮ'ШНЯ *ж.* Упора ад восі да драбін у возе. Сямігосцічы.

ЛЯ'ДО *н.* 1. Мышыны гарошак. *Сеялі оўёс рано, коб лядо набрыняло да од інею полопалосо, дай чысты оўёс.* Дварэц. *Лядо—ўязель у жыце.* Луткі. *Ўязель дробненькі, а лядо — струкі велікіе. Лядо ек прыўе, то не оторваць жыто.* Сямурадцы. 2. Набіліцы. *Вешаюць лядо да ў лядо ўложаюць бердо.* Запясочча. 3. Пад'ёмнае прыстасаванне. Альшаны.

ЛЯК *м.* Сок квашанай капусты. *Сок з квашэной капусты, то ў нас ляк кажуць.* Луткі. *Ляк у капусці, а ў огурцах — росол.* Запясочча. Расол ад селядцоў. *Селёдок у ляку лежыць.* Альпень.

ЛЯКА'ЦЦА *незак.* Палохацца. *Усе лякаецца і лякаецца, усе пуд ему.* Запясочча.

ЛЯКО'БА *ж.* Лячэнне. *Захворэла ў нас кобула. Позвалі му хвельчара да от ёго лякобы кобула не поправілася.* М. Малешава.

ЛЯ'ЛЕЧКА *ж.* 1. Зрэнка ў воку. *Е лялечкі чыстые, то воны граюць. Ежэлі не іграюць, то воны тумные, нечыстые. Старажоўцы.* 2. Сіняя страказа. Запясочча.

ЛЯ'ЛЬКА *ж.* 1. Лялька. *Дзеці граюць у лялькі.* Цераблічы. *Конь-ек лялька!* Там жа. 2 *перан. Істота або*

рэч вельмі прыгожая і прывабная знешне. *Буў хорошы жэрэбок, ох, лялька!* Старажоўцы.

ЛЯ'ЛЯ *ж.* Дзіця, немаўля (у размове з дзецьмі). *Прышла ляля к тобе.* Кароцічы. *Ека мама, така ляля* (прымаўка). Цераблічы.

ЛЯ'МЕЦ *м.* 1. Лямец. *Лямец вельмі потрэбен дле хамутоў.* Тураў. *Лямец порваўса да конь намуляў шыю.* Верасніца. *Зробіўса лямец з косы.* Запясочча. 2. Пласт гною, сена і інш. *Куды ты такі велікі лямец гною береш, бері ме́ньші, а то шчэ надорвешса!* Пагост.

ЛЯ'МКА *ж.* Лямка ў вяроўцы, якая перакідаецца цераз плячо пры перацягванні грузу (пры цяганні баржаў, плытоў і інш.). Альпень. Шляя на каня. *Лямка на коня сшытая була з кужэлю.* Дварэц.

ЛЯ'МЧЫЦЦА *незак.* Лямчыцца, збівацца. *Воўна-весня́нка лямчыцца.* Запясочча.

ЛЯ'ПАНКА *ж.* Стрэльба з куркамі. *Ляпанка була мало ў кого.* Дварэц.

ЛЯ'ПАЦЬ *незак.* 1. Біць, стукаць. *Ляпаць по бабцы молотком дзень будзе той дзед.* Сямурадцы. 2 *перан.* Гаварыць бязглуздзіцу. *Моўчы, годзі ляпаў!* М. Малешава. *Не бачыў, а ляпае язы́ком.* Альпень. *Ляпае, як вол на трэскі!* М. Малешава. 3. Пазяхаць, адкрываць і закрываць рот. *Одно ляпае ротам дай годзі.* Запясочча. 4. Пляскаць, плюхаць. *Цепер лопатамі хлеб не саджаем, а ў нейкіе бляхі ляпаем!* Велямічы.

ЛЯ'ПНУЦЬ *зак.* 1. Ударыць, стукнуць, ляснуць. *От ек ляпне ў дзерэво, то нас заб'е!* Хачэнь. 2. Плюхнуць, пляснуць. *Не давай яблуко, вона ў гразь ляпне.* Хачэнь. *Подняў да ляпнуў об зе́млю, так вон і здох.* Там жа. 3 *перан.* Прапасці, загінуць. *Ляпнулі кортошкі, як булі!* В. Малешава. *Усе ляпнуло: новуе хамуты, возы, обаркі.* Старажоўцы. 4 *перан.* Сказаць не да месца, нетактоўна, неабдумана. *А вон як ляпне, то ні собе послухаць, ні людзям росказаць.* Старажоўцы.

ЛЯПУ'КАЦЬ *незак.* Гаварыць абы-што, неабдумана, нетактоўна. *Шо ты, чоловече, ляпукаеш, шо не след прі дзецях? Сóрому ў цебе нема!* Пагост.

ЛЯ'СКА, ЛЯ'СТКА *ж.* Прыс, шост. *Ляска — жэрдка доўга і му́ліца, ек у весле, то ею дзерэво жэне, на барлінах вона е.* Дварэц. *Жэне дзерэво не з одноею ляскою, а берэ запас, бо одна поломіцца да шо хоч робі.* М. Малешава. *Ляскамі гоняць пором к пры́поромку.* Старажоў-

цы. *На лясках перэходзілі, дзе озеро, да по берэгу не пройдзеш.* Там жа. *Памянш.* л я́ с т о ч к а. *Дубо́ва лясточка і дробны песок — і е менту́шка.* Хотамель. *Лясточка колотушу розбіваць була ў нас.* Там жа.

ЛЯ′СКАЦЬ *незак.* Ляскаць, стукаць. *Не дала поспаці, ляскае.* Лутқі. *То шо я вам могу сказаць, нешчо ляскалі, ляскалі там, потом сціхлі ужэ пе́рэд днем.* Дварэц. *Я стаўлю во́ду на окна, на стол, ек ляскае* (звычай). Хачэнь. △ Л я́ с к а ц ь з у б а́ м і. Прагнуць спажывы (пра ваўкоў). *Отогналі, а воны от за канаву отско́чылі да ляскаюць зубамі.* Бярэжцы. Дрыжаць ад холаду. *А вон зубамі ляскае ужэ, так змёрз, гето ж трэба стольки ў водзе просе́дзеў!* Верасніца.

ЛЯ′СКОВІЦА *ж.* Маланка. *Лясковіца перуна́ убіла нечыстого.* Запясочча.

ЛЯ′СКОТ *м.* Ляскат, бразгат. *Да сту́кот, да ляскот, да крык кругом больніцы! Ляскот, шчо дзевацца нейдзі!* Луткі. *Да той шум, да той ляскот у го́родзі!* Буразі.

ЛЯ′СКОЎКА *ж.* 1. Ляскаўка, ляскавіца, смалёўка (трава). *Ляскоўка росце веліка, бу коноплянка.* М. Малешава. 2. Палявая мята. *Ляскоўка, з вішнёвум цветом вона.* М. Малешава. 3. Падлешчык. Запясочча. *Ляскоўка наподобіе плоткі, но сільно тонкая.* Мачуль. 4. Плавальны пузыр у рыбы. *Во́зьмеш да наду́неш да лыскаеш у лоб тою ляскоўкою.* М. Малешава.

ЛЯ′СНУЦЦА *зак.* Моцна стукнуцца, ляснуцца. *На корэнье ляснуўса і нежыву́ лежыць.* Сямурадцы.

ЛЯ′СНУЦЬ *зак.* 1. Ляснуць, ударыць, стукнуць. *Як упадзе́ гром, як грымне, як лясне, аж страшно седзець!* Пагост. *Сом хвостом як лясне!* Мачуль. *Вы́ступіла чорна хмара і ек лясне!* Старажоўцы. 2 *перан.* Прапасці, загінуць. *Шчоб ты ляснуло* (праклён). Бярэжцы. *Можэ ляснуць банька, ек воды горачое налі або ек у печ постаў.* Цераблічы.

ЛЯСОНУ′ЦЬ *зак.* Моцна ляснуць. *Эх, і гарапнік у ёго́! Ек лясоне́, то за цэлу кіло́метру чутно́!* Пагост.

ЛЯХ *м.* Пан, шляхціц. *Ля́хі — людзі такіе булі, з паноў воны булі.* Запясочча. *Ту́болец — гэто постоя́ннік, а тые ляхі называліса.* Хачэнь. Католік, паляк. *Ляхо́ў двороў восім у Крэмном було. Воны землі купілі тут.* Старажоўцы.

ЛЯШО′ЎКА *ж.* Шляхцянка. *Вона ёго́ — мужік, мужік! А вон — я тобе дам, ляшоўка!* Хачэнь.

# М

МА'БУЦЬ, МА'ЙБУЦЬ *прысл.* Мабыць. *Мабуць, лотка оторвáласа, мо мотóрка бегла.* Дварэц. *Мáбудзь, на погóду будзе.* Чэрнічы. *Мабуць, вон не прыдзе.* Аздамічы. *Майбуць, пойдзе дождж, нешчо вельмі пáрыць.* Тураў. *Майбіць, я не пойдý.* Запясочча.

МАГАРЫ'Ш *м.* Магарыч. *За ковеню да магарыш пілі, а ты коня продаеш да магарыш не даеш.* Старажоўцы.

МАГЕР м. △ Н а  м а ґ е р. На бакір. *Шапку на маґер наложыў.* Мачуль.

МАГНА'Ч *м.* Магнат, багач. *Не хвор купіць, ты ж такі магнач!* М. Малешава. *Вон буў пры Польшчы багатыр, магнач!* Цераблічы.

МАГУ'ЛА, МАГУ'ЛА *ж.* Нараст, гузак (на дрэве, на целе). *Усе тые маґулы зрэзваў з ветлóў і робіў коўгáнкі.* Лугкі. *Магула на берэзі, і на олéшыні мóжэ вýперці.* В. Малешава. *Удырыласа, то ўжэ могулу вуперло на нозе.* Сямігосцічы.

МАГУ'ЛІСТЫ *прым.* У нарастах, у гузаках. *Е такіе маґулістые дубé.* Рычоў.

МАДЗЯ'РА *м.* і *ж.* Страхоцце, пачвара. *Мадзяра — это чорны чоловек да шчэ й голова веліка.* Старажоўцы.

МАЕ'НТОК, МАЁНТОК *м.* Гаспадарка. *Бацько ўмер, маёнток велікі буў у ёго.* Хачэнь. *У ёго маёнтку было п'ять десетін.* Альпень.

МАЁВА'ЦЦА *незак.* Гуляць, бяздзейнічаць. *Маюецца хлопец, лето гуляе.* Кароцічы.

МАЁВА'ЦЬ *незак.* Тое ж. *Маюють молодые, палец об пáлец ніхто не стукне.* Верасніца. *Вона маюе лéто собе, ек прывезé тысеч дзве з весны.* В. Малешава.

МАЁ'ВІК *м.* Хрушч. *Маёвікоў богато на тополях навéк.* В. Малешава.

МАЁРЫЦЬ *незак.* Паводзіць сябе ганарыста, фанабэрыста. *Набрáўса горэлкі, прышоў да маёрыць — такі герой!* Дварэц.

МА'ЗА *ж.* Капрызніца, песта. *Мáзе, чо ты хóчэш?* (да дзіця). Запясочча. *Гóдзе ўжэ мáзаласа ты, маза!* Старажоўцы.

МА'ЗАНЫ *прым.* Збалаваны, спешчаны. *Зара такіе дзеці мазаные!* М. Малешава.

МА'ЗАЦЦА *незак.* Капрызнічаць, песціцца, лашчыцца. *Такé неспокóйнэ дзіця, усе мажэцца!* Запясочча. *Там у Городку бу мажуцца гавóраць, а гэтта бу провóдзяць.* Там жа. *Ву кáжэце, шчо не мазліва, ужэ й коло вас мажэцца.* Цераблічы.

МА'ЗАЦЬ *незак.* 1. Бяліць мелам. *А от я к велікодню не мазала хату.* М. Малешава. *Там кажуць побеліць, а му — мазаць.* Бярэжцы. 2. Патураць. *Мáжэш ты своє дзіця.* Хільчыцы.

МАЗЕНУ'ЦЬ *зак. перан.* Ударыць. *Мазенýла разоў тры по мóрдзі!* Бярэжцы.

МАЗЁПА *ж.* Капрызніца, песта. Аздамічы.

МАЗІ'ЛО *н.* Мазь. *Нéкого мазіла од жукоў прывезлі.* Бярэжцы.

МАЗЛІ'ВУ *прым.* Капрызны, спешчаны. *Мазлівэ дзіця, которэ розбáлованэ.* В. Малешава. *На харчы трошкі мазліва наша корова.* Луткі. *Таке дзіця мазлівэ, скверэ́цца, як жаба!* Старажоўцы.

МАЗНІ'ЦА *ж.* Пасудзіна для калёснай мазі. *Наберы пóўную мазніцу мазé, бо поéдом аж у Орэ́хоўню.* Верасніца. *Памянш.* м а з н і ц к а. Любавічы.

МА'ЗНУЦЬ *зак. перан.* Ударыць. *Як мáзнуў палкою по голове, то зразу шышка зробіласа!* Сямурадцы.

МАЗУ'Н *м.* Капрызун, пястун. Хільчыцы.

МАЗУ'ХА *ж.* Капрызніца, пéста. *Там дзеўка-одзініца, да мазуха — жыве, як почка ў сáле!* Луткі.

МАЗЬ *ж.* Мазь, каламазь, дзёгаць. *А екé там гнацьé було? Там вон достáне еку чарку тоé мáзі собе, а спаліць этых дроў п'яць мéтроў* (пра выганку дзёгцю). Старажоўцы.

МАЗЮ'КА *ж.* Капрызніца, песта. *Заберýць этые дзядзькі такіх мазюк, дзевóк малы́х, як ты.* Хотамель.

МАЙ *м.* 1. Месяц май. *Май холодны, то будзе год голодны* (прымета). Сямігосцічы. *Як тры дожджэ́ у маю, то стогі ў краю.* Старажоўцы. 2. Міфічная істота. *За шэсць дней четырэста рублей як май змáяў!* Хільчыцы.

МАЙДА'Н *м.* Адкрытая прастора, поле, адкрытае месца для размяшчэння пабудоў. *Ну й майдан собе заняў!* Цераблічы. *Тут майдан у нас, лесу нема.* М. Малешава. *Майданóм назовуць плошчу, ек óком окінуць.* Сямігосцічы.

МАЙКАПО'РЭ *прысл.* Абыякава. *Свінья здохла — а ему майкапорэ.* Альпень. *Ай, майкапорэ про гэтэ гово-*

*рыць шчэ! У нас буў такі дзед, екі за кажным словом говорыў майкапорэ.* Старажоўцы.

МАЙНА′ *ж.* Расліна майнік. *Ек вода веліка, то по долінах росце трава, это майна такая доўгая.* Верасніца. *От чортова майна, усе болоньє покрыла, не дае мурогу росці.* Пагост. *Та майна красуе, а потом чорненькіе зернетка.* Мачуль. *З майны крупнік варылі ў голодные годы.* Сямігосцічы.

МАЙСЦЁР *м.* 1. Добры спецыяліст. *Мой бацько буў майсцёр на ўсе рукі, такі ўжэ чоловек уродзіцца, шчо очыма, бувало, гляне, то тэ й робіць.* Старажоўцы. 2 *метаф.* Бык. *Водзіла корову к майсцёру.* Запясочча.

МАК *м.* 1. Мак. *Хорошы мак шышкою росце.* Дварэц. *Мак у зацірку сыпалі для прыкрасы, шоб не нішчымны буў.* Там жа. *Як абу-екі чоловек, то кажуць: то маці маком ёго напоіла.* Хачэнь. *У колодзезь мак сыпалі, шоб буў дождж* (павер'е). Старажоўцы. *На варвары варэнікі пекуць з маком.* Сямігосцічы. *Напоіла маці маком, шоб спаў.* Хачэнь. *Поўна бочэчка круп, а на ёй струп* (загадка). *Мак* (адгадка). Сямурадцы. 2. Закрэсленае кола (клетка) пры гульні ў скокі. Кароцічы. △ Глухі мак. Мак-самасей. *Посеяла глухі мак між яблонямі, то такі буў сільны!* Дварэц. *Глухі мак свецілі на Маковея і осыпалі хлеў, хату от небожчыкоў. І ек на суд ішлі, то кругом себе осыпалі* (павер'е). Лутки. *Глухі мак—вон ядрэны!* Мачуль. Мак-самосей. Мак-самасей. *Мак-самосей свечоны сыпалі ў колодзеж, як нема дождж у.* Хачэнь. Зайцоў (зайчыкоў) мак. Расліна. Хачэнь. На дробны мак. Вельмі дробна, на пыл. *Её побі на дробны мак, то день будеш біць* (пра ссохлыя камякі зямлі на полі). Рубель. Як мак цвіце. Пра яркасць, стракатасць. *Народу на шляху, як мак цвіце!* М. Малешава. *То цепер як мак цвіце ходзяць, а колісь у сорочках ходзілі.* Хачэнь.

МАКА′ТКА *ж.* Невялікі вышыты або нарысаваны дыванок, які вешаюць на сцяну. *Осё о макатка, жонка вывodзіла.* Цераблічы.

МАКАТО′ЎША *ж. абразл.* Галава. *Ну й зварыла твоя макатоўша дурная!* Верасніца. *От голова ў цебе макатоўша, нічого не розбірае.* Старажоўцы.

МАКОВІ′ЦА *ж.* Галоўка маку. *Маковіцу эту хто спальвае, а хто на двор вукідае.* Старажоўцы. *Отрава эта маковіца! У нас було от ее однэ дзіця ўмерло.* Хачэнь.

МА'КОВУ *прым.* Макавы. Дварэц.

МАКО'ТРА *ж.* Макацёр. Хотамель.

МА'КОЎКА *ж.* Галоўка маку, блёкату. *Ма́ковок у го́ршчык да пояць дзецей, як од ціцкі одлучаюць.* Аздамічы. *Малы нацерэбіў маково́к з блёкоту.* Бярэжцы. *Буду спаць, бі про́слі макоўкі!* (пра моцны сон). В. Малешава.

МАКОЦЁР *м.* 1. Макацёр. *Макоцёр — посу́да така.* Цераблічы. *Як велікі, то макоцёр, а як ме́ншы, то мако́трык казалі.* Пагост. *Прынесі мне макоцёр, я буду біць масло.* Хачэнь. 2 *перан.* Галава. *От по гэтому макотру́ ек ва́льну, то скоро образу́мішса!* Верасніца. *Шчо бра за макоцёр у ёго́, шчо й шапкі не подберэ!* Цераблічы. *На макотра́ наложы шчо, холодно́!* Луткі. *Памянш.* м а к о́ т р ы к. *У макотрык варэнікі складалі.* Старажоўцы.

МАГНЕ'З м. Незвычайная здольнасць заварожваць, скоўваць волю, прыцягваць да сябе. *Кажуць, шчо у вужа́ е магнез — жаба пішчыць, а лезе к ёму сама.* Луткі.

МАКУ'ХА *ж.* 1. Макушка, верх галавы ў чалавека. Аздамічы. 2. Бязрогая карова. *Корова позбівала ро́гі і цепер макуха.* Мачуль. 3. Жамерыны ад ільнянога семя пасля выціскання алею. *Свіньям туюю макуху даюць.* Мачуль. 4 *перан.* Дурнаватая асоба. *Макуха — у кого такая нехітра голова.* Цераблічы. Маўклівы чалавек. Пагост.

МАЛЕНКО'СЦЬ *ж.* Маленства. *З маленкосці буў пастух.* Хотамель.

МАЛЕ'НСТВО *м.* 1. Малеча. *Маленство, ходзі ў хату!* В. Малешава. 2. Дзяцінства. *Вон з маленства молока́ не піў.* Хачэнь. *Про́йдзе вашое маленство.* Аздамічы. *Вон не бачыў нічого доброго з маленьства.* Старажоўцы.

МАЛЕНЯ' *н.* Маленькая істота. *Маленя́та аж скачуць з воды — окунята, карасята.* Запясочча.

МАЛЁЎКА *ж.* Каляровы аловак. *Мама купіла ў Городку́ мне малёўкі, одна малёўка вішнёва.* Цераблічы.

МАЛІМО'Н, МАРЫМО'Н *м.* Пірог з гатунковай пшанічнай мукі. *Еж, бабанько, малімон.* Аздамічы. *Буду цыбулю горку есці, чым твое марымоны!* Мачуль.

МАЛІМО'НСКІ, МАРЫМОНСКІ', МАРМО'НСКІ *прым.* Гатунковы (пра муку). *Малімонская мука то, шо пірогі пеклі.* Кароцічы. *Ой, як вусо́ко лётчыкі лётаюць, мабуць, хлеб воны только марімонскі едзя́ць.* Пагост. *Мука марымонска була оно́ у того, шчо на сплаву́ робіў.* Сямігосцічы. *Нашые мужыкі з мормонськое мукі* (прымаўка). Хачэнь.

МАЛІ'ННІК *м.* Малліннік. *Маліннику мало е, оно у корчах дзе.* Лутки.

МАЛІ'НЫ *мн.*, МАЛІ'НА *ж.* Маліна. *У мене там у огородзі ростуць маліны, мо ўжэ дзе еткіе тры й поспело.* Старажоўцы. *Ожы́ны чорные, а маліна кра́сна.* Альпень. *Дзеўка ў ее, як маліна!* Сямурадцы.

МАЛІ'ЦЦА *незак.* Прыкідвацца мало́й. *Стара́ баба, а маліцца, як молода́я.* М. Малешава.

МА'ЛО *прысл.* Мала. *Коб этых куропа́ткоў на жукі, але іх мало цепер.* Цераблічы. *Мало хто світы робіў.* В. Малешава. *Мало кото́ры дзікі селезе́нь блізко садзіцца од лодкі.* Мачуль. *Памянш.* м а́ л е н ь к о. *Наш разговор маленько отлічаецца от О́льгомля.* В. Малешава. *У дзерэўні маленько людзей було остало́со, от екіе него́дные.* Дварэц.

МАЛОЕ'ДНЫ *прым.* Які есць мала. *Вона маленько есць, така малоедная.* Хачэнь.

МАЛОЛЕ'ТОК *м.* Малалетак. *Это шчэ хлопец негодзя́й, малолеток.* Старажоўцы.

МАЛОСІ'ЛЬНЫ *прым.* Маламоцны. *Попросіла старшыны, коб помоглі перэвезці хату, шчо ужэ я малосільная.* Сямурадцы.

МАЛЫ' *прым.* Малы. *Такіе малы́е дзеці ў ее, шчо однэ одного́ не несе.* Запясочча. *Лежаць кожу́шкі, да усе мертвуе, да такіе, і одного́ мало́го нема.* Хачэнь. *Я шчэ буў малы да пасціў волы (прымаўка).* Старажоўцы. *Не будзе малэ, не будзе й старэ́* (прымаўка). Сямурадцы. △ П о  м а́ л о й  г о д з і́ н е. У хуткім часе. *От, по малой годзіне прыходзяць немцы.* Запясочча. *Памянш.* м а л е́ н ь к і, м а л е́ н е ч к і, м а л е́ с е н ь к і, м а л ю́ с е н ь к і, м а л е́ п е н ь к і, м а л ю́ т к і, м а л ю п у́ ц е н ь к і, м а л ю п у́ л е н ь к і, м а л ю ц ю́ л е н ь к і. *От не поросліі, маленькіе картоплі цепер.* Старажоўцы. *Зробіў таку маленечку печ.* Кароцічы. *Булі такіе малесенькіе келішочкі.* Сямурадцы. *Малюсенька лодочка га́пка.* Крэмна. *Го́лка малепенька-малепенька, шо не можна й вуха побачыць.* Старажоўцы. *Зелёна вона, така̀ малютка жабка.* Цераблічы. *Малюпуценька муско́ль.* Бярэжцы. *Ох, мое очэня́та малюпуленькіе!* (да дзіцяці). Старажоўцы. *Бу́сько бу́сленета скінуў, однэ — то бо́льшэ, а однэ — то малюцюленьке!* Рубель.

МАЛЬ *ж.* Малеча. *Я боюса ма́лі.* Запясочча.

МАЛЮКІ' *мн.* Маляўкі рыбы. Альшаны,

МА'МА, МА *ж.* Мама, зварот да маці, назва маці з падкрэсленай павагай, ласкаю. *Дайце і мне, мама, еку пецёрачку.* Пагост. *У нас дзеці мáцер зовуць ма.* Запясочча. *Тут кажуць ма о ма, а ў Хочэ́ні мáмо.* Верасніца. *Ходзі, ма, подзержы́.* М. Малешава. *Ма! — О! — Дай мне хлеба.* Сямігосцічы.

МА'МЕНЯ *ж.* Падобная да маці. *Уся маменя, кры́шкі побрáла.* М. Малешава.

МАМЗНО' *н. зневаж.* Маці. Запясочча. *Дзіця засéрдзіцца на мацер да дрáжніць: ты мамзно!* Старажоўцы.

МА'МКА *ж.* Маці, мама. *Мамка шчэ тройкі прадзé да тчэ.* Запясочча. *Не за тым я, мамко, плáчу, шо чужая сторонá, а затым я, мамко, плачу, шо пройшла молодосць моя* (з песні). Сямурадцы.

МА'МКАЦЬ *незак.* Клікаць маму. *Чогó мы мамкаеш, я ж бачу.* М. Малешава. *Годзі мамкала, ты мне ўжэ надоела.* Старажоўцы.

МА'МОНЬКА *ж.* Ласкавы зварот да дзяўчынкі, дзіцяці і інш. *Устáнь, мамонько, устань* (да дзіцяці). Запясочча. *Кого, мамонько, тобе даць?* Кароцічы. *Не можно, мамонько, ёгó по одной столовой ложцы трэбá піць* (да дзяўчыны). Сямігосцічы.

МАМУ'ЛЕНЬКА *ж.* Вельмі ласкавы зварот да дзяўчынкі, дзіцяці, выказванне бясконцага захаплення, жалю і інш. *Ох, мамуленько, побілі людзей, страшно побачыць.* Лутki.

МАНА' *ж.* 1. Хлусня. *Бувае, показваюць таку ману.* Цераблічы. 2. Пахучая прыманка, прываба. *Трэ маной покропіць вýлей.* Хотамель. *Сено с погоды ману мае.* Там жа. *Гэта мана гэтые зéрнета — воно ж маніць, цягне, пока не з'есі.* Луткі.

МАНА'ТКІ *мн.* Манаткі. *Зобрáў манаткі дай вубрáўса з хаткі* (прымаўка). М. Малешава.

МАНА'ЦЬЕ *н.* Тое ж. *Гэто ву свое манацье ужэ збірáцьмеце? Ужэ едзеце од нас?* Дварэц. *Порвалі моé гуркі з монацьем* (з гурочнікам). Луткі.

МАНДРА' *ж.* Лістоўніца. *Да ўжэ веснá, да ўжэ краснá, і с стрэх вода кáпле, да ўжэ ж тобе, удóвін сыну, мандрóвонька пáхне. О, мандрý, мандрý* (з песні). Дварэц.

МАНІ'СТА, МОНІ'СТА *мн.* Маністы. *Була я ў Турові да купіла маніста хорошые.* М. Малешава. *Голодной куме пірогі на ўме, а богатой — маніста* (прымаўка). Старажоўцы. *Раней говорылі на карáлі моніста.* Запясочча.

МАНІ'ЦЬ *незак.* 1. Прыцягваць, прываджваць, клікаць. *Мене маніло додому.* М. Малешава. *Трэба ж маніць чым, коб зналі* (пра гусей). Дварэц. *А коршак сеў да ціўкае, як ціпленя, это ж вон мáніць.* Хачэнь. 2. Патыхаць. *Маніць так от конюшыны!* Хатамель. 3. Падманваць, рабіць толькі дзеля падману. *Кашу мáняць молоком. Маніў, маніў да не прыўёз хустку.* Луткі.

МАНЛІ'ВУ *прым.* Прываблівы, які прыцягвае да сябе. *Зёрнета такіе манлівуе!* Цераблічы.

МАНТО'ШЫЦЬ *незак.* Ганяць, біць, знішчаць. *Ужэ два дне мантошаць тых качóк!* (Пра паляўнічых). Хачэнь.

МАНТУ'ЛА *ж.* Ход у гульні ў *баланты. Як одбіў на дваццаць чотыры палкі, то мантула будзе.* Аздамічы.

МАНТУ'ЛІЦЬ *незак.* Ганяць, біць. *Плёткамі як стаў мантуліць!* Верасніца.

МАРА' *ж.* Здань, пудзіла, жартаўнік, штукар. *Прычэпіўса, як та мара.* Запясочча. *От мара, чого вон толькі не прыдумае!* Луткі. *Поднелі, як мару екую, оно й очэй не распускае* (пра дзіця, якое ўквэцалася ў гразь). Хачэнь. *Ой, марó, отчэпіса!* Талмачава. *Мара, шо много говóрыць, смешыць.* Мачуль. *Мара — то як дзіўносць якая. Вот мара, таку осіну вон подгрыз!* (пра бабра). Альшаны. *Павел.* м а р э́ ч а. Луткі.

МА'РКАЦЬ *незак.* Мяўкаць. *Ідзе ко мне да маркае кот.* Старажоўцы.

МАРНЕ'ЦЬ *незак.* Марнець. *З гэтымі старымі марнееш тут.* М. Малешава. *Я буду марнець, седзець без толку? Пошлі косіць!* Аздамічы. *Гóды ідуць, марнее так чоловек.* Пагост. *Коб воно так марнело? — Недобрэ!* (пра дзіця ў адзенні). Хачэнь.

МА'РНО *прысл.* Марна. *Ваш труд марне пропадáе.* Дварэц. *Сходзілі марно картоплі і не дрýжно цвітуць.* В. Малешава. *Так марно прошлі мое гóды.* М. Малешава.

МА'РНЫ *прым.* Марны. *Марная одзежа була.* В. Малешава. *Марны дзед, ледбо ходзіць.* Луткі. *У прошлом году там вельмі марна трава була.* Там жа. *Пока гладкі схýдне, то марны здохне* (прыказка). Аздамічы. *Памянш.* м а р н é н ь к і. *Така марнéнька у ёгó була жóнка.* Цераблічы.

МАРУ'ДА *ж.* Маруднасць, павольнасць у справе. *Марýда, колі марудно робіць.* Запясочча. *Нашчó мне та морýда.* Запясочча. Марудны, няспешны ў справах чалавек. Старажоўцы.

МАРУ'ДЗІЦЬ *незак.* Марудзіць. *Ліда марудзіць, а Галя зубамі і губамі хватае.* Бярэжцы.

МАРУ'ДНО *прысл.* Марудна. *Марудно лоткою по дрова ехаць.* В. Малешава. *І сечкою можно секці зелье, только морудно.* Запясочча.

МАРЦОВА'ЦЦА *незак.* Знаходзіцца ў стане цечкі (пра катоў). *Настаў март, коты марцуюцца.* Хачэнь. *На горэ коты морцуюцца.* М. Малешава.

МАРЦОВА'ЦЬ *незак.* Дзейнічаць у стане цечкі (пра катоў). *Кот волочыўса недзе, мо дзе марцоваў ноч.* Альшаны.

МАРЦЫПА'НЫ *мн.* Вараныя буракі. *Ну, я ўжэ цепера на обед марцыпаноў прыстаўлю.* Старажоўцы.

МАРША'ЛОК *м.* Хлопец, які суправаджае на вяселлі маладога. *У молодое дружкі, а ў хлопца — маршалкі.* Хачэнь. *Наметкамі перэўязуюць маршалкоў.* Запясочча. *Маршалкі коровай на веселы несуць. Старшы маршалок коровая несе, а сваха — свечкі.* М. Малешава.

МА'РЫЦЬ *незак.* Зморваць (пра сон). *Ой, сон марыць!* Запясочча. *Нешчо мене марыць сон.* Кароцічы. *Нешчо перэд дождждэм так спаць марыло.* Лутк.

МА'РЭЦ *м.* Сакавік. *Шчэ прыдзе марэц, то отморозіць палец* (прымаўка). Хачэнь.

МАР'Я'НКА *ж.* 1. Трытон(?). *Мар'янка не похожа на рыбіну, вона, як яшчэрка.* Альшаны. 2. Ababak (10 снапоў). *Мар'янкі по загону ставілі у шар.* Старажоўцы.

МА'СА *прысл.* Шмат. *Маса ягод, ледбы прынесла.* Аздамічы. *На Івана Купалу носяць остопкі, лапці да паляць купайло за корчамі за селом і кладуць остопкі недопаленые на огуркі. Кажэ, будзе маса огуркоў.* Сямігосцічы.

МАСЛЁНКА *ж.* 1. Страва з ільнянога семя, якое таўкуць з соллю і дадаюць цыбулю. Бярэжцы. 2. Маслёнка. Мачуль.

МА'СЛО *н.* Масла. *С топлёное сметаны масло луччэй.* Сямігосцічы. *Раз сонцэ і дождж, то ведзьма масло колоціць, казалі* (павер'е). Старажоўцы. *У його як по маслу ідзе!* Сямурадцы.

МАСЛЮ'К *м.* Грыб масляк. *Маслюкі ростуць только пуд хвоямі.* Кароцічы. *Маслюк со слізкою головою.* Цераблічы.

МАСЛЯ'НКА *ж.* Маслёнка. *Она густа така, маслян-*

*ка, маслянку варылі з пшёном.* Запясочча. *Заліваюць пшоно не сыроваткою, а маслянкой.* Бярэжцы.

МАСЦЬ *ж.* 1. Масць, колер поўсці. *А конь екое будзе масці?* Чэрнічы. 2. Мазь. *Масце мне вупішэце.* Бярэжцы.

МАТ *м.*, МА'ТА *ж.* 1. Шчыток з саломы, для ўцяплення. *Мата закладаюць у вулей.* Хотамель. *Мату прыбівае к вулью, шоб пчолы не померзлі. Мата с соломы цесно зроблена.* Старажоўцы. 2. Лаянка. *Мы і матом ругаліса з ім — не бярэ!* Старажоўцы. *За кажным словам мата ў его.* Там жа. △ Сесці матом. Не кранацца ў рост, быць у адным і тым жа стане. *Села цыбуля матом і не росце, зматало ее.* Старажоўцы.

МА'ТКА *ж.* 1. Самка ў пчол. Запясочча. 2. Мацёра. *По тры маткі дзержалі і кормнікоў.* М. Малешава. 3. Важак каманды ў групавых гульнях (*у город і поле* і інш.). *Матка подкідае м'ячыка, а тые, хто ў городзі, б'юць ёго.* Запясочча. △ У матку. Дзіцячая гульня, пры якой матка не дае, каб лавілі яе дзяцей. *Шчо робіш? — Ямочку копаю.— А нашчо ты копаеш? — Голочкі збіраю.— А навошчо тобе голочкі? — Мешэчкі шыць.— А навошчо мешэчкі? — Каменьчыкі збіраць.— А навошчо каменьчыкі? — Твоім дзецям зубы вубіваць! Да ўжэ ловае іх.* Луткі. 4. Маці. *У кого матка, у того голоўка гладка* (прымаўка). Сямігосцічы.

МАТКІ', МО'ТКІ *мн.* Каноплі з насеннем. *Маткі до осені стояць.* Рубель. *Маткі — это ужэ мужчынам на веройкі.* Старажоўцы. *Моткі.* Запясочча.

МАТЛА'ЦЬ *незак.* Матляць, размахваць. *Собака вужа у зубах матлае.* Пагост.

МАТЛУХА'ЦЦА *незак.* Матляцца. *Не матлухайса на очах.* Старажоўцы.

МАТЛЯ'ЦЦА *незак.* Матляцца, боўтацца сюды-туды. *Цэлы дзень матляецца по селу без дзела.* Верасніца.

МАТЛЯ'ЦЬ *незак.* Матляць, размахваць. *Колі не зайдзі, то она матляе тымі спіцамі* (пра заўзятую вязальшчыцу). Верасніца.

МА'ТОЧНІК *м.* Садок для пчалінай маткі. *Оддзеляюць матку от пчол і саджаюць у маточнік.* Старажоўцы.

МАТУ'ЛЯ *ж.* Маці. *Шукала матуля богатого сына, а дочку кохае бедна сіроціна* (з песні). Сямурадцы.

МА'ТЧЫН *прым.* Матчын, мацерын. *Гэта удаласа ў матчын род, а гэта — у бацькоў.* Верасніца.

МАХ *м.* △ На махі. Узмахамі. *Вон ей очамі на ма-*

*хі показвае.* Верасніца. *Немые говорáць на махі.* Там жа. З мáху. У момант. *З маху ухопілі гэту домовіну дай понеслі.* Пагост.

МАХА'ЙЛО *н.* Трэці ход гульні ў скокі, які заключаецца ў пераскокванні з квадрата ў квадрат, махаючы перад сабою нагою. Кароцічы.

МА'ХАЛО *н.* △ Хоць мáхалом махáй. Пра немагчымасць адкасацца, пазбавіцца. *Комароў, хоць махалом махай!* Аздамічы. *Як унадзіліса ў шкоду гусі, махалом махай — не оджэнéсса.* Верасніца.

МАХА'ЦЦА *незак.* Матляцца. *Гольé махаецца, чуць до землé не легае.* Бярэжцы.

МАХА'ЦЬ *незак.* Махаць. *Конь махае головою.* Бярэжцы.

МАХЕ'Ц *м.* Вельмі высокі чалавек. *Вóна малéньки, а ее чоловек махец!* В. Малешава.

МАХІ', МАХ *прым.* Вельмі вялікі. *Напаковала недзе кутóк махі!* (пра сена). Кароцічы. *Мах корова, хорóша, да без рогóў.* Запясочча. *Мах чоловек — шо ўшыр, то ўрост.* Верасніца. *Голова мах, як цэбер!* В. Малешава. *Шырынá, мах, не перэлезеш покоса!* Хачэнь. *Ой, екі мах собарнó седзіць!* М. Малешава. *У мене мах помідоры порослі.* Альшаны.

МАХІЛЕ'ЗНЫ *прым.* Велічэзны. *От чоборнó махілезнэ!* Хільчыцы.

МА'ХІНА *ж.* Велічэзнасць. *Жураўлёвы яйка махіна!* Мачуль. *Тая махіна, а гэта малáя.* Кароцічы.

МАХІНЕ'ЗНЫ *прым.* Велічэзны. М. Малешава.

МА'ХІНКО *прысл.* Вельмі многа. *Махінко леснік прывёз дроў.* Кароцічы.

МА'ХІНЫ *прым.* Вельмі вялікі. *О такі махіны лён, да покрýчаны ўвесь!* Луткі. *Мой жывот зробіўса махіны.* М. Малешава. *У іх такі махіны стог сена.* Кароцічы. *Махіного кожýшка вýцяг.* Запясочча. *Ужэ махінэ нашэ село.* Цераблічы.

МА'ХІНЬ *ж.* Велічэзнасць. *От махінь пошоў, мах чоловек!* Крэмна.

МАХІНЬЕ' *н. зб.* Веліканы. *У нашого суседа махіньe хлопцы вýрослі.* В. Малешава.

МАХНУЦЬ *зак.* 1. Махнуць. *Тры раз махнуў пугою, і побеглі коні.* М. Малешава. 2 *перан.* Пайсці. *Эта жонка за этого платочка з этым кольцом да с хаты махнýла.* Кароцічы.

МА′ХОНЕЦ *м.* Велікан. *От гурок махонец!* Кароцічы.

МА′ХОЦЬ *ж.* Велічэзнасць. *Сохі колісь махоць булі.* Аздамічы.

МА′ЦАЦЬ *незак.* Правяраць, ці з яйцом (пра курыцу). *У нас говораць: ку́ру трэ мацаць.* Хільчыцы.

МА′ЦЕРКА *ж.* Бэлька пад насцілам з дошак для стога, якая кладзецца на слупкі. *На мацеркі клаліса опо́жыны.* Кароцічы.

МАЦЕРКІ′ *мн.* 1. Каноплі з насеннем. *Мацеркі — то кано́плі, шчо се́м'е маюць.* Альпень. 2 *мн.* Мацеры. *То шчэ молодые мацеркі.* Верасніца.

МА′ЦЕРНЯ *ж.* Бэлька пад насцілам з дошак для стога, якая кладзецца на слупы. Альшаны.

МАЦЕРЫ′ЗНІНА *ж.* Спадчына ад маці. *Е́жэлі оста́ліса спа́ткі од мацеры, то мацерызніна.* Сямігосцічы.

МА′ЦЕРЫНА *ж.* Бэлька пад насцілам з дошак для стога, якая кладзецца на слупы. Сямігосцічы.

МАЦЕРЫ′НКА *ж.* Мацярдушка. *От хо́рошэ цвіце мацерынка! Коліся жонкі рвалі собе.* Луткі.

МА′ЦЕРЫНЫ *прым.* Ма́тчын. *Пойду мацерыного порося́ці корміць.* М. Малешава. *Прыедуць у госці, пока е мацерыные косці* (прымаўка). Там жа.

МАЦЕРЫ′ЦА *ж.* Бэлька пад насцілам з дошак для стога, якая кладзецца на слупкі. Хотамель.

МАЦЕ́НКА ж. Тое ж. Цераблічы.

МАЦЁРА *ж.* Свіння, якая мае парасят. *Еслі хоро́ша мацёра, то вона во́ўку не дасць порося́ці.* Луткі. *Думалі кабан, а то мацёра з малы́мі.* Мачуль. 2 *перан.* Мажная гладкая жанчына. Запясочча.

МА′ЦІ *ж.* Маці. *Люда, маці зове. Дзе наша маці? Прыўёз дроў мацер.* Верасніца. *Пошоў з мацер'ю. Сходзі по мацер.* Там жа. *Не та маці, шо родзіла, а та, шо корміла* (прыказка). Старажоўцы. *Оддала́ своей мацер. К своей мацер ходзіла ў госці.* Луткі. *У мацер навек душа боліць.* Кароцічы. *На мою матеру показаў·вон.* Альпень. *Шчэ тые мацеры не поўміралі, шо дзецей поховалі, а кажуць, зноў война.* Бярэжцы. *Ідзе́це к чортовай мацер!* (праклён). М. Малешава. △ М а́ ц е р б о́ ж о е с л ё з к і. Дрыгучка. *Мацер божое слёзкі дрыгучые, бы маніста.* Луткі. М а́ ц і і м а́ ч о х а. Іван-ды-Мар'я. *Маці і мачоха, два цветы́ на ём. От чого оно, не знаю.* Хачэнь.

МАЦУ′КАЦЬ *незак.* Мацаць. *Мацукаю — рука моя цэ́ла.* Дварэц. *Там у мед утопіў рукі, там — у сметану, а*

*там мацукаеш—сало ў сцёпцы.* Тураў. *Я цепер мацукала свою корову, нема нігодного гугра.* Сямурадцы.

МА́ЦЦА, МЕ́ЦЦА *зак.* Быць у стане. *А которые маліса, то гулялі ў чоботах.* М. Малешава. *Хто маецца, той з веро́ўчыны робіць.* В. Малешава. *Хто ме́ўса, то гво́здзе було дзе купіць.* Сямігосцічы.

МАЦЬ, МЕЦЬ *незак.* Мець. *Я боюса з ім дзело мець.* Запясочча. *Дзейка повінна посцель маць.* Там жа. *Коб гэто мала, шо ты мне робіла!* Хачэнь. *Ён маў уме́рці, то кажэ ей, шоб дала́ хлопцу пуд пшэніцы.* Там жа. *Ужэ мае дождж пойці, то ўжэ много конікоў ле́тае.* Там жа. *Хто робіць, той і мае, а не робіўшы, нічого не будзе.* М. Малешава. *Шо ты до ее маеш?* Луткі. *Кожны свое коні маў, то коньмі ездзілі.* Сямігосцічы. *Тоды, як маў немец на Польшчу іці.* Мачуль. *Зеўзюля куе, шо свого гнезда не мае.* Старажоўцы. △ Ч о р т  м а е. Пра вельмі вялікае сумненне ў тым, што ёсць. *Чорт мае і ў Городку.* Сямігосцічы. *А чорт ее маў, тое жары — мо дзень-два побуло жарко.* Старажоўцы. Н е  м а й  м о́ в ы. Пра бескарыснасць гаворкі. *Не май мовы, а пятнаццаць рублёў за дзень давай.* Аздамічы. М е ц ь  б о г а  у  ж ы в о ц е. Мець сумленне. *Ох, людзенькі, шо вона наробіла! Не мела бога у жывоце, да прокляла дзіця роднэ.* М. Малешава.

МАЦЮКА́ЦЦА *незак.* Лаяцца брыдка. *Шо ты мацюка́есса по-ма́церынскі? Гэ чужые людзі.* Запясочча.

МАЧ *м.* Доўгая вузкая драўляная лапата для капання гною. *Гной копаюць мачэ́м. А мач гостры!* Запясочча. *З дзерэва зробяць мача́ да гной накіда́юць.* Мачуль.

МАЧО́ЎНІК *м.* Ірыс балотны. *Мачоўнік жоўтым цвіце.* Рубель.

МА́ЧОХА, МА́ЧЭХА, МА́ЧУХА *ж.* Мачаха. *Цеперэка у іх мачоха, а не маці.* Хачэнь. *Друга́ жонка у бацька, то мачоха.* Альпень. *Хоць дзве мачухі, то не родна маці.* Хачэнь. *Жыві, татко, як бог даў, нашчо мачуху узяў* (з песні). Сямурадцы.

МАЧЫ́НА *ж.* Зерне маку. Д.-Гарадок.

МАЧЫ́НУ *прысл.* Крышачку. *Мачыну поспаў.* Аздамічы. *Памянш.* м а ч ы́ н к у. *Мачынку вупіў, коб лепей було.* Там жа.

МАШЫЯ́Ш *м. абразл.* Чорт, сатана, прайдзісвет. *От гэты машыяш да біўса зо своею жонкою, нічогі такі чоловек.* Дварэц.

МА'ЯЦЬ *незак.* Адхайваць. *Воны его маялі да крáплі давалі.* Дварэц. *Напіўса піва, шо ледзве адмаялі, а не маялі б, то дойшоў бу.* Сямурадцы.

МЕД *м.* 1. Мёд. *Меды́ булі на бору.* Кароцічы. *Куцью медом полівающь.* Запясочча. *Недóбрэ мед даваць, хто хворы да помрэ* (павер'е, лічаць, што могуць памерці пчолы). М. Малешава. 2. Смала на вішнях, слівах. *Дзеці зовуць мед на тэ, шо на слівах, і едзя́ць.* Хачэнь. 3. Нектар. *Е багато такіх цветкоў, дзе меду много.* Альпень. △ К р ы́ т ы м э д. Запоўненая мёдам і запячатаная вашчына. Мачуль. П а д ó в ы м э д. *Мёд з мядовай расы.* Там жа.

МЕДЗВЕ'ДЗЕЎ *прым.* Мядзведзеў. *Медзвéдзеву следы бачылі, шо ішоў вóду піць.* Старажоўцы. △ М е д з в é д з е в о в ý х о. Дзіванна. *Медзведзево вухо росцілаецца красіво і зімой зелёное, не вусыхáе.* Хачэнь.

МЕДЗВЕ'ДЗІЦА *ж.* Мядзведзіца. *Бачылі й медзведзіцу. Мадзвéдзь упаў і ўбіўса, а мадзведзіца так рэўлá, ходзіла.* Старажоўцы.

МЕДЗВЕ'ДЗЬ *м.* Мядзведзь. *Медзведзь — сáму сільны звéр.* Бярэжцы. *На вóўка помóўка, а медзведзь знішка.* Хачэнь. *Купіў козў да стаў піць молоко, то зробіўса, ек медзведзь.* Там жа. *Медзведзь, ек голіна ўдырыць, то моўчыць, а жолудзіна — то рэвé.* Луткі. *Цыгáн б'е у барабан, шоб не чуў медзведзь, ек шуміць лес.* Там жа.

МЕДЗВЕ'ЖЫЦА *ж.* Мядзведзіца. Запясочча.

МЕ'ДНІК *м.* Лудзільшчык. Аздамічы.

МЕДНІ'К *м.* Пчаляр. Кароцічы.

МЕ'ДНЫ *прым.* 1. З медзі. М. Малешава. 2 *перан.* Рыжы. *Медны — это ў кого кóсы рыжые.* Аздамічы.

МЕДОВУ' *прым.* Мядовы. *Як перву бабку побачыш жоўценьку, то масляны́ год будзе, а як чырвону, то медову* (прыкмета). Хачэнь.

МЕДОДА'ЙНЫ *прым.* Мядовы, багаты на збор мёду. *Медодайны год.* Альпень.

МЕДУНІ'ЦА *ж.* Зябер. *Медуніца, як старá, вельмі колюча.* М. Малешава.

МЕЖА' *ж.* Мяжа. *Пойные мéжы поналівало на грáдах* (пра вялікі дождж). Цераблічы. *На край куста межа.* Запясочча. *Цётка ув огород ўпала ў межу, сталі воны шукаць і не нашлі ее.* Сямігосцічы. △ У м é ж а х. Перыяд, калі няма месяца. *Як нема ні старóго ні молодóго месеца, то зовуць у межах.* Хачэнь.

МЕЖОВА'ЦЦА *незак.* Межавацца, суседнічаць. *Межуюцца воны з моею усадзьбою.* М. Малешава. *Коло мо́гліц гэта станцыя межуецца.* Дварэц. *Хіма з ім не межуецца.* Запясочча.

МЕЗГА', МЕЗКА' *ж.* 1. Мязга (у дрэве). *Мезка под корою зра́зу.* Цераблічы. Гняздо для насення ў гарбузе. *Зе́рнета вунела, а мезку не поўкіда́ла.* Цераблічы. Выжымкі цёртай бульбы. *Мезга́.* Запясочча. 2. Снег з дажджом. М. Малешава.

МЕЗДРА' *ж.* Мяздра. Запясочча.

МЕ'ЗЕНІК, МІЗІНІ'К *м.* Мезены палец. *На па́лцу да на мезеніку нарва́ло.* Старажоўцы. *Мізіні́к.* Аздамічы.

МЕ'ЗЕНЫ, МЕ'ДЗЕНЫ, МЕ'ЗІНЫ, МІ'ЗІНЫ *прым.* Мезены. *Ме́зены і ме́зіны палец.* Старажоўцы. *Ме́дзены палец.* Запясочча. △ М е́ з і н а с у б о т а. Субота перад вербніцай. Старажоўцы. *Мізіна субота.* Апошняя субота на сходзе месяца. Луткі.

МЕЗЮ'К, МІЗЮ'К *м.* Мезены палец. *Кот за мезюка́ укусіў.* Луткі. *Мізю́к.* Запясочча.

МЕЗЮ'Н, МІЗЮ'Н *м.* Мезены палец. Луткі.

МЕ'КАЦЬ *незак.* Крычаць (пра цяля, авечку). *Сысун под коровой мекае.* Альгомель. *Нашэ целя мекае, мо воды́ нема, побач.* В. Малешава. *Ове́чка мекае.* Аздамічы.

МЕКЕТА'ЦЬ *незак.* Крычаць (пра авечку). *От смеіцца, ек вечка меке́чэ.* М. Малешава.

МЕЛ *м.* 1. Мел. *Мел — то бела така земля, шо ха́ты мазалі.* Сямігосцічы. 2. Мель. *Сом по мелу́ не ходзіць.* Верасніца. *Букі, шчо на мелу́ седзяць, то го́ркіе, а дзе глыбо́ко, то тые то́ўстые і солодкіе.* Луткі.

МЕЛЕНУ'ЦЬ *зак. метаф.* Хутка пабегчы. *Як меленула с села, то догналі у Ра́буні.* Сямігосцічы.

МЕ'ЛКІ *прым.* Мелкі. *Дзе мелкое место, там буйстра́.* Старажоўцы.

МЕ'ЛКО *прысл.* Мелка. *Там ужэ мелко, вусохла вода.* Луткі. *Гэто зелье мелко росце.* Хачэнь. *Як не мелко орэш плу́гом, то лопатой ме́лей.* Верасніца. *Памянш.* м е́ л е н ь к о. *Ой, як меленько тут!* Альпень.

МЕЛОВА'ТЫ *прым.* Непаваротлівы, павольны. *Меловата старша сестра була.* В. Малешава. *Меловата, як не хочэ роботать да меліцца, як вол, які не хочэ цягці.* Аздамічы.

МЕЛОВА'ЦЬ *незак.* Гнесці, таптаць, мясіць. *За косы*

*да под ногі, да меловаў вон ее так, меловаў!* Старажоўцы.

МЕЛЬКА′ЦЦА *незак.* Трапятаць. *Се́рцэ у мене мелька́еецца.* Сямурадцы.

МЕЛЬКЕНУ′ЦЬ *зак.* 1. Мільгануць. *Онно мелькенуло нешчо.* Луткі. *З доўгімі хвостамі мелькенулі.* Хачэнь. 2 *перан.* Хутка з'есці. *Бульбу з ю́шкою мелькенулі опеці́тно.* Пагост.

МЕЛЬКЕТА′ЦЦА *незак.* Мільгаць, трапятацца. *Вона над ім мелькéчэцца.* Кароцічы.

МЕЛЬНУ′ЦЬ *зак. перан.* Сказаць. *Як мельнý езы́ком шчо, дак воны смея́цца.* Дварэц.

МЕМЛО′ *н.* Мямля. *Таке мемло, шо не мо́жэ подняцца.* Хачэнь.

МЕ′НЕЧКІ *прым.* Маленечкі. *Я до ее — а там нейкі менечкі отачкі огеньчык.* Бярэжцы.

МЕНЁК *м.* Мянтуз. *Менёк коло головý чэрэваты.* Запясочча.*Чэрэваты менёк мосціса у куток, там рыбку пекуць, тобе лапку дадуць* (прымаўка). Аздамічы.

МЕ′НКА *ж.* Абмен. *Менка — это я тобе, будом казаць, дам ку́ру, а ты мне пеўня.* Старажоўцы.

МЕНТА′ЦЬ *незак.* Мянташыць. *Менту́шка — така до́шчэчка, шо мента́юць ко́су.* Запясочча.

МЕНТУ′С *м.* Мянтуз. *Ментус му́лкую во́ду любіць.* Запясочча. *Іх мало у нашой рэцэ́, етых ментусо́ў.* Старажоўцы.

МЕНТУ′ШКА *ж.* Мянташка. *Як поклéплеш косу да ешчэ ментушкою подгострэваеш, то до́брэ косіцца.* Кароцічы. *Карто́пліной помажуць по той ментусцы да песочком посыплюць дай мéнцяць ко́су.* В. Малешава.

МЕНЦЕ′ЛІЦЬ *незак. перан.* Біць. *І почаў менцеліць тым чо́ботом того городчука.* Сямігосцічы.

МЕНЦІ′ЛО *н. экспр.* Мянташка. *Ехаў косіць да своé менціло забыўса.* В. Малешава.

МЕНЦІ′ЦЬ *незак.* 1. Мянташыць. *Бру́сом ко́су мéнцяць.* Запясочча. *Мéнцяць ножа об перэсо́ў.* Бярэжцы. *Менці ко́су почашчэ, то будзе рэзаць.* Сямігосцічы. 2 *перан.* Есці. *Годзе тобе менціць!* М. Малешава. 3 *перан.* Гаварыць. *От ты менціш чорт знае шо, як тым брусом по косе!* Старажоўцы.

МЕНШ, МЕНЬШ, МЕ′НШЭЙ *прысл.* Менш. *Менш воза накосіў.* Аздамічы. *Лучшэ менш знаць, чым много отказаць* (прымаўка). Старажоўцы. *Вот ву здоровейшы*

*больш понесецё, а я меньш.* Кароцічы. *Нада меншэй буць у іх.* Сямурадцы.

МЕ′НШАЦЬ, МЕ′НЬШАЦЬ *незак.* Змяншацца. *Ужэ дзень меншае, а ноч бо́льшае.* Запясочча. *Вода начынае меншаць.* В. Малешава. *Дзень у петро́віцу меншэе.* Дварэц. *Месяц уже зараз меньшаціме потрошку.* Сямурадцы.

МЕ′НШЫ, МЕ′НЬШЫ *прым.* Меншы. *Позней лу́ччэй пасці, бо меншы дзень.* М. Малешава. *Як вода меншая, да лодкою лоўяць рыбу.* Запясочча. *Меньшому хату роб'яць.* Дварэц. *Памянш.* ме́ньшэнькі. *Е воўк овечы — вон меньшэнкі, а конскі — бо́льшы.* Старажоўцы.

МЕНШЭ′ЦЬ *незак.* Рабіцца меншым. *Чому гэто як чоловек старэ́е, то меншэ́е?* Цераблічы. *Месец цепер кругленькі, а ужэ будзе зара меншэць і меншэць.* Хачэнь.

МЕНЯ′ЙЛО *н.* Мяняла. *Шо ты, як той меняйло, усе меняеш?* Азяраны.

МЕНЯ′ЦЦА *незак.* Зменьвацца. *Менялася квадра і буў дождж.* Хачэнь. *Як Купалны Іван, то сонцэ меняецца.* Дварэц.

МЕНЯ′ЦЬ *незак.* Мяняць. *Недобрэ менять на разво́д. Променяла ку́ры, то ў мене сем год не було це́плят.* Старажоўцы.

МЕ′РА *ж.* Мера. *Добры буў народ без конца, без меры.* Сямігосцічы. *Нема меры, екі багаты!* Луткі. △ На ме́ры. На пэўным узроўні (пра ваду), у пэўным стане. *Вода тры дні прыбувае, тры дні на меры постоіць, а дале западáе.* Луткі. *Не перэстае прыбуваць вода, не стане на меры.* Аздамічы. *Рука так шчо на меры, не пухне і не спадáе.* Запясочча. Не ў моёй (на́шэй) ме́ры, не ў мою ме́ру. Засцерагальны выраз, які суправаджае паказ месца на целе, якое пацярпела ад укуса, хваробы і інш. *Укусіла гадзюка, не ў моей меры, тут, коло косточкі.* Верасніца. *Не ў мою меру, на езыцы села болячка.* Луткі. У адно́й ме́ры. Аднолькава, пастаянна. Верасніца.

МЕ′РАЦЦА *незак.* 1. Намервацца. *Я ўсе мераўся зробіць.* Альшаны. *Мерыцца кот напасці на ціпленя.* Сямігосцічы. 2. Высвятляць вымярэннем. *На кію мераліса, шчэ як гулялі у дзецтве.* Старажоўцы.

МЕ′РАЦЬ *незак.* Мераць, вымяраць. *Я ў мамонькі одна, рэчку мерала до дна, рэ́чэнька глыбокая, судзьба моя далёкая* (прыпеўка). Хачэнь. *Полотно мераюць і зара аршыном.* Старажоўцы.

МЕ'РВА *ж.* Твань, дрыгва. *Така мерва, шо не можно перэйці, грузко так.* Мачуль.

МЕ'РВІЦЬ *незак.* Рабіць гразь, засмечваць. Запясочча.

МЕРГОВА'ЦЦА *незак.* Раіцца, абмяркоўваць. *Собра́ліса да мерґуемса, оддаць за ёго́ чы не.* Альшаны.

МЕРГОВА'ЦЬ *незак.* Меркаваць, думаць. *Мы мерґовалі хату обіць.* Хачэнь. *Як я умру, то тоды мерґуйце, дзе хочэце ее дзевайце хату.* Там жа. *Вон мерґуе, шчо я ў го́сцях.* Верасніца.

МЕРЗА'ВУ *прым.* Агідны, дрэнны. *Этой чоловек мерзаву, пройшоў і не поздороўкаўса навет.* Старажоўцы.

МЕРЗЕ'НЫ *прым.* Тое ж. Запясочча.

МЕ'РЗЛЫ *прым.* 1. Мёрзлы. *Картоплі такіе солодкіе і не мерзлые.* Хачэнь. 2 *перан.* Марудны. *От мерзлы, хоць ты под ёго жару подсып!* Луткі.

МЕРЗЛЯ'К *м.* Перамёрзлая бульбіна. *Мерзлекі збіралі і елі у войну, картоплі тые, шо перэмерзлі.* Сямурадцы.

МЕ'РЗНУЦЬ *зак.* Мерзнуць. *Закрыва́ём, шоб не мерзлі картоплі.* Сямурадцы.

МЕ'РКА *ж.* 1. Прылада, якой абмяраюць уручную палеткі. Хачэнь. 2. Памер за памол у млыне. Альпень.

МЕРКЕТА'ЦЦА *незак.* Паляваць (пра авечак). *Вечкі усе разом едзяць, разом і меркетаюцца.* Старажоўцы.

МЕ'РНЫ *прым.* Мерны, у меру. *Ты шчэ мерна, не то́ўста.* В. Малешава.

МЕРНЯ'К *м.* Вялікі гаршчок. *От, наварыла мерняк картопляў дай поелі.* Луткі.

МЕ'РСКІ *прым.* △ Ме́рскі велікдзень. Радаўніца. *Мерскі велікдзень — мертвых дзень, споміно к послі паскі ў чэцвер.* Дварэц.

МЕ'РТВУ *прым.* Мёртвы. *Іду гэтак бі мертва.* В. Малешава. *Тут под крэсто́м мертвых нема* (пра аброчны крыж). Чэрнічы. *Е такіе дні у году, шчо мы помінаем мертвых.* Хачэнь. △ Ні жывы́, ні мёртвы. Вельмі спалоханы. *Баба седзіць ні жыва́, ні мертва на са́нях.* Луткі.

МЕ'РХОЛОЦЬ *ж.* Гразь, дрыгва. *Мерхолоць там, дзе торх.* Тураў.

МЕРЦВЕ'Ц *м.* Мярцвяк. *У нас цеперэка ў селе е мерцвец, то гной нельга вувэ́зіць* (павер'е). Луткі. *Перэд*

*тымі дзедамі ужэ варацъ вечэру. Трохі ужэ там павечэраюць, а то ужэ накрываюць на стол усе, шчо е. Гэто прыдуць ужэ дзеды увечэры, мертвецы прыдуць.* Хачэнь.

МЕ'РЦІ *незак.* Паміраць. *Людзі і молодые мруць.* Бярэжцы. *Коб не мёрлі, то б і небо потпёрлі* (прыказка). Цераблічы.

МЕРЭ'ЖА *ж.* Узор з дзірачак (на тканіне). *От хорóша мерэжа у ее на кровáці.* М. Малешава.

МЕРЭ'ЖЫК *м.* Адзнака, метка, зарубка. *Мерэжыкі на рогáх у корову показваюць, колько оцéляў.* М. Малешава.

МЕРЭ'ЖЫЦЦА *незак.* Здавацца. *Моя дзеўка спросонку як крыкне! Мабуць, ей нешчо мерэжыцца.* М. Малешава.

МЕРЭ'ЖЫ'ЦЬ *незак.* 1. Мярэжыць. Запясочча. 2 *перан.* Імжэць. *Мерэжыць трохі дожджык.* Дварэц. *Дожджык-дожджык мерэжыць, Колька у хаточку бежыць.* М. Малешава.

МЕРЭ'Ц *м.* Нябожчык. *Гэто ж у нас не мерэц, шоб прослі ёгó хату месці* (паводле павер'я, месці хату адразу пасля ад'езду гасцей ці кватарантаў нельга). Мачуль. *Як полезлі у свой кухор бáбі, то ужэ як по мерцý плачуць.* В. Малешава. *Мерцá кладом на проціўной лаві.* М. Малешава.

МЕ'РЭЧ *ж.* Гушчар. *Така мереч, шо не можно пробіцца.* Альшаны.

МЕРЭ'ШЧЫЦЦА *незак.* Мроіцца, здавацца як наяве. *Мерэшчыцца ў головé, не сплю.* Запясочча.

МЕ'СЕЦ *м.* 1. Месяц (у годзе). *Май месец дорогі месец, вон дае ўсе.* Дварэц. *Гэты месец мне вельмі сцягнуўся.* Верасніца. 2. Месяц (свяціла). *Напугайса месец, будзе дождж.* Хачэнь. *Ужэ схода месеца, у п'яць часоў сходзіць.* Старажоўцы. *Каб на мене месец свеціў, а зоры я колóм поб'ю.* Сямурадцы. 3. Танец. *Танцовалі по парах. Бралíса за рýкі, ішлі крýгом, хлопец перэкручваў дзéўку с прытýпамі.* Верасніца. 4. Абрадавае вясельнае печыва ў выглядзе месяца, якое пякуць разам з караваем у маладой і ў маладога і якім потым стукаюцца на вяселлі. *Я пеклá Васілю месеца. На той месец налепвалі ґерґéлі або шышкі.* Сямігосцічы. *Б'юць месец, чый поломáецца.* Цераблічы. △ Мéсец у кругý. Месяц у туманным арэоле (прыкмета). *Месец у кругу на негóду.* Аздамічы. *Памянш.* мéсечок. Старажоўцы.

МЕ′СЕЧНО *прысл.* Месячна. *Так месечно на рожэство бувае.* Хачэнь. *Месешно було, да я стояў на ганку.* Дварэц.

МЕ′СТО *н.* 1. Месца. *У Прыпеці мало глубокіх местоў.* В. Малешава. *У трох мéсцях лён.* Луткі. 2. Цэнтр горада. *Кажу бабі: да несі продáй тые яйца на место.* Запясочча. 3. Паслед. *Баба отрэжэ пýпа, закрые место ў трапку да заховае коло печы.* Пагост. 4 *пéран.* Азадак. *Маці шкодуе, ніколі по мéсту не ўдырыць, шкода, а так покрычыць да ўсе.* М. Малешава. *Памянш.* м é с т о ч к о. *Такое месточко нáйдзецца, шо хоць ты кóсу закладай, так много грыбоў.* Кароцічы.

МЕ′СТОМ *прысл.* Месцамі. *Да местом е і сухі лён.* Кароцічы. *Местом хорóша трава, местом абý-ека.* Хачэнь.

МЕСІ′ЦЬ *незак.* Мясіць. *Наберэ коўш мукі да несе месіць хлеб.* Верасніца. *Як сыр мéсяць, то сметану добаўляюць.* В. Малешава.

МЕСЦІ′ *зак.* Месці. *Снег меце і ідзе.* Бярэжцы. *Як хто с хаты поехаў, то суткі не метуць і стол не ўбіраюць.* Хачэнь.

МЕ′СЦІ′НА *ж.* Асобнае месца. *На той мéсціні усе вугорыць, бо удобрэньёў багато насыпалі.* М. Малешава. *Опходять местíну, де жывуць дікіе свíньа.* Хотамель. *Месціну грыбоў у лесі натрапіў.* Рубель. *Памянш.* м é с ц í н к а. *Була на болоці одна месцінка, а як ускочыш, то не вускочыш.* Луткі.

МЕСЦІ′ЦЦА *незак.* Мясціцца. *Чого ты тут мéсцісса? Шо нема места нідзе?* Старажоўцы. *Не мéсцяцца ужэ у хаці.* Бярэжцы.

МЕ′СЬКІ, МЕ′СКІ *прым.* Местачковы. *Меськіе людзі больш пробéглые, чым сельскіе.* Тураў. *На тýроўцоў кажуць меськіе людзі.* Запясочча. *На меськом полі там булі мóгліца да косцёл.* Хачэнь. *Сельске дзіця — то меске целя* (прымаўка). Любавічы.

МЕСЯ′НЫ *прым.* Мясісты. *Бабкі — грыбý месяные.* Сямурадцы.

МЕ′ТА *ж.* Адлегласць. *Поехаў у лес возіць дрóва, да велікая мета, мало заробіць можно.* Запясочча. *Да тоды этаку мету проедзеце да назад.* М. Малешава.

МЕТАНУ′ЦЬ *зак.* Шпурнуць, кінуць аб зямлю. *Як метанула, то певень, як пул, лецеў з горóду!* Хачэнь. *Пі-*

*ліпко як метануў Іванка, то вон носом зёмлю рыў!* М. Малешава.

МЕ'ТКА *ж.* Нізка рыбы, ільну, цыбулі і інш. *На меткі в'юны нанізвалі да копцілі.* Дварэц. *Столько уюноў наловілі, шчо мо меток сорок нанізалі.* Кароцічы. *От таку метку нанізалі плоток.* Сямурадцы.

МЕТЛА' *ж.* Мятла. *Под метлу поедзяць усе.* М. Малешава. *Метла — это ў гумне. Метлою этою шчыняюць омеці з жыта.* Старажоўцы.

МЕТЛА'ЦЦА *незак.* Матляцца. *Нітка метлаецца ззаду.* Старажоўцы.

МЕТЛІ'ЦА *ж.* Мятлюг. *Метліцу корова добрэ есць.* В. Малешава. *Метліцы свет у жыці!* Луткі. *Метліца хлебу помочніца* (прыказка). Луткі.

МЕТЛІ'ЧЫНА *ж.* Асобная расліна метлюга. Хотамель.

МЕТЛІ'ШЧЭ *н.* Ручка мятлы. Мачуль.

МЕТЛЮГА' *ж.* Мятлюг. *Як негода, то одна метлюга нарódзіць, а жыто — там-сям колос.* Сямігосцічы.

МЕТЛЮХА'ЦЦА *незак.* Матляцца, хістацца. *Вон ешчэ метлюхаўса, да натто слабў буў.* М. Малешава.

МЕТЛЮХОВА'ЦЬ *незак. перан.* Іграць. *Як екі скрыпач метлюхуе добрэ, то танцуемо.* Кароцічы.

МЕ'ТРА *ж.* Метр. *Мо цэла метра була глыба — такая круча.* Дварэц. *Памянш.* м е ц е р к а. Сямурадцы.

МЕТРО'ВУ *прым.* Метровы. *Уюны е ў болоці метровуе!* Верасніца.

МЕТУША'ЦЦА *незак.* Мітусіцца. *Пошла для інцірэсу у клуб, да дзеці метушаюцца, да крык, да шум, то я вернуласа.* Дварэц. *Ластоўкі метушаюцца, дождж будзе.* Аздамічы.

МЕТЧЫ'ШЧЭ *н.* Нізка, на якую нанізваюць рыбу. *Ніжы гэ, шчоб маччышчэ між пальцэў попадало.* Мачуль. *Зніжы на метчышчэ ўюны.* Аздамічы.

МЕХ *м.* Мяшок. *Прыв'ёз тры мехі пшэніцы, несёце да корм́еце куры.* Дварэц. *Санкамі прывезлі два мéха рыбы.* Пагост. *Развезаўса мех не на смех!* (прымаўка). Верасніца. *Як загінуў мех, то й на бáцька грэх* (прыказка). Сямігосцічы. △ К о в á л ь с к і м е х. Паддувала ў горне. Бярэжцы.

МЕХОНО'ША *м. і ж.* Насільшчык падарункаў у шчадроўшчыкаў. *Вон і той стары буў за мехоноша.* Сямігосцічы.

МЕЦЕ'Ж *м.* 1. Завея, мяцеліца. *Вот мецеж, меце снегом, усе замеце!* Аздамічы. 2. Разбой, сумятня, знішчэнне. *Раншы нейкі мецеж тут у Турове буў.* Хачэнь. *Кажуць, у Пінску ко́лісь велікі мецеж буў.* М. Малешава.

МЕЦЕ'ЛІЦА *ж.* 1. Мяцеліца, завея. *Мецеліца на дворэ, не можно вуйці.* М. Малешава. 2. Стары танец. *Гулялі утроіх, дзве по бока́х, а одна ў серэ́дзіне. Тые, шо по боках, бегалі кругом серэдней.* М. Малешава. *Молодзіцы, молодые поюць і ў мецеліцу гуляюць.* Верасніца.

МЕЦЕ'ЛЬ *ж.* Мяцеліца. *Мецель — это снег.* Старажоўцы.

МЕ'ЦІЦЬ *незак.* Намячаць. *Той колоша́ты пеўнік, я его ме́чу на насе́нье.* Дварэц.

МЕЧ *ж.* Меч. *А я вуняў гостру меч і зняў голо́воньку с плеч* (з песні). Сямурадцы.

МЕ'ШАНЫ *прым.* Мяшаны. *Хоць мы і мешаные с сёл, но ніхто нічого у соседа не возьме.* Крэмна.

МЕ'ШАНЬ *ж.* Мешаніна. *Усе змешай — да вот і мешань.* Старажоўцы.

МЕША'ЦЬ *незак.* 1. Перашкаджаць. *Отыдзі, ты мне мешаеш.* Бярэжцы. *Не мешай нам говорыць.* В. Малешава. 2. Араць другі раз. *За́рэ на весне́ гором, мешаемо, потом боронуем, а потом сеем.* Аздамічы. *Бувало, под картоплі мешаюць.* Луткі.

МЕ'ШКАЦЦА *незак.* Марудзіць. *Там вон коло его мешкаецца.* Сямігосцічы. *Чого ты мешкаешса там, скорэй!* М. Малешава.

МЕШКОВА'ТЫ *прым.* Мешкаваты, малярухавы, непаваротлівы. *От ужэ этой ша́хворосцень, спа́су нема, а то — мешковаты хлопец.* Крэмна.

МЕШКО'РЫЦЬ, МЕШКО'ЛІЦЬ *незак.* Калашмаціць. *П'яные мешкорань одзін одного — той от себе, а той от себе.* Старажоўцы. *Мешко́ліць.* Запясочча.

МЕШО'К *м.* 1. Мяшок. *Коб я ў твоіх ле́цех буў, то два мешкі понёс.* Цераблічы. *Гусь — то дзіравы мешок!* В. Малешава. *На дворэ, як у мешку, аж захло́пвае дух.* Луткі. *Просунуўса, як мешок, і не озваўса.* Старажоўцы. 2. Пухліна на твары. *Мешкі под очыма.* Запясочча. 3. Кішэні ў сетцы. М. Малешава. *Памянш.* м е ш э́ ч о к. *Трэ і тобе мешэчок мукі узяць.* В. Малешава. *Пры́дзе з нішчымным мешэчком.* Луткі.

МЕ'ШТОМ *прысл.* Ускосна, незнарок. *Я мештом доведаўса про его.* Тураў.

МЕШЧА'НЕ *мн.* Местачкоўцы. *Городчукі — мешчане з татарского поколенья.* Велямічы. *Ворóнін — гэто ужэ мешчане.* Верасніца.

МІГА'ЦЬ *незак.* Мігцець. *Зóркі мігáюць.* М. Малешава. *Мігае у вочах, нічого не бачу.* Запясочча. *Лён сіні, аж у вочах мігае.* Бярэжцы.

МІГІ'ҚАЦЬ *незак.* Ржаць (пра жарабя). *Жерэб'я мігічэ, осталóсо самэ́.* Старажоўцы.

МІГІТА'ЦЬ *незак.* Тое ж. Бярэжцы.

МІГЛА' *ж.* Імжа. *Мігла мігліць цалы дзень.* Цераблічы. *Мігла сее.* Запясочча.

МІГЛЕ'НЬЕ *н.* Імжэнне. *Яке то мігленье поценюшыло.* Бярэжцы.

МІГЛЕ'ЦЬ *незак.* Імжэць. *Дождж міглей, і вецёр-вецёр буў!* Дварэц. *Мігліць дождж, шчэ велікі не йдзе.* Бярэжцы. *Дождж не йдзе? — Не, мігліць.* М. Малешава.

МІГО'М *прысл.* Мігам. *Як рошчыталі, то я мігóм оттуль.* М. Малешава. *Вон мігом познакоміцца.* В. Малешава.

МІЖ, МІЖЫ, МІЗ, МЕ'ЖДУ, МІ'ЖДУ, МІ'ЖДЫ *прыназ.* Паміж, між. *У іх есцека між рогамі ямка.* М. Малешава. *Я між іх, між тых воўкóў.* Бярэжцы. *Як бохнеш у воду, то міжы очы пліскі.* Хачэнь. *Берéзцы раньшы жылі тут, міз рэкамі.* В. Малешава. *Лéгла міз дзеці.* Бярэжцы. *Воўколап между воўкамі глаўны, ек король.* Хачэнь. *Между імі дзецей нема, вона ці вон бездзетуха.* В. Малешава. *Міжду концамі óбода забівалі зелезо.* М. Малешава. *Міжды собою б'юцца за любоў, а сáмі старые чэрці!* Дварэц.

МІЖА'ЦЬ *незак.* Імжэць. *Трошкі дожджык міжыць.* Цераблічы.

МІЖЫ'ВОЧЫ, МІЖЫ'ВОЧ *прысл.* Між вачэй. *Міжывочы так трэснуў, шо аж зоры з вочэ́й посыпаліса.* Пагост. *Вона міжывоч кусае* (пра пчалу). Цераблічы. *Міжыочы лінýў.* Хачэнь. *Галаґуцкі певень б'ецца, скачэ міжывочы.* Чэрнічы.

МІЖЫ'ПЕРНІЦА *ж.* Хвароба ног у кароў, а таксама і рук у чалавека. *Міжыперніца на руцэ зробіласа, то рэзалі.* М. Малешава.

МІЖЫ'ПЛЕЧЫ *прысл.* Між плячэй. *Его раніло міжыплечы.* М. Малешава.

МІЖЫТ *м.* Малако ў каровы перад цяленнем. Дварэц.

МІЗЕ′РНЫ *прым.* Мізэрны. *Мізерне дзіця, маленьке.* В. Малешава. *Мізерна у цебе цыбуля, і пахне, чутно, шо вона гіне.* Старажоўцы. *Памянш.* м і з е́ р н е н ь к і. *Вон пошла мізерненька дзевочка, шо нема навошчо погледзець.* М. Малешава. *Маленькі, мізэрненькі буў чоловек.* Цераблічы.

МІКІ′ТА *м.* Стары танец. Старажоўцы.

МІКІ′ЦІЦЦА *незак.* Капрызнічаць. *Мікіціцца дзіця.* Аздамічы.

МІКОЛА *м.* Старое свята ў маі і снежні. *Перэд Міколою сеюць огуркі, то будзе богато-богато іх.* Сямігосцічы.

МІКО′ЛЬНІК *м.* Ранні баравік. *От ужэ Мікола у мае, то ужэ мікольнікі должны буць грыбу́.* Старажоўцы.

МІ′ЛО *прысл.* Міла, прыемна. *Дорого міло, а дзешово гніло* (прыказка). Аздамічы. *Ідзе міло, там очы, а дзе больно, там рукі* (прымаўка). М. Малешава.

МІЛОВА′НЬЕ *н.* Далікатныя адносіны. *Мо тоды було некое мілованье для тых дзецей?* Верасніца.

МІ′ЛОВАЦЬ *незак.* Адносіцца з любоўю, ласкай. *Кожна мацер свое дзіця мілуе.* Луткі.

МІ′ЛОСЦІНА, МІ′ЛОСТЫНА *ж.* Міласціна. *Старэц ходзіў у мілосціну.* Цераблічы. *Не ходзіў я по мілостыне, а робіў.* М. Малешава.

МІ′ЛОСЦЬ *ж.* Міласць. *Бог не без мілосці, а козак не без долі* (прыказка). Хачэнь.

МІ′ЛЫ *прым.* Мілы, дарагі, любы. *Сон міле́йшы над ўсе.* Сямігосцічы. *Здаецца, ужэ й хата не міла.* Пагост. *Я б не піў бу, не еў бу, да до мілое полецеў бу* (з песні). Старажоўцы. *Бачылі вочы, шо куплялі, міло не міло, а есці трэба.* Там жа. *Памянш.* м і л е н ь к і. *Я усе поле обойшла, міленького не найшла* (з песні). Сямурадцы.

МІ′МО *прысл.* Паміма, акрамя. *Мімо Мо́зыра нема нідзе моста́.* Запясочча. *Воны его харчовалі і вупійка, а грошы мімо* (пра цесляра). Дварэц.

МІ′НА *ж.* Выраз твару. *У его міна така нехороша, у его і вугляд нелю́цкі.* Луткі.

МІНА′ЦЦА *незак.* Мінацца. *Усе мінаецца.* Запясочча. *Колі той дзень мінаецца, ужэ вечор!* Хачэнь.

МІНА′ЦЬ *незак.* Мінаць. *Нас мінаюць і едуць да́лей.* М. Малешава. *Рэка мінае Туроў.* В. Малешава. *Трэ загаціць, шоб не мінала рыба.* Аздамічы. *Трэба шчоб той пояс вісеў досе́, шчоб колена мінаў.* Сямігосцічы. *Сазан і*

*сомка мінае, от ўкусна рыба!* Альшаны. *Не мінайте хаты, як будете тут.* Альпень.

МІНДРУ'К *м.* Свіны каўбух. *С сцёгон м'якоць у міндрук клала.* Запясочча.

МІНТРЭ'ЖЫЦЦА *незак.* Хваляваліца, паводзіць сябе неспакойна, узбуджана. *Ба, ек коні мінтрэжацца, воўка почулі.* Цераблічы.

МІНТРЭ'ЖЫЦЬ *незак.* Хваляваць, уводзіць у трывогу. *Не мінтрэж людзей войною.* М. Малешава.

МІНУ'ЦЦА *зак.* Мінуцца. *Думалі колі гэто мінéцца!* Хачэнь.

МІНУ'ЦЬ *зак.* Мінуць. *Міне, сеючы, дзе вода, там трава і росце.* Дварэц. *Хай баба на гэтого накрычыць, а мене міне.* Там жа. *Вон мінуў мене да одразу до дзеда.* Хачэнь. *Я ж мінула той куплет.* В. Малешава.

МІНЮ'ТА *ж.* Мінута. *Пожджы мінюту, годзі ты вўркала!* Старажоўцы.

МІР *м.* Людзі, свет. *Увесь мір ішоў по вóду до того тур-колóдзезя.* Дварэц. *Хто на міры да не удырыў, то той дурань.* Хачэнь. *От на той полянцы зельёў! Як бы знаў, то нарваў бы іх мір!* Лутки.

МІРГОВА'ЦЦА *незак.* Згаворвацца. *Міргуюцца ў ягоды пойці.* Старажоўцы.

МІРГОВА'ЦЬ *незак.* Разлічваць, планаваць. *Вона міргўе, мо грошэй багато.* Сямурадцы.

МІ'РНО *прысл.* Мірна. *Посварыцца можно, але трэ, коб мірно прожыць.* Старажоўцы.

МІРО'ТА *ж.* Людзі, грамадства. *Шоб іх, такіх злодзеёў, мірота не знала!* Запясочча.

МІРУСЦЕ'ЦЬ *незак.* Імжэць. *Мігла ідзе, мірусціць.* Сямігосцічы.

МІРЫ'ЦЦА *незак.* Мірыцца. *Нідзе ніхто не берэ на кварціру, то будом у моей хаці ўсе мірыцца.* Хачэнь. *Побіліса і ўжо пошлі мірыцца ў магазін.* Старажоўцы.

МІРЫ'ЦЬ *незак.* Мірыць. *На гэта не пойдом, шоб міліцыя нас мірыла.* Старажоўцы.

МІ'СА *ж.* Міска. *Наробіласа і з'ела цэлу місу крышаноў.* М. Малешава. *Дóха вона ловіць! Вона гледзіць, коб дзе у місі ловіць* (пра кошку). В. Малешава. *Даюць місу зернят і сыр сухі молодому.* Цераблічы. *Толькі дзеці к місі, а мачуха по мусі* (з песні). Сямурадцы.

МІ'СКА *ж.* Міска. *Міска була сала з одное вўтву.* Па-

гост. *У гэтой чэрэп'яной місцы добрэ м'яць конóплі, мак.* Старажоўцы.

МІТУСНЯ′ *ж.* Мітусня. Тураў.

МІ′ТЭЛЕМ, МІ′ЦЕЛЕМ *прысл.* Хутка, у момант. *Бацько сказаў, шоб ты мітэлем буў дома.* Пагост. *Пусці малóго на подлогу, то ўсе мітэлем полеціць!* Хачэнь. *Міцелем бежы.* Запясочча.

МІЧА′ЛКА *ж.* Адна з дзявочых вясельных пасад. (Выконвала ролю мічалкі сястра жаніха (дзяўчына). Яна сядзела побач з братам маладога і трымала васковыя свечкі.) Тураў.

МЛЕЦЬ *незак.* Млець. *У мене упóцемку рукі і ногі млеюць.* Тураў. *Наша маці млее, слабá ўжэ.* Запясочча. *Млеюць ногі — лішню дорогу, лішні ход даў.* Аздамічы. *Я рэкі боюса, млею!* М. Малешава.

МЛЁН *м.* Ручка, якой круцяць камень у жорнах. Тураў.

МЛІ′ВО *н.* Мліва. *Ужэ мне этэ мліво надоело — цегай этые мешкі самомý.* Старажоўцы.

МЛІН *м.* Млын. *На Рыччы млін такій, шо робіць муку белу-белу — путлёванку.* Тураў. *У войну не було мліноў, а булі жóрна.* Луткі. *Морэ Морыйське, болото Пінське, сто кóней цягне, одзін жэрэбец стогне* (загадка). *Млін* (адгадка). Хачэнь. *Меле, як пусты млін* (пра балбатуна). Старажоўцы.

МЛІНЕ′Ц *м.* Блін. *Ходзем ко мне, моя баба млінцоў напекла, поснедаём.* Тураў. *Млінцэ́ тые, шо на содзі.* М. Малешава. *Гоп-гоп, гопапа, пошла дзеўка за попа, поп дроў насечэ, дзеўка млінцоў напечэ* (прыпеўка). Луткі.

МЛІ′НЧЫК *м.* Блінчык. *Млінчыкі тонкіе.* Старажоўцы. *С крухмалу пеком млінчыкі.* Сямурадцы.

МЛО′СНО *прысл.* Млосна. *На дворэ млосно, жара печэ.* Альгомель. *Рано росно, удзень млосно, увечоры комáры кусаюць* (прымаўка). Мачуль.

МЛЯ′ВО *прысл.* Млява. *Мляво од жары, як сонцэ прыпекло.* Цераблічы.

МЛЯ′ВУ *прым.* Млявы. *Жара, так поробіліса млявуе.* Запясочча.

МЛЯ′НО *прысл.* Млява. *Мляно стало бабі от вальні.* Цераблічы.

МНЕЦЬ *незак.* Разаграваецца і расслабляцца. *Мнéе воздух, ідзе ўверх.* Буразі.

МНО'ГО *прысл.* Многа, шмат. *Воды ожыдаем много.* Мачуль.

МНО'ЖЫЦЦА *незак.* Множыцца. *Гэтые людзі множацца, а землі не прыбайляецца.* Бярэжцы.

МО *часц.* Можа. *То там дубы стоялі мо до неба.* Буразі. *А ў Заложэ́нь колько кілометроў іці? — А я знаю? Мо тры, мо п'яць.* М. Малешава. *Поглeдзе́це там у Мо́тове, мо бодзяга е.* Там жа. *Воны мо й думалі, а мо й не думалі.* В. Малешава. *Бабі мо нема ўдома?* Сямігосцічы. *Мо то ву згрэблі ужэ свое сено.* Кароцічы.

МО'ВА *ж.* Гаворка, размова, гутарка. *Ой, було б мовы да сплетнёў!* Дварэц. *Прыдзе Міша — друга́ мова, да зноў забуду про шапку сказаць.* Там жа. *Конца нема гэтуй мові.* М. Малешава. *Ці дзень добры, ці здрастуй, то одна мова.* В. Малешава. *Вон не понімаў нашое мову.* Луткі. *Гэто ло́віць мову гэта росо́шка?* (пра мікрафон). *Нема мовы, то й гэто не мова* (прымаўка, пра пустую балбатню). Аздамічы. *Ціхоце! Шо там за мова?* Цераблічы. *У кожной* (вёсцы) *своя мова інша.* Мачуль. *Без зубоў не така чыста мова.* Там жа. *Пока людзі не зведуцца, будзе така наша мова.* Сямурадцы.

МОГА'ЙБО *выкл.* Прывітальнае пажаданне (пры звароце да таго, хто працуе). *Могайбо, сестра!* Запясочча.

МОГІ'ЛА *ж.* Магіла. *Я твое могілы не залягу!* Луткі. *Бралі такого осового колка́ да уродзе забівалі на могіле, шоб ужэ не ходзіў вон, той ведзьмар.* Хачэнь.

МО'ГЛІЦА *мн.* Могілкі. *Поўз могліца надо ехаць.* Запясочча. *То́пленіка ховалі поўз могліца.* Верасніца. *Я б не побояўся на могліцах ночоваць.* Пагост.

МОГЦІ' *незак.* Магчы. *Не моглі уцекці у хату.* Хачэнь. *Не мо́жуць браць машыны таку поле́глу пшэніцу.* Сямігосцічы. *Му мого́м буць, а хлеба можэ не буць.* Старажоўцы.

МО'ДНЫ *прым.* Незвычайны, непрывычны, дзіўны, нотны. *Стары́ модны, урэдны такі. Мо і му будом такіе.* Сямігосцічы.

МО'ДЫ *мн.* Узор у клеткі на палатне. *Як поло́тна тчэш, то два ніты, а як тчэш моды, то чотыры ніты.* Луткі.

МО'ЖНО, МО'ЖНЫ *прысл.* Можна. *Можно було і вельмі хорошо жыць.* Старажоўцы. *Валіць снег, шо не можно вуйці.* Дварэц. *Клопот, можно не іці на лён.* Ма-

чуль. *У ножнýю ступу можны ўсыпаць поўведра.* Верасніца. *Гразь, ну й гразé, вулезці не можны!* Луткі. *Поседзець коло гусей не можны, стой і стой.* Цераблічы. *Ціхоце, церэз вас не можны пісаць.* Там жа.

МО'ЖЭ *часц.* Можа. *Годоў, можэ, чэты́рнаццаць, больш не було.* Бярэжцы. *Можэ, чоловек шо-небудзь і знае, мо шо-небудзь поможэ.* Кароцічы.

МОЗКОВА'ЦЬ *незак.* Мазгаваць, думаць, працаваць галавой. *Вýчыцца чоловек, мозкýе, а шэ́сдзесят лет — і ўсе.* Чэрнічы.

МОЗКОЛЯ'ЦЬ *незак. экспр.* Біць. *Здзела чэрэвік да мозколяе по голове.* Сямігосцічы.

МОЗКОТО'ЎНЯ', МОШКОТО'ЎНЯ *ж. экспр.* Галава. *Шчо-то у дурну мозкотоўню набегло, мо набрайса?* Старажоўцы. *Зачэпіла сокерою палку, да ў мошкотоўню!* Хачэнь.

МО'ЗОК *м.* Мозг. *Не мозок, а мекіна ў голове седіть!* Альпень. *Коб тобе мозкі выкруціло!* Хачэнь. *Гэтым мушчынам гóлову поразбівалі да мóзкі цеклі.* Бярэжцы.

МОЙ *займ.* Мой. *Дай мого мешка.* В. Малешава. *А у мого бацька булі коні добрые!* Бярэжцы. *А мой недзе у Барáновічах одзін.* Кароцічы. *А моя фамілія по бацьку Горб.* Бярэжцы.

МОКАЗО'Б *м.* Вельмі дробныя мошкі. *Мокозоб засыпае очы.* Альпень.

МО'КНУЦЬ *незак.* Мокнуць. *Плацье мокне ў водзе.* Бярэжцы.

МОКОЦЁР *м.* Макацёр. *У мокотрэ́ подбіваём млінцэ.* Луткі. *А шырокіе булі, то мокотрэ́.* Сямурадцы.

МО'КРО *прысл.* Мокра. *Ек мокро да трава густá, то іх богато, чмелёў.* Цераблічы.

МОКРОДЗІ'НЬЕ *н.* Макроцце. *От, мокродзіньe на дворэ!* М. Малешава. *Знела тэ мокродзіньe.* Мачуль.

МОКРО'ТА *ж.* Макрата. *На вуліцы мокрота, одзевайса цеплей.* Верасніца. *Лепóта така на дворэ, мокрота — і снег і дождж!* Аздамічы. *По мокрóце звеліса белые картоплі.* Хачэнь.

МО'КРЫ *прым.* Мокры. *Мокрое, шо з воды!* В. Малешава. *Мокрэ лето, і була зіма мокра.* Луткі. *Як мокры год, то ў жыце стоколóса росце.* Сямурадцы. *Робіць, як мокрое горыць.* Старажоўцы. *Памянш.* мокрýленькі, мокрýсенькі. *Дзіця мокруленьке усе!* Альшаны. *Прышла я мокрусенька з ягод.* Аздамічы.

МОКРЭ'ЗНЫ *прым.* Вельмі мокры. *Прышоў, да такі мокрэзны!* М. Малешава.

МОКРЭ'НІ *мн.* Дзень перад Іллёй. *Як не будзе на мокрэні дошчў, то не будзе картошка гнісці у землі.* Дварэц.

МОКРЭ'Ц *м.* 1. Макрыца. *Мокрэц — то зелье таке.* Запясочча. *Мокрэц на нізком росце.* Альпень. 2. Макрэц (хвароба ў коней). Запясочча.

МОКРЭ'ЦЬ *незак.* Макрэць. *Моя корова мокрэ́е, нешчо ее гоніць у хлеве.* Луткі.

МОЛЁВА'ЦЦА *незак. экспр.* Збірацца. *Коб ты молёваўса, бацько ніколі у воскрэсенье не пусціць на поле.* Сямігосцічы.

МО'ЛМОН *м.* Жоўтыя гарлачыкі. *Молмон росце ў озеры, ёго зовуць шчэ і буцікі, а городскіе — лілія.* Верасніца.

МОЛОДА' *прым.* (субст.). Маладая на вяселлі. *Молодой каравая́ на печ ставяць, а молодого — на стол.* Старажоўцы.

МОЛОДЖА'ВУ, МОЛОЖА'ВУ *прым.* Маладжавы. *Па́йло на від молоджавы.* Луткі. *Брат молоджавы, а ему во́семдзесят год.* Сямігосцічы. *Е чоловек моложаву, хоць ему ужэ і год багато, а е остарковáты.* Буразі.

МОЛОДЗЕ'Ж *м.* Моладзь. *Этого молодзежу́ нагодовалосо!* Луткі. *Усёй молодзеж, шо есцека, вон только на гулянье!* Там жа.

МОЛОДЗЕ'Ц *м.* Маладзец. *Тут молойцы́ добрые по сёлах, до дзевеці дзецей маюць!* Бярэжцы. *Ой, ці з ветром, ці з дожджэ́м, ці с хорошым молойцэ́м* (з песні). Сямурадцы. *Памянш.* м о л о́ й ч ы к. *То ж ты молойчык за гэто.* Дварэц.

МОЛОДЗЕ'ЦЬ *незак.* Рабіцца туманным, зацягвацца (пра неба). *Молодзее небо перэд дожджэ́м.* М. Малешава.

МОЛОДЗЕ'ЖА *ж.* Моладзь. *Цепер молодзёжа, дай бацько грóшы дай годзі!* М. Малешава.

МАЛОДЗЁНА *ж.* Маладзіца. *Шо я молодзёна ці шо?* Цераблічы.

МОЛОДЗЁНКА *ж.* Тое ж. *Стара́ баба, а не молодзёнка вона́.* Луткі.

МОЛО'ДЗІВО *н.* Малодзіва. *Як корова оцеліцца, первы удой называецца у нас молодзіво.* М. Малешава.

*З молодзіва кашу вараць.* Запясочча. *Молодзіво не можно есці — завадзіць.* Азяраны.

МОЛОДЗІ'К *м.* 1. Маладзік. *У сэрэду настаў молодзік.* Тураў. *Спусціў молодзік рогі, то будзе дождж, а як закруціць, то будзе погода.* Хачэнь. 2. Малады хлопец. *Дзе збіраюцца дзеўкі, туды цягнуцца і молодзікі.* Тураў. *Вот пошлі молодзікі.* Запясочча. *Памянш.* молодзічок. *Молодзічок настае.* Хотамель.

МОЛОДЗІНА' *ж.* Вельмі маладая асоба. *А вон молодзіна, а вона стара-стара!* М. Малешава.

МОЛОДЗІ'ЦА *ж.* Маладзіца. *Ты не молодзіца, а настоящча баба, унукі маеш.* М. Малешава. *Дзед богу кожны дзень моліцца, а грэх мае — горэлку любіць, колісь й молодзіц любіў.* Пагост. *Памянш.* молодзіцка. *Гэта молодзіцка нішчо не шкодуе.* Хачэнь.

МОЛОДЗІ'ЦЦА *незак.* Маладзіцца. *Той шчэ молодзіцца? Хай, почакаём!* (пра таго, які голіцца). М. Малешава. 2. Зацягвацца лёгкімі хмарамі, мутнець (пра неба). *Нéбо молодзіцца — дождж будзе.* М. Малешава.

МОЛО'ДКА *ж.* Маладуха. *Ек ужэ молодка ека умрэ да останецца дзіця груднэе, то колісь говорылі, шо ведзьмар будзе прыходзіць ік дзіцяці.* Хачэнь.

МОЛОДНЯ'К *м.* Маладняк. *Молодняк — коні, целята — оддзельно ходзіць.* Старажоўцы.

МОЛОДОЖЭ'НЯ *м.* і *ж.* Хлопец ці дзяўчына перад вяселлем. *Пошлі спісвацца молодожэні.* Запясочча.

МО'ЛОДОСЦЬ *ж.* Маладосць. *З молодосці мене вувела і ў старосць не ўвела* (пра жонку, якая рана памерла). В. Малешава.

МОЛОДУ'ХА *ж.* Маладая жанчына. *Молодуха — то така поджыла молодзіца.* Старажоўцы.

МОЛОДЫ' *прым.* 1. Малады. *Молоды хлопец ешчэ, отó два гóды, як вуслужыўса.* Пагост. *Конь воды нап'еццa дай ў соломцы ляжэ, а мне, молодому, казочку не скажэ* (з песні). Сямурадцы. *Молодзік молоды, тобе рог золоты, а мне здоровуе ногі* (з замовы). 2. Жаніх у час вяселля. *Да ужэ прыходзіць той молоды с тою хусткою, госцінцы дасць той дзеўцы.* Бярэжцы. *Памянш.* молодзéнькі, молодзéсенькі, молодзю́ленькі. *З дуба стругалі кору, з молодзенького.* Бярэжцы. *Цыбуля молодзесенька, бы пеночка.* В. Малешава. *Такі молóчай молодзюсенькі!* М. Малешава. *Молодзюленькі.* Луткі.

МОЛО′ЖЭЙ, МОЛО′ДЖЭЙ *прысл.* Маладзей. *Вона моложэй дзеда.* М. Малешава. *Мо ў вашых годох, мо моладжэй.* Цераблічы.

МО′ЛОКА *ж.* Топкая мясціна на лузе, у балоце. *Корова ў молоку упадзе, то онно рóгі віднó.* Сямігосцічы.

МОЛОКО′ *н.* 1. Малако. *Возьмі молоко вунесь у сцёбку, нехай похолóдае.* Дварэц. *Молоко проняў квас.* Бярэжцы. *Вода мельніцу ломае, а молоко чоловека подніма*е (прымаўка). Сямурадцы. *От цвіце сад, як молоком обліты усéй!* Кароцічы. *Багато молока не надóіш, як будзеш серýхою корміць.* Цераблічы. 2. Малако (у рыб). *У окуня́ перэд нерэстом молоко е, і ў лінка, і ў кажнóе рыбу.* Хачэнь. △ П ó с н о е м о л о к ó. Канапляная смятанка. *С коноплі робілі посное молоко, а з его варылі сметану.* Луткі. В о р о б ’ ё в э м о л о к ó *метаф.* Тое ж. *З вороб’ёвым молочком наварылі колотушкі.* Сямігосцічы.

МО′ЛОТ *м.* Вялікі малаток. *Вукопалі кóлішнёго молота, пудоў тры!* Аздамічы.

МОЛОТО′К *м.* Малаток. *А чым жэ кóсу клепаць? Молоткóм.* Старажоўцы. △ П е ч к á р с к і м о л о т ó к. Малаток печніка. Запясочча. *Памянш.* м о л о т ó ч о к. *Такі хорошы, спраўны молоточок.* Пагост.

МОЛОТУ′Н *м. экспр.* Брахун, балбатун. *Это ж молотун, а не чоловек!* М. Малешава.

МОЛОЦЕ′ЛЬНІК *м.* Малацьбіт. *Молоцельнік — хто молоціць цыпом.* Старажоўцы.

МО′ЛОЦЕНЬ *м. экспр.* Пустабрэх. *От молоцень, меле, як пусты млын.* Сямурадцы.

МОЛОЦЕ′НЬЕ *н.* Малацьба. *Это ж робота цежолая, молоценье.* Луткі.

МОЛОЦІ′ЛКА *ж.* Малатарня. *Колісь булі молоцілкі з манéжом.* Цераблічы.

МОЛОЦІ′ЦЦА *незак.* Малаціцца. *Ек у гумне не молóціцца, то ў хаці колóціцца* (прыказка). Мачуль.

МОЛОЦІ′ЦЬ *незак.* 1. Малаціць. *Зожне хлеб, да там ёго молóціць і колóціць.* Аздамічы. *На лысіне хоць боб молоці!* Хачэнь. 2 *перан.* Біць. *Вон узяў полено да давай молоціць по ём.* Сямурадцы.

МОЛО′ЦЬ *незак.* 1. Малоць. *Люді оддыхають, а я іду молоть.* Альпень. 2 *перан.* Балбатаць. *Робі, шо хоч, а езыком не мелі.* Дварэц. *Бра, ека старá жонка, а меле*

*мельніца добрэ!* Луткі. *Меле езык, як у собакі хвост.* Сямурадцы. 3 *перан.* Круціць. *Собака меле хвостом.* Бярэжцы. 4 *метаф.* Бегчы. *Бачу, дзейка меле ў хату!* Запясочча.

МОЛОЦЬБА′ *ж.* Малацьба. *Ужэ начынаецца молоцьба.* Старажоўцы.

МОЛОЧА′Й *м.* Дзьмухавец. *Корчыкі повумуваю молочаю, шоб свіньня добрэ елі.* Верасніца. *Молочай вельмі добрэ свіньня едзяць.* В. Малешава. △ Б у́ с ь к о ў м о л о ч а́ й. Лугавы малачай. Мачуль. Г л у х і м о л о ч а́ й. Падбел (?) Хачэнь.

МОЛОЧА′Р *м.* Малакавоз. *Молочар будзе ехаць, да сядзеш у кабіну.* М. Малешава.

МОЛО′ЧНІК *м.* Ахвотнік да малака. *Мар'і добро, ее Коля молочнік, а мое ж, то молока ім не показвай!* Верасніца.

МОЛО′ЧНІЦА *ж.* Малочніца (хвароба ў дзяцей). *Молочніцу лечылі косамі.* Хачэнь.

МОЛО′ЧНЫ *прым.* Малочны. *Молочные коровы у іх вельмі.* Луткі. *Молочнэе прыставіла варыць, гледзі, ек бач бу́рне!* М. Малешава.

МАЛОЧ'Я′К *м.* Дзьмухавец. *Я этым молоч'яко́м як помазала від, ох, а вон стаў чорны-чорны, а потом облупіўса усёй.* Старажоўцы.

МОЛЬ *ж.* 1. Маляўкі. *Навудзілі одно моль, ее нельга дажэ чысціць.* М. Малешава. 2. Чарвякі, якія псуюць адзенне, дрэва і інш. *Моль поела дзерэво.* Альшаны. *Моль стрыжэнь дубовы не есць.* Хотамель. △ П л а в і ц ь м о л ь ю. Сплаўляць, не звязваючы калоды ў плыты. *Як молью плуве лес, то можно перэйці рэку.* Верасніца.

МО′ЛЬКА *ж.* Маляўкі. *Молькі наловілі пойну пляшку.* Запясочча.

МО′МЭЛЬ, МО′МОЛ *м.* Белы гарлачык. Рубель.

МОРГА′ЦЬ *незак.* Міргаць. *Моргае пітуля, чуць блішчыць.* Запясочча. *Моргае — то позывае, кого любіць.* Бярэжцы.

МОРГОСЛЕ′ПУ *прым.* Падслепаваты. *Моргосле́пу чоловек, у ёго очы маленькіе.* Старажоўцы.

МОРГО′ЎНІЦА *ж.* Межавая броўка паміж загонамі. Цераблічы.

МО′РДА *ж.* Шчака. *Натры бодзягою морды, то будзеш, як семнаццатка.* Хачэнь. *Одзін у одну морду цолуе, другі—у другу.* М. Малешава. *То вон по мордах, по мор-*

*дах да надавай ему.* Луткі. *Памянш.* м о́ р д о ч к а. *Дзіця не есць, а позакла́дае хлеб за мордочкі і седзіць.* В. Малешава.

МОРДА'ТЫ *прым.* Шчакасты. *Морды велікіе, да мордаты.* Старажоўцы.

МОРДА'Ч *м.* Пад'язік. Луткі. *Памянш.* м о р д а́ ч ы к. Запясочча.

МОРКА'Ч *м.* Баран. Аздамічы.

МО'РКВА *ж.* Морква. *Седзіць пані ў коморы, а косы на дворы* (загадка). *Морква* (адгадка). Хачэнь.

МОРКОВЕ'ННІК *м.* Маркоўнік. Цераблічы.

МОРКОВЕ'НЬЕ, МОРКОВІ'НЬЕ *н. зб.* Націнне морквы. *Корова ж не есць морковенья.* Старажоўцы. *Марковіньe.* Аздамічы.

МОРКО'ТА *ж.* Маркота, клопат, турбота, перажыванне. *От морко́та мне, порося заболело!* Аздамічы.

МОРКОТА'ЦЬ *незак.* Паляваць (пра авечку). Запясочча.

МОРКО'ТНО *прысл.* Маркотна, сумна. *Моркотно — як шчо чоловека трывожыць, як дома, прымером, шчо не гэ.* Аздамічы. *Тобе моркотно з гэтой бабой.* М. Малешава. *Свежому чоловеку там моркотно прывукаць.* Старажоўцы.

МОРКОТОВА'ЦЦА *незак.* Паляваць (пра авечку). *Вечка моркоту́еццa і кошка моркотуеццa.* Кароцічы.

МОРКОТУ'Н *м.* Баран. М. Малешава.

МО'РКОЎ *ж.* Морква. *Вона пошла на моркоў.* Запясочча.

МОРКО'ЎНІК *м.* 1. Маркоўнік. *Можно сказаць моркоўнік, а хто кажэ свісцёл.* Луткі. 2. Націнне морквы. Хотамель.

МО'РКОЦЕНЬ, МО'РКЕЦЕНЬ *м.* Баран. *Моркоцень воняе.* Аздамічы. *Моркецень — то вытворнік овечы.* Пагост. *Моркотні вельмі во́ўністые этые.* Старажоўцы.

МОРМО'ТА *м. метаф.* Воўк (у загадцы). *Мормота прышоў да путаецца у лепеты, ці дома воркота* (загадка). *Воўк, собака і кот* (адгадка). Хачэнь.

МОРМОТА'ЦЬ *незак.* Муркаць. *Кот мормо́чэ.* Луткі.

МОРМУ'ЗА *ж. экспр.* Галава, морда. *Мормуза о такая ў со́ма.* Мачуль. Тоўсты чалавек. Там жа.

МОРМУЗОВА'ТЫ *прым.* Тоўсты, неўваротны. Мачуль.

МОРМУ'КАЦЬ *незак.* Мармытаць. *Мормучэ, як овечка.* Запясочча.

МОРМЭ'ЛЯ, МЭРМЭ'ЛЯ *м.* і *ж.* Мармытун. Мачуль.

МОРО'З, МУРО'З *м.* Мароз. *Як сорока на самом вéрху садзіцца, то ожыдай мороза* (прыкмета). Пагост. *Колі мороз, то вельмі рэве под полозом.* Кароцічы. *Мороз, не прыходзь на разные цветá, ні на ячные, ні на льня́ные, ні на прося́ные, ні на целята, ні на егнята, ні на поросята.* Альшаны. *Той мурóз у Сібіры лехчэй церпець, як у нас.* Старажоўцы.

МОРО'ЗЕНЫ *прым.* Марозны. *Булі зімы цёплые і не морозеные.* Цераблічы.

МОРО'ЗІВУ *прым.* Марозны. *Зіма не вельмі була морóзіва.* Хачэнь.

МОРОЗІ'НА *ж.* Абмарожанае месца на целе. *Морозіну гусіным салом помажэш, то бýйстро гóіць.* Дварэц.

МОРОЗО'ВІНА *ж.* Наледзь, ледзяшы. *Ужэ наеласа морозовіны, ужэ будзеш кáшляць.* Старажоўцы.

МОРОЗЯ'ГА *ж.* Вялікі мароз. *От була морозяга цепер зімою!* Старажоўцы.

МО'РОК *м.* 1. Абмарачэнне. *Нейкі морок напаў.* Запясочча. 2. Неадбітая цурка пры гульні *ў цурку* (ачко, якое даецца таму, хто б'е). Кароцічы.

МОРОКІ'ТА *ж.* Тое ж. *Нашчó ему тая морокіта, ек так на роботу?* Луткі. *Это ў нас була морокіта з молодзьбою!* Старажоўцы.

МОРОКНЯ' *ж.* Тое ж. *Тожэ веліка морокня эта ваша робота.* Сямурадцы.

МОРОКО'ЎНЯ *ж.* Марока. *Гэто ж така морокоўня була с тымі крóснамі кóлісь!* Цераблічы.

МОРОСА' *ж.* 1. Імжа. *Мороса на дворэ.* Верасніца. 2. Павольны няспешны чалавек. *Ну ты і мороса! Давай скорэй пошлі.* Верасніца.

МОРОСІ'ЦЬ, МОРУСІ'ЦЬ *незак.* Марасіць. *Дождж маленькі моросіць, сыпле.* Старажоўцы. *Як морусіць дождж по снегу, пры́морозок берэ, то робіцца шэрэ́н.* Бярэжцы.

МОРОЧНЯ *ж.* Нізіна, парослая лесам, непралазнымі кустамі. Хотамель.

МОРОЧЫ'ЛО *н.* Той, хто затлумлівае або задурманьвае размовамі. *Морочылó, докуль ты будзеш морочыць мою гóлоў!* Хачэнь.

МОРО'ЧЫЦЦА *незак.* Замарочвацца. *Як я подзіўлюс, то моро́чуса.* Альшаны.

МОРО'ЧЫЦЬ *незак.* Марочыць, замарочваць. *У голове морочыць, як уча́дзееш.* М. Малешава. *Голова морочыць у гэтых очках.* Запясочча. *Морочыть голова, як я на ёго дзіўлюса* (пра тэлевізар). Альпень.

МОРОЧЭ'НЬЕ *н.* Абмарачэнне, галавакружэнне. *Мне морочэнье большое було.* Бярэжцы.

МОРУ'ГЛЫ *прым.* Прыжмураны. *Моруглы чоловек, шо ужэ не бачыць.* В. Малешава.

МОРУ'ЖЫЦЬ *незак.* Прыжмурваць. *Моружыць очы на сонцы.* Аздамічы.

МО'РХЛЫ *прым.* Маршчыністы. *Шо то за жонка, то ж ўжэ старэ́ да морхле!* Запясочча. *От ек картоплі пов'януць, то оны і морхлые.* Верасніца. *Морхлы гурок, ек доўго лежыць.* Лутк і.

МО'РХНУЦЬ *незак.* Маршчыніцца. *У яблука шкурка морхне.* Луткі.

МОРХОТОВА'ЦЬ *незак.* Паляваць (пра авечку). *Овечка морхотуе.* Запясочча.

МОРХОТУ'Н *м.* Баран. *У табуне бувае некулькі морхотуно́ў.* Тураў.

МОРШЧ *м.* Маршчына. *Нідзе у его і моршча́ нема шчэ.* Крэмна.

МОРШЧА'К *м.* 1. Маршчына. *Моршчакі мае, ужэ стары́.* Запясочча. 2 *перан.* Стары чалавек. *Вот як чоловек моцно стары́, то кажуць: вот моршчак.* Цераблічы.

МО'РШЧЫНКА *ж.* Маршчына. *Ужэ моршчынка зробіласа, ужэ старэ́ю я.* Старажоўцы.

МОРШЧЭ'НІК *м.* Тое ж. Хотамель.

МОРЫ'КАЦЦА *незак.* Марцаваць. *Коты морыкаюцца недзе на горэ́.* Дварэц.

МОРЫ'ЦЬ *незак.* Марыць. *Дзіця мо́раць праз гэту песню!* Бярэжцы. *У мого дзя́дзька дзянна захворэла на хо́ндзю, то дзядзько мо с час морыў ту жабу ў горэлцы на лекарство для ее.* Луткі.

Ад малярыі прымалі ў мінулым у якасці лякарства гарэлку, «настоеную» на жабе. Гэтай жа гарэлкай адвучваюць і ад п'янства.

МО'РЭ *н.* 1. Мора. *На Веліком болоці, казалі, морэ було.* Хачэнь. *Заліло́ кругом, морэ!* В. Малешава. *Ду́му за морэм, а смерць за плечы́ма* (прыказка). Пагост. 2. Мноства. *Получаем хлеба того морэ!* Сямігосцічы. *Мне ж*

*там роботы морэ!* В. Малешава. *Урочышч морэ е!* Хільчыцы.

МОСКА'ЛЬ *м.* Салдат. *Дзе твой чоловек?— У москалёх.* Запясочча.

МОСТ *м.* 1. Мост. *Пры царской войне мост тут буў, полякі спалілі.* Чэрнічы. *Моста нема, да паром е.* Луткі. *Чэрэз грэблю, чэрэз мост, то Чэрнічы, то Погост.* Хачэнь. 2. Памост, насціл (у лодцы, на паду пад стог і інш.). *Яблука насыпаліса, лежаць, шчо мост.* Хачэнь. *Памянш.* мосцік. *На дной доліні буў мосцік, а на двох клалі грэблю.* Хачэнь.

МОСЦІ'ЦЬ *незак.* Рабіць падлогу з грунту (з дзёрну, пяску і інш.). *Мосцімо, як зёмлю кідаем у хату. Вумосціць трэба хату, а потом подлогу класці.* Кароцічы.

МОТА'ЦЦА *незак. перан.* Старацца вельмі. *Мотайса, мотайса небоpака, а добра не бачыў.* М. Малешава.

МОТА'ЦЬ *незак.* Матаць. *У клубкі мотаемо, такі юрок, юрком.* Луткі. *Мотаём на стол з ручайкі.* Пагост.

МО'ТЛАХ *м.* Вытраскі, атрэп'е. *Усякого мотлаху набрала прасць.* Старажоўцы. △ У мотлах. Дашчэнту. *Зб'юць у мотлах гэтых людзей.* Кароцічы.

МОТНУ'ЦЦА *зак. перан.* Кінуцца. *Вона як мотнулаеа у воду!* (пра выдру). Альшаны.

МОТНУ'ЦЬ *зак. перан.* Тое ж. *Вон як мотнуў у воду, то і не побачылі* (пра бабра). Старажоўцы.

МОТНЯ' *ж.* 1. Карма ў невадзе. *А куды ж рыба будзе заходзіць, як не будзе мотні?* Старажоўцы. 2 *перан.* Крэсла ў штанах. *Штаны булі такіе доўгіе, мотня та вісела.* Старажоўцы.

МОТОВІ'ЛО *н.* Сукала. Запясочча.

МО'ТОК *м.* Маток. *Моток роблю, положу міску на стол да от так і мотаю.* Запясочча. *Напрэдзе да ў моткі помотае.* Цераблічы. *У моток тры ручайкі лезе.* Хотамель.

МОТОЛЫ'ГА *м.* і *ж.* Машэннік, круцель. *А вон такі мотолыга, як і той; то такі чоловек, шчо круціцца, трэйці раз жэніцца.* Талмачава.

МО'ТОРОШНО, МО'ТОРОЖНО *прысл.* Моташна. *Не так моторошно одному.* Запясочча. *Ему моторошно седзець там.* М. Малешава. *Моторожно мне, тошніць прамо мене.* Аздамічы. *Зробіцца моторожно рыбе, як нема продухі оддыхаць.* Цераблічы.

МО'ТУЗ *м.* Матуз, вяровачка з нітак, шнурок. *От із*

*пражы ссучаць, ето мотўз.* Запясочча. *Памянш.* мотузо́к. *Трэба мотузка зробіць на за́вевочку.* Старажоўцы.

МОТУ'ЗЬЕ *н. зб.* Матузы. Запясочча.

МОТУЗЯ'НКА *ж.* Посцілка. *Это ткуць дзеругі на дзеветнаццаць або на сто петдзесят мотузо́ў, это і е мотузянка.* Верасніца.

МОТЫ'КА *ж.* Матыка. *Така моя тупа мотыка, як до́ўбня.* Запясочча. *Куды ты з мотыкою? На Бор?* Хачэнь. *Матыка у нас по-ста́рому. Іх жэ колісь не було.* Старажоўцы.

МОТЫКОВА'ЦЬ *незак.* Матычыць. *Му мотыковалі, а вон утоптаў, як ток.* Запясочча. *А воны матыкуюць картоплі, іх нема удома.* Чэрнічы.

МОТЫЛІ'ЦА *ж.* 1. Матыліца (у авечак). *Мотыліца з мокро́ты ў овэчок бувае.* Мачуль. *Мотыліцы у вечках на печонцы.* Велямічы. *Такіе кіслые, шо ўсе мотыліцы подохнуць* (пра яблыкі). М. Малешава. 2. Ветрагон, непастаянны чалавек. Запясочча.

МОЎЛЯ'Ў, МОЎ *часц.* Скажам, як быццам. *Усе ж, моўляў, лепе́й.* Запясочча. *Тоды ўжэ тых замко́ў, моўляў, не було.* Дварэц. *Моўляў, цепер усім гэто го́рэ.* Хачэнь. *Моўляў, мене маці навучыла.* Аздамічы. *От пошла дзеўка, моў маліна хоро́ша.* Запясочча.

МОЎМУ'РА *м.* і *ж.* Панурая асоба. *Моўмура — такі воўковаты чоловек.* Кароцічы.

МО'ЎНЫ *прым.* Гаваркі. *Хозяйка мо́ўна — як бочка по́ўна* (прымаўка). Сямігосцічы.

МО'ЎРЫЦЬ *незак.* Знаходзіцца ў стане абыякавасці, панурасці. *Моўрыць корова, не есць.* Луткі.

МО'ЎЧА *прысл.* Моўчкі. *Ціхо, моўча помула.* М. Малешава.

МОЎЧАКА', МО'ЎЧАКІ *прысл.* Тое ж. *Моўчака пройшла.* Аздамічы. *Прышоў моўчакі і пошоў моўчакі.* Старажоўцы.

МОЎЧА'ЦЬ *незак.* Маўчаць. *Хай людзі говорацьˌ а я буду моўчаць.* Тураў. *Як у горшку кіпіць, хозяйка моўчыць* (прыказка). Старажоўцы. *Моўчы глуха́, то менш грэха́* (прымаўка). Запясочча. *Хто моўчы́ць, той трох наўчы́ць* (прыказка). М. Малешава.

МО'ЎЧКІ *прысл.* Моўчкі. *Моўчкі седзела.* Аздамічы. *Моўчкі усунуласа у хату.* Старажоўцы.

МОЎЧКО'М *прысл.* Тое ж. Аздамічы.

МОЎЧЛІ'ВУ *прым.* Маўклівы. *Вон моўчліву, слова*

*не вурвеш.* В. Малешава. *Вона не з моўчлівого кагáла.* М. Малешава.

МОЎЧУ'Н *м.* Маўчун. *У іхнёй сем'е нейкіе усе моўчуны.* Азяраны.

МО'ЎЧЫКІ *мн.* Асобная частка ў дзіцячай гульні ў скокі, калі трэба маўчаць. Кароцічы.

МОХ *м.* 1. Мох, лішáйнік. *Там нéтра, гушча, багóн, мох.* Бярэжцы. *На поросле на моху грыбы браў.* Луткі. *Лозовы мох чорны, а лесовы мох белы.* Там жа. *Просо ўзелóсо мохом.* Дварэц. 2. Тонкія ачоскі з пражы пад кроснамі. *Як густэ бердо, а пража тоўстая, то бердо мохі гоніць, рэжэ пражу.* М. Малешава.

МОХАМЕ'ЛА *м.* і *ж.* Павольны, непаваротлівы чалавек. *Мохамела кажуць на такого непроворного чоловека, шо ні сыры, ні печэны.* Луткі.

МОХОВІ'К *м.* 1. Махавік. *Моховікі бы грыбы, однó жоўтоватые.* Мачуль. *Моховікі ек маслюке, только моховатые.* Луткі. 2 *перан.* звычайна *мн.* Людзі, што жывуць сярод балот. *Мі тых людзей з бору зовом моховікі.* В. Малешава.

МОХОВУ' *прым.* Мохавы. *Самы мох у моховóм болоці.* Луткі.

МОХРЫ' *мн.* Кутасы. *Коб та цернóўка, шо з мохрамі.* Старажоўцы.

МОЦ *м.* Моц, моцнасць. *Заткні пляжку, шоб моц не ўхóдзіла.* Старажоўцы.

МОЦА'К *м.* Моцнае яйка. *От этое кýры будуць одные моцаке, нéўкоч на паску ўсе яйца поб'ём.* Верасніца. *Мацак.* Запясочча.

МО'ЦНО *прысл.* Моцна, вельмі. *Осот колецца моцно.* Бярэжцы. *Моцно горацъ дрова ў печы.* Хачэнь. *Воны моцно шчаслівуе.* Луткі. *Кажу, моцней говорэце, бо я не чую.* Сямурадцы.

МО'ЦНЫ *прым.* Моцны. *З лёну тонюсенька нітка, да моцна.* Запясочча. *Одзін моцны знáхор буў, а другі моцнéйшы.* Пагост.

МОЦОВА'ЦЬ *незак.* Спрабаваць на моцнасць. *На паску моцýюць яйца.* М. Малешава.

МОЧ *ж.* 1. Мача. *У нас моч на рану, як посечэш шчо, да на скором часе, то помогае.* Луткі. 2. Макрата, сырасць. *Вона ж не любіць мочы вельмі, зав'яжэцца і отпáдвае* (пра трускалкі). Дварэц.

МО'ЧАЛКА *ж.* Смажанае сала. *От, наробіла мочалкі да ешчэ ейцэ ўбіла.* Луткі.

МОЧА'НЫ *мн.* Жаночыя каноплі. *Мочаны прáлі на мешкі.* Хотамель.

МОЧА'НЬЕ *н.* Смятана з малаком і сырам. *Мочанье — ето сыр помнуць да сметаны троха ўкінуць да едзяць.* Запясочча. *Мочанье — то сыр розм'яты, туды молока, сметаны.* М. Малешава.

МОЧА'ЦЬ *незак.* Мачаць. *Чуць потчахне полотно, дай зноў мочáём у вóду, шоб мокрэ було, шоб руда злéзла.* Запясочча. *Млінóў напекóм, мочáём, да смáчно.* В. Малешава. *Як спрэгў сáла, то не хóчуць мочáць хлеб, а коб подліць сметаны.* Луткі.

МОЧЫ'ЦЦА *незак.* Рабіцца мокрым. *Не лезь у вóду, не мочыса, а то хондзю ухóпіш!* М. Малешава.

МОЧЫ'ЦЬ *незак.* Мачыць. *На дранку хвою трэ мочыць.* Запясочча. *Несуць полотно у майнў мочыць, з'едае сонейко верхá.* Хотамель.

МО'ЧЭЛО *н.* Смажанае сала ці што іншае для мачання. *Мочэла захоцела дзеўка і кажэ: мамо, напрэжы сала.* Цераблічы.

МОЧЭ'НЬЕ *н.* Вільгаць. *Мочэнья у земле не хапае.* Дварэц.

МО'ШКА' *ж.* Куслівая машкара ў веснавы час. *Мошкá чуць бóльша за мускóль.* Пагост. *Мóшок цьма цьмою, шо засыпало.* Запясочча. *Мóшкі, покуль пшэніца высыплецца, а там воны шчэзаюць, загібаюць. Мікола высыпаў мóшок с прыпóла.* Луткі. *Ту мóшку Юрэй мешком, а Мікола — возком, а тройца — то тройкою* (прымаўка). Знаменка.

МОШКОРЭ'ЧА *ж.* Мошкі ў вялікай колькасці. *Мошкорэча накусала.* Запясочча.

МОШО'НКА *ж.* Нейкая птушка, што робіць сабе гняздо з моху. Альшаны.

МОШЫ'СТЫ *прым.* Зарослы мохам. *Тэ мошыстэ болото.* Аздамічы.

МОШЭРНІ'К *м.* Махавік. Велямічы.

МОШЭРЭ'НІК *м.* Непрыдатны грыб. *От некі мошэрэнік велізны трапіў, непрыгожы.* Пагост.

МРА'ГА *ж.* Дробныя мошкі. Запясочча.

МРЭЦ *м.* Мярцвяк. *Як прысніцца мрэц, то будзе негода* (прыкмета). М. Малешава.

МСЦІ'ВУ *прым.* Помслівы. *Мсціву чоловек — это змей.* Старажоўцы.

МСЦІ'ЦЦА *незак.* Помсціцца. *Сварыса, только не мсціса.* Старажоўцы.

МСЦІЦЬ *незак.* Помсціць. *Мсціць вон мне.* Бярэжцы.

МУ 1 *займ.* Мы. *Му удвоіх посвáраные.* Кароцічы. *Мы короў зовом товáр.* Дварэц. *Му на той печы і воны.* Бярэжцы. 2 *выкл.* Карова (у размове з дзецьмі). *Бач, онё ідзе наша му, молочкá дасць.* Запясочча.

МУГЛЁВА'ЦЬ *незак.* Рабіць няспешна, памалу. *Хутчэй кончай роботу, годзі муглёвала!* Верасніца.

МУ'ДНУЦЬ *зак.* Шмыгнуць. *С цэрквы мýднулі, мыд-мыд одна за однэю.* Запясочча.

МУДРОВА'ЦЦА *незак.* Мудрагеліць. *Вона не будзе мудровацца, як варыць.* М. Малешава.

МУДРОВА'ЦЬ *незак.* Тое ж. *Мудрýе, не п'е рáненько, шо малá ноч.* Луткі. *Вон нічого не мудроваў з волосамі.* В. Малешава. *Усе мудрýеш, чудака прычвóраеш.* Бярэжцы.

МУДРОГЕ'Й *м.* Штукар. *Мой сын Коля мудрогей.* Старажоўцы.

МУ'ДРЫ *прым.* Мудрагелісты, складаны, хітры. *Цепер богато харчоў мудрых.* Аздамічы. *На мудры вýзёл хітра швайка* (прымаўка). Запясочча. *Шчо дáлей, то ўсе мудрэй* (прымаўка). В. Малешава.

МУДРЭ'Ц *м.* Кемлівы, вынаходлівы чалавек, штукар. *Наш Коля шо мудрэц, то мо такого і ў свеце нема.* Верасніца.

МУДРЭ'ЦКІ *прым.* Мудрагелісты. *Эта така мудрэцка баба! Казкі росказвае.* Сямурадцы.

МУЖ *м.* Муж. *У доброго мужа жонка негожа* (прыказка). Чэрнічы. *За хорошым мужом і свіньня господынька* (прыказка). Старажоўцы.

МУЖЛОВА'ЦЬ *незак.* Дрэнна есці, рыцца ў ежы. *Мужлýе, а не есць свіньня, трохі помужлýе ў том корыці і ўсе.* Сямігосцічы.

МУЖЧЫ'НСКІ *прым.* Мужчынскі. *Е й мужчынскіе, е й жоночые, як вам сказаць, дзевочые песнé.* Хачэнь.

МУЖЫ'К *м.* 1. Селянін. *Як з мужыка пан, то і волоў не оддасць.* Луткі. *Крэсцьянíна колісь мужыком звалі.* Альпень. 2. Мужчына. *З огнем цэлей, а з мужыком мі-*

*лей.* Сямігосцічы. *Не б'е жонку мужык, а б'е език* (прымаўка). Старажоўцы.

МУЖЫ'ЧКА *ж.* Сялянка. *Наша ідзе за цыгана, а цыган мужычку не хочэ браць!* Хачэнь.

МУЖЫЧЫ'ЛО *н. пагардл.* Мужчына. *Здоро́вэ таке мужычыло!* Верасніца.

МУЖЫЧЫ'НА *ж. пагардл.* Тое ж. *Сяка-така мужычына, абу дро́ва да лучына* (прымаўка). М. Малешава.

МУЗЫ'КА *ж.* Музыка, музыкант. *Бацько музыка буў.* Верасніца. *Як музыка струн не нацягне, то скрыпка ж граць не будзе у ёго́.* Талмачава. *Музыку наймалі ў недзелю.* Луткі. *Вон буў музыкою, вон іграў, а вона барабаніла.* Старажоўцы.

МУЗЫ'КІ *мн.* Вечарынка з музыкай. *На́дзё, мо по́йдом на музыкі ў клуб?* Азяраны. *Ходзі пойдом музыкі побачым.* Кароцічы. *Шляхта не пускала селян нават на музыкі.* Чэрнічы.

МУЗЫ'ЛЬ, МУЗО'ЛЬ *м.* Мазоль. *У ездово́го музыле́ ніколі не сходзяць з рук.* Тураў. *Музыле́ на руках як шкля́нкі!* Дварэц. *Гультай за дзело, а музоль за цело* (прымаўка). Старажоўцы.

МУЗЫ'ЧЫЦЬ *незак.* Іграць. *Вон усе музычыць.* Запясочча.

МУ'КА *ж.* Мука, мучэнне. *Шо мукі давалі тые пло́скуні, коноплі!* Хачэнь. *Мукі то було, мукі, попомучыліса!* Луткі. *Абы булі рукі, то хваціць мукі* (прымаўка). Сямурадцы.

МУКА' *ж.* Мука, молотое зерне. *Достану мукі, хлеба спеку.* Луткі. *Мука м'я́кка, як вода!* Хачэнь. *Кормі мукою, то пойдзе рукою* (пра свіней, прымаўка). М. Малешава.

МУ'КАЦЬ *незак.* 1. Часаць лён на грэбень. *Поставіла грэбеня да буду мукаць мучкі.* Хачэнь. *Мучом му́чкі, ша́ню поўну намучыла.* Луткі. *Як станyць усе му́каць, то дым у хаці!* Верасніца. 2. Мычаць. *Корова мукае, а целя мекае.* М. Малешава. *Мікае корова.* Мачуль.

МУЛЕ'НІК *м.* Мазоль. *О такіе муленікі понамульваюцца на руках.* Дварэц. *У нас е которые музоль говораць, которые муленік.* Хачэнь. *Муленік крыве́ю набег.* Альпень.

МУ'ЛІЦА *ж.* 1. Ручка ў вясле. *У весле е муліца, шчоб рукі не муліло.* Дварэц. 2. Кастыль. *На муліцах ходзіць шчэ вон.* Запясочча.

МУ'ЛО *н.* Мыла. *Вашэ муло пахучэ.* Бярэжцы.

МУЛЯ'К *м.* Мазоль. *Лапці понаціраюць мулякі.* Луткі. *Лежэнь за дзело, а муляк за цело* (прымаўка). Луткі.

МУ'ЛЯЦЬ *незак.* Муліць, церці. *Тые чэрэвікі мулеюць, то наложы тапкі.* Мачуль. *Нешчо мулее пыд боком.* Хотамель. *Мулеюць колосы тые людзі, ці поспелі.* Луткі.

МУ'МРА *ж.* Пануры чалавек. *Чого ты, мумра, моўчыш?* Верасніца.

МУ'МРЫЦЬ *незак.* Паціху парыкваць. *Мумрыць корова, нічого не есць, хвора.* Старажоўцы. Гугнявіць. *Гугнівы у нос мумрыць.* Любавічы.

МУ'НІ *мн.* △ Р о с п у с ц і ц ь м у́ н і. Расплакацца. *Нехай за вуліцу зайдзеш, ужэ муні распусціць!* Цераблічы.

МУР *м.* Мур, камяніца. *Вумуровай собе мур велікі!* Хотамель. *Маці мур не змуруе, а дзеці погодуе* (прыказка). Дварэц.

МУ'РАВА *ж.* Мурашкі. *А у лесі муравы е!* Луткі.

МУРАВЕ'ЛЬНІК *м.* Мурашнік. Луткі.

МУ'РАВО *н.* Тое ж. *У которы бок мураво?* Луткі.

МУ'РАЎ *м.* Тое ж. *Мураў робяць мурашкі.* Аздамічы. *Муравы, нельга косіць.* Там жа.

МУРА'ЎКА *ж.* Мурашка. Мачуль.

МУРА'ЎНІК *м.* Мурашнік. *Од дусту мураўніку нема на полі.* Дварэц. *У мураўнік укінеш вужа, то вон там вішчыць!* Мачуль. *Мураўніку багато, косіць не можно.* Сямігосцічы.

МУРА'ШКА *ж.* Мурашка. *Чоловек ее, ек мурашка, малы.* Луткі.

МУРА'ШНІК *м.* Мурашнік. *Шоб дождж пошоў, роскідайце мурашнік.* Верасніца.

МУРАШЫ'НЫ *прым.* Мурашыны. М. Малешава.

МУ'РЗА *ж.* 1. Страва з чарніц. *Чэрніцы варылі з мукою, то мурза.* Верасніца. *Дзеці поўмазваліса мурзою.* М. Малешава. *Пойду ягод наберу да навару мурзы.* Хільчыцы. 2. Бруднае, замурзанае дзіця. *Нехороша дзеўка, мурзана, то мурза.* Кароцічы. *Як умурзаецца, то кауць мурза.* Альшаны.

МУ'РЗАНЫ *прым.* Замурзаны, запэцканы. *А воны мурзаные, поросята тые!* Луткі.

МУРЗА'ТЫ *прым.* Мурзаты. *Ідзі помуйса, мурза мурзата!* М. Малешава.

МУ'РЗАЦЦА *незак.* Пэцкаць твар. *Вона шчэ горш мýрзацьмецца, як скажэш мурза.* Кароцічы.

МУРЗЕ'ЛЯ *м.* і *ж.* Мурза. *Ходзі, мурзеля, не седзі ў гразé.* Любавічы.

МУ'РКАЦЬ *незак.* Мурлыкаць, мармытаць, падаваць голас паціху. *Кошка муркае сама собе.* М. Малешава. *Нешчо собака мыркае.* Аздамічы. *Іду да сама собе муркаю.* Кароцічы. *Сама собе песні муркала.* Хачэнь.

МУ'РКНУЦЬ *зак.* Падаць ціха голас. *Нашы куры поўз його доўбáюць, а собака не муркне!* Хачэнь.

МУРКОТА'ЦЬ *незак.* Мурлыкаць, мармытаць, падаваць голас паціху. *Малá наша нешчо самá собе муркочэ.* Хотамель.

МУРЛА'ТА *ж.* Апошняе бервяно ў зрубе, да якога мацуюцца кроквы. Аздамічы.

МУ'РНУЦЬ *зак.* Мармытнуць, падаць голас паціху. *А коб тобе мурнуў, коб тобе отозваўса!* Буразі. *Нігодны ні мурне, ні отзовецца.* Запясочча. *Моўчалі, ні мурнулі, ні отозваліса.* В. Малешава. *Ніхтó ні пісне, ні мурне ў хаце.* Луткі. *Ні пісне, ні мырне!* Аздамічы.

МУРОВА'НЫ *прым.* Мураваны. *Стоўб мурованы стоіць.* Сямігосцічы.

МУРОВА'ТЫ *прым.* Цёмна-шэры. *Носілі муровату світу.* В. Малешава.

МУРОВА'ЦЬ *незак.* Поўзаць, заседжваць. *Помуй міскі да постаў, то мухі коло іх мурýюць.* Луткі. *Еж скорэй да трэ попрыбіраць, шоб мухі не муровалі.* Верасніца. Рабіць гняздо. *Мурашкі мурують собе мураўнік.* Альгомель.

МУРО'Г *м.* Мурог. *Мурог порос на посéлі.* Пагост. *Мурог на дворэ росце, а качкі не едзяць, дай хлеба.* В. Малешава. *Наросце на моёй долоні мурог, тогды воны завоюють Росéю.* Там жа. *Хто мурог рве, то кажуць, не рві, бо дождж будзе іці.* Луткі. *Памянш.* м у р о ж ó к. *На мурожкý гуляюць у хутбол.* Запясочча.

МУ'РОЖ *м.* Будаўнік, каменшчык. *Вон мурожэм роботае, домá робіць.* В. Малешава.

МУРО'ЖЫНА *ж.* Травіна. *Вýпусці порося, нехай екý мурожыну з'есць!* М. Малешава.

МУ'РЫ *прым.* Светла-карычневы. *Мура корова і не чорна і не бела, нека гнедá.* Аздамічы. *С порослі такіе мурые грыбы.* Луткі. *Муры конь похожы на серого.* Альшаны. *Мурая на жонку кажуць, бо чорная.* М. Ма-

лешава. *Е муры чоловек, а е белы. От у мене кожа мура. Е муры собака і зовуць мурыком.* Сямігосцічы. *Памянш.* м у́ р э н ь к і. *Я ту мурэньку перэпіла́ хусточку на веселы.* В. Малешава. *Була беленька, потом мурэнька стала* (пра дзяўчынку). Кароцічы.

МУ'СА *ж.* Морда ў жывёл. *Муса ў коня, у коровы, у свіні.* Запясочча. *А торбочка така доўга, шо муса коня не достае.* М. Малешава. *Корова помочыла мусу ў водзе і не стала піць.* Цераблічы. *Памянш.* м у́ с к а. *Вон только муску свою показаў* (пра гарнастая). Запясочча.

МУ'СІНА *ж.* Тое ж. *Вон нікого не боіцца, собаку за мусіну берэ.* Луткі. *Пац зноў кота за мусіну укусіў.* В. Малешава. *По мусіні удырыў коня, коб не еў посеў.* Цераблічы.

МУ'СІЦЬ *незак.* Быць вымушаным, магчы. *Му мусілі эту хату прыбіраць.* Верасніца. *Я свое дзіця мушу прымушаць.* Луткі. *Я мушу іці за ёго, хоць і не хо́чу.* М. Малешава. *До́чка повезе поросята на базар, то я мушу дома быць.* Кароцічы. *Хоць не хочэ, але мусіць.* Аздамічы. *Я ужэ не мусіла того вечора дождаць!* Запясочча. *Не мусілі тракторы ехаці.* Хільчыцы. *Браў а браў, шо не мусіў прынесці домоў.* Луткі. *Залез у таку гушчу, шо не мусіў вулезці.* Аздамічы.

МУСКО'ЛЬ, МУСКУ'ЛЬ, МУЗКО'ЛЬ *ж.* Дробная куслівая машкара. *Мусколь так кусае, аж печэ, аж вудыр схопіцца.* Бярэжцы. *Мусколь ешчэ менша за мошку, то ніяк не одгрэбсціса од ее.* Пагост. *Мускуль менша, а мошка больша.* Хачэнь. *Будзе цепло́, то музколь ле́тае роем.* М. Малешава. *Мусколь укусіць, то пухне цело.* Дварэц.

МУ'СО *н.* Морда. *Чого вуставіў свое мусо, ідзі займайса своім дзелом.* Пагост.

МУ'ТОРНО *прысл.* Моташна. *Як поехаў мой сын, так муторно мне.* Пагост.

МУ'ТЫ *прым.* Мыты. *Мутые з лушпа́йкою картоплі чэрнеюць.* М. Малешава.

МУ'ХА *ж.* Муха. *Як мухі ў хату жыўцэ́м шыюцца, то будзе дождж* (прыкмета). Верасніца. *Коб ты побачыў, екіе мухі лета́юць! Белые!* Сямігосцічы.

МУХЛЁВА'ЦЬ *незак.* Падманваць, хітраваць. *Не мухлю́й, я то до́брэ бачу, шо ты чоўпеш.* Верасніца.

МУХОМО'Р *м.* Мухамор. *От мух добрэ. Беруць мухо-*

*мор, да пекуць, да сахаром посыпаюць, да кладуць на окно*. Хачэнь.

МУХОМО′РА, МОХОМО′РА *ж*. Тое ж. *Да мухоморою націраліса з водкою. Настоіцца, порэжэ палца, то помаж — як ба́ загоіцца, не дасць зогніваць. Мохомора от ромацізма*. Тураў.

МУЦІ′ЦЦА *незак*. Хварэць на жывот (пра парасят, як іх аднімуць ад маткі). *Тыждзень муця́цца поросята*. Хільчыцы. *Муцяцца поросята — коб ёго́ купіць, шоб вонэ перэмуцілосо*. Старажоўцы.

МУ′ЦЦА *незак*. Мыцца. *Як кот мыецца лапаю, то госць* (прыкмета). Мачуль. *Колісь не муліся дай здоровуе булі*. Сямігосцічы.

МУЦЬ *незак*. Мыць. *Не муць рыбу, то вона не псуецца*. Сямігосцічы. *Ціха вода́ берэгі мує* (прыказка). Сямурадцы.

МУЦЯ′НКА *ж*. Падманшчыца, хітруха, жартаўніца. Бярэжцы.

МУ′ЧАЛКА *ж*. Удзельніца вясельнага абраду ў маладога, якая трымае свечкі. Запясочча.

МУ′ЧКА *ж*. 1. Расчасаная на грэбень і згорнутая ў скрутак жменя ільну. *Зомном лён, а пото́м мучом у мучкі грэбёнкою*. Сямігосцічы. *Мучкі наклада́юць на грэбень да прадуць*. Запясочча. *Нашэ село бес кудзелей, усе мучкі мучуць*. Хотамель. 2. Сівец. *Мучка хоць як доберэцца до цела, ек топчэш у засторонок*. Луткі.

МУЧНІ′К *м*. Дзірка для мукі ў жорнах. *Бляшку зогне да уса́дзіць у о́блубку, то і мучнік*. Старажоўцы.

МУЧНЫ′ *прым*. Мучны, з мукі. *Е і мучные голушкі, е і картопля́ные*. М. Малешава.

МУ′ЧЫЦЦА *незак*. Пакутаваць. *Чоловек пры хворобе мучыцца*. Альпень. *Вона мучылас, горовала, дочо́к нема, онно́ тры сыны́*. Запясочча. *От мучыліса верэцено́м гэтым бабу́!* Хачэнь.

МУ′ЧЫЦЬ *незак*. Мучыць. *Хваціць воны мене мучылі, тые вутву!* Запясочча. *Шо мучыць, то мучыць, хай вона шчэ́зне!* (пра машкару). Луткі.

МУ′ЧЭНІК *м*. Талакнянка. *Як подорвецца чоловек, то мучэнік п'юць*. Хачэнь. *Мучэнік подобны на брусніцы*. Бярэжцы.

МУ′ЧЭНІЧНІК *м*. Зарасці талакнянкі. *Як бувае ў карову запор, то даюць мучэнічнік*. Луткі. *Мучэнічнік коло*

*брусьнічніка росце.* Пагост. *Мучэнічнік по однэ́й не росце, така купіна.* Хачэнь.

МУЧЭ′НЬЕ *н.* Мучэнне, пакута. *Я не пошла на таке мучэнье з зубамі.* Цераблічы. *Мучэнье косіць мучку.* Бярэжцы.

МУШ *ж.* Мыш. *Так мушэня́т на полі багато, шчо казалі, шчо мушы во́ду чуюць.* Луткі. *А ета муш бо́льша.* Запясочча. *Памянш.* м у́ ш к а. М. Малешава.

МУША′СТЫ *прым.* Шэры з чорнай паласой на спіне (пра масць каня). Аздамічы.

МУШКОВА′ЦЬ *незак.* Вышукваць і лавіць мышэй. Запясочча.

МУШОЛА′ПКА *ж.* Мышалоўка. Альпень.

МУШЫ′НЫ *прым.* Мышыны. *Мушынэ кубло.* М. Малешава. △ М у ш ы́ н ы о г о́ н ь. Халоднае святло (святло ад гнілушак, светлякоў і інш.). *Прынесла́ дроў дубовых, а положыла под пры́печок, устала ўночы, аж воны све́цяцца. Шо́ то свеціць?— А шо ты не знаеш? То мушыны огонь.* Луткі.

МШЫ′ЦЦА *незак.* Пакрывацца тонкімі валаскамі. *Колі кросна мшацца, то тогды мажуць молоком.* Аздамічы.

МШЫЦЬ *незак.* 1. Закладваць мох між бярвёнаў. Велямічы. 2. Пакрывацца тонкімі валаскамі. *Мшыць пража без мукі.* Верасніца

МЭ′КАЦЬ *незак.* Падаваць голас (пра цяля). *Целя мэкае, до коровы хо́чэ.* Мачуль.

М'ЯКІ′НА *ж.* 1. Мякіна. *М'екіна ложыцца коло господара* (як уручную веялі). Хотамель. *Льняну́ м'екіну свіньья елі.* Старажоўцы. 2 *метаф.* Бесхарактарны чалавек. *М'екіна, ему важко будзе жыць на свеці!* Верасніца.

МЯКІ′ННІК *м.* Засек для мякіны ў гумне. Сямігосцічы.

МЯКІ′ННІЦА *ж.* Засек для мякіны ў гумне. *У застороньку м'якінніца с столею бы ко́млата, з подлогою шчыльною. І згбніны і мекіну туды сыплюць.* Луткі. *Вілы ў м'екінніцы там у гумне.* Чэрнічы.

М'ЯКІ′Ш *м.* Мякіш у бохане хлеба. *Отрэж мне м'якіша́, а скорка нехай молодым.* Цераблічы. Мяздра ў гарбузе. *Зёрнетка лежаць у мекішэ́.* Буразі. *Шо ў серэ́дзіне ў гарбузе́, то м'екіш.* Луткі. Мочка вуха. *У вусе м'якіш, а ў м'якішэ́ заву́шніца.* Цераблічы. Мяккае месца пад

капытом у каня, каровы. Верасніца. Мяккая частка далоні пад пальцамі. Аздамічы.

М'ЯКІ'ШНІК *м.* Балотная расліна з доўгімі вузкімі лістамі (падобная да рагозы). *З м'якішніку рогожы ткалі. Куклочкі роб'яць з того м'якішніку.* Дварэц. *М'екішнік росце у водзе, вон мекчэйшы за рогож, крэпкі.* Запясочча.

М'Я'КІШЭК *м.* Мочка вуха. Луткі.

М'ЯККІ' *прым.* Мяккі. *Ліпа—вона м'якка́.* Альшаны. *Вубіраюць, шоб м'еккі голос у ее буў, у косы́.* Луткі. *Мо там на капелінку возьме і крутне, то йдзе мука м'якчэйша.* Старажоўцы. *Памянш.* м'яккéсенькі, м'яккýсенькі, м'яккýленькі. *Одно сало на хвосце було, да м'яккесеньке!* Хачэнь. *Мяккусеньке яблуко, як вуспее.* Старажоўцы. *М'яккуленька груша.* Луткі.

М'Я'ККО *прысл.* Мякка. *Это шчэ м'якко ораці, тут песок.* Пагост.

М'ЯККОКО'РЫ *прым.* З мяккай скуркай. *М'яккокорые гарбýзы.* В. Малешава.

М'ЯККОТА' *ж.* Вялікая мяккасць. *Ехаць у аўтобусі м'яккота!* Старажоўцы.

М'Я'КОСЦЬ *ж.* 1. Мякаць. *М'якоць обрэзвалі да клалі ў карук.* Старажоўцы. 2. Вялікая мяккасць. *От спаць м'якоць!* Запясочча. *Ото груша, ото м'якоць!* Кароцічы.

М'Я'КЧЫК *м.* Мяч самаробны. Запясочча.

М'ЯКЧЭ'ЦЬ *незак.* Рабіцца мяккім. *Як прыкладзéш печану цыбуліну к нарыву, то вон м'якчэе дай скоро проревé.* М. Малешава.

М'Я'ЛО *н.* 1. Мяла. *Тоўкач — шо просо тоўкуць, а тэ — м'яло конóплі тром м'ялом, ягоды розмінаем м'ялом.* Луткі. *Сало прітоўкáлі ў ваганкý м'ялом.* Альшаны. *Нóсіцца, як баба з мялом.* Старажоўцы. 2 *перан.* Непаваротлівы, павольны чалавек. *Ох, нейке м'яло, чуць ходзіць.* М. Малешава.

М'Я'НТА *м.* і *ж. перан.* Балбатун, гультай. *М'янту і голова мешае.* Старажоўцы.

М'Я'РКАЦЬ *незак.* Мяўкаць. *Набіла кота моцно, да мяркае* Запясочча. *Коценя мяркае, не дае спаць.* Аздамічы.

М'ЯСІ'НА *ж.* Кавалак мяса. *М'есіна ў ёго е не годоваўшы!* Дварэц.

М'ЯСНЫ *прым.* Мясны. *Лезу по зелезу на м'ясную*

*гору* (загадка). *Саджуса на коня* (адгадка). Хачэнь. *Весна не м'ясна, а восень не молочна* (прымаўка). Старажоўцы.

М'Я'СО *н.* 1. Мяса. *М'ясо порубай по кусках.* Запясочча. *М'ясо лося не важнэ, як полосье!* Старажоўцы. *М'ясо хорошэ с-пад ножа, а рыба — з воды* (прыказка). Тураў. 2. Мякаць у гародніне і садавіне (у гарбузе, памідоры, яблыку і інш.). *Куры м'ясо яблука едзяць.* Мачуль. Мяздра на скуры. *М'ясо отстае от оўчыны.* Хотамель.

М'ЯСОЕ'Д *м.* Перыяд часу ад каляды да масленіцы. *На м'ясоедзе жэняцца, веселы ў м'ясоед гулялі.* Альпень.

М'Я'ТА *ж.* Мята. *Гэто як пожнеш серпом м'яту, то гэто лісцейко помуй, да начаві на рану, да загоіцца. Палёва м'ята не пахучая. Баба которая старая, то нарве і як умірае, то подушку под голову робяць із той м'яты.* Луткі. *Пахучу м'яту кладуць у яблука, шо мочаць.* Хачэнь.

М'Я'ТЛІК *м.* Сарочка, якую адзявалі дзіцяці першы раз пасля хрышчэння. *Первого надзевалі м'ятліка. Это кумін м'ятлік, тры метры этого м'ятліка, шоб только на дзіця пошылі рубашэчку.* Старажоўцы.

М'Я'ЎКАЦЬ *незак.* Мяўкаць. *Кошка м'яўкае, просіцца ў хату.* М. Малешава. *М'яўкае кот, просіць молока.* Сямігосцічы.

М'Я'ТЫ *прым.* Мяты. *Ляжэш не кляты і ўстанеш не м'яты* (прымаўка, пра жыццё жанчыны без мужа). Сямігосцічы.

М'Я'ЦЦА *незак.* Мяцца. *Одзежа мнецца.* Старажоўцы.

М'ЯЦЬ *незак.* Мяць. *Коноплі і мак м'ялі ў місах.* Тураў. *На чоботы шкуру мнуць.* Луткі. *Корова ту траву не есць, а солому так мне!* Там жа. *У нас без работы не седзяць — хоць полу мні свою!* Сямурадцы.

# Н

НА 1 *прыназ.* На (паверхня), наверх, зверху, па. *Кроквіны стаўляць на мурлаці.* Цераблічы. *На хаці, на горэ лежак е, да вон ход мае ў стоян.* М. Малешава. *На*

*вішня́х і на сліўка́х е мэд, а баба кажэ смола́.* Мачуль. *Дзеці на дворы́ бегаюць.* Сямігосцічы. *На тым бо́цы шляхта, на той бок мо тры ха́ці мужыко́ў було́.* Мачуль. На (межы), у. *Ву́твы жыру́юць рыбою на водзе.* Луткі. *Вона за́мужэм на Любові́чах.* Хільчыцы. *Якову́ на Поле́сьі* (прымаўка-жарт, пра распаўсюджанасць імені Якаў у Бухчы, Тонежы і іншых сёлах на поўдзень ад Турава). Бярэжцы. *Як на раю́ туроўцы́ жывуць!* Дварэц. На (кірунак), да, к. *Ходзіла на рэку і там бачыла гу́сі.* Цераблічы. *Ужэ со́нцэ ўзышло́, прышлі мы на этые курэне́.* Бярэжцы. *Поехаў орацъ на Карандо́ўжыцу.* Луткі. На (мэта), у, да, к. *Упора́ну жэне́ това́р на па́шу.* Запясочча. *До іх пры́ехалі на го́сці.* Дварэц. *Ходзілі на кіно́.* Луткі. *На дзе́ўкі ездзіць хло́пец на аўтобусе.* Цераблічы. На (прызначэнне), для. *Воны не ўзелі нічо́го на во́ду, тые оздамцы́.* Цераблічы. *Могу на коро́ву сена здзелаць і полено дроў постара́цца.* Там жа. *Копа́лі са́мі на жыто, ко́ней не було.* В. Малешава. *Ковале́ дзелалі жэлёза на вы́дры.* Мачуль. *Карто́плі не буду копаць на заўтра.* Дварэц. На (замяшчэнне), за. *На мене стары́ робі́ць, вон коні пасе.* Верасніца. *На хлеб робілі ха́ту з-за Турова.* Кароцічы. *Гусь моя на до́ктора* (жарт). Хотамель. На (пераўтварэнне), у. *Дзерэза́ ў лесе росце, на муку́ вупу́льваецца.* М. Малешава. *Сено з'елі зімо́ю на костры́цу пацы́.* В. Малешава. *Бі ее на по́тру.* Цераблічы. На (размеркаванне), у, пад. *Ткалі на сто шнуркоў дзеру́гу, а цепер купіў гото́ве да ўсе.* В. Малешава. *Чотырыста рублей на месец заробляла.* Хачэнь. *Быў на градусоў трыццаць мороз.* Пагост. На (час), у, пад, падчас. *Жа́бы кру́мкаюць на весне́.* Верасніца. *Гэто на Ондрэ́я у нас коно́плі сеялі?* Хачэнь. *Добро було на весе́льі.* Пагост. *Сколько п'я́троў на лёду́, столько раз будзе вода прыбываць на году́* (прыкмета). Аздамічы. *Шоб ты на старосць прыдбаў собе таке́ дзіця́!* Хачэнь. На (адрасат), да. *Век буду плакаць на цебе́, на твою го́лову!* М. Малешава. *Дзеўка кажэ на бацька: «Дай, баце, ёму здачы».* Любавічы. На (аб'ект), пра. *Га́за на карасіну говорылі ко́лісь.* Дварэц. *Ім'я Спірыдон, а Шпіра на его зва́лі.* Буразі. На (прылада, сродак). *Напрадо́м во́ўны да ву́бером на кручо́к.* Кароцічы. *Гра́е на скрыпцы.* Хотамель. *Едзе на во́зі, конём.* Бярэжцы. На (хвароба). *Я заболела на ціх.* Сямурадцы. *І вона на го́лову ўмірае.* Там жа. *2 часц.* На, вазьмі. *На, борщчу пое́ж, шчэ й карто́плі е.* Дварэц. *На*

*тобе рубля!* Хачэнь. △ Н а к а́ з к у. Як у казцы, цяжка паверыць. *А ўжэ картоплі булі, то на казку, ніко́лі такіх не було.* Сямурадцы. Н а о д н у́ с е́ р э д у (с т а р э й ш ы, м о л о д з е й ш ы). Пра нязначнае адрозненне ва ўзросце. *На сколько вон за мене старэйшы, на одну серэду?* Верасніца. Х а́ т а н а х а́ ц і (ч о л о в е́ к н а ч о л о в е к у і з іншымі назоўнікамі). Пра цеснату. *Колісь хата на хаці було ў нас.* Запясочча.

НАБАЙСІ′ЦЬ *зак.* Нагаварыць, набалбатаць. *Вона набайсіць усёго тобе́.* Верасніца. *Вам коє́-чого набайсілі.* Цераблічы.

НАБА′КЕР, НАБА′КІР *прысл.* Набок (пра галаўны ўбор). *Некоторые носяць шапку набакер.* Тураў. *Шапку набакір да пошоў.* Запясочча.

НАБАНДЫ′ЖЫЦЬ *зак.* Напіхаць, наладаваць. *Ту куклу як набандыжыць, то ўсе дзіця́ закры́е.* Альшаны.

НАБАТРА′ЧЫЦЬ *зак.* Нестаранна зрабіць работу. Аздамічы.

НАБА′ЧЫЦЦА *зак.* Наглядзецца, пабачыць. *Жыўшы на людзях, усего́ наба́чышся.* Верасніца.

НАБА′ЯЦЬ *зак.* Нарасказваць неверагоднага, напрыдумваць. *Наба́яла, шчо дзе́ці бояцца дохаты іці́.* В. Малешава.

НА′БЕ *прысл.* Добра што. *Седзяць там, набе нідзе ніхто́ не меша́е.* В. Малешава.

НАБЕГА′ЦЬ *незак.* 1. Набягаць, наскокваць. *Воз набегае, а вон дзе́ржыць — до́бры конь!* В. Малешава. 2. Раптоўна з'яўляцца (пра гуз, пухліну). *Япа набегае, як уды́рыць корова корову ў хля́біну.* М. Малешава. △ Н а б е г а́ ц ь н а в у м. Прыходзіць у галаву, успамінацца. *Нішчо на вум таке не набегае, шоб сказаць вам.* Кароцічы.

НАБЕ′ГЦІ *зак.* 1. Наскочыць, наляцець. *Коб вон седзеў, то ўсе до́бро было́ б, а вон подпрыгнуў і набег на ту палку.* Сямігосцічы. 2. Здарыцца, прыйсціся. *Трэбо жыць, як набежыць* (прымаўка). Старажоўцы. △ Н а б е г ц і н а в у м. Прыйсці ў галаву, успомніцца. *От так нешчо набегло на вум, то й сказаў.* Хачэнь.

НАБЕ′ДРЫ *мн.* Набадры. *Набедры то, шоб хому́т на вушы не падаў.* Мачуль.

НАБЕ′ДРЫКІ *мн.* Тое ж. *Еслі есць на коню набедрыкі, то вон дзе́ржыць во́за.* В. Малешава.

НА'БЕЛО *прысл.* Начыста, канчаткова. *Пойду полóтна поперý набело.* Верасніца.

НАБІ'ВАНКА *ж.* Від самаробнага палатна. *Набіванку накідаюць у чотыры ніты, а ткаць то по одном ніту, на одзін пóнож наступаюць.* Луткі.

НАБІ'ЛІЦЫ *мн.* Набіліцы. *Шо прыбівáём — то набіліцы, шо закідáём — то это чоўнік.* Луткі.

НАБІ'ЛКІ *мн.*, рэдка **набілка** *ж.* Тое ж. Бярэжцы.

НАБІРА'ЦЬ *незак.* 1. Набіраць. *Вóду набірáе рáдуга.* М. Малешава. 2. Падпяваць. *Ты почынáй, а мы будзем набіраць.* В. Малешава. △ **Набірáць у ніт.** Накідаць пражу ў ніт. *Трэба набірáць у ніт, а дáле ў бéрдо по дзве ніткі у одну тросціну.* Запясочча.

НАБІ'РАЧ *м.* Малая каробка для збірання ягад. *Набірач з коры́ робіцца.* Луткі.

НАБІ'РКА *ж.* Тое ж. *Наберý брусніц дзве набіркі.* Хачэнь. *Набіркі большынствó з ліпы або уя́за.* Сямігосцічы.

НАБІ'РНЫ' *прым.* Заразны, інфекцыйны. *Вонá набірная, та корóста, ся́дзеш і наберэ́сса.* Сямігосцічы. *Набірны́ і ціх.* Хотамель.

НАБІ'РОК *м.* Малая каробка для збірання ягад. *Два набіркі отдала ёму, то ў ёго пóўно ведрó.* Хачэнь.

НАБІ'ТО *дзеепрысл.* Пабіта, пакарана. *Шо ўжэ набіто ёму, шо ў людзéй краў, а вон не кідае.* Пагост.

НАБІ'ЦЬ *зак.* 1. Пабіць, пакараць. *Вона шчэ учóра мене просіла, шоб я ее набіў, да ў мене не було часу* (жартаўлівая пагроза капрызнаму дзіцяці). В. Малешава. *Ее вóзьмуць да наб'юць, то вона плáчэ.* Хільчыцы. 2. Насадзіць, пасадзіць. *В'язы́ набіў на копылы́ да поéхаў.* В. Малешава. *Магýлу набіў на лóбе.* Сямігосцічы. 3. Нанесці, напхаць. *Скры́ню наб'е полотнá.* Хільчыцы. *Набіло плáву у той куток багáзно.* Сямігосцічы.

НАБІЧКОВА'НЫ *дзеепрым.* Напханы, напоўнены. *Пéрву аўтобус набічкованы людзей поўню́сенькі!* М. Малешава.

НАБІЧКОВА'ЦЬ *зак.* Напхаць, напоўніць. *Пóвен мешóк зéлья набічковáла!* Старажоўцы.

НАБЛАГАЦЬ *зак.* Нажадаць, нагаварыць. *Наблагáюць усегó молоды́м на весéльі.* Хотамель.

НАБЛІЖА'ЦЦА *незак.* Набліжацца. *Ужэ осенéе, осень наблíжаецца.* Д.-Гарадок.

НАБЛУ'ТАЦЬ *зак. перан.* Нахлусіць, наманіць.

*Нéшчо вона тут наблýтала, ее й одномý слову не вер.* М. Малешава.

НА'БО *прысл.* Добра што. *Ухопілі того немца, набо роспрáнуты буў і не меў пістолета.* Верасніца. Пакалькі. *А зробіць можэ шчо хочэ, набо печáць у ёгó.* В. Малешава.

НАБО'Й *м.* 1. Укатаны снег на дарозе, які растае ў апошнюю чаргу. *Як нема пиліповéцкого набóю, то на веснé нема і дорóгі.* Альшаны. *Шчэ набой лежыць, а на бокý пусціло.* Сямігосцічы. *По набóю можно проéхаць только кованымі сáнкамі.* Луткі. 2. Арагавелая скура (на далоні і інш.). Рамель. 3. Набой, зарад. *Набóя не хоцéлосо траціць на того кóршака.* Мачуль.

НАБО'ЙКА *ж.* Бандарная прылада для набівання абручоў. Запясочча.

НАБО'К *прысл.* Набок. *Набок гóлову нóсіць.* Цераблічы. *Набок воз перэклýбіўса.* Аздамічы. Набакір. *Набок шапку нóсіць.* Аздамічы. Убок. *Позваў ёго набóк і сказаў.* Там жа. *Іншы раз пріспімо того стóрожа, то рыбу набок.* Альшаны.

НАБОЛЕ'ЦЬ *зак.* Набалець, змучыцца. *Душá наболéла.* Запясочча.

НАБО'ЛЬШ *прысл.* Больш за ўсё. *Набольш кожýшок рыбу есць.* М. Малешава.

НАБРА'ЖЫЦЦА *зак.* Празмерна напіцца, нахлябтацца. *Набражыцца тоé воды́ пóўны жывот, аж боліць.* М. Малешава. *Набражыцца пóйла корóва, да зробіцца чэрэвáта, тóўста.* Там жа.

НАБРА'КНУЦЬ *зак.* Набрыняць, успухнуць. *Набракла тая рука от удару.* Кароцічы. Напоўніцца. *І'м'е набракло ў кобýлы.* Запясочча. *Набраклі грýдзі молокóм.* Аздамічы. Набухнуць. *Набракла пашня́ ў водзе.* Кароцічы.

НАБРАЦЦА *зак.* 1. Узяцца, з'явіцца. *Скуль та столóса набрáласа?* Хачэнь. 2. Набраць удосталь, назапасіць. *Дай бы ты мне дзесятку? — Я собе іх не наберýса!* В. Малешава. *Цэлы горшчок зробіш рáжэнкі, а так сметáны не набраццa.* Любавічы. 3. Нацягнуць, прасякнуцца. *Набралосо солі моцно сало.* Луткі. *Пока наберэцца, накіснецца.* Запясочча. 4. Набыць, прыдбаць. *Коло розýмного чоловека ек побудзеш, то й рóзуму наберэшса.* Старажоўцы. *Набрáлосо дзіця́ апіціту.* В. Малешава. 5. Заразіцца, прыдбаць хваробу (у выніку кантакту).

*Набраўса жаберу на ногі.* Цераблічы. 6 *перан.* Наесціся, напіцца празмерна. *Я ўжэ боршчў набраласа.* Запясочча. *Набраласа, як шчэня́ сыро́ваткі* (прымаўка). Там жа. *Набраласа, ек свіня́ бра́гі* (прымаўка). М. Малешава. Напіцца гарэлкі. *Ім жэ не трэ есці, а коб толькі набрацца.* Верасніца. *Набраўса шчо чума́к* (прымаўка). Альшаны. *Набраўса горэ́лкі, як свінья́ му́ла* (прымаўка). Старажоўцы. △ Лі́ку не набра́цца. Пра незлічоную колькасць. *Як начаў лічыць тых дзікіх свіне́й, то й ліку не набралосо.* Цераблічы.

НАБРА'ЦЬ *зак.* 1. Набраць, назапасіць. *Наберуць гро́шэй, шчо холе́ра зна́е ско́лько!* Хотамель. *Пахваліўса, шо цепер погледзе́ў п'яць коло́д і набраў дзе́сець ве́дзер ме́ду.* Хачэнь. Назбіраць. *Дзве коро́бкі я́год набралі на одно́й ме́сціні.* М. Малешава. 2. Набраць, накупіць (матэрыялу і інш.). *Набра́ла ко́рту на пінджа́к.* Верасніца. *Набрала бе́лі, да не соберу́са ткаць.* Хачэнь. △ На бра́ць сі́лу. Увайсці ў сілу, узмужнець. *Як годоў тры быку́, то вон ужэ набере́ сілу, тоды ўжэ не боіцца чолове́ка.* Цераблічы.

НАБРО'ЗГЛЫ, НАБРЫ'ЗГЛЫ *прым.* Набрынялы, апухлы. *Набраўса учо́ра, то наброзглы від, уро́дзе подпу́х.* Старажоўцы. *Набрызглы — бы наліты такі ў ліцэ́ чолове́к.* М. Малешава.

НАБРО'ЗГНУЦЬ *зак.* Набрыняць, апухнуць. *От рука́ наброзгла, не ворухну́ць.* Аздамічы.

НАБРУСЦІ', НАБРЫСЦІ' *зак.* Набрысці, трапіць. *Воўк по́ночы ходзіць, да набрыдзе, то ўхопіць.* В. Малешава. *Не могу на фотографіі набрусці.* Там жа. *Одна хата була ў пу́шчы — і як мы набрулі на ее!* Дварэц.

НАБРЫ'НУЦЬ *зак.* Тое ж. *Пока вонэ́ набрыне́, набежы́ць на вум, тэ сло́во!* Лутkі.

НАБРЫНЯ'ЦЬ, НАБРУНЯ'ЦЬ, НАБРУНЕ'ЦЬ *зак.* Набрыняць, набракнуць. *За дзень набрыня́е, як коло́да зробіцца рука́.* Запясочча. *Набрыняло ім'е ў коро́вы, стало цвёрдэ.* Мачуль. *Набруня́лі ногі от ходзьбы́.* Цераблічы. Набухнуць. *Ужэ набрыняла куцья́.* Бярэжцы. Набрацца сокаў. *Не набрунелі картоплі, не будзе і бу́блікоў.* Верасніца.

НАБУВА'ЦЦА *зак.* Нажывацца, ствараццa. *Усе збыва́ецца, а набыва́ецца так тру́дно!* Цераблічы.

НАБУВА'ЦЬ *незак.* Прыбываць, з'яўляцца. *Весно́й з водой набыва́е рыба.* Цераблічы.

НАБУ'НІЦЦА *зак.* Уздуцца, набухнуць. *Корова набу́ніласа, ек бочка, лёдзьві ідзе.* М. Малешава.

НАБУ'РКАЦЬ *зак. экспр.* Нагаварыць. *От набу́ркала, шчо й у голову ўжэ не лезе.* Сямігосцічы.

НАБУТНЫ' *прым.* Нажыўны, які можна прыдбаць. *Клопот, это набутна́ рэч* (суцяшаюць, калі што згубілася). Бярэжцы. *Этэ ўсе набутнэ́е, нажытнэ́е, а здороўя не ве́рнеш.* Хачэнь.

НА'БУТО *прысл.* Нябось, відаць. *Набуто інсцітут ко́нчыла, то й нос задра́ла.* Пагост. *Набуто шо цэ́бер велікі, а пусты́.* Верасніца.

НАБУХТО'РЫЦЬ, НАБАХТО'РЫЦЬ *зак. экспр.* 1. Наліць. *Набухто́рыў, шчо чэрэз верх лье́цца.* Сямігосцічы. *Набахторыў по́ўно ведро́.* В. Малешава. 2. Падбіць, падбухторыць. *А вон набухторыў Васіля́, то той аж кіпіць.* Верасніца.

НА'БУЦЬ *прысл.* 1. Мабыць. *Набуць, дождж будзе— не́шчо нога́ болі́ць.* Пагост. *Ужэ, набуць, не дожду́.* Запясочча. *Набыть, ты была там.* Альпень. 2. Нават. *Набуць не гляне, так замусова́ла.* Пагост. *Мо ты мною ганьбу́еш, шчо не хочэш набыць у хату зайці́.* Луткі.

НАБУШОВА'ЦЬ *зак.* Надзьмуць, нарваць. *Ну і бушу́е, ма́буць, дождж́у набушу́е.* Бярэжцы.

НАБЭ'ХКАЦЦА *зак. экспр.* Наесціся. *Ох, набэ́хкаласа коро́ва!* Любавічы.

НАВА'ЖЫЦЦА *зак.* Наважыцца, рашыцца. *Туды наважса да йдзі — дале́ко, а так то блізко вудае́.* Сямурадцы.

НАВА'ЖЫЦЬ *зак.* Рашыцца, асмеліцца. *Я нава́жу і ўсе́ ей скажу́.* М. Малешава.

НАВА'ЛОМ *прысл.* Навалам, шмат. *У горо́дзі этого зе́лья навалом, да я рву его кобану́.* Хачэнь. *Кусто́ў навалом, ні прошы́цца, ні пробі́цца!* Верасніца.

НАВАЛЯ'ЦЬ *зак.* Наспускаць, назразаць. *З дро́вамі хлопчакі помоглі, воны пое́халі да навалялі веце́л.* Пагост.

НАВА'Р *м.* 1. Навар. *Нава́ру з ра́коў нема́.* Цераблічы. 2. Нарост. *Дзе́рэво з нава́ром.* В. Малешава. *Нава́ры бу боля́чкі на карто́плях.* М. Малешава.

НАВА'РВАЦЬ *незак.* Наварваць, гатаваць. *Я нава́рваю горшчо́к ка́шы і туды кладу́ чоты́ры ейцы́ — то сма́шнэ.* Чэрнічы.

НАВА́РКІ *мн.* Пераліўы, ільснівыя плямы. *Конь гладкі, аж наваркі хо́дзяць по ём.* Цераблічы.

НАВАРЫ́ЦЬ *зак.* Наварыць, нагатаваць. *Наварыш, охоло́дае, да тоды кладзеш м'ясо.* Пагост. *Наворыць можно тэ́, шчо не прыгорыць.* Цераблічы.

НАВЕВА́ЦЬ *незак.* Развяваць. *Нехай мое ру́сые ку́дры вецёр навева́е, нехай моя дзеўчынонька шчэ год погуля́е* (з песні). Сямурадцы.

НАВЕ́ДЗЕНЫ *прым.* Настроены. *Наве́дзена балала́йка — можно іграць.* Запясочча.

НАВЕ́ДЛУГ, НАВЭ́ДЛУГ, НАВУ́ДЛУГ *прысл.* Параўнальна, у параўнанні. *Мух наведлуг тых годо́ў так нема.* Луткі. *Навэдлуг як есць места́, то гэто земля́ хоро́ша.* Там жа. *Вон цепер поле́пшаў навудлуг ле́тошнёго.* Запясочча.

НАВЕЖО́НЫ *прым.* Дзіўны, дзівакаваты (у звароце). *Навежоны ты, наво́шчо тобе здала́са эта пройдзісве́тка?* Тураў.

НАВЕЗЦІ́ *зак.* Навезці, панапрывозіць. *Навезла́ хорошых хусто́к чо́рных шэліно́вых.* Дварэц.

НАВЕ́К *прысл.* 1. Заўсёды. *Навек ты за дзецей сварысса з людзьмі.* Тураў. *Я то навек злоўлю рыбу.* Дварэц. *За добрым мужэм навек жонка ду́жа* (прымаўка). Запясочча. Спрадвеку. *Навек так було.* Аздамічы. *Куры навек бурку́юць, шоб не лета́лі.* В. Малешава. 2. Назаўсёды. *Ты ёму навек кніжку дала́?* Хотамель.

НАВЕ́ЛІ́ЧКІ *прысл.* Велічынёй. *Бочэчка чорненька, от така навелічкі.* Буразі. *Вонэ як серэ́дні картопель наве́лічкі.* Луткі.

НАВЕ́НДЗІЦЬ *зак.* Навэндзіць. *Наве́ндзіла са́ла по́ўно!* В. Малешава. *Рыбакі навэ́ндзяць рыбы бога́то.* Сямігосцічы.

НАВЕРСТА́ЦЬ *зак.* Знайсці, натрапіць. *Ніяк не наверста́ю часы́, дзе воны?* Луткі. △ Наверстаць свое́. Нагнаць упушчанае. *Я ўзаўтра свое наверстаю — дожэну́ людзе́й со своей робо́той.* Старажоўцы.

НАВЕ́РТ *м.* Скрутак, канверт. *Немаўга́ды шо ў том наве́рці!* Верасніца.

НАВЕ́РХ *прысл.* Наверх, на паверхню. *Чэрэз сем лет вуходзіць наверх тая стрэла́* (дзе ўдарыў пярун). Пагост. *Екі вон е, такі вон ву́йдзе наверх, ек пошэпчуць* (пра адбітак гада, гадзюкі, якія быццам бы можна заўважыць каля ўкушанага месца). Хачэнь.

НАВЕРХА'Х, НАВЕРХО'Х *прысл.* Вярхом. *Му каталіс наверхáх, поќá коні не попрыставáлі.* М. Малешава. *Наверхóх éхалі козáкі по селý.* Там жа.

НАВЕ'С *м.* Навес, стрэшка. *Навéс бувáе ў хáці або ў одрыне.* Аздамічы.

НАВЕСЦІ' *зак.* 1. Навесці, панаводзіць. *Навелá дзецéй з селá пóўну хату.* Цераблічы. *Ведзеньé* (свята перад калядамі) *с'ят наведзэ́!* (прымаўка). Там жа. 2. Развесці, зрабіць рэдкім. *Навелі пóўну кострýлю юхі, розбáвілі водóю багáто.* Сямігосцічы. 3. Нараджаць, нарыводзіць. *Жонка дзецéй навелá аж п'яцеро!* Цераблічы. 4. Завесці, накруціць (гадзіннік і інш.). *Я часы́ не навелá, не йдуць.* Дварэц. 5. Настроіць, наладзіць. *Трэ навесці пілý — нарэ́заць зýбу і розвесці.* Старажоўцы. *Ќосу навесці — поклепáць, наменціць, осадзіць.* Там жа. 6. Асачыць, высачыць. *Я свою кýрыцу наведу, дзе несéцца.* Аздамічы. *Свінью навелі — проці поросят отзывáласа.* М. Малешава.

Звычайна асочваюць курыцу, прывязаўшы нітку з клубка да яе нагі.

НАВЕСЦІ'СА *зак.* Завесціся, навыводзіцца. *Навелóсо мушэй больш як трэ́ба!* Тураў. *Абý-чого навелóсо под обóямі, шомоцяць.* В. Малешава. *От жмóдзі навелосо!* Хільчыцы.

НА'ВЕТ, НА'ВЕЦЬ, НА'ВЕ *часц.* Нават. *Вон не то шо говорыць, а навет і дýмаць про тэ́ не хóчэ.* М. Малешава. *З могó гóду нáвець мужчыны булі.* Аздамічы. *Нáве мой брат ходзіў.* Хотамель.

НАВЕ'ЧНО *прысл.* Назаўсёды, на ўвесь век. *Шоб навечно була, не порваласа.* М. Малешава. *Гэ́тые гýторкі остáнуцца навечно* (пра запісанае пры размовах у час нашай збіральніцкай працы). Хачэнь.

НАВЕ'ЯЦЬ *зак.* Навеяць, наарфаваць. *Учора навеяў ечмéню тры мешкі.* Сямурадцы.

НАВІВА'ЦЬ *незак.* Навіваць, намотваць. *Трэ навівáць крóсна.* Луткі. *Навіваюць крóсно на вороціло.* Аздамічы.

НАВІДО'ЌУ *прысл.* Навідавоку. *Навідоку седзяць усе коло хаты.* Сямігосцічы.

НАВІ'ЛЬНІЌ *м.* Ќолькасць сена, якую можна ўзяць на вілы за адзін раз. *Добры навільнік, ек подняць, на вілкі узяў.* Луткі.

НА'ВІСЛЯ *ж.* 1. Шэрань або снег на дрэвах. *Як на-*

*вісля зімо́ю, то го́воро́ць, шчо бу́дзе уро́жа́й хоро́шы.* Альшаны. 2 *перан.* Змрочны настрой. Тураў.

НАВІ'СНУЦЬ *зак.* Навіснуць. *Нека хмара наві́сла.* М. Малешава. Нахмарыцца. *Наві́сло, а дожджа́ нема.* Дварэц.

НА'ВІСЬ *ж.* 1. Шэрань або снег на дрэвах. *Ек на я́блуні на́вісь, то будзе сад до́брэ цві́сці* (прыкмета). Хачэнь. *Навісь велі́ка, як снег напа́дае.* Кароцічы. *Як навісь на роздво́, то будзе шчасліву го́д* (прыкмета). Альгомель. *Як на рожэстве́ навісі не будзе, то не будзе і горо́дніны* (прыкмета). Старажоўцы. *От навісь на роздво́, то будуць грыбы́* (прыкмета). Там жа. *Як на рожэстве навісь, то добры урожай буде* (прыкмета). Альпень. 2. Злосць. *Така ў іх узела́са навісь, насты́рносць — однэ́ одного́ не любіць, однэ одному́ не перэпу́сціць.* Луткі. *Есць навісь чоловека, аж вусох.* Пагост.

НАВІХА'ЦЬ *зак.* Навярэдзіць, натрудзіць (руку). *Помотыкова́ла і навіха́ла ру́ку.* Старажоўцы. Навярэдзіцца. *Грызь робіцца, як пойдзеш первы дзень жаць да навіха́е эттыка рука.* Луткі.

НАВІХРЫ'ЦЬ *зак.* Нагнаць, накруціць. *Вецёр, то дождҗу навіхрыць альбо розгоніць.* Хачэнь.

НАВІ'ЦЬ *зак.* Навіць, наматаць. *Трэ навіць кросна.* Луткі. Панавіваць. *Пут наўюць да попу́таюць ко́ней.* Верасніца. Завіць, закруціць. *Навіць хіста́ трэбо.* Аздамічы.

НА'ВОД *м.* Вышыўка. *Вішне́вум го́рыном наво́д вушыла молода́ молодо́му на соро́чцы.* Пагост. *Наводы робяць на соро́цы, на рушніку́, на поду́шках.* Сямігосцічы.

НАВО'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Настройваць. *Слабо наве́дзена скрыпка, трэба наводзіць.* Запясочча. 2. Асочваць, выяўляць месца знаходжання. *Можно наводзіць ку́ру ніткой, а можно подзержаць, як скоро несці́са, то ву́пусціць і гледзець.* Луткі. *Ко́ліся моя невестка наво́дзіла* (як згубіцца што). Хачэнь.

НАВОДЗІ'ЦЬ *зак.* Нараджаць, нагадаваць. *Замуж пошла́ да дзецей наводзіла.* М. Малешава.

НАВО'ДКА *ж.* Календула, наготка. *Наводку беруць, як го́рло заболі́ць, рану промываюць.* Хачэнь. *Часамі це́льна худо́біна хочэ зверга́ць, то напараць наво́дкі, даюць напіцца, то оно судзе́ржыцца.* Бярэжцы.

НАВО'ДНЫ *прым.* Прыведзены (з іншага месца).

*Наводна корова не сколола на́шое, а друга́ хоцела, то отогнаў пастух.* Дварэц.

НА'ВОДОМ *прысл.* Следам, як на прывязі. *Наводом за ёй пошла́.* М. Малешава. *Та рыжа ходзіць наводом за ім.* Сямігосцічы.

НАВО'ЖВАЦЬ *незак.* Навозіць, навожваць. *Наво́жваем гліну на ток у клу́ню.* Хотамель.

НАВОЗІ'ЦЬ *зак.* Навазіць. *Буў ў Сохвены, навозіў ей ле́су.* Верасніца.

НАВО'Й *м.* Навой, на які намотваюцца ніткі асновы. *На навой нака́чваецца аснова.* Запясочча.

НАВО'ЙКА *ж.* Навой, на які намотваецца палатно ў кроснах. Бярэжцы.

НАВОЛОКА'ЦЬ *незак.* Нацягваць, наганяць. *Наволока́е хма́ру, ма́буць, дождж бу́дзе.* М. Малешава.

НА'ВОЛОЧ *ж., зб.* Набрыдзь, прыблуда. *Вона ту́болка, а я — на́волоч.* Верасніца. *Абу́-екая наволоч за мене чэпляецца!* Запясочча. *Наволоч, воны ж чужые ў селе!* М. Малешава.

НА'ВОЛОЧКА *ж.* Навалачка. *Наволочка верхня ў подушцы.* Лутmember.

НАВОЛОЧЫ'ЦЬ *зак.* Нацягаць, навалачы. *Наволочыла столько се́на, шо й зале́товало.* М. Малешава.

НА'ВОРОТ *м.* Заход або заезд туды і назад. *Трыма наворотамі ездзіў у лес.* Тураў. *Ужэ другім наворотом грыбы несуць.* Хачэнь.

НА'ВОРОЦЕНЬ *м.* Верхняя бэлька ў сцяне, якая ідзе праз усю даўжыню хаты. *Ужэ положылі наворотні.* Аздамічы.

НАВОРОЧА'ЦЬ *незак.* Наварочваць, спрабаваць гаварыць па-іншаму. *Пожыла́ тро́шкі да наворача́ла на іх слова́.* Верасніца. *Моя дзе́ўчынка усе наворочае* (пра спробы гаварыць). Кароцічы.

НАВОРО'ЧВАЦЬ *незак.* Навальваць, наварочваць. *Прамо подбівай эты гной, наворочвай на воз і прыбівай.* Кароцічы.

НАВО'РЫСТЫ *прым.* Пахілы, нахілены (пра дрэва). *Наворіста сосна цьво́рда.* Запясочча.

НАВОСТРЫ'ЦЬ, НАГОСТРЫ'ЦЬ *зак.* Навастрыць, натачыць. *А дзе ты сокеру навострыў?* Пагост. *Я ходзіў да нагострыў пілу ў кузні.* Кароцічы.

НА'ВОЧЫ *прысл.* △ Н і н а в о ч ы. Пра нежаданне

бачыць каго-небудзь. *Дзіця ні нáвочы, не злюбіў так.* М. Малешава.

НАВО'ШЧО, НАВО'ШЧЭ *прысл.* 1. Навошта, нашто. *Навошчо вон тобé?* Сямігосцічы. *Да навошчо крычаць?* Дварэц. Чаго, чаму. *Не ведомо, навошчо вўе собака.* Аздамічы. 2 *займ.* На што. *Ні навошчо не похóджы.* Альшаны. *Льеш дай дýмаеш — навошчэ. Ці на дóбрэе, ці на плохéе?* (пра гаданне). Сямігосцічы.

НАВОШЧЫ'ЦЬ *зак.* Наваскаваць. *Навошчы нітку воском, то не будуць вузлы́ везáцца.* М. Малешава.

НАВУБІРА'ЦЬ *зак.* Навыбіраць, назбіраць. *Можэ б ты гуркоў наўбірáла да засоліла?* Старажоўцы.

НАВУВО'ДЗІЦЦА *зак.* Навыводзіцца, вывесціся. *Молоды́е вороняќі наўвóдзіліса да крáчуць.* В. Малешава.

НАВУ'ВОРОТ *прысл.* Навыварат. *Того кабáта скінула да навýворот наложы́ла.* М. Малешава. Наадварот, у адваротным парадку. *Тры раз навуворот перэмóліцца, як кладзé стожкá* (каб не пайшоў дождж, пакуль ён не завершаны; звычай). Хачэнь.

НАВУ'ДЖВАЦЬ *незак.* Навуджваць. *По рэцэ́ дóбро навуджваюць хлопцы рыбы.* Цераблічы.

НАВУДЗЁЎБВАЦЬ *зак.* Навыдзёўбваць, навыбіваць. *Навыдзёўбвалі ўсякого ўсёгó, накосілі, дзе нікóлі не було!* Сямігосцічы.

НАВУ'ДЗІЦЬ *зак.* Навудзіць, налавіць вудай. *З вýдкою пошоў рано і навудзіў поўну шáньку рыбы.* Луткі.

НАВУ'КА, НАУ'КА *ж.* Веды. *Навýчысса, то за плечамі не носіцьмеш навуку.* Хачэнь. Адукацыя, вучоба. *Вон оглéдзеўса — трэ навука, без навукі зáра нельга жыць.* Старажоўцы. *Наука не ходзіць без друка* (прымаўка). Сямурадцы.

НАВУКІДА'ЦЬ *зак.* Навыкідаць, накідаць. *Наўкідáла гэтых старых шкабýркоў!* Луткі.

НАВУ'КНУЦЬ *зак.* Прывучыцца, прызвычаіцца. *Чым бук навýк, то й волóм не отвучыш* (прыказка). Сямурадцы.

НАВУ'КОСЬ *прысл.* Наўскасяк. *Навýкось пýсціш солóму, то вона вýскочыць з молоцілкі.* Цераблічы.

НАВУЛЁТ *прысл.* Навылёт, наскрозь. *До дóлу, навулёт проелі мýшы солому, бо була з пашнéю.* Дварэц. *У дождж промок навулёт.* Сямігосцічы. *Кладуць шмáцье ў таке жлукто без дна і эта золá ёго проймáе навулёт.*

Хачэнь. *Навулёт его бачу.* Аздамічы. Ад пачатку да канца. *Ты туды навулёт ішоў?* В. Малешава. Скрозь, усюды. *Над рэкóю навулёт берэлóз.* Сямігосцічы.

НАВУ'ЛЬ *прысл.* Навылёт, праз усю працягласць. *Подпаліў дай горы́ць навуль.* Сямігосцічы.

НАВУ'ПЕРЭДКІ *прысл.* Навыперадкі, адзін перад адным. *Бегалі навуперэдкі — хто кого поперэ́дзіць.* Верасніца.

НАВУ'ПЕРЭДОК *прысл.* Папярэдне. *Еты сын шле пісьмо навуперэдок, а той нішком, знішка дай прые́дзе.* Запясочча.

НАВУ'ПЛАТ *прысл.* У крэдыт. *Навуплат узяў у ла́ўцы.* Аздамічы.

НАВУ'ПУСТ *прысл.* Навыпуск. *Сорочка навупуст і пошо́ў!* Запясочча.

НАВУ'СІЦЦА *зак.* Наважыцца. *Навы́сіліса ехаць хлопцы.* Луткі.

НАВУСКА'КВАЦЬ *зак.* Раптоўна з'явіцца (пра грыбы). *Наўскакваюць печуры́цы, будуць росці.* Дварэц.

НАВУ'СОЧКУ *прысл.* Вышыней, у вышыню. *Така́ ек ма́ці наву́сочку росце́.* Хачэнь.

НАВУЦЕГА'ЦЬ *зак.* Навыцягваць, нацягаць. *Навуцега́е да прывезе́ домоў.* Луткі.

НАВУ'ЧКА *ж.* Навык, уменне. *Сама з свое навучкі ўсе робіла, ніко́го не пута́ласа.* Альшаны.

НАВУЧО'НЫ *прым.* Вучоны, вучаны. *Можэ, такіе і не леня́цца, такіе навучоные?* Старажоўцы.

НАВУЧЫ'ЦЦА *зак.* Навучыцца. *Ой, ты, бра, і гэто навучы́ласа?* Луткі. *Маці казала, шчоб цвілы́ хлеб елі, то наўчыцес плаваць* (павер'е). Хачэнь.

НАВУЧЫ'ЦЬ *зак.* Навучыць. *Трэба дзіця біць, пока́ поперэк ла́ву ложы́цца, а ек наўздо́ўж, тогды не наву́чыш* (прымаўка). Хачэнь. *Хто моўчы́ць, той трох наўчы́ць* (прымаўка). Сямурадцы. Падвучыць. *Хто цебе навучыў, потказа́ў хто?* Запясочча.

НАВУ'ШНІК *м., мн.* н а в у́ ш н і к і. Шоры. *Зробі навушнікі, шоб конь не ляка́ўса!* Сямігосцічы.

НАВУ'ШНІЦА *ж.* Чубок з боку галавы ў курыцы. *Кура з наву́шніцамі хоро́ша і до́брэ несе́цца.* Цераблічы.

НАВ'ЯЗА'ЦЬ *зак.* Звязаць. *Нав'яза́ла бо́роду, то трэбо ісці посвеціць.* Сямігосцічы.

НАГА'Й *м.* Заезд (пры лоўлі рыбы невадам). *У два нагая́ лова́лі: одна ла́та ідзе, а за ей дру́га.* Альшаны.

НАГА'НІЦЬ *зак.* Зганьбіць, сказаць дрэннае. *Вучо́ны чоловек век не нага́ніць бога.* Альшаны.

НАГА'НУЦЬ *зак.* Наваліцца, напасці. *Усе нагануліна мене да набілі.* Буразі.

НАГА'Р *м.* Нагар. *Не до́брэ горыць, бо забу́лі зняць нагар.* Верасніца. Каланіца. *Е цвёрды нагар на во́сі од коло́мазі.* Хотамель.

НАГДО'ВЕ, НАДО'ВЕ *прысл.* Надоечы, днямі. *Нагдо́ве я зайшла до ее́, а вона і ка́жэ про тэ́.* В. Малешава. *Я надове захо́дзіла к ім, але старо́го не бачыла.* Тураў.

НАГІНА'ЦЦА *незак.* Нагінацца. *Мы так паслі́, шо корова ідзе ў одрыну і не нагіна́еца.* Мачуль.

НАГІНА'ЦЬ *незак.* Нагінаць, нахіляць. *Нагіна́е ве́цёр кусты, за́рэ дождж ша́мне.* Пагост.

НА'ГЛА *ж.* Згуба, смерць. *Я тобе зроблю́ наглу, побачыш!* Тураў. Бяда, гора. *Ой, жо́нко, зробіць вон тобе наглу.* Там жа.

НА'ГЛАДКО *прысл.* Дашчэнту. *Чы́сто нагладко ўсе зду́ла война́, га́ло стало.* М. Малешава.

НА'ГЛЕ *прысл.* Надта, вельмі. *Вон, кажуць, нагле пога́ны.* Тураў. *Лінкі нагле лезуць у однокры́лец.* Цераблічы. *Ха́бара браў бага́то нагле, то зво́льнілі.* Сямурадцы. *І воны́ нагле любіліса обо́е: дзед едзе по ры́бу і ба́бу везе.* Чэрнічы.

НАГЛЕДА'ЦЬ *незак.* Глядзець, назіраць. *Нагледае свекроў дзецей.* Верасніца.

НАГЛЕДЗЕ'ЦЦА *зак.* 1. Наглядзецца. *А я нагледеласа на вужэ́й, дак цепер ні показвай.* Бярэжцы. 2. Выглядзець, нагледзець. *Нагледзе́ліса, дзе сады́, а ноч'ю обтрэсу́ць.* Аздамічы.

НАГЛЕ'ДЗЕЦЬ *зак.* Выглядзець, нагледзець. *Нагле́дзелі, дзе зо́лото сховано.* Сямурадцы. *Як нагледзяць ме́ду бага́то, то оса́дзяць рой.* Хачэнь.

НАГЛЕ'ЗНЫ, НАГОЛЕ'ЗНЫ *прым.* Надта вялікі. *Да прыпе́рлі наголезного ка́меня да прыкруцілі дро́том.* Дварэц.

НАГЛІ'ЗАЦЦА *зак.* Празмерна набрацца, зрабіцца цяжкім. М. Малешава.

НА'ГЛІК *м. экспр.* Вельмі высокая асоба. Запясочча.

НА'ГЛО *прысл.* Вельмі, надта. *Сухе́ нагло лайно́.* Аздамічы.

НАГЛУ'М *прысл.* На здзек, назнарок дрэнна. *Наглум робіць, напоперэ́к.* Аздамічы.

НАГЛУМІ'ЦЦА *зак.* Насмяяцца, наздзекавацца. *Ты з мене наглуміўса, довóлі ужэ!* Старажоўцы. Абмануць давер'е. *Наглуміўса з дзéўкі.* Цераблічы.

НА'ГЛУХО *прысл.* Усутыч, без прамежкаў. *Кóлісь наглухо садзілі картóплі, кідалі радóк поўз радок.* Запясочча.

НА'ГЛЫ *прым.* 1. Вялікі, высокі. *Нáглы порóс лён.* Запясочча. *Наглы горшчóк на кáшу.* Крэмна. *Наглые такіе зýбы, бы боронá.* Бярэжцы. Вялізны, агромністы. *То буў кожушок нáглый, мо з поўпýда важыў.* Тураў. 2. Нахабны (новае?). *Нічóго от его не ўцечэ, такі ўжэ наглы чоловек.* Верасніца. △ Н á г л э л і х о. Раптоўная вялікая бяда, гора. *Хай на ёго наглэ ліхо нáйдзе!* Старажоўцы.

НАГЛЫТА'ЦЦА *зак.* Наглытацца. *Вутва наглытáецца п'яўг, пóўненьке волé!* Запясочча.

НА'ГЛЯД *м.* △ Н á г л я д у н е м а. Пра вельмі прыгожае. *У гóродзе усе такóе хорóшэ, шо й нáгляду нема!* М. Малешава.

НАГНА'ЦЬ *зак.* 1. Дагнаць. *Собака котá нагоніць.* В. Малешава. *На, нагэні Сцёпіка і оддай!* Верасніца. *Ідзі скоро, то бедý нагенéш, ідзі помáлу, то бедá цебе нагенé* (прымаўка). М. Малешава. 2. Нагнаць, наперці. *Смáгу нагнало.* Запясочча. *Мах бакýлу нажэнé на той берозі, не разоб'еш.* Мачуль.

НАГНЕ'ВАЦЬ *зак.* Пакрыўдзіць. *От коб ву не нагнéвалі да далі картóплі мне.* Кароцічы.

НАГНЁТ *м.* Цяжар, груз для прыціскання. *Положы под нагнёт, хай отцечэ сыр.* Старажоўцы. *Немцы борóны з нагнётом пускалі по дорозі* (каб выявіць міны). В. Малешава. Прыгнёт, уціск. *Мы под нагнётом панóў дваццаць год жылі.* В. Малешава.

НАГНУ'ТЫ *прым.* Нагнуты, нахілены. *Я нагнýта була да розогнýласа.* Хачэнь.

НАГНУ'ЦЦА *зак.* Нагнуцца. *Ані нагнуцца, ані розогнуцца!* Цераблічы. *Вона нагнуласа піць вóду, а тэ дзіцяʹ і ўпáло.* Бярэжцы.

НАГНУ'ЦЬ *зак.* Нагнуць, нахіліць. *Вон засéк берэзіну да нагнýў еé.* Хачэнь.

НАГНЮСІ'ЦЬ *зак.* Напаскудзіць. *Вона нагнюсіла, то нехай прыбірáе.* Мачуль. *За тое, шчо вон нагнюсіў пáну, мы емý одступілі тую зéмлю.* Там жа.

НАГОВА'РВАЦЦА *незак.* Дамаўляцца, згаворвацца.

*Наговарваюцца: ты — вішня, а я — сліва, когó берэш?* (пра падзел на каманды для гульні). Запясочча.

НАГОВА'РВАЦЬ *незак.* Нагаворваць, паклёпнічаць. *Бувае, і ў нас бабý наговарваюць.* Пагост.

НАГОДОВА'ЦЦА *зак.* Нарасці. *Нагодовалосо людзей пóўно.* Аздамічы. *Жýлікоў нагодовáлосо.* Хільчыцы.

НАГОДОВА'ЦЬ *зак.* Дагледзець. *Прынеслá воды́, нагодовáла свінéй дай пошлá.* Тураў.

НАГО'ЛО *прысл.* Дагала. *Ек, к прымéру, моя хата горыць, то сусéдка роздзеéцца нагóло, берэ соль і хлеб да бежыць кругóм своé хáты, шчоб ее хáта не згорэла; так кóлісь робілі.* Хачэнь.

НАГОЛОБО'СКУ, НАГОЛОБУ'ЗКУ *прысл.* Набасанож, на голую нагу. *Наголобоску обýта.* Сямурадцы. *Наголобузку не ходзі да наложы́ онýчы.* Луткі.

НАГОМОНІ'ЦЬ *зак.* Накрычаць, насварыцца. *Нагомоню на своró, то пóйдзе і прынесе, а так — то нé.* Бярэжцы.

НАГОНІ'ЦЬ *зак.* 1. Дагнаць, дасягнуць. *Во я нагоніла до чого: за п'яць мінют подоіла корóву.* В. Малешава. 2. Нагнаць. *От попоспаў, аж бáнькі нагоніло под очы́ма.* Сямігосцічы.

НАГОНЯ'ЦЬ *незак.* 1. Наганяць. *Нагоня́е вéцёр вáлы, бóязно перэезжаць.* Пагост. 2. Даганяць. *Нагоня́е малэ́ мáцер, хочэ по ягоды з éю.* Там жа. △ Н а г о н я́ ц ь н é м ц а. Двойчы біць па пáлачцы пры гульні *ў балан-ты.* Аздамічы.

НАГО'РТАЦЬ *незак.* Насыпаць. *Нагóрталі шлях машынамі.* Пагост.

НА'ГОРЭ *прысл.* △ Н á г о р э і н á п у с т о. Пра неабдуманыя паводзіны. *От нагорэ тобе і напусто побегла ужэ́!* Запясочча.

НАГОРЭЧЫ'ЦЬ *зак.* Распаліць, разагнаць. *Нагорэчыў коня́ да ў бýхту ўпёр — вон і потáў.* В. Малешава.

НАГРАДЗІ'ЦЬ *зак.* Узнагародзіць, багата заплаціць. *Вýгадала цыгáнка, шо век свой не хворэ́ціму, то наградзіў ее чырвóнцэм.* Пагост.

НАГРАЗІ'ЦЬ *зак.* Нарабіць гразі. *Дождж ішоў, мо наразіло на ýліцэ?* Луткі. *Пошлі дождж́ы да награзіло пóўно.* В. Малешава.

НАГРОЗІ'ЦЬ *зак.* Пабіць, правучыць. *Нагрозіла кулаком по плéчах, ек у гурках своіх поймáла.* Пагост.

НАГРОМІ'ЦЬ *зак. экспр.* Набраць, накласці звыш

меры. *Нагроміла пóўну сетку хлéба, чуць несé.* М. Малешава.

НАГРУ'ДНІК *м.* Нашыўка на адзенні спераду. *Кабат з одным нагрудніком, а е кабат і з двума нагрудніками.* Цераблічы.

НАГРЫ'МАЦЦА *зак. экспр.* Набрацца, напіцца. *Нагрымайса б і вон, да немá за шчо!* Дварэц.

НАГРЫ'МАЦЬ *зак. экспр.* Набіць, надаваць грымакоў. *Нагрымае мене сестра і отправіць, а сама дáлей гуляе.* Хачэнь.

НАГРЭ'ЦЬ *зак.* Нагрэць. *Нагрэе воды́, да ў ночóўкі, да і помýецца.* Хачэнь.

НАГРЭ'ЧЫЦЬ *зак.* Нагаварыць. *Людзі нагрэ́чылі, шчо гультáй да лóдар.* Пагост.

НАГУЛЯ'ЦЬ *зак.* Прыдбаць, гуляючы. *Вон нагуля́ны у ее, нагуля́ла байструкá.* М. Малешава.

НАГУРГУЛІ'ЦЦА *зак. экспр.* Наставіцца, натапырыцца. Мачуль.

НАГУШЧА'ЦЬ *зак.* Зрабіцца густым, цвёрдым. *Картоплі не нагушчаюць, бо пóзно сéюцца.* Сямурадцы.

НАГУ'ШЧВАЦЬ *незак.* Гусцець, рабіцца густым. *Крупнік нагушчвае хутко.* Сямурадцы.

НАД *прыназ.* 1. Над, па-над. *Когда ласточкі летáюць нізко над землéй, то будзе дождж.* Сямігосцічы. *Дуб стояў над самой водою.* Сямурадцы. *Нас було чотырох, над намі буў старэ́йшы одзін.* Луткі. *Над місочку рýкі дзержы́, шоб кáпала водá ў місочку.* М. Малешава. 2. На. *Над сонцэ надышоў пóхмарок.* Рычоў. *Над рэку ходзілі гледзець, як шатвá йдзе.* Пагост. 3. За, ад (у параўнанні). *Нема над лінкá смашнейшой рыбы!* Луткі. *Над вóду нема нічого крэпчэйшого.* Старажоўцы. *Над чоловека нема здоровейшэ звéра.* Хільчыцы.

НАДАВА'ЦЬ *зак.* Надаваць. *Надавалі багáзно на меніны.* Дварэц. *Воны б, дурные, надавáлі б ей у горб, у горб!* Хачэнь. △ Л у п а к ó ў н а д а в а ц ь. Налупцаваць. Альшаны. Ш т у р х а н ó ў н а д а в а ц ь. Набіць, нападдаваць. *За кóсы рвáла, штурханóў ногóю надавала.* Чэрнічы.

НАДА'РМО *прысл.* Дарэмна, упустую. *Дзяцей не годовай — надармо жыў, вонэ́ так.* Пагост.

НАДАРЫ'ЦЦА *зак.* Надарыцца, надавацца. *Усім не надорышса на запóінах, то небагáто й зовýць, роднéйшых которых.* Пагост.

НАДБА'ЦЬ *зак.* Назбіраць, намножыць. *Надбаў тысяч, а ў кухайцы ходзіць.* Пагост.

НАДБО'ЛЬШЭЙ *прысл.* Найбольш. *Подмуваe надбольшэй коло мóста.* Старажоўцы.

НАДВЕ'ЧО'Р, НАДВЕЧЭРЭ' *прысл.* Пад вечар, надвячоркам. *Надвéчор, на зóрі прышоў.* Хотамель. *Залезе кот надвечóр да цегáе тых шпачкóў.* Цераблічы. *Сóўнейко показáлосо надвечэрэ́.* Кароцічы.

НАДВЕЧО'РОК *м.* Надвячорак, прыцемкі. *Ек надвечорок, то холодáе, а дожджý немá.* Лyткі.

НА'ДВОЕ *прысл.* Папалам, на дзве часткі. *Чóўна перэбíў перэхóд надвое, нáпол.* Запясочча. *Поперэрэ́звала надвое картóплі, а которые і нáтрое.* Кароцічы. *Перан.* Надвае. *Надвое не удáсца, трэба одно вубірáць.* Аздамічы.

НАДВО'Р *прысл.* Вонкі. *Пóйдом надвор з хаткі.* Бярэжцы.

НАДВО'Р'Е *н.* 1. Надвор'е. *Мо то надвор'е перэмéніцца, косці мое боляць.* Пагост. 2. Стул. *Ужэ два дні не було надвор'я.* Сямігосцічы.

НАДВО'РНІК *м.* Надворны кабан. Аздамічы.

НАДВО'РНЫ *прым.* Неадкормлены, худы (пра свіней). Аздамічы. Які гадуецца не ў хляве (пра свіней). *Бéгае, бу надвóрна свінья, без тóлку.* Запясочча.

НАД'Е'ХАЦЬ *зак.* Пад'ехаць, наведаць. *Нема колі над'ехаць до брата, поглeдзець, што вон робіць.* М. Малешава.

НАДЖЫГО'РЫЦЬ *зак.* Наджгаць, накусаць (пра камароў, пчол). *От наджыгóрылі пчóлы!* Аздамічы.

НАДЗЕ'ВАНКА *ж.* Начыненая, фаршыраваная рыба. *Надзéванку робілі з кожýшок.* Чэрнічы.

НАДЗЕ'ВА'НЫ *дзеепрым.* Начынены, фаршыраваны. *Надзевáна така рыба, веліка, хорóша!* Хачэнь. *Будзе надзéвана рыба на вечэ́ру.* Старажоўцы.

НАДЗЕВА'НЬЕ *н.* Начынка, фаршыраванне. *Курáчэ м'ясо хто берэ да тушкýе, а хто надеванье рóбіть, да ў чыгýн, да ў печ.* Альпень.

НАДЗЕВА'ЦЬ *незак.* Начыняць, фаршыраваць. *Котóра спрытна да надзéне, начыніць того кожýшка, то смáшнэ.* В. Малешава. *Надзевáлі кáчок — коржа стоўчэ́, м'яса накрýціць.* Мачуль. Набіваць, напіхваць. *Помыюць водóй кішкі і надзевáюць.* Мачуль.

НАДЗЕВЕЛІ'ЦЬ *зак. экспр.* Нагаварыць. *Унучка прышла да надзевеліла поўну хату!* Цераблічы.

НАДЗЕ'ЕЦЦА *незак.* Спадзявацца, разлічваць. *Сілно страўлены кот, му не надзееліс, шо вон останецца.* Пагост.

НАДЗЕ'Л *м.* Надзел, участак зямлі (даўняя мера — 24 дзесяціны). *Надзел — это чэтыры чвэрткі.* Аздамічы.

НАДЗЕЛІ'ЦЬ *зак.* Надзяліць. *Чым ты чоловека надзеліў?* В. Малешава.

НАДЗЕ'РЦІ *зак.* Надраць, надзерці. *Азяў да надзёр того ліпніку.* Мачуль. *Цэліны надзёр Паўло на просо.* Луткі. *Крупы у мліну надзеруць да на год і е.* Луткі.

НАДЗЕ'ТЫ *дзеепрым.* Начынены, нафаршыраваны. В. Малешава.

НАДЗЕ'ЦЬ *зак.* Начыніць, нафаршыраваць. *От хорошы кожушок, надзець его — то на дзень еды було б!* Хачэнь.

НАДЗЕ'Я *ж.* Надзея, спадзяванне. *У мене е надзея, шо вон поправіцца.* Старажоўцы. *Нема надзеі, шо перэстане дождж.* Аздамічы.

НАДЗІВІ'ЦЬ *зак.* Здзівіць. *Надзівіў ты іх там, наробіў дзіва!* Луткі.

НАДЗІ'МУ *прысл.* Позняй восенню. *Надзіму холодно, то свеціць і грэць трэба.* Кароцічы.

НА'ДЗІЦЦА *незак.* Спадзявацца, чакаць. *Я шчэ не надзіласа, шчо воны так скоро вужэнуць.* Луткі. *Я на некого буду надзіцца? Я сам зроблю!* М. Малешава. *Не надзіласа я, шо так доўго жыць буду.* В. Малешава.

НАДЗЮ'ЖЫЦЦА *зак.* Абмачыцца. Бярэжцы.

НАДЛІ'ЦЬ *зак.* Адліць. *Пій, пій тэ піво, да ўжэ гледжу, коб куды ёго надліць.* Цераблічы.

НАДНО'ШЭНЫ *прым.* Паношаны, стараваты. *Вон трошкі буў надношоны.* Сямурадцы.

НАДОБЕ'НЬ? Слова з няясным сэнсам у традыцыйнай формуле сватання. Хотамель.

Паводле апавяданняў, калісьці існаваў звычай самастойнага (без сватоў) сватання жаніха да нявесты. Жаніх ідзе з вязкай лапцей за плячыма, падыходзіць пад акно хаты маладой і пытаецца: *Надобень толобень? А як недоўбень, то я дале подоўбень.* Хотамель.

НАДОГА'Д *прысл.* Наўгад. *Я надогад сказала, а воно вышло напраўду.* Луткі.

НАДОДЗЕВА'ЦЦА *незак.* Дакучаць, чапляцца. *Ста-*

*лі людзі просто надодзевацца, што дзецей нема.* Запясочча.

НАДОДЗЕВА'ЦЬ *незак.* Надакучваць. *Надодзевае і молодым за дзень ходзіць за товаром.* Мачуль.

НАДОДЗЕ'ЦЬ *зак.* Надаесці, абрыднуць. *До того ўге надодзело, больш не могу.* Альшаны. *І ехаць надодзее, ато шчэ іці ногамі!* Хотамель. *Як тобе не надодзене лежаць дзень і ноч?* М. Малешава. *Годзі плакаў, надодзеў, дай спаць!* Кароцічы.

НАДОЕ'СЦІ *зак.* Тое ж. *Надоесць нося да ходзя.* Запясочча. *Ты ўжэ надоела мне, як та жоўна, жоўнаеш і жоўнаеш!* Старажоўцы.

НАДОКУ'ЧЫЦЬ *зак.* Тое ж. *Як ты мне надокучыла!* Луткі.

НАДОЛУ'ЖВАЦЬ *незак.* Надбаўляць, дапамагаць пакрыць нястачу. *Усе я надолужваю. Вон знае, шо маці надолужыць, еслі не хватае.* М. Малешава. Забяспечваць. *Я его надолужвала і рубашочкамі, і чоботочкамі.* Мачуль.

НАДОЛУ'ЖЫЦЬ *зак.* Надбавіць, задаволіць патрэбу. *Надолужыў — зробіў добаўку робоце.* Мачуль.

НАДОМОХІ' *прысл.* Мудрагеліста, алегарычна. *Ніколі вон прамо не говорыц, а ўсе надомохі.* Тураў.

НАДОРВА'ЦЦА *зак.* Надарвацца, падарвацца. *Надорваўса да ёнку наробіў на ўсе село.* Верасніца.

НА'ДО'СЕНЬ *прысл.* 1. Пад восень, ранняй восенню. *Надосень вон прыехаў.* Запясочча. *Було надосень так, ек вон ўмёр.* Чэрнічы. 2 *ж.* Першая палова восені. *На глыбокую надосень воно з'едаецца не короўмі, то коньмі.* Старажоўцы.

НА'ДОЎБ *м.* Асталоп, неразумны (звычайна ў параўнанні). *Стоіць, як надоўб!* Старажоўцы.

НА'ДОЎБЕНЬ *м.* 1. Дэталь у санях, планка паверх намарзняў. Луткі. 2. Асталоп, неразумны. *А шчо ж ты стояла, як надоўбень, трэба ж було казаць шчо!* Старажоўцы. *Чого ты крычыш, як той надоўбень?* Там жа. Бесталковы чалавек. *Надоўбень прыехаў, нічого не ўмее.* М. Малешава.

НА'ДОЎБНЯ *ж.* Планка, якая накладаецца наверх намарзняў (у санях). Хотамель.

НА'ДОЎГО *прысл.* Надоўга. *А ву надоўго прыехалі?* Хачэнь. *Коўбасы мо коліcь не робілі надоўго?* Верасніца.

НАДОЎЖКІ′ *прысл.* У даўжыню, даўжынёй. *Іклы у нéўкоторого кобана, як од этой нож надоўжкі.* Луткі.

НАДО′ЎЖЫЦЬ *зак.* Пабаранаваць раллю перад сяўбой. *Надоўжыць поле под насéнье, кажуць, як зорýць і по рáзу прóйдзе боронóю.* Луткі. *Надóўжыў, а потóм сеяў.* Рамель.

НАДРА′ЦЬ *зак.* Надраць, наабдзіраць. *Той надраў лозы́ дай пошóў.* Старажоўцы.

НАДРЭ′ГАЦЬ, НАДРЭ′КАЦЬ *зак.* Нашкодзіць. *Нам надрэ́галі рубэ́льцы, покуплялі блізко Семігóшч паньску зéмлю.* Нагаварыць абы-чаго. *Дóбрэ вон мне надрэкаў, нема шчо!* М. Малешава.

НАДСО′ХЛЫ *прым.* Падсохлы, трохі ўсохлы. *Надсóхлое ейцэ́* (пра яйцо з вялікім паветраным пузыром). М. Малешава.

НА′ДСЫР *прысл.* У сыраватым выглядзе. *Нáдсыр покачáе качáлкою, то аж блісціць сорочка!* М. Малешава. Усмятку. *Надсыр зварыў ейцэ́.* Аздамічы.

НА′ДТО *прысл.* Надта. *Хвост у сомá нáдто смáшны — сало однэ́, як у кобанá.* Старажоўцы. *Нáдто розумны!* Аздамічы.

НАДТО′ЧВАЦЬ *незак.* Надточваць, прышываць. *Осень надтóчвае нóчы.* Запясочча.

НАДУВА′НЧЫК *м.* Адуванчык. Старажоўцы.

НАДУКОВА′ЦЬ *зак.* Унушыць, настроіць. *Надуковаў чоловека, шо вон горы́ць іці ў рыбу.* Мачуль. Выхаваць, навучыць. *Надуковаць ёгó ніякі чорт ужэ не надукуе.* Старажоўцы.

НАДУ′ЛЬВАЦЬ *незак.* Надзімаць. *Гýбкі не надульвай!* Сямігосцічы.

НАДУ′МАЦЦА *зак.* Надумацца, задумаць. *І шо вон надýмаўса, эты самы меншы брат?* Кароцічы. Сабрацца з думкамі. *Я от надумаюса і роскажу вам про войну.* Пагост.

НАДУ′МАЦЬ *зак.* Задумаць, прыдумаць. *Вýпеку, шчо надумала, і не дбаю, ці будуць есці, ці не.* Бярэжцы.

НАДУМБА′ШЫЦЦА *зак.* Нахмарыцца. *Дождж будзе — небо надумбашылосо.* Луткі.

НАДУ′ЦЦА *зак.* Надзьмуцца, *перан.* зазлавацць, пакрыўдзіцца. *Надýнецца жаба і седзіць на кýпіне.* Сямігосцічы. *Седзіць, надýнуўса, да на еé позірае.* В. Малешава. *Надуўса, як муш на крупý* (прымаўка). Бярэжцы.

НАДУ'ЦЬ *зак.* Надзьмуць. *Пузыр хлопцы надўнуць і гуляюць.* Сямігосцічы.

НАДХО'ДЗІЦЬ *незак.* Заходзіць час ад часу. *Попросі, коб воны надходзілі ў больніцу.* В. Малешава.

НАДХОРО'ШЫ *прым.* Найлепшы. *Самэ надхорошэ сено на грудку́.* Хотамель.

НАЕ'ДЗЕНЫ *прым.* Сыты, пад'еты. *Тут комарэ́ наедзеные — людзей много!* Сямігосцічы. *Кругом подралі, але хай дзеруць, мое коровы наедзеные.* Хачэнь.

НА'ЕДЗЬ *ж.* 1. Наедзь, камень на зубах у каня. *Наедзі наеў конь, трэба поодпільваць.* Аздамічы. 2 *мн.* Жалвакі ў сале пад скіміцамі ў свіней. *Сало з наедзямі, бу квасолькі ў ім.* Запясочча.

НАЕ'ДНЫ *прым.* Сыты, пад'еты. *Старые усе наедные, усе напітные, і ў старцы не йдуць.* Хотамель. *Цепер людзі наеднейшые да одзетнейшые.* Цераблічы.

НАЕ'ДОК *м.* Наедак. *Ці гэто наедок коню на етой грэдзе?* Дварэц.

НАЕЖДЖА'ЛЫ *прым.* Наезджы. *Наеждж́алые людзі ў посёлкі поселіліса.* Сямігосцічы.

НАЕЖДЖА'ЦЬ *незак.* Насоўвацца (пра хмару). *Нешчо наеждж́ае, хмарыць.* Сямігосцічы. *Хмара вўступіла, наеждж́ае.* Лутк і.

НАЕ'ЖДЖЫ *прым.* Наезджы, не мясцовы. *Вон сам не рычовец, вон наеждж́ы.* Хачэнь. *Наежчы вон буў з Волыні, да не ўжыўса тут.* Луткі.

НАЕ'ЖЫЦЦА *зак.* Наставіць хіб, ашчацініцца, зазлавацць. *Наежыўса, ек собака.* Луткі. *Кот наежыўса, і собака стоіць, не ворушыцца.* Там жа. *Чого ты так наежыўса?* М. Малешава.

НАЕ'СЦІСА *зак.* Наесціся. *От спасна корова, наелаca хорошэ.* Запясочча. *Наемоса, шчо жывот боліць.* Альшаны. *Коб наеўса добра, то б напіўса з ведра* (прымаўка). Сямурадцы. *Наеўса як бык, а кішка як смык* (прымаўка). Чэрнічы.

НАЕ'ХАЦЬ *зак.* Наехаць. Верасніца. Насунуцца. *Сонцэ, а дале зноў наедзе хмара.* Луткі.

НА'ЖА *ж.* Удача. *На езі нема нажы, не ловяцца.* Дварэц. *Велікая нажа ў того, хто находжае рыбы кош.* Цераблічы. *Эх і нажа сено, мякке, ек шоўк!* Пагост.

НАЖА'РЫЦЬ *зак.* Напячы, накусаць. *Мошкі налезуць да нажарaць ногі.* Сямурадцы.

НАЖА'ЦЬ *зак.* Нажаць. *Я серпа озьму да трохі*

*боцьвінья нажнў да накрышў, то воны поедзяць.* В. Малешава. *Прокóп нажáў сто коп* (прыгаворка пра слабага работніка, пра хвалька). Верасніца.

НАЖЛУ'КЦІЦЦА *зак.* Напіцца празмерна. *Ужэ нажлукціўса: не трэба ёму ні дзéці, ні жонка, ні хата.* Верасніца.

НАЖОВА'ЦЬ *зак.* Нажаваць. *Добру гомўлку нажоваў і даў дзіцяці.* Бярэжцы.

НАЖОЛУПА'ЦЦА *зак.* Наглытацца не жаваўшы. *Ніхто так не нажолупáецца, ек та вўтва.* Верасніца.

НАЖРА'ЦЦА *зак. груб.* Наесціся, напіцца празмерна. *Нажраласа, як свіня брáгі.* М. Малешава. *Нажрэцца вон тоé горэлкі до бешчўствія!* Луткі.

НАЖЫ'ВА *ж.* 1. Нажыва, лёгкі набытак. *Нажыва — это я ўродзе нажыўса, ухопіў дзе.* Старажоўцы. 2. Прынада; жывец. *Гэто дóбра нажыва для сомá.* Сямігосцічы.

НАЖЫВА'ЦЬ *незак.* Нажываць, заводзіць. *Колі ту сем'ю будзеш нажывáц?* Запясочча.

НАЖЫ'М *м.* Цяжкасці, нястача. *Нажым у нас зарэ з грошыма, на сынове веселле потрáта веліка була.* Пагост. *Тогды буў нажым з хлебом.* Кароцічы.

НАЖЫРОВА'ЦЦА *зак.* Накарміцца, наесціся. *От нажыровáласа, ледзь ідзе.* Сямігосцічы.

НАЖЫ'ЦЦА *зак.* 1. Нажыцца, доўга пажыць. *Як дóбрэ, то нажывесса, а як гóрэ, то наплáчэсса.* Старажоўцы. 2. Нажыцца, лёгка ўзбагаціцца. *Вон прыéхаў только нажыцца тут, а не людзéй лечыць.* Старажоўцы. 3. Прыдбацца, паступова з'явіцца. *Усе нажылóса, а сем'і немá.* Хотамель.

НАЖЫ'ЦЬ *зак.* Прыдбаць. *Ек чоловек жывў, то ўсе нажыве.* Кароцічы. *Вон нажыве тую спецыяльносць, вона ёму ні к чомў, які вон доктор!* Сямурадцы. *Нажыў прыяцеля.* Бярэжцы.

НАЖЭ'РЦІСА *зак. груб.* Наесціся, напіцца празмерна. *Корова на одном месці нажэрласа травы.* Цераблічы. *Стараецца нажэрціса каждую недзелю і хóдзіць по селў.* М. Малешава.

НАЗАВЯ'ЗВАЦЦА *зак.* Назавязвацца (пра гародніну і садавіну). *Картопляў назавязваецца, будзе валóм.* Хачэнь.

НАЗА'Д *прысл.* Назад, узад. *Назад попхні вóза.* Аздамічы. Да сябе, на сваё ранейшае месца. *Побуў два гóды і назад прыехаў.* Луткі. *Я, мабуць, поéду назад от-*

*сюль.* М. Малешава. *Ужэ воны на весне̂ забралі назад ту корову.* Кароцічы. У адваротным кірунку. *Днёў тры постоіць да пойдзе назад дзень.* Дварэц. *Ходзіў у Рэмель і назад і нідзе̂ нікого.* Мачуль. △ Тому наза́д (годоў і інш.). Пра канкрэтны тэрмін у мінулым. *Годоў тры-чотыры тому назад то була́ сушына́.* Аздамічы.

НАЗАДУ′ *прысл.* Ззаду, адзаду. *Начэпляем назаду і наперэдў тых дзецей, ек много, і пошлі ў поле.* Луткі.

НАЗА′ЎТРА, НАЗА′ЎТРО, НАЗА′ЎТРЭЙ *прысл.* Назаўтра, на наступны дзень. *Наза́ўтра.* Запясочча. *Назаўтрэй ўялы хо́дзіш.* М. Малешава. △ Як наза́ўтро (ісці). Вельмі павольна (ісці). Цераблічы.

НАЗБЕ′Г *прысл.* На спад, у бок сцёку вады. *Рыба пошла за водою, назбег.* Аздамічы.

НАЗБІ′РАТЫ *дзеепрым.* Назбіраны. *Назбіратые поўные кошэ̂ яблук стояць.* Хачэнь.

НАЗБІРА′ЦЬ *зак.* Назбіраць. *Ідзі под пове́ць та на дрово́тні назбірай трэсо́к.* М. Малешава. *Ца́лы кошэ̂ль еёц назбіраеш.* Сямігосцічы. *Гэ̂тых пріќме́тоў можно много назбіраць!* Альшаны.

НА′ЗВА *ж.* Назва, найменне. *Шо ўсёмў трэба? — Назва ка́жному трэба.* М. Малешава.

НАЗВА′НЬЕ, НАЗВА′НІЕ, НАЗЫВА′НЬЕ *н.* Тое ж. *Бабка — есць таке̂ названье для грыбоў.* Дварэц. *Названіе Яцель о́зеро було.* Луткі. *У нас соро́чка, а ў селя́н соколка, у іх называ́ньe таке.* Запясочча.

НА′ЗВІШЧЭ *н.* Тое ж. *Таке мае на́звішчэ ку́чка.* В. Малешава.

НАЗВОРО′Т *прысл.* Спосаб ткання на кроснах. *Назворот накіда́лі — пэрэме́ніць одну кобу́лку да зробіцца назварот — і ткуць у хво́йкі.* Верасніца. *Назворот ткуць ўціра́льнікі ў ёлочку.* Там жа.

НАЗГОТО′ВЕ *прысл.* Напагатове, у чаканні. *Ве́цер ша́мне, і конь ужэ назготове.* Цераблічы.

НАЗДАВА′ЦЬ *зак.* Наздаваць, здаць многа. *Наздавалі я́год.* Бярэжцы.

НАЗДЗІВОВА′ЦЦА *зак.* Надзівіцца. *Ужэ мой брат не наздзівоваўса, як вон сто́лькі прынёс.* Пагост.

НАЗЗЫВА′ЦЬ *зак.* Наззываць, склікаць. *Молоды́ наззывае хло́пцоў да п'юць.* Луткі.

НА′ЗІРКОМ *прысл.* Следам, не выпускаючы з поля зроку. *Назіркoм пошоў за ею да наследзіў, куды пошла.* Луткі. *На боло́ньі дзіка гуска назіpком ходзіла* (за

свойскімі гусямі). Старажоўцы. *Назіркoм бежыць собака.* Аздамічы.

НАЗЛІВА'ЦЬ *зак.* Назліваць. *Назлівала пóўно ведро.* Сямурадцы.

НАЗНАКОВА'ЦЬ *зак.* Пазначыць, зрабіць метку. *Назнакуй своé вуценята.* Аздамічы. *Хай назнакуе цётка свінку, я куплю.* Запясочча. *Прыкмету яку кладом, мох які, назнакýем.* Хачэнь. Вызначыць. *По етых кóлесах* (па слядах шын) *назнакýюць, куды поехалі.* Запясочча.

НАЗНАРО'К *прысл.* Знарок, спецыяльна. *Наўмысне, назнарок давалі нізко, шчоб не поросло́, а поросло лéпей, як у іх на сýсе.* Бярэжцы. *То ж назнарок ходзіла ў горóд і вýрвала той м'якіш.* Чэрнічы. *Я зробіла назнарок подýшку дóбру, можэ дóчка прыедзе з чоловéком.* В. Малешава.

НАЗНАРО'ЧНЕ, НАЗНАРО'ЧНО *прысл.* Тое ж. *Прыéхаў назнорóчне сюдá, коб вас побачыць.* Старажоўцы. *Назнорочно не пойду до его.* Цераблічы. *Воно назнарочно так зрóблено.* Там жа.

НАЗНАЧА'ЦЬ *незак.* Вызначаць, устанаўліваць. *Е Юрэй осéнні і весняны́, вон хозяін воўкáм, вон назначáе, дзе кому шчо з'есці.* Луткі.

НАЗНА'ЧЫЦЬ *зак.* Пазначыць. *Подпішы́, назнач мéшкі!* Сямігосцічы.

НАЗНО'СІЦЬ *зак.* Напрыносіць у адно месца. *Там багато назнóсілі, усе людзі зносілі кýры тые.* Хачэнь.

НАЗО'ЛА *м.* і *ж.* Назола, надакучлівы чалавек. *Ек ужэ коло его́, то сокóчэ ек кýра, назола éта.* Пагост.

НАЗОЛЯ'ЦЬ *незак.* Назаляць, дапякаць. *Нічóгі вон, нáгле назоляць стаў.* Хотамель. △Н а з о л я́ц ь н а с é р ц э (н а д ý ш у). Трывожыць у непадыходзячы час. *Не назоляй ты мне на серцэ, шчо ты мне назоляеш?!* Сямігосцічы. *Назоляеш на душу, перэедаеш мене, мо хваціць ужэ?* Луткі.

НАЗОЛЯ'ЦЦА *незак.* Тое ж. *І так назоляецца на моé сэ́рцэ! Хоць ты ужэ не назоля́й мне!* Сямігосцічы.

НАЗОПА'СІЦЬ *зак.* Нарыхтаваць. *Кошéль лучы́ны назопáсім да попалім за вéчор.* Запясочча.

НАЗРЫВА'ЦЬ *зак.* Нарваць. *Бывае, много цецéўя назрываюць да сухім накрывáюць шýру картóплёў.* Сямігосцічы.

НАЗУ'БВАЦЦА *незак.* Пачаць прарастаць, выходзіць на свет. *Ужэ сталі назубвацца пáросткі.* Бярэжцы.

НАЗУ'БІ'ЦЦА *зак.* Прарасці, наклюнуцца. *Картоплі назу́біліса.* Чэрнічы. *Назубіліса пу́пахі на вербе́, ужэ хутко розпу́кнуцца.* Старажоўцы. Толькі ўзысці, ускочыць (пра пасеянае збожжа). *Назубілосо жы́то, чырвоне́е.* Запясочча.

НАЗУБІ'ЦЬ *зак.* Назубіць. *Назубіць трэ серпа́.* Аздамічы.

НАЗУ'БЛЕНЫ *прым.* Прарослы, з парасткамі. *Нашы картоплі назубленые ўсе булі, але не поўзыхо́дзілі.* Чэрнічы.

НАЗУ'БРЫВАЦЦА *незак.* Вытыркацца з коласа (пра зерне). *Поставяць снопу́ к со́ўнейку, так жы́то назубрываецца, поўтыка́ецца з колоска́.* Цераблічы.

НАЗУСІ'М *прысл.* Назаўсёды. *Вон поедзе назусі́м на жы́цельство до ее́.* М. Малешава.

НАЗУСТРЭ'Т *прысл.* Насустрач. *Назустрэт корову́, да по-короўя́чому йдуць, помалу.* Пагост.

НАЗЫВА'ЦЬ, НАЗОВА'ЦЬ *незак.* Называць, зваць. *За Берэжцамі е коло́дзезь, называ́юць Еўжын колодзезь, ці то вона ёго ошэ́рґала, ці шчо.* Старажоўцы. *Як зо́ры назова́юць?* Аздамічы. *Шля́хта перу́н называ́е гром, а ў нас гром, шо грэмі́ць.* Луткі.

НАЗЫ'РЫЦЦА *зак.* Напячыся, нагрэцца ад агню. *От огня зы́рко, назыріўса.* Альшаны.

НАЗЫ'РЫЦЬ *зак.* 1. Напаліць, нажарыць. *Я цепер так назы́рыла печ, шо от до до́.* Старажоўцы. 2 *перан. экспр.* Напячы, надзьмуць, набіць. *От назы́рыло ў мо́рду!* Запясочча. *У поты́ліцу назырыў ве́цёр.* Тураў. *Я тобе́ назы́ру, будзеш знаць!* Цераблічы.

НАЗЫ'ЧВАЦЬ *незак.* Раіць. *Назычваюць мне — схо́дзьцеса з ім да жыве́ць ладо́м.* М. Малешава.

НАЗЫ'ЧЫЦЬ *зак.* Нажадаць. *Вона назычыць, назычыць, коб так вам і так.* М. Малешава.

НАІСКО'СЬ *прысл.* Наўскасяк. *Наіскось по ездзе́ ехалі і цену́лі во́лока.* М. Малешава.

НАЙБО'ЛЬШ *прысл.* Найбольш. *Мацер шкоду́е найбольш свого́ дзіця́.* Луткі. *На горшка́ кладу́ць усе́, а кум кладзе найбольш.* Чэрнічы.

НАЙГЛЫ'БЕЙШЫ *прым.* Самы глыбокі, найглыбейшы. *Самэ глыбо́ке место, найглыбейшэ.* Аздамічы. *Дзе у вас найглыбейша рэка́?* Луткі.

НАЙГРА'НЫ *прым.* Аплоднены (пра яйцо). *Як пéвень е, то ейцэ́ найгра́нэ, воно́ по́ўнэ.* Мачуль.

НАЙДЗЁН *м.* Знайдыш, пазашлюбнае дзіця. *Сусе́дчын найдзён — розу́мнэ дзіця́, а тые прокі́ўнікі, байструке́ ў я́блука лазяць.* Лутві. *Найдзён вон, дай до́бро ма́цер шану́е.* Цераблічы. Падкідыш. *Як подкі́нуть дітя́, то воно́ найдён.* Альпень.

НАЙДЗЁНА *ж.* Тое ж (пра дзяўчынку). *Вона найдзёну одну мае на старосць.* Хотамель.

НАЙДЗЁННІК *м.* Тое ж (пра хлопчыка). Аздамічы.

НАЙДЗЁНОК *м.* Тое ж. Запясочча.

НАЙДЗЁНЫ *прым.* 1. Знойдзены. *Гэто найдзёна цацка.* Бярэжцы. 2 *субст. прым.* Пазашлюбнае дзіця. *Найдзёного прывела і до бацька прынесла́.* М. Малешава. △ Н а й д з ё н э  д з і ц я. Тое ж. *Гомоняць у селе́: найдзёнэ дзіця́ у тое́ молодзі́цы.* Сямурадцы.

НАЙЛУ'ЧШЭЙ *прысл.* Найлепш. *Як найлучшэй стара́ецца бе́гці.* Луткі.

НАЙМ *м.* Наём, найманне. *Не на́ймом, а толоко́ю робі́лі, то́локу собіра́лі.* Альшаны. △ У  н а́ й м ы  і с ц і. Наймацца ў парабкі, у служанкі. *Воны жылі, а бе́дные ішлі до іх у на́ймы.* Хільчыцы.

НАЙМА'ЦЦА *незак.* Наймацца. *Наймайса ў его слу́жыць, бо там до́бра харч.* Дварэц. *Това́р найма́ецца пасці до Міхайла.* Сямурадцы.

НАЙМА'ЦЬ *незак.* Наймаць. *Тру́дно з коро́вою: наймай чэ́ргу да то́рбу накладзі.* Запясочча. *Вон прыходзіць, вон найма́е нас — пяць злотых дае за подво́ду.* Кароцічы.

НАЙМЕНОВА'ЦЬ *зак.* Назваць, абазначыць. *Як заме́сіш це́сто, то садзі дзве пампу́шэчкі з ёго́. Одну найменуй: это будзе сынова, а гэто — неве́шчына.* Старажоўцы.

НАЙМЕ'НЬЕ *н.* Назва, абазначэнне. *У нас наймéньеў бога́то е* (пра назвы урочышчаў). Бярэжцы.

НА'ЙМІТ, НА'ЙМІТЫ *м.* Парабак, наёмны работнік. *У наймітóх усю жы́тку прослужы́ў.* Бярэжцы. *На́йміты.* Запясочча. *Наймаў наймі́ты, коб сгрэблі сено.* Аздамічы.

НА'ЙМІЧКА, НА'ЙМІТКА *ж.* Парабчанка, служанка. *Наймічка ў попа́ була, і па́рубок у его буў.* Пагост. *Дзе́цям ма́ці век на́ймічка* (прымаўка). Хачэнь. *На́ймітка.* Бярэжцы.

НАЙСА'МО *часц.* Звыш меры. *А ў нас найсамо хўжэй: ноч'ю булі парцізаны, а днём — немцы.* Бярэжцы.

НАЙСКОРЭ'Й *прысл.* Хутчэй за ўсё. *Конь само найскорэй почўе воўка.* Луткі.

НАЙХОРО'ШШЫ *прым.* Найлепшы. *У дзеўкі буў хорошы хлопец, а прыдбала шчэ найхорошшого, рум'яного!* Луткі.

НАЙЦІ' *зак.* 1. Найсці, прыйсці. *Дыму найшла поўна хата.* Сямігосцічы. *Мне і на голоў не найшло, шо воны там.* Запясочча. *Ой, божэ ж мой, шо ж мне трапіло, шо ж мне найшло!* Хачэнь. *Як найдзе много рыбы, то можно і рукамі браць.* Мачуль. *Страхоцце на дзядзька нашло.* Пагост. 2. Знайсці. *Трі дні шукалі, да нашлі трэйцего дня ўжэ перэд вечэром.* Бярэжцы. *Чорт іх мацер по этых картоплях найдзе тых курэй!* М. Малешава. З *перан.* Нарадзіць. *Узела ёго ў прымы — нашла дзевочку.* Там жа.

НАЙЦІ'СА *зак.* Знайсціся. *Два хлопцы найшлоса, шо ўбілі лося.* Старажоўцы. *По ніточцы і клубок найдзецца* (прымаўка). Верасніца. *Горэ само найдзецца, а долю шукай* (прымаўка). Пагост.

НАКАГА'ЛІЦЦА *зак.* Назбірацца, набрацца. *Накагалілосо ужэ поўно дзецей у селе.* Луткі.

НАКА'З *м.* Абвестка; апавяшчэнне. *Ідуць якіе пісьма або наказы про податкі, то прыносяць з пошты.* В. Малешава. *По ту богату сестру тройку пошлю, а по бедну сестру наказ пошлю* (з песні). Сямурадцы.

НАКАЗА'ЦЬ *зак.* 1. Наказаць, нарасказваць. *Нема дзеда, той накажэ казок багато.* Цераблічы. 2. Паведаміць праз каго-небудзь. *Я наказаў, шоб прышоў сын Іван на с'ято.* М. Малешава. *Накажыте, шоб прышлі на весельe.* Альпень.

НАКА'ЗВАЦЬ *незак.* Паведамляць праз каго-небудзь. *Наказвалі тры раз людзі, коб прышла.* Сямігосцічы.

НАКАЛІ'ЦЬ *зак.* Напэцкаць, нагадзіць. *Шчоб вона мне накаліла да я бўду ўбіраць?* Бярэжцы.

НАКАНУ'НІ *прысл.* Напярэдадні. *Наканунi жабу крумкалі, от і дождж пошоў.* Пагост.

НАКАРА'ЦЬ *зак.* Пакараць. *Поехала да накрічала да накарала.* М. Малешава. *Дзеўка ў іх, унўка згорэла — іх так бог накараў.* В. Малешава.

НАКА́РЫЦЬ *зак.* Моцна надаесці. *Так мне надоело, так накарыло, шо не знаю.* М. Малешава.

НАКА́Т *м.* 1. Насціл, рад насланых бярвёнаў. *Можно сказаць, шчо і на мосту накат.* Старажоўцы. *Гонка — одзін накат, а грэбёнка — накатоў два-тры.* Сямігосцічы. 2. Накочванне, накідванне. *Накат робіць клёком* (пры гульні ў *клёка* б'е зверху па кіях, якія ляжаць). Пагост.

НАКАЧА́ЦЬ *зак.* 1. Накруціць. *Накачала волосы на бігудзі.* В. Малешава. Нарабіць, качаючы. *Галюшкі з цеста, з картоплеў накачаюць, прыпекуць да ў молоко.* Цераблічы. *Папушок накачаю, то як мед пахне!* Дварэц. 2 *перан.* Навыводзіць. *От накачала муш мушэнят, поўно мушыне кубло, а коты кругом няўкаюць.* Луткі.

НАКА́ЧВАЦЦА *незак.* Накручвацца. *От так накачваецца на ту колодку трос, і пошло ўгору.* Дварэц.

НАКА́ЧВАЦЬ *незак.* Накручваць. *Накачвалі ніткі ў перэборы.* В. Малешава.

НАКВА́СІЦЦА *зак.* Набракнуць, намокнуць. *Кухайка наквасіцца на дождж̌ы.* Хільчыцы.

НАКВА́СІЦЬ *зак.* Наквасіць. *Наквасяць яблука да едзяць.* Хачэнь.

НАКЕЛЕ́ЦКАЦЬ *зак.* Наварыць абы-як. *Нечого накелецкала, шо і есці не хочэцца.* Кароцічы.

НАКЕ́ЎЗАЦЬ *зак.* Наквэцаць. *Узяў да накеўзаў на палец.* Пагост. *Колькі ты тут накеўзаў?* М. Малешава.

НАКІДА́ЦЦА *незак.* Час ад часу заходзіць. *Ты б почашчэй накідаўса до мене, а то некому й хату открыць.* М. Малешава.

НАКІ́ДАЦЬ *зак.* Накідаць, накласці. *Кажуць, шо ведзьма сорочку скідае да росу збірае, да з колодзезя воду збірае, дай жаб накідае поўну хату.* Старажоўцы. *Посоветовалі, шо трэба стоног у горэлку накідаць, то стане блёваць да кіне піць.* В. Малешава.

НАКІДА́ЦЬ *незак.* 1. Накідаць, навальваць. *Я шчэ накідаў тым мачэм гной.* Аздамічы. 2. Працягваць ніткі асновы праз ніт або берда. *Учора основала кросна, а цепер накідала.* Верасніца. *Як сяду накідаць кросна, так сон клоніць.* Цераблічы. *На ты ў бэрдо накідай, а я ў ніт!* Хотамель.

НАКІ́ДВАЦЬ *незак.* Працягваць пэўным чынам ніткі асновы праз ніт для ўтварэння ўзораў пры тканні. *Накідвалі ў хвоечку, у перэборы разнымі ніткамі.* В. Малешава.

НА′КІДОМ *прысл.* Навалам, не зважаючы ні на што. *Накідом накінуць лну да тры его.* Луткі. Гвалтам, прымусова. *Коб хто накідом накідаў, то шофёр не ўзяў.* Хачэнь. Сілком, насуперак жаданню. *Шчо гэто жонка накінулас на ёго накідом? Вон жэ ее сам собе вубіраў!* Луткі.

НАКІ′НУЦЬ *зак.* Накінуць, накласці зверху. *Воны накінулі мешка на соеў, коб не драпаласа, і рэшылі прывезці ў село.* В. Малешава. *Хустку накінь!* Пагост.

НАКІ′ПА *ж.* Навар, закраса. *Кідай з чэрвамі грыбў, накіпа будзе!* (жарт). Старажоўцы.

НАКІ′ПІНА *ж.* Тое ж. *Квасолю за накіпіну кідалі у куцью, квасоля — хороша накіпіна.* Цераблічы.

НАКІСА′ЦЬ *незак.* Набракаць, набірацца вільгаці. *Граб тане, у ім тоўста кора, вон накісае — і потаў.* Пагост.

НАКІ′СНУЦЬ *зак.* Набракнуць, набрацца вільгаці. *Накісло ў водзе бервено, не подняць.* Луткі. *У водзе дзерэво не гніе, накісне да гэ стоіць.* Мачуль.

НАКЛА′Д *м.* 1. Груз, які кладуць на барану, каб лепш баранавала. *Наклад трэ положыць на борону, шоб не подскаквала.* Аздамічы. 2. Накладная дошка, якая насцілаецца паверх дзвюх іншых у столі. *Застолічыў дошкамі, а накладамі закончыў.* Хотамель. 3. Н а к л а′д ы *мн.* Кляпы, барты. Кароцічы. 4. Страта. *Старцу село не наклад* (прымаўка). Сямігосцічы.

НАКЛА′ДАНКІ *мн.* Зложаныя ў некалькі разоў анучы, якія накладаліся са знешняга боку нагі, закручваліся анучамі з лапцей і аборамі (каб нага была *карачовата,* што лічылася прыгожым, *спрытным,* асабліва ў жанчын). Луткі.

НАКЛА′ДА′ЦЬ *незак.* 1. Накладваць, класці зверху. *Накладалі мох на гору.* Хотамель. 2. Надзяваць, абуваць. *Накладае на коня хомута.* Сямігосцічы. *Куды босіком пошла, накладай сандалікі.* Хотамель.

НАКЛА′ДВАЦЦА *незак.* Накладвацца, насцілацца. *Подузорнік накладваецца на ложок і звісае вон до долу.* Цераблічы.

НАКЛА′ДЗІЧ *м.* 1. Накладная дошка. *У столі дзве дошкі клаліса одна коло другое, а трэйцяя поверху — то накладзіч.* М. Малешава. 2. Дадатковы груз, які накладваўся на таўкач у нажной ступе. *Колісня ступа*

*ножная мае тоўкач, поперэчкі, сошкі, воська зелёзна, накладзіч.* М. Малешава.

НАКЛА'НЫ *дзеепрым.* Накладзены, закладзены. *Вўшкі ўжэ накланые. То на горо́дзі ў стожо́к зложыла сено.* Пагост.

НАКЛА'СЦІ *зак.* 1. Накласці, напоўніць. *Наклала капусты бочку.* Запясочча. Налажыць, наваліць. *Наклалі на воз, а воз як побег!* Пагост. 2. Адзець. *Спочатку о́бруць накладзі, а потом ужэ хамута надзевай.* Верасніца. *Накладзі соро́чку, не ходзі го́лы!* Луткі. *Накласті штаны кажуть, і платье накласті.* Альпень. 3. Пакласці, пракласці. *Наклалі на болоці грэблю.* Цераблічы. *Наклалі дорогу гусі по лену.* Там жа. 4. Раскласці, развесці (пра агонь). *Чому огню не накладзеш, мо дроў нема?* Цераблічы. *Да тые парцізаны наклалі огню, а немец побачыў да почаў стрэляць.* Пагост. 5 *перан.* Набіць, пабіць. *Не біцеса, я вам накладу, я вам дам!* Мачуль. △ Н а к л а с ц і г о л о в о ю. Загінуць, прапасці. *Коб ты наклала головою, гадоўка нешчасна!* (праклён). Пагост.

НАКЛА'СЦІСА *зак. экспр.* Наесціся, добра пад'есці. *От я наклаўса кашы!* Мачуль. *Накладуса сала, оно воду попіваю.* В. Малешава.

НАКЛЕПА'ЦЬ, НАКЛЯ'ПАЦЬ *зак. экспр.* Набіць. *О, я ему наклепаў, чуць домоў зайшоў!* М. Малешава. *Нешчо вон тро́хі накляпаў ее, набіў.* В. Малешава.

НАКЛЕ'ЎЗАЦЬ *зак.* 1. Напэцкаць. *О наклеўзала, понамазвала ўсюдэю!* Кароцічы. 2 *перан.* Наплявузгаць. *Бабу большэ наклеўзаюць, чым мужчыны.* Кароцічы.

НАКЛІКАЦЬ *зак.* Наклікаць, выклікаць. *Од пожару не ўбежыш, як воўка не наклічэш* (прыказка). Старажоўцы.

НАКОВЕ'СІЦЦА *зак.* Нахмурыцца. *Шчось-то наковесілоса, нешчо будзе дождж.* Сямігосцічы.

НАКОВЕ'СІЦЬ *зак.* Нахмурыць. *Шчо ты бро́ві наковесіў?* Сямігосцічы.

НАКОЗО'БІЦЦА *зак.* Надзьмуцца, насупіцца. *Надуўса, накозо́біўса і нічого не говорыць.* Хотамель.

НАКО'ІЦЦА *зак.* Натаміцца, набегацца. *Сынок за дзень так накоіўса, шчо зразу ж заснуў.* Тураў.

НАКОЛЕ'СКАЦЬ *зак.* Намяшаць. *Наколескае цэлу міску цыбулі з кіслым молоко́м да ежце!* В. Малешава.

НАКО'ЛОНЫ *дзеепрым.* Злёгку расколаты. *Накóлоне ейцó.* Запясочча.

НАКО'ЛОТЫ *дзеепрым.* Наколаты, насечаны. *Накóлотые дрóва.* Луткі.

НАКОЛОЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Назбіваць, накалаціць. *Молока наколоцяць, бочку творогý соберуць на веселье.* Хотамель. *Мэду наколоцяць з водóю і хлеба накрышаць і едзя́ць.* Хотамель. 2. Напалохаць, прымусіць падрыжаць са страху. *І так воны мене наколоцілі, шо не могý!* М. Малешава.

НАКОЛО'ЦЬ *зак.* Накалоць, насячы. *Наколóў кóлья да оббíў.* Буразі. *Наколю лучыны з осмóла.* Хачэнь.

НАКОЛЫВА'ЦЬ *зак.* Нахінуць. *А хлопцы наколывалі лодку да вода набраласа.* М. Малешава.

НАКОМЕ'ХАЦЬ *зак.* Накорпаць, няўдала зрабіць. *Вона нека шурпá, неяк вонá собé накомехае — сподніца гэ, кóсы гэ!* Цераблічы.

НАКОПА'ЦЬ *зак.* Накапаць, навыбіраць. *От мáці копáе картóплі, накопáла пóўного кошэля́!* Хачэнь.

НАКО'ПІЦЬ *зак.* Намесці, наваліць. *Накóпіць снегу, загрэбé зусім я́блонь, одзíн вéньчык торчыць.* М. Малешава.

НАКОРА'ЧЫЦЬ *зак.* Сплесці з большага. *Накорячыў так трохі, шоб відаць було.* Альшаны.

НАКО'РКАЦЬ *зак. экспр.* Напхаць, набіць. *Мохамóраў накóркаў поўную бутэльку* (на лекі). Бярэжцы.

НАКОРМІ'ЦЬ *зак.* Накарміць. *Покýль накормлю дзецéй да вýмую посýду, то і одзінáццаць.* Запясочча.

НАКОСІ'ЦЦА *зак.* Накасіцца; стаміцца, касіўшы. *Вот накосіўса, пойду воды вýп'ю!* Кароцічы.

НАКОСІ'ЦЬ *зак.* Накасіць. *Самóго грудá накосíў.* Бярэжцы.

НАКО'Т *м.* Насціл з бярвёнаў. *Положыў накот на прогумéнку, коб не було грáзко.* Аздамічы. *З одногó олéшніку накот зробілі.* В. Малешава. *Там буў накот, тым накотом іці на наш берэг.* Хачэнь.

НАКОТЫ'ЖЫЦЦА *зак.* 1. Натапырыцца, падняцца. *Сено там накотыжылосо, бы кóпка.* Запясочча. 2 *перан.* Надзьмуцца. *Накотыжыласа і зранку нічого не éла, і гэта не есць.* Запясочча.

НАКОТЫ'ЖЫЦЬ *зак.* Наставіць, надзьмуць. *Накотыжыць мóрду і пошла!* Запясочча.

НАКОЎБА'СІЦЬ *зак. экспр.* Няроўна напрасці. *На-*

*коўбасіла — тут тонке́, а там коўбасу́ напрала, шоб тобе ру́кі погну́ло!* М. Малешава.

НАКО'ЎВАЦЬ *незак.* Насякаць. *Накоўвалі камені ў млiне́.* Цераблічы.

НАКОЦІ'ЦЦА *зак. экспр.* Напіцца. *Не любіш п'яных, а сам накоціўса!* Цераблічы. *От накоціўса у сем радоў!* В. Малешава.

НАКО'ШКАЦЬ *зак.* Нашукаць (звычайна пра яйкі дзікіх птушак). *Я накошкала тобе еец, а ты не есі!* В. Малешава.

НАКРАПА'ЦЬ, НАКРОПА'ЦЬ *незак.* Накрапваць, імжэць (пра дождж). *Накропа́е дождженк зноў.* Аздамічы. *Днём почаў накрапа́ць і не перэстае́.* Бярэжцы.

НАКРА'ПВАЦЬ, НАКРО'ПВАЦЬ *незак.* Тое ж. *Накрапвае, зарэ ша́мне з е́стое хмары.* Пагост. *Дождж накропвае.* Запясочча.

НАКРА'ЯЦЬ *зак.* Накроіць, нарэзаць. *Трэба ж було накраяць на постолы дзяж'я сколько!* Альшаны.

НАКРОІ'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Накроіла поло́сья на лапці.* Бярэжцы.

НАКРОПІ'ЦЬ *зак.* Пакрапіць, папырскаць. *Ек накро́піць сыто́й, так і сядуць пчолы.* Хачэнь.

НАКРУЦІ'ЦЬ *зак.* Накруціць. *Колісь накруціў за ву́шы да слухаецца, а цепе́рэка дзеці не тые.* Пагост. Намалоць. *Колькі того хлеба трэба було на жорна накруціць дзе́цям!* Дварэц.

НАКРУ'ЧВАЦЬ *незак.* Навіваць, скручваць. *Як дзерэво плы́цяць, то дубцоў накручвалі.* Цераблічы.

НАКРЫ'ЦЦА *зак.* Накрыцца. △ Н а к р ы́ ц ц а  х в о с т а́. Палажыць хвост на спіну (пра карову). *Ек корова накры́ласа хвоста́, то дождж будзе* (прыкмета). Верасніца.

НАКРЫ'ЦЬ *зак.* Накрыць, прыкрыць зверху. *Хату перэўе́з і накры́ў.* Мачуль. *Накры́й хлеб рушніко́м, коб не со́х!* Сямурадцы.

НАКРЫЦЬЕ' *н.* Прыкрыццё, схоў ад дажджу. *Под накрыцьем сталі од дождж*у. Луткі. *Повесь под накрыцье́, шоб не мо́кло.* Старажоўцы.

НАКРЫШЫ'ЦЬ *зак.* Накрышыць, нарэзаць. *Накры́шым карто́пляў на крышаны́.* Луткі. *Цыбулі накрышы́ла ў шча́вер?* Сямурадцы. *Мед розведзе́, росколо́ціць і туды хлеба накры́шыць.* Аздамічы.

НАКРЭ′МАЦЬ *зак.* Накрэмзаць, дрэнна напісаць. *Шо там ты накрэмала, Лена?* В. Малешава.

НА′КРЭСТ *прысл.* Накрыж. *Накрэст кладуць снопы ў дзесятку.* Аздамічы. *А ту борóдку отрэжэ і накрэст полóжыць на пожні.* Верасніца.

НАКУ′ЛЬГВАЦЬ *незак.* Злёгку кульгаць. *Ох, нешчо накульгвае гусак.* Верасніца.

НАКУПА′ЦЦА *зак.* Намачыцца, нечакана апынуўшыся ў вадзе. *Як так хто ўпадзé з лодкі, то кажуць — накупáўса, а воны одно помýліса* (у адказ на пытанне, звернутае да дзяцей, якія вярталіся з рэчкі). Луткі.

НАКУРЫ′ЦЬ *зак.* Накурыць, напусціць тытунёвага дыму. *От накурылі, шо свету не віднó!* Запясочча. Абкурыць, абдаць дымам. *Возьмі чэрэпочка да накуры́ ёгó. Як гэто не поможэ, то ужэ не знаю шчо.* Луткі.

НАКУ′ШЧВАЦЦА, НАКУ′ШЧЫВАЦЦА *незак.* Кусціцца. *Усяка пашня́ накýшчваецца.* Цераблічы. *Еслі просо рэдкэ́, то воно накýшчываецца, а еслі густэ́, то воно як солóма.* Мачуль.

НАЛАДОВА′ЦЬ *зак.* Нагрузіць, накласці парадкам. *Наладовай на воз то сяк, то так.* Цераблічы.

НАЛАДУ′ *прысл.* Ладам, ва ўзаемаразуменні. *Жывóм цепер дóбрэ, наладу.* Верасніца.

НАЛА′ПІЦЬ *зак.* Залапіць. *Трэба штаны́ налáпіць.* Луткі. *Гэту дзірку трэ полотнóм налáпіць.* Любавічы.

НАЛЕ′ВО *прысл.* Налева. *І трэ было мне одразу налéво і сенокосом ісці.* Мачуль. *Онь за тоéю хáтою повéрнеш налíво.* Тураў.

НАЛЕГА′ЦЬ *незак.* Налягаць, націскаць. *Своéю сілою налегаю, а сáмо ні ў когó не попрошý.* М. Малешава.

НАЛЕ′ГЦІ *зак.* Націснуць, наваліцца. *Вода як наляжэ, але тэ́е вóрото здоровéннэ, то цягне гóнку.* В. Малешава. *Ты на своró Панáска налéгла, ек ермо на волá.* Луткі. *Бацькі налéглі, шчоб вона за ёгó пошла.* Луткі.

НАЛЕ′ЗЦІ *зак.* 1. Налезці, набіцца. *Комароў поўна хата налезе.* Сямігосцічы. 2. Напасці. *Така слабосць налезла, шо не могу.* М. Малешава. *Коб на вас ліхо налезло, сатáнье!* Дварэц.

НАЛЕ′ПАЦЬ *зак. экспр.* Накласці (вязкага). *Сметаны налепай у міску да і хай едзяць.* Хачэнь.

НАЛЕПІ′ЦЬ *зак.* Наляпіць, наклеіць. *Самá налепіла гліны на чэрэ́н да ўродзі дзéржыцца.* Пагост. *Налепіла дочка карцінок на сцéну.* Там жа.

НАЛЕТА'ЦЬ *незак.* Налятаць. *Кропілі поле да налетáло й на сад, то вýсох.* Хачэнь. *Мухі налетáюць на цебе, то я одгоняю.* Там жа.

НАЛЕ'ТВАЦЬ *незак.* Тое ж. *Мухі куслівые налетваюць да ўсе. На дворэ мóрэ е мух!* Луткі.

НАЛЕЦЕ'ЦЬ *зак.* Наляцець. *Налецéлі тые комары, як почалі ее кусаць!* Кароцічы.

НАЛІВА'ЙКА *ж.* Хлеб з рэдкага цеста. *Як з слабéнького цеста хлеб, то кажуць — спеклá налівайку.* Бярэжцы.

НАЛІВА'ЦЦА *незак.* 1. Налівацца (сокам). *Открасовáлоса ўжэ жыто, наліваецца.* Бярэжцы. *Шо воны налівáюцца, то белы наліў кажуць на тые яблука.* Запясочча. 2 *перан.* Апухаць. *У мене боліць серцэ, бувае і я налівáюса.* Сямігосцічы.

НАЛІВА'ЦЬ *незак.* 1. Наліваць. *Не буду я горелкі піць, не налівайце.* Пагост. 2 *перан.* Наліваць, паўнець (пра вымя). *Налівае ім'е, значыць корова, оцéліцца ўжэ.* Лутскі.

НАЛІВА'ШКА *ж.* Папяроўка, белы наліў (сорт яблыкаў). Бярэжцы.

НА'ЛІВЕНЬ *м.* Лівень. *Налівэнь — ліўны дождж як з ведра.* Мачуль.

НАЛІ'ВОМ *прысл.* Як з вядра (пра дождж). *Налівом лье дождж.* Дварэц.

НАЛІЗА'ЦЦА *зак. зневаж.* Напіцца гарэлкі. *Ужэ налізаўса — свету не бачыць!* Верасніца. *От налізаўса, як свіньня мула!* Цераблічы.

НА'ЛІП *м.* Намаразь, намёрзлы снег. *З воды як замерзне, то вонэ мóцнэ, а наліп із снегу, то не моцны.* Бярэжцы.

НАЛІ'ПНУЦЬ *зак.* Наліпнуць, напрыліпаць. *На камень наліпне, ек сырá пашня* (у млыне). Луткі.

НАЛІ'СНІК, НАЛЕ'СНІК *м.* 1. Тонкі блін з рэдкага цеста. Запясочча. Блінчык (з начынкай). *Росколáчваюць мукý з водою, шоб рэ́дкэ було, на скóвороду льюць тóненько, оно шоб дно закрывáлосо; цепер берэ́ сыр, б'е ейцэ́, сáхар і угóртваюць у гэты блінчык, то гэто ужэ налíснік.* Дварэц. 2. Аладка з густога цеста. *Налеснік.* Хачэнь.

НАЛІ'Ў *м.* Наліванне (пра збожжа). *Наліў хорóшы, урэ́м'е не жáрке.* М. Малешава. *Жыто ў наліве град побіў.* Лутскі.

НАЛІЎНЫ′ *прым.* 1. Наліўны, сакавіты. *Гэто наліўные яблука, до спа́са ўжэ поспе́юць.* Бярэжцы. 2. Прызначаны для захавання вадкасці. *Наліўна́я бочка.* Запясочча.

НА′ЛІХО *прысл. экспр.* Нашто, навошта. *На́ліхо такі важкі?* М. Малешава. △ Н а́ л і х о   ё м у́ (т о б е́ і г. д.). Нязлоснае пажаданне нядобрага. *От ба́йбус, от на́ліхо ёму́!* Сямурадцы. *А шчоб тобе на́ліхо! Шчо то ты выробля́еш?* Луткі.

НАЛІ′ЦЦА *зак.* Наліцца, напоўніцца сокамі. *Яблуко едрэнэ́, по́ўнэ — налі́о́со.* Луткі.

НАЛІ′ЦЬ *зак.* Наліць, напоўніць. *Бером во́ду холо́дну, у місу нальём.* Сямігосцічы. *На Петра́, то ужэ трошкі спекла, а на Лью — поўну печ налью́* (прымаўка, пра хлеб з новага ўраджаю). Старажоўцы.

НАЛІ′ЧКА *ж.* Налічэнне, аплата. *Робі, не робі, а налічка одна за ўсе.* Луткі.

НАЛО′БНІК *м.* 1. Папярэчка ў аброці на лбе ў каня. *Нало́бнік е, така́ па́сочка ў вуздзе́чцы.* Старажоўцы. 2. Удар лыжкай па лбе. *Ко́ліся казалі, ек ко́рпаешса ў місе: от полу́чыш ты ў мене нало́бніка за́ра!* Луткі.

НАЛОВА′ЦЬ, НАЛОВІ′ЦЬ *зак.* Налавіць. *Наловаў кожушкоў, шчо дуг!* В. Малешава. *За час наловілі мо пуд.* Луткі.

НАЛО′ЖВАЦЬ *незак.* Надзяваць. *Вон не ўме́е хаму́т наложваць.* Верасніца. Накладваць. *Наложваем каме́нье, шчоб ве́тром не зрыва́ло.* Чэрнічы.

НАЛОЖЫ′ЦЦА *зак.* Надумацца, сабрацца. *Трэба ж наложы́цца да ехаць по ты́е я́годы.* М. Малешава. *Мне наложыцца цепер ужэ іці дале́ко, то не ва́рто — утомлю́са мо́цно.* Мачуль.

НАЛОЖЫ′ЦЬ *зак.* 1. Накласці, нагрузіць. *Наложы́ў на тые волы́ дроў — тые волы́ не ця́гнуць.* Бярэжцы. 2. Надзець, абуць. *Холодно́, халата́ наложы!* В. Малешава. *Наложы́ ша́пку, куды́ ідзеш без шапкі!* Луткі. *Ідзі́, другіе штаны́ нало́жым.* Хотамель. *Наложы це́мну рубашку і боцінкі.* М. Малешава. *Цепер чоботы наложы́ў і пошо́ў.* Луткі. *Наложы обро́ць!* Аздамічы. △ Н а л о ж ы́ ц ь   о г н ю́. Развесці агонь. *Нало́жым огню́ да ва́рым карто́плі.* Бярэжцы. Н а л о ж ы́ ц ь   г о л о в о́ ю. Загінуць. Старажоўцы.

НАЛОМА′ЦЦА, НАЛОМІ′ЦЦА *зак.* Прызвычаіцца. *Ты́е так нало́мяцца да ґоворацъ, а ты́е так.* В. Малеша-

ва. Перайначыцца. *Гэто вон тро́хі наломаўса, а то «до́бры» буў!* Там жа.

НАЛОМА′ЦЬ, НАЛАМІ′ЦЬ *зак.* 1. Наламаць. *Наломáла кіёхóў коло рэкі.* Кароцічы. *Трэба наламіць ро́зок з лозы.* Аздамічы. 2. Прывучыць, прызвычаіць. *Трэбо навучыць волá да наломáць его́, шоб вон ходзіў у во́зе.* Сямігосцічы.

НАЛО′МВАЦЦА *незак.* Перайначвацца, перавучвацца. *Гэто вон нало́мваецца, коб по-ру́скі заговорыц.* Запясочча. *Як прыву́к, то трудно наломвацца будзе.* Бярэжцы.

НАЛО′ПАЦЦА *зак. экспр.* Наесціся. *Малые оўсянкі налопаліса, а ётому ее ж не показвай.* Верасніца.

НАЛОПОТА′ЦЬ *зак. экспр.* Нагаварыць. *Налопоталі поўные вушы, сціхніце!* Сямігосцічы.

НАЛОСЦІ′ЦЦА *зак.* Наглянцавацца, зашмальцавацца. *Нало́сціцца менту́шка і бліскуча робіцца.* Альгомель.

НАЛОТО′ШЫ′ЦЬ *зак. экспр.* Нарваць. *Налотошы́ла я́блок.* Луткі. Набіць. *Вон іх налуто́шыў, тых руды́х лісіц!* Хачэнь.

НА′ЛПА *ж.* Малпа. *Ву́лупіла очы, ек налпа.* Сямурадцы.

НАЛУПЕ′ШЫЦЬ *зак. экспр.* Надаваць, набіць. *Налупешыла сыну ковенёю, шо напівáецца.* Пагост.

НАЛУПІ′ЦЬ *зак.* 1. Наабіраць, начысціць. *Не забудзь налупіць карто́плёў на вечэру!* Тураў. 2. Надраць. *Налу́піць этой лозы́, шоб було с чого лапці плесці.* В. Малешава. 3 *экспр.* Нарваць, накасіць. *Так налупіў, шо будзе козé і лозé* (прымаўка, пра дрэнную касьбу). Хачэнь.

НАЛУПЦОВА′ЦЬ *зак. экспр.* Нарваць. *Я пошла да налупцо́вала во такі оберэ́мок!* Сямурадцы.

НАЛЫГА′ЦЬ *зак. экспр.* Нацягаць. *Налыгáлі по мешку етых кожу́шкоў.* Дварэц. Набраць, назбіраць. *По п'яць дру́жок налы́гаюць на веселы да ужэ ведуць!* М. Малешава. *Сестра крычыць: нáшчо тобе тэ ходзяйство, нáшчо ты его налы́гала?* Там жа.

НАМА′ГІР *прысл.* Набакір, набок. *Іншы нехоро́шы, да шчэ шáпку наклáдзе намагір!* Кароцічы.

НАМАГІ′РЫЦЬ *зак.* Надзець набакір. *Намагірыў шапку да пошоў.* Альшаны.

НАМАХА′ЦЬ *зак.* Навярэдзіць, натрудзіць. *Намахаць ру́ку, то будзе звіх.* Кароцічы.

НАМАХІ′ *прысл.* Жэстамі. *Вон только рукáмі, намахі показвае, а сказаць не можэ.* Запясочча.

НАМАЦУ′КАЦЬ *зак.* Намацаць, апароць. *Жыгалом намацукаў кóсы ў стрэ́сі.* Дварэц.

НАМЕНУ′ЦЬ *зак.* Намякнуць, закрануць у гаворцы. *Трóха наменýў, а тэ не нашэ дзело доводзіць концы — мы ж не старцы!* Цераблічы.

НАМЕНЦІ′ЦЬ *зак.* Намянціць, натачыць. *Коб наменціў кóсу, то вона б шчэ косíла.* Старажоўцы. *Ножá дóбрэ намéнціш капýсту шаткова́ць.* Цераблічы.

НАМЕ′РВАЦЬ *незак.* Замахвацца, цаляць. *Вон менé веслом намéрвае, хочэ удырыць.* Запясочча.

НАМЕРГОВА′ЦЦА *зак.* Намерыцца, рашыць. *Намерґова́ліса немцы одступа́ць.* Верасніца. *Вон намірґоваўса кірпíчны дом зробіць.* Чэрнічы. *Не зна́ю, шо воны там намерґýюцца.* Запясочча.

НАМЕ′РЗЦІ *зак.* Намерзнуць. Альгомель.

НАМЕ′РЫЦЦА *зак.* Наважыцца, надумаць. *Кот намéрыўса хапаць ціплета.* Сямігосцічы. *Кóлько намéрыласа, только прочыта́ю.* Талмачава. *Воно́ намéрыласа аж у Тонéж іці.* Луткі.

НАМЕСІ′ЦЬ *зак. экспр.* Надаваць. *Ну, я б емý намесíла!* Луткі.

НАМЕ′СТО *прыназ.* Замест. *Рогóжа з травý намéсто одзеяла.* Хачэнь.

НАМЕСЦІ′ *зак.* Намесці, надзьмуць. *Заціішок тут, то номелó снегу.* Верасніца.

НА′МЕ′ТКА *ж.* 1. Намітка, доўгі кусок тонкага даматканага палатна. *Наметкі невéстка даé свéкру, свекрывé, усей бéсéдзі молодóго.* Луткі. *Наметка́мі на весéлы перэўязваюць жэніхóву роднн́ю.* М. Малешава. *На́метка — полотно мэтры тры-чоты́ры, перэты́канэ.* Аздамічы. 2. Накрыццё галавы ў замужніх жанчын у выглядзе рушніка з аздобамі, пакрывала нявесты. *Намéткою увоўя́звалі, шоб не розваліўса коўпа́к на головé.* Мачуль. *Споіўём вас у на́меткі по-колісьнёму.* Запясочча. Памянш. н а́ м е т о ч к а. *Стоіць жóнка ў сорóчэццы да белéсенькой, у на́метоццы тонéсенькой!* Сямурадцы.

НА′МЕЦЬ *ж.* Гурба снегу. *На́меть намелó, гýру снегу.* Альпень.

НАМІНА′ЦЬ *незак. экспр.* Есці. *От наміна́е, ек два дні не еў нічóго!* Старажоўцы.

НА′МІТУСЬ *прысл.* У розныя бакі (галовамі, кам-

лямі і г. д.). *Я іх положыла намітусь: однэ ногамі туды, друге — туды.* Кароцічы. *Намітусь снопы кладзе* Аздамічы. *Намітусь ложы - колоды, то не покоцяцца.* Там жа.

НАМНО'ЖЫЦЦА *зак.* Размножыцца, павялічыцца. *Намножылосо народу.* Пагост.

НАМО'КЦІ, НАМО'КНУЦЬ *зак.* Намокнуць. *А хто хочэ намокці, хто хочэ лезці ў воду?* Старажоўцы. *Дзень постоіш да намокнеш на дождже.* Цераблічы.

НАМО'Л *м.* 1. Смецце з пяском, намытае вадой. *Песок е, шо дзе намуваe, от это той намол.* Старажоўцы. 2. Дадатковы аб'ём, атрыманы пры памоле. *Пшэніца важэйша за муку, то намол е з пшэніцы — з мешка е поўтора мешка.* Сямігосцічы.

НАМОЛОЦІ'ЦЬ *зак.* Намалаціць. *Намолоціў п'яць ражок жыта.* Кароцічы.

НАМОЛО'ЦЬ *зак.* 1. Намалоць. *У жорнах намелеш, да й то бояліса молоць!* Бярэжцы. 2 *перан.* Нагаварыць. *Намолола усёго вам.* Дварэц.

НАМО'НАЦЦА *зак.* Натаміцца, намарыцца. *Намоналаса я і спаць легла.* В. Малешава. *От намоналаса ў тым полі, ногі не ідуць!* Мачуль.

НАМО'НЬКАЦЦА *зак.* Тое ж. *Намонькалас дзень косечы.* Пагост.

НАМО'РДНІК *м.* 1. Частка аброці. Хотамель. 2. Наморднік. Азяраны.

НА'МОРОЖНЯ *ж., мн.* наморожні. 1. Планка паверх капылоў у санях. *Наморожні бываюць і смоловые і берэзовые.* Верасніца. 2. Намаразь. *Гогоць — наморожня така, гололёд.* Альшаны.

НАМОРУ'ДЗІЦЬ *зак.* Дрэнна напісаць, накрэмзаць. Кароцічы.

НАМОРЫ'ЦЦА *зак.* Натаміцца, намарыцца. *Наморыўса, чуць жывы.* Альшаны.

НАМОТА'ЦЬ *зак.* Накруціць, намотаць. *Круцілі купало: узяць да на палку намотаць якў онучу да кідаць.* Цераблічы.

НАМОТУ'ЗІЦЦА *зак. экспр.* Намучыцца. *Намотузіцца з ёй, з той сохой, покуль орэ.* Кароцічы.

НАМОЧА'ЦЦА *зак.* Намачацца. *Да цёплым хлебцэм олею намочаўса.* Хачэнь.

НАМОЧА'ЦЬ *зак.* Намачаць. *Млінцоў напекла да намочала ў сало.* В. Малешава.

НАМОЧЫ'ЦЬ *зак.* Намачыць. *Бог намочыў, бог і вусушыць!* (прымаўка). Хачэнь.

НАМО'ШЧЭНЫ *дзеепрым.* Намошчаны, нагачаны. *Доро́га гольём намошчэна.* Бярэжцы.

НАМУ'ГАЦЦА *зак. экспр.* Нацягацца. *Намуѓаешса з косо́ю, да ўсе болі́ць!* Пагост.

НАМУГА'ЦЬ зак. Нацягаць. *От намуѓа́ў цэ́лу ме́тку ершоў!* Верасніца.

НАМУДРАГЕ'ЛІЦЬ *зак.* Намудраваць. *Зара побачым, шо ты там намудрагеліў.* Верасніца.

НАМУ'ҚАЦЬ *зак.* Насмыкаць, наскубці. *Лён на грэ́бень наму́кагм, а потом грэбёнкою му́чом.* Сямігосцічы. *Ша́ню поўну наму́чомо, шоб на тыждзень було пра́сці.* Лууткі.

НАМУ'ЛЕЦЬ *зак.* Намуляць, нацерці. *Седзёлкой ка́рок коню наму́ляў.* Верасніца. *Муле́ніка намуляў.* Сямігосцічы.

НАМУ'ЛІЦЦА *зак.* Намуляцца, нацерціся. *Наму́ліўса мулёнік у моё Лексы.* Сямурадцы.

НАМУ'РЗАЦЦА *зак.* Замурзацца, запэцкаць твар. Запясочча.

НАМУ'СІЦЦА *зак. экспр.* Надзьмуцца. *Ідзе́, му́су наставіў, намусіўса, недовольны, надуты.* М. Малешава.

НАМУ'СНІҚ *м.* 1. Папярэчка ў аброці, што накладаецца на нос каню. Запясочча. *Намы́снік.* Аздамічы. 2. Наморднік. *Намы́снік одзень, ато покуса́е.* Мачуль. *У наму́сніку у целяці гвозд як уколе, корова як подскочыць!* В. Малешава.

НАМУ'ЧЫЦЦА *зак.* Намучыцца. *Намучыўса вельмо.* Бярэжцы.

НАМУ'ЧЫЦЬ *зак.* Намучыць. *Розумны навучыць, дурны намучыць* (прыказка). Мачуль.

НАМЭ'НЦІЦЦА *зак. экспр.* Наесціся. *Намэнціцца да ходзіць тоўсты, ек бочка.* Луткі.

НАМЯ'ЦЦА *зак. экспр.* Тое ж. *Намне́цца абу́-чого і вон хорошы, а другі е малімо́нчык, да худы!* В. Малешава.

НАМЯ'ЦЬ *зак.* Намяць. *Чорніц намну́ць, посоло́дзяць дай моча́юць.* Кароцічы. *Ек добрэ ко́сці намне́, то возна́е, шо за вон.* Хачэнь.

НАНІ'З *прысл.* 1. Уніз па цячэнню. *Самопла́вом ішоў гонча́к наніз з дрова́мі да злез на ко́су.* Пагост. *Еслі чапля леціць і крычыць наніз, на сход сонца, то на го-*

*дзіну, а ўверх — на погоду* (прыкмета). Там жа. *Бацько едзе ўверх, а сын наніз.* Д.-Гарадок. 2. На спад. *Ужэ гўвесна, зімá ідзе наніз.* Дварэц.

НАНІЗА′ЦЬ *зак.* Нанізаць. *Нанізала ўюноў дзесець мéток.* Сямігосцічы.

НА′НОВО *прысл.* Нанава. *Нáново перэробляў усé.* Пагост.

НАНО′С *м.* Куча ламачча, нанесенага вадой. В. Малешава. Верхняя частка бабровай хаткі. *Нанóсы як гэта хата веліка нанóсіць бобéр.* Там жа.

НАНОСІ′ЦЬ *зак.* Нанасіць, нацягаць. *Опéнек у Сторожоўцах по тóні нанóсяць.* Хачэнь. *Людзі наносілі грыбоў, а мой стары болеў.* Мачуль.

НАНО′СНЫ *прым.* Нанесены вадой. *Нанóсна гўрка.* Хачэнь.

НА′НОЧ *прысл.* Нанач, на ўсю ноч. *Пойдў нáноч вартовáць.* Старажоўцы. *Коні водзілі наноч, і варыць беруць з собой.* Пагост. Перад наступленнем ночы. *Ек ціхенько наноч, то будзе погода* (прыкмета). В. Малешава. *Наноч екі чорт роскідáе стожкá?!* М. Малешава. На начлег. *Чому мы іх не позвалі наноч?* Бярэжцы. *Скажыце, коб воны наноч прышлі.* В. Малешава.

НАНЯ′ЦЬ *зак.* Наняць, згадзіць за плату. *Вон пáробка нáйме екого беднечкá.* Цераблічы. *Наймі рэзаць, наймі й колоць по рублю мéтра — дзе ж грошэй набраццa?* Дварэц. *Светого дня нáймуць музыку да гуляюць.* Аздамічы.

НАОБІРА′ЦЬ *зак.* Наабіраць, наабрэзваць. *Наобірала отóчын с кішок кóлько!* Бярэжцы.

НАО′БЛАП *прысл.* Пакідаючы каляіну ў сярэдзіне, між колаў (адно кола пасярэдзіне дарогі, а другое — за дарогай). *Наоблап проехаў, бо грáзко вельмі.* Тураў.

НАОБРЭ′ЗВАЦЬ *зак.* Наабрэзваць, нарэзаць. *Нека пáкосціна наобрэзвала кускоў!* Чэрнічы.

НАОБСЕ′КАЦЬ *зак.* Наабсякаць, начасаць. *На хату наобрэзáў лесу, а часць наобсéкаў.* М. Малешава.

НАОБЧЭ′САЦЬ *зак.* Наабчэсваць. *Наобчэсае лесу, а мужчыны наўсцягваюць на сцену.* Верасніца.

НАОДВОРО′Т *прысл.* Наадварот. *Бáба наб'е, а дед, наодворот, пошкодўе.* Цераблічы.

НАО′КОЛО *прысл.* Навокал, кругом. *Ходзяць наоколо по той місцы.* Сямігосцічы.

НАО'КРЭСТ *прысл.* Крыжападобна. *Як наокрэст бліснe, то некого уб'е* (павер'е). Луткі.

НАОПАКІ', НАВОПАКІ', НАЎПАКІ' *прысл.* Наадварот. *Наопакі слова́ у іх, не так ек у нас.* Дварэц. Навыварат. *От наложыла кохту навопакі да пошла.* В. Малешава. Насуперак. *Дзе́ўкі наўпакі гово́раць.* Пагост.

НАОПА'ШКУ *прысл.* Наапашкі. *Наопашку одзенўў кожу́ха.* Цераблічы.

НАОРА'ЦЬ *зак.* Наараць, наарацца. *Соло́м'еным волом не наорэш, сеньны́м коне́м не нае́здзіш* (прыказка). Цераблічы.

НАО'ТБЕГ *прысл.* Убок ад берага. *Беры наотбег, шоб онно́ не струшчыло* (пра кіраванне плытом). Аздамічы.

НАОТМЕ'НУ *прысл.* Папераменна, на змену. *Мы наотмену сцерэглі.* Луткі.

НАО'ТВІЛЬ, НАВО'ТВІЛЬ *прысл.* Наводмаш, наводліў. *Тры раз наотвіль пу́гою ек даў!* М. Малешава. *Ек даў навотвіль по губа́х, то й гу́бі позбега́лі.* В. Малешава.

НАОХО'ЦІЦЦА *зак.* Прыахвоціцца, сагнаць ахвоту. *Пока наохоціліса жыць, а ўжэ поміраць трэба.* Дварэц.

НАО'ЧНІКІ *мн.* Навочнікі. *Коню зробілі наочнікі, шоб не пужаўса.* Верасніца.

НАО'ШЛАП *прысл.* Пакідаючы каляіну між колаў воза. *У ошла́пу узяў колеіну да наошлап проехаў.* Тураў.

НА'ПА *ж.* Зачэп пры лоўлі рыбы сеткай, вудай. *Не́вода зачэпіло, то на́па.* Запясочча.

НАПА'Д *м.* Нападзенне. *Тут жэ будзе напад на хозяіна.* Цераблічы.

НАПА'ДАЦЬ *зак.* Нападаць, выпасці. *Снегу бога́то напа́дало, то не ўме́рзло.* Сямігосцічы.

НАПАДА'ЦЬ *незак.* Нападаць. *Ороб'е́ ве́льмі на про́со напада́юць.* Сямурадцы.

НАПАДНЫ' *прым.* Драпежны. *Бувае нападна́я пта́шэчка, то рэ́мез з друго́го бо́ку і вылезе з свого кубла́.* Мачуль.

НАПА'КАЦЬ *зак.* Напыхкаць, накурыць. *Напа́каў цэлу ха́ту мой стары́.* Луткі.

НАПАЛА'ЦЬ *зак.* Навеяць, начысціць. *Напалаю крупо́ў ночо́ўкамі цэлу торбу.* Луткі.

НАПАЛІ'ЦЬ *зак.* Напаліць, нагрэць. *Напалі́ла печ, шо не можно ў хаці ўсе́дзець, жарко.* Луткі. Напаліць

на агні. *Бало, стары головешку напа́ліць да гледзіць пчол.* Мачуль. *Напа́ліш любого дзе́рэва, то кажуць зубе́ль.* Цераблічы.

НАПА'РНІЦА *ж.* Напарніца. *Вона напа́рніца, шо ўме́сце ро́бяць.* Бярэжцы.

НАПА'РЫЦЬ *зак.* Напарыць, нагатаваць. *Напа́рыла груш.* Хачэнь. *Кашэль, трэба мне напа́рыть молока́.* Альпень. Заварыць. *Іх напа́рыць, да дзе́ўка нап'ецца да поду́жае* (пра зёлкі). Запясочча. *Напа́р, ка́жэ, лінó-вішчэ, шчоб слепа́ ба́ба не ла́зіла за молокóм. А та ба́ба ву́ліла на вóчы гэто лінóвішчэ да стала ба́чыць.* Сямігосцічы. Распарыць. *Трэ́ба напа́рыць нóгу да прыложы́ць подорожной траві́.* Хачэнь. *Напа́рыць і гне обóдья.* Там жа.

НАПА'СНЫ *прым.* Агрэсіўны, падобны на напасць. *От ты напа́сны, Дзем'ян, бессóвесны!* Сямігосцічы.

НАПА'СЦІ *зак.* 1. Напасці, наляцець, акружыць з усіх бакоў. *А мне було́: я пасціла колхозные целя́та, да тры воўкі напа́ло.* Бярэжцы. *Напа́лі ему пра́мо на óчы шэ́ршні.* Лутні. Наваліцца. *На жывóго напа́сці, каза́ць, шчо помрэ́, то му́сіш уме́рці.* Бярэжцы. Апанаваць. *Напа́лі дзе́ткі: сама́ ма́мка, сама́ й ня́нька, усе́ я.* Кароцічы. Раптоўна з'явіцца (пра хваробу, бяду і г. д.). *Напаў ціх, да ўмер мой стары́.* Хачэнь. *Мо нейка крыкліві́ца на дзіця́ напа́ла. Бабу шэ́пчуць эту крыклівіцу.* Лутні. *Чума́ напа́ла на свінью́.* Запясочча. З'явіцца ў вялікай колькасці, апанаваць цалкам. *Дзерэза́ сплеце́ лён, то кажуць: дзерэза́ напа́ла.* Альгомель. 2. Напа́даць. *Іней напа́ў.* Альшаны. *Снег напаў, дай пастух пропа́ў* (прыказка). Сямурадцы.

НАПАСЦІ' *зак.* Напасвіць. *Напасе́ш товáр да пры́дзеш, да будом вечэ́раць.* В. Малешава.

НАПАСЦІ'СА, НАПА'СЦІЦЦА *зак.* Напасвіцца. *Ек не напасе́цца, то молока́ не дасць корóва.* Сямігосцічы. *Дóбрэ напа́сціўса товáр.* Запясочча. *Напа́сса товáр, ледзь ідзе́.* Лутні.

НАПА'СЦЬ *ж.* 1. Дарэмшчына. *Робіць як за напа́сць* (прымаўка). Аздамічы. Нагавор, паклёп. *Як што-нібудзь прыдумля́е сказаць на когó, чогó не було́ і не бу́дзе, то гэто напа́сць.* Старажоўцы. *От напа́сці не пропа́сці* (прыказка). Там жа. *Шо ты напа́сць нацегла́ на чоловéка?* В. Малешава. 2. Гора, бяда. *Хай будзе бог з намі, шчо то за напасць на мою голову́?* Верасніца.

НАПА'ХАЦЦА *зак.* Нанюхацца. *Хай дóбрэ напáхаюцца мýхі, то здóхнуць.* В. Малешава.

НАПАХА'ЦЬ *зак.* Сабраць, атрымаць ураджай. *І мешóк і два напахáе соўнéчніку.* Альшаны. *Маковок напахáюць, а потóм у кіпятóк і пóяць.* Аздамічы. *Хто п'ять коп, хто дéсять коп напáшэ.* Альпень.

НАПА'ШЧЭНЫ *дзеепрым.* Напасены, сыты (пра жывёлу). *Воны́ булі́ напáшчэные, ты́е кóні, і стоя́лі.* Старажоўцы.

НАПЕКЦІ' *зак.* Напячы, насмажыць. *Напечы́ лáдок картопля́ных да помачáй у сáло.* Лyткі. Напаліць на агні. *Да шчо вон зробі́ў? Головéшку нап'ёк да под хвост букáм.* Пагост.

НАПЕ'РСНІК *м.* Напарстак. Запясочча.

НАПЕ'РСТОК *м.* 1. Тое ж. *Шоб голка не посóўвалася, на напéрстку такіе бы емочкі і з дном.* Лyткі. 2. Пярсцёнак. *Сказаў поп молодым поменяцца напéрсткамі, а у ее вон узяў дай вýпаў з рук.* Кароцічы. 3. Банька ў касе. *Напéрсток наклáдае на косьé да заклáдае забóйчыка дай кóсіць.* Цераблічы. △ Н а п é р с т о к к о с н ы́. Тое ж. Запясочча.

НАПЕ'РЦІ *зак.* Напасці, найці. *Попокóсіш, і смáга напрэ́ на гýбу.* М. Малешава.

НАПЕ'РЦІСА *зак.* 1. Набіцца, націснуцца. *Гразі́ напрэ́цца дай загóіцца!* Запясочча. 2 *экспр.* Напхацца, наесціся. *Напёрса от пýза.* Бярэжцы. *От ек хто не знае, то з'еў бу, нап'ёрса тых уюноў.* Там жа.

НАПЕРЭГО'НКІ *прысл.* Навыперадкі. *Двое бегуць наперэгонкі.* М. Малешава.

НАПЕРЭ'Д *прысл.* 1. Наперад, уперад. *Я ўжэ выскочыў напэрэд, аж вон выйшоў на гáло і стоіць.* Мачуль. *Собака напэрэд, напэрэд, так воўк сеў.* Там жа. 2. Спачатку, упярод. *Наперэд хлопéча мацi стрэчáе мéдом молоды́х.* Лyткі. *Шчо ў мужыкá рóзума напóслі, коб мне наперэд* (прымаўка). В. Малешава. 3. Наперад, авансам. *Берэ плату наперэд.* Аздамічы. 4 *прыназ.* Упярод, раней. *Напэрэд цебé зáйде.* Хотамель. Перад, спераду. *Кінь назад себé, то знáйдзеш наперэд себе* (прымаўка). Сямурадцы.

НАПЕ'РЭДЗІ *прысл.* Наперадзе. *Напéрэдзі беда!* Аздамічы.

НАПЕРЭЛЁТ *прысл.* Навылёт. *Воны тут другі раз, то воны знаюць усе наперэлёт.* Старажоўцы.

НАПЕРЭМЕ′НКІ, НАПЕРЭМЕ′НКУ, НАПЕРЭМЕ′НУ *прысл.* Па чарзе, змяняючы адзін аднаго. *Наперэменкі будзем копáць.* Аздамічы. *Бушчыха і бýсько седзяць у кублé і едý носяць наперэменку.* В. Малешава. *Бобры́ наперэмéну рóбяць ту гáтку.* Старажоўцы.

НАПЕ′РЭМЕШКУ *прысл.* Уперамешку. *Давай песню пець наперэмешку: перш одну, потом другý.* В. Малешава.

НАПЕРЭСЕ′К *прыназ.* Наперарэз. *Побег наперэсек вóўку.* Аздамічы.

НАПЕ′ТАВАЦЦА, НАПЕ′ТАЦЦА *зак.* Нахлябацца, наесціся ўволю. *От напетаваўса, ек шуполóнік!* Старажоўцы. *Бувало, наварáць квасóўкі, напéтаюцца, вýйдуць і спеваюць.* Сямурадцы.

НАПЕ′ТРЫЦЬ *зак. экспр.* Набіць. *Напéтрыў ёгó дóбрэ!* Аздамічы.

НАПЕ′ЎНІЦЦА *зак.* Дамовіцца. *Не напеўнілас з ездовýм, то своёмý рóду попéрэд картоплі розгонáціме.* Пагост.

НАПЕ′ЎНІЦЬ *зак.* Забяспечыць, атрымаць гарантыю. *Напéўніў у Тýрові воз сена ў одного дзеда для корову.* Пагост. *Ходзіў да напутáў, напеўніў собе хату.* М. Малешава.

НАПЕХО′ТУ *прысл.* Пехатой, пешкі. *Ідом напехоту погрэцца.* Луткі. *Напехоту вон пошоў у Корочычы.* Там жа.

НАПІНА′ЦЦА *незак.* Накрывацца. *Клеёнкою хто напінаўса, то сухі.* Бярэжцы.

НАПІНА′ЦЬ *незак.* 1. Напружваць. *Не напінай своé горло.* Тураў. 2. Накрываць, пакрываць. *Сарпáнок у нас ткалі, бу мáрля; ім молодý напіналі.* В. Малешава. *Моцыклéта напінáла да дождж ішоў, то промóкла.* М. Малешава.

НА′ПІНКА *ж.* Накідка. *Напінка от дождджу.* Пагост.

НАПІСА′ЦЬ *зак.* Напісаць. *Да ўзелі тэ пісьмо ўкралі, да напісалі другé.* Бярэжцы.

НАПІХА′ЦЬ *зак.* Напхаць, начыніць. *М'ясо нарэ́жэмо, сало нарэжэмо, да пáлцэм напіхаем у кішэчкі.* Сямурадцы.

НАПІ′ЦЕНЫ *прым.* Напоены. *Кóні напіцены і наéдзены.* Запясочча.

НАПІ′ЦЦА *зак.* 1. Выпіць, папіць. *Крóпу горáчого нап'юс.* Буразі. *Ежэлі іздзéлаюць прамýю Прыпяць, то*

*нёдзе будзе і воды́ напіцца. Прыпяць трэба с кручка́мі.* Старажоўцы. *Чоловек не е́сціме ў жару́, пока воды не нап'е́цца.* В. Малешава. 2. Упіцца, ап'янець. *Гэтымі зелья́мі можэш напіцца да здо́хці.* Старажоўцы. *П'юць у хаці, да нап'юцца, да б'юцца.* Пагост. *Дзеніс напі́йса да лежыць.* Дварэц.

НАПЛАВА'ЦЬ *незак.* Наплываць, набірацца. *Наплава́е вода у коло́дзезь з земле́.* Хачэнь. *Етую збо́йтаную ву́чэрпаёмо да з земле́ наплава́ціме чысценькая.* Пагост.

НАПЛА'КАЦЬ *зак.* △ Я к к о т н а п л а́ к а ў. Вельмі мала. *От наробі́й, як кот напла́кай.* Дварэц.

НАПЛАТА'ЦЬ *зак.* Накласці пластамі. *Наплата́лі сто́лькі се́на.* М. Малешава.

НАПЛА'ЎВАЦЬ *незак.* Прыплываць у вялікай колькасці, наплываць. *Му́шы едзя́ць се́но. Ек вода́, то воны́ напла́йваюць у стог.* В. Малешава.

НАПЛЕ'СЦІ *зак.* △ Н а п л е́ с ц і к о ш э л ё ў. Нагаварыць рознага глупства. *А шчо вона погомоніла? Наплела́ кошэлёй да пошла́.* Кароцічы.

НАПЛЕ'ЧНІК *м.* Вышываная наплечная ўстаўка ў жаночым адзенні. *Ко́лісь водзілі наплечнікі жонка́м.* В. Малешава.

НАПЛІ'СКАЦЬ *зак.* Напырскаць, нахлюпаць. *У вокна напліскало воды́ од дожджу́.* Бярэжцы.

НАПЛОДЗІ'ЦЦА *зак.* Наразводзіцца, нарадзіцца ў вялікай колькасці. *От жукі́ ўрэ́дные — іх соберу́ць, а воны зноў напло́дзяцца.* Запясочча. *У того́ наплодзілосо сем'е́.* Пагост. *Ужэ утро́й наплоділоса после войны́.* Альпень.

НАПЛОДЗІ'ЦЬ *зак.* Наразводзіць. Луткі.

НАПЛЫСЦІ', НАПЛУСЦІ' *зак.* Насунуцца з вадой. *Плай напло́ў на бе́рэг, по́йно!* Сямігосцічы.

НАПЛЮ'ЖЫЦЬ *зак.* Наплюхаць, напаскудзіць. *Наплюжый на той пе́чы по́йно!* М. Малешава.

НАПНУ'ЦЦА *зак.* 1. Накінуць хустку, завязаўшы яе пад барадой. Тураў. 2. Напяцца, натужыцца. *Трэба й до́брэ напну́цца, коб скосіць уча́сток.* Хачэнь. *Вон напне́цца да напнецца, так дзе там той жывот будзе!* Дварэц.

НАПНУ'ЦЬ *зак.* 1. Надзець, нацягнуць. *Маці напне кожуха і стрэча́е молоды́х.* Хачэнь. 2. Накінуць, завязаць (хустку). *Да таку хустку напнула на молоду́!* Ве-

расніца. *Напнė старá хорóшэю хусткою невėсту.* Крэмна. 3. Нацягнуць. *Напнуў я пружыну, будзе заўтра свежынá.* Сямігосцічы.

НАПОВА'Л *прысл.* 1. Да канца, да падзення. *Бобёр зрэзвае дзéрэво наповáл.* В. Малешава. 2. Ушчыльную да берага. *Наповал нáноч прыстаеш плутóм, каравáном.* Пагост.

НАПОВЕ'Р *прысл.* Без грошай, у крэдыт. *Наповер даў з лаўкі мукі мешóк.* Аздамічы. Без вянца, без рэгістрацыі шлюбу. *Багато жыло наповер.* Верасніца.

НАПОГОТО'ВІ *прысл.* Напагатове. *Машына напоготові коло конторы стоіць.* Аздамічы.

НАПОДО'БІЕ *прысл.* Накшталт. *Жоўнá наподобіе дзятла, бы зелёна.* Мачуль.

НАПО'ДСКАКА *прысл.* Падскокваючы, з падскокам. *Поехаў наподскака.* М. Малешава.

НАПОЗА'ЎТРА *прысл.* Назаўтра. Запясочча.

НАПОІ'ЦЬ *зак.* Напаіць, даць напіць. *А воны пры-стáлі да кажуць:— Мо б ты нас, дзéўчынько, напоіла?* Сямурадцы.

НАПОКОВА'ЦЦА *зак.* Напакавацца. *Напокýецца людзéй цэлы аўтóбус.* В. Малешава.

НА'ПОЛ *прысл.* Напалавіну, напалову. *Разорваў напол лозіну.* Дварэц. *Чóўна перэбіў перэхóд нáдвое, нáпол.* Запясочча.

НАПОЛА'М *прысл.* Напалам. *Розрэж наполáм!* Аздамічы. У роўнай долі, у суполцы. *Воны наполам кóсяць канáву* (бакі меліярацыйнай канавы). Аздамічы.

НАПОЛОВІ'НУ *прысл.* Напалову. *Наполовіну с портóм ткуць.* М. Малешава.

НАПОЛО'ХАЦЦА *зак.* Напалохацца, спужацца. *Наполохаўса мой дзед, ек вас побачыў.* Луткі.

НАПОЛО'ЦЬ *зак.* Назбіраць, полючы. *Наполола два вóрохі зéлья.* Хачэнь.

НАПОЛОНІ'ЦЬ *зак.* Напоўніць, наладаваць. *Наполоніў запáзуху яблок.* Аздамічы.

НАПО'МНІЦЬ *зак.* Прымусіць успомніць, нагадаць. *Як ву шчо напóмніце мне, то і я ўспóмню.* Хачэнь.

НАПОПА' *прысл.* Стаймя, вертыкальна. *Лежала дзерэвіна, то поставілі напопá.* Сямігосцічы. *Ужэ поперла як напопа поставіць мех журовін!* Бярэжцы.

НАПОПЕРЭ'К, НАПОПЕРЭКІ' *прысл.* Насуперак.

*Стань напоперэкі говорыць, то одразу ты чоловек нічогі.* Старажоўцы. *Напоперэк робіць, на зло.* Аздамічы.

НАПО'Р *м.* Прыпар, напружаная пара. *Самы гарачы напор цепер — людзі сено косяць.* Старажоўцы.

НАПО'РОМ *прысл.* Гвалтам, сілком. *А вон прышоў просто напором, ёго не пускалі.* М. Малешава.

НАПО'СКАК *прысл.* Галопам. *Моцно бег конь, напоскак.* М. Малешава.

НАПОСЛЕ'ДОК *м.* На завяршэнне, пад канец. *Вуп'ем напоследок, шоб дома не журыліса.* Аздамічы.

НАПОТУРА'ЦЬ *зак.* Дагадзіць, робячы паблажку. *Унукам гэтым не напотураеш, воны ешчэ большого захочуць.* Цераблічы.

НАПОЎДЗЕ'НЬ *прысл.* Сярод дня, на абед. *Напоўдзень прыгоняць коровы.* Сямігосцічы.

НАПОЎНЯ'ЮЧЫ *дзеепрысл.* Прыемнага апетыту, хлеб ды соль (пажаданне ад пабочнага чалавека, які зайшоў у хату падчас яды). *Напоўняючы! — Просім!— На здоровўе!* (ветлівыя формулы запрашэння за стол і адказу). Хотамель. *Напоўняючы! — Ідзі, куды знаючы!* (жартам). Цераблічы.

НАПОЎСМЕ'РЦЬ, НАПОЎСМЕ'РЦІ *прысл.* Страшэнна, да паўсмерці. *Спужаецца напоўсмерць!* Луткі. *Жонка перэпужаласа напоўсмерці.* Сямурадцы.

НАПРА'ВО *прысл.* Направа, у правы бок. *Ек з Турова, то направо Сторожоўцы.* Пагост.

НАПРА'ГЦІСА *зак.* Напружыцца, натужыцца. *Напрагса на ўсю сілу.* Альшаны.

НАПРАМІ'К *прысл.* Напрасткі. *К дзерэўні будзе дорога напрамік.* Кароцічы.

НАПРА'СНО *прысл.* Дарэмна, марна. *Напрасно не говоры на чоловека абы-шчо, вон не віноват!* Луткі. *Напрасно напаў на чоловека.* Аздамічы. *Напрасно варылі крупнік, ніхто не еў!* Сямурадцы.

НАПРА'СЦІ *зак.* Напрасці. *Напрала ручайку досвету.* Сямігосцічы. *Напрадзе, ек с курыну голову.* Сямурадцы. *Ох, напрала нейкое коўбасы, куды ты гледзіш? Там соў, а там пересоў, там тончыкі, там тоўшчыкі!* М. Малешава.

НАПРА'ЎДУ *прысл.* Сапраўды, на самай справе. *У селе німа нікого, напраўду некому росказаць усе!* Цераблічы. *Напраўду так було!* Бярэжцы. *Однэ молоко*

*у той жабі кора́вой. Напраўду!* Там жа. △ Напра́ўду н е? Ці не так? В. Малешава.

НАПРАЎЛЯ'ЦЦА *незак.* Накіроўвацца. *Вода з Горыня напраўляецца ў Прыпяць.* В. Малешава.

НАПРАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Кіраваць, накіроўваць. *А на до́лі ўжэ напраўля́е той, кото́ры стоіць* (пра пад'ём калоды для пчол). Дварэц.

НАПРАЎЧА'К *прысл.* Напрасткі. *Напраўчак верні к доро́зі, ато шчэ заблу́дзішса.* Пагост.

НАПРО'ВЕСНІ *прысл.* Напрадвесні. *Напровесні я тобе казаў, шо ле́то будзе холо́днэ.* Аздамічы.

НАПРО'МУ *прысл.* Напрасткі. *На Залоз напрому ідзеш.* Крэмна. *Напро́му не пройдзеш, тут боло́то.* Пагост.

НАПРОСІ'ЦЦА *зак.* Напрасіцца, прапанаваць свае паслугі. *Напросіласа сама на вашу роботу дай роблю!* Лусткі.

НАПРО'СТ *прысл.* 1. Напрост, не звязваючы ў снапы. *Напрост жаў жыто ці ў снопы?* Цераблічы. *Россіналі жыто напрост і сушылі.* Запясочча. *Напрост колосы кладзе на комля́.* Аздамічы. *Оўёс, ечмень ніхто не клаў напрост, только жыто.* М. Малешава. 2. Напрасткі. *Шляхо́м дале́ко ехаць, а напрост — блізко.* Кароцічы.

НАПРО'СЦІ *прысл.* Напрасткі. *Можно кру́га даць і можно іці напро́сці.* М. Малешава. *Поеха́ў напро́сці да усу́нуўса ў не́ку беду́!* Мачуль. *Ек напросці, то боля́ць косці* (прыказка). Хачэнь.

НАПРОСЦЯ'К, НАПРОСЦЯКІ' *прысл.* Тое ж. *Такіе во́ды булі, шчо можно було напросцяк у Туроў ездзіць.* Сямігосцічы. *Напросцякі прэцца по агоро́ду.* Дварэц.

НАПРО'ЦІ, НАПРО'ЦІЎ 1 *прысл.* Насуперак, папярок. *Годзіць трэба ёму́, не говорыць напро́ці.* Бярэжцы. *Усё раўно́ нічого нельзя́ напро́ціў сказаць!* М. Малешава. 2 *прыназ.* Насупраць. *Напроці нас стоіць хата зусім мале́нька, вон там жыве.* Сямігосцічы. *Трэбо напроціў ва́лноў дзержаць ло́дку.* Дварэц. Супраць. *Напроціў воды пойдзе моя жо́нка, а не за водо́ю.* Цераблічы. 3. Насустрач. *Я іду́, а напро́ціў мене́ собака ідзе.* Хачэнь. *Так жонка як побачыць, шо ўжэ ідзе, то выска́кває на двор напроціў чоловека.* Кароцічы. 4. Напярэдадні, перад. *Напроці Пэршого мая було ге.* Мачуль. *Напроціў пра́зніку, на другі дзень нейкі празнік буў.* Лусткі. 5. Да. *Прыдзі ў хату — нема напроціў кого і*

*отозва́цца.* Старажоўцы. *Онна́ говорыць пціца напроціў дру́го́е* (з казкі). Кароцічы. *Напроціў коро́ў отозва́ласа коро́ва.* Луткі. 6. У параўнанні. *Велікіе я́блука напроці тых, шчо коло пло́ту.* Хачэнь. 7. За, па. *Напроці я́год едзе.* Бярэжцы.

НАПРО'ШВАЦЦА *незак.* Напрошвацца, вельмі прасіць. *Да напрошваюса: беры́це я́йка!* Пагост.

НАПРЫГА'ЦЦА *зак. экспр.* Насёрбацца. *Напрыга́ласа боршчу, шо мо й не засну.* Пагост.

НАПРЫКА'ЗВАЦЬ *зак.* Навучыць, наўгаворваць. *Вона́ нас напрыка́звае, шо ву не лёзце ў гуркі, а сама́ по́йдзе жаць.* Сямурадцы.

НАПТА'ШЫЦЬ *зак. экспр.* Наладаваць, напхаць. *То́рбу напта́шац до́бру да йдуц косіц.* Запясочча.

НАПУ'ГАНЫ *дзеепрым.* Празмерна адзеты. *Ка́жуць напу́ганы, колі мно́го наложы́ў.* Аздамічы.

НАПУ'ГАЦЦА *зак.* 1. Надзець празмерна на сябе, начапляць лішняга. *Шчо ты так напу́гайса, бы ў доро́гу?* Альшаны. *Одзену́ць ёго́, напу́гаецца і ідзе́, бі пу́дзвіло.* В. Малешава. *От напу́галаса, бы пуга́ч!* Запясочча. Надзьмуцца, натапырыцца. *Чого́ ты напу́гайса, зло́сці набра́йса, як гусак наста́віўса?* Мачуль. Абкружыцца імглістым кругам (пра месяц). *Ме́сяц напу́гайса — будзе дождж* (прыкмета). Хачэнь. 2. Нажлукціцца, нахлябтацца. *От напу́галаса свінья́ і лежы́ць.* Мачуль.

НАПУ'ЖАНЫ *дзеепрым.* Напалоханы. *Ужэ напу́жаные тымі парціза́намі булі немцы.* Верасніца.

НАПУЖА'ЦЬ *зак.* Напалохаць. *У са́му глу́пу ноч не́шчо напужа́ло.* Любавічы.

НАПУ'ЗІЦЦА *зак.* Зрабіцца тоўстым. *Вона напу́зіласа, гэта ве́тла, а так, то гніла́я.* М. Малешава.

НАПУ'КВАЦЦА *незак.* Набухаць, пачынаць распускацца. *Сад напу́кваецца, ско́ро цвісці будзе.* Луткі.

НАПУКНУ'ЦЦА *зак.* Набухнуць, пачаць распускацца. *Пу́пашкі напукну́ліса.* Луткі.

НАПУЛІ'ЦЦА *зак.* Асесці, насыпацца (пра пыл). *Пыл напіліўса у мліне́ ўсю́ды.* Хотамель.

НАПУ'НЬКАЦЦА *зак. экспр.* Наесціся. *Напунькаласа корова, пойны жывот наклала, наеласа, ек бочка.* М. Малешава.

НАПУНЯ'ЦЬ *зак.* Запыняць, накіроўваць. *Ідзі наперод короў да напуняй, а я буду подгоняць ззаду.* М. Малешава.

НА'ПУСТО *прысл.* Зусім, дарэшты. *Напусто вубрала муку ў боцы.* Пагост. △ Н а п у с т о ё м ý (т о б é і г. д.). Нязлоснае пажаданне нядобрага. *От, гуляе, не хочэ робіць, напусто ёму!* Сямурадцы.

НАПУСЦІ'ЦЬ *зак.* Напусціць, наслаць. *Бог напустіў усякую з'ежу на чоловéка.* Альпень. △ Н а п у с т í т ь б р ó в ы. Нахмурыцца. Альпень.

НАПУТА'ЦЦА *зак.* Напытацца, дабіцца. *Напутáўса швец робóты* (прымаўка, пра залішнюю цікаўнасць). Луткі. *Усé пытаюць, пóкуль напытáюцца сваты́ молодóй* (бо яе хаваюць сярод іншых дзяўчат). Альшаны.

НАПУТА'ЦЬ *зак.* Распытаць, даведацца. *Вон напутáў, дзе вона жыве, і прыехаў.* М. Малешава.

НАПХА'ЦЬ *зак.* Напіхаць, набіць. *Цэлую шóпу дроў напхаў.* Аздамічы. *Напхала поўну печ я́блук.* Хачэнь. *У рот песку́ напхáў да захлопіўса.* Там жа.

НАРА'ВІЦЦА *незак.* Падабацца. *Будзе тобе наравіцца, а дале так обры́дне, шчо не могцімеш на ёгó гледзéць!* Старажоўцы.

НАРА'ДЖВАЦЬ *незак.* Упрыгожваць. *Нараджвалі коровай кóлісь хóрошэ.* Хачэнь.

НАРА'ДЖОНЫ *дзеепрым.* Упрыгожаны. *Несуць того короваá, вон нараджоны, зéлье наты́каюць, у вéко положаць, да чоловéк на головé несé.* Цераблічы.

НАРАДЗІ'ЦЦА *зак.* Прыбрацца. *Нарадзіўса дóбрэ — не познаць.* Луткі.

НАРАДЗІ'ЦЬ *зак.* Упрыгожыць, прыбраць. *Нарáдзяць того коровáя да несу́ць.* Хачэнь.

НАРА'ДУХА *ж.* Вясёлка. Аздамічы.

НАРАЖА'ЦЬ *незак.* Прыбіраць, упрыгожваць (у тым ліку прыбіраць нябожчыка ў труне). Луткі.

НАРА'ІЦЬ *зак.* Нараіць, даць параду. *Коб еку жонку нарáілі ему́?* Старажоўцы. *Я тобе нарáю, шо робіць.* В. Малешава. *Нараілі ему купіць козу́.* Хачэнь. *Хворэў, то нараілі ежóвэ сáло.* Запясочча.

НАРВА'ЦЦА *зак.* Напароцца, нечакана натрапіць. *Ішоў да нарваўса на свежыну́.* Запясочча. *Коб не нарваліса другіе жонкі, то пропала б.* Аздамічы. Нечакана з'явіцца. *Я бояласа, шоб не нарвáліса нéмцы.* Бярэжцы.

НАРВА'ЦЬ *зак.* 1. Нарваць, назрываць. *Я поеду зéлья нарву́ свіньям.* Цераблічы. *Трэ́ба нарвáць росхóдніку.* Хачэнь. *Нарві я́блук.* Хільчыцы. 2. Надарваць, пашкодзіць ад напружання. *Нарвáла жывот кáшлем.*

Лутки. *Нарвала жывота от смеху.* Верасніца. 3. Нарваць, нагнаіцца. *Як лопне музыль, то готова нарваць рука.* Дварэц. *Як нарве шчо, чырак які, то тэ жоўце зовуць жэрэло.* Запясочча. 4. Нагнаць (пра вецер). *Колі рвало, рвало, і нарвало дожджу. Вецер навек нарве.* Луткі.

НАРОБІ'ЦЦА *зак.* 1. Напрацавацца. *За цэлы дзень можно наробіцца.* Любавічы. 2. Зрабіцца. *Замесіш, то поўна дзежа наробіцца.* Сямігосцічы.

НАРОБІ'ЦЬ *зак.* Нарабіць, навытвараць. *Поба, шо твоя сестра наробіла!* Бярэжцы. Нарабіць у вялікай колькасці. *Прыдзе Ілья да наробіць гнільяя* (прымаўка). Цераблічы. *У етом годзе наробілі сеноў!* Пагост.

НАРО'Д *м.* Народ, людзі. *Народу наедзе богато на кермаш.* Луткі.

НАРОДЗІ'ЦЦА *зак.* Нарадзіцца, з'явіцца на свет. *Як заканчваюць ткаць да опадзе пруток з вороціла, то беруць ёго і напроці сонца бегуць кругом хаты. І кого ўстрэціць: ежэлі з мужчынского полу, то хлопчык будзе, народзіцца ў того, хто тоўсты ў селе, а колі ўстрэціцца кура, гусь, дзевочка, жонка по дорозе, шо йдзе, то кажэ — дочка будзе.* Луткі.

НАРОДЗІ'ЦЬ *зак.* Нарадзіць. Запясочча. △ Я к м а ц і н а р о д з і л а. Дагала. *Роздзевайса, усё скідай, як маці народзіла.* Кароцічы.

НАРО'ДНО' *прысл.* Людна. *Рыбу мало, бо цепер раз — народно, а други — глушац.* Запясочча. *Это ж цепер народно стало, а тогды кусты булі.* В. Малешава. *От у Кіеві народно!* Там жа.

НАРО'ДОК *м.* Зародак. *Ек ненайгранэ ейцэ, то нема народка.* М. Малешава. *Без народку, то сухіе яйца ў нас кажуць.* Старажоўцы.

НАРО'КОМ *прысл.* Дарэчы. *Шчэ нароком ні белой косінкі на голове нема, коб на смех.* Аздамічы.

НА'РО'СЛЯ *ж.* Нараст, гула. *На берозі нарослья нарастае.* Запясочча. *Од эттыка о нарослья росла.* Мачуль.

НАРО'СПУСЦІ *прысл.* У час таяння снегу вясной. *Нароспусці сама плюхота, снег з водою.* Луткі. *Му ехалі з Іваном нароспусці, то попоцегалі ту машыну.* Там жа.

НАРО'СТА'ЦЬ *незак.* Нарастаць, вырастаць. *Вон* (дзівасіл) *наростае з тых семеноў.* Хачэнь. *Мох наростае — прыкмета е така — з одного боку наростае.* Там жа. *Два разы лес наростаў, ссекалі.* Цераблічы.

НА′РОСТОЧОК *м.* Расток. *Нерóўные сходы: е ў которых нема наросточка, а друга онь екá картопля!* М. Малешава.

НА′РОСЦЕНЬ *м.* Нараст. *Наросцень, ек на косці наросцé шчо.* Луткі. *Нáросцень на ўязе буў, з его коўгáнку зробіў дзед.* М. Малешава. *Это наросцень, магýла.* Хільчыцы.

НАРОСЦІ′ *зак.* Нарасці, вырасці ў вялікай колькасці. *У долінáх не нарослá трава, холóдна весна була.* В. Малешава. *Наростýць коноплі ў дóброго чоловéка.* Пагост. *Мы помрэм, то іншые людзі наростуць.* Луткі.

НА′РОСЦЬ *ж.* Нараст. *Бородаўкі ці наросць,— то як з якого пáдла костка валяласа, то по молодзікý шаровалі тою кóсткою.* Старажоўцы. *Нáросці на дзерэвіне.* Аздамічы.

НА′РОЎ *м.* Нораў, натурлівасць. *Не мае нарову жáдного, не наровісты конь.* Луткі.

НА′РОЎНЕ, НА′РОЎНІ *прысл.* Нараўне, аднолькава. *Óльха жыве нáраўне з дубом і здзелаецца ў водзе бела, шчо бумага.* Хотамель. Пароўну, раздзяліўшы на роўныя часткі. *І нам нароўні даў, на тры часці розрэзаў кобанá.* Луткі.

НАРО′ШНЕ *прысл.* Знарок, наўмысна. *Нарошне сказалі, шо понакóшвалі сéна, то вон одрáзу побéг.* Хачэнь.

НА′РУБ, НО′РУБ *м.* Зруб. *Наруб зробіў, колóдзезь нарубіў.* Мачуль. *Трэ нóву норуб, а то водá гнілá.* Пагост.

НАРУБА′ЦЬ *зак.* Насячы. *Сілегі нарубáў на дрóва.* Верасніца.

НА′РЫ *мн.* Падстаўка пад галаву нябожчыка. *Ек молодого несуць на мóгліца, на головáх нары такіе поробяць.* Кароцічы.

НАРЫЖОВА′ЦЦА *зак.* Нарумяніцца. Бярэжцы.

НАРЫ′КОЦІЦЬ *зак.* Натрапіць, наскочыць незнарок. *Нарыкоціш на егó, хóдзечы по грыбóх* (пра *тур-зелле*). Кароцічы. Набраць, назбіраць. *Му у той дзень нарыкоцілі столькі ягод!* Кароцічы.

НАРЫ′НУЦЬ *зак.* Напасці, наляцець раптоўна. *Нарынуць солдáты да налецяць на орэхі.* Кароцічы. *Нарыну на ёгó, а вон седзіць хоць бы шчо.* М. Малешава. Накінуцца. *Усёго настроіла, а цыгáн як нарынуў на ту едý!* Луткі. Натрапіць, наткнуцца. *Кот на нéку траву нарыне да есць, знае, шчо от ее будзе пóмоч.* Луткі. *Цыгáнка*

*стане говорыць да на некое слово нарыне, от і ўгадала собе ў торбу.* Там жа.

НА'РЫПЕНЬ *м.* Скрыпучы мароз. *От здоровы нарыпень на дворэ!* Аздамічы.

НАРЫ'ТКІ *мн.* Набедрыкі. Запясочча.

НАРЫ'ТНІКІ *мн.* Тое ж. *Нарытнікі коню накласці трэ.* Дварэц. *Хамут і к хамутў прыўязаны нарытнікі і залыганые вожкі.* Там жа.

НАРЫ'Ў *м.* Нарыў. *На палцы нарыў получыўса.* Аздамічы.

НАРЫ'ЦЦА *зак.* Наткнуцца, напароцца. *Одзін еўрэй ішоў да нарыўса на гэтэ золото.* Пагост. *Я пошла дай якурат нарылаca на той ворох.* Луткі. *Нарылаcа на болоні на пєчурыцы, зварыла, да такіе лоўкіе!* Чэрнічы. *Бувае, на грыбы нарыесса, то наберэш поўну шаньку.* Цераблічы.

НАРЫШТУ' *прысл.* У прыўзнятым стане. *Нарыштў сено лежыць, бо вусоко покошэно.* Аздамічы.

НАРЭ'З *м.* Надзел, участак поля (каля 1 гектара). *Земле ў попа було нарэзаў дзесецъ, то сам жэ не обробляў.* Пагост.

НАРЭЗА'ЦЦА *незак.* Наразацца, надзяляцца (пра зямлю). *Ек нарэзаласа земля, то було трыццаць два чоловекі, а цепер больш за трыста двороў.* Пагост.

НАРЭ'ЗАЦЦА *зак. экспр.* Празмерна наесціся, напіцца. *Я коўбасы так нарэзаласа, од пуза!* Кароцічы. *От нарэзаўса, аж бокі трэшчаць.* М. Малешава. *Нарэзаўса, ек Марцін мула* (прымаўка). Там жа. *Нарэзаўса по закрутку* (прымаўка). Аздамічы.

НАРЭ'ЗАЦЬ *зак.* Нарэзаць. *Бувало, ека прычына, то нарэжэш — такіе завідные сцёгна!* Верасніца. Навыразаць. *Обручы нарэжу на жакі.* Буразі. Накроіць. *От хлеба нарэзаў да посохне.* Луткі. Накрышыць, нашаткаваць. *Трэ нарэзаць яблок і сушыць на сонцы.* М. Малешава. *Ек последня квадра, то тогды ножэм нарэжу капусты і ў бочку.* Хачэнь. Назразаць. *З одного корэня ведро нарэжэш* (пра апенькі). Там жа.

НАРЭЗА'ЦЬ *незак.* Наразаць, надразаць. *Нарэзаюць хвою, шоб жывіца цекла.* Хачэнь. Назублівацъ. *Вон умее нарэзаць пілы.* Запясочча. Дзяліць (зямлю). *Рыдча — вуселка з Турова, поселок, там землю нарэзалі.* Старажоўцы.

НАРЭ'ЗВАЦЦА *незак.* Зарэзвацца, запілоўвацца.

*Ка́ня нарэ́зваецца до бальki для перэгоро́дкі.* Цераблічы.

НАРЭ′ЙЗАЦЬ *зак.* Накрэмзаць, начыркаць. Кароцічы.

НАРЭКА′ЦЬ *незак.* Наракаць, скардзіцца. *Нарэкае на до́лю свою́.* Бярэжцы.

НАРЭ′Ч′Е *н.* Мова, голас. *Нема́ нарэ́ч'я крыкнуць.* Запясочча.

НАРЭ′ЧЭНЬКА *ж.* Танец. *Нарэчэньку танцэвалі по па́рах, одзін подпевай. Шаг туды, шаг назад.* Верасніца.

НАСАДЖА′ЦЬ *незак.* Насаджваць. *А это ж прослі войны́ ўжэ насаджалі.* Бярэжцы.

НАСВЕЦЕ′Х *прысл.* У прамежак часу паміж вялікаднем і хрышчэннем. *Насвецёх от роздва́ до хрэшчэ́нья кажды вечэр светы́, нельга робіць.* Дварэц.

НАСЕГНУ′ЦЬ *зак.* Нагнаць, дагнаць. *Ішла, ішла і лёдбо насегла́ цебе́.* Цераблічы.

НАСЕ′ДЖЭНЫ *дзеепрым.* Наседжаны. *Насе́джэнэ ейцэ́ пла́вае, а ненаседжэнэ пота́не.* В. Малешава. *Не беры по́кладу, бо вон ужэ насе́джэны.* Дварэц.

НАСЕДЗЕКА′ *прысл.* Седзячы. *Я з На́дзей наседзека́ зняла́са.* Цераблічы.

НАСЕДУ′ХА *м.* і *ж.* Пра дзіця, якое доўга не ходзіць. *От ты наседуха, шчо ты седзіш! Уставай да ходзі!* Пагост.

НАСЕКО′МОСЦЬ *ж. зб.* Насякомыя. *Жыву́ча ета насекомосць, шо крой п'е.* Пагост.

НАСЕ′КЦІ *зак.* Насячы. *Трэбо насекці капу́сты во ўрэ́зок.* Аздамічы.

НАСЕЛЕ′НЕЦ *м.* Наежджы. *На Майда́не усе населе́нцы.* Сямурадцы. *Населенцы е ў селе, а Лешкі, то дайніе.* Луткі.

НАСЕЛЕ′НЬЕ *н.* Насельніцтва, насельнікі. *Гэто ўжэ но́вэ населенье збор-дружы́на.* Дварэц.

НАСЕЛІ′ЦЬ *зак.* Насяліць, засяліць; забудаваць. *Цепэр населілі нас по́густо.* Цераблічы. *А цепер то скрозь там населілі хаты́.* Пагост.

НАСЕ′ННЫ *прым.* Прызначаны на насенне. *Насенные картоплі ў копцэ́ загрэба́лі.* Пагост.

НАСЕ′НЬЕ *н.* 1. Насенне, семя. *Нема насенья ў мене тых цветоў.* Сямігосцічы. *Воны вудоўбваюць насенье з шышок* (пра дзятлаў). Луткі. *Са́ме пе́рве зе́рнета на насе́нье.* Старажоўцы. *На карто́плішчэ хоро́шэе жыто на насенье.* Кароцічы. *Весной боронуем, гной возім, оро́м*

*под насе́ньe*. В. Малешава. 2. Яечкі, расплод. *По́д спод ліста́ саджа́е насе́ньe жук той.* Сямігосцічы. *Памянш.* н а с е́ н е й к о. *Бі чорну́шка, таке насе́нейко у той цыбу́лі*. В. Малешава.

НАСЕ'СЦІ *зак.* Насесці. *Насе́ло тых комаро́ў!* Сямурадцы.

НАСЕ'СЦІСА *зак.* Напасці, наваліцца. *Як нася́дуцца на его́ — хоце́лі сілою посадзіці ў ло́дку.* Запясочча.

НАСЕ'ЯЦЬ *зак.* Насеяць, насадзіць. *Насе́ялі лну мно́го.* Кароцічы. *Насеяў і зaбороновáў, хай ро́дзіць бог на ўсякого долю.* Луткі. *Ужэ і картоплі насеялі.* Хачэнь. *Квасолі насеем, шчо по мешкоў тры, да емо́.* Дварэц.

НАСЁРБАЦЦА, НАСЕРБА'ЦЦА *зак.* Насёрбацца. *Я ўжэ насёрбаўса капусты, то куцьí е́сці не буду.* Верасніца. *Насербáўса ўжэ.* Запясочча.

НАСІЛКОВА'ЦЦА *зак.* Добра наесціся. Луткі.

НА'СІЛКОМ *прысл.* Сілаю, гвалтам. *Хозяйка познімала рубашкі насілком з нас.* Хачэнь.

НАСІ'ЛУ *прысл.* Ледзь, з цяжкасцю. *Насілу ву́лез з ямкі.* Луткі.

НАСКІДА'ЦЬ *зак. экспр.* Назбіраць, накідаць у кошык. *Нема грыбо́ў — козлякóў усякіх наскіда́ла.* Хачэнь.

НАСКОВА'ЦЬ *зак.* Нацкаваць. *Насковаць собакою.* Сямігосцічы.

НАСКОСЯ'К *прысл.* Наўскасяк. *Наскосяк так обшы́тэ.* Запясочча.

НАСКРЭ'БЦІ *зак.* Наскрэбці, начысціць. *Трэ наскрэ́бці буракоў да квáсіць.* В. Малешава.

НАСЛА'ЦЬ *зак.* 1. Наслаць. *Наслаў столю.* Пагост. 2. Навесці, напусціць. *Ой шоб на его ліхо, ек вон мене трапіў да наслаў беду.* Дварэц.

НАСЛЕДЖА'ЦЦА *незак.* Наведвацца. *Назіму товáр домо́ў зайшоў, але туды ж, дзе вон буў летом, наследжа́юцца, ходзяць, до свого́ ж, моўляў, ідуць поба́чыць.* Кароцічы.

НАСЛЕДЗІ'ЦЬ *зак.* Высачыць. *Воны наследзілі мене́.* Бярэжцы.

НАСЛІ'ЗІЦЬ *зак.* Чуць змачыць зямлю. *Наслізіў дождж.* Запясочча.

НАСМА'ЖЫЦЬ *зак.* Насмажыць. *Карпы́ хорошые, насмажылі цэлу сковороду.* Луткі. Напражыць. *Насма́жымо гороху.* Луткі.

НАСМЕЛЕКА′ *прысл.* Смела. *Насмелека́ іду куды хоч.* В. Малешава.

НА′СМЕРКУ *прысл.* У прыцемках, пасля заходу сонца. *Насмерку з сена прышлі, бо погода.* Пагост.

НА′СМЕРЦЬ *прысл.* Да смерці. *У тоé, шчо зачавіў насмерць, чэцьвёро дзецей зосталóса.* Цераблічы.

НАСМЕЯ′ЦЦА *зак.* Насмяяцца, пасмяяцца. *Насмеяўса чыгун з горшка́, аж сам такі* (прыказка). Хачэнь.

НАСМІХА′ЦЦА *зак.* Насміхацца, кпіць. *Шчо ты насміха́есса, поддзева́еш, думаеш, шчо ўжэ веліка шышка?* Бярэжцы.

НАСМУКА′ЦЬ *зак.* Насмыкаць, нацягаць. *Се́на насмука́ў по́ўны дуб.* Цераблічы.

НАСМУРО′ДЗІЦЬ *зак.* Нарабіць смуроду. *Ту́тэка не́хто не́чым так насмуро́дзіў, шчо аж дыхаць ва́жко!* Тураў.

НАСОЛІ′ЦЬ *зак.* Насаліць, засаліць. *Помідо́ры спе́лые прошлый год насолілі собе і далі і ў Соліго́рск.* Сямігосцічы.

НАСОЛО′ТКЕ *прысл.* Несалёнымі, у свежым выглядзе. *Тые жо́ўці до́брэ насоло́тке есць* (пра жоўтыя агуркі). В. Малешава.

НАСО′ЛЬВАНІКІ *мн.* Ачышчаная звараная бульба. Хотамель.

НАСОПРА′ЎНО *прысл.* Напраўду, сапраўды. *Насопра́ўно зробіла.* В. Малешава. *Насопра́ўно пойду на по́ле да побачу.* Там жа.

НАСОРОМОЦІ′ЦЬ *зак.* Засароміць, засарамаціць. *Насоромоціла ее, то пошла да наклала дзіцяці рубашэчку, лёлю.* Сямігосцічы.

НАСО′С *м.* Нагар (у люльцы). *Вужэ́ страшно тогó насóсу з люлькі бояцца.* Хотамель.

НАСОЎГА′ЦЬ *зак.* Надаваць кухталёў. *Ра́зом пілі да ёму́ насоўга́лі, то хо́дзіць побіты.* Запясочча.

НАСОЎКА′ЦЦА *зак. экспр.* Нахадзіцца, натупацца. *Я за дзень так насоўка́ласа, шо ўсю ноч но́гі болелі.* В. Малешава.

НАСОЧЫ′ЦЬ *зак.* Асачыць, высачыць. *Трэба ра́ненько іці, насочыць, дзе воны е́сцека.* Луткі.

НАСПЕ′Х *прысл.* Паспешліва, спехам. Аздамічы.

НАСПІ′ЧНІК *м.* Дэталь у коле воза (рэхва, якая набіваецца на калодку каля спіц). *Наспічнікі наця́гваюцца на коло́дзіцу.* Цераблічы.

НАССА'ЦЦА *зак.* Нассацца, насмактацца. *Не гадзюка то була́, а вуж! Насса́ўса і попо́ўз.* Бярэжцы.

НАСТАВА'ЦЬ *незак.* Наступаць, надыходзіць. *Молодзік настае́.* Цераблічы.

НАСТА'ВІЦЦА *зак.* Насцярожыцца, прыслухоўваючыся. *Як наставіцца — ро́гі і ву́шы! Попрэ́, шо й дох ее дожэне́, тую корову, шо почула во́ўка.* Бярэжцы.

НАСТА'ВІЦЬ *зак.* 1. Паставіць. *Юшкі наставіў.* Бярэжцы. 2. Накіраваць, выставіць. *Руж'е́ наставіў.* Верасніца. *Наста́віць мусу да капры́зіць!* Сямурадцы. *Весной вода́, то куда очы наставяць — едуць.* М. Малешава. 3. Падставіць. *Настаў пры́горшчы, я насы́плю цукеркоў.* Верасніца.

НАСТА'ВОЧКА *ж.* Дадатковыя соты ў вуллі. Мачуль.

НАСТАНОЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Настаўляць, натапырваць. *Конь настаноўля́е ву́шы, чу́е во́ўка.* Любавічы.

НАСТАНО'ЎНІК *м.* Нейкая лясная лекавая расліна. *Настано́ўніка ўдо́ма нема, то́лькі ў ле́се. Ек подорве́цца чолове́к, то вон помога́е.* Хачэнь.

НАСТАРЦОВА'ЦЬ *зак.* Нажабраваць. *Ста́рэц настарцова́ў мно́го.* Цераблічы.

НА'СТАЎКА *ж.* Рыбалоўная прылада, якой ловяць рыбу з лодкі. *Гэты дзед на́стоўкой на су́се поставіць, то пойма́е рыбу!* (жарт). Цераблічы.

НАСТАЎЛЯ'ЦЬ *зак.* Падстаўляць, выстаўляць. *Настаўля́й ве́дра под дождж.* Мачуль.

НАСТА'ЎНІК *м.* Настаўнік. *То наста́ўнік гэты, вон ум'ёр, двое́ купіў.* Старажоўцы.

НАСТА'ЦЬ *зак.* Настаць, наступіць, падысці. *Косовіца наста́ла, да скоро наста́нуц жніва.* Запясочча. *Ек пыліпоўка наста́ла, то воўкі ідуць гойно́ю.* Любавічы. *Молодзік настае́ і обму́цца хо́чэ* (пра дажджлівае надвор'е ў першую квадру). Луткі. *Наста́ў Ілья́, наробіў гніль́я́* (прымаўка). Хачэнь.

НАСТО'ЙКА *ж.* Настойка на ягадах. *Насто́йкі тро́хі коўтну́ла.* Бярэжцы.

НАСТО'ЛЬНІК *м.* Абрус. *Ко́ліся ткалі насто́льнікі, а цепер купля́юць.* Хачэнь.

НАСТО'ЛЬНІЦА *ж.* Тое ж. *Настольніцу ў восем нітоў ву́ткала.* Сямурадцы. *Хто про́шву робіў у насто́льніцы, хто ху́сткі веза́ў.* Хачэнь.

НАСТО'РЧ *прысл.* Старчаком, вертыкальна. *Я насторч упаў з ло́ткі.* В. Малешава. *Насторч поста́віць*

*полено.* Аздамічы. Тарчма. *Поставіло ее насторч, да нё лечэ́ньня, ратова́ньня — і померла.* Сямігосцічы. Перпендыкулярна, супрацьлегла. *О так, скажэм, е кіёчок у вульі, а е і насторч.* Дварэц.

НАСТОЯ′КА *прысл.* Стоячы. *Настояка больш улéзе* (жарт). В. Малешава.

НАСТОЯ′ЦЬ *зак.* Навязаць сваю волю, прымусіць падпарадкавацца. *Настоялі дзядзькі да ожэнілі ёго́, того́ хло́пца.* Лугкі.

НАСТОЯ′ШЧЫ *прым.* 1. Сапраўдны. *Прорва настояшча!* (пра гразкае месца). Луткі. 2 *перан.* Даволі значны. *Настоя́шча ту́ча була́, дождж усе заліў.* Там жа.

НАСТРА′МОК *м.* Невялікі воз сена (200—400 кг). *Шчо я там накла́ў, онно настра́мок!* Сямігосцічы. *Настрамок се́на, шчыгу́лна ко́пка.* Пагост. *Памянш.* н а с т р а́ м о ч о к. *Получыў настрамочок сена.* Мачуль.

НАСТРАХА′ЦЦА *зак.* Спужацца, напалохацца. *Настрахаўса, шо не знаю як!* Цераблічы. *Вон ек настрахаўса да прыбег і крычыць: — Тато, тато, воўк овечку ухопіў!* Луткі. Набрацца, нацярпецца страху. *Але настрахаўса, шо ко́сы стоялі!* Сямігосцічы. *Ну, я ўжэ вас не пушчу́ ў кіно, я і так настраха́ласа!* Дварэц.

НАСТРО′ІЦЦА *зак.* Наладзіцца, прыйсці ў нармальны стан. *Будзеш вары́ць, і вон настро́іцца, твой жыво́т!* В. Малешава.

НАСТРО′ІЦЬ *зак.* Наладзіць, падрыхтаваць да работы. *Дзень робі за тое, шо вона мне кро́сна настроіць!* Хачэнь.

НАСТРОМІ′ЦЬ *зак.* Неакуратна налажыць, накідаць абы-як. *Як накласць, то много ўлезе на воз, а так настроміў, настроміў — то мало дроў!* Сямігосцічы.

НАСТРУГА′ЦЬ *зак.* Наскрэбці, нарэзаць палоскамі. *Наструга́ць буракоў трэ да квасу наробіць бурако́вого.* В. Малешава.

НАСТРЭ′НЧЫЦЬ *зак.* Настроіць, падбухторыць, падгаварыць. *Людзі настрэ́нчаць, шо ей трэба ха́ту коб построілі од колхозу, то вона і добіваецца.* М. Малешава.

НАСТУПА′ЦЬ *незак.* Наступаць, надыходзіць. *О гэты, шо наступае, гэты месец буў.* Сямурадцы. *Ужэ красңўе, васна ўжэ наступае.* Мачуль.

НАСТУПІ′ЦЬ *зак.* △ Н а с т у́ п і ц ь ч о р т н а н о́-

гу. Пра клопаты, згрызоту. *Постой, наступіць і тобе чорт на ногу, не ўсе ж гуляць!* Сямігосцічы.

НАСТУ'ПНЕМ *прысл.* Гвалтам. *Наступнем гоніла его.* Аздамічы.

НАСТЫРА'ЦЦА *незак.* Псаваць адносіны, задзірацца. *Настырацца не хоцеў Іванко за буракі.* Дварэц. *Забіў бы гэтого кота, да не хочу настырацца — я з імі жыву добрэ.* Там жа.

НАСТЫ'РНОСЦЬ *ж.* Нянавісць, нецярпімасць. *Така настырносць узеласа між суседамі, шчо образа знімалі і прысягалі.* Лутк.

НАСТЫ'РНЫ *прым.* Упарты, задзірысты. Хільчыцы.

НАСТЫ'РЫЦЦА *зак.* Завесціся, пасварыцца. *От, настырыцца, ш чоловеком не говорыць.* Мачуль.

НАСТЫ'ЦЬ *зак.* Зрабіцца халодным. *Вода ўжэ настыла крэпко!* Старажоўцы.

НАСУ'ГОВАТО *прысл.* Пахмурна, змрочна. Бярэжцы.

НАСУКА'ЦЬ *зак.* Насукаць, навіць. *Онь з поймы набэры нітокк насукаць.* Мачуль.

НАСУЛІ'ЦЬ *зак.* Прапанаваць. *Нашчо ты ему столько насуліў? Не можно було столькі насуліць!* Альшаны.

НАСУ'ПІЦЦА *зак.* Нахмурыцца. *Насупіцца, як хмара на дождж.* Мачуль. *Чого ты насупілосо, зогнévалосо?* Запясочча. *Воўковáты чоловéк насýпіцца да моўчыць.* Сямурадцы. *Ужэ насупіўса і слова не хочэ сказаць.* М. Малешава.

НАСУПЯ'ЧЫЦЦА *зак.* Тое ж. *Насупячыцца і ходзіць, а мо вон думае шо таке, не говорыць?* М. Малешава.

НАСУ'ТЫЧ *прысл.* Упрытык, вельмі блізка. *Насутыч ногі стаўляў — ніякі, ніякі буў!* М. Малешава. *Дай бог, шоб цебе насутыч поставіло!* (праклён). Там жа.

НА'СУХО *прысл.* Насуха. *Насухо вуцёр корэц.* Аздамічы.

НАСУШЫ'ЦЬ *зак.* Насушыць. *Досвéта побегóм да набером, да насушым тых груш.* Верасніца.

НАСЦЕГА'ЦЬ *зак.* Нашморгаць, насцягваць. *Насцегаем, насцегаем насéнья да тоўком его.* Пагост.

НА'СЦЕЖ *прысл.* Насцеж, шырока. *Отчыніў дзверы нáсцеж, і комарóў пóўну хату напускáў.* М. Малешава. *Сені отчынілі, хату кінулі нáсцеж і пошлí.* Кароцічы.

НАСЦЁЛ *м.* Падсцілка; сена, якое ідзе на подсціл.

*Коб насцёл буў, то на половіну соток гнóю буló б.* Сямігосцічы. *Сена не наробіў, онно насцёл.* Хотамель.

НАСЦІГА'ЦЬ *незак.* Даганяць, наганяць. *Насцігаціме я его́, то вон схова́ецца.* Хотамель.

НАСЦІ'Л *м.* Насціл, памост. Запясочча.

НАСЦІЛА'ЦЬ *незак.* Насцілаць, рабіць столь. *Хату трэ́ба насціла́ць.* Луткі.

НА'СЫП *м.* 1. Насып. *На́сыпы такіе е ў боло́тах.* Буразі. 2. Ячэйка, дзірка ў верхнім камені жорнаў. *На́сып е ў жо́рнах.* Альгомель.

НАСЫ'ПАЦЦА *зак.* Насыпацца, патрусіцца. *После ужэ поробілі хорму з бля́хі, дай покрішкі, шоб не насы́паўса по́пел.* Бярэжцы.

НАСЫ'ПАЦЬ *зак.* Насыпаць, напоўніць сыпкім. *На́сыпле кош, то ложы́цца і спіць эты мельнік.* Старажоўцы. *Насыпала пшэна, а воны не едзяць.* Луткі.

НАСЫПА'ЦЬ *незак.* Насыпаць. *Я добрэ закмеціў, шо вон ло́жэчкой насыпа́е.* Старажоўцы.

НА'СЫПКА *ж.* Насыпка (у падушцы). *Прысла́лі на́сыпкі да зробіла я ім дзве поду́шкі.* Запясочча. *Насыпка на пух.* Луткі.

НАСЫПНЫ' *прым.* △ Насыпна́ бо́чка. Бочка для сыпкіх рэчываў. *Веліка бочка, то насыпна, а малая — то варыўна́.* Сямігосцічы. *Насыпные бочкі робілі з осіны на зерно, на сем'е, на муку, на жо́лудзь.* М. Малешава.

НА'СЫПОМ *прысл.* Навалам, вельмі многа. *Насыпом тых жукоў, як песку́.* Дварэц.

НАСЫПЧА'СТЫ *прым.* Насыпны. *Насыпчастые ка́доўбы булі, а с кле́пок то не.* Сямурадцы.

НА'СЬКІ *прым.* △ На́ські велікдзень (дзень). Чацвёрты дзень велікоднага тыдня (наўскі вялікдзень). *У нас на наські велікдзень ідуць на мо́гліца, яйцо́ якée положаць на хрэст.* М. Малешава. *У наські дзень на па́сошные дні ідуць на мо́гліца ў нас.* Там жа.

НАТ *часц.* Нават. *Нат ані віскнуло, ані піскнуло.* Запясочча. *Я нат і не поба́чыла.* М. Малешава. *Горэлкі нема помяну́ць нат.* Там жа. *Цепер нат і колендара́ не купілі.* М. Малешава.

НАТАРАМБА'СІЦЬ *зак. экспр.* Нагаварыць абычаго. *Натарамбасяць вам ба́бы!* Дварэц.

НАТАРАТО'РЫЦЬ *зак. экспр.* Тое ж. *Сем воз коз натараторылі!* В. Малешава.

НАТКА'ЦЬ *зак.* Наткаць. *Му раньшэ як ткалі на той снасцё, то за дзень губічку начэм.* Хільчыцы.

НАТКНУ'ЦЬ *зак.* Насадзіць. *Наткнуў чэр'яка на вўдку.* Луткі. *Этого жука наткні!* Там жа.

НАТОЛКОВА'ЦЬ *зак. экспр.* Нагаварыць. *Той дзед натолкўе, шчо ўсе селó не прыдумае.* Луткі.

НАТОЛІМА'ЧЫЦЬ *зак. экспр.* Тое ж. *Бабы тобе натолмáчаць, ты толькі слўхай!* Сямурадцы.

НАТОМІ'ЦЦА *зак.* Стаміцца, змарыцца. *Натомлюса, прыду да цóпну ў посцель.* Запясочча.

НАТОМІ'ЦЬ *зак.* Стаміць, змучыць. *Натоміў кобылу да ў хлеў запёр!* Альпень.

НАТОПІ'ЦЦА *зак.* 1. Нанырацца, топячыся. *Можно натопіцца, як расколывáюць лодку.* М. Малешава. 2. Напаліцца, нагрэцца. *Натóпіцца груба, то некой прэ́лью несё.* Запясочча.

НАТОПІ'ЦЬ *зак.* Напаліць, нагрэць. *Хата моя холóдная, да нечым натопіць. Дзеткі мое голóдные, да нечым покорміць* (з песні). Хачэнь.

НАТОПТА'ЦЦА *зак.* 1. Набрацца, назбірацца. *За лето гною натопчэцца, то возіш его на Бор.* Мачуль. 2 *перан.* Наесціся. *Я, шчытай, рэзанóк горачых натоптаўса.* Аздамічы.

НАТОПТА'ЦЬ *зак.* Набіць, напхаць. *Натопчэ ў ту люльку табáкі пóўно.* Старажоўцы. *Да нáшчо ты натоптаў тогó мéха?* В. Малешава.

НАТОПУ'РВАЦЦА *незак.* Настаўляцца, насцярожвацца. *Воно натопырваецца, ек звер.* Мачуль.

НАТОПУ'РЫЦЦА *зак.* 1. Наставіцца, наставіць пер'е і інш. *Натопўрыласа кура.* Луткі. 2. Уздуцца, прыўзняцца. *От одзежа пошыта плохо! Нéшчо на плечах натопўрылас.* Луткі. 3. Надзьмуцца, раззлавацца. *Мене ўбачыў, натопўрыўса і стоіць!* Верасніца.

НАТОПУ'РЫЦЬ *зак.* Наставіць, прыўзняць. *Натопурыў вўшы конь.* Бярэжцы.

НА'ТОПЧ *ж.* Слой нанесенага нагамі і ўтаптанага грунту. *Тўта стáра посéля, то стáры гной е, натопч, натоптáлоса нáтопчы. Дзе коло хáты натопч натóптваецца.* Сямігосцічы.

НАТОРОКО'Х *прысл.* Напагатове, у чаканні. *Стоіш наторокох, шчоб не прозеваць аўтóбуса.* Дварэц.

НАТОРО'ЧЫЦЬ *зак. экспр.* Нагаварыць абы-чаго. *Я ей наторóчу, коб не говорыла.* В. Малешава.

НАТОЎКЦІ′ *зак.* Натаўчы. *Я натоўку гэтого бадыльніку да накрышу.* Дварэц.

НАТОЧЫ′ЦЬ *зак.* 1. Натачыць, навастрыць. *Сокéру наточыў дзед Рыгор.* Цераблічы. 2. Накапаць. *Землé наточыць крот копéц.* Хачэнь.

НАТРА′ПІЦЦА *зак.* Знайсціся. *Цапý, цапý, цáпіца, скоро не трáпіцца, ек морóз возьме, то натрáпіцца* (загадка). *Рукавіца* (адгадка). Верасніца.

НА′ТРОЕ *прысл.* На тры часткі. *Поперэрэзвала нáдвое картоплі, которые натрое.* Кароцічы.

НАТРУБІ′ЦЦА *зак. экспр.* Напіцца. *Вон натрубіўса ўчóра, ідзé, у бóкі вáліцца.* Запясочча. *Воды́ натрубіласа і éсці не хочý.* Луткі.

НАТРУДЗІ′ЦЬ *зак.* Навярэдзіць. *Руку натрудзіў на жнівáх, опýхла.* Луткі.

НАТРУ′ШЧЫЦЦА *зак. экспр.* Наесціся. *Корова любіць займаць гольé да натрушчыцца того гольЯ́.* Верасніца.

НАТРЭПА′ЦЬ *зак.* Натрапаць. *Натрэпала пýндзель лну, п'яць пудóў лну.* Дварэц.

НАТРЭПЕСТА′ЦЬ *зак.* Налепятаць, натрапаць. *Унука тобе натропéшчэ, шчо хочэш.* В. Малешава. *Вона езыком можэ багато натрэпестáць.* Старажоўцы.

НАТРЭ′САЦЬ *незак.* Натрасаць, натрушваць. *Натрэ́саць гной на картоплі пошла.* Луткі.

НАТУ′ГОВАТЫ *прым.* Тугаваты (пры даенні). *Наша трошкі натуговата корóва, а бувае тугá корова — поцяні, як з воўчых зубоў!* Старажоўцы.

НАТУ′ЖЫЦЬ *зак.* △ Н а т ý ж ы ц ь ж ы в ó т. Добра наесціся. *Вон натужыў жывот дай поцЯ́гса на село.* М. Малешава.

НА′ТУЗІ *прысл.* У напружанні, туга. *У руках натузі дзержаў.* Мачуль.

НАТУ′РА *ж.* Натура, характар. *Товáрына як чоловек, разную мае натуру.* Цераблічы. Прывычка, звычка. *Узяў такý натуру гусей топтáць.* Сямігосцічы.

НАТУ′РЛІВУ *прым.* Натурысты, наравісты. *От она упáрта, натурліва, анішчó не хóчэ послухаць!* Бярэжцы. *Натурліву конь.* М. Малешава.

НАТУ′РЫСТЫ *прым.* Тое ж. *Натурысты конь не йдзе, збрóю порвé.* Аздамічы.

НАТУ′РЫЦЦА *незак.* Упарціцца. *Натýрысты конь*

*навек натурыцца.* Цераблічы. *Чо ты натурысса?* Запясочча.

НАТЫКА'НЬЕ *н.* Радок, вытканы іншымі ніткамі (звычайна чырвонымі). Хотамель.

НАТЫКА'ЦЬ *незак.* Натыкаць (на кроснах). *Купляюць да натыкаюць усёго пойну хату.* Хотамель.

НАТЫ'ЧНІКІ *мн.* Дэкаратыўныя кветкі, якія ўюцца на нітку або на тычку. *Натычнікі повіліса на ґанок уверх, воны цвітуць сінім цвётом, у негоду закрыты, а ў погоду — нé.* Сямігосцічы.

НАЎБЕ'ЖКІ *прысл.* Бягом. *Дзейка наўбежкі до того дзёда!* Цераблічы.

НАЎГАДЫ' *прысл.* Наўгад, наўздагад. *Воны стрэлілі наўгады да ўбілі свінча.* Верасніца. Усляпую, вобмацкам. *Вона так наўгады робіць, бачыць слабо.* Мачуль. Як прыдзецца, як-небудзь. *Наўгады пішыце пісьма.* В. Малешава.

НАЎГО'Н *прысл.* Наўздагон. *Бегці наўгон за злодзеем, ці лёгко гэто?* Луткі. *Вон за палку да за ім наўгон, хоцеў удырыць.* М. Малешава.

НАЎДАЛУ', НАЎДАЛУ'Ю *прысл.* Наўдачу, без развагі. *Ішоў аўтобус і так наўдалу ішоў, бо дождж страшны.* Луткі. *Наўдалую пошоў до его — мо шчэ побачу.* Аздамічы.

НАЎДО'ВЕ *прысл.* Нядаўна, днямі. *Наўдове я туды ходзіла.* Пагост.

НАЎДОГА'Д, НАЎДОГА'ДКІ, НАЎЗДОГА'Д *прысл.* Наўгад, без упэўненасці. *Наўдогадкі сказаў і попало воно.* Аздамічы.

НАЎДОГО'Н, НАЎЗДОГО'Н *прысл.* Наўздагон, следам. *Побег наўдогон.* Аздамічы.

НАЎЗДО'ЎЖ *прысл.* Уздоўж. Хачэнь.

НАЎЗНА'К *прысл.* Дагары. *Упала да наўзнак потыліцэю.* Сямігосцічы. Уверх тварам. *Упала наўзнак, ек учадзела.* М. Малешава. *Наўзнак полецеў і вувернуўса ў воду.* Там жа. *Упаў на зёмлю, а тогды ўзняўса да поваліўса боком, а после зусім наўзнак перэкінуўс.* Луткі. Уніз тварам. *Наўзнак — то відом уніз.* Альшаны.

НАЎЗРО'СТ *прысл.* Навырост. *Наўзрост купіў пальтó.* Аздамічы.

НАЎКА'З *прысл.* Прыкладна, для страху. *Бацько мене раз побіў, але раз не наўказ, запомнілосо до смерці.* Цераблічы.

НАЎКО'ЛА 1 *прыназ.* Навокал. *Цеперэка наўколі голові гірка!* В. Малешава. 2 *прысл.* Кругом, навокал. *Наўкола ходзіць.* Аздамічы.

НАЎКО'СЬ *прысл.* Наўскасяк, бокам. *Пошла наўкось вода, до нас не дойшла.* Буразі.

НАЎКРУ'Г *прысл.* Кругом. *Робілі наўкруг, кругом печы ходы, шоб дух ішоў.* Сямурадцы.

НАЎКРУГА' *прысл.* Тое ж. *Не пошоў прамо, а наўкруга пошоў і ўлез у вокно.* М. Малешава. Укруг. *Наўкруга то будзе п'яць.* Луткі.

НА'ЎКРЫЖ *прысл.* Накрыж, перакрыжоўваючы. *Хай вона наўкрыж сучыць цулкі.* М. Малешава.

НА'ЎКРЭСТ *прысл.* Тое ж. *Коня спутае наўкрэст.* Сямігосцічы. *Ужэ корову уганяе і наўкрэст вона поб'е её.* Хачэнь.

НА'ЎМЕ', НА'ЎМЕХ *прысл.* У галаве, у думках. *А вон седзіць да плачэ, ужэ і коні не наўме.* Хачэнь. *То забуду, то так случыцца, шчо не наўме.* Бярэжцы. *Не наўмех і рыба та, як жабером опечэсса.* Луткі.

НАЎМ'ЁКОМ *прысл.* Намякаючы. *Наўм'ёком сказаў ему.* Аздамічы.

НАЎМО'Р *прысл.* Насмерць, зусім. *Гэты малы заедае того велікого собаку наўмор.* Хачэнь.

НАЎМУ'СНЕ, НАЎМУ'СНО *прысл.* Наўмысна, назнарок, спецыяльна. *Хто наўмусне вунесе стола на вуліцу, ек веселье едзе.* Хачэнь. *Наўмусне мазаць цыцкі корове така мазь е.* Луткі. *Наўмусно упушчу ў воду да гледжу, ека вона* (жылка для вуды). Там жа.

НАЎПАКІ' *прысл.* Насуперак. *Шо ні спутаю, шо ні загадаю зробіць, усе наўпакі говоріць і робіць.* Пагост.

НАЎПОДВЕЧО'Р'Е *н.* Надвячорак. *Наўподвечор'е бувае, ек сонцэ заходзіць, шчэ не зайшло.* Бярэжцы.

НАЎПОПЕРЭКІ' *прысл.* Насуперак, для пярэчання. *Дзед будзе говорыць ўсякіе фільціклюшкі, гето так наўпоперэкі, а мо прыдумае шчо.* Дварэц.

НАЎПО'Р *прысл.* Напралом, без кампрамісаў. *Крэпкіе людзі йшлі наўпор.* Хільчыцы.

НАЎПРАВІ'К *прысл.* Прама, проста. *Прышоў ранок, тут мне погінуць, ногі наўпровік поставіло.* М. Малешава.

НАЎПРАМІ'К *прысл.* Напрамкі, напраcткі. *Наўпрамік пошоў і прамо на Толмачэў прышоў.* Луткі.

НАЎПРО'СТ *прысл.* Тое ж. Верасніца.

НАЎПРО'ЦІЎ *прыназ.* 1. Насупраць. *Наўпроцій своіх кладовішч.* Луткі. 2. Да. *Не можэ буць, коб сцена заговорыла наўпроцій мене.* Бярэжцы.

НАЎРА'Д *прысл.* Малаверагодна. *Наўрад ці подўжаю я, ці не.* Сямурадцы.

НАЎРО'ЧЫЦЬ *зак.* Сурочыць. *Ты ўжэ мене хочэш наўрочыць?* Луткі.

НАЎРЭ'М'Е *прысл.* Своечасова, у час. *Хоть за́вэртнем удайлю́с, але наўрэ́м'е яўлю́с* (прымаўка). Рубель.

НАЎСЁГДА' *прысл.* Назаўсёды. *Помні наўсёгда, шо ты ніколі не ма́цімеш коро́вы.* Старажоўцы.

НАЎСКОСЯ'К *прысл.* Накасяк. *Наўскосяк отрэзаў полено.* Аздамічы. *Зодрэ́ш олёшыну наўскосяк на трубу́ пастухо́ву.* Мачуль. *Нарубаюць жэ́рток, наўскося́к ло́жаць.* Запясочча.

НАЎСПРО'Б *прысл.* На спробу. *Пойду наўспроб побачу, ек сало лежыць у дзежцы.* В. Малешава.

НАЎСТО'РЧ *прысл.* Старчаком. Верасніца.

НА'ЎСЦЕЖ *прысл.* Насцеж. *Отчыніла дзверы наўсцеж.* Луткі.

НАЎЦЕКАЧА' *прысл.* Наўцёкі. *Вон до іх, а воны наўцекача, да вішча́ць да пішча́ць!* М. Малешава.

НАЎЦЕ'КІ *прысл.* Тое ж. *Рэ́чы за плечы да наўцекі!* В. Малешава.

НАЎЦЁК *прысл.* Тое ж. *Наўцёк побег.* Аздамічы.

НАЎЯЗА'ЦЬ *зак.* Навязаць. *Вона нав'яза́ла таку в'я́зку, шчо я і не поворушу́.* Хачэнь.

НАЎЯ'ЗВАЦЬ *незак.* Прывязваць. △ Хоть душу нав'я́звай. Пра невыносныя пакуты. *Так звіня́ть комары́, шо хоть душу нав'язвай.* Альпень.

НАХА'БІЦА *ж.* Пошасць, хвароба. *Не́ка нахабіца вы́пала на іх.* Альпень.

НАХАДЖА'ЦЬ, НАХАЖА'ЦЬ *зак.* Надаставаць, навымаць (з вулья, з жака і пад.). *Нахожаў ры́бы з жако́ў.* Бярэжцы. *Пошоў по мед да нахожа́ў ме́ду.* Аздамічы. *Одзін чоловек ідзе мед хаджаць, а его жо́нка него́жая. То вон кажэ: як нахаджа́ю ме́ду, то здзелаю большу́ю свечку з воску* (зарок, каб паздаравела). Сямігосцічы.

НАХА'КАЦЬ *зак.* Нашкодзіць. *Не займа́й его, ато нахакае — во́кна поўбіва́е, ці шчо.* Пагост. *Чорт наха́каў.* Бярэжцы.

НАХАЛДЫКА'ЦЦА *зак. экспр.* Напіцца, наглытац-

ца. *Нахалдыкáўса ў кустóх і прышоў п'я́ны-росп'я́ны!* М. Малешава.

НАХА'ЛНЫ *прым.* Нахабны. *Прусы́ этые такіе нахáлные, плёвень э́та!* В. Малешава.

НАХА'ЛОМ *прысл.* Нахабна, назойліва. *Нахáльніца нахáлом лёзе, коб усе знаць.* М. Малешава. Без віны. *Нахалом напáў на мене́.* Аздамічы.

НАХА'ЛЬНІЦА *ж.* Празмерна цікаўная асоба, назола. М. Малешава.

НАХВАЛІ'ЦЬ *зак.* Нахваліць. *Просто не нахвалаць могó сына!* Сямурадцы.

НАХВАЦІ'ЦЦА *зак.* Нахапіцца, нечакана і паспешліва з'явіцца. *Сéлі ў лодку, а тут немцы нахваціліса і прострэлілі ему мóрду.* Старажоўцы.

НАХЛЕ'БНІК *м.* Нахлебнік, дармаед. *Хопіць того, шчо я і так нахлёбнік!* Азяраны.

НАХЛЁБКАЦЦА *зак.* Нахлябтацца. *Нахлёбкаўса лóжкою с хлебом.* Цераблічы.

НАХЛЁГАЦЦА *зак. экспр.* Напіцца. *Вінá ў ту недзелю нахлёгаўса!* Пагост.

НАХЛЁПАЦЬ *зак.* Нахлюпаць, напэцкаць. *Наследзіў, нахлёпаў на подлозе.* Хотамель.

НАХЛЫ'НУЦЬ *зак.* Нахлынуць, набегчы, наваліцца. *Людзі нахлынулі ў лес отусюль дай побралі я́годы.* Хачэнь.

НАХО'ДЗІЦЦА *незак.* Знаходзіцца, натрапляцца. *З бóгом, Парáска, колі лю́дзі нахóдзяцца* (прымаўка). Старажоўцы.

НАХО'ДЗІЦЬ *зак.* Знаходзіць. *Кажэ, што ж у вас з гэтое стрэлы́ рóбляць, як находзяць? А жонкі кажуць, да нічóго.* Пагост.

НАХОЛЕ'РУ *прысл.* Навошта, на чорта. *Нахолеру ей чужэ́, у ее́ своró хватае.* М. Малешава.

НАХОПІ'ЦЦА *зак.* Настаць, наступіць. *Ходзілі, ходзілі, і ноч нахопіласа.* Запясочча. *Зімá нахопіласа, а дрóва дзе браць?* Старажоўцы. Успыхнуць. *Нахопіласа войнá дай ўсе.* М. Малешава. Выпадкова і да месца з'явіцца. *Я нахопіўса на вуценя́, ато б собака з'еў.* В. Малешава.

НАХО'ХЛІЦЬ *зак.* Начасаць, падкруціць. *Нахохлілá кóсы трохі.* В. Малешава.

НАХРУ'СТ *прысл.* З хрустам. *От поцегнýласа, шо косці нахруст.* Луткі.

НА′ХРЭСТ *прысл.* Накрыж. *Як удырыло нахрэст, і огонь усхопіўса.* Луткі.

НА′ЦЕ *часц.* Прапанова ўзяць (у дачыненні да многіх або ветліва да аднаго). *Наце, ото воно́ свежэньке!* Верасніца.

НАЦЕГА′ЦЦА *незак.* Набірацца, прапахваць. *Поставіць у лёх, нацега́еццa вона тым во́здухом, да ўжэ не то́е!* Дварэц.

НАЦЕГА′ЦЬ *незак.* Нацягаць. *Нацегаю чо́боты — не нала́зяць.* Пагост.

НАЦЕГНУ′ЦЦА *зак.* Набрацца, набракнуць. *Нацягнецца водо́ю боло́ніста хво́я і потае́.* Цераблічы. *Нацегну́ла ётого імпету да занего́жэць бою́са.* Дварэц.

НАЦЕГНУ′ЦЬ *зак.* Нацягнуць, навалачы. *Мо́жэ гэты песо́к кое́-колі бу́ра ека́ нацегну́ла.* Старажоўцы.

НАЦЕ′КАЦЬ *незак.* Нацякаць. *Наце́кае вода́ ў лёх.* Хотамель.

НАЦЕКНУ′ЦЬ *зак.* Намякнуць. *Коб ты нацекну́ў, шчо дамо́ гро́шэй.* Хотамель.

НАЦЕКЦІ′ *зак.* Нацячы. *От жырнэ са́ло, натекло́ мно́го жыру.* Альпень.

НАЦЕЛЕ′МКАЦЦА *зак. экспр.* Наесціся, напіцца ўволю. Аздамічы.

НАЦЕ′ЛЬНІЦА *ж.* Ніжняя сарочка. Запясочча.

НАЦЕНЬКІ′ *прысл.* Наўпрост. Верасніца.

НАЦЕ′РЦІ *зак.* Нацерці. *Натры́ ее́ на мо́рды, то будзеш як семна́ццатка от той бодзя́гі.* Хачэнь. *Яблука коб не пропа́лі, наце́рла ўжэ бага́то.* Там жа.

НАЦЕРЭБІ′ЦЬ *зак.* Нарваць, наабрываць, начысціць. *Дзе́ці блёкоту нацерэбілі.* Бярэжцы. *Я зараз нацерэблю́ карто́пляў.* В. Малешава.

НАЦЁПКАЦЦА *зак. экспр.* Наесціся, напіцца ўволю. *Подо́іць ма́цер корову, то вон нацёпкаецца молока́ з хле́бом.* Дварэц. *От, нацёпкаўса собе крышано́ў.* Бярэжцы.

НАЦЁР *м.* Прыцёрты або выціснуты на бераг лёд. *Крыж'е на су́хо лёзе, велікі нацёр, бу́дзе веліка вода́.* Запясочча.

НАЦІ′НА *ж.* Сцяблы агародніны (агуркоў, бульбы, маку і пад.). *Пескі, то націна ў карто́плях спа́ла од жары́.* Пагост.

НАЦІ′НЬЕ *н. зб.* Тое ж. *Націнне ма́ку не повы́рыва́й.* Пагост.

НАЦІРА'ЦЦА *незак.* НаціраЦца. *Бодзяга поўз краé росцé, ёю націра́юцца.* Сямурадцы.

НАЦІРА'ЦЬ *незак.* Націраць. *Гэтым зéльем сыры́м націраць од бородаво́к трэба.* Цераблічы. *Націраць пузыра́ по́пелом трэба, то вон стане тонкі.* Луткі.

НАЦІ'СНУЦЬ *зак.* Націснуць, намуляць. *Націсла ў цесны́м о́буі но́гі, боля́ць мулéнікі.* М. Малешава.

НАЦО'ПАЦЦА *зак. экспр.* 1. Наесціся. *Еж капусту, бо му ўжэ нацопаліса са́ла з ла́дкамі.* Верасніца. 2. Нарабіцца, напрацавацца. *Нацопалася за дзень, так го́лову і водзіць убо́кі.* М. Малешава.

НАЦО'ПАЦЬ *зак.* Нападаць (пра садавіну). *От нацо́пало я́блок.* Аздамічы.

НАЦУРУДЗІ'ЦЬ *зак. экспр.* Наліць. *Цэлых тры глады́шкі нацурудзіў молока́.* Бярэжцы.

НАЦЭЛОВА'ЦЦА *зак.* Нацалавацца. *Догоня́ючы не нацолу́ешса* (прымаўка). Старажоўцы.

НАЦЯГА'ЦЬ *незак.* 1. Нацягваць. *Нацяга́е хма́ру, мабуць, дождж будзе.* М. Малешава. 2 *экспр.* Нагаворваць. *Шо ты, Кодо́ліч, на мене нацяга́еш? Я гро́шы твоé не браў!* Аздамічы.

НАЦЯ'ГАЧ *м.* Прылада для нацягвання абручоў на бочку або шын на колы. Сямігосцічы.

НАЦЯ'ЖКА *ж.* 1. Адзежына, якая надзяваецца наверх на кажух або іншую верхнюю вопратку. *Скінь нацяжку, бо душно стало на дворе.* Верасніца. 2. Бяльмо на воку. *Нацяжка нацягвае, плохо вон ўжэ ба́чыць.* Сямігосцічы.

НАЦЯ'ЖЫЧ *м.* Прылада для нацягвання абручоў на бочку або шын на колы. *У нас нацяжыч, шо на бочку обручэ набіваць, воно бы чэплея таке.* Мачуль. *Нацяжычом нацягваюць шыны на колеса.* Цераблічы.

НАЧАВІ'ЦЬ *зак.* Націснуць, надавіць. *Начавіла я́год* Бярэжцы. *Ге не боліць, а як нача́віш — боліць.* Аздамічы.

НАЧА'ДЗІЦЬ *зак.* Начадзіць, напусціць дыму, чаду. *Начадзіла ўжэ головéшка, воня́е.* Луткі.

НАЧА'ТКІ *мн.* △ Н а ч а́ т к і р о б і ц ь. Пачынаць якую-небудзь справу. *У понедзéльнік не хоцелі нача́ткі робіць.* Альгомель.

НАЧА'ЦЦА *зак.* Пачацца, распачацца. *Ну вот нача́лíса гроза́.* Бярэжцы. З'явіцца. *Началіса по́хмаркі, скоро мо будзе дождж.* Луткі.

НАЧА'ЦЬ *зак.* Пачаць. *Як началі ўцека́ць да так*

*хутко!* Запясочча. *Начаў піць, то прогналі з роботы.* Хачэнь. *Шчэ но начаў, да ўжэ пытаеш!* Кароцічы.

НАЧВІ'ГАЦЬ, НАЧВО'ГАЦЬ *зак.* Насцябаць, нахвастаць. *Шоб екім буркуном начвігаў по ногах, коб не болелі?* Хачэнь. *Коб ека пужка була, то начвогаў бы вутву — безугаву бегуць на двор, да зло берэ.* Верасніца.

НАЧВОРЫ'ЦЬ *зак.* Навырабляць, нарабіць шкоды. *Пошоў на кермаш да начворыў, шо й пальта нема.* Пагост.

НАЧО'СОВАТЫ *прым.* Задзірысты. *Начосоваты чоловек: откуль ні стань — ласкі не почуеш!* Аздамічы.

НАЧО'СОВУ *прым.* Пакручасты, з няроўнымі слаямі (пра дрэва). *Начосовэ дзерэво бы звіток.* Аздамічы.

НАЧУ'БАЦЬ *зак.* Нацягаць за валасы, за пер'е; набіць. *За косы начубалі цебе добрэ!* Луткі. *Начубае нашого селезня той белы.* Верасніца.

НАЧУ'ХАЦЬ *зак.* Начасаць, надзерці. *От мене начухало от комароў!* Пагост.

НАЧЫНА'ЦЬ *незак.* Пачынаць. *А з чого будом начынаць говорыць?* В. Малешава. *Бабоў людзьмі не называлі, онно раз у году, колі жыто начынаюць жаць, то кажуць: ужэ людзі жнуць.* М. Малешава. *З поўночы глушэц начынае пець свою песню.* Пагост.

НАЧЫНІ'ЦЬ *зак.* Начыніць, нафаршыраваць. *Заколюць тое поросятко да начыняць.* Верасніца.

НА'ЧЫ'НКА *ж.* Начыненае парася, нафаршыраваная рыба і інш. *Така начынка смашна, от смакота!* Сямурадцы. *Начынку роб'яць з кожушка.* Хачэнь. *Начынка — это тое порося, шчо на паску подавалі.* Верасніца.

НАЧЫ'НЬВАЦЬ *незак.* Начыняць, напіхваць. *У куток кроўяну коўбасу начыньваем.* Запясочча.

НАЧЫ'НЬЕ *н.* Начынне, набор прылад. *Начыньe кросна ткаць мае ўсе своё.* Сямігосцічы.

НАЧЫНЯ'ЦЬ *незак.* Начыняць, фаршыраваць. Пагост.

НА'ЧЫ'СТО *прысл.* Вельмі чыста. *Начысто вуполола.* Аздамічы. *Лён трэплюць трэпачкой начысто.* Хотамель.

НАЧЭПЛЯ'ЦЬ *зак.* Начапляць, навешаць. *Начэплялі шмацье, нема дзе сесці.* Кароцічы.

НАШ *займ.* Наш. *Нашому хлопцу берэцца восемнаццаць годоў.* Старажоўцы. *Нашэ село — цалы город!* Сямігосцічы. *Не крыецца наша цёлка.* Луткі.

НАШЛА'ПА *ж.* Бервяно ў зрубе, якое накладваецца наверх на асаду акон, дзвярэй. *Нашлáпу поклáлі на окна, шчоб просценок мóцно стояў.* Дварэц.

НАШЛА'ПІЦЬ *зак.* Накрыць зверху. *Рак знізу чэпляецца, нашлапіш его́, а вон і учэ́піцца за паукá* (рыбалоўная снасць). Пагост.

НАШЛЕГА'ЦЬ *зак.* Набіць, насцябаць. *Узяў за коня́, нашлегáў, і пошоў той конь.* Мачуль.

НАШЛО'ПНУЦЬ *зак.* Наступіць зверху. *Нашлóпнуў ногóю на вужáку.* Пагост.

НАШМО'РГАЦЬ *зак.* Нацягаць. *Стары́ не́кого чорта тобе́ нашмóргае!* (пра рыбалку). Запясочча.

НАШОПУ'РЫЦЬ *зак.* Узбіць, ускалмаціць. *Нашопу́рыла гóлову.* Верасніца.

НАШТА'ЛТ *прыназ.* Накшталт. *Вона такá нашталт мáку травá.* Цераблічы.

НАШУКА'ЦЬ *зак.* Назнаходзіць, назбіраць. *У рэ́шніку му нашукáём іх* (пра арэхі). Луткі.

НАШУ'ХАЦЦА *зак.* Многа надзець на сябе. *Як холоднó, то нашу́хаешса і хóдзіш.* Мачуль.

НАШУ'ШКАЦЦА, НАШУ'ШТАЦЦА *зак.* Тое ж. *Нашушкаласа, ек ву́лей, не пове́рнешса.* Пагост. *Нашу́шталаса — багато одзе́жы надзе́ла.* Запясочча.

НА'ШЦЫ, НА'СЦЫ *займ.* Наскі, тутэйшы. *Вон ме́сны, вон нашцы чоловек.* Запясочча. *Насцы.* Там жа.

НА'ШЧО *прысл.* Нашто, для чаго, навошта. *Нáшчо той дождж?* Бярэжцы. *Нáшчо ты гэто рóбіш?* Альшаны. *А мэ́ншы сын ду́мае: нáшчо богáтую жóнку браць, як я сам богáты?* Кароцічы. *Нáшчо его ругаць, раз его́ нема.* Мачуль. Чаму, чаго. *Нáшчо ты до его зáйдзеш, а до мене не.* Цераблічы. △ Н á ш ч о т о б е́ ш ч о. Што ні гавары. *Нáшчо тобе шчо, гэто ж вона гóлая сюды прышла.* Хачэнь.

НАШЧОСЕ'РЦЭ, НАШЧЭСЕ'РЦЭ *прысл.* Нашча, не еўшы. *Нашчосерцэ выпіў да очомрэў.* Там жа. *Рáно нашчосерцэ п'е чáю.* М. Малешава. *Скурыў паперóса нашчэсерцэ.* Аздамічы.

НАШЧЫКА'ЦЬ *зак.* Нашчыпаць. *Ідзі, дóнечко, нашчыкáй цыбулі!* Цераблічы.

НА'ШЧЫНЕЦ *м.* Просты чалавек, наш брат. *Нáшчынцу не прывукáць горовáць!* Тураў.

НАШЧЫПА'ЦЬ *зак.* Назрываць. *Жменю цыбулі нашчыпала.* Сямурадцы.

НАШЧЭБІ'ЦЬ *зак.* Уставіць новую вашчыну ў вулей. *Нашчэбіў добро вулья хорошым воском.* Мачуль. *Натыкаў воск, то і нашчэбіў.* Там жа.

НАШЧЭ'НТ *прысл.* Дашчэнту, датла. *Нашчэнт загубіў, звёў.* Аздамічы. Зусім, дарэшты. *Нашчэнт хай досохне рыба.* Дварэц.

НАШЫВА'НЬЕ *н.* Вышываныя рэчы. *Вўвесіла нашыванье да людзі окружылі, не можно поглездзець.* Старажоўцы.

НАШЫ'ЁЧОК *м.* Нітка пацерак. Альпень.

НАШЫ'КАЦЦА *зак. экспр.* Напіцца (гарэлкі). *Нашыкаўса да йдзе ў коніку.* Верасніца. *Нашыкаецца, ек повўк!* М. Малешава.

Слова лічыцца выключна «жаночым». Мужчыны кажуць звычайна *клюкнуў, наклюкаўса.* Верасніца.

НАШЫРКІ' *прысл.* Ушыр, ушырыню. *Зарубім нашыркі, як гэта поддбівочка.* Бярэжцы.

НАШЫ'ЦЦА *зак.* 1. Налезці, набіцца. *У некоторые жакі нашыецца поўсотні штук ментузоў.* Старажоўцы. *Да багато нашыецца ў той волок рыбу.* Дварэц. 2 *экспр.* Напіцца (гарэлкі). *Нашыўса горэлкі і прышоў домоў, ек, сатана!* Старажоўцы.

НАШЫ'ЦЬ *зак.* △ Н а ш ы ц ь б е з в у з л а. Нагаварыць, наплесці. *Баба нашыла без вузла казок.* Цераблічы.

НАШЭ'МАЦЦА *зак.* Многа надзець на сябе. *От нашэмаўса, ек сноп, ек вўлей. Кажуць, ек хто много одзеў на себе.* Лутікі.

НАШЭ'МКАЦЬ *зак.* Нацягнуць. *Я на ёго нашэмкала кабацика і ўсе!* Любавічы.

НАШЭРЭ'ПІЦЬ *зак.* Натапырыць, наставіць. *Еж нашэрэпіць свое колючкі да фуркае.* Старажоўцы.

НАШЭРЭ'ПЛЕНЫ *прым.* Натапыраны. *Гэто сцісненые грыбў, а гэтые — нашэрэпленые.* Старажоўцы.

НАШЭ'ШКАЦЦА *зак.* Многа надзець на сябе. Рычоў.

НА'ЯВЕ *прысл.* Наяве, увачавідкі. *Я ж горау поле і бачу наяве, шо собака посўнуўса.* Тураў.

НАЯ'РВАЦЬ *незак. экспр.* Наварочваць, уплятаць. *Седзіць да наярвае і нічого не говорыць.* Старажоўцы.

НАЯРЫ'ЦЦА *зак.* Надумацца, рашуча намерыцца. *Наярыласа ехаць туды і конец!* М. Малешава.

НЕ *часц.* Не. *Воўком не було дзе дзецца.* Хачэнь. *Краснопёркі большые не ростўць.* Цераблічы. *І одного*

*не осталосо!* М. Малешава. *Не, невеліке було село ў нас без этых перэселёнцоў.* Бярэжцы. *Ек не, то не трэба говорыць, так нехай і будзе!* Кароцічы. *Пиліп поехаў за рэку? — Не.* В. Малешава. *Некоторые і цепер старые гэтые дзёды сполняюць, а молодые то ўжэ не.* Хачэнь. *Марусько, корову дзе хоч дзевай, бо я ўжэ не!* (не ў стане). Старажоўцы. *Субота не без сонца, козак не без долі* (прыказка). Цераблічы. *Косовіца, не косовіца, жніво, то вон навек отдыхаў.* Чэрнічы. Няма. *А ліпы ў нас не. Есць только у лесу, далеко.* Бярэжцы. △ Не ўчуць, не ўбачыць. Пра немагчымасць атрымаць. *Тых обрэзкоў я не ўчуў, не ўбачыў.* Цераблічы. Ек не ў себе. З незвычайным апетытам. *Корова буракі есць, ек не ў себе.* В. Малешава.

НЕ'А *часц.* Не. *Неа, не брала я гэто.* Сямігосцічы.

НЕБАГА'ТКО *прысл. экспр.* Нямнога, небагата. *Небагатко там лну посеяно!* Сямігосцічы.

НЕ'БО *н., мн.* небеса. 1. Неба. *На небі зышоў месяц.* Верасніца. *Віхор ек ухопіць копу і под небеса по одной сеніне роскідае.* Дварэц. *Велікі под небо, а дурны, сколько не трэба* (прымаўка). Старажоўцы. *Коб не мерлі, тоб небо потперлі* (прымаўка). Сямігосцічы. 2. Паднябенне. *Ек у коня чорное небо, то его воўк з'есць* (павер'е). Цераблічы. 3. Скляпенне ў печы. *Вусекае тые дошкі на небо, укладае небо, засыпае песок і робіць чэрэн.* Верасніца. *Небо копцёво, бо не вырко ў печы.* Цераблічы. △ Небо лежыць (на вадзе і інш.). Пра бяскрайнасць, мноства. *У той бок глянь, то небо лежыць на водзе* (у час паводкі). Цераблічы. *Небо лежыць на тых колхозных вутвах!* Там жа. Небо да вода. Пра вялікі разліў. Луткі. З небом говорыць. Пра выноснасць. *Лес з небом говорыў, такі буў лес!* Хачэнь. Як до неба. Пра нешта вельмі далёкае, недасяжнае. *До нашого сена шчэ, як до неба — кругом жэ вода!* Старажоўцы.

НЕБО'ГА *ж.* Пляменніца. *Моя небога казалі на яку дзэўчыну, цепер плем'янніца кажуць.* Старажоўцы. Ласкавы зварот да дзяўчынкі. Запясочча.

НЕБО'Ж *м., мн.* небожата. Ласкавы зварот да малых, маладзейшых з боку старэйшых. *Гоні сюды, небож, я одчыню!* Мачуль. *Ой, небож, я цебе не знаю.* Любавічы. *Старые говорылі ік малому дзіцяці: — Небож, подай воды!* Луткі. *Плохо, небожата, буде война — па-*

*цы попыд'едáлі і лóзу і дýба* (павер'е). Альпень. *А гэ́тты, небожáта, нішчо не ўлазіло, така водá булá.* Цераблічы. Небарака, сірацінка (спачувальны зварот). *Горýй, небóжэ, то й бог помóжэ* (прымаўка). Сямігосцічы. *Нá тобе, небóжэ, шо мне негóжэ* (прымаўка). Мачуль. *Памянш.* н е б ó ж к о. *Ой, небóжко, некому пошкодовáті!* Альпень.

НЕБО'ЖЧЫК *м.* Нябожчык, мярцвяк. *Ох гóренько мое! Мо то екі небожчык скінуўса éтым собакою?* Тураў. Той, хто ўжо даўно памёр. *Пойдý з небóжчыком своім бацьком по грыбы́, а воны покóсы поднімáюць да стоя́ць!* Хачэнь. *На нáські веліґдзень помінаюць небóжчыкоў: кладуць я́йца, пірóг, перэпінáюць хвартухі.* В. Малешава.

НЕБО'ЖЧЫЦА *ж.* Нябожчыца. *Мáці моя небожчыца про тэ роскáзвала.* Верасніца.

НЕБОРА'КА *м.* і *ж.* Бядак, гаротнік, гаротніца. *Обмáнаюць цебе, неборáку, дай годзі!* Аздамічы. *Да ешчэ́ неборáку да ў Германію вы́везлі!* Мачуль. *Памянш.* н е б о р á ч к а. *Удовá-неборачка.* Хотамель.

НЕБУЛІ'ЦА *ж.* Небыццё. *Хай на ёго небуліца нáйдзе!* (праклён). М. Малешава.

НЕГОРА'КА *м.* Небарака, шчыры працаўнік. *А вон, негорака, перэеждаў чэрэз рэ́ку да ўтопіўса с кóньмі.* Запясочча.

НЕВА'ЖНО *прысл.* Няважна, дрэнна. *Можно було жыць, але жыў вон неважно.* Луткі.

НЕВЕ'ГЛАС *м.* Пра смерць (табуістычны выраз). *Пры́дзе той невéглас да скажэ: ходзі!* Цераблічы.

НЕВЕ'ДО'МО *прысл.* Невядома, немаведама. *Шо больш сеяць — невéдомо.* Луткі. *Невéдомо, як будзе.* Сямурадцы. *Неведóмо, куда пошоў.* Аздамічы.

НЕВЕЛІ'КІ *прым.* Невялікі, малы. *Невэлікі, крáсненькі той слімень.* Бярэжцы. *Памянш.* н е в е л í ч к і. *Да така ж сцёбачка, невелíчка хáтка.* Там жа.

НЕВЕ'РКА *ж.* Від гульні ў карты. *Дзéці дзень гуляюць у невéрку.* Верасніца.

НЕВЕ'РНЫ *прым.* Ілжывы, не пастаянны. *Прожыла век з невéрным чоловеком.* Лутки.

НЕВЕ'СЕЛО *прысл.* Сумна, страшна. *Да наклáлі огню́ мы ўжэ з ею, так ужэ сцёмнело, да ўжэ так невесело, шо ўдзьвох, да полеглі.* Хачэнь.

НЕВЕ'СТКА *ж.* Жонка сына. *Чотыры зя́ці, чотыры дóчкі, дзве невесткі, а два сы́ны, а ўнýкоў дзесяць ужэ маю.* Сямурадцы. *На дочкý крычý, а невéстка догодáйса!*

(прымаўка). Старажоўцы. *Невестка — ліха́ повестка* (прымаўка). Верасніца. *Сельнік не подушка, а невестка не дочушка* (прыказка). М. Малешава. *Хлеб не невестка, екі есць, такі з'есцца* (прымаўка). Цераблічы.

НЕВЕ'ХНА *ж. экспр.* Тое ж. *Моя невехна добра!* Аздамічы. *Подай, невехно, шчэ одну ложку.* М. Малешава.

НЕВЕ'ШЧЫН *прым.* Нявестчын. *Подушку на невешчыно шчасцье хочэ даць.* Хачэнь. *Невешчына корова пополевала.* Мачуль.

НЕ'ВЕШЧЫНА *ж.* Нешта незвычайнае, рэдкае, экзотыка. *Не бачаць грыбоў на Украйне, то полешукі везуць навек, і воны ім невешчына, новіна.* Дварэц.

НЕ'ВОД *м.* Вялікая рыбалоўная сетка. *Заехалі ў зарог, закідаюць з этого берэга невод, а з другого перэм'ёт, і зацягаюць того берэга, откуда і докуда воны должны ловіць рыбу.* Старажоўцы.

НЕВОДНІ'К *м.* Член рыбалавецкай брыгады. *Як неводнікі лов'яц рыбу, воны прывозяц і ракоў.* Запясочча. *Пошоў к неводнікам да купіў рыбу.* Верасніца.

НЕВО'ЛЯ *ж.* 1. Прыгон, услужэнне. *Пан зобрау з одноё сем'е по одной душы ў неволю.* Верасніца. 2. Прымус. *Я вуходзіла замуж, дзецятко, по неволі, да не по любові.* Старажоўцы.

НЕ'ВОРУШ *ж.* Неруш, бязлюднае месца. *Неворуш була кругом, лозы.* Луткі. *Пчолы любяць неворуш, шчоб, значыць, нішчо ім не мешало.* Там жа.

НЕВОРУ'ШЭНЫ *прым.* Некрануты. *Ягоды неворушэные — е месціна така ў лесе, котору обойдуць ці не дойдуць.* Дварэц.

НЕ'ВУК *м.* Непрывучаны да вупражы конь або вол. *Невука ўзяў, вон цебе поносіць!* Хачэнь. *Добры з его, з невука, вол будзе.* Цераблічы.

НЕВУ'РОБЛЕНЫ *прым.* Нераспрацаваны, не даведзены да належнага стану. *Поле было невыробленое — воламі ж робілі.* Сямігосцічы.

НЕВУСО'КО *прысл.* Невысока, нізка. *Невысоко чырок леціць.* Аздамічы.

НЕВУ'ТРЫМКА *ж.* Нецярпенне; стан, калі немагчыма ўседзець на месцы. *Невытрымка берэ, не поседзіць!* Мачуль. *Вот невутрымка була, то й побеглі за грошыма.* Сямурадцы.

НЕГА'ДАНО *прысл.* Нечакана. *Нігадано прышоў.* Аздамічы.

НЕГА'РАНЫ *прым.* Незгарэлы, няспалены (яшчэ да пажару). *А домá булí шчэ негáроные там.* Дварэц.

НЕГЕ'БНЫ *прым.* Нягеглы, няўдалы. *Негебны чоловек нікýды не вáрты.* Запясочча.

НЕГІ'ПТА *ж.* 1. Непраходнае, гіблае месца ў балоце. *Негіпта така, шо не прóйдзеш.* Хотамель. 2. Нешта непрыемнае, цяжкае. *От гóршэй негíпты нема, як я была на робóці!* Хотамель. 3. Няздольны, нявартьі чалавек. *От, не чоловек, а негіпта неяка.* Хотамель.

НЕ'ГЛЕ *прысл.* Нельга, немагчыма, *Прыкры бéрег, шо нéгле выйці прополоскáць шчо, дна там нема.* Альшаны.

НЕГО'Д *м.* Неўраджай. *Негод на я́блука, на ýсé ў етом годý.* Пагост.

НЕГО'ДА *ж.* Даждлівае надвор'е, непагода. *Это тры дні, чотыры занегóдзілос, то ýжэ негóда.* Аздамічы. *У негóду косяць, а ў погоду грэбýць.* М. Малешава. *Нішчо так не ýгадвае негоду, ек соль: ек на погóду—соль сухая, на негоду — мокрая, отлегáе.* Бярэжцы. *У мене на негоду волы́ на крыжóх хвосты дзержáць.* Запясочча. *Пóсле велікое погоды ожыдáй велíкое негóды* (прыкмета). В. Малешава. *Колі неек свéтло робіцца, а ýжэ вéчор, то назáýтра негода* (прыкмета). Там жа. *На негоду дым пáдае на зéмлю* (прыкмета). Сямігосцічы. *На нéбе красные пом'егí — то на негоду* (прыкмета). Там жа.

НЕ'ГОДЗЬ *ж.* Тое ж. *От узеласа негодзь, ліхá порá, не стало на погодзе.* Цераблічы. *Нéгодзь цепéр, дáжэ не дасць лю́дзям сено упорáдковаць.* В. Малешава. *Еслі тобак в'ялы — нікóго не путáй, бýдзе негодзь* (прыкмета). Сямурадцы.

НЕГОДЗЯ'Й *м.* Няздольны да працы, ні да чаго не варты чалавек. *Негодзя́і осталíса цепер толькі ў селе — шчо вон можэ зробіць?* Старажоўцы. *Это ж я на кóлюшках, негодзя́й, вýмуў подлóгу.* Там жа. Гультай, нягоднік. *Тóлько ў котóрого негодзя́я було неросцерэ́бленэ* (пра сенажаць). Хачэнь.

НЕГОДЗЯ'ЙКА *ж.* Няздатная да працы, няўмелая жанчына. *Вона негодзяйка, бо не ўмее жаць.* Старажоўцы.

НЕГОДЗЯ'ШЧЫ *прым.* Няздольны да працы, слабы. *Ты старá калéка, а я негодзя́шча.* Запясочча. *Я ужэ негодзяшча ведрó воды́ выцегнуць.* Хачэнь. *Вон негодзяшчы косíць.* Кароцічы. Бяссільны, не ў стане. *Дзякуй богу,*

*шо цепло́, бо я ўжэ негодзяшча топіць.* Пагост. *Негодзяшчы нікўды зайці.* Запясочча. Няздатны, няўмелы. *Негодзяшча нічого, а за́муж собіра́ецца.* Старажоўцы. Састарэлы, дабіты. *Короўзно́, сабарно́ ка́гуць, як негодзяшчэ.* Альшаны. Непрыгодны, дрэнны. *Як га́вез засеў, то негодзяшчэ сено.* Сямігосцічы.

НЕГО'ДЛІВУ *прым.* Непагодлівы, хмуры. *Смуга́ — як дзень него́длівы, до дожджа́.* Крэмна.

НЕГО'ДНЫ *прым.* Няздольны, няўмелы. *Него́дны да́жэ котў хвоста́ завеза́ць* (жарт). Старажоўцы. Стары, знош*а*ны. *Чоборна́ него́дные.* Альшаны. Непрыдатны, непатрэбны. *На лугў вода́, і на ём росте́ него́дно зе́лье.* Хотамель.

НЕГО'Ж, НЕГО'ЖЫ *прым.* Слабы здароўем, хворы. *Него́ж вон мо́цно, заболе́ў.* Сямігосцічы. *Гэ́ты хло́пчык не́шчо него́жы.* Аздамічы. *Не дай бо́жэ, як дзіця него́жэ* (прымаўка). Сямурадцы. Нездаровы, непрацаздольны. *От стары́ него́ж — нема́ ўжэ́ й здоро́ўя, нема й комў робіць.* Пагост. Слабы, не ў стане. *Воны ж негожы плўга з во́за зняць.* Запясочча.

НЕГОЖКОВА'ТЫ *прым.* Слабаваты здароўем, нямоцны. *Негожкова́ты бўў, а ўсе робіў.* Хачэнь. *Негожкова́та була́ ба́ба, ніяка ўжэ.* Дварэц.

НЕГО'ЖЫЦЬ *незак.* Хварэць. *Заходзіць вон, аж негожыць ба́цько.* М. Малешава.

НЕГОЖЭВА'ЦЬ *незак.* Тое ж. *Негожэва́ць стаў Міхейко.* Аздамічы.

НЕГОНОРЫ'СТЫ *прым.* Неганарысты. *Я баба негонорыстая, могу і постояць.* Старажоўцы.

НЕДАЛЕ'КО 1 *прысл.* Недалёка, блізка. *До Толмачэва тут недале́ко.* Альгомель. 2 *прыназ.* Каля, паблізу. *Я жыла́ недале́ко Ольша́н.* В. Малешава. *Недале́ко то́рфа седзе́ў.* Запясочча.

НЕДА'ЎНО *прысл.* Нядаўна, толькі што. *Неда́ўно обе́далі да ўжэ й вечэ́раць пора́.* Цераблічы. *Ото недаўно поўстава́лі хло́пцы.* В. Малешава. *От, одного ве́ніка зробіла уперэ́д, а другого недаўно.* Хачэнь.

НЕДБА'ЙЛІВУ *прым.* Нядбайны, лянівы. *Недбайліву, не хочэ робіць, ло́дар.* М. Малешава. *Вона й недба́йліва, поленца не подніме, коб вон усе робіў.* Там жа.

НЕДБА'ЙЛІК *м.* Нядбайла, гультай. Запясочча.

НЕДБА'ЙЛО *м.* і *ж.* Тое ж. *Недбайло, вон нічого не дбае, а ўсе мае.* Аздамічы.

НЕДБАЙЛЮ'ШЧЫ *прым.* Бесклапотны, гультаяваты. Цераблічы.

НЕДБА'ЙНІ *прым.* Нядбайны, бесклапотны. *Недбайні жыве, не думае ні б чом.* Сямігосцічы.

НЕДБА'ЙНІК *м.* Нядбайла. *Е хозяін, а е недбайнік.* Старажоўцы.

НЕДБА'ЙНІЦА *ж.* Нядбайла, гультайка. *Дзéўка, а така недбáйніца, шчо свет не бачыў!* Луткі.

НЕДБА'ЙНО *прысл.* Бесклапотна. *Недбайно жывé, шчо не хóчэ робіць.* Аздамічы.

НЕ'ДЗЕ *прысл.* 1. Дзесьці, у дакладна неакрэсленым месцы. *Бацько кóсіць недзе ў Затóнах.* В. Малешава. 2. Няма дзе. *Нéдзе ему дзецца, рóду нема.* Чэрнічы.

НЕДЗЕ'ЛЕШНІ *прым.* Нядзельны, святочны (звычайна пра вопратку). Запясочча.

НЕДЗЕ'ЛЯ *ж.* 1. Нядзеля, сёмы дзень тыдня. *Ек недзеля, мýсіць вýмыць подлогу.* Луткі. *Колісь старыé ў недзелю не снедалі.* Цераблічы. *У недзелю не саджáем хлеб, а будзённого дня.* Кароцічы. 2. Тыдзень. *Лежý я тыждзень, а мо і дзве недзелі.* М. Малешава. *Пóсцілі, ек наступае спáсоўка, грэх есці дзве недзелі.* Верасніца. △ Г н і л á н е д é л я. Трэцяя квадра месяца. Альпень. П о т о й б о к н е д з é л і. На наступным тыдні. М. Малешава. *Памянш.* н е д з é л ь к а. *Не було родзіны ў его, побуў недзельку чáсу і пом'ёр.* Луткі.

НЕДО'БІРОК *м.* 1. Незабраная частка стога або сціргы дроў. *Не забрáлі ўсе сено, а там остаўса недóбірок возы́ два.* Верасніца. *Трэ́бо отскóчыць да недобірка зобраць.* Тураў. 2 *мн.* Рэшткі сена ад забранага стога. *Поéхалі по сéно, а там одны́ недóбіркі.* Запясочча. *Памянш.* н е д о б í р о ч о к. Цераблічы.

НЕДОБІТНЫ' *прым.* Непрабіўны, неэнергічны. *Нéкі вон недобітны́!* Сямурадцы.

НЕДО'БРО *прысл.* Дрэнна (пра адчуванне). *Як з'ем конхвéт, так мне недóбро.* Бярэжцы.

НЕДО'БРЫ *прым.* Дрэнны, благі. *Мо бувáе шчо недóбрэ?* Сямігосцічы. △ Н е д ó б р ы н а ó ч ы. Які можа ўрачы. В. Малешава.

Слова *недóбры* ўжываецца старымі людзьмі як сінонім да *вуж,* калі хочуць пазбегнуць ужывання апошняга слова. *Нéкі мо недóбры ўкусіў?* Луткі. У гэтым выпадку гутарка ішла пра гадзюку.

НЕДО′БРЫЦЦА *незак.* Нездаровіцца. *Нешчо недо́бріца мне.* Бярэжцы.

НЕДОВО′ЛЬСТВІЕ *н.* Крыўда, незадаволенасць. *Дзе́ці на ее недовольствіе маюць, шо вона дзеда шукае.* М. Малешава.

НЕДОГА′РОК *м.* Галавешка, недагарэлае палена. *Не закрывай юшку, там шчэ недогарок лежыць.* Азяраны. *Осталіса недогаркі только с па́лей — оны́ мост мо ў сто мэсто́х запалілі.* Старажоўцы.

НЕДОГО′НІЦА *ж.* Недаразвітае зерне ў коласе. *Бувае там эта недогоніца, дзе шчо не поспело. Скажэм, там я посеяў, то только одна недогоніца, а хорошого нема нічо́го.* Старажоўцы. Дробная недаспелая ягада. *Нема ягод у лесе, екіе-то недогоніцы!* М. Малешава.

НЕДОГО′НІЧ *м.* Тое ж. *Озіміна́ не ўродзіла, так одные недогонічы.* Луткі. Запозненыя ў развіцці каноплі. *Е недогонічы тые зелёные ў коно́плях.* Запясочча. Парасткі збожжавых культур, якія затрымаліся ў сваім развіцці на стадыі кушчэння. *Недогоніч — молоды́ росто́к. Воно гнеце́цца, гнеце́цца й не доросце́ дай седзіць у дне замо́рком.* Пагост.

НЕДО′ГРЫЗОК *м.* Агрызак, недаедак. *Хто будзе твое недо́грызкі есці?* Луткі.

НЕДО′ЕДОК *м.* Тое ж. *Еў хлеб да не дое́ў, то недо́едок.* Луткі. *Мы разные недоедкі, ошо́мкі размочваем да даём ку́рам або порося́ці.* Тураў. *Нарэ́ж недо́едкоў тых бляху да посушы́* (пра чарвівыя яблыкі). Пагост. △ В о́ ў ч ы  н е д о́ е д о к. Прыдушаная ці параненая воўкам жывёліна. *Зва́лі воўчы недоедок, шчо воўк порва́ў.* Бярэжцы.

НЕДОКЛА′Д *м.* Недагрузка. *Говорâць, шчо лес не боіцца перэкла́ду, а недокла́ду.* Сямігосцічы.

НЕДОКО′ШЭНЫ *дзеепрым.* Няскошаны, пакінуты пры касьбе. *Там ла́пік остаўса недокошэны.* М. Малешава.

НЕДОКУПІ′ЦЦА *зак.* Не мець магчымасці купіць з-за высокай цаны. *Недокупіцца ў поле́шок грыбо́ў, носяць і за кіло́ дванаццаць-трынаццаць рублей зага́дваюць.* Дварэц.

НЕДО′КУРОК *м.* Акурак. Тураў.

НЕДОЛО′МОК *м. экспр.* Дрэнны воз. Азяраны.

НЕДОЛУ′ЖНЫ *прым.* Слабы, хваравіты. Луткі.

НЕДО′ЛЯ *ж.* Бяда, гора. *Пробуў вон у недо́лі сем год.* Азяраны.

НЕДОМО′РОК *м.* Заморак. *Не яблука, а одные недоморκі!* В. Малешава. *Тые ўсе ціпленята недоморкі.* Запясочча. *Вон екі вырос недоморок, нема на шчо гледзець.* М. Малешава. *Е велікіе жукі, ек моністы, і недоморкі седзяць.* Аздамічы.

НЕДОНО′СОК *м.* 1. Неданошанае адзенне, абутак. *Я не буду ее недоноскі носіць!* Луткі. 2. Неданошанае дзіця. Хотамель.

НЕДОПЕ′ЎНІЦЦА *зак.* Канчаткова не дамовіцца. *Недопеўніўса тобто ехаць, тобто не.* Аздамічы.

НЕДОПУСКА′ЦЬ *незак.* Не дазваляць пайсці. *Рада бу ў рай, да грэхі недопускаюць* (прымаўка). Старажоўцы.

НЕДОРО′Б, НЕДОРО′БОК *м. экспр.* 1. Нешта недаробленае, не даведзенае да канца. *Недоробок у цебе, а не бочка!* Азяраны. 2 *перан.* Неразумны, нягеглы чалавек. *Недороб, бо не вўрос.* Пагост.

НЕДОРО′СТОК *м. экспр.* Чалавек малога росту. *Недоросток ты, ропуха малы!* Аздамічы.

НЕДОРО′ШЧЫ *прым.* Недарослы. *У нас бабў рвуць зелье або дзеці екіе недорошчые.* Бярэжцы.

НЕДОРЭ′ДОК *ж.* Недарэка. *Недорэдок некі ходзіць.* Хотамель.

НЕДОСЕ′КА *ж.* Загана ў палатне, калі ўток слаба прыбіты бёрдам. *Дзеўка недосеку наткала.* Цераблічы. *Як крыво ці слабо ў бердзі, то кажуць: зробіла недосеку.* Аздамічы.

НЕДОСЕ′Ў *м.* Незасеяны ўчастак у полі, агрэх пры сяўбе. *Недосеў серэд поля, то косцерэва поросла.* Хачэнь.

НЕДОСО′Л *м.* Недастаткова пасоленая страва. *Перэсол под стол, а недосол — на стол* (прыказка). Сямігосцічы.

НЕДОСТУ′ПНЫ *прым.* Непраходны, непрыступны. *Дзе недоступные леса, боры, там сохраняліса дзікі, лосі.* В. Малешава.

НЕДОТЫ′КА *ж.* Незачэпа, недатыка. *Недотыка дзеўка, не займай!* Аздамічы.

НЕДО′ЎГІ *прым.* Нядоўгі, кароткі. *Галўза — як недоўге і тоўстэ полено.* Мачуль.

НЕДОЎГОВЕ′ЧНЫ *прым.* Якому мала жыць. *От, дочко, вон у цебе недоўговечны.* Хачэнь.

НЕДОХВА′Т *м.* Нястача, беднасць. *Недохват коліся буў, шо й крышкі сала не з'еў.* М. Малешава. Недахоп;

брак. *Ек недохват еды́, то варылі колоту́шу ко́ліся.* Там жа. *Можно сказаць, шчо ко́лісь недохват було гро́шэй.* Старажоўцы. *Не ўсі дома, недохват чого́-то ў голове́.* Запясочча.

НЕДОХО́ДА *ж.* Памылка пры снаванні. Мачуль.

НЕДОХОДНЯ́ *ж.* Тое ж. *Недоходня — як не до́йдзеш на ўсе колкі, то па́ра ніток ото́йдзе.* Лутків. *Ек хто ішоў ў армію, то одну недоходню давалі ко́лісь і носі пры собе́, то пры́дзеш домо́ў* (звычай). М. Малешава.

НЕДОХО́П *м.* Недахоп, нястача. *А тогды за куском нішчы́мным булі, дай того недохоп було.* Сямурадцы.

НЕДОХОЧУ́ *прысл.* Уволю, удосталь. *Ей молоко недохочу і кіслэ, і уся́ке.* М. Малешава.

НЕДОЦЕ́РОК *м.* Кавалачак бульбы, які застаецца пасля таркавання. *Недоцёрок ідзе́ ў по́йло кабану́.* М. Малешава.

НЕДОЦЁПА *м.* і *ж. экспр.* Недагадлівы чалавек. *Вот недоцёпа, не туды́ ведро́ воды́ ву́ліла.* М. Малешава.

НЕДО́ШЛЫ *прым.* Слабы, хваравіты. *Вонэ ж таке́ недошлэ, шо мо і не прожыве́ ме́сяц.* Верасніца. *Не́кі хло́пец родзіўса недошлы.* Луткі.

НЕДОШЛЯ́К *м.* Слабак, хваравека. *Ек ба́цько недошляк, то і дзеці его недо́шлые.* Тураў.

НЕДУ́ГА *ж.* Хвароба. *Недуга б цебе́ не ўхопіла і ў Кіеві!* Запясочча. *О, шоб цебе тра́піла недуга!* (праклён). Там жа.

НЕДУ́ЖЫ *прым.* Хворы. *Коб до́брого му́жа, то наве́к жонка недужа* (прымаўка). Чэрнічы.

НЕДУ́МАНО *прысл.* Нечакана, неспадзявана. *Недумано прышоў.* Аздамічы.

НЕЕДО́МУ *прым.* Непрыдатны для ежы, атрутны. *Гэто неедомуе грыбу ўсе.* Хачэнь.

НЕЖДА́НО *прысл.* Нечакана, неспадзявана. *Нежда́но прышоў.* Аздамічы.

НЕЖЫВУ́ *прым.* Нежывы, мёртвы. *Стаў на суху голіну да ўпаў, і нежыву́ лежы́ць, бо́жэ мой, све́це мой!* Сямурадцы. *Ледзь-ледзь отха́ялі, вон жэ буў нежывы́!* Бярэжцы.

НЕЖЫ́ТОЎКА *ж.* Скула, скулка. *Нежытоўка зробіласа на ка́рку ў ёго́.* Запясочча. *Розырде́лас нежытоўка, почырвоне́ла.* Альпень. *Жэрэло́ е ў нежытоўцы, можно его ву́цегці.* Сямігосцічы.

НЕЗАБА́РОМ *прысл.* Хутка, неўзабаве. Тураў.

НЕЗАБАЎНО′ *прысл.* Тое ж. *Незабаўно́ прышоў і ба́цько.* Аздамічы.

НЕЗАВІ′ДНЫ *прым.* Незайздросны, несамавіты. *Незавідна була ба́ба.* Буразі. *Го́стрые карто́плі, такіе незавідные.* Бярэжцы. *Памянш.* незавіднэнькі. *Така незавідненька, мале́нька, а вон узяў і пов'ёз.* Сямурадцы.

НЕЗАМУ′КАНЫ *прым.* Незамкнёны. *Ой, цыга́нкі ходзяць, а я хату незамукану покінула.* Пагост.

НЕЗАЎГА′Д *прысл.* Неахвотна. *Незаўгад подняўса Іванко, спа́точкі шчэ хоцеў.* Пагост.

НЕЗАЧО′ПНЫ *прым.* Недатыкальны. *Я незачо́пная, не во́льная* (замужняя), *коб со мной хло́пцам гуля́ць.* М. Малешава.

НЕЗБЕ′ЖНЫ *прым.* Непазбежны. *Усе, ба́ло, кажуць на сходу́ ў нас: незбе́жна война́, аж вона і почала́са.* В. Малешава.

НЕ′ЗБУЦЬ *ж.* Малярыя, ліхаманка. Альшаны.

НЕЗВО′ДНЫ *прым.* Які не пераводзіцца, невыводны. *Гэто на розво́д, шоб незводные булі гро́шы* (пра капейку ў кашальку). В. Малешава. *У нас ры́ба незво́дная була.* Пагост. Пастаянны, заўсёды прысутны, наяўны. *У мене́ табле́ткі незводные.* В. Малешава. *Незводна була тут вода́.* Запясочча.

НЕЗГА′РНЫ *прым.* Непрыгожы. *Зогну́ўса, чыкіляе, годы́ ж — то й незґарны.* Пагост.

НЕЗГО′ДА *ж.* Нелад, сварка. *Чоловек з жо́нкою ў незго́дзе жывуць, вон ее не лю́біць, увесь час бунту́е, с ха́ты гоня́е.* М. Малешава.

НЕЗГРА′БНЫ *прым.* Тоўсты, непаваротлівы. *От пошла незграбна жонка, як ла́нтух поцегла́с.* Сямігосцічы.

НЕЗҐРА′ДА *м.* і *ж.* Няўмека, няўклюда. *Таку незґраду з го́рода прівёз, ні спекці́, ні зваріць не ўмее.* Пагост.

НЕЗҐРА′ДНЫ, НЕЗҐРЭ′ДНЫ *прым.* Нехлямяжы, нязграбны. *Дзеўзно́ незґраднэ!* Старажоўцы. *Незґрэдны.* Запясочча.

НЕЗҐРА′ЙНЫ, НЕЗҐРЭ′ЙНЫ *прым.* Тое ж. *Неповоро́тлівы, незґрайны такі чоловек.* Аздамічы. *Незґрайнэ короўзно́!* Любавічы. *Прочва́ра незґрэйная!* Бярэжцы. *Сама́ таке незґрэйнэ, клендa′тэ дзеўзно́.* М. Малешава.

НЕЗҐРЭ′Я *м.* і *ж.* Няўклюда, нязграба. *Незґрэ́я така́!* Верасніца. Нехлямяжы, непрыгожы чалавек. *Незґрэя тэ хлопчы́шчэ, нехо́рошы такі!* М. Малешава.

НЕЗДОРО′ВО *прысл.* Шкодна для здароўя. *Бу́сько*

*колі яйца выкідáе, то нездорóво на людзéй* (павер'е). Аздамічы.

НЕЗДОРО'ВУ *прым.* Хворы, слабы. Бярэжцы. Нямоцны. *Дзік лёд нездорóву вубіў і вýлез на том берэгý.* Сямігосцічы.

НЕЗДОРО'ЎКА *ж.* Хваравека, хваравітая жанчына. *Нездороўка і ты, мóжэ, ты поперэ́дзіш мене.* Бярэжцы.

НЕЗЛЮБІ'ЦЬ *зак.* Неўзлюбіць. *Вона тожэ не зжылáса, незлюбілі её.* Хачэнь.

НЕ'ЙДЗЕ, НЕ'ЙДЗІ *прысл.* 1. Недзе, дзесьці. *Нéйдзі погінуў у Эстóніі.* Сямурадцы. *Нéйдзі такі ў мене хвартýх буў.* Луткі. *На дворэ́ нéйдзе була.* Кароцічы. *Мо хіба нéйдзі поспéлі сóнашнікі?* Дварэц. 2. Кудысьці. *Мо нéйдзе хóчэце іці? На болóнье мо?* В. Малешава. *Хозяйка ўжэ нейдзе ўцеклá.* Луткі. *Нéйдзі поéхала і вýйшла зáмуж.* Хачэнь. 3. Няма дзе. *Далí дзéрэво — хáты нéйдзе постáвіць.* Бярэжцы. *Мукі нема, нéйдзе змолóць.* Пагост.

НЕ'ЙДЗЕКА *прысл.* Тое ж. *Нéйдзека говорацъ, чутнó.* Хільчыцы. *Понакóшвалі нéйдзіка ў Рубрынé.* Запясочча.

НЕ'ЙКІ, НЕ'КІ *займ.* Нейкі, якісьці, незнаёмы. *Вот нéйкі мужчы́на ідзé.* Бярэжцы. *Нéйкіе прыежджáлі з Москвы́, то поéду з імі дай годзе.* Мачуль. *Захóджу я, а ў іх було так о два некіх землемéры.* Пагост. Нейкі, дакладней не акрэслены. *А одзін нéкі буў хлóпец з ім рáзом.* В. Малешава. *Поробілі блешáные нéйкіе формы.* Бярэжцы. *Шо ты купіла, марý нéйку?* Мачуль. У нечым падобны, нагадваючы. *Самогóн, ек шпірт нéйкі.* Старажоўцы. *Ой, кáжэ, нéйка поскрóбка!* Верасніца. Абы-які, не варты ўвагі. *Мо прыстрэліў нéку сорóку?* Хільчыцы. Сякі-такі. *Чому нема мéду? Мо то е нéйкіе пчóлы?* Мачуль. Які-небудзь. *Оттýль прывезé нéйку дзéўку.* Хотамель. *Пáру мо нейкіх волóў ці кóней маў.* Бярэжцы. Якісьці, зусім няпэўны. *Нéйкі хунт пашнé дасць.* Мачуль.

НЕЙМА'ЦЦА *незак.* Не шчасціць, не шанцаваць. *Як дóля нейме́цца, то наплáчэцца шчэ.* Азяраны. *Комý нэймэ́цца, томý насмеéцца* (прымаўка, пра лёс няўдачнікаў). Мачуль.

НЕЙНА'ЧЭЙ *прысл.* Напэўна, хутчэй за ўсё. *Нейнáчэй поéдзем.* Аздамічы. Відавочна. *Нейнáчэй нецямýшчы чоловéк.* Там жа.

НЕ'КОЛІ *прысл.* 1. Калісьці. *Мы неколі весною так і*

*зробілі.* Тураў. 2. Няма калі. *Неколі мне галяць.* Аздамічы. *Добрэ жыць, да неколі* (прымаўка). Луткі.

НЕ'КОСЬ *ж.* Участак сенакосу, непрыдатны для касьбы. *На грáдах то покосілі, а ў логáх некось, водá стояла.* Пагост. Няскошаны участак. *Тáмека лéтошня травá, не косілі лéтось, то некось стоíць.* Луткі.

НЕ'КОСЯ, НЕ'КОСЬ *прысл.* Калісьці. *Некося заехаў да подзівіўса, то нішчó собé жыве.* Сямігосцічы. *Некось я була там і бачыла.* В. Малешава.

НЕ'КОТО'РЫ *займ.* Некаторы, асобны. *Ужэ пóзно, ужэ лю́дзі нéкоторые сп'яць.* Кароцічы. *Блу́ду у нас кóлісь не було, зáре е трóхі, дурéюць некотóрые.* Пагост. Сёй-той. *Нéкоторы ўправіцца ўспее, а нéкоторому й дасць дождж.* Запясочча. Пэўны, бліжэй неакрэслены. *І мне нéкоторого году за зверхсéно не вýплацілі.* Сямігосцічы.

НЕ'КРУТ *м.* Рэкрут. *Кóлісь у нéкруты отдавáлі на 25 годóў.* Цераблічы.

НЕ'КРУТКА *ж.* Салдатка. *Булі дзве нéкруткі ў нас, і той і той чоловéк пошóў у áрмею.* В. Малешава. *Кóлісь некруткі гралі ў коты́, почэпляюцца одна за одну да бегаюць.* Цераблічы.

НЕ'КУДЫ *прысл.* 1. Кудысьці, куды-небудзь. *Вона з дзеўкою ходзіла некуды.* Кароцічы. *Я годзяшча некуды ехаць?* Хачэнь. 2. Няма куды. *У таку егіпту зайшоў, шо дáлей некуды.* Луткі.

НЕЛАПУ' *прым.* Няладны, нядобры. *Гэто дзело нелапэе, плохэ шось.* Сямігосцічы.

НЕ'ЛЕНЬ, НЕ'ЛІН *м.* △ Н е л е н ь д у б. Від дуба, які ўвосень не скідае лісце. *Нелень дуб звалі, котóры не спускáе лісцье.* Пагост. Н é л і н д у б. Тое ж. Запясочча.

НЕЛЕЧЫ'МЫ *прым.* Невылечны, смяртэльны. *Чумá нелечыма.* Хачэнь.

НЕЛО'ЎКІ *прым.* Нядобры. *Гэты год на нішчó нелоўкі.* Аздамічы.

НЕЛО'ЎКО *прысл.* Няёмка, нязручна. *Позваць мне ее — нелоўко, скажуць тые мужчы́ны, шо ты хочэш.* Пагост. *Так мне нелоўко, аж у жар кінуло.* Верасніца.

НЕ'ЛЬГА *прысл.* Нельга, забаронена. *У нас цепéрэка ў селе е мерцвéц, то гной нельга вувóзіць* (павер'е). Луткі. *Чэцьвóрты дзень* (русальнага тыдня) *як светку́юць от гáду, то нельга було шыць і полóць* (павер'е). Старажоўцы. *Нельга, там проківа!* Бярэжцы. Няможна, не трэба.

*Нельга коўтаць сліну.* Луткі. Немагчыма. *Жыць нельга і ўміраць нельга* (пра старэчае жыццё). Сямурадцы. *Нельга мáцер купіць, нельга мóлодосць купіць.* Сямігосцічы. *От сухá землá, шо цыбуліну нельга вырваць.* Мачуль. *Хітры, шчо поймаць нельга.* М. Малешава. *Нельга тэ ўрэм'е перэжыць да перэдумаць, як було стрáшно.* Хотамель. Магчыма, можна. *Покруціла ў той бок, покýль нельга.* Цераблічы.

НЕЛЮ'БУ *прым.* Нямілы, нялюбы. *Нелюбу óччым хлопчакý, то ў дзеда жыве.* Луткі.

НЕ'ЛЮДЗЬ *м.* Непадобны да людзей. *Прыміса, нелюдзь!* Цераблічы. *Нéйкіе нелюдзі ву!* Дварэц.

НЕЛЮ'ДНЫ *прым.* Нелюдзімы, дзіклівы. *Нелю́дна жóнка — боіцца людзéй.* Сямурадцы.

НЕЛЮ'ДСКІ *прым.* Тое ж. *Як воўк ходзіць, нелюдскі, людзей не знае.* В. Малешава.

НЕМА' *часц.* Няма, няма ў наяўнасці. *Зірнýла: нема вечóк.* Луткі. *Еў бу, да нема ёгó.* Сямурадцы. *Я і сюда, я і туда стаў гледзець — нема.* Мачуль. *Як нема, то я дам.* В. Малешава. *Нема дзень, нема другі, нема трэ́ці чоловека.* Луткі. *Не бедýй, Хомá, колі гóра нема* (прымаўка). Верасніца. *Нема ні толку, ні лáду!* Мачуль. △ Н е м á в é с ц і. Немаведама. *Нема весці куды іці́, шчо тут почáць.* Тураў. Н е м á м е н é н і я к. Пра страту сіл, здароўя. *Я ўжэ старá, мене ўжэ ніяк нема.* Хачэнь. Н е м á ў г á д у. Невядома. *Нема ўгаду шчо воны там рóб'яць.* Тураў. Н е м á к о л í. Некалі, няма часу. *Але ж усе перэжылі́, но ўжэ нема колі жыць.* Пагост. Н е м á к у д ы́. Некуды. *Нема ж куды іці ўжэ.* Бярэжцы.

НЕМАВЕ'Р, НЕМАВЕ'РЦЕ *прысл.* Неверагодна. *Хоць бу там було рыбы немаверце скóлько — не пошоў бу!* Луткі.

НЕМА'ЕКА *незак.* Няма, нямашака. *Ці гэто рукаві́ц у цебе немаека?* Альшаны. *Немаека воды́ на том грудкý.* Хотамель.

НЕМА'ЛЬ *прысл.* Амаль. *По колéно гэта немаль я́ма.* Луткі.

НЕМА'Ш, НЕМА'ШЭКА, НЕМА'ШЭКІ *незак.* Няма. *Немаш грóшэй, туды́-сюды́ да роскідаў.* Пагост. *Мо ў вас хлéба немашэка?* Аздамічы. *Гэтого слóва ў нас немашэка.* Альгомель. *А тогó сына ўжэ немашэка.* Сямурадцы. *Цепéр немашэкі дожджý.* Сямігосцічы. *Немáшэка лозы́, зеелáса.* Бярэжцы.

НЕ′МЕЦ *м.* 1. Нямко, нямы чалавек. Аздамічы. 2. Немец. *Воны там на заса́дкі седзелі, не́мцоў ожыда́лі.* Старажоўцы. *Побачылі, а то ўжэ сісё не́мцы.* Мачуль. 3. Пасаж у гульні ў *стры́чку* (Бярэжцы), у *цу́рку* (Сямігосцічы), у *стоўпа́* (Цераблічы), у *бала́нту* (Аздамічы) і інш. *Памянш.* немчык. *Як не скасу́е тала́нта, то немчыка б'е.* Бярэжцы.

НЕМЕ′ЦЬ *незак.* Нямець, дранцвець. *Мое ру́кі сталі немець от роботы.* Дварэц.

НЕМІ′ЛЫ *прым.* Нямілы, нялюбы. *Поехала баба назад ек неміла.* Луткі.

НЕ′МКА *ж.* Нямая жанчына або дзяўчына. *Это немка, она одна ў селе.* Сямігосцічы. *Прыду да нічого не буду говорыць, буду немкою.* Цераблічы. *Коло мене немка лежала, у ее ця́жкая операцыя була.* Хачэнь.

НЕ′МО *прысл.* Страшна, дзіка. *Немо горäць ногі!* Любавічы. Глуха. *Нейдзе ўды́рыло немо, ек гроза́ була. У іншом месці го́лосно дасць, а ў іншом немо.* Луткі.

НЕМОВЕ′ДЗЬ, НЕМОВЕ′ДКІ *прысл.* Невядома, немаведама. *Дзе́йка немоведзь ека́, ек ўсе.* Луткі. *Дай ім немоведзь шчо, то не пойдуць у недзелю косіць.* В. Малешава. *Немове́дкі як чутно́, як по осені вон отзыва́ецца, той пуга́ч.* Альпень.

НЕМОВЕ′СЦЬ *прысл.* Немаведама. *Грыб — шту́ка немове́сць ека́ весёла, ек уба́чыш!* Цераблічы.

НЕМО′ЖНА, НЕМО′ЖНЫ *прысл.* Нельга, немагчыма. *Го́ркі гуро́к, немо́жны е́сці.* Мачуль. *Немо́жна е́хаць машы́ною, гра́зко.* Старажоўцы.

НЕ′МОРОЗЬ *ж.* Дрыжыкі, жах. *Так злека́лася, шо неморозь узела́.* Рубель.

НЕМОЎГА′Д, НЕМОЎГА′ДОЎ, НЕМОЎГА′ДУ, НЕМОЎГА′ДЫ *прысл.* Невядома, немаведама. *Немоўгад екіе людзі ходзяць.* Запясочча. *Немоўгад на сколькі булі людзі ўзапа́шваліса хле́бом.* Луткі. *Немоўга́доў яка́я хоро́ша!* Сямурадцы. *Немоўгаду колькі наро́ду.* Аздамічы. *Ты ж мне подтыка́еш немоўга́ду шчо.* М. Малешава. *Немоўгады як шыху́е, усе ў ёго збува́ецца.* Хачэнь.

НЕМОЦОВІ′ТЫ *прым.* Слабы, нямоцны. *Зуб буў немоцовіты, то злома́ўса.* Пагост.

НЕ′МОЧ *ж.* Слабасць, знямога, хвароба. *Напала на мене не́моч.* Запясочча. *От на его нема ніякой немочы!* Хачэнь.

НЕМТУРА′, НЕМЦУРА′ *зб. зневаж.* Немцы. *Седзелі*

*ў гэтой вуліцы немтура.* Верасніца. *Немцура.* Бярэжцы.

НЕ'МУ' *прым.* Нямы, няздольны гаварыць. *Нему́ езы́к у това́ра.* Запясочча. Анямелы, нерухомы. *Нога́ не́ма по клуб. Па́лец отмёрз да не́мі, не ґілду́е.* В. Малешава. *Цепер вона не́мая у мене, гэта рука́, узяць не могу́ нічо́го.* Хачэнь △ Н е м ы́ м г о́ л о с о м. Страшна, дзіка. *Рэве корова такім немым голосом, а то, бра́це, очэпіўса гад.* Цераблічы. Н е м у́ м д у́ х о м. Тое ж. *Ек пе́кнуў, то́ немум духом крычаў.* Лутκі.

НЕМЧУГА'Н *м. зневаж.* Немец. *Гэтые немчуга́ны, воны́ булі хітрые!* Хачэнь.

НЕМЧУРА'КІ *мн. зневаж.* Немцы. *От шчо немчура́кі прыдумалі!* Верасніца.

НЕНАВА'ЖЫЦЬ *зак.* Не рашыцца, не наважыцца. *Ні ненаважу іці до его просіць коня́.* Луткі.

НЕНА'ВІ'ДНЫ *прым.* Ненавісны. *Любіліса, а цепер нена́відные однэ́ другому.* Пагост. Змрочны, пануры. *Нена́відны.* Сямігосцічы. Нядобры. *Ненаві́дны, шчо непра́ўду кажэ.* Аздамічы.

НЕНАВІ'СНЫ *прым.* Змрочны, насуплены. *Баба не хочэ жыць, така́ не́ка ненавісна.* Запясочча.

НЕНА'ДЖЭНО *прысл.* Нечакана, неспадзявана. *Шчоб ты робіў, коб к тобе нена́джэно прышла́ жо́нка?* Чэрнічы. *Нена́джэно попаў до нас.* Аздамічы. Незнарок. *Кінула полено нена́джэно на пе́ўня.* Пагост.

НЕНА'ДЖЭНЫ *прым.* Нечаканы, неспадзяваны. *Мой госць ненаджэны!* В. Малешава.

НЕНА'ЕДА *м.* і *ж.* Ненажэра, заўсёды галодны. *Не доста́неш, ух ты ненаеда, погані́ока ты!* Хачэнь.

НЕНАЕ'ДНЫ *прым.* Ненажэрны, вечна галодны. *А шо вутву́ да ненаедные!* М. Малешава. Прагны. *Змея, така була ненаедна, да здо́хла!* (лаянка). Хачэнь. *Ненаедны, ву́хопіў з рук.* Аздамічы.

НЕНАЙГРА'НЫ *прым.* Неаплоднены. *Боўту́н — то ненайгра́нэ я́йко.* Мачуль.

НЕНА'СЬКІ *прым.* Чужы, нетутэйшы. *Як улезе нена́ські чоловек у лес, то заблу́дзіцца.* Аздамічы.

НЕНА'ЎМЕХ *прысл.* Не да таго, не ў галаве. *Коб покупа́ліса, ненаўмех була б і та ры́ба.* Луткі.

НЕ'НДЗА *ж.* Клопат, турботы. *Трэ нендзу прыня́ць, шчоб дзіця́ ву́годоваць: пbooту́жно седзець трэ.* Луткі. *На́шчо мне гэты кло́пот, нашчо мне гэта нендза!* Сямурадцы. Бяда. *Нендза напа́ла.* Запясочча.

НЕО′БЗІР, НЕО′БЗІРКІ *прысл.* Без аглядкі. *Попёр Міша необзір косу́ шука́ць.* Дварэц. *Я цебе́, ка́а, ско́ро попру не́обзіркі.* Луткі.

НЕОБО′ЛІЦЬ *незак.* Зайздросціць, крыва глядзець. *Крыво́тлівы необо́ліць, як у кого́ шчо е.* Мачуль. *Не було тогды добра, сестра на сестру необоліла.* Там жа.

НЕОБРЫ′ЧЭНЫ *прым.* Няголены, нябрыты. *Необрычэны, неостры́жэны, кошла́ты!* Запясочча.

НЕОБХОДЗІ′МЫ *прым.* Той, які цяжка абысці. *Тут лозішчэ було, така пу́шча була, лоза́ необходзімая.* М. Малешава.

НЕОПРА′НЫ *прым.* Неапрануты. *З печэ́ да неопраны на двор, то й прохопіло.* Пагост. *Ко́ліся неопраные былі.* Бярэжцы.

НЕОПРАТНО′ *прысл.* Няўтульна, непрыемна. *Холодне́ча, гразо́та — неопратно́ на дворэ.* Пагост.

НЕОСЦЕРО′ЖНОСЦЬ *ж.* Неасцярожнасць, неабачлівасць. *По своей неосцерожносці зробіў урэд.* В. Малешава.

НЕОТБУТНЫ′ *прым.* Неаплатны. *Неотбутнэ тэ, за шо ма́цер шкодовацьтрэ.* Пагост. Незабыўны, дзіўны. *Неотбутны буў свет.* Луткі.

НЕОХА′Я *м.* і *ж.* Неахайны чалавек. *Незгрэ́я така́, неоха́я!* Аздамічы.

НЕОХВО′ТНО *прысл.* Нявесела, нудна. *Одному неохвотно ры́бу ловіць, бо як бу дзікі робіша у тых куста́х.* Дварэц. *Ім самы́м неохвотно, то ідуць сюды.* Цераблічы.

НЕПЕРЭ′ЛІЎКІ *прысл.* Бяда, дрэнь справы. *За ноч стог у водзе, то ўжэ неперэліўкі, пропа́ло се́но.* Пагост.

НЕПОДЗЕ′ЛЬНЫ *прым.* Цалковы, неразменны. *Неподзельные п'яць золоты́х рубле́й оддалі бра́ту.* Чэрнічы.

НЕПОДОГЛЯ′ДАЦЬ *незак.* Не скончыць даглядаць. *Шчэ неподоглядала ўсе, шчэ целу́шку не корміла.* Луткі.

НЕПОДЫ′МЛЕНЫ *прым.* Які не прайшоў апрацоўкі дымам. *Неподымлена цыбуля пошла ў букі.* Пагост.

НЕПОСЕ′ДА *м.* і *ж.* Непаседа, рухавы чалавек. *Непоседа, не поседзіць, но́сіцца.* Верасніца.

НЕПОТРЭ′БНІК *м.* △ Бо́жы непотрэ́бнік. Пра таго, хто адчувае сябе лішнім, трымаецца ў баку ад кампаніі. *Ваш шофер стоіць, ек божы непотрэбнік, поклічце ёго́.* Старажоўцы.

НЕПОХОРОБУ′ШЧЭНЫ *прым.* У якога няма мар-

шчын. *Раз чоловек без забо́ты, то й непохоробу́шчэны.* Сямігосцічы.

НЕПОЦЭ'ЛІЦЬ *зак.* Зрабіць промах, не папасці у цэль. *Непоцэліў я ў дзіка, промахнууса.* Аздамічы.

НЕПРА'НЫ *прым.* Нямыты, нясціраны. *Одна сорочка непраная дай додо́лу подра́ная* (загадка). *Ку́рыца* (адгадка). Запясочча.

НЕ'ПРАС *м.* Нягоднік. *Непрас, ні ма́цер, ні ба́цька не послухае.* Пагост.

НЕПРА'ЎДА *ж.* Няпраўда, мана. *Ленуецца робіць? Не, непра́ўда, ек захо́чэ е́сці, то бу́дзе робіць!* Бярэжцы.

НЕПРОВО'РНЫ *прым.* Няспрытны, непаваротлівы. *Непрово́рны чолове́к, так, ні сыры́, ні пе́чэны.* Луткі. *От тэ лухтанішчэ ленуецца поверну́цца, таке́ непрово́рнэ.* Пагост.

НЕПРОЦЕКНЫ' *прым.* Непраточны. *Озёра непроцекны́е.* Запясочча.

НЕПРЫКЛА'ДНО *прысл.* Недарэчна, бесталкова. *Вон говорыць непрыкла́дно.* Луткі.

НЕПРЫТО'МНЫ *прым.* Які не кантралюе свае паводзіны. *Непрыто́мны, безроссу́дочны ее́ чолове́к, п'яню́га, шолопу́т.* В. Малешава.

НЕПРЫТУ'ЖНЫ *прым.* Лёгкі, які лёгка пераносіцца. *Непрыту́жная зіма́ була, лёхкая.* Хільчыцы.

НЕПРЫЧЫ'ННЫ *прым.* Непрыгожы, непрыемны. *Непрычы́нны хло́пец, да і той не хо́чэ непрычы́нну жо́нку, бо вона́ гідка́.* Цераблічы.

НЕПУЦЕ'ВУ *прым.* Бесталковы. М. Малешава.

НЕ'ПУЦЬ *ж.* 1. Распуціца, бездараж. *Гразь, непуць, нема́ дзе ступіць.* Запясочча. *От непуць, ані во́зом, ані саньмі ехаць.* Луткі. *На дворэ непуць, така́ мокро́та, снег з дождж́эм.* Там жа. 2. Бесталковы чалавек. Аздамічы.

НЕРА'ХА *м.* і *ж.* Неахайны чалавек. *Жонка ў его́ була нера́ха, абу́-ека.* Хачэнь. *Павел.* нера́шышчэ *н.* *Нерашышчэ абу́-еке су́нецца.* Старажоўцы.

НЕРА'ХОВАТЫ *прым.* Неахайны, некультурны. *Нераховаты чоловек шчо не накладзе́, то й за́ра пока́ліць.* Цераблічы. Непрывабны. *Ло́ша окоціласа, прывела таке нера́ховатэ лошэня́.* Хачэнь.

НЕ'РОДЗЬ *ж.* Неўраджай, недарод. *Неродзь будзе, бо дождж́у нема́.* Цераблічы. *Не́родзь на сад.* Аздамічы. Малаўраджайнае дрэва, сорт гародніны. *Хоця і неродзь*

*дзічкі, а такіе лоўкенькіе!* Верасніца. *Я'блука — неродзь!* Запясочча.

НЕРОЗБІТНЫ' *прым.* Дурнаваты, някемлівы. *Нерозбітны — такі чоловек неўда́ны, як бог ему́ не дае́ хітросці.* Сямігосцічы.

НЕРОЗДЗЕЛІ'ЦЬ *зак.* Не адрозніць. *Людзі цепер нероздзеляць, якое́ жыто, а якóе пшэніца.* Хачэнь.

НЕРОЗУ'МНЫ *прым.* Неразумны, някемлівы. *Вона некрасіва й нерозумна, і поехала, дзе старшые сёстры.* Сямігосцічы. Неразвіты. *А нейкі одзін неразумны трохі буў у селе́.* Бярэжцы.

НЕ'РОМ *прысл.* △ Н е́ р о м л е ж а́ ц ь. Моцна жадаць. *Гвалт за ёго не́ром лежыць, з вочэ́й не спуска́е.* М. Малешава.

НЕРО'ТА *ж.* Сплеценая з лазы снасць на ўюноў, нерат. *Кру́гла така́ нерота, а ў неро́це е пе́лька.* М. Малешава.

НЕРО'ЎНЫ *прым.* Няроўны, неаднолькавы. *Неро́ўны лес, неро́ўные й людзі* (прымаўка). Луткі.

НЕРО'ЎНЯ *ж.* Нераўня, не пара. *Цега́ецца к неро́ўні, на́шчо ты мне!* Луткі.

НЕРХ *м.* Лёгкая неўраджайная зямля. *Земля — нерх, бі чэ́рві ее поточылі. Вона бі чорна, але непло́тна.* В. Малешава.

НЕРХОВА'ТЫ *прым.* Неўраджайны, лёгкі (аб зямлі). *Ек земля нерховата, то нічо́го не росце́.* В. Малешава.

НЕ'РЭС, НЕ'РЭСТ *м.* 1. Нераст. *Шчу́ка на не́рэс, а корова на ве́рэс* (прыкмета). Старажоўцы. Гон. *Грыб у ве́рэс, за́ец на нерэс* (прыкмета). Там жа. 2. Нерасцілішча. *От нашла́ Прося не́рэст, да ніхто не ошэрґа́ў, да найшло́ язёў, усе ро́ўно як поросюкі.* Луткі.

НЕРЭСТО'ЎКА *ж.* Нерасцілішча. *Рыбакі называюць этэ место нерэстоўка, дзе рыбы б'юцца.* Верасніца.

НЕРЭСЦІ'ЦЦА *незак.* Нераставаць. *Лінко́ў не поба́чыш, ек нерэсця́цца.* Верасніца. *На Лексе́я нерэсця́цца шчу́кі.* Крэмна.

НЕСАМОВІ'ТЫ *прым.* Неразумны, дурнаваты. *Несамовіты чоловек усе одно́ шчо ненорма́льны.* Пагост. *І докіль ужэ́ будзе несамовіта, ужэ ж, сла́ва бо́гу, ско́ро два́ццаць.* Верасніца.

НЕ'СКОЛЬКО *прысл.* Некалькі. *На той посе́лі була годо́ў несколько гэта хата.* Сямігосцічы.

НЕ'СКУЛЬ *прысл.* Аднекуль, невядома адкуль. *А прышлі нескуль дзёйкі до нас.* Хачэнь.

НЕСЛА'ВА *ж.* Ганьба, знеслаўленне. *Ой, коб сын да на мáцер погáнійса — то такá неслава!* Сямігосцічы. Плёткі. *Неслáва пошла про ее.* Лут кі.

НЕСЛОБО'ДНА *прым.* Цяжарная. *Як була войнá, я ж гэтой дзёйкой була неслободна.* Бярэжцы. *Хомут не давалі перэступіць жóнцы, неслобóдна яка, оглóблі, з пóйного ведрá коло колóдзезя піць немóжна* (павер'і). Хачэнь.

НЕ'СМАЧ *ж.* Нешта вельмі нясмачнае. *Картоплі ў мóкры год така несмач, шчо і éсці немóжно.* Сямігосцічы.

НЕСОЛЁНЫ, НЕСОЛО'ДНЫ *прым.* Несалёны, маласалёны. *Як несолёнэ, то недосóл.* Альпень. *Трэбо помáзаць, а у мене сала нема несолóдного.* Сямігосцічы.

НЕСОТВОРЭ'ННЫ *прым.* △ Н е с о т в о р э́ н н а я с і л а. Пра незлічоную колькасць. *Шо іх уродзіло, тых яблок, — несотворэ́нная сіла!* Хачэнь.

НЕСПРА'ЎНЫ *прым.* Слабы, хваравіты. *Несправйны ўжэ конь, свое отробіў.* В. Малешава.

НЕ'СПУН *м.* Свавольнік, гарэза. *Неспун — хто нікóго не слýхаецца.* Бярэжцы. *Памянш.* н é с п у н о к. *Схопілі нéспункі тóе ціпленя!* Цераблічы.

НЕСТРОЙНО'ТА *ж.* Непарадак, бязладдзе. *Там у ее нестройнота — посцель лежыць кублóм!* Аздамічы.

НЕСУДО'БНЫ, НЕСУДО'МНЫ, НЕСУДО'МЫ *прым.* Надта вялікі, страшны. *Вéцер несудóбны дýне, крýціць, бýрыць!* Кароцічы. *Тýча лілá несудóмная, усе позалівáло, водá ройчэкáмі плылá.* Сямігосцічы. *Цепер жэ жарá несудóмная.* В. Малешава. Несусветны, непраходны. *Ек несходзімы лес, то кажуць — несудóмны.* Пагост. *Там гýшча була несудóмая.* Кароцічы. *Несудóмые болотá, дзе топ'я́ такіе.* В. Малешава.

НЕСУ'ШКА *ж.* Курыца, якая нясецца. *Багáто несýшок у цебé?* Азяраны.

НЕСУ'ШЧЫ *дзеепрым.* Які нясе яйкі. *А шчо, повéрце, несýшча кýра!* Пагост. *Кубáнкі — вельмо несýшчые кýры.* Аздамічы.

НЕСХОДЗІ'МЫ *прым.* Вельмі вялікі, які цяжка абысці, непраходны. *Лес несходзімы, там і болотá е на борý.* Цераблічы.

НЕСЦІ' *незак.* 1. Несці, дастаўляць. *Знáеш шо, Нá-*

*дзе, давай несём у Туроў.* Хачэнь. *А мне туды воду несці, там хата моей мацеры.* Бярэжцы. *Прыедзе, бало, за тры дні староста—да несеце попу місу куцьі і сала кусок на молітву.* Дварэц. 2. Несці, класці яйкі. *Журавель дзве яйка одно несе, але вон махіны!* Мачуль. *Уж несе яйка такой лёнточкой.* Там жа. *Кура несе ў кублє.* Бярэжцы. △ Несці сам себе. Пра самастойнае перамяшчэнне. *Раз ёго ранілі ў ногу, то вон ужэ не мог сам себе несці.* В. Малешава. Одно однэ (одного) не несе. Пра многа малых дзяцей ў сям'і. *А ў ее чэцверо дзеток одно однэ не несуць.* Запясочча.

НЕСЦІ'СА *незак.* 1. Несціся, цягнуцца. *Бэрэцца за ногамі да несецца ў хату пасок.* Мачуль. 2. Несціся, класці яйкі. *У Есенцэ чырыц, качок, пекуноў несецца!* Мачуль. *Побуркованые гусі не так несціса будуць.* Любавічы. *У богатого ўдаецца і певень несецца, а ў бедного й кура не хочэ* (прыказка). Старажоўцы.

НЕТ *часц.* Не. *Нет, не ге! Горынская вода светлейша!* Цераблічы. △ До нет. Пра вышэйшую ступень чаго-небудзь. *Цепліна, до нет цепліна!* Запясочча. *Гразь до нет! Наросце до нет! Старша дочка не так прыгожа, а вона до нет добра!* Мачуль. Шчо (шо) до нет. Тое ж. *Это спекулянты шо до нет!* Аздамічы. На нет. Тое ж. *Шахаёны смачные на нет!* Цераблічы.

НЕТВОРЭ'ННО *прысл.* Без ліку, вельмі многа. *Уюноў там було нетворэнно!* Запясочча.

НЕ'ТКУЛЬ, НЕ'ТКУЛЕ, НЕ'ТКУЛЯ *прысл.* Аднекуль, знекуль. *Чэрэп'яные міскі неткуль прывозілі.* Бярэжцы. *Неткуль мукі прывезено дзве машыны.* Цераблічы. *Віхор неткуле вуйдзе з земле да віхрує.* Пагост. *Прышоў уночэ неткуля.* Мачуль.

НЕТО' *прысл.* Не толькі, не столькі. *У печоры нето ракі, і язі седзяць.* Цераблічы. *Нето шо вода прыбула, а лівень, да затопіло!* Кароцічы.

НЕ'ТРА *ж.* Непраходныя зараслі на балоце. *Тут, кажуць старые, була сілна нетра.* Верасніца. *Нетра такая, шо і не ўлезеш, очы дзерэ.* Альгомель. *Непроходзімые нетры булі там, а цепэр кустоў мало осталоса.* Сямігосцічы.

НЕТУТЭ'ШНІ *прым.* Нетутэйшы, прыезджы. *А гэтые дзеўкі нетутэшніе?* Запясочча.

НЕЎГО'ДА *ж.* Невыгода. *Не так шкода, як неўгода* (прымаўка). Дварэц.

ОБВЕНЧА'ЦЬ *зак.* Абабегчы круга. *Усёй лес обвенчалі, шукалі ягод.* Луткі. *Пока усе хаты обвенчала, то ужэ й у печы потухло.* Старажоўцы.

ОБВЕ'РСТА, ОБЕ'РСТА *ж.* Застрэшак. Альшаны.

ОБВЕСЦІ' *зак.* 1. Абвесці. *Вон зноў ёго кругом обоўёў, поўз тэ пекло* (з казкі). Сямурадцы. 2. Абцягнуць, абматаць. *Вóза боковіцэю обоўёў, шчоб сено не трусілосо.* Цераблічы. *Раз обоўёў кругом копі вероўкою да поцяг ее до стóга.* В. Малешава.

ОБВЕ'ШВАЦЦА *незак.* Абвешвацца, навешвацца. *На лес обвешваецца нáвісь.* Луткі.

ОБВІ'СНУЦЬ *зак.* Навіснуць. *Нема шчэ, але обвісло кругом, будзе дошч.* М. Малешава.

ОБВОДЗІ'ЦЬ *незак.* Абцягваць. *Лентою обводзяць оступ, дзе звер.* Мачуль.

ОБВО'ЎЧЫЦЦА *зак.* Стаць нелюдзімым, апусціцца. *Обвоўчыўса вон да зарос, як купіна.* Хачэнь.

ОБВЯ'ЗВАЦЬ, ОБ'Я'ЗВАЦЬ *незак.* Абвязваць. *Кончалі жаць, то ужэ тоéю пашнéю об'язвалі серпá бáбы, да так і несуць домоў.* Хачэнь.

ОБГАЛЯ'ЦЬ *незак.* Абскакаць, выперадзіць пры скачках. *Вона ў Турові усіх обгаляла на своем коне, як булі сороўнованья.* М. Малешава.

ОБГА'НІЦЬ *зак.* Зняславіць, зганьбіць. *Обганіла мене, зробіла на гразь.* Аздамічы. *Вон чоловека обганіць мóжэ нізашчó.* Сямігосцічы.

ОБГЛЕДЗЕ'ЦЦА *зак.* Агледзецца. *Стаў да обгледзеўса, да тогды рошчóмаўса.* Цераблічы.

ОБГЛЕ'ДЗЕЦЬ *зак.* Абгледзець. *Я пойду заўтра на Орэ́ш'е да обглéджу, ека трава.* Хачэнь.

ОБГНЮСІ'ЦЬ *зак. перан.* Абняславіць. *Обгнюсіла усёй народ.* Луткі.

ОБГОВОРА'ЦЬ *незак.* Абгаворваць. *А іх маці век обговорала людзей.* М. Малешава.

ОБГОВОРЫ'ЦЬ *зак.* Абгаварыць, нагаварыць. *Обговорылі да обгнюсілі ее, зробілі негóдную зусім.* Старажоўцы.

ОБГОГОЦЕ'ЦЬ *зак.* Абледзянець у галалёд. *Обгогоцело дзéрэво.* Альшаны.

ОБГОЛЕ'ЦЦА *зак.* Збяднець. *Баба вона добрэнна да обголеласа цепéр.* Хачэнь.

ОБГОЛЕ'ЦЬ *зак.* Збяднець. *Вона цепер обголела, нічого нема ў ее.* Хачэнь.

ОБГОНІ′ЦЬ *зак.* Абагнаць, акучыць. *Трэ картоплі обгоніць.* М. Малешава.

ОБГОРНУ′ЦЬ *зак.* Абгарнуць, абкруціць. *Обгорнула дзіцятко у шмáцье да несу.* Старажоўцы.

ОБГО′РТВАЦЬ, ОБГО′РТАЦЬ *незак.* Абгортваць, абкручваць. *Обгортваюць соломою колкі. Обгортай пóлогом.* Кароцічы.

ОБГОРЭ′ЦЬ *зак.* Абгарэць. *От обгорэў, шо усе цело поп'ёк. Обгорэў, як вуголіна.* Старажоўцы.

ОБГРЫ′ЗОК *м.* Агрызак. *Занесі обгрызкі гэтые з кіехóў, хай поросята поедзяць.* М. Малешава.

ОБГРЭ′БАЦЬ *незак.* Абкопваць. *От я прызбу обгрэбаю.* М. Малешава.

ОБДЗЕ′РЖАЦЦА *зак.* Стрымацца. *Обдзержалосо, не було дождж́у.* М. Малешава.

ОБДЗЕРНОВА′ЦЬ *зак.* Абкласці дзёрнам. *Да обдзернуе курэня́, шөб це́пло було́.* Цераблічы.

ОБДЗЕ′РЦІ *зак.* Абдзерці. *Трэба обдзерці этые старые обоі да поклеіць новые.* Старажоўцы.

ОБДЗІРА′НЕЦ *м.* Абадранец. *Лóдарышчэ ты, обдзірáнец!* Старажоўцы.

ОБДЗІРА′ЦЬ *незак.* 1. Абдзіраць, здымаць кару. *З вяза обдзіраюць корý і сшываюць лазбень на мед.* Сямігосцічы. *Лускý з рыбы обдзіраюць.* В. Малешава. 2. Часаць. *Обдзіралі лён на грэбень.* Луткі. 3 *перан.* Абіраць, рабаваць. *Я цебе напоіла, а ты шчэ обдзіраеш мене!* Старажоўцы.

ОБДЗІ′РКІ *мн.* Адыходы пры часанні льну. М. Малешава.

ОБДО′ЙМА *ж.* Абхват. *Дубы булі на тры обдоймы, да було́ кóлькі лозы, ве́рбніку!* В. Малешава.

ОБДО′ЙМІШЧЭ *н.* Тое ж. *Во такіе два обдоймішча буў дуб.* Пагост.

ОБДОЎБЦІ′ *зак.* Абдзяўбці. *Обдоўбе мертву дзерэвіну дзяцёл кругом!* Запясочча.

ОБДУРЫ′ЦЬ *зак.* Абдурыць. *Ты ж хочеш ее обдурыць.* Старажоўцы.

ОБДУ′ЦЬ *зак.* Абдзьмуць. *Абі вецёр обдýне, одразу ў сноп в'язалі, а потом у дзеся́ткі* (пра зжатую збажыну). В. Малешава. *Вы́мом з прысу, обдуном да емó.* Бярэжцы.

ОБДЫМА′ЦЬ *незак.* Абдымаць. *На шчэдрэц обдымалі плоты, гадалі — до пáры ці не до пары.* Хачэнь.

*Як по-хорошэму, то обдымае, а не — то боруцца.* Цераблічы.

ОБЕ'Д *м.* Абед. *На обед зварыла квас.* Верасніца. *Баба тры раз носіць обéды родзілцы.* М. Малешава. *Несé рóжэніцэ баба обед, несе вечэру, несе снедáнье.* Старажоўцы.

ОБ'ЕДА'ЛО *н.* Абжора. *Таке об'едало! Сковородý сала з'еў да шчэ у очы погледае.* М. Малешава.

ОБ'ЕДА'ЦЦА *незак.* 1. Аб'ядацца. *Не об'едайса, бо за жывот вóзьме.* 2. Заядацца, уступаць у сварку. *Не об'едайса з людзьмі на селе!* Там жа.

ОБЕ'ДАЦЬ *незак.* Абедаць. *Прóсім обедаць.— Обедайце на здороўе.* Дварэц. *Шоб не обедаў на празнік стóя, ато будзе кóлос порóжні* (павер'е). Луткі. *Обедаў да шоб і хаты не ведаў* (прымаўка пра нежаданага госця). Хачэнь.

ОБЕ'ДЗЕШНІ *прым.* Абедзенны. *Будзеце есці обедзешне молоко?* Луткі. *Обедзешніе картоплі у чыгунчыку у печé.* М. Малешава.

О'Б'ЕДЗІ, О'Б'ЕДЗЫ *мн.* Аб'едкі. *І об'едзі доесць, як голóдна. Сено хорóшэ, то не було об'едзéй у коровы.* Дварэц. *Сено — коню, а об'едзьі остаюцца коровáм.* Аздамічы. *У дзецей нема об'едзей — усе роўные* (прымаўка). Запясочча.

ОБЕ'ДЗІШЧЭ *н.* Памінкі, памінальны абед на другі дзень пасля пахавання нябожчыка. *Шчоб тобе обедзішчэ спрáвілі!* (праклён). Мачуль. *Шоб я на твоём обедзішчы побулá!* (праклён). Старажоўцы.

ОБЕ'ДЗЬВУ, ОБЕ'ДЗВЕ *ліч.* Абедзве. *Тэ сáмэ обедзьву говораць.* Луткі. *Обедзве годзя́шчые на робóту.* Бярэжцы. *Обедзве óкі загнáло, як пчола укусіла. Меншые обедзві замужніе.* Старажоўцы. *Учэпіласа горкая доля обедзьвáма рукáма* (з песні). Сямурадцы. *Обыдзвёх ног не було.* Сямігосцічы.

ОБЕ'ДКІ *мн.* Дзіцячая гульня. *Маці варыць у горшках, а му у чэрэпках варым гразь, ложкі берэм з чэрэту да бы емо — ось і обедкі.* Цераблічы.

ОБ'Е'ЖА *ж.* Аб'ядалы. *Птаство годуеш — это одна об'ежа! Об'едзяць воны менé.* М. Малешава.

ОБЕЗВЕ'ЧЫЦЬ *зак.* Зрабіць вялікую шкоду, пакінуць ні з чым. *Обезвечылі старóго чоловека, улезлі да сало забралі.* Старажоўцы.

ОБЕЛОВА'ЦЬ *зак.* Аблупіць. *Вон жэ лося́ обеловаў і кожа ў воросі.* Луткі.

ОБЕРНУ'ЦЦА *зак.* Абярнуцца, перакуліцца. *Груба ж наша обернýласа от тоей бомбы.* Пагост.

ОБЕРНУ'ЦЬ *зак.* Перакуліць. *Гледзі, шоб корова не обернула воды́ там.* Луткі. *Я ўсе сені обернула, шукала, а вона, та міска, на паліцы лежыць.* Кароцічы.

ОБЕРНЯ'ЦЦА *незак.* Перакульвацца. *Воз оберняецца, поправіць кýльшы трэ́ба.* М. Малешава.

ОБЕ'РУЧ *прысл.* Аберуч. *Я ее оберуч ек два подою!* Луткі.

ОБЕ'РУЧКІ *прысл.* Тое ж. *Вон цап оберучкі за дзерэво!* Цераблічы. *Тут е шо оберучкі ўзяць!* (пра поўную жанчыну). Старажоўцы.

ОБЕРЭ'МОК, БЕРЭ'МОК *м.* Абярэмак. *Як несе вуды, так оберэмок!* Луткі. *Прынесі ў хату оберэмок дроў, трэ будзе ў печэ́ затопіць.* Кароцічы. *Наберу на рýкі берэмок дроў да несу.* В. Малешава. *Я за дзеці, у берэмок да ў лес!* Кароцічы. *Памянш.* о б е р э́ м о ч о к. *Узяў малы оберэмочок под рýку.* Старажоўцы.

ОБЕРЭ'ШЧВАЦЬ *незак.* Аплятаць бяростай. *Бе́рэстом оберэшчвалі варэ́нькі, хорошылі ее.* Кароцічы.

ОБ'Е'СЦІ *зак.* 1. Аб'есці. *Тые жукі рыбу об'едзяць у жаку, одно рэбра!* Мачуль. *А цепе́ра вусень об'е́ў цвет.* Дварэц. 2. Пакінуць без яды. *Об'есці вон нас не об'есць, хватае еды.* Старажоўцы.

ОБ'Е'ХАЦЬ *зак.* Апасці. *Як шмо́ргне об частокол, то уся шэрсць і об'едзе.* Буразі. *Як почула, то усе і об'ехало у мене!* Мачуль.

ОБЕЧА'ЙКА *ж.* Абечак. *Обечайка, обечайка, свішчэ, бы ручайка* (прымаўка). М. Малешава.

ОБЕ'ЧОК *м.* Тое ж. *Обечок обешчаў кіселю горшчэчок* (жарт). Луткі.

ОБЕ'ЧКО *н. метаф.* Той, хто шмат абяцае. *Наш обечко наблеяў бу овечка.* М. Малешава.

ОБЕШЧА'ЦЬ *незак.* Абяцаць. *Обешчаў, да не зробіў.* Аздамічы. *Обешчаў гро́шы, пойду попро́бую, дасць ці не?* Альпень.

ОБ'Ё'МІШЧЭ *н.* Абхват. *Метроў колькі мае дуб ў об'ёмішчы.* Хотамель.

ОБЖО'Г *м.* Нагар. *Упаў обжог з папіросы да загорэлосо сено.* Старажоўцы.

ОБЖО′ГА *ж.* Вельмі гарачая страва, вадкасць. *Еда зыркá — прамо обжога!* Аздамічы.

ОБЖЫДА′ЦЬ *незак.* Чакаць. *Я обжыдаю, шоб воно обхолóдало.* Аздамічы. *Ходзіце обедаць, а то воны нас обжыдаюць.* М. Малешава.

ОБЗАДА′ЧВАЦЬ *незак.* Даваць задатак. М. Малешава.

ОБЗАДА′ЧЫЦЬ *зак.* Даць задатак. *Нашоў хаціну у Озеранах, ужэ і обзадачыў.* М. Малешава.

ОБЗАПАЛА′ЦЬ *зак.* Прапалаць, правеяць у начоўках. *Снопá обмолоціла обзапалала, дай к вечэру хлеба напекла.* Сямігосцічы.

ОБЗАПА′СІЦЦА *зак.* Зрабіць запас. *Обзапасіліса ўсім!* Луткі.

ОБЗАСЕ′ЯЦЬ *зак.* Пазасяваць. *Організоваў колхоз і з гэтымі дзéцьмі поле обзасеяў.* Буразі.

О′БЗЕМЛЮ *прысл.* Вобземлю. *Вон удырыўса обземлю моцно!* Верасніца.

ОБЗО′Л, ОБДЗЁЛ *м.* Няроўны край дошкі з карой. *Як останéцца выемок з корою, то казалі обзол.* Хачэнь. *Обдзёл.* Мачуль.

ОБЗО′ЛІСТЫ *прым.* З абзолам. *Этого дуба не рэжмо на подваліны, вон обзолісты.* М. Малешава.

ОБЗОЛОВА′ТЫ, ОБДЗЁЛОВА′ТЫ *прым.* Абзолісты. *Обдзёловата дóшка.* Мачуль.

ОБЗЫВА′ЦЬ *незак.* Называць. *Чуй но Парá* (Параска), *чым вон цебе обзывае.* Сямігосцічы. *Раз колецца, колюк обзывáють.* Альпень.

ОБІБО′К *м.* Валацуга, гультай. *Туляецца, як екі абібок, нідзе робіць не хочэ.* Запясочча.

ОБІВА′НЬЕ *н.* Абіўка. *Это обіванье оббіць хату.* М. Малешава.

ОБІВА′ЦЬ *незак.* Абабіваць, абцярэбліваць. *Погоні куры, смурод обіваюць.* В. Малешава.

ОБІ′ДА *ж.* Крыўда. *Сором обіду кому зробіць, а это не сором пойці ў новых туфлях.* Луткі.

ОБІ′ДНО *прысл.* Крыўдна. *За непрáўду гэтак обідно станóвіцца.* Азяраны.

ОБІЖА′ЦЦА *незак.* Крыўдаваць. *Обіжаецца вона, як кого попрóсіць, а вон не послухае.* Бярэжцы. *До роботы як хоч, а до еды хоць палкою бі — не буду обіжацца* (прымаўка). Старажоўцы.

ОБІРА′ЛО *н.* Абірала, рабаўнік. *То ж буў не чоловек,*

*а обірало.* Азяраны. *Ото ж обірало! За порося дзерэ по поўсотні!* М. Малешава.

ОБІРА'ЦЦА *незак.* Выстаўляцца. *Вон обіраецца, шчо то я такі вумны!* Луткі.

ОБІРА'ЦЬ *незак.* Абіраць, абрываць. *Обірай ягоды з вéток.* Старажоўцы.

ОБІ'ЦЬ *зак.* Абабіць. *Обіў град цвет на яблонях.* Дварэц.

ОБКВЕ'ЦАЦЬ *зак.* Абквэцаць. *Усёго слезамі обквецала.* Хачэнь.

ОБКЕ'ШКАЦЦА *зак.* Прыдбаць усё патрэбнае, забагацець. *Обкешкаўса Рыгор — зара нóса не достанеш!* М. Малешава.

ОБКІ'ДАЦЦА *зак. перан.* Абставіцца. *Чотыры крэсла узяў, да трохі обкідаўса.* Альшаны.

ОБКІДА'ЦЬ *незак.* 1. Абкідваць ніткай. *Пецельку обкідаём кругом.* Луткі. *Як пошыю плацье, то обкідаю шву.* Верасніца. 2. Абкладаць, акружаць абкладам. *Обкідаемо звера, дзе лежыць.* Мачуль.

ОБКЛАДА'ЦЬ *незак.* 1. Абшываць паскамі (спадніцу, кажух). Цераблічы. 2. Выкладаць. *Озмé пласт сена да обкладае край.* Сямігосцічы.

ОБКЛА'ДКА *ж.* Манжэт або нашыўка пасачкам. Альшаны.

ОБКЛА'СЦІ *зак.* Абкласці. *Загрэблі картоплі да зверху этым гноем обклалі.* Пагост.

ОБКОВЕ'СІЦЦА *зак.* Надзьмуцца злосна. М. Малешава.

ОБКОВЕ'СІЦЬ *зак.* Распусціць (валасы). М. Малешава.

ОБКОЛОЦІ'ЦЬ *зак.* Абтрэсці. *Обколоцілі яблоньку, шо мо дзве яблучкі осталіса.* Старажоўцы.

ОБКО'ШВАЦЬ *незак.* Абкошваць, абходзіць у касьбе. *Я обкошваю своґó чоловека.* М. Малешава.

ОБКРА'ЙВАЦЬ *незак.* Абкройваць, абразаць з бакоў (лыка і інш.). *Роўно обкрайвай дзеґó!* Аздамічы.

ОБКРА'ІЦЬ *зак.* Абкроіць, абрэзаць з бакоў. *Обкраіў бохáнку з бокоў.* М. Малешава.

ОБКРОПІ'ЦЬ *зак.* Папырскаць, абліць распырскваннем. *Мое картоплі трэба обкропіць.* М. Малешава.

ОБКРУЖЭНІ'ЦЬ *зак.* Акружыць. *Обкружэнілі село немцы, мы дрыжымó, колоцімса з дзéцьмі.* М. Малешава.

ОБКРУЖЭНЯ'ЦЬ *незак.* Акружаць. *Обкружэняюць хату.* Хачэнь.

ОБКРУЦІ'ЦЦА *зак.* Абвязацца, абкруціць кругом цела. *Обкруціўса путамі да ходзіць за коньмі.* М. Малешава.

ОБКРУЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Абвязаць, абкруціць. *Обкруці веро́ўкою во́за.* М. Малешава. 2. Абдурыць. *Обкруціць і оком не моргне́!* М. Малешава.

ОБКРЭ'МСАЦЬ *зак.* Абы-як абрэзаць або абсячы. *Обкрэмсалі ду́ба — страшно гледзець!* Альшаны.

ОБЛА'ВА *ж.* Аблава, гурт людзей для аблавы. *Збіраюць облаву на воўкоў.* Мачуль. *Дзецей не найшла б, облаваю не найшла б, коб трэба було.* Запясочча. *Неке дзіця загінуло, то облавою шукалі.* Талмачава.

ОБЛА'ЗІЦЬ 1. *незак.* Злупліваццa само па сабе, ападаць. *Эта кора облазіць.* Луткі. 2 *зак.* Старанна ўсё обысці і выгледзець. *Облазіў усе віркі, да рыбу не прынёс.* М. Малешава.

ОБЛАМА'ЦЦА *зак.* Абламацца. *Ко́лесо можэ обламацца.* М. Малешава.

ОБЛАМА'ЦЬ *зак.* Абламаць. *Дурэнь і м'яло обламае!* М. Малешава.

ОБЛА'МВАЦЬ *незак.* Абломваць. *Не обламвайце, а то вусохне.* М. Малешава.

ОБЛЕГА'ЦЬ *незак.* 1. Абкладаць, зацягваць (пра хмары). *Облегае на дошч.* М. Малешава. 2. Лажыцца надоўга (пра хваробу). *Ты ж не стары шчэ, рано облегаць.* М. Малешава.

ОБЛЕ'ГЦІ *зак.* 1. Злегчы надоўга (пры хваробе). *Ідзі ляж, полежы, а то обля́жэш.* Мачуль. *А шо як ослабну, як облягу, то кому я трэба?* М. Малешава. 2. Абкласці, зацягнуць (пра хмары). *Кругом облегло́, зацегнуло, нідзе сонца не відаць.* Цераблічы.

ОБЛЕ'ГЧЫЦЬ *зак.* Аблегчыць. *Вон хоця облегчыў ее труд.* Дварэц.

ОБЛЕ'ЖАЦЬ *зак.* Улежацца. *Ек лён облежаў, собірають ёго́ і ўяжуць у в'язанке́.* Сямігосцічы.

ОБЛЕ'ЗЛЫ *прым.* Аблезлы. *Облезлы крам купіла.* Сямігосцічы. *Одну корову облезлу воўк з'еў, а друга́ скололаса.* Хачэнь.

ОБЛЕ'ЗЦІ *зак.* Злупіцца або выпасці, страціць колер. *Облезла шэрсць на кожуху да не грэе.* М. Малешава. *Дзеруга облезла от воды.* Там жа.

ОБЛЕ'ПВАЦЬ *незак.* Абмазваць. *Гразёю облепвалі нашу хату, коб не загореласа.* Верасніца.

ОБЛЕПІ'ЦЦА *зак.* Абмазацца. *Свіньяя шукае, дзе облепіцца гразёю.* Мачуль.

ОБЛЕПІ'ЦЬ *зак.* 1. Абляпіць, заляпіць. *Облепі раму на зіму.* М. Малешава. 2. Абняславіць. *Чоловека облепіў да на другі дзень говорыць.* Там жа.

ОБЛЕЙЧА'К *м.* Самаробны вертыкальны адвес у цесляроў. Запясочча.

Гэта дошчачка з пазам. На адным канцы паза мацуецца шнурок з грузілам. Пры вертыкальным становішчы адвеса шнурок трапляе ў паз.

ОБЛЕ'ТАЦЬ *зак.* Аблятаць. *Воны облеталі свет.* Луткі.

ОБЛЁНОК *м.* Уклейка. *Облёнкі з язем б'юцца у одном месці.* Аздамічы.

ОБЛІВА'ЦЦА *незак.* Абліваццa. *У колодзесь насыпаць маку да обліваццa водою, то пойдзе дождж* (павер'е). Хачэнь.

ОБЛІВА'ЦЬ *незак.* Абліваць. *Помуямі облівае свогó свёкра.* М. Малешава. Акружаць (пра ваду). *Ужэ кругом Острова облівае вода.* М. Малешава.

ОБЛІЗНІ'ЦЦА *зак.* Памыліцца. *Это я облізніласа — одна була міса.* Сямурадцы.

О'БЛІЎКА *ж.* Вадкі ўзвар з ільнянога семя, мукі, бульбы, у якім вымочваюць ніткі для кроснаў. *Трэба наварыць обліўкі да обліць кросна.* Старажоўцы.

ОБЛІ'ЦЦА *зак.* Абліцца. *Дзерэво смолою обольецца, абы сéрніка прыткні, то й горыць.* Цераблічы.

ОБЛІ'ЦЬ *зак.* Абліць. *Трэ обліці кросна после основанья.* Луткі. *Облілі керосіною жукоў.* Кароцічы.

ОБЛІ'Ч'Е *н.* Аблічча. *Облiч'е, ек у моей дочкі.* Мачуль. *На обліч'е поглєдзець, то дóбра жонка.* В. Малешава.

ОБЛОВІ'ЦЬ *зак.* Аблавіць, праверыць з рыбалоўнай прыладай пэўную мясціну. *Узелі вóлока да обловілі тую долінку.* Дварэц.

ОБЛО'Г *м.* Дзірван. *Облог неколько годоў, а потóм узоруць і сеюць.* Кароцічы. *Шо там за поле, облог одзін.* М. Малешава. *Облог не вусох, там поўно воды усе лето.* Сямігосцічы.

ОБЛОГОВА'ЦЬ *незак.* Знаходзіцца пад пашаю. *Гэта полосá облогýе.* Аздамічы.

ОБЛОЖНЫ' *прым.* Абложны. *Обложны дошч далёко занімае.* Цераблічы.

ОБЛОЖЫ'ЦЬ *зак.* Абкласці. *Кругом обложыло небо, будзе цэлы дзень іці дождж.* М. Малешава.

ОБЛО'МВАЦЬ *незак.* Абломліваць. *Снег напа́дау на хвоі, обломвае суч'е.* Цераблічы.

О'БЛУБКА *ж.* Абечак. *Облубка така кру́глая у сіта.* Мачуль. *Облубка на рэшэці з дранкі.* М. Малешава.

О'БЛУБОК *м.* Луб з ліпы. *З облубка робіцца лазбень на мед.* Кароцічы.

ОБЛУ'Д *м.* Блуд, распуста. *Ужэ ж такі облуд напаў на дзеўку* (пра незамужнюю дачку, якая радзіла дзіця). М. Малешава.

ОБЛУ'ДА *ж.* Бадзяжнік, валацуга. *Чыя облуда ходзіць, за́да ледзь цегае?* (пра беспрытульнага сабаку). М. Малешава.

ОБЛУ'ДАЦЦА *зак.* Набадзяжыцца, перастаць валачыцца. *У дваццаць восем лет тро́ху облу́даўса!* В. Малешава.

ОБЛУ'ДНЫ *прым.* Някемны, блудлівы. *Іх целя облуднэ не́ке, ідзе, куды хочэ, не гледзіць товару.* М. Малешава.

О'БЛУЖКО *н.* Абечак. *Коб облужко до́брэ знайці, то зробіў бы рэшэто.* Дварэц.

ОБЛУЖЫ'ЦЬ *зак.* Абкарыць. *Облужыў дубец да гадыні ў рот!* Пагост.

ОБЛУ'К *м.* Вонкавы абвод асновы ў самаробнай баране. *Облук у бороне з лозы.* Чэрнічы.

ОБЛУ'КА *ж.* Тое ж. *Облука була кругом бороны з дуба.* Азяраны.

ОБЛУ'ПВАЦЬ *незак.* Аблупліваць. *Гуске́ едзяць, облупваюць і едзяць.* В. Малешаў.

ОБЛУПІ'ЦЬ *зак.* Аблупіць. *Облупіло від от огня.* Сямігосцічы. *Корова не сцелілас, то говорылі, шчо грэх рэзаць і есці: облупілі да ў яму.* Там жа. *Облупі ейцэ да з'еж.* Азяраны.

ОБЛУ'ТАЦЦА *зак.* Заблытацца. *Жук у паву́цье облутаўса.* Запясочча.

ОБЛУ'ШЧЫЦЦА *зак.* Адлушчыцца, адваліцца. *Стала сохнуць, сохнуць, і облушчыласа уся чысто бородаўка.* Цераблічы.

ОБЛЯ'МКА *ж.* Стужка, якая нашыта на край фартуха. *Облямку строяць, коб хоро́шчэй було.* М. Малешава.

ОБЛЯМОЎВАЦЬ *незак.* Нашываць стужкі на край фартуха, сарочкі і інш. *Коліся облямоўвалі сорочкі.* М. Малешава.

О'БМАЛЬ *прысл.* Малавата. *У нас і так кормоў обмаль.* Тураў.

ОБМА'Н *м.* Падман. *Твой обман я ужэ знаю, ты ужэ мене́ не проведзеш!* Старажоўцы.

ОБМА'НВАЦЬ *незак.* Падманваць. М. Малешава.

ОБМАНІ'ЦЬ *зак.* Падмануць. *Обманю колі дзеўку, дам козінэ молоко.* Бярэжцы. *Советуецеса, як вам таку бабу обманіці?* Лýткі. *Да вот і дурачок, а обманіў усіх на свеці.* Сямурадцы.

ОБМА'НКА *ж.* Пустышка. *Обманка обманьвае, дзіця беднэ цягне-цягне ее, аж сківіцы заболяць.* М. Малешава. Падманка. *Кладуць еку обманку на воўкоў, сцегно екое целяч'е.* Старажоўцы.

ОБМА'НЧЫХА *ж.* Падманшчыца. Аздамічы.

ОБМА'НШЧЫЦА *ж.* Тое ж. *Я цебе даўным даўно знаю, шо ты обманшчыца.* Старажоўцы.

ОБМАТЛА'ЦЬ *зак.* Абматляць, абмацаць, узмахваючы рукамі. *Вон рукамі обматлае, дзе лінок лежыць у багне́ дай бере рукамі.* М. Малешава.

О'БМАЦ *прысл.* Вобмацкам. *Обмац подушкі поло́жыце, свет гашу.* Дварэц.

ОБМА'ЦАЦЬ *зак.* Абмацаць. *Обмацай, мо нож на поліцы лежыць.* Старажоўцы.

ОБМА'ЦВАЦЬ *незак.* Абмацваць. *Станеш рукамі обмацваць і одшукаеш.* Запясочча.

О'БМАЦКІ *прысл.* Вобмацкам. *Іду обмацкі, наўгады́.* Аздамічы. *Я не бачу, я обмацкі чышчу рыбу.* Старажоўцы.

ОБМАЦУ'КАЦЬ *зак.* Абмацаць, абшукаць. *Солдаты схопілі его, обмацукалі да і пусцілі.* Пагост.

ОБМЕНЯ'ЦЬ *зак.* Абмяняць. *Обменяў бы́ка на анды́ка* (прымаўка). М. Малешава.

ОБМЕ'РАЦЬ *зак.* Абмераць. *Іва́нковуе соткі обмералі.* М. Малешава.

ОБМЕ'РВАЦЬ *незак.* Абмерваць. *Цёнгле обмерваў дзесятнік.* М. Малешава.

ОБМЕРГОВА'ЦЬ *зак.* Прыкінуць, падумаць. *Обмерґу́ем, у екой хаці будом жыць.* Хачэнь.

ОБМЕ'РЗНУЦЬ *зак.* Абмерзнуць. *Обмерзне сподніца да ду́бом стоіць.* В. Малешава.

ОБМЕСЦІ′ *зак.* Абмесці. *Хай бу хоць снег обмела́.* М. Малешава.

ОБМЕ′ТАЦЬ *незак.* Абмятаць. М. Малешава.

ОБМЕ′ЦІНЫ *мн.* Змеціны. *Обмеціны зме́тае метлою з чола́.* Луткі.

ОБМЕША′ЦЬ *зак.* Абмяшаць. *Трэба обмешаць сечку картошкою.* Запясочча.

О′БМЕШКА *ж.* Вобмешка. Тураў. Мешанка. *Занесі свіньям обмешку.* М. Малешава.

ОБМІНО′ЎВАЦЬ *незак.* Абмінаць. *Старцу сёла обміноўваць не варто* (прымаўка). Цераблічы.

ОБМІНУ′ЦЬ *зак.* Абмінуць. *Трэба обмінуць да далей іці.* Старажоўцы.

ОБМІРА′ЦЬ *незак.* Траціць прытомнасць. *Кірыло, кажуць, обміраў, то скоро прочнуўса.* Кароцічы.

ОБМО′КНУЦЬ *зак.* Змокнуць. *Обмок усёй, ек воўк!* Старажоўцы.

О′БМОРОКА *ж.* Замарачэнне, непрытомнасць. *У мене обморока ў голове.* Старажоўцы. *У мене часто обморока робіцца, здаецца, кружыцца хата.* Запясочча.

ОБМОРО′ЧЫЦЦА *зак.* Замарочыцца, абамлець, страціць прытомнасць. *Я обморочылаcа дай об плот головою.* Бярэжцы. *Ужэ мо годзі ты седзела, обморочылаcа!* Луткі.

ОБМОРО′ЧЫЦЬ *зак.* Замарочыць. *Ты ужэ мене обморочыў, шо я за́ра буду падаць.* Старажоўцы.

ОБМОРОЧЭ′НЬЕ *н.* Замарачэнне, непрытомнасць. *Було усю зіму таке обморочэнье мне.* Бярэжцы.

ОБМОЧЫ′ЦЬ *зак.* Абмачыць. *Старшы брат стараецца обмочыць молодых с клеці. Берэ сту́пу з водой, да як только воны выходзяць, вон бух тоўкачэ́м, так іх і оболье.* Хачэнь.

ОБМУРЖОВА′ЦЬ *зак.* Зрабіць шчыльны заслон. *Колісь партызаны булі у лесі, да поставяць курэ́нь, да землею обмуржу́юць да жывуць.* Луткі.

ОБМУ′ЦЦА *зак.* Абмыцца. *Така гразь, шо не обмуцца.* Луткі. *Эдзік, ідзі обмуйса, а то замурзаны.* Сямігосцічы.

ОБМУ′ЦЬ *зак.* Абмыць. *На дворэ ногі обмуй.* Кароцічы.

ОБМЯ′ЦЬ *зак.* Абмяць. *Ек засеваюць, то бородку эту обомне да сее.* Верасніца.

ОБНІМА'ЦЬ *незак.* Акружаць. *Охотнік кажэ: давай обнімем куст, туды побег войк.* Сямігосцічы.

О'БНОЖ *ж.* Абножка ў пчол. *Пчолы ідуць з обножью.* Аздамічы.

ОБНОЧОВА'ЦЬ *зак.* Застацца на ноч. *Обночовала корова й бору.* Хотамель.

ОБНО'ЧЫ *прысл.* За ноч. *Обночы сходзіў у Туроў.* Аздамічы.

ОБНЯ'ЦЬ *зак.* Акружыць. *Обнялі парцізаны парк.* Дварэц. *Кругом обнімуць куста сеткою* (як ловяць тхароў, норак). Альшаны.

ОБОБРА'ЦЬ *зак.* 1. Абабраць, абарваць. *Яблонь обобралі солодкую.* Чэрнічы. 2. Выбраць. *Прып'яць ідзе скрозь по нізу, самэ нізке место вона обобрала і ідзе.* В. Малешава.

ОБОГНА'ЦЬ *зак.* 1. Абагнаць. *Воны обогналі нас на дорозі.* Бярэжцы. 2. Акучыць. *Обгені, браце, і мое картоплі.* М. Малешава.

О'БОД *м.* Вобад. *То обод, которы насаджваюць на спіцы.* Альпень.

ОБО'ДЗЬЕ *н.* Абады. *З бэрэсту, бало, старые гнуць тые ободзья, шо на кола.* Мачуль. *Парня звалі, дзе ободзье гнулі.* Пагост. *Его бацько гнуў ободзье для колёс.* Верасніца.

ОБО'ДНІК *м.* Колода, вакол якой загінаюць дугі, абады. Хотамель.

ОБОДРА'ЦЬ *зак.* 1. Абадраць, зняць кару, скуру. *В'яза ободраць трэ на лыкі.* Цераблічы. 2. Абдрапаць. *Не займай кота, бо рукі обдзерэ.* Аздамічы.

ОБО'Е' *ліч.* Абодва. *А вон ці вона нічога?—Абое рабое* (прымаўка). Цераблічы. *Обое знալі, дзе золото було закопано.* Сямігосцічы. *Обое йдуць — кум і кума.* Дварэц.

ОБОЙЦІ' *зак.* Абысці. *От Сергей, за сем дзён не обойдзеш! Тые штаны уcréслі ў его.* Лутке.

ОБОЙЦІ'СА *зак.* 1. Заблудзіцца, страціць арыентацыю. *Як обойдзесса, то перебуйса да полежы, то знацімеш, куды іці.* Тураў. *Обойдомса, заходзім два раз у одну хату.* М. Малешава. 2. Задаволіцца тым, што ёсць. *Як е, то розойдзецца, а як нема, то обойдзецца* (прымаўка). В. Малешава.

О'БО'К *прысл.* Збоку. *Обок трошкі ідзіце.* В. Мале-

шава. *Одные одною уліцэю, другіе обок другой ідуць.* Там жа.

ОБОЛО'НА *ж.* Верхні слой драўніны. *Зверху оболона у дзерэві, а у серэдзіне стрыжэнь.* Альшаны. *Хочу оболоны на шанькі насекці.* Лутікі.

ОБОЛО'НІСТЫ *прым.* Са значнай абалонай. *Оболонiстэ дзерэво.* Хотамель. *У хаці под окнамі у мене оболоніста, гніе.* М. Малешава.

ОБОЛО'НКА *ж.* △ У о б о л о́ н к і в о д з і ц ь. Вышываць у косачкі, крыжыкам. *Не ўмее у оболонкі водзіць да гладзью.* Кароцічы.

ОБОЛО'НЬ *ж.* Верхні слой драўніны. Запясочча.

ОБОМЛЕВА'ЦЬ *незак.* Абамляваць, траціць прытомнасць. *Обомлеваю от жары, роблюс нежывою.* Лутікі.

ОБОМЛЕ'ЦЬ *зак.* Самлець, страціць прытомнасць. *Я як убачыла воўка, то обомлела.* Хотамель. *Затоб обомлела от страху.* Старажоўцы.

ОБОПЕ'РЦІСА *зак.* Абаперціся. *Обопрыса добрэ, то і перэкінеш воза.* М. Малешава.

ОБОПНЕ'ЦЬ *зак.* Аслупянець, утрапець. *А вона ужэ обопнела, не знае, дзе і дзецца ужэ.* Лутікі. *Я стала, обопнела і стою, розбіраюса, ці чоловек ці колода.* М. Малешава. *Не страшно мне нічого, так ужэ я обопнела.* Верасніца.

ОБОПНУ'ЦЦА *зак.* Ахінуцца. *Я обопнуласа одеялом.* Верасніца. *Обопніса, бо дошч ідзе.* М. Малешава.

ОБОПНУ'ЦЬ *зак.* Абцягнуць, ахінуць. *Обопнулі квартал лесу, верэўкою с такімі шматкамі.* Аздамічы. *Обопні хусткою плечы.* Хотамель.

ОБОПРА'ЦЬ *зак.* Абмыць. *Надо обопраць чоловека, коб не буў шкоруплы.* М. Малешава. *Вона і дзецей пообпёрае і себе обперэ.* Сямурадцы.

ОБОПРЭ'ЦЬ *зак.* Сапрэць. *Голова обопрэе у шапцы.* Альпень.

ОБО'РА *ж.* 1. Вялікі хлеў. *Колхозные — оборы, а одрына — менша.* Лутікі. *У Рыдчы була обора панська.* Хачэнь. *От доўга хата, як обора!* М. Малешава. 2. Верхні і ніжні шнур у сетцы. *Достае споднюю обору у того окіда, а потом крыла згорнуў і вуцягнуў, а ў кутку рыба остаецца.* Лутікі. *Шо ты подняў обору, хлопчэ, ріба ж з сеткі под ею поўцекае.* Пагост.

ОБОРА'ЦЬ *зак.* Акучыць. *Оборалі вашые картоплі свое?—Не-е!* Тураў.

ОБОРА'ЧВАЦЦА *незак.* Перакульвацца. *І не оборачваецца стог, і сено сохне, як колóк у серэ́дзіне.* Хачэнь.

ОБОРВА'ЦЦА *зак.* 1. Сарвацца. *Гуталка оборваласа на грушы.* Старажоўцы. 2. Абнасіцца. *Оборваліса, обтоптáліса мы у вóйну.* Альпень.

ОБОРВА'ЦЬ *незак.* 1. Паабрываць. *Трэба вусока вельмо лéса, шоб оборваць ту рабіну.* Дварэц. 2. Абсесці нарывамі, болькамі. *Часом оборве на віду́, прышчамі осыпле — то называюць огнік.* Лpuткі.

ОБО'РОК *м.* Кавалак вяроўкі. М. Малешава.

ОБОРОНЕ'ЦЬ *зак.* Ачмурэць. *Така жара, шо не могу ніяк, зарэ оборонею, шо баран.* Луткі. *Оборонела я на том полі у тых картоплях!* Старажоўцы.

ОБОРОЧА'ЦЬ *незак.* Завальваць. *Одзін буў такі здоровы, шо коня оборочаў.* Луткі. *Рэка рэжэ берэг і оборочае ольху ў вóду.* Верасніца.

ОБОРСА'ЦЬ *зак.* Забарсаць. *Оборсай мне, мамо, лапці, пожэну́ коровы́.* Цераблічы.

ОБОЎЯ'ЗВАЦЬ *незак.* Абвязваць. *На шчэдрэ́ц сад обоўязваюць перэ́веслом, шоб не посох* (звычай). Луткі. *Ідуць на могліцы да обоўязваюць хвартушкі на паметнікі.* В. Малешава.

ОБОХМУ'РЫЦЦА *зак.* Спахмурнець. Аздамічы.

О'БОЧ *прысл.* Збоку. *І так обоч ідзе, шоб мы не бачылі.* Луткі. *Усе обоч, обоч, ледво там прывукла.* Верасніца.

ОБПІНА'ЦЦА *зак.* Абкрывацца, ахінацца. *Не дзержы у руках, як цыгáнка, а обпінайса!* Бярэжцы.

ОБПІ'НАНКА *ж.* Тое, чым ахінаюцца (хустка і інш.). *Обпінанку возьмі, мо одзенеш, ек мо дождж будзе.* М. Малешава.

ОБПІНА'ЧКА *ж.* Тое ж. *Купіла собе хустку таку обпіначку.* Старажоўцы.

ОБПІ'НКА *ж.* Тое ж. *Есцека хустка така обпінка.* Старажоўцы. *Обпінка веліка, ее згóрталі ў дзве стáлкі.* Там жа.

ОБПІРА'ЦЦА *незак.* Абапірацца. *Трэба сесці, коб добро було обпірацца, то не будзе спіна болець.* Старажоўцы.

ОБПЛІСКА'ЦЬ *зак.* Абпырскаць. *Так обпліскалі водою, шо мóкры.* Тураў.

ОБРАЗЕ'КА *ж. груб.* Твар. *У ее образека мушчынска.* Луткі.

ОБРАЗЕ′ЧНІК *м.* Палічка для абразоў. Цераблічы.

ОБРОБІ′ЦЬ *зак.* Апрацаваць, абабраць, зняць покрыва. *Шчупака обробілі.* Бярэжцы. *Обробі мне картоплі.* Запясочча.

ОБРОБЛЯ′ЦЬ *незак.* Апрацоўваць, здымаць покрыва. *Стру́гом обробляе клепку.* Цераблічы. *Два дне шулы обробляў.* Сямігосцічы. *Вона оброблѐе картоплі.* Альшаны.

ОБРО′ДЖВАЦЦА *незак.* Раджаць. *Зобірайса, доктор, бо мо ўжэ оброджваецца.* Верасніца.

ОБРОДЗІ′ЦЦА *зак.* Радзіць. *Только обродзіцца і на роботу.* Запясочча. *Чотыры месяцы, як вона обродзіласа.* М. Малешава.

ОБРАЗУМІ′ЦЦА *зак.* Абразуміцца, пачаць паступаць больш абдумана. *Мо вона і образуміцца зарэ?* М. Малешава.

ОБРО′К *м.* Абавязацельства, зарок, ахвяра. *Такі вона оброк на себе клала, бо мерлі дзеці. Кого стрэне, того і берэ за кума.* Хачэнь. *Да далі цмоку да на дзень броку по цэлому чоловеку* (з казкі). Бярэжцы.

ОБРО′СТАНЫ *прым.* Зарослы. *Обростаны такі ходзіць вон.* Запясочча. *Собака навек обростаны.* Старажоўцы.

ОБРО′СТАЦЬ *незак.* Абрастаць. *На дном месці і камень обростае* (прыказка). Цераблічы.

ОБРОСЦІ′ *зак.* Абрасці. *От оброс, як поп!* Старажоўцы.

ОБРО′ЦЬ, О′БРУЦЬ *ж.* Аброць. *Обруці попаляць на ночлезі.* Луткі. *Да ўзяў мого коніка за о́бруць дай поўеў, а я чуць не плачу, так жалко коня.* М. Малешава. *Ужэ п'яты год ёму, і ніхто не може ёго на обро́ць узяць.* Дварэц. *Но бачаць, шо я з о́бруцей, воны мене і пусцілі.* Там жа.

ОБРО′ЧНЫ *прым.* △ О б р о́ ч н ы  с в е т о́ к. Дзень здзяйснення зароку, прынятага ўсёй вёскай. Аздамічы. О б р о́ ч н а  д о ч к а́. Дачка, за жыццё якой заракалася маці. М. Малешава. О б р о́ ч н э  д з і ц я́. Дзіця, за жыццё якога заракаліся бацькі. Хачэнь.

О′БРУБ *м.* 1. Зруб у калодзежы. *Му ек колодзедзь копаём, то нам нада обруб.* В. Малешава. 2. Зямля адной вёскі. *Церэбліцкі обруб шэснаццаць надзелоў буў.* Цераблічы. *Оле́шнэ возеро у нас са́мэ бо́льшое у Мочу́льском обрубі.* Там жа.

О'БРУ'БА *ж.* Зруб у калодзежы. *Обруба дубова.* Кароцічы. *Обрýба.* Альгомель.

ОБРУ'БВАЦЬ *незак.* Рабіць зруб. *Погрэб обрубваюць дубняком.* Дварэц.

ОБРУ'С *м.* Брусок. *Трэ ўзяць обруса менціць кóсу.* В. Малешава. *Хлеб, як обрус!* Мачуль.

ОБРУСО'К *м.* Брусок. *Булі обрускі коло огня, на екіх седзелі.* В. Малешава.

ОБРУ'Ч, БРУЧ *м.* Рэхва ў коле, на шваі, дуга ў жаку, абруч на бочцы. *У жаку п'яць обручóў: мéншы, бóльшы і ешчэ́ большы.* Запясочча. *Бруч у бочцы злез, то от і процéкае.* Пагост. *Памянш.* обру́чык. Запясочча.

ОБРУ'ЧКА, БРУ'ЧКА *ж.* Пярсцёнак без каменя. *Бліскучая обручка.* Лутکі. *Хорóша бручка була, ужэ сцерласа.* Кароцічы. *Обручку мне зробілі ройненьку, з копéёк.* В. Малешава.

ОБРУ'ШЫЦЬ *зак.* Зрушыць, сарваць пастку. *Ідзе войк да ніточку обрушыць, да тые жэлеза раз за хлябы́ того вóйка.* Цераблічы. *Малáя муш не можэ обрушыць, только пац.* Старажоўцы.

ОБРЫ'ДНУЦЬ *зак.* Абрыднуць. *Обрыдне — не хочэцца слухаць про ёго любой.* Дварэц. *Як погана робота, то обрыдне.* Бярэжцы. *Вон мне обрыд, не могу гледзець.* М. Малешава.

ОБРЭЗА'ЦЬ *незак.* Абразаць. *Берэ ножніцы обрэзаць кóсу.* Запясочча. *Обрэ́зай лес на хату.* Кароцічы.

ОБРЭ'ЗВАЦЬ *незак.* Тое ж. *Лезуць, хоць ты косы обрэзвай!* Лутکі.

ОБРЭКА'ЦЦА *незак.* Даваць клятву, зарок і прыносіць пасля спаўнення ахвяру. *Обрэкаюцца як хто-небудзь у сем'е хворы ці горэ екое.* Аздамічы. *Я обрэкаласа, шчо ніколі не пóйду ў недзелю по грыбу.* Бярэжцы.

ОБРЭКЦІ'СА *зак.* Даць клятву, зарок. *Обрэкласа про свое дзіця, ідзе ў цэркоў і моліцца.* Старажоўцы.

ОБРЭТОВА'ЦЬ *зак.* Адратаваць. *Коб не обрэтовалі тую бабу, то ўмéрла б.* Хачэнь.

ОБСАДЗІ'ЦЬ *зак.* Прымусіць асесці, аблегчы, зменшыцца. *Прышла пошэптала, то троху абсадзіла ей опухоль.* Лутکі.

ОБСЕ'ВОК *м.* Агрэх пры сеянні. *Не гож ёгó досéяць, обсéвок, нéхто умрэ́ у нас.* Аздамічы.

ОБСЕКА'ЦЬ *незак.* Рэзка перарываць, пярэчыць. *Не*

*давай брэхуну́ волі, ёго на ко́жном слові обсека́й.* М. Малешава.

ОБСЕ′КЦІ *зак.* 1. Абсячы пугаю, дубцом, насцябаць. *Это ж так худо́біну обсек, шо колоціцца.* М. Малешава. 2. Абсячы галіны. М. Малешава.

ОБСЕ′КЦІСА *зак.* 1. Балюча адчуць, спыніцца. *Не хваліса, пожывеш з ім, то обсечэ́сса.* М. Малешава. *Обсекса на одной, то на другіх не погля́дае!* Там жа. 2. Засячыся (пра каня). *Конь обсечэ́цца, то кульгае.*

ОБСЕ′СЦІ *зак.* Акружыць. *Обселі ёго дзеці.* Аздамічы. *Воны его обсядуць кружка́ і прадуць.* Старажоўцы.

ОБСЕ′СЦІСА *зак.* Акружыцца, абзавесціся. *Дзе́цьмі опселаса і не поехала вучыцца.* Лутткі.

ОБСЕ′Ў *м.* Агрэх пры сяўбе. *І цепер опсе́ў е, а ніхто с того не ўмер, а колісь говорылі, шо умрэш.* Цераблічы.

ОБСІ′ЛОВАЦЬ *зак.* Перамагчы. *Обсіловаў вон ее, тую Чуга́йку* (легендарная істота). В. Малешава. *Не дасць рады, не обсілуе.* Сямігосцічы.

ОБСО′ХНУЦЬ *зак.* 1. Падсохнуць. *Обсохло сено, було мокрэ, а зараз обсохло.* Старажоўцы. *Поскіда́й усе да обсохнеш трохі.* Там жа. 2 *перан.* Пакрыцца сухой зямлёй. *Опсохла землею і не можно обцерэ́біць.* Пагост.

ОБСО′ЧВАЦЬ *незак.* Асочваць, устанаўліваць патаемнае месцазнаходжанне або патаемнага наведвальніка. *Обсочваць звера.* Аздамічы.

ОБСОЧЫ′ЦЬ *зак.* Асачыць, устанавіць патаемнае месцазнаходжанне або патаемнага наведвальніка. *Воны обсочылі свіньню, шчо ў дры́ну ходзіць.* Кароцічы.

ОБСУ′НУЦЦА *зак.* Ссунуцца, ссыпацца. *Обсунуласа чашка на клубку.* Альпень. *Уся шкура з ногі обсу́нуласа.* В. Малешава. *А хвоста́, знаеце, половіну ободрало ёму, эта шкурка ўся і обсунуласа.* Пагост.

ОБСУ′ШВАЦЦА *незак.* 1. Абсушвацца. *Мокры усей, але нема колі обсу́шваца.* М. Малешава. 2. Рабіць аблёт пасля зімы. *Пчолы обсушваюцца з зіму́.* Луткі.

ОБСУ′ШКА *ж.* Асушэнне. *Обсушку зробілі, то блізко стало до Семігосціч.* Цераблічы. *До обсушкі було таке болото, шо летом не пройці аніяк.* В. Малешава.

ОБСУШЫ′ЦЦА *зак.* Абсушыцца. *У тых курэня́х не було дзе і обсушыцца.* Запясочча.

ОБСУШЫ′ЦЬ *зак.* Асушыць, пасушыць. *Обсушылі боло́та.* Запясочча. *Поскіда́й этэ ўсе да я обсушу.* Старажоўцы.

ОБСЦІЛА'ЦЬ *незак.* Засцілаць кругом. *Этымі снопамі обсцілае картоплі, коб не померзлі.* Сямігосцічы.

ОБСЫ'ПАЦЦА *зак.* Абсыпацца. *Обсыпалосо ўсе ліцо, мо некі лішай у цебе.* Старажоўцы.

ОБСЫ'ПАЦЬ *зак.* Абсыпаць. *Обсып молодых жытом, коб жылі ў хаці крыпой.* М. Малешава.

ОБСЫПА'ЦЬ *незак.* Абсыпаць. *Вошы е на целятах, то дустом обсыпалі.* Запясочча. *Обсыпае молодая усіх дзевочо́к жытом.* Старажоўцы.

ОБТА'ЦЬ *зак.* Падтаць, асесці. *Як снег обтаў, дак вон наверсі.* Мачуль.

ОБТОПТА'ЦЦА *зак.* Адтаптацца. *Обтопталіса вушы ў лапцях, ужэ роскіда́юцца лапці.* Старажоўцы.

ОБТО'ЎКАНЫ *прым.* Абтоўчаны. *Обто́ўкана пшэніца.* М. Малешава.

ОБТО'ЎКАЦЬ *незак.* Абтаўкаць. *Жолу́д коліся збіралі ды обтоўкалі.* Старажоўцы.

ОБТОЎКЦІ' *зак.* Абтаўчы. *У ступі просо обтоўклі.* Луткі.

ОБТРУСІ'ЦЦА *зак.* Абтрэсціся. *Покаліла плацье, обтрусіса ў се́нцах.* Кароцічы.

ОБТРУСІ'ЦЬ *зак.* Абтрэсці. *Обтрусі грушу, да посушым.* М. Малешава.

ОБТЫ'КАЦЬ *зак.* Абторкаць. *Постаўлю кошыцу да оптычу ее.* Луткі.

ОБУВА'НЕЦ *м.* Падманшчык, штукар. М. Малешава.

ОБУВА'ЦЦА *незак.* Абувацца. *Я ўжэ не ўмею обувацца у лапці.* М. Малешава.

ОБУВА'ЦЬ *незак.* Абуваць. *Лапці добрэ на болото обуваць.* Старажоўцы.

ОБУ'ДВА *ліч.* Абодва. *Обудва пошлі.* Хачэнь. *Воны одного году обыдва.* Мачуль. *Обыдвам плоцяць за поцерэба.* Сямігосцічы.

ОБУДЗІ'ЦЦА *зак.* Прабудзіцца, аджыць. *Посадзі под куру, то ейцэ обу́дзіцца.* Старажоўцы.

О'БУЙ *м.* і *ж.* Абутак. *Було богато гэтое обуі.* Кароцічы. *Колісьня обуй — лапці.* Бярэжцы. *Обуй — екі хочэш: чоботы, чэрэвікі.* Луткі.

ОБУЙЦІ'СА *зак.* 1. Закруціцца, заблытацца, заблудзіцца. *Як обыйдзесса, то места того не найдзеш.* Аздамічы. *Обыйшласа і не понялá, дзе я перэшла канаўку.* Луткі. 2. Аказацца. *Нейкімі бы светымі обышліса тые.*

Дварэц. 3. Прыйсціся. *Ей дáрма обышлоса.* Дварэц. 4. Задаволіцца тым, што ёсць. *Обойдуса бєз цебе.* Верасніца.

ОБУКНОВЕ′ННЫ *прым.* Звычайны. *Обукновеннэ м'ясо і ўсе, тэ конске.* Старажоўцы.

ОБУ′РКАЦЬ *зак.* Задурманіць, абдурыць. *Обуркалі його зоўсім.* Люткі. *Буў у кумпаніі поскуднэй да обыркалі карман* (тут — адурманілі і прапілі яго грошы). Аздамічы.

ОБУРКОВА′ЦЬ *зак.* Падрэзаць крылы. *Обурковала гусі, коб нє полєцелі воны.* М. Малешава.

ОБУ′РОК *м.* Нізінка сярод раллі. *На том обурку нічого не вуросло.* Люткі. Астравок у полі, дзе растуць дрэвы, кусты. Бярэжцы.

ОБУ′РЫЦЦА *зак.* 1. Забурыцца. *Ці ж не бачыш, босячышчэ, шо скоро печ обурыцца!* 2. Прыстаць, навяліцца. *Такі небур узяў, як обурыцца, то не отчэпісса.* М. Малешава.

ОБУРЭМЕНІ′ЦЦА *зак.* Пачакаць. *Обурэменіса ты, не спешы ехаць.* Тураў.

ОБУРЭМЕНІ′ЦЬ *зак.* Тое ж. *Надо обурэменіць, а потóм сеяць.* Старажоўцы.

ОБУ′ТРЫЦА *ж.* Досвітак. *За обутрыцу поймалі рыбу, а за ноч нічого.* В. Малешава.

ОБУ′Х *м.* Абух. *Шчэ целя у жывоце, а ўжэ із обýхом стояць* (прымаўка). Люткі. △ П о о б у́ х. Дорага. *Заплаціў по обух за етэ порося.* Запясочча.

ОБУХО′ДЗІЦЬ *незак.* Адносіцца абыходліва. *Нерóдного бацька обуходзіць трэ.* Дварэц.

ОБУХО′ДКА, ОБХО′ДКА *ж.* Абыход, дробныя расходы. *На обыходку хватае грошэй.* Люткі. *До сотні дзержы дзенег на обіходку.* В. Малешава. *Тэ ж на обходку пошло б сено.* М. Малешава.

ОБУ′ЦЦА *зак.* 1. Абуцца. *Трэ обуцца, а нема вó шчо.* Кароцічы. 2. Прыжыцца, асвойтацца. *Доўго не обулíса там, прышлі скоро.* Мачуль. *Обуўса у чужых, понаравілосо.* Пагост.

ОБУ′ЦЬ *зак.* Абуць. *Маці шкодуе да сонного обуе* (прыказка). Цераблічы. △ О б у́ ц ь у л á п ц і. Ашукаць, падмануць. *Ужэ зарэ іх обуе ў лапці с той куплею і волокамі подв'яжэ.* Сямігосцічы.— *Старшына, Вас у лапці обуюць,— я ему казала дайно.* Хачэнь. *Гулі не гулі, да ў лапці обулі* (прымаўка). Сямігосцічы.

ОБУЯ'ЧЫЦЦА *зак.* Адурманіцца ад дурніц. *Буяхбў як наесіса, то обуячысса.* Сямігосцічы.

ОБХО'Д *м.* Праход. *Обход кругом печы от сцены зроблены, да дух ідзе.* Дварэц.

ОБХО'ДЗІЦЦА *незак.* Абыходзіцца. *Такі верціхвост, як ему ўсе обходзіцца!* М. Малешава.

ОБХО'ДЗІЦЬ *незак.* Клапаціць, турбаваць. *Нам тэ можэ тожэ обходзіць.* Аздамічы. *Ты думаеш, мне не обходзіць? Але моўчу, хоць под серцэм смокчэ.* М. Малешава.

ОБХОДЗІ'ЦЬ *зак.* Абысці. *Багато довелосо нам обходзіць. От чому ногі ламіць.* М. Малешава.

ОБЦВІСЦІ' *зак.* Адцвісці. *Ужэ і гэтые картоплі обцвілі ўсе, а там ранейшые.* Кароцічы.

ОБЦЕКЦІ' *зак.* Абцячы. *Помула, хай обчэчэ голова.* Луткі.

ОБЦЕ'ПАЦЦА *зак.* Абтрапацца. *Обцепаласа сподніца.* М. Малешава.

ОБЦЕПЦІ' *зак.* Абабіць, абтрэсці. *Муку обцепла з одзенья.* Сямігосцічы.

ОБЦЕПЦІ'СА *зак.* Абабіцца, абтрэсціся. *Опцепіса троха — пул.* Сямігосцічы.

ОБЦЕ'РЦІ *зак.* Абцерці. *Салом обліла ручку, обцеры!* М. Малешава.

ОБЦЕ'РЦІСА *зак.* Абцерціся. *Вон вуп'е да опцерэцца, да і не відно.* М. Малешава.

ОБЦЕРЭБІ'ЦЦА *зак.* Абсячыся, абарвацца. *Вушы опцерэбяцца ў лапцях.* Луткі.

ОБЦЕРЭБІ'ЦЬ *зак.* Абарваць, абскубці, абсячы. *Обцерэбі мак, Мане!* Старажоўцы. *Ужэ у нас як ото дождэы, так поверце, шо рук не опцерэбіш* (тут — пра бяздзейнасць). Пагост.

ОБЦІРА'ЦЦА *незак.* Сцірацца. *Вон, той камень у жорнах, не обціраецца.* Пагост.

ОБЦУГІ' *мн.* Абцугі. *Обцугі е, шо гвозды вуймаюць, сапожніцкіе і ўсякіе.* В. Малешава.

ОБЧА'ХНУЦЬ *зак.* Абсохнуць зверху. *Хай трохі обчахне роса, то пойдзем.* Пагост. *Колос ужэ обчах.* Мачуль. *Гэта гразь обчахне, да сухо будзе.* Хачэнь.

ОБЧЭ'САЦЬ *незак.* Абчэсваць. *Обчэсаём серэдзіну дуба, ек робілі чоўна.* Чэрнічы.

ОБЧЭСА'ЦЬ *зак.* Абчасаць. *Шэсць цалей трэ обчэ-*

*сäць*. Хотамель. *Обробіць сокерою, обчэшэ тэ дзерэво*. Запясочча.

ОБША'РПАНЫ *дзеепрым*. Абшарпаны. *Дзе вон жыве, шо такі обшарпаны?* Старажоўцы.

ОБША'РПАЦЬ *зак*. Абшарпаць. *Дзе вон буў, шо так адзенье обшарпаў?* Старажоўцы.

ОБШМО'РГАЦЬ *зак*. Абшморгаць. *Обшморгай ліcткі с прўтья лозового*. Запясочча.

ОБШЧЫКНУ'ЦЬ *зак*. Шчыльна облегчы. *Нóгу так обшчыкне той цесны чóбот, шо не можно ходзіць*. Мачуль.

О'БШЧЭСКІ *прым*. Агульны, грамадскі. *Обшчэскі попас*. Кароцічы.

О'БШЧЭСТВО *н*. Грамада. *Обшчэством о эту уліцу вугацілі*. Чэрнічы.

ОБШЫВА'НКА *ж*. 1. Човен, абабіты чым-небудзь. М. Малешава. 2. Пацягнуты кажух. М. Малешава.

ОБШЫВЕ'НЬ *м*. Кош з ліпавай кары на возе. Пагост.

ОБШЫ'ЦЬ *зак*. Абшыць, абкласці, пацягнуць паверх. *Да обшые оброць тымі балáкуркамі, да шамцяць воны! Обшыла кожухá, люботá, ек нову!* М. Малешава.

ОБШЭ'РХНУЦЬ *зак*. Абсохнуць. *Обшэрхло сено*. Хотамель.

ОВА'Д *м*. Авадзень. *Овадóў богато ў лесі, то боўтунóм мазалі коня*. Хотамель. *З вецёл падае пена, то оводы́ заводзяцца*. Запясочча.

ОВАДНЯ'К *м*. Авады. Запясочча.

ОВЕ'ЧКА *ж*. 1. Авечка. *Корова без рогóў ні овечка, ні коза*. Запясочча. *Воўкі ры́жые овечкі, а сівýе — коні рэзалі*. Луткі. *От обстрыглі, як овечку!* Старажоўцы. *Седжу на слоні на краéчку, перэпіваю вам, дзеці, овечку* (з вясельных пажаданняў). В. Малешава. 2. Катах на галінках дрэў (вярбы, ветлы і інш.). Запясочча. 3 *перан*. Дурніца. *Ох, моя ж ты овéчко!* (да малой дачкі). Мачуль. 4 о в é ч к і *мн*. Раллявая канюшына. *Шоб гуркоў було сілно, то ў гурочнік клалі тые овечкі*. Хачэнь. *Памянш*. о в é ч е ч к а. *Несуць дубчэка, а на ём овечэчкі беленькіе-беленькіе!* Верасніца. *Дóмно, гэтые овечэчкі от чого, шо ў пожні ростуць? Бувало, бáбы як ідуць, рвалі ёго да ў гурочнік клалі, шчоб гуркоў було сілно. Оно по парóх росце. Оно і пáхне гурочніком*. Ха-

чэнь. *На олешніку е чорненькіе, то тожэ вечэчкамі здвуць, от поносу худобіне даюць.* Там жа.

ОВЕ'ЧЫ *прым.* Авечы. *Овечэ молоко от хворобы п'юць.* Сямігосцічы. *Робіў і вечым і конскім пастухом.* М. Малешава. △ О в е́ ч а г о л о в а́. Дурніца. Луткі. О в е ч а с м е р ц ь. Воўк. *Не ідзіце туды! Ве́ча смерць там!* М. Малешава.

ОВЕЧЭНЯ' *н.* Ягня. *Воны чорные, як овечэня.* М. Малешава.

ОГА'ЗНУЦЬ *зак.* Страціць голас, ахрыпнуць. *Спевала так, шчо зусім огазла.* Аздамічы. *Простудзіўса да огаз, говорыць не можно.* Буразі.

О'ГЕР, ЁГЕР *м.* Жарабец. *Огер — той конь у нас, шчо не ле́хчаны.* Сямігосцічы. *У нашум колгасі тры ёгірэ́, бо калгас наш племенны по ко́нях.* Тураў.

ОГІ'ДНУЦЬ *зак.* Апрацівець. *Мне ў хаці огідло буць.* Запясочча.

ОГЛЕДА'ЦЦА *незак.* Аглядацца. *Вечором, як сонцэ заходзіць, ясно зробіцца так і дождж ык ідзе, кажуць, сонцэ огледаецца, будзе негода.* Луткі.

ОГЛЕДЗЕ'ЦЦА *зак.* Агледзецца, азірнуцца. *Нема колі огледзецца.* Дварэц. *Огледзеласа сучка сёмого дня, шо хвоста нема* (прымаўка). Хачэнь.

ОГЛЕ'ДЗЕЦЬ *зак.* Заўважыць, прыкмеціць. *Тые годы далеко оглёджу чоловека, то я его опрэдзелю.* Мачуль. *Сорока шуляка як огледзіць, то чача́хкае.* Там жа. *Коб маці огляяла, то попало б.* Альшаны. *Ніколі не дасць забіць, як огледзіць.* Луткі. *Як ехаў, так думаў біць, як огледзеў — шкода.* Кароцічы.

ОГЛЕ'НІК *м.* Ялец. Запясочча.

ОГЛЕНУ'ЦЦА *зак.* Аглянуцца. *Так заўёўса за роботою, шо нема ко́лі огленуцца.* Старажоўцы.

ОГЛОБЕ'ЛЬНЫ *прым.* Запрэжаны ў аглоблі (пра каня ў парцы). *На орчыку под рукою ходзіць, той орчыкову конь, а гэты — оглобельны.* В. Малешава.

ОГЛОБІ'НА *ж.* Жэрдка ў возе (у раме). *Можно дошку положыць з оглобіны на глобіну.* В. Малешава.

ОГЛО'БЛЯ *ж.* Аглобля. *Ніяк у тые оглоблі не заведзеш вола, шоб боўкуна́ наложыць.* Луткі. *Мо, думаеш, прыедзе зо днэю огло́блею по цебе?* (г. зн. багаты пасватае, што мае воз з дышлем). Аздамічы. *Одзін у оглоблі запрэжаны, а двое на подгерцах.* Верасніца.

ОГЛУ'ХНУЦЬ *зак.* Аглохнуць. *Нешто оглухла, да не чую.* Дварэц. *Ба́цько да́жэ шчэ не оглу́х.* Альшаны.

ОГЛУШЫ'ЦЬ *зак.* Аглушыць. *От грому оглушыло его.* Старажоўцы.

ОГЛЯ'ДЗІНЫ *мн.* Агледзіны. *Пошла маці з госцінцэм огледаць молоду — это оглядзіны.* Старажоўцы.

ОГЛЯДНО'Е *прым.* (субст.). Плата за знаёмства з нявесткай. *Трэба оглядно́го п'яць рубле́й зо́лота.* В. Малешава.

ОГНЕ'М *прысл.* Падобна да агню, хутка. *Мороз печэ огнем, шчо не можно ву́трываць.* Хачэнь. *Огнем горыць нога, так пече.* Пагост. *Гэта мала́я усяку роботу огнем!* М. Малешава.

ОГНЁВУ, ОГНЯ'ВУ *прым.* Пракляты, паганы. *От шапка огнёва, не лезе на голову.* Кароцічы. *Огнёвэ болото, таке поганэ.* Бярэжцы. *Така огнява ее жытка.* Луткі. *Огнёвэ шча́сце.* М. Малешава.

ОГНЁННЫ *прым.* Тое ж. *От жа́ба гнённа!* М. Малешава.

О'ГНІВО *н.* Крэсіва. *Огніво большэ за крэсіво, острэ, ножа можно менціць і лапці плесці́.* Аздамічы.

О'ГНІК *м.* 1. Вогнік (хвароба). *Огнік як кого осыпле, то кра́менем сечы да осыпа́й губы* (іскрамі ад крэменя), *то казалі, шчо про́йдзе.* Сямігосцічы. *Огнік прыcека́лі краменем і шэпталі.* М. Малешава.

Вогнік «адкідалі» таксама наступным чынам. Бралі 9 палачак, кожнай абво́дзілі месца з болькамі, а потым усе разам кідалі ў печ.

О'ГНІШЧЭ *н.* Вогнішча. *Веліке огнішчэ, ці не арцельные рыбакі тут клалі огонь, полежвалі?* Тураў. *Нейке огнішчэ, нехто тут огонь клаў.* М. Малешава. Месца, дзе раскладаюць агонь у курэні, на плыце, ачаг, горан у кузні. Запясочча.

О'ГОЛОЎ *м.* Канец загона, дзе заварочваюцца з плугам. Аздамічы.

ОГО'НЬ *м.* 1. Агонь. *Не мо́жно даваць огню з хаты, жа́ру.* Луткі. *Крэ́шэ огонь да заку́рвае.* Крэмна. *Огонь не свой брат* (прымаўка). 2. Касцёр. *А она под тым дубом наклала огню.* В. Малешава. △ Д о о г н я́. Вельмі многа. *Шчэ до огня тые пражы у мене е.* Запясочча. Н а о г н я́. Для якой мэты. *На огня вонэ, етэ поскудство!* Там жа. У о г н я́. Ніяк. *Дзе ў огня ехаць рэкою, кручкі такіе, по восем кіломе́троў!* Цераблічы. О г о́ н ь

его́ ве́дае. Пра немагчымасць пэўна ведаць. Хільчыцы. *Памянш.* огонёк. *Ідзі под гэ́той дуб, там будзеш бачыць сіні огонёк* (з казкі). Верасніца.

ОГО′РАЦЬ *зак.* Агараць. *Ого́рай не́ку ку́чку.* Верасніца. *Проговоры́лі, шо там продае́цца корова, то му ее ого́ралі.* М. Малешава.

ОГОРНУ′ЦЬ *зак.* Ахапіць, акружыць, абступіць. *Шчасце ёго́ огорну́ло.* Запясочча. *Я пры́горшчы надзе́лаю того́ табаку́, то мушчы́ны мене́ ого́рнуць і про́сяць.* Дварэц.

ОГОРО′Д *м.* Агарод. *Здрасова́лі ўсёго огорода собакі.* Тураў. Агароджаны ўчастак пашы. *Коровы́ ходзяць у огородах: дзве по́лі загородзілі і пасуць коровы́.* Дварэц.

ОГОРО′ДЖА *м.* Загарода. *Плот — хоро́ша огороджа, новая.* В. Малешава.

ОГОРО′ДЖВАЦЬ, ОГОРО′ЖВАЦЬ *незак.* Абгароджваць. *Тоды обгороджвалі дубцамі тые поды́.* Кароцічы. *Огорожвалі поле, шоб худоба не йшла.* Старажоўцы.

ОГОРОДЗІ′ЦЬ *зак.* Абгарадзіць. *Огородзіць трэ ту копу і хай стоіць.* В. Малешава.

ОГОРО′ЖАНЫ *дзеепрым.* Абгароджаны. *Кошара жэрдкамі огорожана.* Дварэц.

ОГО′ЎТАЦЦА *зак.* Супакоіцца ад хвалявання, суняцца. *Як ого́ўталаса, то дава́й гука́ць.* Аздамічы. *Хай тро́хі товар ого́ўтаецца, а я свою́ коро́ву пото́м пошлю́* (пра першы выган скаціны на пашу). Хачэнь.

ОГРЫ′ЗОК *м.* Агрызак. *А куды́ ты этых огры́зкоў накідала?* Старажоўцы.

ОГРЭ′БАЦЬ *незак.* Абкопваць. *Картоплі огрэ́баюць маты́кою.* Старажоўцы.

ОГРЭБЦІ′ *зак.* Абкапаць. *Ідзі огрэбі цыбулю.* Старажоўцы.

ОГУ′Л *м.* △ У огу́л. Супольна (пра касьбу, праполку і інш.). *Моя маці ешчэ як сено робілі ў огул, то возьме хлопца да пошла.* Хачэнь.

ОГУ′ЛОМ *прысл.* Супольна, разам. *На работу луччэй огулом — і поседзіш і оддышэш.* Старажоўцы.

ОГУ′ЛЬНО *прысл.* Тое ж. *Огу́льно усе косілі, колхозом.* Мачуль. *Быцкі, коровы́, волы огульно звалі худо́ба.* Там жа.

ОДЗЕВА′ЦЦА *незак.* Накрывацца ў пасцелі. *Одзе-*

*вайся, бо холодно спаць.* Луткі. *Спіць у куртцы і ешчэ одзеялом ватным одзеваецца.* Луткі. *У клеці спалі і одзеваліса посцелью.* Хотамель. *Перыною одзеваліса, а рогожу посцілалі.* Сямігосцічы.

ОДЗЕВА'ЦЬ *незак.* Накрываць у пасцелі. *Одзевае дзеружкой зверху дзіця.* Запясочча.

ОДЗЕ'ЖА *ж.* Адзенне. М. Малешава.

ОДЗЕ'ЖЫНА *ж.* Асобная рэч з адзення. *Вубрала одзежыну на смех людзя́м.* М. Малешава.

ОДЗЕНУ'ЦЦА, ОДЗЕГНУ'ЦЦА *зак.* Накрыцца ў пасцелі. *Одзеялом ватным одзенуласа.* Дварэц. *Вельмі добрэ про́сцілкою одзенуцца, вона прохладненька.* В. Малешава.

ОДЗЕНУ'ЦЬ *зак.* 1. Накрыць. *Одзені дзіця одзеялом, бо змерзне за ноч.* 2. Апрануць. *Я одзенула кохту.* Дварэц. *Цебе так культурно одзенуў.* В. Малешава. *Трэ і дзеці одзенуць.* Луткі.

ОДЗЕ'НЬЕ *н.* Адзенне. *Возьмі мое одзенье, а я пойду берегом.* Кароцічы.

ОДЗЕРЖА'ЦЦА *зак.* Утрымацца. *Я здоровейшы буў, так одзержаўса на ногах.* Сямігосцічы. *Ему не место тутэка, вон не одзержыцца.* Хачэнь. *Дзе тута воўк одзержыцца, ек лозы нема!* М. Малешава.

ОДЗЕ'РЖАЦЬ *зак.* Утрымаць, захаваць. *Тута не одзержыш лавочку: поломяць дзеці.* М. Малешава. *Ек вы мене не ожэ́ніце, то вы мене не одзержыце* (з песні). Сямурадцы.

ОДЗЕ'РЖОВАЦЦА *незак.* Трымацца. *Кура там не одзержуваецца, а ідзе сюда есці.* М. Малешава. *Одзе́ржоваліса нашы ў болота́х* (пра партызан). В. Малешава.

О'ДЗЕЎ *м.* Адзенне. *Цепер знай, на одзеў, на обуй робі!* Верасніца.

ОДЗЕ'ЎКА *ж.* Накрыўка, коўдра. *Прохоло́дай! Мо шукай одзеўкі?* В. Малешава.

ОДЗЕ'ЦЦА *зак.* Накрыцца. *У которого була дзеружка, то вон лёг і одзеўса.* В. Малешава.

ОДЗЕ'ЦЬ *зак.* Накрыць. *Я прышла к ей, а коты лежаць на кроваці і вона одзела одзеяло на іх.* М. Малешава.

ОДЗЁНОК *м.* Стажар'е. *У нас под стога одзёнок робяць з голья.* Луткі. *Усёго грудка захолосто́пілі одзёнкамі і не прыбралі.* М. Малешава.

ОДЗЁР *м.* Ахоўны памост на дрэве, на якім стаялі вуллі. *Одры́ робілі от медзве́дзя.* Запясочча. *Колісь одры робілі, на хвоі так зробяць, бы мост.* Лутківі.

*Одзёр* меў выгляд памоста вакол ствала дрэва. Пад ім убівалі ў ствол дрэва вострыя спіцы, якія тырчалі ў розныя бакі і не давалі магчымасці падлезці да вулляў (у прыватнасці, мядзведзю).

ОДЗІ'Н, ОДНЫ'Й *ліч.* Адзін. *Вон у іх одзін одным.* Луткі. *Тамэка однэ за однэ.* Луткі. *Поводы обрэзаюць у гарбу́зах. Трэ, коб одзін буў поводзе́ц.* М. Малешава. *От з Марліна́ у нас одзін е, ото хата.* Старажоўцы. *Одный год жалі на Петра.* Запясочча. *А я знаю одный год, то у эту по́ру чэрніц ужэ не було.* Старажоўцы. *Одные кажуць подорожнік, а другіе іначэй.* М. Малешава. *Толькі одна цэгла да одзін попел остаўса от хаты.* В. Малешава. *У болоці одны чэрці водзяцца́* (прымаўка). М. Малешава. △ Одзі́н одны́м. Зусім адзін. *Вон у іх одзін одным.* Луткі. Не знаць одзін і два. Не умець лічыць. Рубель.

ОДЗІНА'КОВО *прысл.* Аднолькава. *Одзінаково — як у нас, так і ў іх.* М. Малешава.

ОДЗІНА'КОВУ *прым.* Аднолькавы. *Гэтых песе́нь богато одзінаковух.* В. Малешава.

ОДЗІНА'НЦАТКА *ж.* 1. Бёрда на 11 пасмаў. *У одзінанцатку чотыры губі тка́ла рушнікоў.* Аздамічы. 2. Тонкае палатно ў 11 пасмаў. *З одзіна́нцаткі шылі соро́чкі.* М. Малешава.

ОДЗІНА'НЦАЦЕРО *ліч. зб.* Адзінаццаць. *Шчэ як двое-трое прыведзе, а то одзінанццацеро!* (пра мыш). М. Малешава.

ОДЗІНА'НЦАЦЬ *ліч.* Адзінаццаць. *Одзінанцаць шанек набрала грыбоў! Луткі. Поехаў позно, часоў у одзінанцаць.* Кароцічы. *Оддаў одзінанцаць рублей.* В. Малешава.

ОДЗІНЕ'Ц *м.* Адзіны сын у сям'і. *У одзінца́ не п'юць вінца, а колі п'юць, то не дзякуючы йдуць* (прымаўка, *одзінец* жыве адзінай гаспадаркай з бацькамі, ён сам — не гаспадар). Чэрнічы. *Одзінец одно плейку есць.* В. Малешава.

ОДЗІНІ'ЦА *ж.* Адзіная дачка ў сям'і. *Хлопец — одзінец, а дзеўка — одзініца. З ей важко говорыць, вона вусоко несе себе.* Старажоўцы.

ОДЗІНО'КІ *прым.* Адзінокі. *Одзінокі хлопец ілі дзеўка, як нема пары і не будзе.* Старажоўцы.

ОДЗІ'НСТВЕННЫ *прым.* Адзіны. *У ёго е одзінственны брат.*

ОДЗІЧА'ЦЬ *зак.* Адзічаць. *Гусь одзічала, ужо ў одрыну не ідзе.* Бярэжцы.

ОДЗОЛІ'ЦЦА *зак.* Выварыцца ў лузе. *Ужэ ж тэ шмáтье отзолілоса.* Старажоўцы.

ОДЗОЛІ'ЦЬ *зак.* Выварыць у лузе. *Удачно полотно отзоліла, белэ-белэ!* Старажоўцы.

ОДЗО'ЛКІ *мн.* Луг пасля мыцця бялізны. *Вуліла отзолкі на вуліцу.* Старажоўцы.

ОДЗО'ЛЬВАЦЦА *незак.* Выварвацца ў лузе. *Отзольваецца плацье, ніткі.* Лугкі.

ОДЗО'ЛЬВАЦЬ *незак.* Выварваць у лузе. *Ужэ почном отзольваць полотно.* Старажоўцы.

ОДНА', ОДНА'Я *ліч.* Адна. *Цепер і одна не седзела* (г. зн. ні адной). М. Малешава. *І одноéі голіны не покінуў!* Рубель. *Одная пара лежыць, другая, да шчэ трэцяя* (пра лапці). В. Малешава. *Ходжу одна, як под землею!* Азяраны. *Одна і головешка сама не горыць* (прымаўка). Старажоўцы. *Я одноéю рукою грэбуса к берэгу.* Там жа. *То там сено? От, одна лепехá!* Тураў. *А раншэй жылі? Залазіць у екую гушчу і седзіць, самá одна хатка.* Старажоўцы.

ОДНА'КОВО *прысл.* Аднолькава. *Однаково ему ўсе.* Аздамічы.

ОДНА'КОВУ *прым.* Аднолькавы. *Усе однаковуе, да не роўные* (прыказка). Лугкі.

ОДНЕ'НЬКІ *ліч.* Адзінюткі. *Не брáла гурочка і одненького.* В. Малешава. *Той одненьку рыбу поймаў.* Там жа. *Памянш.* о д н é н е ч к і. *Одна-одненечка у ее дочка, у етое старóе.* Дварэц.

ОДНО', ОННО' *прысл.* Толькі. *У мене одно одзін сын.* Запясочча. *Ейцэ́ без шкорлупý, однó лупінка* (пра вылівак). Там жа. *На пóмінкі канý даюць, кажнá душа по тры рáза чэрпне, як одно почынаюць обедаць.* Кароцічы. *Соловéй до ушэсця дванаццаць голосоў мае, а после — одно шэсць голосоў.* Там жа. *Я онно збегаю тудою і назад.* Верасніца. *Ехало поўны воз цыганчэня́т, онно гóлові торчаць.* В. Малешава.

ОДНОГО'ДОК *м.* Аднагодак, равеснік. *Мо то мой*

*Пілiп с тобой одногодок?* Цераблічы. *Ву ж мо одногодкі?* Бярэжцы.

ОДНОКРЫ'ЛЕЦ *ж.* Аднакрылы жак. *Однокрылец поперэк становійса.* Цераблічы.

ОДНОЛЕ'ТОК *м.* Жарабя аднаго году. Аздамічы.

ОДНОЛІ'ЧНО *прысл.* Аднаасобна. *Однолічно там жывуць.* Сямігосцічы.

ОДНОЛІ'ЧЭСТВО *н.* Аднаасобніцтва. *Коліся було однолічэство.* В. Малешава.

ОДНО'ЛЬКОВУ *прым.* Аднолькавы. *Дзеці некіе ў соседзей однольковуе.* Луткі.

ОДНОПРА'ЎЕ *н.* Раўнапраўе. *Цепер однопраўе жонок.* В. Малешава.

ОДНО'РАЗ *прысл.* Аднаразова. *Трэба сто разоў угодзіць, а не однораз.* М. Малешава.

ОДНО'РАЛЬ *ж.* Поле, узаранае адзін раз. *Бувае, жыто на однoралі хорошэ.* Аздамічы.

ОДНО'РУЧ *прысл.* З адной рукой. *Одноруч хату будоваў.* Аздамічы.

ОДНО'РУЧКА *ж.* Верацяно з прадзівам. Аздамічы.

ОДНО'СТАЛЬ *прысл.* △ У о д н о́ с т а л ь. У одну сталку. Старажоўцы.

ОДНЫ'Е *ліч.* Адны. *Одные цветы ў городах.* Хотамель. *Одных зайцоў колькі было!* Велямічы. *Ужэ і меншые гусенята ходзяць одные.* Пагост. *Голова боліць, нічого не есць, оно одные рвоты.* Сямурадцы.

**ОДНЭ', ОДНЭ'Е** *ліч.* Адно. *Качка і вўтва — то однэе.* Рубель. *Слепцы і Знаменка — то однэ* (пра адну і тую ж вёску з дзвюма назвамі). Верасніца. *Прызнавáймоса однэ перэд другім, хто согрэшыў?* В. Малешава. *Однэ, як нігодного, а двое, як однэ* (прымаўка, пра дзяцей). Верасніца. *Я, як Сайка збентэжаны — однэ роблю, другое кідаю.* Старажоўцы.

ОДРАХЛЕ'ЦЬ *зак.* Зрабіцца слабым (пра старога і маладога). В. Малешава. *Одрахлеў, згорбіўса, голова ў плечы улезла, а буў такі хваліндзей!* М. Малешава.

ОДРОТОВА'НЫ *дзеепрым.* Аплецены дротам. Запясочча.

ОДРОТОВА'ЦЬ *зак.* Аплесці дротам. *Одротоваць горшчыка трэ.* Старажоўцы.

ОДРЫ'НА *ж.* Хлеў для кароў, каня. *У одрыні корова стоіць.* Бярэжцы. *Пошла, пошла ў одрыну!* (на карову). М. Малешава. *Була кобула, шо ў одрыну не ўле-*

*зеце. І зубамі і ногамі!* Луткі. *Памянш.* о д р ы́ н к а̀. *А прышлосо зноў на одрыну лесу — прыплавіў стары́, от бачыце, ека одрынка.* Старажоўцы.

ОДРЫНКІ′ *мн.* Кашара ў лесе, стойла для кароў увесну ў час паводкі. *Ужэ ўсе жонкі доіць у одрынкі поехалі.* Кароцічы.

ОДУБЕ′ЦЬ *зак.* Адубець, застыць. *Постояла да одубела коло хвортки.* Дварэц. Здохнуць. *Ужэ одубее пчола, бо по дубох пошла* (пра пераход пчол на збор мядовай падзі пры адсутнасці ўзятку). Мачуль.

ОДУ′БЛЫ *прым.* Адубелы. *Зо́ўсім я одублы, такі хо́лод!* Верасніца.

ОДУ′МАЦЦА *зак.* Надумацца, прыйсці да думкі. *У марце месяцы одумаласа просіць соломы.* Дварэц. *Одумаўса, да ўжэ позно.* Аздамічы.

О′ДУР *м.* Ачмурэнне. *На мене нейкі одур напаў.* Запясочча.

ОДУРЭ′ЦЬ *зак.* Здурнець, страціць розум. *Одурэў, бегае з ножэм, усе побіў, скрыню посек.* Бярэжцы. *Мо одурэе бацько, шо повезе сам.* М. Малешава.

ОДЭ′ТАКІ *займ.* Вось гэтакі. *Одэтаку рыбу прынесла!* Запясочча. *Памянш.* о д э́ т а ч к і. *Одэтачкіе картоплі порослі!* Запясочча.

ОДЭ′ТТА, ОДЭ′ТА 1 *прысл.* Тут. *Як почалі бонбіть, одэтта коло нас упала.* Альпень. *Одэта, дзе ву седзіце́.* Старажоўцы. 2 *займ.* Вось гэта. *Не одэта зіма, шо пройшла, да прошлая зіма.* Пагост.

ОДЭ′ТТЫ *прысл.* Тут. *Учоро́ браў одэтты наверсі.* Луткі. *Одэтты жнуць ечмень.* Чэрнічы. *Одэтты была выжар.* Рубель.

ОДЭ′ТТЫКА *прысл.* Тое ж. *Одэттыка була лужа.* М. Малешава. *Оддэтыка спіна́ боліць.* В. Малешава.

ОДЭ′ТУЛЬКО *прысл.* Вось колькі. *Одэтулько не повен буў, ледво попер.* Дварэц.

ОЖО′ГНУЦЬ *зак.* Ударыць, выцяць. *Ожогла́ поленом ёго разоў со два.* Бярэжцы.

ОЖЫВЕ′ЦЬ *зак.* Ажыць. *Позіраем, чы ожывее.* Хачэнь. *Кот здох, а да́лей ожывеў.* Луткі. *Як сталі хорошыць рыбу, то вона і ожывела.* Кароцічы.

ОЖЫГА′ЦЦА *незак.* Адказваць пагрозай. *Як ты стала проціво ко́зубом, то і вон ужэ стаў ожыгацца, не моўчыць.* Сямігосцічы. Пагрозліва ашчэрвацца. *Конь ожыгаецца на чоловека.* Там жа.

ОЖЫ'НА *ж.*, ОЖЫ'НЫ *мн.* Ажыны (ягады). *Ожына е ў нас, шыпулечкамі тые ягодкі на ей се́дзяць.* Цераблічы. *А шчо я ягод бачыла, гэтых ожын, да сілные воны!* Хачэнь. *Ожыны чорные, а маліна — кра́сна.* Альпень. *Як возмесса за маліну, то вона ліпне, а за ожыну, то она колецца.* Старажоўцы.

ОЖЫ'ННІК *м.* Ажыннік. *Ожынніку там поўно! Коза ожыннік есць.* Хачэнь.

ОЖЫ'ЦЦА *зак.* Абжыцца. *Пожылі троха у той хаце, ожыліса да давай другў стараццa.* Дварэц.

ОЖЭНІ'ЦЦА *зак.* Ажаніцца. *Сам родом з Украі́ны да тут ожэніўса.* Дварэц. *Ожэніўса да оддзеліўса од мацер.* Цераблічы.

ОЖЭНІ'ЦЬ *зак.* Ажаніць. *Трэба сына ожэніць, а то ужэ стары́, цегаецца по селу.* Старажоўцы.

ОЖЭРЭБІ'ЦЦА *зак.* Ажарабіцца. *На той год кобула побіласа і ожэрэбіласа, да такі хорошы жэробчык буў.* М. Малешава.

ОЖЭРЭБІ'ЦЬ *зак.* Ажарабіць. *Кобула ожэрэбіла доброго жэрэбчыка.* Запясочча.

О'ЖЭРЭЎКА *ж.* Вяроўка, якой прывязваюць карову (з пятлёю на канцы). *Беры ожэрэўку да отцегні целя.* Цераблічы. *На нічогого чоловека кажуць: тобе, кажэ, ожэрэўка на шыю потрэбна.* Там жа.

ОЗА'ДКІ *мн.* Няякаснае, дробнае зерне. *Побітэ, порчанэ зерно, то і е озадкі.* Верасніца.

ОЗА'ДНІ *прым.* Няякасны, дробны (пра зерне). Аздамічы.

ОЗА'ДОК *м.* 1. Няякаснае дробнае зерне. Аздамічы. 2. Задняя частка тулава. *Той конь не схацеў іці да як поткіне озадка!* В. Малешава. *Кінулі снарада, да як дало по озадку, то й выцегнуласа.* Дварэц. *Поцегнуло озадка порося. Я і добіла его.* М. Малешава.

О'ЗЕРО *н.* Возера. *Озеро багністэ, зімою стаўляць рэшэме́та на ўюны.* Луткі. *То озеро берэ людзей!* Хачэнь. *На Муроўгру́дзі було озеро — Чэ́рніцке озеро.* Талмачава. *Памянш.* о з е р ц е́, о з е р э́ ч к о. *Озерэчко на ездзе́ таке, то там дзед рыбу ловіць.* М. Малешава.

ОЗЕРЫ'НА *ж.* Затока, невялікі вадаём каля ракі. *Була добрая озеры́на тут!* Альгомель.

ОЗІ'МІНА *ж.* Азімае збожжа. *Озіміну ужэ посеялі.* Старажоўцы.

ОЗІРА'ЦЦА *незак.* Азірацца. *Поперласа, шо й не*

*дожэнеш, і не озіраецца.* Кароцічы. *Як бородайкі, то трапіш косточку, помаж ей бородайку, положы ее так, як лежала, потом ідзі і не озірайса.* Старажоўцы.

ОЗІРНУ'ЦЦА *зак.* Азірнуцца. *Дзядзько озірнецца да пугою нас!* Цераблічы.

ОЗО'ЛКІ *мн.* Луг пасля мыцця бялізны. *Сорочка ў озолках трое суток мокла.* М. Малешава.

ОЗОЛОЦІ'ЦЦА *зак.* Азалаціцца, мець вялікі прыбытак. *Людзі за лён озолоціліса ў нас.* Дварэц. *Коб хто раншэй меў рамочные вулья, то озолоціўса б.* Сямігосцічы.

ОЗО'ЛЬЕ *н.* Попел з-пад лугу. *Озолье вукінула на двор.* Верасніца.

ОЗЫ'РЫЦЬ *зак.* Секануць, балюча сцёбнуць. *Як озырыць пугою, то подскочыш!* Старажоўцы.

ОЙ *выкл.* Вой, ох. *Ой, господзі, ужэ і этого млінца не з'еў!* Дварэц. *Ой, я нагороваласа за дзень!* Запясочча. *Ой, моя свінка подохла.* Верасніца. *Ой божэ, ой свеце!* (пры здзіўленні, неверагодным здарэнні). Луткі.

ОЙЧЫ'М *м.* Айчым. *У ойчыма чорт под очыма, а ў мачохі два* (прыказка). Хачэнь.

ОКАЗА'ЦЦА *зак.* Падаць голас, звестку пра сябе. *Самые не оказаліса, дзе воны, говораць, шо іх забралі.* В. Малешава.

ОКА'ЗВАЦЦА *незак.* Здавацца, падавацца. *Глўпая ноч, оказваецца абў-шчо.* Бярэжцы.

ОКА'ЗІЦЦА *зак.* Выявіцца. *Эта хвароба заразна, вона оказіцца не на одном, усе село перэберэ.* М. Малешава.

ОКА'ЗІЯ *ж.* Выпадак, незвычайнае здарэнне. *Оказію зробіло — забіло дзве корові і пастуха.* Верасніца. *Дошч улупіў на оказію!* Аздамічы.

ОКАЛЕ'ЧЫЦЦА *зак.* Акалечыцца. *Его зяць окалечыўса.* В. Малешава.

ОКАПУ'РЫЦЦА *зак.* Абсесці нарастамі (пра капусту). *Не вуросла у качан капуста да уся окапурыласа.* М. Малешава.

ОКА'СІЦЦА *зак.* Спыніцца, абмежавацца. *Хай на этом і окасіцца.* Старажоўцы. *Мамо, Іванкоў стог той коло Прыпеці згорэў.— Ой, доню, хай на ём окасіцца.* М. Малешава.

ОКЕ'ННЭ *прым. (субст.).* Пачастунак будаўнікам

хаты, калі зруб узведзены да акон. *Як под окна зробяць хату, то робяць океннэ.* Сямігосцічы.

ОʼКІД *м.* Невялікі невадок, сетка з кармой. Луткі.

ОКІДАʼЦЦА *незак.* Звяртаць увагу. *А тые ж окідаюцца на крык.* Сямігосцічы.

ОКІДАʼЦЬ *незак.* Пакідаць. *Бацькі не окідаюць його.* Старажоўцы.

ОʼКІДЗЬ *ж.* Мокры снег. *Як бўсько прылецеў, то пошла окідзь, снег.* Тураў. *Окідзь бувае і осенёй, і зімою, і весною.* Мачуль.

ОКІʼНУЦЦА *зак.* З'явіцца. *Дзеці окінуліса.* М. Малешава. *Булі зноў окінуліса ракі.* Цераблічы.

ОКІʼНУЦЬ *зак.* 1. Абкінуць, абвесці сеткай. *Давайце окіном ешчэ раз того вірка́.* Дварэц. 2. Пакінуць. *Колісь буў город Туроў, а зара окінулі, дзерэўня цепер.* Знаменка. *Окінула сем'ю ды і пошла по свету.* Старажоўцы.

ОКІʼПАНЫ *дзеепрым.* Абліты. *Ка́жэн шаг кроўю окіпаны.* В. Малешава.

ОКІПЕʼЦЬ *зак.* Abліцца (крывёю). *Мне чужэ молоко кроўю окіпело.* Хачэнь. *Як окіпіць серцэ крывею, то піла серку.* Тураў. *Так око і окіпело, як вон по ёму косцерэвою ударыў.* Луткі.

ОКЛАʼД *м.* Аблямоўка на кажусе. *На ём чорны кожух і белые оклады на кожусі.* Дварэц.

ОКЛАʼДЗІНЫ *мн.* Пачастунак будаўнікам хаты пасля таго, як пакладзен апошні вянец у зрубе. *Матруна спевала, як окладзіны робілі — са́ме остатне дзерэво клалі.* Запясочча.

ОКЛУʼНОК *м.* Клунак, невялікі мяшэчак. *Оклунка узяў да подаўса.* Аздамічы. *Набраў шмацья, узяў за плечы — да оклунок.* Старажоўцы. *Памянш.* о к л ў н о ч о к. Хачэнь.

ОКНОʼ *н.* 1. Акно. *У курніцэ одно окно було.* Кароцічы. *З окна у окно золотэ́ верэцено* (загадка). *Сонцо* (адгадка). *Не стой под окном, не махай рукавом, бо не выйду, бо не стану с такім дураком* (прыпеўка). Хачэнь. *Однэ кажэ — світай божэ, друге кажэ — не дай божэ, трэйце кажэ — мне сенно, шо ноч, шо дзень* (загадка). *Окно, лава, дзверы* (адгадка). Хачэнь. *Як бог дасць, то і ў окно подасць* (прымаўка). Сямігосцічы. 2. Акно на балоце. *Там дажэ окна булі, на том болоці.*

Сямігосцічы. *Памянш.* о к е́ н ц э. *Ото во окенцэ. Шо, воно, веліке? Не!* Верасніца.

О′КО *н., мн.* О′ЧЫ або О′КА. 1. Вока. *Око запорушыла порушыною.* Альпень. *Открылосо мое воко, і зразу свет побачыла.* Хачэнь. *Абу вушла на той ґанок, то очы мое туды позірають* (пра родную вёску). Хачэнь. *Шо очыма бачыў, то робіў.* Старажоўцы. 2. Ляток у вуллі. *Вулей ставяць на поўдзень оком.* Луткі. Вочка ў сетцы. *Колісь, когда око разорвалосо ў ценеці, то вукідай його.* Дварэц. 3. Петля ў ніце, у якую працягваецца нітка асновы. *Набірають у ніт по одной ніццы у каждое око.* Запясочча. 4. Ачко ў гульнях. *Рысують шэсць ок, шостэ веліке* (пры гульні ў со́валкі). Хачэнь. *Кіла — тысяча ок* (пры гульні *ў цу́рку*). Цераблічы. △ Х о ц ь у в о́ к о ў с у́ н ь. Пра вялікую цемень. В. Малешава. О к а н е м е́ ц ь. Адносіцца непрыхільна. Запясочча. Б р а́ ц ь н а о́ к о. Заўважаць, звяртаць увагу. *Буў такі кабан, шчо на око ўсе бралі. Страхота́!* Мачуль. Н а л е ц е́ ц ь н а о́ к о. Трапіць на вочы. *Шо на око налецело, то ўсе побіў.* Хачэнь. Н і о́ к а. Ні рыбіны. *Ні ока не зловілі!* Сямігосцічы. С о р о́ к і о́ ч ы п о ў б і р а́ ю ц ь. Пра забітага. М. Малешава. В у́ к л а с ц і о́ ч ы, у б і́ ц ь о́ ч ы. Уважліва пазіраць. Верасніца. *Павеліч.* о ч ы́ ш ч а. *Вон тые очышча на мене ек ву́рочыў!* Старажоўцы.

ОКО′ВА *ж.* Акоўка. *Скрыня мае окову.* Кароцічы.

ОКО′ВАНІК *м.* Акаваны кіёк (з металічным канцо́м). Хотамель. Акаваны карэц. М. Малешава.

ОКОВА′ЦЬ *зак.* Акаваць. *Скрыню хорошэ оковалі.* Бярэжцы. *Договорыўса, значыць, петнаццаць пудоў хлеба оковаць воза.* Кароцічы.

ОКОЗІ′ЦЦА *зак.* Акаціцца (пра казу). *Окозіласа коза да й двое нежывых козленяток.* Старажоўцы.

ОКОЗІ′ЦЬ *зак.* Наслаць гора. *То ж трэба чоловека так окозіць, таке горо!* М. Малешава.

ОКОЛЕ′ЧЫЦЬ *зак.* Скалечыць. *Околечыла ногі да купіла суконнікі ў городзі.* В. Малешава.

ОКО′ЛКА *ж.* 1. Стужка, нашытая на адзенне наўкруга. М. Малешава. 2. Луста хлеба на ўвесь бохан. *Отрэжэ таку мах околку хлеба.* Луткі.

О′КОЛО *прыназ.* Каля. *Я зробіў гумно около двора.* Старажоўцы. *Около хаты сад.* Хотамель.

ОКОЛО′Т *м.* 1. Абабітыя ўручную снапы жыта. *Возьмі около́та да от і хваціць свіньою обсмаліць.* Азя-

раны. 2. Зерне, вымалачанае са снапоў уручную. *Первый сорт зерна на сеўбу называ́юць около́т.* Дварэц.

ОКОЛОШТЫ'РЫЦЦА, ОКОЛОШТА'РЫЦЦА *зак.* Адзецца або абуцца нязграбна. *У екіе-то чоботы околоштарыўса, аж смешно позіраць.* М. Малешава.

ОКО'НІЦЫ *мн.* Аканіцы. *Оконіцы закрываюць ад граду.* Сямігосцічы. *Нема ўжэ колішніх оконіц.* Луткі.

ОКОНЧЫ'НЫ *мн.* Пачастунак будаўнікам хаты ў сувязі з яе заканчэннем. *Окончыны булі, то позно, домоў не пошоў, а прамо на ферму.* Сямігосцічы.

ОКОПА'ЦЬ *зак. перан.* Прыбраць. *А ты стола́, як поелі, окопай трохі.* Мачуль.

ОКОРА'ВЕЦЬ *зак.* Зрабіцца каравым, аблупіцца. *Не можно золотуху мочыць, бо окоравееш.* М. Малешава.

ОКО'РВАЦЬ *незак.* Здымаць кару. Запясочча.

О'КОРОЧ *прысл.* Кароткім шляхам. *Соседка ходзіла окороч.* Хачэнь. *Окороч ішла іс поля.* Старажоўцы.

ОКОРЫ'ЦЬ *зак.* Зняць кару. *Трэба гэтые столбікі окорыць да поставіць сушыцца.* Хачэнь.

ОКОЦІ'ЦЦА *зак.* Акаціцца. *Овечка окоціласа.* Хачэнь. *Коза окоціласа весною.* Там жа. *Кошка окоціласа, аж чотыры коценя слепых.* М. Малешава. *Воўчыца под самым короўніком окоціласа.* Сямігосцічы.

ОКОЦІ'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Кошка окоціла п'яцеро коценят.* Бярэжцы.

ОКО'ЧВАЦЦА *незак.* Акочвацца. *Окочваецца под ганком кошка да крычыць.* Луткі.

ОКОЧУ'РЫЦЦА *зак. груб.* Здохнуць. *Чула наша собака, шо ее век отходзіць, пошла ў поле да там і окочуріласа.* Пагост.

ОКОЧЭНЕ'ЦЬ *зак.* Акачанець. *Окочэнеў да змерз.* Запясочча.

ОКОША'РЫЦЦА *зак.* Асталявацца. *Кажын окошарыцца тут, наравіцца!* Запясочча.

ОКО'ШЛАЦЦА *зак.* Адзецца або абуцца нязграбна. *Окошлаўса у тые чоборна наглые, да шчэ воны не поваксованые.* Старажоўцы.

ОКОШЫ'ЦЦА *незак.* Спыніцца, асесці. *Шчоб на тобе і окошылосо!* Альшаны. *Нехай на ём окошыцца, перэсе́дзецца.* Луткі.

У новую хату пускалі перш чорнага ката і курыцу, *шчоб окошылосо на ку́ры або на коту.* Сямігосцічы.

ОКРА'ВОК *м.* 1. Абрэзак пры кройцы лык на паскі.

*Окраўкі булі з лозы, ек лапці плелі.* Луткі. *Окраўкі з дзяго трэба згорнуць у вехоць і закінуць, коб яйца находзіць дзікое вутвы.* Аздамічы. 2 *мн.* Стары абутак з адрэзанымі халявамі. *От чобот е окраўкі, от валенок буваюць. Кажуць, стыкні тые окраўкі да сходзі.* Верасніца.

ОКРА'ЕК *м.* Востры край зуба ў каня. *Окрайкі е — молоды конь.* В. Малешава. △ Спусціць окра́йкі. Страціць малочныя зубы (пра жарабя, цяля). *Трэцяк спусціў окрайкі.* Аздамічы.

ОКРА'ЕЦ, КРА'ЕЦ *м.* Акраец. *Крайца хлеба несе пастуху.* Цераблічы. *У голодоўку коб окраец хлеба буў, то еке шчасце!* М. Малешава. *Памянш.* окра́йчык. *Посцелю рогожку, посыплю горошку, положу окрайчык хлеба* (загадка). *Зоры і месяц* (адгадка). Верасніца.

ОКРАІ'ЦЬ *зак.* Абрэзаць край лыка. *Дзего окраіў, шоб не чэплялоса.* Луткі.

ОКРА'ЙКА *ж.* Тканы або вязаны вузкі пояс. *Окрайкі робілі с кутаса́мі, коб подперазвайцца.* Запясочча.

ОКРОВІ'ЦЬ *зак.* Акрывавіць. *Бўту не даюць коню этые овадэ́, спіну окровілі.* Пагост.

ОКРО'М, ОКРЭ'М *прысл.* 1. Асобна. *Окром жыве од бацька.* Аздамічы. *Окром мене ідзі да жыві.* Луткі. *На пампушкі, то окром дзежэчка маленька.* Бярэжцы. *Сцёпка у хоромах, а варыўня окром на дворэ.* Сямігосцічы. *Хаты булі у нас окром. А гумны булі радом.* Хачэнь. 2 *прыназ.* Акрамя. *Дзіця, окром мацеры і мене, ні до кого не пойдзе.* Мачуль. *Окрэм олешніка росце і берэза.* Аздамічы.

ОКРО'МЕ *прыназ.* Акрамя. *Окроме свінчаці она нічого не дзержала.* М. Малешава. *Окроме молока ані не есць нічого.* Луткі.

ОКРО'П *м.* Вар. *Хорошэ беры, не опарса ў окропі.* Рубель.

ОКРУЖА'ЦЬ *незак.* Абразаць бацвінне ў караняплодах. *Окружала буракі да палец ножэм порэзала.* Пагост.

ОКРУЖЭНІ'ЦЬ *зак.* Акружыць. *Окружэняць мене да рогочуць.* Старажоўцы.

ОКРУЦІ'ЦЦА *зак.* Здохнуць, скруціцца. *Корова як наелася удобрэнія, так і окруціласа.* Бярэжцы.

ОКРУЦІ'ЦЬ *зак.* Абкруціць, задурманіць. *Вон не жыў будзе, ек не окруціць.* М. Малешава.

ОКРЫВА'ЦЦА *незак.* Накрывацца. *Окрывайса цеплей, а то здубенéеш.* М. Малешава.

ОКРЫ'ЦЦА *зак.* Накрыцца. *Окрыйса шчэ бабінôю світкою.* М. Малешава.

ОКРЫ'ЦЬ *зак.* Накрыць. *Окрый ее, бачыш, як трэсецца.* М. Малешава.

ОКРЫЯ'ЦЬ *зак.* Акрыяць, паздаравець. *Кот два дні не еў, а цепер окрыяў.* Пагост. *Нек окрыяла да роблю.* Дварэц. *Я ужэ дайно ныю, шоб як вон окрыяў.* Там жа.

О'КУНЬ *м.* Акунь. *Окунь пасáты, судак тэж такое масці.* Запясочча. *Нацягаюць окуней сеціма.* Альшаны. *Ты, ка, шукай окуней,— это сама найлепша рыба.* Луткі. *Памянш.* о к у н é ц, о к ý н ь ч ы к. *Маленькому окуньчыку і назва маленькая, а большы — окунец.* Луткі.

ОКУПА'ЦЦА *зак.* Абмыцца. *Должэн молодзік окупацца.* Буразі. *Молодзік окупаецца, то будзе перэмена погоды.* Хачэнь.

ОКУ'РВАЦЬ *незак.* Абкурваць (ад хваробы і інш.). *Сходзі на могліца, надзеры с крэстоў моху да тым мохом окуры, то хондзя і перэстане.* М. Малешава.

ОКУРЫ'ЦЬ *зак.* Акурыць. *Сейчас жэ клокá запаліла, дзіця окурыла і ек чыхнуў, то ўсе.* Хачэнь.

ОКУ'ЧЫЦЬ *зак.* 1. Акучыць, апрацаваць пасеяную бульбу. *Окучыў картоплі.* Верасніца. 2. Сагнаць, сабраць у груд, у клубок. *Роя окучыў.* Хотамель. *Не окучвай товáр, то будзе калецтво.* М. Малешава.

ОКУ'ЧЭНЫ *дзеепрым.* Збіты ў груд, клубок. *Рой окучэны зімою.* Хотамель.

ОЛЕ', ОЛЬЕ' *н.* Валяк. *От наелоса качэня і оле отставіло!* Сямігосцічы. *Качэнята наедзяцца, аж оле по долу цягнецца.* В. Малешава. *Нахватае пойнэ ольe і ўжэ воно там прэе помалу* (пра качак). Рубель.

ОЛЕ'І *мн.* Алей. *Купіла олеёў на рыбу.* М. Малешава. *Олеі елі так, с цыбýлею.* Альпень. *Олéі гонілі колісь с конопéль.* Сямігосцічы.

ОЛЕ'ЙНІК *м.* Той, хто выціскаў алей. Верасніца.

ОЛЕ'ЙНІЦА *ж.* Прылада для выціскання алею. *У Цераблічах була машына, олейніца называлі, з дзерэўяннымі валкамі.* Луткі.

ОЛЕ'ЙНЯ *ж.* Памяшканне, дзе выціскалі алей. Аздамічы.

ОЛЕ'НЬ *м.* Алень. *Олень такі, як лось, только рогі голінастые.* М. Малешава.

ОЛЕНЯ′ *н.* Аленяня. *Оленя рахманэ, хоць ложыса под его.* М. Малешава.

ОЛЕ′ХОВУ *прым.* Альховы. *Олеховуе дрова горацъ, да не дыміны!* Старажоўцы.

ОЛЕ′ХОЎЕ *н. зб.* Алешнік. *Пойду олехоўе сеч на тычкі.* Цераблічы.

ОЛЕ′ХОЎКА *ж.* Сорт яблыкаў. *Олехоўка солодка, смачна.* Старажоўцы.

ОЛЕ′ШНІК *м.* Алешнік. *З олешніку і хату робіць можно.* Цераблічы. *Мокрэюць ногі, потнеюць, то з олешніку нарві да наобчэ́суй да муй ногі.* Хачэнь. *Бобры олешнік валяюць да загаціл і канаву.* Старажоўцы.

ОЛЕ′ШЫНА *ж.* Алешына. *Олешына росла веліка, дзе хлеў.* Луткі.

ОЛІ′ВА *ж.* Алей, расліннае масла. *Подмажом ско́вороду олівою.* Запясочча. *Маруся, оліва е у салат заліць?* Старажоўцы.

ОЛОХНУ′ЦЬ *зак.* Паслаць на той свет. *Даўно трэба було, коб мене олохло́, бо я куру ужэ шэсць годоў.* В. Малешава.

О′ЛУПЕНЬ, О′ЛОПЕНЬ *м.* Ёлупень, дурань. *Готоў зганіць чоловека, олопень!* Дварэц. *Я нічого не знаю, стою, як олупень.* М. Малешава. *Стане, бы олупень, да позірае.* В. Малешава.

ОЛЬХА′ *ж.* Алешына. *Коліся тут була лоза, ольха, корчэ́.* Любавічы.

ОЛЬХО′ВУ *прым.* Альховы. *Ольховy кору дзерлі да красілі.* Сямігосцічы.

ОМЕЛА′ *ж.* Мятлюг, мятліца. *Одна омела наросла ў жыці.* М. Малешава. *Омела вусока, ек жыціна.* Пагост. *Омела, як чэрот, кучэрава.* Запясочча. *Нарві он там мелы́ рыбу прыкрыць, осоку́ не рві, бо рукі порэжэш.* Верасніца. *М′ела́ у лозе росце.* Цераблічы. *Омела подходзіць под чэрэт.* Аздамічы. Амяла. *Мела на берозі росце.* Хотамель. *Есцека мэла на дерэві, ліст опаде, а вона жывэ зелёна.* Рубель.

О′МЕЦІ *мн.* Мука, якую абмятае млынар у млыне. *Возьмі омецей да подмешай кабану.* Азяраны.

ОМОРО′КА *ж.* Марока. *Одно оморока з ім, кажы да кажы, бабо.* М. Малешава.

ОМОРО′ЧЫЦЦА *зак.* Замарачыцца. *Оморочысса, дзень хо́дзя.* В. Малешава.

ОМОРО'ЧЫЦЬ *зак.* Замарочыць. *Вон і малэ́ і веліке оморочыць.* М. Малешава.

О'МОЧКА *ж.* Маканне, тое, у чым размочваюць. *Куцью едзяць з омочкою.* Альшаны.

ОНЕМЕ'ЦЬ *зак.* 1. Анямець. *Як дайса, то онемей і оглух да і цепер не́мец.* Бярэжцы. 2 *пераи.* Перастаць балець. *Одразу онемей зуб.* Запясочча.

ОНЁ, ОНЁО', ОНЁНЁ', ОНЁ'НЬ, ОНЬ, ОН *часц.* Вунь. *Ідзі онё туды!* Мачуль. *Онё гу́ра людзей пошло.* Цераблічы. *Онёо коло сцены стоіць!* Луткі. *Тую далі онёнё, шо на Макусі, дзелянку.* Там жа. *Ужэ вон прышой, онёнь-онёнь!* В. Малешава. *Онь ужэ товар ідзе!* Кароцічы. *Онь, дзе багно́, гусей багато.* Мачуль. *Он пугач, шо рагоз саджае!* Мачуль. *А-а, он шчо!* Аздамічы. *Тамэка оньнёнёо́нь ройча́к!* Пагост.

О'НЁКА *часц.* Тое ж. *Онёка пошой далеко!* Запясочча.

ОНІ'ЗІЦЬ *зак.* Знізіць, панізіць. *Але его сільно онізілі.* Верасніца.

ОНУ'ЧА *ж.* Ануча. *Онучы летніе, а суконкі зімніе.* Велямічы. *Вумажэ смолою онучы, то за дзень ногі погояцца.* Цераблічы. *Белые онучы, да шкоруплякі.* Запясочча. *Гану́ча.* Хотамель.

ОНУ'ЧНІК *м.* Анучнік. *У нас онучнікі булі, трапкі-шмапкі — усе берэ!* Чэрнічы. *Гану́чнік.* Хотамель.

ОНУ'ЧНІЦА *ж.* Неахайная жанчына. *Седзіць неўстроена, як онучніца!* Запясочча.

ОПА'Д *м.* 1. Спад, упадзіна. М. Малешава. 2. Упадак. *Опад сіл, заморочэ́ньe неке найшло.* Запясочча.

ОПАДА'ЦЬ *незак.* Ападаць. *Есцека мэла на дерэві, ліст опаде, а вона жывэ зелёна.* Рубель.

ОПА'ДЗІСТЫ *прым.* Упадзісты. *Як опадзісты стог, сено заглуміцца.* М. Малешава.

ОПА'ДОЧНЫ *прым.* Тое ж. *Вулочка на опадочном месці.* Старажоўцы.

ОПА'КУЛОК, ОПА'КОЛОК *м.* Жменя (як узяць рукой). *Достай опакулок клоч'я да заткнуй коміна.* М. Малешава.

О'ПАЛ *м.* Разгарачанасць. *Вон з опалу як побег!* Дварэц. *У нас тут одзін з опалу пошой і утопійса.* Сямігосцічы.

ОПАЛА'ЦЬ *незак.* Палаць. *Дрова опалаюць, полым'е леціць.* Альшаны.

ОПА′ЛІНЫ, ОПО′ЛІНЫ *мн.* Адыходы пры паланні зерня. *Колісь опаліны мешалі ў хлеб.* Тураў. *Опаліны — шкорупка с проса, ек палаюць.* Луткі.

ОПАЛІ′ЦЬ *зак.* Абпаліць, абсмаліць. *Шыпак орэхоў блісковіца опаліла.* Луткі. *Опалілі усёго, а вон не пошоў.* Сямігосцічы.

ОПАНА′С *м.* △ У Опанáса. Дзіцячая забава. *У Опанаса гулялі, заўяжом очы да ловúй.* Тураў.

О′ПАР *м.* Палонка ў лёдзе, прамытая вадой. *У опары рыба стоіць. Рыба як пойдзе на опар, то вона опарыць лёд і зробіць пельку.* Пагост.

ОПА′РА *ж.* Апёк ад гарачай вады. Аздамічы.

ОПА′РАНЫ *дзеепрым.* Абвараны, апечаны варам, ашпараны. *Опарана сечка м'якчэйша.* Старажоўцы. *Хлеб опараны у цебе.* Аздамічы.

ОПА′РВАЦЬ *незак.* Заварваць. *Опарваюць каліноўнік да варацъ з жытнёю мукою.* Дварэц.

ОПА′РЫЦЦА *зак.* 1. Апячыся, ашпарыцца. *Хóрошэ беры, не опарса ў окропі.* Рубель. *Опарыўса на молоцэ, то й на вóду будзеш дунуць* (прыказка). М. Малешава. 2. Захварэць ад хуткага бегу (пра каня). *Конь опарыўса.* Аздамічы.

ОПА′РЫЦЬ *зак.* Апячы, ашпарыць варам. *Унучэня́ опарыло нóгу, да молоком!* Верасніца. *Як опарыш цыбулю, то стрэ́лок не будзе.* Аздамічы. *Дзежу опарыла кіпетком.* Сямігосцічы.

ОПАСКУ′ДЗІЦЬ *зак.* Апаскудзець. *Шо я цебе опаскудзіла, абу-екіе слова говорыла?* Старажоўцы.

ОПА′СЦІ *зак.* Апасці, асесці. *Шчэ лісце не опало, а ужэ снег.* Верасніца. *Соўнейко опало.* Луткі. *Опаў м'екіш у хлебі.* Аздамічы.

ОПЕКЦІ′ *зак.* Апячы. *Боліць рука, трэба опекці проківою, то вона так не будзе болець.* Старажоўцы.

ОПЕКЦІ′СА *зак.* Апячыса. *Опёкса ў проківі.* Луткі.

ОПЕ′ЛЬКА *ж.* Дзірка для заходу рыбы (у жаку). *Як этого сóма уперло церэз эту малу опельку ў жак?* В. Малешава.

ОПЕ′НЬКІ *мн.* Апенькі. *Опенькі коло пенькоў росцуць.* Мачуль. *Мы зовэм іх хілéцкіе опенькі, бо хільчане опенькі беруць, а мы не емó.* Бярэжцы.

ОПЕРЭ′ДЗІЦЬ *зак.* Апярэдзіць. *Я вас оперэдзіў, раней прыехаў.* Дварэц.

ОПЕРЭЗА′ЦЬ *зак.* 1. Аперазаць. М. Малешава.

2 *перан.* Сekануць пугаю, дзягаю. *Як опоражэш разоў тры, то попрэ конь!* М. Малешава.

ОПЕТУ'ШЫЦЬ *зак.* Нечакана ўдарыць. *Опетушыла доўбешкою, то увесь хмель вўйшоў.* М. Малешава.

ОПЕ'ЦОК *м.* Таўстун (пра малое дзіця). *Екі опецок малы!* Запясочча.

ОПЕ'ЧАНЫ *дзеепрым.* Апечаны. *Гладкі, як опечаны.* Цераблічы.

ОПЕ'ЧКІ *мн.*, ОПЕЧОК *м.* Драўляны фундамент для печы. *У зёмлю опечкі пошлі, хутко печ обернецца.* Пагост. *Опечок дубову, то печ доўго стоіць.* М. Малешава.

ОПЕ'ЧЫНА *ж.* Апёк. *Опечына, колі за горшка горачого ўхопіла да опекла.* Аздамічы.

ОПІ'ЛКІ *мн.* Пілавінне. *Опілкамі обсыпаў столю, да цёпло-цепло ў хаці.* М. Малешава.

ОПІЛО'ЎВАЦЬ *незак.* Абразаць пілою (лесаматэрыялы). Аздамічы.

ОПІ'ЛЬВАЦЬ *незак.* Тое ж. *Мы з братом опільвалі лес на хату самі.* В. Малешава.

ОПІРА'ЦЬ *незак.* Абмываць. *Дзецей трэ опіраць.* Луткі.

ОПІ'ЦЦА *зак.* Абпіцца. *Як опіўса конь, то і пропаў.* М. Малешава.

ОПЛАМІ'ДЗЕЦЬ *зак.* Ашаламіцца, здурнець, разгубіцца. *Опламідзеў, бегае з мазніцэю по прыгумéнку.* Тураў.

ОПЛЕВУ'ШЫЦЬ *зак.* Ударыць па твары. Сямігосцічы.

ОПЛЕ'НЬ, ОПЛЁН *м.* Падушка ў возе на пярэдняй восі. Запясочча. *Оплён.* Аздамічы.

ОПЛЕСКА'ЦЬ *зак.* Абпляскаць. *Прывезлі глей да трэ оплескаць, коб вон не засыхаў.* Старажоўцы.

ОПЛЕСЦІ' *зак.* Аплесці. *Колье поб'е і хвóростом оплеце.* Запясочча. *Соловей на земле оплеце свое кубéльцэ. Ек туча ці не туча, то нішчó!* В. Малешава.

ОПЛЕ'ТАЦЬ *незак.* 1. Аплятаць лазою, дротам. *Горшкі оплетаюць.* М. Малешава. 2. Абвязваць, абрабляць карункамі. *Платочка трэба мне шчэ оплетаць.* Старажоўцы. 3 *перан.* Есці са смакам, прагна. *Я села коло того порося да давай оплетаць!* Верасніца. *А вон ту кашу оплетае!* Запясочча. *Сеў да оплетае галўшкі.* Старажоўцы.

ОПЛЕ′ЦЕНЫ *дзеепрым.* Аплецены. *Оплецены горшчок.* Запясочча.

ОПЛІКНУ′ЦЬ *зак.* Запнуць, завязаць. *Оплікні того фартуха!* Мачуль.

ОПЛІ′СКАЦЦА *зак.* Запырскацца. *Бегла і ўся опліскаласа гразею.* Запясочча.

ОПЛІ′ТОК *м.* Ужываецца ў параўнаннях для падкрэслівання сілы, моцы, паўнаты. *Хорбша дзеўка, як оплітоk, така гладкая!* Хачэнь.

ОПЛІ′ШЧЫЦЦА *зак.* Сарвацца са ўзводу. *Оплішчылос ружжо і стрэліло.* Сямігосцічы.

ОПЛІ′ШЧЫЦЬ *зак.* Сарваць са ўзводу. *Мыш оплішчыла жалеза* (капкан). Мачуль. *Зачэпіў за лозіну і оплішчыў стрэльбу.* Там жа.

ОПЛОША′ЦЬ *зак.* Сплахаваць. *Коб коня не оплошаці ўзяць!* Мачуль.

ОПЛУСЦІ′ *зак.* Абліцца, пакрыцца. *Смолою оплыве — можэ сто лет стояць.* Цераблічы. *Вон ужэ оплывэ потом, бо надто поцее.* Альпень. *Месец хлебом покормі, то оплуве конь, гладкі зробіцца.* Старажоўцы.

ОПЛЮ′ШЧЫЦЦА *зак.* Распачаць ісці моцна (пра дождж). *От оплюшчыўса на весь дзень дождж.* Луткі.

ОПЛЯ′ЦКІ *мн.* Пернікі, аблітыя зверху тоўчаным макам. *Колісь робілі голушкі такіе оплящкі.* Старажоўцы.

ОПОВІ′ВАЧ *м.* Спавівач. *Оповівачэм оповівае да прыговарвае маці.* М. Малешава.

ОПОЗНІ′ЦЦА *зак.* Спазніцца. *Наташа, я опознілаcа цепера на роботу.* Старажоўцы.

ОПОІ′ЦЬ *зак.* Прастудзіць каня, даўшы напіцца яму з дарогі халоднай вады. *Опоіў коня, то і здохне.* Старажоўцы.

ОПО′Й *м.* Апой, прастуднае захворванне ў коней ад халоднай вады. *Як утоміцца коніна да вбду п'е, то будзе опой.* Мачуль. *Горачы конь нап'еццa воды, то можэ буць опой.* Запясочча.

ОПО′ЛОК *м.* Аполак. *Ополкі на огороджу, а доска будзе на подлогу.* Старажоўцы.

ОПОЛО′НІК *м.* 1. Апалонік (для налівання стравы). Мачуль. 2. Апалонік (у жабы). *Ополонік — моль легушкі.* Запясочча. *У ополоніка, як у менька, чэрэво, а хвост от такі, як трэпашка.* Кароцічы.

ОПОЛО'НКА *ж.* Палонка, пелька. *Попаў у одну ополонку, а вуплоў у другу́.* Сямігосцічы.

ОПОЛОСКА'ЦЬ *зак.* Абмыць. *Ополоскала но́гу от колючэк і ужэ не кусаецца.* Хачэнь.

ОПОЛО'ЦЬ *зак.* Выпалаць пасеў. *Шоб одна жонка ўсе ополола і обробіла, то не!* Лутні. *Картоплі нада ополоць, доглєдзе́ць.* Старажоўцы.

ОПО'ЛЬВАЦЬ *незак.* Выполваць. *Трэба опольваць гуркі.* Старажоўцы.

ОПО'МНІЦЦА *зак.* Абдумацца. *Это ж вон шчэ опомніцца!* М. Малешава.

ОПО'РКІ *мн.* Боты са зборкамі. *Чоботы со зборкамі, то опоркі.* Старажоўцы.

ОПОРОСІ'ЦЦА *зак.* Апарасіцца. *Цыцкі прутко́м стояць у свіньі, скоро опоро́сіцца.* М. Малешава.

ОПОРОСІ'ЦЬ *зак.* Апарасіць. *Свіньня опоросіла іх, побула дзве недзелі і здохла.* Кароцічы.

ОПО'РЫШЧЭ *н.* Апора. *От опорышчэ трапіла.* Старажоўцы.

ОПОСЛЯ' *прысл.* Пасля, пазней. *Мне говорылі опосля, шо проложылі туда дорогу.* Дварэц.

ОПОЎДНЯ' *прысл.* Апоўдні. *Опоўдня ішоў дождж.* Пагост.

ОПО'ЎЗАЦЬ *незак.* Старанна аблазіць, абысці. *Як пойдзе по грыбу́, то увесь лес опоўзае.* М. Малешава.

ОПО'ЎЗЛЫ *прым.* Неахайны. *Зробіўса наш дзядзько такі опоўзлы, шо сором людзей.* М. Малешава.

ОПО'ЎНОЧ *прысл.* Апоўначы. *Опоўноч пеўні спеваюць.* Дварэц. *Хмары опоўноч росцегліса.* Пагост.

ОПОЧЫ'ЦЬ *зак.* Адпачыць. *Лягу опочыць ге.* Альшаны.

ОПО'ШНІ *прым.* Апошні. *Як заходзіць пост, то ў опошні дзень клічуць весну.* Цераблічы.

ОПРАНА'ЦЦА *незак.* Апранацца. *Як пойдзеш у Любовічы, то опранайса.* М. Малешава.

ОПРАНУ'ЦЦА *зак.* Апрануцца. *Ты ўжэ опрануўса?* Лутні.

ОПРАНУ'ЦЬ *зак.* Апрануць. *Хваціць дзіця седзело у хаці, трэба ёго опрануць.* Старажоўцы.

ОПРА'ТАЦЬ *зак.* Прыбраць да рук. *Дзеўка нішчо собе, трэба ее опратаць.* Старажоўцы.

ОПРО'Ч *прыназ.* Акрамя, толькі, за выключэннем.

*Ніяка не беда, опроч войны.* Верасніца. *Опроч гора нічого не бачыла.* Старажоўцы.

ОПРУТНЕ′ЦЬ *зак.* Апруцянець, памерці. *Шоб ты до дня опрутнела!* (праклён). Запясочча.

ОПРЫ′Ч, ОПРЫ′Ж *прысл.* Асобна. *Кажнóго каваточка опрыч соляць.* Цераблічы. *Кажнá нітка опрыж.* Там жа. *Холоднэ строеніе опрыж, хаты ў другом месці.* В. Малешава.

ОПРЭГЦІ′СА *зак.* Апрэгчыся. *Зімой коза і сено есць, хай вона опрэжэцца.* Хачэнь. *А шоб ты опрогса бог даў!* (праклён). Старажоўцы.

ОПУ′ГАЦЦА *зак.* Спужацца. *Я ужэ опугаласа, як та кýра.* Старажоўцы.

ОПУ′ДАЛО *н.* Пудзіла, чучала. *І ў коноплі ставілі опудало.* Старажоўцы. *Шо ты ходзіш, як опудало, одзеньса.* Запясочча. *Наклаў на себе этэ опудало, шо страх!* (тут — пра адзенне). Там жа.

ОПУ′ДЗІЦЦА *зак.* Спалохацца. *Прышлі гусі да опудзіліса.* Дварэц. *Опудзіўса конь да побег.* Запясочча.

ОПУ′ДЗІЦЬ *зак.* Спалохаць. *Опудзіў коня.* Запясочча. *Трэба на вішні шпакоў опудзіць.* Старажоўцы.

ОПУ′КОВАТЫ *прым.* Поўны ў баках, круглы. *От такі опуковаты еты стожóк, хорóшы, стрóйны.* Запясочча. *Бочка опуковата.* Луткі.

ОПУ′ЛЬВАЦЬ *незак.* Апыляць. *Му мусілі жукі опульваць.* Старажоўцы.

ОПУНІ′ЦЦА *зак.* Спыніцца. *У брод ускочыў, тоды опыніліса коні.* Луткі. *Вон на одном месце не опунéцца.* Дварэц. *Так бег, одно ў дворэ опуніўса.* Хачэнь.

ОПУНІ′ЦЬ *зак.* Спыніць. *Хто такого опýніць, як воно родзілосо дуроватэ?* Старажоўцы.

ОПУНУ′ЦЦА *зак.* Апынуцца. *Замукні кýру, а то вона на огородзе опунéцца.* Дварэц.

ОПУСКА′ЦЦА *незак.* Спушчацца. *Подай вероўку, трэба опускацца ўніз.* Старажоўцы.

ОПУСКА′ЦЬ *незак.* Апушчаць. *Опускáеш на вероўцы той кадоўб.* М. Малешава.

ОПУСЦЕВА′ТЫ, ОПУСЦЕ′ЙКОВАТЫ, ОПУСКЛЕ′ЙКОВАТЫ, ОПУ′ШЧЭНЫ *прым.* Мала што варты (па сіле, здольнасцях, здароўі, гадах і інш.). *Опусцеваты вон чоловек.* В. Малешава. *Вон не хоцеў з этой опусцейковатою жыць.* Луткі. *Наша корова опусклейковата,*

*стара́ ужэ*. Рыдча. *Опушчэна моя цепер хата*. Старажоўцы.

ОПУСЦЕ′ЦЬ *зак*. Страціць сілу, здароўе. *Одрахлеў чоловек, опусцеў, не варт робіць*. В. Малешава.

ОПУСЦІ′ЦЦА *зак*. Спусціцца. *Не знае, як опусціцца ўніз*. Старажоўцы. 2 *перан*. Перастаць сачыць за сабой. *Опусціласа баба, як сын пом'ёр*. Старажоўцы.

ОПУСЦІ′ЦЬ *зак*. *Молодзік рогі опусціў на негоду, а подняў на погоду*. Хачэнь.

О′ПУХ *м*. і *ж*. Пухліна. *Як опухло, то кажуць опух*. Луткі. *Пойдзе опух, як укусіць корову вуж*. Сямігосцічы. *Такі опух, аж шкура трэшчыць!* Бярэжцы. *Усю гэту опух вуцягвае козінэ сало*. Старажоўцы.

ОПУ′ХНУЦЬ *зак*. Апухнуць. *Квоктуха клевала другу квоктуху да опухла голова*. В. Малешава.

ОПУ′ЧАНЫ *прым*. Затуканы, бязвольны, праставаты, недалёкі на розум. *Вон абу-екі, опу́чаны*. Хачэнь.

ОПУЧКОВА′ЦЬ *зак*. Пакрыць пучкамі соломы (страху). *Так онно соломой була опучковала, бо не накрыта одсюль хата*. Хачэнь. *Стрэ́ху надо раншы опучковаць*. Запясочча.

ОПУЧКО′ЎВАЦЬ *незак*. Пакрываць пучкамі саломы. *Пучкі шчо хачу опучкоўваюць*. Дварэц.

ОПУ′ЧЫЦЬ *зак*. Пакрыць або закрыць пучкамі саломы (страху або сцяну). *Опучыць по латах, а потом крые под лопату*. Аздамічы. *Надо опучыць чэрэтом той хлеў, шчоб не мёрз товар*. Сямігосцічы.

ОПУШЫ′ЦЬ *зак*. Абкласці, заслаць пухам. *Покуль не опушыць кубло, то не сядзе вутва на яйца*. Запясочча.

ОП'ЯНЕ′ЦЬ *зак*. Ап'янець. *Здаецца ж і вупіла трохі, а серэўно оп'янела*. Азяраны.

ОП'Я′НЧЫЦЦА *зак*. Ап'янець, зрабіцца п'яным. *Оп'янчыцца цецерук — его рукамі беры*. Запясочча.

ОП'ЯНЧЭ′ЦЬ *зак*. Ап'янець. *От этого чаю оп'янчэў*. Дварэц.

ОП'Я′НЬВАЦЬ *незак*. П'янець. *Я еслі куру, то оп'яньваю*. Цераблічы.

ОРАБІ′НА *ж*. Рабіна. *Орабіна, орабіна, я не буду цебе ні секці, ні ломаці, толькі зубы зажываці* (з замовы). Луткі.

ОРА′ВА *ж*. Арава. *От орава пошла ў ягоды, мо дзесецъ жоно́к!* Старажоўцы.

ОРА'НЬЕ *н.* Аранне. *Скоро Мікола, яке ж то будзе оранье?* Луткі.

ОРА'ТА'Й *м.* Араты. *Брыгадзер оратáя прыслаў орацьь.* Дварэц. *Оротáем Кузьма буў, ек картоплі сеялі.* Пагост. *От орáтай, проорэ борозну, як шнуром отоб'е!* Старажоўцы.

ОРА'ТЭР *м.* Тое ж. Альшаны.

ОРА'ЦЦА *незак.* 1. Драбіцца на хмаркі (пра суцэльную хмару на небе ў дождж). *Небо орэ́цца — будзе погода.* В. Малешава. 2. Арацца. *На розорку орэцца тóлькі на веснé.* Аздамічы.

ОРА'ЦЬ *незак.* Араць. *Орацьь сохою цяжко.* Сямігосцічы. *У склад ором, як мешаем, а заором, то шоб як града загонец буў хорошы.* Аздамічы. *Чым чорт не ораў, тым і сеець не стаў* (прыказка). Верасніца.

ОРОБЕ'Й *м.* Верабей. *Ой ты, оробей, не клюй коноцель, а сядзь на колочку, напрадзі собе сорочку* (прыгаворка). Знаменка.

ОРО'Л *м.* Арол. *Орол там е, у Берэжэ́цком лесу. Орол половіною большы за коршака.* Цераблічы.

ОРОСІ'ЦЦА *зак.* Абрасіцца. *Не ідзі, Оля, гэтой сцежкой, оросішса.* Сямігосцічы.

ОРУ'ДОВАЦЬ *незак.* Энергічна дзейнічаць, варушыцца, насіцца. *Як станууць хлопцы орудовацьь, то поўна хата дыму.* В. Малешава. *Нешчо ужэ невестка орудуе!* Дварэц. *А собака орудуе, отскакае от тое ібуці да зноў!* Цераблічы. *А вон тамека орудуе, гоняе усіх по хаці.* М. Малешава.

О'РЧЫК, Ё'РЧЫК *м.* Ворчык. *Збóчного коня запрэгалі на орчык.* Верасніца. *Одзін у оглóблях, одзін на ёрчыку.* Луткі.

ОРЧЫКО'ВУ *прым.* Прыпражны (пра каня). *На орчыку под рукою ходзіць той орчыкову конь, а гэты оглобельны.* В. Малешава.

О'РЫВО *н.* Ворыва. *Скоро ета пожня пойдзе под орыво.* Азяраны. *От надодзело мне гэтэ орыво!* Луткі.

ОРЭ'Х *м.* Арэх. *Дзве штукі ніхто не бачыць, ек цвіце — папороць і орэх.* Хачэнь. *Орэ́хі от блісковіцы пустые.* Луткі. *Шо було орэхóў — ой-ёй-ёй!* Там жа.

ОРЭ'ХВА *ж.* Металічны абручык на калодцы ў коле (акоўка). *На хвосты колодзіцы нацягваюцца орэхвы.* Цераблічы.

ОРЭ'Ц *м.* Араты. Азяраны.

ОРЭ′Ш′Е *н. зб.* Арэшнік. *Бег лось по тому бору, по тому орэш'ю.* Хачэнь.

ОРЭ′ШНІК *м.* Арэшнік. *Орэшнік е і орэхі.* Луткі. *Коло Мочуля́ е орэшнік, а так нема.* Цераблічы.

ОРЭ′Ц *м.* Араты. Азяраны.

ОСА′ *ж.* Аса. *Оса ек укусіць, то запухнеш.* Луткі.

ОСА′Д *м.* Набор камянёў у млыне (верхні і ніжні). *Два осады було ў Рычэ́ві.* Луткі. *Там у мліні цюрбін, то на чотыры осады мука ідзе.* Сямігосцічы.

ОСА′ДА *ж.* Абсада, прысады. *Така осада поўз дорогу і на Оздáмічы і на Мáлы Мáлешоў.* В. Малешава.

ОСА′ДЖВАЦЦА *незак.* Давацъ асадку. *Земля ў печэ́ осаджваецца, трэ робіць с цэглы ўсе.* Цераблічы.

ОСА′ДЖВАЦЬ *незак.* Абсаджваць. *Огорода осаджвающь берозкамі.* Старажоўцы.

ОСАДЗІ′ЦЬ *зак.* 1. Зменшыць, прымусіць аблегчы, зменшыцца. *Пошэптала да осадзіла опух.* Луткі. *Кіслотою ліюць, і вона осадзіць огонь.* Сямігосцічы. *От розышоўса, осадзі горачку!* Азяраны. 2. Навесці, уставіць. *Я ўжэ осадзіў жака.* Луткі. *Трэ осадзіць сокеру.* Старажоўцы. 3. Абсадзіць. *Осадзілі ўліцу дзерэвáмі.*

ОСА′ДКА *ж.* Асадак з вады. *Побач, на дне осадка е?* Луткі. *Воно як на дне сядзе, то ужэ осадка.* В. Малешава. *Набраў гразное воды, поба, осадкі колько.* Старажоўцы.

ОСАМОВІ′ЦЕЦЬ *зак.* Здурнець. *А она осамовіцела, дурнá стала.* Дварэц.

ОСАТАНЕ′ЦЬ *зак.* Зрабіцца раз'юшаным. *Осатанелі людзі ў той лайцы!* Альпень.

ОСВА′РВАЦЦА *незак.* Агрызацца. *Іншы осварваецца, то воны ёго горш цвéляць.* Дварэц.

ОСВЕЦІ′ЦЬ *зак.* Асвяціць. *Освеціў фонарыком.* Старажоўцы. △ О с в е ц і́ б о́ ж э. Пажаданне шчаслівай дарогі. *Освеці тобе божэ дорожку да с комарову ножку* (пажаданне кароткай дарогі ягаднiцам). Старажоўцы.

ОСВО′ЙСТАЦЦА, ОСВО′ЙТАЦЦА *зак.* Асвойтацца, прызвычаіцца. *Воно не боіцца, не дбае, освойсталосо і нішчо.* Цераблічы. *Осво́йтацца.* Там жа.

ОСЕДА′ЦЬ *зак.* Асядаць. *Не поплуве, ужэ воно оседае.* Сямігосцічы. *Воны ж там сотлеюць, дрова, і оседаюць.* Старажоўцы.

ОСЕ′І *мн.* Высеўкі з абтоўчанага проса. *Як здуе чоловека, то трэба даваць з осей луску, шчо з проса тоўкуць.* Сямігосцічы.

ОСЕНЕ'Ю *прысл.* Увосень. *Осенею до арміі іде.* Альпень. *Іней бувае на траве осенею, ек холода.* Альшаны.

ОСЕНІ'НА *ж.* Асенні збор у сялян розных прадуктаў (за паслугі). *Ужэ Шлёма ходзіць у осеніну, як захолодало.* В. Малешава.

ОСЕ'ННІ *прым.* Восеньскі. *На Івана осеннёго у нас ке́рмаш.* М. Малешава.

ОСЕНЧА'К *м.* 1. Жывёліна або птушка асенняга прыплоду. *Як позно цыплята выведуцца, у яком аўгусте, то кажуць осенчакі.* Сямігосцічы. 2. Верхняя жаночая вопратка без падкладкі. Альпень.

ОСЕНШЧЫ'НА *ж.* Асенні збор у сялян розных прадуктаў (за паслугі). Старажоўцы.

О'СЕНЬ *ж.* Восень. *Находзіць осень, трэ картоплі копаць.* Старажоўцы. *Под осень корову продамо́.* Лутκі.

ОСЕ'НЬКА *ж.* Восеньская воўна. Запясочча.

О'СЕНЬЮ *прысл.* Увосень. *Это осенью було.* М. Малешава. *Осенью жолуд трусілі.* Луткі. *Цалу зіму несліса, як почалі осенью.* Сямігосцічы.

ОСЕРЭ'ДОК *м.* Сярэдзіна, цэнтр, месца пасярод поля, лесу. *Там, дзе мага́зін і клуб, там осерэдок села.* Аздамічы. *Тут осерэдок Доўдюко́ў, тут усе, родня. У нас кругом осе́рэдкамі жывуць.* Рубель. *Давай запусцім товар у гэты осерэдок, от скоро наедзяцца.* М. Малешава.

ОСЕ'СЦІ *зак.* Аблегчы, спасці. *П'е соду, шоб жага осела.* Аздамічы. *З рота сіненькі огонёк выскочыць і осядзе.* Луткі.

ОСЕ'ТНІ *прым.* Значны, працяглы (пра час). *Осетню по́ру жду, жду пісьма і не могу дожда́цца.* Старажоўцы.

ОСЁ, ОСЁО', ОСЁСЁ' *часц.* Вось гэта, вось тут. *Осё вода ў пляжцы.* Мачуль. *Осё ў нас колькі хочэце ягод, ходзеце к нам браць.* Кароцічы. *Осёо мы седзелі.* Велямічы. *Сюдэй, кудэй вы шлі, осёо, нельзя було пройці.* Мачуль. *Вале, о Вале! — Осёсё я!* В. Малешава. *Осёсё сокера.* Аздамічы.

ОСЁН, ОСЦЁН *м.*, ОСНЫ', СО'СНЫ *мн.* Рагавы стрыжань пяра. *Шчэ пух не зробіўса, нно осны у ву́тоў.* Луткі. *Гэты осён вуросце ў перыну.* Дварэц. *Я іх церэбіла, церэбіла да шчо ты іх вуцягаеш, тые со́сны?* Хачэнь. Адростак воласа. *Осны на бородзе отрослі.* Аздамічы. Завостраны кіёк. *Як воламі ездзілі, осном пorолі вола.* Сямігосцічы.

*Осны* забівалі ў дрэва над борцю, каб перашкодзіць

мядзведзю дабрацца да пчол; *осны* ўплyталі ў плот ваўкаўні, каб перашкодзіць ваўку выбрацца назад. Аздамічы.

О'СІЛКА *ж.*, О'СІЛОК *м.* Вяроўка з пятлёю. *Целя ўзела на осілку, пока корову доіла.* Сямігосцічы. *Осілка на шыю, да дотуль круціць, покуль задушыць.* Верасніца.

ОСІ'ЛОК *м.* Асілак. *От осілок, здорову!* Запясочча.

ОСІ'НА *ж.* Асіна. *От горкóта, ек осіна.* Старажоўцы. *Памянш.* осінка. *Зáвітку подвешваюць на осінку.*

ОСІ'НОЎКА *ж.* Човен з асінавай калоды. *Осіноўкі булі, то у ее вубіралі серэдзіну, а потом вупарвалі, і вона розгінаецца.* Чэрнічы. *Осіноўкі, ох, воны лёхкіе булі!* Чэрнічы.

ОСІРОЦІ'ЦЬ *зак.* Асіраціць. *Нашчо тобе друга жонка? Ты задумаў своіх дзецей осіроціць?* Старажоўцы.

ОСІЯ'ЦЬ *зак.* Засвяціцца, узрадавацца. *Убачыў, то одразу осіяў.* М. Малешава.

ОСКЛОБА'ЦЬ *зак.* Зняць кару скобляй. Мачуль.

ОСКЛОБІ'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Трэ осклобіць корý з дзерэва, бо прэе под корою, гніе.* М. Малешава.

ОСКОЗО'Б *м.* Пячкур. *Оскозóб — така маленька рыбка, беленька.* Мачуль.

ОСКО'ЛОК *м.* Аскепак. *Як даў гром, дак осколкі поотляталі од вéрбы.* Дварэц.

ОСКО'МА *ж.* Аскома. *Наеласа журавін, то оскома на зубах, трэба солодкого трошкі попіць.* Старажоўцы.

ОСКУБА'ЦЬ *незак.* Аскубаць. *А ў його рукі е оскубаць.* Запясочча.

ОСКУБЦІ' *зак.* Аскубці. *Як ты оскубла, одные осны!* Хачэнь.

ОСКУДЗЕВА'ЦЬ *незак.* Змяншацца, убываць. *А там оскудзеваць дзень почне, збувацца.* Аздамічы.

ОСЛЕДЖА'ЦЦА *незак.* Пакідаць сляды, хадзіць. *Нечого тобе тут оследжацца!* М. Малешава.

ОСЛЕ'ПНУЦЬ *зак.* Аслепнуць. *Такі буў чоловек, дай трэба тобе ослепнуць!* Луткі. *Маці умéрла, а бацько ослёп* (прыказка). Мачуль.

ОСЛІ'НОК *м.* Ёрш. *Ослінкоў наловілі.* Аздамічы.

ОСЛОБОДЗІ'ЦЕЛЬ *м.* Вызваліцель. *Нашы прышлі ослободзіцелі.* Хотамель.

ОСЛОБОДЗІ'ЦЦА *зак.* Вызваліцца. *Шукае выхода, як ослободзіцца.* Аздамічы.

ОСЛОБОНІ'ЦЦА *зак.* Тое ж. *Вон ослобоніўса, хай лынды б'е.* Пагост.

ОСЛОБОНІ'ЦЬ *зак.* Вызваліць. *Можэш ослобоніць место.* Запясочча. *Хай бы прышлі дзеці да поелі ягоды да ослобонілі мне міскі.* Дварэц. *Пошлі да мне ослобонілі дзень.* М. Малешава.

ОСМА'ЛЕНЫ *прым.* Абсмалены. *Только тые осмаленые головешкі лежаць.* Хачэнь. *Бегла свінка золота спінка, осмалены бочок* (загадка). *За́слонка* (адгадка). Старажоўцы.

ОСМЕ'РКНУЦЬ *зак.* Сцямнець. *Товар прышоў, і осмеркло, а ёго нема.* Старажоўцы.

ОСМІ'НА *ж.* Асміна. *Это мера хлеба осміна, это була вона дзве ражкі.* В. Малешава.

ОСМОКТА'ЦЬ *зак.* Абсмактаць. *Осмоктала го́лову з рыбіны.* Старажоўцы.

ОСМО'Л *м.* Смаляк. *Осмол нешчотне смольны, ек красіна горыць.* Луткі. *Крэст з осмола ў мого дзеда, то і цепер стоіць.* Цераблічы.

Сухая смалістая вяршыня хвоі вельмі цанілася як матэрыял і для *осмо́лоў.*

ОСМО'ЛОК *м.* Тое ж. Запясочча.

ОСМУ'КАЦЬ *зак.* Абцягнуць. *А ты осмукаў воза, шоб сено не цяглосо?* Цераблічы.

ОСМУЦЕ'ЦЬ *зак.* Засмуткаваць. *Осмуцела, як дзіця померло.* М. Малешава.

ОСМУ'ЧАНЫ *дзеепрым.* Засмучаны. *Цепер нейкі вон седзіць осмучаны.* Старажоўцы.

О'СМУЧЫ *мн.* Адыходы валакна льну, канапель. *Осмучы этые беруць да прадуць да дзеру́жна этые ткуць з осмучэй.* Старажоўцы.

ОСНІ'К *м.* Асіннік. *У нас порос самы́ оснік.* Запясочча. *Дзве зарослі осовуе, то кажуць: там богато осніку. Оснік, ек лоза: зрэжце с пня — по ўсём попасу наросце.* Памяншь. о с н і ч о́ к. *Чорны Строў — там хвоя, берэза, оснічок.* Кароцічы.

ОСНІ'НА *ж.* Рагавы стрыжань пяра. Запясочча.

О'СНІЦА *ж.* Доўгі завостраны кіёк, якім падганялі запрэжаных валоў. *Без осніцы і ораць не будзеш.* Аздамічы. *Восніца — подогнаць волы — ей кололі волы ў сцегно.* Сямігосцічы. 2. Будынак з асінавага лесу. *Осніцу еку злабудае колісь да жыве.* М. Малешава.

ОСНО'ВА *ж.* Аснова. *У рогожы основа с конопель.*

Луткі. *Основу навіваць трэба.* Аздамічы. *Гэто ўжэ основа пташо́к* (пра шкілет птушкі на малюнку). Хачэнь.

ОСНО'ВАНЫ *дзеепрым.* Аплецены. *Будзе свет основан дротом.* Запясочча.

ОСНОВА'ЦЦА *зак.* Заснавацца. *Як колхоз основаўса, то электрыку провелі.* Дварэц.

ОСНОВА'ЦЬ *зак.* Аснаваць. *Шоб основала і на ўток стало!* (пажаданне пры снаванні красён). М. Малешава. *Як оснуюць хату, то робяць ошчэ́піны.* Сямігосцічы.

ОСНО'ЎНІЦА *ж.* Прыстасаванне для снавання красён (вадзіць ніткі). *Кросна осноўніцэю снуемо.* Хотамель.

ОСО'БЕННО *прысл.* Асобна. *Ей особенно будом слаць.* В. Малешава. *Особенно стоіць хлеў.* Луткі.

ОСО'БНО *прысл.* Тое ж. *Нашэ целя особно пасецца.* М. Малешава.

ОСО'ВІК *м.* Падасінавік. *І осовікі е некіе, я то іх не знаю.* В. Малешава.

ОСО'ВУ *прым.* Асінавы. *Хата ж доўней була осова.* Пагост. *Найлепш осовы частокол.* Луткі. *Осовуе хаты робілі во врэм'я войны.* Запясочча.

ОСОКА' *ж.* Асака. *Одна осока у доліні.* Луткі.

О'СОКОР, СО'КОР *м.* Таполя. *Човен з осокора робіцца або з дуба.* Пагост. *З осокора робілі душогубкі.* Альшаны. *Сокор там стояў.* Кароцічы.

ОСОЛО'ДЖАЦЬ *незак.* Рабіцца салодкім. *Опарыць муку кіпетком, то вона осолоджае.* Пагост.

ОСОЛОДЖА'ЦЬ *зак.* Зрабіцца салодкім. *Кваша осолоджала.* Тураў.

ОСОЛО'ДЖВАЦЬ *незак.* Рабіць салодкім. *У чугуны да ў печ да осолоджвае там.* М. Малешава.

ОСОРНО' *н. экспр.* Асака. *А там осорно о такое!* М. Малешава. *От осорно косіў, ледво косою отвернеш.* Цераблічы.

ОСОРОМОЦІ'ЦЬ *зак.* Асарамаціць. *Осоромоціў ты увесь род свой!* М. Малешава.

ОСО'Т *м.* 1. Азёрны разак. *Осот весною усплывае.* Мачуль. *Осот з воды людзі цегаюць і свінья едзяць.* Цераблічы. *Осот у водзе кучэроваты, свіньям даюць, корова холеру есціме.* Запясочча. 2. Асот палявы. *Зогнало осотом поўнасцю картоплі.* Цераблічы. *З этого оста́ дзелалі махорку.* Луткі. *Осот е колючы, а е, шчо можно брацца.* Велямічы.

ОСО'ЎКА *ж.* Асінавы човен. Рыдча.

ОСОЧЫ'НА *ж.* Ліст асакі. *Осочыною порэзаў палец.* Буразі.

ОСОЧЫ'ЦЬ *зак.* Высачыць. *Осочылі горностая ў корчэ́.* Аздамічы. *У логвé осочылі вóўка.* Альшаны.

ОСТАВА'ЦЦА *незак.* Заставацца. *Коло дзеўкі екой оставайса, колі знайдзеш.* Сямігосцічы.

ОСТАКАНІ'ЦЦА *зак.* Супакоіцца. *Хай побегае, не бойса, остаканіцца.* М. Малешава.

ОСТАНОВІ'ЦЦА *зак.* Спыніцца. *Трэба робіці, трэба й остановіцца.* Луткі.

ОСТА'НОК *м.* Астатак. *Остаўса останок сала, да я його есці не буду.* Старажоўцы. △ З м а л к у і д о о с т а н к у. На ўсё жыццё. *Еке змалку, таке і до останку* (прымаўка). Старажоўцы.

ОСТАНОЎЛЯ'ЦЦА *незак.* Спыняцца. *Нікогда не останоўляйса ночоваць у той хаці, дзе чоловек стары, а жонка молода.* Кароцічы.

ОСТА'РЫЦЦА *зак.* Састарыцца. *Я тут родзіласа дай остарыласа ў Толмáчове.* Талмачава. *Гэта хата ужэ остарыласа.* Старажоўцы.

ОСТА'ТНІ *прым.* Апошні. *Остатне пісьмо лежыць його.* Хотамель.

ОСТА'ЦЦА *зак.* Застацца. *Осталаса одна, ек чэрэціна на пожару.* М. Малешава. *Усе позабіралі, нічогусенькі не осталоса.* Хачэнь. *Трэба ж так поносіць коню, шоб я калекою остаўса!* М. Малешава. *Трэцяя часць тых пчол останецца.* Дварэц. *І лапець стоптаўса, і ззаду не остаўса* (прымаўка, пра басаножкі). Старажоўцы. *Останéсса днем, не дожэнéш і конем* (прыказка). Там жа.

ОСТА'ЧА *ж.* Астатак. *Остачу пілí з водою.* Хачэнь.

ОСТОДО'ЛІЦЦА *зак.* Атабарыцца. *Заехалі до Храпова дуба і там остодоліліса.* М. Малешава.

ОСТО'ПОК *м.* Атопак. *Которы остопок вукінуць у п'ятніцу под вечор, то этым остопком чэрэз молодых перэкінуць, то воны не будуць жэніцца.* Буразі. *Колі кінуць остопок на молодых, то розыдуцца.* Хачэнь. *Остопкі со ўсего села дзеці зношэные збіралі і на Івана Купалного палілі.* В. Малешава. *Остопок — то постол зношэны.* Альшаны. *Колісь остопкі кідалі ў грады, шоб гуркі заўязваліса* (павер'е). Старажоўцы.

ОСТОЎПЕ'ЦЬ *зак.* Аслупянець. *Остоўпела я от страху!* Луткі.

ОСТОЎПІ'ЦЬ *зак.* Паставіць пагранічныя слупкі. *Прыдзем і остоўпім ваш пляц.* Дварэц.

ОСТОЯ'ЦЦА *зак.* Устаяцца. *Рыба остоіцца да зноў будзе чэпляцца.* Луткі. *Вонэ ўжэ так як остóіцца, то можэ і стояць* (пра зруб у калодзежы). Луткі.

О'СТРО *прысл.* Крута. *Столя була гостро покладзена ў курніцы* (столлю быў накот страхі). Сямігосцічы.

ОСТРО'ВА *ж.* Верхавіна дрэва з каротка абрубленымі галінамі, па якой узлазяць на дрэвы. Альшаны.

ОСТРОВО'ДКА *ж.* Ядавітая кіслата, адвар. *Островодкою очы выпаліў.* Старажоўцы.

ОСТРО'Г *м.* Завостраны старчак, бакавы кіпцюр (на назе ў сабакі). *У гончакоў на лапах острогі.* Мачуль.

ОСТРОКВА'СНЫ *прым.* Рэзка кіслы. *Остроквасна яблонька.* В Малешава.

ОСТРОЛЫ'ЧЫ *прым.* Вастралычы. *Як таке гостролычэ поросят, то плохе.* М. Малешава.

ОСТРОМУ'С *м.* Ёрш-насар. *Я іх поўкідáю, этых остромусов, шо то за рыба?* Старажоўцы. *Памянш.* о с т р о м ý с і к, о с т р о м ý с ь к о. Пагост.

ОСТРОМУ'СЫ *прым.* З вострай мысай, мордачкай. *Зараза ты остромуса, таке негодзяшчэ порося!* Старажоўцы.

ОСТРОНО'СЫ *прым.* Вастраносы. *Гостроносы, у кого нос гостры.* Сямігосцічы.

ОСТРОУ'МЕЦ *м.* Кемлівы чалавек. *Мужычок буў буйстры, остроумец!* В. Малешава.

ОСТРОУ'МНЫ *прым.* Кемлівы. *Вы б ее воспіталі, вона остроумна.* Цераблічы. *Островумны быў стары Пінчукоў Даніло, ёго пан на совет зваў.* Сямігосцічы.

О'СТРОЎ *м.* Узвышаная мясціна сярод балота, нізіны. *На том болóці е Гусакóў остроў.* Пагост. *Остроў — вушэйшэ место между болотáмі.* В. Малешава. *Казалі остроў, як дзе яке место кругом доліны, шчо не можно добрацца.* Луткі.

ОСТРО'Ў *м.* Верхавіна дрэва з каротка абрубленымі галінамі, па якой узлазяць на дрэвы. *Гольеватэ, дзерэво обсечэ — от і остроў.* Луткі. Сукаватая жэрдка ў цэнтры стога. *Остроў ставілі, шчоб сено не прэло, як сырэ.* Велямічы. *Памянш.* о с т р о в é ц, о с т р ы в é ц, о с т р о в ó к. *Бабо, давай остроўцэ́ прыстаўляй до стóга!* Мачуль. *Ставіш острыўцá і лезеш на дýба.* Сямігосцічы.

О'СТРЫ *прым.* Востры. *Пілкі булі острые да ўтýп-*

*валіса хутко на оснікў.* Дварэц. Хуткі, прамы. *У нас рэка не сільно острая, то не насыпае* (пра пясок). В. Малешава. Рэзкі. *Одна сестра трохі острэйша була.* В. Малешава.

ОСТРЫ'ГЦІ *зак.* Пастрыгчы. *До году тры раз трэ острыгці дзіця.* М. Малешава.

ОСТРЫ'ЖЭНЫ *дзеепрым.* Пастрыжаны. *Хлопчак острыжэны тоўкачэ́м.* Запясочча.

ОСТРЫ'ЦЬ *незак.* Вастрыць. Хільчыцы.

О'СТУП *м.* Аблава. *У оступ ходзілі на воўкоў.* Велямічы. *Робілі оступ да забілі п'яць воўкоў.* Сямігосцічы.

ОСТУПІ'ЦЦА *зак.* Адступіцца, адысці ўбок. *Оступіса отцюль, Мар'е!* Дварэц. *Оступіцеса, я походжу коло коройкі, то пойдзе.* Хачэнь.

ОСУ'ГА *ж.* Пот. *З мене осуга пошла — і я ужэ ўвесь!* Дварэц.

ОСУ'ДОК *м.* Асуджэнне. *Ні одна ўв осудок не дасць дочкў мою.* Бярэжцы.

ОСУ'ПІЦЦА *зак.* Насупіцца, назмрачнець. *Осупіласа неек уродзі.* Старажоўцы.

ОСУТОНЕ'ЦЬ *зак.* Аціхнуць, супакоіцца. *Бійса ходзіў па селу, розбівайса, а после осутоней.* Альшаны.

ОСУ'ШВАЦЬ *незак.* Асушаць. *Вона осушвае вельмо рану, та трава, той порошок з коўтўнніка.* Лутк.

ОСЦЕЖА'РОК *м.* Адзёнак. *Осцежарок дзе ты робіш, за дубом?* В. Малешава. *Осцежарок добры трэ, тут мокро бувае.* Лутк.

ОСЦЕРЭГА'ЦЦА *незак.* Засцерагацца. *Осцерэгаесса, шоб музыль не лопнуў.* Дварэц.

ОСЦЕРО'ЖНО *прысл.* Асцярожна. *Осцерожно будзь з огнем там!* Старажоўцы.

ОСЦЕРЭГЦІ' *зак.* Засцерагчы. *Господзі упасі і осцерэжы од больніцы!* Цераблічы.

ОСЦЁН *м.* Палка з вострым канцом (якой падганялі валоў у возе). *То осцён, шо волы поролі.* Сямігосцічы.

О'СЦІ *мн.* Восці. *Осці на дзержаку метроў тры-чотыры, шэсць рогоў і на ка́жном за́зубец.* Цераблічы.

ОСЦЮ'К *м.* Асцюк у коласе. *Осцюкі як насыплюцца за шкуру да колюцца.* Старажоўцы.

ОСЫ'ПАЦЦА *зак.* Абсыпацца, апасці. *Вішні осыпаліса, але местамі будуць.* Дварэц. *Гэтой год цвіла, але нешчо осыпаласа* (пра яблыню). Лутк.

ОСЫПА'ЦЦА *незак.* Абсыпацца. *Грушы осыпаюцца, то подбірайце.* Старажоўцы.

ОСЫ'ПАЦЬ *зак.* Абсыпаць. *Еслі ты вуйграеш, я цебе осыплю золотом з ног до головы* (з казкі). Кароцічы.

ОСЫПА'ЦЬ *незак.* Абсыпаць. *Пошла у город осыпаць градкі.* Сямігосцічы. *Аж холодом осыпае, столько немец народу уладзіў!* Дварэц.

ОСЫ'РЫЦЬ *зак.* Пакінуць. *Як мінаецца Тураў, то гора е, казалі, будуць роскопваць, да осырылі, да не копаюць.* Дварэц. *Вон свой загон осырыў, не бороноваў, не полоў.* В. Малешава. *От осырыў мене, ек серод гра́зі.* Луткі. *Осыріла на ёго ўсе і поехала.* Альшаны. *Коб дзед буў дома, то я б усе осырыла б і поехала по ягоды.* Альпень.

ОСЬ *часц.* Вось. *Ось молочка вуп'еце.* Аздамічы. *Ось столько бродзіла по водзе.* Бярэжцы.

ОТ, ОТО', О *часц.* 1. Вось. *От цепер само добрэ пасці.* Луткі. *От просто моглiц хатка.* Чэрнічы. *От пень, от дорога, а под пнем пчолы завеліса.* Хачэнь. *От одэто стало ўжэ после войны.* Тураў. *Ото млін водзяны.* Кароцічы. *Ото о кніга.* Бярэжцы. *Это ж ото за бродом, у этом олешніку, о!* Там жа. *О, зара пойдуць.* Верасніца. *Отак о мнуць, потом зноў.* Пагост. 2. Ну і. *От конь, ек запрэ́жы, аж пляшэ ў возў!* М. Малешава. *От хо́рошэ, то хо́рошэ!* Кароцічы. *Такі хвост у сома, о шырына!* Хачэнь. *Ото сіла, шчо дзерэво рострэпвае!* Сямігосцічы. *Ну ўжэ, здаецца, от легла б да лежала на дорозі, так змучыласа.* М. Малешава. 3. От. *От, я пойду до ёго? Ніколі!* Рамель.

ОТ, ОД *прыназ.* Ад. *От Надзі ўзяла гусей, мо поведуцца.* Верасніца. *Чого ты хочэш от мене?* Пагост. *Поба, мо пісьмо е од бацька?* Луткі. *Од дождж у станок е.* Сямігосцічы.

ОТА'ВА *ж.* Атава. *Як отава поросце, то пускаем туды коні.* Кароцічы. *А шо вон каза́ціме? Ота́ві, кажэ, жджы.* М. Малешава.

ОТА'ВІЦЬ *незак.* Прапускаць траву пры скошванні. *Як коса не берэ, то отавіць.* Аздамічы.

О'ТАЗНЫ *прым.* Вось які, велічэзны. *Булі отазные яблука!* В. Малешава. *Тры кострулі отазные!* М. Малешава.

ОТА'К *прысл.* Вось так. *Пошоў отак і з тым прышоў.* М. Малешава.

О′ТАКІ *займ.* Вось гэтакі. *Отакіе о вуросліі.* Пагост. *Памянш.* о́ т а ч к і, о т а ч э́ ч к і. *Оны ж отачкіе о!* (пра памідоры). Хачэнь. *У одном хлеўчыку, отачэчком тры!* (пра свіней). Луткі.

ОТБЕ′Г *м.* Тармазны кол на плыце. *Такі кол з рожком той отбег; вускочыць на берэг да кідае той отбег.* Старажоўцы.

О′ТБЕРЭЖНІ *мн.* Лёд каля берагоў (у рацэ, на возеры). *Як отберэжні, то во-вот должна рэка стаць.* Старажоўцы.

ОТБЕРЭ′ЖНІК *м.* Тое ж. *На озёрах отберэжнік ужэ е.* Пагост.

ОТБЕРЭ′СЦІЦЬ *зак. экспр.* Пабіць. *Я его́ отберэсціў, по́мніцьме вон мене́!* Сямігосцічы.

ОТБІВА′ЦЬ *незак.* 1. Адгукацца рэхам. *Лес одбіваe голос, бы одгукаецца.* Старажоўцы. 2. Рабіць знак на калодзе (малатком, шнурам). *Бракар адбівае лес, у его молот е.* Цераблічы. *Одбіваюць усю колоду отвесом.* Запясочча.

ОТБІЗОВА′ЦЬ *зак. экспр.* Адлупцаваць. *От я ее отбізоваў дубцэм!* Старажоўцы.

ОТБІРА′ЦЬ *незак.* Адбіраць. *Ведьма ходіть да молоко отбірае.* Альпень. △ О ч ы о д б і р а́ ц ь. Сляпіць. *От ярке, шо очы одбірае.* Старажоўцы.

ОТБІ′ЦЦА *зак.* 1. Адбіцца. *У бутэльцы одбілосо рыло.* Старажоўцы. 2. Адысці ад кампаніі (пра чалавека) ці ад статку (пра жывёлу). *Отбіласа от свекрыві і свой дом построіла.* Хачэнь. 3. Аднераставаць. *Пока язі не отоб'юцца, пло́ткі не поймаеце.* Луткі.

ОТБІ′ЦЬ *зак.* 1. Аддзяліць ударам. *У ёго палцы два одбіло.* Запясочча. 2. Адзначыць. *Ему оддзельну забоко́ўку одбілі коло́чкамі.* Чэрнічы.

ОТБО′РНІК *м.* 1. Гэблік для выбірання паза. Аздамічы. 2. Банка для адстойвання малака. Альшаны.

ОТБОРОНІ′ЦЬ *зак.* Адбараніць. *Трэба одбороніць, а то заб'юць.* В. Малешава.

ОТБУВА′ЦЦА *незак.* Аджываць. *Ужэ ўсе одбуваецца, нема того, шо було.* М. Малешава.

ОТБУ′РЫЦЬ *зак.* Адбуяць. *Отбурыў свое букет ваш, вукінь ёго.* Аздамічы.

ОТБУ′ЦЬ *зак.* Аджыць. *Як поправішса, то одбудзеш, а не поправішса, то і так будзе.* Хачэнь.

ОТВА′ГА *ж.* Адвага. *Отвага у чоловека — Прыпець перэплоў!* М. Малешава.

ОТВА′ЖЛІВУ *прым.* Адважны, рызыкоўны. *Отважліву, на таку отвагу ідзе!* М. Малешава.

ОТВА′ЖЫЦЦА *зак.* Адважыцца, рашыцца. *Одзін отважыўса залезці.* Луткі. *Воны отважыліса да сюдою пошлі.* Луткі. *Як вона отважыласа такое зробіць, а була ціхоня!* М. Малешава.

ОТВА′ЖЫЦЬ *зак.* Адважыць. *Отваж мне сахару.* Старажоўцы.

ОТВАЛІ′ЦЦА *зак.* 1. Адваліцца, адпасці. *І до того наберэцца эта п'еўга́, шо потоўшчэ́е да отваліцца.* В. Малешава. 2. *перан.* Адступіць. *То вот вона, рыба, ідзе, ідзе да прыдзе зімою дай назад отваліцца.* Кароцічы.

ОТВАЛІ′ЦЬ *зак.* Адрэзаць. *Отваліла лусту хлеба, ідзе і комкае.* Старажоўцы.

ОТВЕ′ДАЦЦА *зак.* Адведаць, праведаць. *Поехала погосціць, отведацца.* Бярэжцы.

ОТВЕ′ДАЦЬ *зак.* Тое ж. *Пойду отведаю свою бабу.* Кароцічы. *Не ідзеш отведаць, мо я умёр?* М. Малешава.

ОТВЕ′ДЗІНЫ *мн.* Адведкі. *Як ходзяць у отведзіны, то носяць ладкі.* Мачуль.

О′ТВЕДЫ *мн.* Тое ж. *Як народзіцца дзіця, то йдуць у отведы.* Старажоўцы.

ОТВЕЗА′ЦЦА *зак. перан.* Перастаць прыставаць. *От прывезаўса ко мне, отвежы́са!* Старажоўцы.

ОТВЕЗА′ЦЬ *зак.* Адвязаць. *Отвезаць трэ корову да нехай ідзе. Докуль будзе прыўязана стояць?* Луткі.

ОТВЕЗЦІ′ *зак.* Адвезці. *Коб поездом отоўёз куды кота, то не прышоў бу!* Дварэц. *Отоўёз до рэкі своіх госцей купацца.* Старажоўцы.

ОТВЕРНУ′ЦЦА *зак.* 1. Адвярнуцца. *Трэба от цебе, такое, отвернуцца, хоць ты і маці.* Луткі. 2. Пакінуць чалавека (ў выніку замовы). *Коб пчолы отвернуліса, то шапку вуверне, сорочку і кішэнь, усе!* Луткі.

ОТВЕРНУ′ЦЬ *зак.* 1. Завярнуць ад шкоды. *Ідзі отверні корову, бо вона ў шкоду пошла.* Старажоўцы. 2. Замовіць. *Я знаю, як отвернуць тые вороб'е́, шчоб не пілі просо. Ідуць на могліца, беруць ту мерку да набіраюць земле́ до́света, да чуць свет ідуць на поле і церэз голоў перэкіда́юць.* Верасніца.

ОТВЕСЦІ′ *зак.* Адвесці. *Вон отоўёў стару́ корову на м'ясо.* Дварэц.

ОТВЕЧО'РОК *м.* Адвячорак. *Такі лоўкі одвечорок цепер!* Лутmember.

ОВІ'ЛЬВАЦЬ *незак.* Адвільваць. *Як у тры цэпы молоцілі, то не одвільвалі.* Хачэнь.

ОТВІЛЬНУ'ЦЬ *зак.* Адвільнуць. *Она любіць от важкое роботы отвільнуць.* Старажоўцы.

ОТВО'Д *м.* Манера гаварыць. *Кажнэ село мае свой отвод.* Альгомель.

ОТВО'ЗІЦЬ *незак.* Адвозіць. *Мене бацько отвозіў на станцыю.* Запясочча.

ОТВОРО'Г *м.* Тварог. *А кому ето плохо отворо́г?* Запясочча.

ОТВОРО'Т *м.* Замова. *Вон зробіў отворот, отвернуў хворо́бу.* Цераблічы.

ОТВОРО'ТНО *прысл.* Агідна, брыдка. *Отворотно пахне з печы.* Аздамічы. *Отворотно коня есць.* Запясочча.

ОТВОРО'ТНЫ *прым.* Непрыемны, брыдкі. *Вон такі отворотны, шо не хочу гледзець.* Запясочча. *Жаба чуе воздух, шчо такі ёй отворотны, да ужэ не йдзе ў огород, дзе хлорофос.* Пагост.

ОТВОРО'ЧВАЦЦА *незак.* Адварочвацца. *Перэд отворочваецца от берэга.* Запясочча.

ОТВОРО'ЧВАЦЬ *незак.* 1. Адварочваць. *Сено трэ отворочваць от огня, коб не загорэлоса.* Старажоўцы. 2. Загаворваць. *Его баба пожар отворочвае.* М. Малешава.

ОТВУЧЫ'ЦЬ *зак.* Адвучыць. *Прывукла я швэ́ркаць, то мене трэ отвучыць.* Старажоўцы.

ОТВ'Я'ЗАНЫ *дзеепрым.* Адвязаны. *От'язаны собака наш.* В. Малешава.

ОТВ'Я'ЗЫЧ *м.* Канцы асновы ў кроснах. *Кросна беруць на от'языч.* Аздамічы.

ОТГНЕСЦІ' *зак.* 1. Адціснуць. *Сыр трэба отгнесці.* Запясочча. 2. Адбіць. *Кого першого знайду, тому рэбра одгнету.* М. Малешава. *Отгнелі хрыбці ему добрэ!* Старажоўцы.

ОТГНЕСЦІ'СА *зак.* Адціснуцца (пра сыр). *Положы, дочко, осковік под гнёт, хай отгнецецца.* Пагост.

ОТГОВЕ'ЦЦА *зак.* Разгавецца. *Гусаком отговейса.* Аздамічы.

ОТГОВОРА'ЦЬ *незак.* Адгаворваць. *Ты мене не одговорай робіць, я не з ленівух людзей.* Лутmember.

ОТГОДЗІ'ЦЬ *зак.* Аддзякаваць. *Трэ ей чым-небудзь отгодзіць.* Старажоўцы.

ОТГО'Н *м.* △ Н е м а́ о т г о́ н у. Пра навалу птушак, жывёл. *Ох, мамонько, нема отгону от шпакоў!* Верасніца. Н е м о ж н о о т г о н у д а ц ц а. Тое ж. *У городзі жукоў — не можно отгону дацца!* Тураў.

ОТГОНЯ'ЦЬ *незак.* 1. Адганяць. *Пойду свінье отжэнý.* Старажоўцы. 2. Мець пах, прысмак. *Вода одгоняе болотом.* Кароцічы. *М'ясо чаплі рыбою одгоняе.* Луткі.

ОТГОРНУ'ЦЬ *зак.* Адсунуць, адкінуць. *Снег жэ буў да трохі одгорнулі.* Пагост.

ОТГОРО'ДЖЭНЫ *дзеепрым.* Адгароджаны. *У одрыні особно одгороджэно на свінье, на целя.* Луткі. *Такі зáсек одгороджэны.* Там жа.

ОТГОРОДЗІ'ЦЬ *зак.* Адгарадзіць. *Хоцеў у одрыне одгородзіць хлеў целяці.* М. Малешава.

ОТГОРЭ'ЦЬ *зак.* Адпасці ад спёкі. *Одгорэлі ўсе яблука і сыплюцца.* Сямігосцічы.

ОТГОЎЛЯ'ЦЦА *незак.* Разгаўляцца. *Одгоўляюцца ейцэм поперэду.* Луткі.

ОТГРЭ'БАЦЬ *незак.* Адкопваць. *Весной одгрэбалі землю од сцены, шоб не прэла сцена.* М. Малешава.

ОТГРЭ'БЦІ *зак.* Адкапаць, адрыць. *А снегу, що не можно колодзезя одгрэбці.* Запясочча. *Упала булочка, вон шчэ і ногою отгроб, шоб не мешáла лю́дзям* (пра адносіны да прадуктаў). В. Малешава.

ОТГУ'К *м.* Рэха. *Усерайнó одгук будзе з лесу.* Старажоўцы.

ОТГУ'КВАЦЦА *незак.* Адгукацца. *Засéрдзіласа, шо не хочэ одгуквацца.* Старажоўцы.

ОТДАВА'ЦЬ *незак.* 1. Аддаваць, уручаць. *Оддавай мне рубéль.* Бярэжцы. 2. Мець прысмак. *Хлеб цвільмо оддаé.* Запясочча. *Мое молоко не оддае козою.* Хачэнь.

ОТДА'ЛЕЧ *прысл.* Здалёк. *Я слéдом, следом да отдалеч іду.* Дварэц.

ОТДАЛЁК *прыназ.* Воддаль. *Але я бояласа, оддалёк ёго ходзіла.* Луткі.

ОТДА'ЦЬ *зак.* Аддаць, вярнуць узятае, уручыць. *Оддаў пяць пудоў пшэніцы.* Кароцічы. *А колько оддалі за козу?* Хачэнь.

ОТДА'ЧА *ж.* Карысць, выдатак. *Такá з ёго оддача, с того сена, абы товар жыве.* Аздамічы.

ОТДЗЕ'Л *м.* △ Н а о т д з é л і. Асобна ад бацькоў. *Сын у мене е на оддзелі.* В. Малешава. *Було шэсць сыноў,*

*то тры ужэ булі на оддзелі, а тры з бацьком жылі.* Старажоўцы.

ОТДЗЕЛІ'ЦЬ *зак.* Аддзяліць. *Мене трэ от мацер оддзеліць, то не буду плаціць за соткі.* Старажоўцы.

ОТДЗЕ'ЛЬНО *прысл.* Асобна. *Оддзельно хлеў на свінья.* Луткі.

ОТДЗЕЛЯ'ЦЬ *незак.* Аддзяляць. *Оддзеляюць цветы по сорта́м.* Дварэц.

ОТДЗЕ'РЦІ *зак.* Аддзерці. *Оддзерла трапку.* Бярэжцы.

ОТДЗЮБА'ЖЫЦЬ *зак.* Пабіць, адлупцаваць. *От зара я цебе оддзюбажу, одбізую!* Старажоўцы.

ОТДЗЮ'ЖЫЦЬ *зак.* Тое ж. *От прыду да оддзюжу, Васілько, не дурыса!* Луткі.

ОТДЗЯ'НІЦЬ *зак.* Адкрыць насцеж. *На дворэ такі мороз, а ты дзверы, хлопчэ, отдзяніў.* Пагост. *Отдзяніў дзверы да ўсе цепло́ поўпускаў.* Верасніца.

ОТДЗЯ'ЧЫЦЬ *зак.* Аддзякаваць. *Вон покосіў, дак Марына ему оддзячыла добрэ!* Бярэжцы.

О'ТДЫХ *м.* Адпачынак, перадышка. *Ка́чкі — гэто така худоба, шо без оддыху можэ есць.* Кароцічы. *Ему оддыха ніколі не було.* Дварэц.

ОТДЫ'ХАЦЬ *зак.* Адпачыць, перадыхнуць. *Рад бы і оддыхаць, але трэ, коб не остацца.* Цераблічы. *Хто после обеда не оддышэ, того бог за свінью запішэ, но хто й оддыхае, то й того не мінае* (прымаўка). Старажоўцы.

ОТДЫХА'ЦЬ *незак.* Адпачываць. *От утоміласа, робіць, ніяк не оддыхае.* Бярэжцы. *Мое хлопцы мо оддыхаюць, а мо пішуць.* Хачэнь. *Не вельмі того бог кохае, хто оддыхае* (прымаўка). Старажоўцы.

ОТДЫХНУ'ЦЬ *зак.* Аддыхнуць. *Сяду тут оддыхну.* Кароцічы.

ОТДЫХО'ТА *ж.* Адпачынак. *Ні робота, ні оддыхота* (прымаўка). Аздамічы.

ОТДЫ'ШКА *ж.* Тое ж. *Сяка-така дожджышка, да ўсе лю́дзям оддышка* (прымаўка). Луткі.

ОТ'ЕДА'ЦЬ *незак.* 1. Ад'ядаць. *Кот у па́ца от'едае го́лову.* Старажоўцы. 2. Адсякаць, забіваць джалам. *Унадзіліса шэ́рсні да от'едаюць пчолы.* Луткі.

ОТ'ЕЖДА'ЦЬ *незак.* Ад'яжджаць, адыходзіць, адпраўляцца. *У колькі етой аўтобус от'еждае?* Запясочча.

ОТ'Е'СЦІ *зак.* 1. Ад'есці, адкусіць. *От'еў го́лову ў рыбіны і кінуў.* Старажоўцы. *Блешню́ у мене шчука от'ела.*

Сямігосцічы. 2. Адсекчы, забіць джалам. *От'елі пчолы трутнёў.* Луткі. *Неяк у хату улезла, бу целята езыка от'елі — моўчыць дай годзі!* Старажоўцы.

ОТ'Е'СЦІСА *зак.* 1. Наесціся, насыціцца, перастаць хацець. *Така смачна, шо не можно от'есціса.* Дварэц. *Жоўтые, ну, не од'есціса, такіе смашные!* Хачэнь. 2. Распаўнець ад добрага харчу. *От от'еласа, мо ужэ тону важыць!* (жарт). Старажоўцы.

ОТЗО'Ў *м.* Водгук. *Нідзе і отзову не було годоў шэсць, нідзе не отозваўса.* Дварэц.

ОТЗЫВА'ЦЦА *незак.* Адгукацца. *Одзываецца болесць його зноў.* Сямігосцічы.

ОТЗЫВА'ЦЬ *незак.* Адклікаць. *Нешчо отзывае вон мене, хочэ нішчэчком поговорыць зо мною.* Старажоўцы.

ОТЗЫ'РЫЦЬ *зак.* Абсячы, адсцябаць. *Одзыру розкою, то будзеш плакаць.* М. Малешава.

ОТЗЯ'ПІЦЬ, ОТДЗЯ'ПІЦЬ *зак.* Раскрыць насцеж. *Отзяпіў дзверы наўсцяж!* Старажоўцы. *Дзверы оддзяпіў, холоду напусціў, ек малэ!* Пагост.

ОТКАЗА'ЦЦА *зак.* Адмовіцца. *Не берыце ў рукі яйца, бо откажэцца пташка от кубла.* М. Малешава.

ОТКАЗА'ЦЬ *зак.* Завяшчаць. *Бабка замоўляла кроў, вона умёрла і нікому не отказала.* Луткі. *Гэтэ самэ, шо ведзьмар знае, то ужэ ему трэба кому-небудзь отказаць.* Хачэнь.

ОТКА'ЗВАЦЦА *незак.* Адмаўляцца. *От мерцвеца отказвацца не трэба, бо грэх велікі* (пра дзяжурства пры нябожчыку). Старажоўцы.

ОТКА'ЗВАЦЬ *незак.* Адказваць. *То ву тэ ж самэ ей откáжэце.* М. Малешава.

ОТКАРА'ЧКАЦЦА *зак.* Адкараскацца. *От хворэла, аж лед откарачкалас!* Луткі.

ОТКАЧА'ЦЬ *зак.* 1. Адратаваць, прывесці да прытомнасці (тапельца). *Утопіўса, да отратовалі его, ледво откачалі.* Аздамічы. 2. Адкласці вушы ў шапцы, каўнер, адкасаць рукаў, штаны і г. д. *Откачай штаны, шоб було хорошэ.* Старажоўцы.

ОТКА'ЧВАЦЬ *незак.* Адкачваць, прыводзіць у прытомнасць (тапельца). *Откачвалі, як утопіласа, і откачалі.* Старажоўцы.

ОТКІДА'ЦЦА *незак.* Адпадаць, адпускаць. *Мороз откідаецца.* М. Малешава.

ОТКІ'ДАЦЬ *зак.* Адкінуць. *Ты мне жэлезняка дай откідаць песок.* М. Малешава.

ОТКІДА'ЦЬ *незак.* 1. Адкідаць. *Серпа́, ко́су откідалі от себе, ек грыме́ло.* Хачэнь. *Ніхто не откідае, шчо даюць.* Хотамель. *Наговорыць, хоць мешкі одкідай!* В. Малешава. 2. Адымаць. *Целя трэба откідаць от коровы.* Аздамічы.

ОТКІ'НУЦЦА *зак.* Адвярнуцца. *Вусватай, а потом от дзейкі откінуйса. А шо за прычына, не знаю.* Старажоўцы.

ОТКІ'НУЦЬ *зак.* 1. Адпасці, адпусціць. *То добрэ, шо откінуў буў мороз.* Пагост. 2. Адняць. *Откіне от свіньі поросята да продае́.* Лутні. 3. Змясціць для сцэджвання (пра твораг). *Клінóваст мо е, то откінемо молоко.* Запясочча.

ОТКІСА'ЦЬ *незак.* 1. Пракісаць. *Стаўлю гладышкі откісаць.* М. Малешава. 2. Вымочвацца. *Слалі полотно на майну́, шоб откісало.* Цераблічы.

ОТКІ'СНУЦЬ *зак.* 1. Скіснуць. *Ужэ молоко откісло, хай оттопіцца.* Старажоўцы. 2. Вымачыць. *Пра́нье у начоўках к вечэру откісне.* М. Малешава.

ОТКОРМІ'ЦЬ *зак.* Адкарміць. *Коней откормілі, булі хорошые!* Запясочча.

ОТКОСІ'ЦЦА *зак.* Адрабіць касьбою. Откосіцца трэбо, *шчо помоглі.* Бярэжцы.

ОТКОСІ'ЦЬ *зак.* Адкасіць. *Я ужэ откосіў свое!* Лутні.

ОТКОСНУ'ЦЦА *зак.* Адкаснуцца. *Откосніса од мене, сатанó! Чого ты прычэпіўса?* Старажоўцы.

ОТКОЦІ'ЦЦА *зак.* 1. Адкаціцца. *Мне здаецца, от серца откоціцца, як коўтну молока.* М. Малешава. 2 *перан.* Адсыпацца. *Цепер нема вішэнь, усе откоціліса.* В. Малешава.

ОТКОЦІ'ЦЬ *зак.* Адкаціць. *Поможы откоціць кáдоўба.* М. Малешава.

ОТКО'ЧВАЦЦА *незак. перан.* Адыходзіць, адмаўляцца. *Домоўляліса гуртом зробіць, не откочвайса!* М. Малешава.

ОТКО'ШВАЦЬ *незак.* Адкошваць. *От ты тут будзеш откошваць нам дорогу.* Старажоўцы.

ОТКО'ШКАЦЦА *зак.* Адкараскацца. *Такая була негожа, шчо лед откошкаласа, лед открыяла от хворобы.* Лутні.

ОТКРАСОВА'ЦЦА *зак.* Адцвісці. *Открасовалосо ўжэ жыто, налівaецца.* Бярэжцы.

ОТКРА′СЦІ *зак.* Адкрасці, украсці ў злодзея. *Той украў да сховаў, а той открау.* Сямігосцічы.

ОТКРОМІ′ЦЬ *зак. перан.* Адрэзаць. *Хлеба откромію лусту!* Альшаны.

ОТКРОПІ′ЦЬ *зак.* Адлупцаваць. *От открoплю цебе хорошэнько да прокiвою!* Старажоўцы.

ОТКРУ′ЖВАЦЬ *незак.* Адкружваць, абразаць лісце буракоў. *Откружваюць гічкі буракоў.* М. Малешава.

ОТКРЫЯ′ЦЬ *зак.* Паздаравець. *Як хворы, то не кагуць помрэ, а мо открыяе.* Бярэжцы. *Открыяў трохі за зіму.* Запясочча. *Открыяў да зноў за свое.* М. Малешава.

ОТКУ′ЛЬ, ОТКУ′ЛЯ *прысл.* Адкуль. *Соберуцца родзічы немоўгаду откуль!* Чэрнічы. *Откуль не будзе хмара, то дождж ідзе.* М. Малешава. *Откуля ты? — Да с Турова.* Запясочча. *Хто откуля тут людзі: і з Вересніцы, і з Малешова, і с Сторожоўцаў.* Дварэц.

ОТКУПІ′ЦЦА *зак.* Адкупіцца. *Грошы е, то откупісса.* Сямурадцы.

ОТКУСІ′ЦЬ *зак.* Адкусіць. *Мацёра вухо откусіла у сукі.* Мачуль.

ОТЛЕГА′ЦЬ *незак.* Рабіцца вільготным, сырым. *Нішчо так не угадвае негоду, як соль: ек на погоду — соль сухая, на негоду — мокрая, отлегае.* Бярэжцы. *Отлегае рыба, як недосушэна.* Чэрнічы.

ОТЛЕГЦІ′ *зак.* Адпасці (пра мароз), зрабіцца сыраватым, мяккім. *Мороз отлёг, поцеплело.* Старажоўцы. *Отлеглá у сенях боханка да зробіласа м'яккá.* М. Малешава.

ОТЛЕЖА′ЦЦА *зак.* Ляжаць доўга, наляжацца. *Ох, отлежаласа я ў больніцы!* М. Малешава.

ОТЛЕ′ЖВАЦЦА *незак.* Даспяваць, улежвацца. *Гарбýзы отлежваюцца.* Луткі. *Яблука отлежваюцца ў снопах.* Старажоўцы.

ОТЛЕПІ′ЦЬ *зак.* Адляпіць. *Прыліпло нешчо, отлепі.* Старажоўцы.

ОТЛЕЧЫ′ЦЬ *зак.* Вылечыць, дабіцца таго, каб стаў нармальным. *Як його отлечыш, як такое родзіцца.* Бярэжцы.

ОТЛЁТ *м.* Бойкі гарэза, штукар. *Вот дзеўка, отлёт, танцуе хóрошэ!* Запясочча. *Мало е такіх отлётоў, што вурве його, тое зелье, на купального Івана.* Пагост.

ОТЛІ′ГА, ОТЛЁГА *ж.* Адлега. *Кот лежыць на подлозі, то будзе отліга, і як дзе комар найдзецца ў хаці да*

*лётае, таксамо отліга.* Аздамічы. *Лінок у кош зімою улезе — на одлігу.* Мачуль. *Коса тонenька у кабана, то будзе одлёга.* Хачэнь. *Як дым па́дае, то будзе отліга.* Хачэнь. *Корова вішла с хлева, будзе отліга, мороз отляжэ.* В. Малешава. *Отлёга будзе, як собака качаецца по снёгу* (прыкмета). Старажоўцы.

ОТЛІ'ГНУЦЬ *зак.* Зрабіцца вільготным, сырым. *Отлігне́ сено, да не хочэ корова есці.* М. Малешава. *Запалкі отліглі, не запальваюцца.* Сямігосцічы.

ОТЛІ'Ў *м.* Стрэшка над сцяной пад франтонам. *Дошка така для отліва, шоб сцену не забівало.* Верасніца.

ОТЛІЧА'ЦЬ *незак.* Адрозніваць. *Ужэ крэмя́нского чоловека я отлічаю.* Буразі.

ОТЛІЧЫ'ЦЬ *зак.* Адлічыць. *Трэба отлічыць семдзесят пшэнін.* Луткі.

ОТЛОЖЫ'ЦЬ *зак.* Адкласці, адкрыць закладку. *Люшку отложыла да дух пошоў.* М. Малешава.

ОТЛОМА'ЦЦА, ОТЛОМІ'ЦЦА *зак.* Адламацца. *Галіна як трэсне і одломалаcа.* М. Малешава. *Сухі сук отломіўса.* Луткі.

ОТЛОМА'ЦЬ, ОТЛОМІ'ЦЬ *зак.* Адламаць. *Я отломаю кусочок, мамо!* М. Малешава. *Отломі хлеба да дай коту.* Старажоўцы.

ОТЛУПА'ШЫЦЬ *зак.* Адлупцаваць. *Так ёго отлупашыў, шо дзецца недзе!* Запясочча. *Отлупашыў ее, коб вона знала свое гусі.* Старажоўцы.

ОТЛУЧЫ'ЦЬ *зак.* Адняць, адсадзіць. *Я своє дзіця одлучыла ўжэ.* Аздамічы. *Ужэ мое целя веліке, трэ отлучыць.* Азяраны. *Отлучыла от цыцкі, хай на своём хлебе жыве.* Хачэнь.

ОТМА'НВАЦЬ *незак.* Адымаць падманам. *Звыклі отманваць от другого.* Аздамічы.

ОТМАНТУ'ЛІЦЬ *зак.* Пабіць. *Отмантуліў коня, шчо вон здох!* Сямігосцічы.

ОТМА'ХВАЦЦА *незак.* Адмахвацца. *Вуломайце па́ша да отмахвайцеса от комароў.* Старажоўцы.

ОТМАХНУ'ЦЦА *зак.* Адбіцца, даць адпор. *П'яны, то вон не одмахнецца і од бабы.* Хачэнь.

ОТМА'ЯЦЬ *зак.* Прывесці ў прытомнасць. *Ледзь отмаялі тую Матруну.* Запясочча. *Коб воды, мо б отмаялі хлопца.* Дварэц.

ОТМЕ'ЛІСТЫ *прым.* Адложысты. *Е прыкры берэг і е одмелісты.* Альшаны.

ОТМЕ'НА *ж.* Адрозненне. *Ё отмен богато у кажном селе.* Цераблічы.

ОТМЕНІ'ЦЬ *зак.* Замяніць, падмяніць. *Тато, ідзі бабу отмені коло гусей.* Цераблічы. *Ідзі мацер отмені, да мацер поснедае.* Аздамічы. *Я сем год короў пасла́, і ніхто ні разу не отменіў.* В. Малешава.

ОТМЕ'НКА *ж.* Падмен, замена. *Отменкі мне нема целята пасці.* М. Малешава.

ОТМЕ'НШЫЦЬ *зак.* Зменшыць. *Перэдаў на перэсужджэніе, то ці отменшылі, ці добавілі.* В. Малешава.

ОТМЕ'НЬВАЦЬ *незак.* Падмяняць, замяняць. *Я отменьвала брата, як товар пас.* Лутпкі.

ОТМЕ'РАЦЬ *зак.* Адмераць. *Отмерай мне участок косіць.* Старажоўцы. *Сем раз отмерай, одзін раз отрэж* (прыказка). М. Малешава.

ОТМЕ'РЦІ *зак.* Адмерці. *Прышло урэм'е ужэ цыбулі отмерці.* Старажоўцы.

ОТМЕ'ТА *ж.* Прыкмета, знак. *Такіх отмет много е ў старых.* Цераблічы.

ОТМЕ'ТНО *прысл.* Прыкметна, адрозна. *Отметно, далеко відно́!* Цераблічы.

ОТМЕ'ТНЫ *прым.* Адрозны. *Не будзь отметны: шо на людзя́х, то й на тобе.* Верасніца. *Як мы здамо́, то нашэ одметнэ целя.* Луткі. *Горыньска вода одметне́йша, не така, як наша.* Цераблічы.

ОТМІРА'ЦЬ *незак.* Адміраць. *Цепер старэ́ отмірае.* М. Малешава.

ОТМО'КЦІ *зак.* Змокнуць. *Отмок, шо сухого места не було!* Старажоўцы.

О'ТМОЛОДЗЬ *ж.* Маладыя парасткі. *Пошла отмолодзь, то в'яз усохне.* Сямігосцічы. *Бодылье збуяло і вотмолодзь не пошла.* Хачэнь. *Вотмолодзь по тобе ўжэ ідзе!* (пра няголенага). Запясочча.

ОТМО'Р *м.* Адмёршыя пчолы. *После зімы одмор дзелаецца ў пчол, можэ, поўро́я одмоы́цца.* Мачуль. *У не́йкоторых на два палцы тоўшчыны получыцца отмору.* Дварэц.

ОТМОРО'ЗІЦЬ, ОТМУРО'ЗІЦЬ *зак.* Адмарозіць. *Отморозіў пушкі на пальцах.* М. Малешава. *Отмурозіў вушы.* Старажоўцы.

ОТМОРЫ'ЦЬ *зак.* Даць здачы. *То я ему і отморыў хорошэнько!* Луткі.

ОТМО'ЧВАЦЬ *незак.* Адмочваць, вымочваць. *Отмочваюць лыкі на лапці.* Дварэц.

ОТМОЧЫ'ЦЬ *зак.* Адмачыць, вымачыць. *От отмочыло, от вумок!* Луткі.

ОТМУВА'ЦЬ *незак.* Адмываць. *Трэ отмуваць окно от краскі.* Старажоўцы.

ОТМУ'КАНЫ *дзеепрым.* Адамкнуты. *А як? Замукнуць? — Не, нехай отмуканэ.* Кароцічы.

ОТМУКА'ЦЬ *незак.* Адмыкаць. *Там о ключ, отмукай сам да ходзі, еслі тобе трэба.* Старажоўцы.

ОТМУКНУ'ЦЬ *зак.* Адамкнуць. *Вон сам одмукнé дзверы.* Запясочча. *Прыбежыць да одмукне нам хату.* Хотамель.

ОТМУ'ЦЬ *зак.* Адмыць. *Так заносіў, як ёго зара отмуць?* Старажоўцы.

ОТНЕСЦІ' *зак.* Аднесці. *Отнеслá бутылку — ганьбу дала.* Бярэжцы. *Я за слоніка да отнеслá.* Запясочча.

ОТНІМА'ЦЬ *незак.* Адымаць. *Суторгі пошлі по нозе, шо і нóгу отнімае.* Старажоўцы.

ОТНЯ'ЦЬ *зак.* Адняць. *Ему і рэч отнялó.* В. Малешава.

ОТОБРА'ЦЬ *зак.* 1. Адабраць, адняць сілаю. *Отобралі кóсу і поломалі косьé.* М. Малешава. 2. Пазбавіць здольнасці (валодаць, адчуваць, даваць і інш.). *Отобрало ему бóка.* Бярэжцы. *Яблуко так отберэ апеціт, шо нічого не хочэш есці.* Луткі. *К старосці ногі отобрало.* М. Малешава. *Хто-то отобраў молоко ў корову.* Запясочча.

ОТОДРА'ЦЬ *зак.* Аддзерці. *Отодраў корыну — а там чэр'якоў!* Старажоўцы.

ОТОЗВА'ЦЦА *зак.* Адклікнуцца. *Лёг, чуе, воўкі отозваліса.* Луткі. *А коб тобе мурнуў, коб тобе отозваўса!* Буразі. *Як гукнеш, так і отзовецца* (прыказка). Старажоўцы.

ОТОЙЦІ' *зак.* Адысці, адстаць. *Верхня скорка одойдзе* (пра бохан хлеба). Мачуль. *Этэ усе вашэ колішне отойдзе!* Пагост. Вярнуцца ў нармальны стан. *Мо гуркі отойдуць у водзе.* Луткі. *Отыйшоў конь, да екі зробіўса конь!* Хачэнь.

ОТОМСЦІ'ЦЬ *зак.* Адпомсціць. *Скачала ей огород, отомсціла!* Аздамічы.

ОТОЛОЧЫ'ЦЦА *зак.* Супакоіцца, сцішыцца. *Отолочылаcа вода под вечор.* М. Малешава.

ОТОМШЧА́ЦЬ *незак.* Адпомшчваць. *Я ему отомшчаць не буду.* Хачэнь.

ОТО́РА *ж.* Частка загона. *На полосе тры оторы.* Запясочча. *Отору картоплёў розогнаў.* Дварэц. *Цэ́лу ото́ру жжа́ла.* Цераблічы. *Памянш.* о т о́ р к а. *Посеяў дзве оторкі картоплеў.* Запясочча.

ОТОРА́ЦЬ *зак.* Адараць. *Гледзі не оторы́ межы́!* Старажоўцы.

ОТО́РВАЦЦА *зак.* Адарвацца. *Дзерэвін п'яць одорвецца, да іх гоняе по озеру* (пра плыт). Мачуль.

ОТОРВА́ЦЬ *зак.* Адарваць. *Клей на вішні е, вон як очэ́піцца за зуба, то не оторвеш.* Цераблічы.

ОТО́СА, ОЦЁСА *ж.* Атоса. *На воз трэ дзве отосы.* М. Малешава. *Отосы коліся робілі з вероўкі, а ек я стала знаць, то з жэлеза.* Верасніца. *Оцёса.* Хотамель.

ОТОТКНУ́ЦЬ *зак.* Адрэзаць, адмераць. *Ототкнуў сусед свого огорода, да сын поставіў хлева.* Хачэнь. *С колхозного масіва ототкнуць* (пра месца пад хату). Дварэц.

ОТО́ЧЫНЫ *мн.* Лой. *Оточыны — жыр на кішках.* Запясочча. *Наобірала оточын с кішок колько!* Бярэжцы. *Кабана под Нову год доброго забілі, бач, колькі оточін натопіла.* Пагост.

ОТПАДА́ЦЬ *незак.* Адыходзіць, знікаць. *Прышло урэм'е — усе ўжэ отпадае старэ́.* Старажоўцы.

ОТПА́ДВАЦЬ *незак.* Ападаць. *Колі воны будуць отпадваць?* Дварэц.

ОТПА́ДЗЕНЫ *дзеепрым.* Адпалы. *Коло пло́та лежыць отпадзена гарбу́за.* Хачэнь.

ОТПА́РЫЦЦА *зак.* Адапрэць. *Помочыса ў обуі, то отпарацца ногі.* М. Малешава.

ОТПА́РЫЦЬ *зак.* Адпарыць, прапарыць. *Бочку трэба отпарыць.*

ОТПА́СЦІ *зак.* Адпасці, асыпацца. *Цвет отпадзе́ — ужэ едзяць!* (пра яблыкі). Луткі. *Хай отпа́дзе боро́даўка сама.* Бярэжцы. *Прышоў Петрок — отпадзе лісток, а прыдзе Ілья — отпадзе два* (прыказка). Цераблічы. Адысці ў нябыт. *І ўсе отпало. Рэдко хто ужэ прадзе, рэдко хто тчэ.* Пагост.

ОТПАСЦІ́СА *зак.* Адкарміцца на пашы, ад'есціся. *Отпаслас твоя корова, гладка́.* В. Малешава. *Отпасса кот за зіму́.* Там жа.

ОТПА́СЦІЦЬ, ОТПАСЦІ́ *зак.* Адпасвіць. *Одпасціў*

*товар тры годы*. Запясочча. *Чэргу трэба отпасціць*. Старажоўцы.

ОТПЕКЦІ'СА *зак*. Адстаць ад скарынкі ў печы. *Мой хлеб отпёкса цепер*. Луткі. *Хлеб отпёкса, отстаў от скоркі*. Аздамічы.

ОТПЕ'РЦІ *зак*. Праперці. *К чорту отопёр бу его!* М. Малешава. *Ой, смерці не отперці* (прымаўка). Хачэнь.

ОТПЕ'РЫВАЦЬ *незак*. Адмываць. *Дзеўкі позоляць бельё, да отперваюць*. Хотамель.

ОТПІРА'ЦЦА *незак*. Адмывацца. *Не отпіраюцца штаны, шо тым штанам робіць?* М. Малешава.

ОТПІРА'ЦЬ *незак*. Адмываць. *Цепер отпіраюць, а назаўтра позоляць і чысто перуць*. Старажоўцы.

ОТПІ'ЦЦА *зак*. Наталіць смагу піццём. *Як жарко, не отоп'есса от воды*. Луткі. *Вот поеў рыбкі! Не можно дацца, коб отпіцца воды*. Старажоўцы.

ОТПЛУВА'ЦЬ *незак*. Адплываць. М. Малешава.

ОТПЛУ'ЦЬ *зак*. Адплыць. *Ужэ отплуў далеко, давай назад*. Тураў.

ОТПРАЎЛЯ'ЦЬ *незак*. Адпраўляць. *Отпраўляймо его, нашчо вон нам!* М. Малешава. △ О т п р а ў л я́ ц ь д з е д ы́. Адзначаць памінкі. *Пойду ўжэ отпраўляць дзеды*. Цераблічы.

ОТРАВІ'ЦЬ *зак*. Атруціць. *Дзе ж того колорадского жука́ отравіш, як вон под лісто́м седзіць*. Луткі.

ОТРА'ЗУ *прысл*. Адразу. *Колісь то перву страву ставілі на веселы, другую, трэцюю, а цепер то усё одразу*. Дварэц. *Як умрэш на крэшчэнье, то одразу у рай пойдзеш*. Цераблічы.

ОТРА'М *м*. Трама. *Балкі ложылі на отрам*. Сямігосцічы.

ОТРАТОВА'ЦЬ *зак*. Адратаваць. *Утопіўса, да отратовалі его, откачалі*. Аздамічы.

ОТРАТО'ЎВАЦЬ *незак*. Адратоўваць. *Бежы домоў, будзеш ёго одратоўваць*. Цераблічы.

ОТРОБІ'ЦЬ *зак*. Адпрацаваць, знявечыць працай. *Одробіў рукі, сілу оддаў у пана*. М. Малешава. Абрабіць. *Коб гэто сено отробілі сёгодні*. Сямігосцічы.

ОТРОБЛЯ'ЦЬ *незак*. Адпрацоўваць, працаваць па прымусу. *Буў сірота і ходзіў одробляць паншчыну*. Мачуль.

ОТРОБО'ТОК *м*. Праца за арэнду, за доўг і інш.

*Едзьмо к пану да озьмем картоплі на отроботок.* Луткі.

ОТРО'ДОК *м.* Выхадзец з роду, племя, прыналежны да яго па паходжанню. *Усіх потравіла б, шчоб і отродка не осталоса!* (пра п'яніц). Верасніца. *Это от мое корову отродок.* М. Малешава. *Нема ніякого отродка, усе згінулі.* Луткі.

ОТРО'ЗНІЦЬ *зак.* Памясціць у розныя месцы, адасобіць. *Як случаем свіньья кусаюцца, то трэба поставіць іх покром, одрозніць.* Кароцічы.

О'ТРОСЛЯ *ж.* Адросткі. *Які куст, така і отросля* (прыказка). Верасніца.

ОТРО'СТВАЦЬ *незак.* Адрастаць. *На ём корэнье одроствае.* Сямігосцічы.

О'ТРОСЦЕНЬ *ж.* Парастак. *Отростае отросцень от пня.* Старажоўцы.

ОТРОСЦІ' *зак.* Адрасці. *Отава одросце.* Запясочча. *Покос одрос, добра паша стала.* Цераблічы.

О'ТРОСЦЬ *ж.* Парасткі. *Доброго куста добрая отросць* (прыказка). М. Малешава.

ОТРУБА'ЦЬ *зак.* Адсекчы. *Возьмі да одрубай ей голову сокерою.* Хачэнь.

ОТРУБІ'НЫ *мн.* Вотруб'е, высеўкі. *На отрубінах дзечыха хлеб пекла, а мацер на лісту.* М. Малешава.

О'ТРУБЫ' *мн.* Тое ж. *Ховаюць, ховаюць эту пшэніцу, да зробяцца одные óтрубы.* Хачэнь. *Отрубы́ — то ўжэ половіна з зерном.* Цераблічы.

ОТРУІ'ЦЦА *зак.* Атруціцца. *Напоілі мене чэмерыцою, лед я не отруіласа.* М. Малешава.

ОТРУІ'ЦЬ *зак.* Атруціць. *Чоловека отруілі.* Аздамічы.

ОТРУСІ'ЦЬ *зак.* Абтрэсці. *Трэ отрусіць грушу.* Старажоўцы.

ОТРУ'ТА *ж.* Атрута. *Строіла отруту на мухі.* Аздамічы.

ОТРУЦІ'ЦЦА *зак.* Атруціцца. *Пані отруцілас, напілас і ўсе.* Сямігосцічы.

ОТРУЦІ'ЦЬ *зак.* Атруціць. *Було, маці невестку отруціла.* Верасніца.

ОТРУ'ЧНІК *м.* Верацяно з пражай, ручайка. Запясочча.

ОТРЫГА'ЦЦА *незак.* 1. Адрыгацца. *Отрыгаецца недобрэ.* Бярэжцы. 2 *перан.* Выяўляцца. *А на старосць ужэ отрыгаецца усе, усе ўходзіць.* Сямурадцы.

ОТРЫ′ГВАЦЦА *незак.* Адрыгацца. *Отрыгваецца масло.* Кароцічы.

ОТРЫГНУ′ЦЦА *зак. перан.* Адклікнуцца непрыемнасцю. *Я перэнесу забор, але оно тобе отрыгнецца!* Дварэц.

ОТРЫ′ЖКА *ж.* Адрыжка. *После еды отрыжка.* М. Малешава.

ОТРЭ′ЗАЦЬ *зак.* Адрэзаць. *Ты сала богато одрэзала.* В. Малешава. *Отрэзала косы, бу ў кобулы хвост.* Луткі. *От загончык роўненькі, як отрэзаць.* Старажоўцы.

ОТРЭ′ЗВАЦЬ *незак.* Адразаць. *Отрэзвае кусок полотна.* М. Малешава.

ОТРЭПЕНУ′ЦЦА *зак.* Страсянуцца. *Вуйшаў з воды на берэг і отрэпенуўса.* Хачэнь.

ОТРЭ′ПІНЫ *мн.* Адыходы валакна пры трапанні або часанні льну. *Отрэпіны прадуць.* Запясочча.

ОТРЭ′ПКІ *мн.* Тое ж. *Отрэпкі здавалі клочэнікам.* Луткі. *Светы божэ, светы крэпкі, здаў коноплі, то здай і отрэпкі* (прыказка). Старажоўцы.

ОТСА′ДЖВАЦЬ *незак.* Адсаджваць, адлучаць. *Отсаджвай поросят от свіны.* Старажоўцы.

ОТСАДЗІ′ЦЬ *зак.* Адсадзіць, памясціць асобна (пра цяля, парася і інш.). *Отсадзіла целя от коровы і пою пойлом.* М. Малешава.

ОТСВЕЦІ′ЦЬ *зак. перан.* Перастаць служыць (пра вочы). *Отсвецілі мое вочэнькі, не бачу нічого.* М. Малешава.

ОТСВЕ′ЧВАЦЬ *незак.* Адсвечваць. *Сонцэ отсвечвае.* Альпень.

ОТСЕ′КЦІ′ *зак.* Адсекчы. *Го́лову отсечэ, оскубе да ў го́ршчык* (пра пеўня). Сямігосцічы. *Дам голову одсе́кці, шчо вон не браў косы!* Дварэц.

ОТСКА′КАЦЬ *незак.* Адскокваць. *Такі пух у пташкі, шчо дроб отскакуе.* Сямігосцічы.

ОТСКОЧЫ′ЦЬ *зак. перан.* Адскочыць, хутка адрасці (пра расліны). *Отскочыла трава, стала отро́стаць.* Запясочча.

ОТСЛО′НЕНЫ *дзеепрым.* Адслонены. *Печ отслонена увесь дзень.* Цераблічы.

ОТСЛОНІ′ЦЬ *зак.* Адсланіць. *Печ отслоніла да покінула.* М. Малешава.

ОТСЛОНЯ′ЦЬ *незак.* Адсланяць. *Не отслоняй печы, а то хлеб не спечэцца.* Старажоўцы.

ОТСО′ЎВАЦЦА *незак*. Адсоўвацца. *Кожа отсоўваецца с пальца*. Луткі. *Як печэцца, то отсоўваюцца* (прыказка). Хачэнь.

ОТСТА′ЙВАЦЬ *незак.* Збірацца на стаянку (пра рыбу). *У вотмуцях рыба отстайвае найлучшэ.* В. Малешава.

ОТСТА′ЦЬ *зак.* 1. Застацца ззаду. *Отстала, потому шчо леноваласа.* Старажоўцы. 2. Адстаць, адліпнуць. *Як пеку мліӣцы, то мажу скóвороду жыром, шоб воны отсталі.* М. Малешава. *Одна беда отстала, то друга настала* (прымаўка). Старажоўцы.

ОТСТРО′ЧЫЦЬ *зак.* Адтэрмінаваць. *Отстрочылі, малы нáгле, не ўзялі у армею.* Чэрнічы.

ОТСТУПА′ЦЦА *незак.* Адступацца, адыходзіць. *От п'яного і бог отступаецца* (прымаўка). Старажоўцы.

ОТСТУПІ′ЦЦА *зак.* Адступіцца, адысці. *Отступіцеса от мене!* Запясочча. *Хлопчэ, гэта лодка отступіцца, а ты боўтнеш у воду.* Дварэц.

ОТСЮ′ЛЬ, ОТСЮ′ЛЯ, ОТСЮ′ЛЕКА *прысл.* Адсюль. *Зусім отсюль уехалі.* Бярэжцы. *Отсюль нарóстае мох, откуль сонцэ свеціць.* Хачэнь. *Вон ляжэ с краю, оттуля, а ты посерэ̂дзіне, а я отсюля.* Сямігосцічы. *Отсюля будзе шэснаццаць кілометроў.* Пагост. *Дзедушка, уеждай отсюлека.* Старажоўцы.

ОТТАВА′ЦЬ *незак.* Адтаваць. *Натопілі грубу, началі вокна оттаваць.* Старажоўцы.

ОТТАКІ′ *прым.* Вось гэтакі. *Оттакого я̂зя понёс, ледво попёр!* Старажоўцы. *Памянш.* ó т т а к е ч к і. *Вон буў оттакечкі на велічыну!* Старажоўцы.

ОТТАРА′СКАЦЦА *зак.* Адкараскацца. *Ледво от бабы оттараскайса!* Альпень.

ОТТА′ЦЬ *зак.* Адтаць. *Рыбу покладзеце на жар, то луска оттане.* М. Малешава.

ОТТО′ПАЦЬ *незак.* Адтопліваць (пра кіслае малако). *Кіслэ молоко оттопаем да робім сыр.* Запясочча.

ОТТО′ПІВАЦЦА *незак.* Адтопліваццa. *Молоко оттопваецца дзіцяці.* Запясочча.

ОТТОПІ′ЦЦА *зак.* Адтапіцца. *Ставяць кіслэ молоко, шоб оттопілосо.* Дварэц.

ОТТО′ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Адтоплены. *Оттопленэ молоко трэба отліць у осковік, шоб сцеклó да положыць под нагнёт.* Старажоўцы.

ОТТОПУ'РВАЦЬ *незак.* Адстаўляць. *Ужэ засёрдзілаca, оттопурвае гўбу!* М. Малешава.

ОТТОПУ'РЫЦЦА *зак.* Адставіцца ўбок. *Кішэня оттопурылася, бо пбўна.* Верасніца.

ОТТОПУ'РЫЦЬ *зак.* Адставіць убок. *Оттопурыў губішча да ляпаеш абў-шчо!* Старажоўцы.

ОТТУ'ЛЬ, ОТТУ'ЛЯ, ОТТУ'ЛЕКА *прысл.* Адтуль. *Вецер оттуль.* Пагост. *Туды ідзе — скачэ, оттуль ідзе — плачэ* (загадка). *Вёдра* (адгадка). Пагост. *Оттуля горшчáе горшкі нам возілі.* Луткі. *Оттуля воны, с Туроўшчыны.* Цераблічы. *Ек оттулека, бра, хмара, то будзе дождж.* Верасніца. *Оттулека получыў пісьмо, шо ее вугналі.* М. Малешава.

ОТТУХА'ЦЬ *незак.* 1. Палягаць (пра пухліну), змяншацца (пра боль). *Нога оттухае, пухліна спадае.* Верасніца. 2. Спаць. *Не доспала цепер, у недзелю буду оттухаць.* М. Малешава.

ОТТУ'ХНУЦЬ *зак.* Палегчы (пра пухліну), зменшыцца (пра боль). *Ешчэ палец не оттух.* Бярэжцы. *Ужэ вайка оттухла.* Хачэнь. *Нога оттухла, і дзейка заснула.* М. Малешава. *Вуж укусіць, шчо храпло о такé у коровы зробіцца, а потóм оттухне.* Цераблічы.

ОТУХА'ЦЬ *незак.* Пастунова змяншацца, спадаць (пра боль, пухліну). *Зімой у ёго ногі пухнуць, а ўлетку отухаюць.* Луткі.

ОТУ'ХНУЦЬ *зак.* Зменшыцца, спасці (пра боль, пухліну). *Ужэ лежыць коло курэня́, отух, а була от така бакула!* (пра сабаку, якога ўкусіла змяя). Цераблічы. *Тэе зелье дай — да отухне боль.* Мачуль.

ОТХА'ЙВАЦЬ *незак.* Прыводзіць да памяці, ажыўляць. *Прочнуласа, бачу, мене отхайваюць, отціраюць.* Хотамель.

ОТХА'ЯЦЬ *зак.* Ажывіць, прывесці да самаадчування, выхадзіць. *Ледзь, ледзь одхаялі, вон буў нежывы.* Бярэжцы. *Як будзеш уміраць, то воды шапкою наберу і отхаю.* Бярэжцы. *Ледбы отхаялі, коб вы, ка, зналі, мое жонуленькі!* Аздамічы.

ОТХВІ'ЛЬВАЦЦА *незак.* Адвільваць. *Шо я буду отхвільвацца, як до мене людзі ідуць.* Старажоўцы.

ОТХВОРОСЦІ'ЦЬ *зак.* Адхвастаць. *Отхворосці ёго, Одаме, мо поціішэ.* М. Малешава.

ОТХЛА'Н *м.* △ Н е д а в á ц ь о т х л á н у. Адбывацца бесперапынна. *Дождж не дае нам отхлану.* Тураў.

ОТХЛЫНУ'ЦЦА *зак.* Дыхнуць свабодна. *От роботы нельга отхлынцца.* Аздамічы.

ОТХЛЫНУ'ЦЬ *зак.* Зрабіць адпачынак, перапынак у працы, хадзе. *А я так ужэ стала і не отхлыну.* Запясочча. *Вон так утоміўса, шчо й не отхлынé за ноч.* Дварэц.

ОТХО'ДЗІЦЬ *незак.* 1. Адыходзіць. *Як отходзіць ека жонка, то кажэ — поможы божэ вам.* Дварэц. 2. Адрастаць, даваць парасткі. *Хвойнік не отходзіць, вон іс шышок.* Лутκі.

ОТХОЛО'ДАЦЬ *зак.* Прастыць. *Отхолодалі картоплі.* Дварэц. *Молоко отхолодаем да ў осковік да так і сыр робім.* Запясочча.

ОТХОЛОДЗІ'ЦЬ *зак.* Зрабіць халодным. *Отхолодзіў душу водой.* Аздамічы.

ОТХОЛО'ЖЭНЫ *дзеепрым.* Прастылы. *Отхоложэнэ молоко.* Крэмнае.

ОТХУ'КАЦЦА *зак.* Сагрэцца дыханнем. *Змерзла, шо і не отхукацца.* Старажоўцы.

ОТЦАДЗІ'ЦЬ, ОТЦЭДЗІ'ЦЬ *зак.* Сцадзіць. *Отцаджу сыр да нароблю мочанья.* М. Малешава. *Вуцегні чыгуна с печы да отцэдзі картоплі.* Старажоўцы. *Молоко отцэдзіць надо.* Запясочча.

ОТЦА'ЖВАЦЬ *незак.* Адцэджваць. *Отцажваем тую юшку і емо.* Бярэжцы.

ОТЦЕГЦІ' *зак.* Адцягнуць. *Ву мо ёго отцеглі трохі?* Запясочча. *Отцеглі от дорогі ў канаву.* Верасніца.

ОТЦЕ'КАЦЬ *незак.* Сцякаць. *Молоко кіслэ одцекае да сыр получаецца.* Запясочча.

ОТЦУРА'ЦЦА *зак.* Адказацца, перастаць знацца. *Шчо од вас дзядзько одцураўса?* Хачэнь.

ОТЦЯ'ГВАЦЬ *незак.* Адцягваць. *Отцягвайце націну, хлопцы, а му будом вубіраць картоплі.* Старажоўцы.

ОТЧАВІ'ЦЦА *зак.* Адціснуцца. *Сыр отчавіцца.* Альшаны.

ОТЧАВІ'ЦЬ *зак.* Адціснуць. *Положы под нагнёт сыр отчавіць.* Старажоўцы.

ОТЧА'ЎВАЦЬ *незак.* Адціскаць. *Творог отчаўваюць каменем.* Хотамель.

ОТЧУВА'ЦЬ *незак.* Адчуваць. *Ее серцэ отчувало, шо ў бою загіне вон* (з песні). Сямурадцы.

ОТЧУЖА'ЦЦА *незак.* Адчужацца. *Отчужаюцца бра-тáнкі нашые.* Луткі.

ОТЧЫКА'НІЦЬ, ОТЧЫКО'НІЦЬ, ОТЧЭКА'НІЦЬ

*зак.* Адмастачыць. *Большы дом за ўсіх одчыканілі.* В. Малешава. *Вот отчыконіў бойку!* Запясочча. *От отчэканіў вуліўку!* Верасніца.

О'ТЧЫМ *м.* Айчым. *Оччым, як і мачоха, однэ і тэе ж.* Альпень.

О'ТЧЫНА *ж.* Зямля, якой карысталіся бацькі, бацькоўская сядзіба. *Пашоў на свою отчыну.* Альшаны. Родавая борцевая пасека, атрыманая ў спадчыну. *Дзе пчолы стаяць, то моя отчына.* Мачуль.

ОТЧЫ'НЕНЫ *дзеепрым.* Адчынены. *Дзвёры отчынены і вокна, але душно.* В. Малешава.

ОТЧЫ'НЕТЫ *дзеепрым.* Тое ж. *Хата отчынета, а воны на горэ.* Запясочча. *Печ оччынена, то зачыні.* Там жа.

ОТЧЫНІ'ЦЬ *зак.* Адчыніць. *Ка́се, отчыні но дзверы!* Аздамічы. *Шоб у моём серцы да булі дзверцы, то отчыніла да показала, як я праўду кажу.* М. Малешава.

ОТЧЫНЯ'ЦЬ *незак.* Адчыняць. *Отчыняй, бабо, скрыню!* Старажоўцы.

ОТЧЭКНУ'ЦЬ *зак.* Адхінуцца. *Дзіця плохое, не можно і на мінуточку отчэкнуць.* Старажоўцы.

ОТЧЭПІ'ЦЦА *зак.* Адчапіцца. *Мухі лезуць, хай воны отчэпяцца!* В. Малешава. *Отчэпіса, нашчо воно мне.* Цераблічы. *Мо не ростуць у огородзі картоплі? — Отчэпіса, ростуць!* Хачэнь.

ОТШЧЫКНУ'ЦЬ *зак.* Адшчыпнуць. *Отшчыкні хвосціка од бурака дай саджа́й у зёмлю.* М. Малешава.

ОТШЭПТА'ЦЬ *зак.* Адшаптаць, адагнаць шаптаннем (хваробу, урокі і г. д.). *Пропалі мушы, як іх сем баб отшэптало!* Пагост.

ОТ'Я'ТРЫВАЦЦА *незак.* Развярэджвацца. *От этой ваўкі от'ятрываюцца другіе ваўкі.* М. Малешава.

ОТЫНКОВА'ЦЬ *зак.* Атынкаваць. *Отынковалі за два дні хату.* Дварэц.

ОЎ *выкл.* Адказ на зварот. *Оле!— Оў!— Ходзём додому!* Цераблічы.

ОЎДЗЮ'ШКА *ж.* Рыба галень. *Оўдзюшка така без лускі.* Чэрнічы.

ОЎДОВЕ'ЦЬ *зак.* Стаць удаўцом. *Буў оўдовеў да зноў ожэніўса.* Цераблічы.

ОЎДО'Т *м.* Удод. *Оўдот ш чубочком, вон вельмі хорошэнькі.* Сямігосцічы.

ОЎЁС *м.* Авёс. *Оўёс зожном, да ўжэ пшэніцу сеемо*

*на зіму.* Мачуль. *Не ўся во ўсе, а есць і ў ечмені* (прымаўка). М. Малешава.

ОЎЁХ *ж.* Вех ядавіты, цыкута. *Оўёх — вонэ таке ростопурэнэ, нізеньке.* Пагост. *Корову здуне от оўёха.* Бярэжцы.

О'ЎСІШЧЭ *н.* Аўсянішча. М. Малешава.

ОЎСЯ'НІЦА *ж.* Аўсяная мякіна. *Гусей само кормяць оўсяніцэю.* Старажоўцы.

ОЎСЯ'НЫ *прым.* Аўсяны. *На оўсенóй копе, казалі, бусько поседзіць і полеціць у поўрэй.* Хачэнь.

ОЎТО'РОК *м.* Аўторак. *Мне ў оўторок прышла чэрга коровы пасці.* М. Малешава.

ОЎЧА'Р *м.* Авечы пастух. Запясочча.

ОЎЧЫ'НА *ж.* Аўчына. *Ву самі можэце окрасіць, онно оўчыны коб.* Сямігосцічы.

ОФЕ'РМА *ж.* Нязграбная асоба. *От оферма, себе не понімае!* Сямігосцічы.

ОХ *выкл.* Пры ўзрушэнні. *Зашла на базар — ох, а грошы забыла.* Сямурадцы. *Ох, шчо гэто за людзі! Ох, не забулі да прыслалі карточкі!* В. Малешава. *Ох, далеко ходзілі!* М. Малешава. *Ох, ох, ох, дзе ж тая курочка!* Дварэц. *Добрэ ох і ўдвох* (прыказка). Запясочча.

ОХА'ЙНО *прысл.* Акуратна. *Охайно ву ходзіце, і грошы вам даюць.* Д.-Гарадок.

ОХАМЕНУ'ЦЦА *зак.* Адумацца, спахапіцца. *Охаменіса, будзеш ты ешчэ потом каецца!* Бярэжцы.

ОХА'ПКА *ж.* Ахапак, абярэмак. *Узяў травы ў охапку.* Аздамічы.

ОХВА'Т *м.* Прастуднае захворванне. *Охват — нагрэецца конь да улезе у вóду да простудзіцца, вон і ў свіны бувае.* Запясочча. *Удушэны на вéцёр выскочыш, да і охват.* Лугкі. *Як руку горачу да ў вóду усунеш, то охват будзе.* Аздамічы.

ОХВАЦІ'ЦЦА *зак.* Прастудзіцца (пра разгарачанага). *Это ж конь мокры, охвáціцца на вуліцы.* Лугкі.

ОХВА'ЧЭНЫ *дзеепрым.* Прастуджаны з дарогі. *Як охвачэны конь, то чэчэ з холкі.* М. Малешава.

ОХВО'СЦЬЕ *н.* Завадзь на рацэ, дзе можна прыстаць да берага з плытам (за паваротам ракі). Дварэц.

ОХВО'ТА *ж.* Ахвота. *Поробіш до поту — есцімеш у охвоту* (прымаўка). Сямігосцічы.

ОХВО'ТНІК *м.* Добраахвотнік. *Наш Колька охвотніком пошоў у парцізаны.* М. Малешава.

ОХВО'ТНІЦА *м.* Добраахвотніца. *Я за охвотніцу ходзіла з ею жаць, шчоб вона не бояласа сама.* Чэрнічы. *Я не по нараду, я охвотніцэю з усіма дзеўкáмі поехала.* М. Малешава.

ОХВО'ТНО *прысл.* Спакойна, бяспечна, весела, прыемна. *Ходзем, Лéксо, мне одной не охвотно.* Лутkі. *От неохвотно було седзець на том хуторы!* Мачуль. *Добрэ, шчо ты едзеш, удвох будзе охвóтней.* Тураў. *Навет с котом у хаці охвотнéй, ніж самомý.* Там жа. *Сядзьце і ву трохі поседзéць коло нас, і нам будзе охвотнéй.* Хачэнь.

О'ХКАЦЬ *незак.* Узрушана ўсклікаць. *Охкае у хаці — колодзежа роскідáлі!* Верасніца.

ОХЛА'ПЫ *мн.* Мясныя адкіды (абрэзкі, вантробы, плеўкі і інш.). *Прыняслá охлапоў, негодного м'яса нейкого.* Запясочча.

ОХЛУ'ДА *ж.* 1. Доўгая тонкая жардзіна. Хотамель. 2. Брыда, неахайнік. *Трэба було вýйці за такого охлуду, да мучса век!* М. Малешава.

ОХОЛО'ДАНЫ *дзеепрым.* Прастылы. *Ось охолоданэ молоко, вечэрэшне.* В. Малешава.

ОХОЛО'ДАЦЬ *зак.* Прастыць. *Ладка охолодае, то дам, шоб ты не здох!* (пра ката). Дварэц. *Надо, шоб борш охолодай.* Запясочча.

ОХОЛО'ДВАЦЬ *незак.* Астываць. *Чым-небудзь трэба заліць, шчоб воно охолодвало.* Сямігосцічы.

ОХОЛОДЗІ'ЦЦА *зак.* Прастыць. *Охолодзіласа — банкі трэба!* Хачэнь.

ОХОЛОДЗІ'ЦЬ *зак.* Ахаладзіць. *Упаў Ілья і охолодзіў вóду* (пра дождж на Іллю). Дварэц.

ОХОПІ'ЦЬ *зак.* Праняць, прабраць. *Мой дзядзько хату робіў да ўдушыўса, да охопіло ёго, то поўгода піў тое зелье.* Луткі.

ОХО'ТА *ж.* 1. Ахвота. *Я маю охоту целя купіць.* В. Малешава. *Для мене рыба — охота.* Луткі. *Охота хýджэй неволі* (прыказка). Луткі. 2. Паляванне. *Порошка ўпадзе, собіраюцца на охоту іці.* Бярэжцы. △ Н а о х ó ц е. У стане цечкі. *Корова наша на охоце.* Аздамічы.

ОХО'ТНІК *м.* Паляўнічы. *Охотнікоў поўно, онно воўкі по селе ходзяць.* Цераблічы. *Охотнік охоту мае ходзіць і ходзіць, а прыдзе — утóміцца а ўтоміцца!* Бярэжцы.

ОХО'ТНО *прысл.* Ахвотна. *Вон охотно робіць.* Аздамічы. *Охотне́й удвох робіць.* Там жа.

ОХО'ТНЫ *прым.* Такі, да якога маеш ахвоту. *Над грыбы нема охотне́йшой штукі!* Цераблічы.

ОХО'ЧЫ *прым.* Ахвочы. *Вон охочы да охочы до гэтого, змалку воны усе за гэтым пропадаюць.* Хачэнь.

ОХРЫ'ПНУЦЬ *зак.* Ахрыпнуць. *Попокрычаў, шо і охрып.* Старажоўцы.

ОХРЭНУ'ЦЬ, ОХРА'НУЦЬ *зак.* Ахапіць, заняць. *Охрэну́ло горэчко нас, здохла корова.* Старажоўцы. *От охра́нула норму, як на двоіх!* Там жа. *Таке нешчасце охра́нуло іх, сын покіданку подобраў!* М. Малешава.

ОХРЫ'ПНУЦЬ *зак.* Ахрыпнуць. *Попокрычаў, шо і охрып.* Старажоўцы.

ОЦАРЫ'ЦЦА *зак.* Запанаваць. *Военные там оцарыліса.* Мачуль.

ОЦЕ'ЛЕНА *дзеепрым.* Такая, якая ацялілася. *Оцелена коза рано, да мало дае молока.* Хачэнь.

ОЦЕЛІ'ЦЦА *зак.* Ацяліцца. *Корова шчэ не оцелілас.* Аздамічы. *Оцеліласа гэта корова мо ў тройцу.* Мачуль.

ОЦЕРЭБІ'ЦЬ *зак.* Ачысціць ад галінак, абшчыпаць, вылушчыць. *Оцерэблю кіяха да шорую чугуны ім.* Дварэц.

ОЦЁЛ *м.* Ацёл, цяленне. *Смола перэд оцёлом за тыждзень налівае.* М. Малешава.

ОЦІ'НОК *м.* Адцінак, кавалак, адрэзак (бервяна, палкі і інш.). Хотамель.

ОЦІХА'ЦЬ *незак.* Заціхаць, пераставаць, супакойвацца. *Ужэ бура оціхае.* М. Малешава.

ОЦІ'ХНУЦЦА *зак.* Заціхнуць, спыніцца, перастаць. *Война оціхнуласа.* Запясочча.

ОЦІ'ХНУЦЬ *зак.* Тое ж. *Вецёр оціх да зробіласа погода.* Старажоўцы.

О'ЦОТ *м.* Воцат. *Кіслы, бі оцот!* Сямігосцічы.

ОЦУПЕ'ЛЫ, ОЦУ'ПЛЫ *прым.* Адубелы. *Хай цебе остылого да оцупелого поцоловалі!* (праклён). Старажоўцы. *Оцуплы.* Запясочча.

ОЦУПЕ'ЦЬ *зак.* Адубець, акачанець, застыць да нерухомасці. *Мороз, оцупелі ногі ў той клеці!* Цераблічы. *Оцупеў, такі мороз!* Аздамічы.

ОЦУ'ПНУЦЬ *зак.* Адубець, акалець, застыць так, што не паварушыцца. *Ужэ оцуп і одуб, затоб дойшоў, гэтак оцуп.* Пагост. *Змерз і оцуп соўсім.* Мачуль.

ОЦУРА'ЦЦА, ОЦУРЫ'ЦЦА *зак.* Ацурацца, поўнасцю адказацца. *Оцураўса мене дзядзько.* Мачуль. *Оцурыўса зусім, не показваецца у хату ані.* Аздамічы.

ОЧАМРО'НЫ *дзеепрым.* Учадзены, адурманены. *Цэлы дзень я очамроны буў, як попало ў лоб.* Сямігосцічы.

ОЧАМРЭ'ЦЬ, ОЧОМРЭ'ЦЬ, ОЧЭМРЭ'ЦЬ *зак.* Ачмуціцца, учадзець, адурманець. *Голова очамрэла од гэтого дыму.* Запясочча. *Така жара удзень була, шо очомрэў на сонцы.* Пагост. *Еслі людзей багато ў лаўцы, то натупаеса, очэмрэеш, страх!* М. Малешава.

ОЧА'ХНУЦЬ *зак.* Ачахнуць. *Як печ очахне, то ставяць кіслэ молоко, шоб оттопілосо.* Дварэц.

ОЧКАРНЯ' *м.* і *ж. экспр.* Чалавек з вялікімі вачамі, у акулярах. Аздамічы.

ОЧКА'ТЫ *прым.* Лупаты, з вялікімі вачамі. *Вон такі очкаты, сімпацічны.* В. Малешава. *Вочкатые фанарэ вурочыў на мене!* Там жа. *Одзін хлопец буў такі очкаты, то ёго ругала маці Махтод очкаты.* В. Малешава. *Очкаты чоловек, ёго очы по кулаку.* Кароцічы.

О'ЧКІ *мн.* Акуляры. *Ужэ тые буквы наглые ў тых очках.* В. Малешава.

О'ЧКО' *н.* Ачко, спецыяльная клетачка, дзірачка (у сотах, вуллі, сетцы і г. д.). *Чмель з моху нанесе гнездо і очка такіе здзелае.* Сямігосцічы. *Шэсць очок, як гуляемо ў скаканку.* Альпень.

ОЧКОЎНЯ' *м.* і *ж.* Чалавек з вялікімі вачамі. *Очкоўня чортова, чого ты поставіласа, бо зарэ як вальну, то й ляжэш!* Верасніца.

ОЧКУ'Р, ЧКУР *м.* Учкур, шнурок у штанах. *Чкур — то мотўз такі тонкі.* Сямігосцічы. *Очкур.* Мачуль.

ОЧОЛОВЕ'ЧЫЦЦА *зак.* Вярнуць сабе чалавечае аблічча (пасля праклёну). *Чэшча наслала на ёго так, а далей очоловечыўса, Юрый спас* (з казкі). Луткі.

ОЧО'МАЦЦА *зак.* Ачухацца. *Ужэ вон очомаўса трохі.* Буразі. *Ужэ очомаўса со сну чы не?* Пагост. *Очомаўса — як з п'янкі або забыўса шчо.* Альшаны.

ОЧУМАНЕ'ЦЬ, ОЧУМЕ'ЦЬ *зак.* Ачумець, здурнець. *Ты шчо, очуманела?* Запясочча. *Очумей, недобрэ стало.* Там жа.

ОЧУНЯ'ЦЬ, ОТЧУНЯ'ЦЬ *зак.* Ачуняць. *Буў негож, да очуняў.* Аздамічы. *Пробуў мой брат мо два годы, трохі отчуняў — і война.* В. Малешава.

ОЧУ́ЦЦА *зак.* Адазвацца, даць аб сабе знаць. *Змалку певень дзеўбене — і вонэ под старосць очуецца* (прымаўка). Бярэжцы.

ОЧУ́ЧВАЦЦА *незак.* Аказвацца, з'яўляцца. *Заросце, а потом очучваецца зноў* (пра пасадкі лесу). Дварэц. *Трохі згіблі булі гуркі, далéй зноў ачучваюцца.* Запясочча.

ОЧУ́ЧЫЦЦА *зак.* Аказацца, праявіцца. *Покража ужэ очучылася.* Запясочча. *Чэрэз дзесець год очучыцца хвороба.* Дварэц.

ОЧЭВІ́ДНО *прысл.* На вачах, хутка. *Очэвідно бачыш, шо падае.* В. Малешава.

ОЧЭ́ЛЬЕ *н.* Чалеснікі. *Очэлье закрываецца заслонкою.* Дварэц. *Нізкé очелье Фёдор зробіў — велікіе чугуны у печ не пролазяць.* Пагост.

ОЧЭПІ́ЦЦА *зак.* Прычапіцца, учапіцца. *П'яўгі очэпяцца за ногі.* Дварэц. *Як квіток е, то леснікі не очэпяцца.* В. Малешава. *Очэпіцца за коўдру дай спіць, бы кожан под стрэхою.* Луткі. *Шчука на блешню очэпіцца, бувае.* Сямігосцічы. *Ека за шыю очэпіцца, то не ўцечэш* (жарт). Мачуль.

ОЧЭПІ́ЦЬ *зак.* Зачапіць, пачапіць, падчапіць, начапіць, прычапіць. *От этого чугуна-пудовіка очэпі вілкамі да цегні.* Пагост. *Очэпіў óчкі.* М. Малешава. *О, очэпіла кусман сала! Я б ёго і за дзень не з'ела.* В. Малешава. *Вон собе очэпіў добру жонку!* Хачэнь. *Очэпі свое пальто на вешака.* Кароцічы. *За плечы очэ́піць да несе.* Альшаны.

О́ЧЭПКА *ж.* Почапка. *Очэпка і ў шаньцы і ў колысцы, а ў ведрэ дужка.* М. Малешава.

О́ЧЭПОК *м.* Тое ж. *Очэпка прыв'яжэ к слоіку да на поес почэпіць да збірае ў ёго* (ягады). Велямічы.

ОЧЭ́РПАЦЬ *зак.* Зачэрпаць. *Воды з ведра очэрпеце кварту!* Мачуль. *Валько, очэрпі холодной водзіцкі!* Велямічы.

ОЧЭРПНУ́ЦЬ *зак.* Зачарпнуць. *Очэрпне той юшкі, нап'ецца, і п'яны!* (верху з брагі). Чэрнічы. *На помінкі кану даюць. Кажна душа по тры раз очэрпне, як одно почынаюць обедаць.* Кароцічы. *Ідзі очэрпні воды.* Альшаны.

ОЧЭРСЦВЕ́ЦЬ *зак.* Зачарсцвець. *Хлеб очэрсцвеў, чорству зробіўса.* М. Малешава. *Воно очэрствéло, цвёрдым зробілосо.* Луткі.

ОЧЭРЭНУ'ЦЬ *зак.* Абступіць. *Очэрэнулі воўкі чоловека да затоб розорвалі.* Пагост. *А ты зайдзі на пасеку да пчолы нехай цебе очэрэнуць, то пропаў, заедзяць!* Старажоўцы.

ОЧЭРЭ'Т *м.* Чарот. *Очэрэт такі, ек сцена.* М. Малешава.

ОЧЭСА'ЦЬ *зак.* Абчасаць. *Очэшуць дзерэво, вон рукою поведзе і знае, як очэсанэ* (пра сляпога). Луткі.

ОШВА'РОК, ОШВУ'РОК, ОШМУ'РОК *м.* Абрывак вяроўкі, абломак кія. *Як дам тобе гэтым ошварком!* Буразі. *А вон узяў корову на ошурок дай поўёў у лес.* Кароцічы. *Ошмуркі клочэніку оддаём.* Альгомель.

ОШКАБУРОК, ШКАБУРОК *м.* Стары зношаны абутак. *Одныé ошкабуркі остáліс от чóбоцей.* Аздамічы. *Ошкабурок — як шчо негодное.* Альшаны. *Некіе тэйі шкабуркі обула да і цегае.* Цераблічы.

ОШЛА'П *м.*, ОШЛА'ПА *ж.* Бервяно над аконнай асадай, над шуламі, над бэлькамі. Хотамель. *Ошлáпа.* Сямігосцічы. △ У з я́ ц ь у о ш л а́ п у. Прапусціць паміж коламі. *У ошлапу узяў калеіну і проехаў.* Цераблічы.

ОШЛА'ПІЦЬ *зак.* Пакласці бервяно ў зрубе над аконнай асадай, над шуламі, над бэлькамі. *Плотнікі ужэ óкна ошлапілі.* Сямігосцічы. Абхапіць. *Хрэнч ошлапіў мене, не повернуцца.* Запясочча. *Кот ошлапіць лапамі курэня за шыю і попёр.* Дварэц.

ОШОЛОМОНЕ'ЦЬ *зак.* Адурманіцца. *Воны там за рэкою ужэ ошоломонелі, тые гусі.* Дварэц. *Я б ошоломонела от шуму ў том городзі.* Верасніца. *Ек лýзнуўса, то ошоломонеў і ў вочáх зоры скачуць.* Луткі.

ОШОЛО'П *м.* Той, хто адурманіўся. *Шо ты стоіш, ошолоп дурны, шо не ідзеш на роботу!* Старажоўцы.

ОШОЛОПЕ'ЦЬ *зак.* Адурманіцца. *Я ошолопела, шо серэд ночы пошла.* М. Малешава.

ОШО'МАЦЦА *зак.* Адзецца ў абноскі. *От ошомаўса, шо еле ідзе.* Старажоўцы.

ОШО'МОК *м.* Абноска. *Наклаў на плечы ошомка да ходзіць.* Старажоўцы.

ОШУ'ДРАНЫ *дзеепрым.* Абадраны. *Ошудраны чоловек, порванэ на ём усё, не дбае.* Сямігосцічы.

ОШУЛЕ'ЦЬ *зак.* Адурманіцца. *Баба ошулее да забудзе подаць.* Дварэц.

ОШУ'МОЧКІ *мн.* Пушысты пылок пад кроснамі. *Ошумочкі бердо нарэзвае.* Пагост.

ОШУ'ШКАЦЦА *зак.* Цёпла апрануцца, ухутацца. *Мне не хóлодно, я добрэ ошушкаласа — куфайка, фрэнч на мне.* Верасніца.

ОШУ'ШКАЦЬ *зак.* Цёпла апрануць, ухутаць. Запясочча.

ОШЧЭНІ'ЦЦА *зак.* Ашчаніць. *Войчыца у лому ошчэніласа.* Хачэнь. *Скорэй собака ошчэніцца, як сіву хлопец ожэніцца* (прымаўка). Старажоўцы.

ОШЧЭНІ'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Ошчэніла сучка аж шэсць шчэнят.* Луткі.

ОШЧЭ'ПІНЫ *мн.* Частаванне цесляроў у сувязі з закладкай першага вянца ў зрубе. *Як оснýюць хату, то робяць ошчэпіны.* Сямігосцічы.

ОШЧЭ'ПЫ *мн.* Спецыяльнае прымацаванне вулля на дрэве. *У ошчэпы берэ вульля́, як поставіць на той одзёр.* Аздамічы.

ОШЫГА'ЦЬ *незак.* Хутка есці, уплятаць. *Вон седзіць да еешню ошыгае.* Пагост.

ОШЫ'ЁК *м.* Ашыек, шыя. *От ошыёк гладкі, шо гузікі у рубашцы не сходзяцца.* Старажоўцы.

ОШЭРГА'ЦЬ, ОШЭРКА'ЦЬ *зак.* Устанавіць, выявіць, агледзець, заўважыць. *Коб нас хто не ошэргаў, не углéдзеў.* Луткі. *Ужэ ошэргалі, хто пшэніцу украў.* Пагост. *Дзеці хорошые кожýшкі ошэргалі ў ямцы.* Цераблічы. *Потом ошэргалі, як вувела дзецей, тую войчыцу.* Мачуль. *Як которы ошэркае, шчо жойна проб'е вулья́, то жэсцью заб'е.* Запясочча. *Дзеці ёго ошэркалі ў кустах.* Альшаны.

ОШЭРХА'ІМ *м.* і *ж. экспр.* Брудная непрыбраная асоба. *Не хочу, коб эта ошэрхаім седзела коло мене.* Бярэжцы.

ОШЭРЭ'НІЦЬ *зак.* Абступіць. *Думаю, ошэрэняць мене тые войкі і разорвуць.* Запясочча.

ОШЭШЭ'ЛІЦЬ *зак.* Ударыць, агрэць. *Одзін ошэшэліў поленом по плéчах, а другі ёго ножэм.* М. Малешава.

# ТЭКСТЫ

## ЦЁТКА ПАРЎЛЮШКА РАСКАЗВАЕ

У нас там коло могліц на той Ры́дчы гумно було. А там березы булі, дубы. Бацько ўстаў нек раз да пошоў молоціць. Зайшоў у ґумно да свеціць лампу. І вон только запаліў эту лампу да ўжэ берэ цэ̂па, а сова як джу́хне на ту лампу! Этэ сцёкло і покоцілосо. Добро, шо не загорэлосо. Бацько ўзяў эту сову звеза́ў. Так дзень ужэ. Наварылі снеданье, ждом ужэ того бацька снедаць. А той бацько несе эту сову ў хату. Дай посадзіў на этом стоўпе́, шо коло печы. Вона седзіць, ву́рачыла тые очы. А мы ўжэ снедаем. Седзіць, і седзіць, і седзіць, ада́ле як бухне ў вокно, і прамо да туда, дзе була вона! А маці на бацька кажэ: «От, цепер закрый окно головою!»

* * *

Му пасцілі з однэ̂ю бабою (була ў мене корова) чэ̂ргу. З Ода́ркою. Да стояло такое веліке озеро. Я пошла так, к озеру, перэйма́ю коровы́. А не́шо таке чорнэе, як собака, як брохне, дай пропало. Дай нема, нема, нема! Прышла: «Ода́рко, ты нічого не бачыла?» — «Бачыла, мо то,— кажэ,— воўк».— «Ну, то вон жэ не пота́ў бу». От мы жджом, жджом. А там чоловек ідзе одзін. А му кажом: «Сцепа́н, шо то мы бачылі у лужку, у озеры? Не́шчо як брохнуло, дай пота́ло».— «То,— кажэ,— бобе́р, бабы́, от шчо. Вон,— кажэ,— потаў і не покажэцца нікому».

* * *

Як два пеўні, так жэ оны б'юцца. Я одного ў гэты хлеў укінула. Кажу: «Так без дай прычыны ёго зарэзаць, не. Хай будзе чы к Роздву́, чы к екому святу хай». І вон, бедненькі, сам седзеў. І зморозіў грэ̂беня. Зашыецца ў куточок, седзіць. Як я йду, то вон ужэ знае, шо есці дам. Выйдзе, поесць. І перэзімоваў, і нічого ёму не зробілосо. Весною стало цеплей, вон оджыў ужэ. Ужэ спевае, да танцуе коло кур.

Усяке своім радэ!

* * *

Ко́лісь у нас буў дзед, вон прыка́зваў нам: «Дзеці, будзеце на робоці, ці ў лесу́, ці ў полі, як только грыміць, бліска́е садзі́цеса на том месці, да́лей нікуда не ходзіце. Стало грымець і бліска́ць, дзе цебе запосці́гло — і садзіса, нікуда не йдзі. Потому шо бе́гці ж не можна, а будзеш бегці, ты будзеш сопці́, і к этому твоему́ воздуху прыносіць грозу́, о». Это вон нас так вучыў.

Пошла я, Паўлік, у ягоды. А ягоды далеко ў нас. Лечы́нье зовецца. Туды кіло́метроў мо восем іці. Бралі ягоды, як цепер от погода. А по́том погры́мвае, погрымвае. «Зобіра́йцеса жонкі, ходзем домоў». Вухо́дзьмо на лінею — начынае бліска́ць. Кажу: «Я буду попе́рэду. Як бліснé, я саджуса і вы садзецеса. Бліснýло раз, а потом другі раз так як бліснýло на́крэст, да ко́ло нас, от так, як мо до мое́ бе́розы, як дало́ у хвою, так от верха́ отлупіло хвою і откінуло. Попола́м! Ідо́м мы собе компаніею із того лесу. А дождж, а грымо́та! Адале як гры́мнуло да як дало́! А було багато жоно́к с Турова і з нашого села. Так ек дало, то туро́ўскіе дзве упалі. І з нашого села одна. Одну откачалі туро́ўську, а дру́гу забралі на воз. А гэту з нашого села, то як везлі, то не сознава́ла, а вішчала — і-і-і-і-і! І вочэй не росплю́шчыла. Але откача́лі. А шо с Турова — не откачалі.

* * *

От другі росказ будзе. У нас уме́рла жонка. Мы та́ма жылі, на том огородзі, у нас там стояла хата. Умерла жонка, Арка́дзеіха зваласа. У нас хата задня була і перэдня. Мы ў перэднёй і спімо. Ужэ осень, ужэ кудзелі этые прадом. Ве́чкі пострыгуць і на́перво воўну эту прадуць. Я ўстала, а ў нас таке було крыльцо. Я ўстала на двор. Ой, а коло́да така велізна ў нас стоіць ко́ло дво́ру, шо мушчыны дрова се́клі. І я Аркадзеіху бачу. Як ее похавалі, я і не бачыла. А вона стоіць о так коло колоды. Ох, я ў хату. Кажу: «Дзянно, ты нічого не чула?» Кажэ: «Не чула». Ажно́ по сцене о так о трах-трах-тра́х. А вона: «А шчо то?» А я кажу: «Аркадзеіху бачыла. Ох, Аркадзеіху,— кажу,— ба́чыла». От я на свое очы бачыла. Шо ўме́рла, ў том самом одзенfamily одзета.

* * *

Була ў нас свінья большая. А вода велікая була. Ну просто от ек ідзеш гэтою вуліцэю, то до самое почці этое хаты лоткі стоялі. А мой чоловек робіў колхозне гумно. А я ту свінью выпусціла. А она ік хракý, к кно́розу, мы коліся казалі. Ох, божэчко! Ходжу я, шукаю, шукаю, бегаю по селу. «Ох,— кажу,— людзечкі, мо хто бачыў мою свінью, дзе вона дзеласа, і куды вона пошла?» А там мужчыны пожы́лые коровы́ колхозные возілі паромом у лес да кажуць: «Пара́ско, о́то твоя будзе свінья, поплыла ж на ферму. Му,— кажэ,— акурат проплывалі, а мост вода подняла. Вона,— кажэ,— усплыла на мост, по этому мосту,— кажэ,— походзіла і оттуль подаласа прамо на ферму». Ох божэ ж мой, ох свеце ж мой, шо ж мне рабіць! Ох, ма́моньki-га́лонькі! Я ік загадчыцы. Кажэ: «Вона там ходзіць. Мы выпусцілі ста́дніка,—кажэ,—нехай ходзіць». А я натоўкла картоплёў у ведро да зноў ік загадчыцы: «На, Мары́ночко, да завезеш да покорміш там ее». Ой, шчэ та Марына дома, ужэ плуве́ свінья домоў. І заплула́, й прыплула́! І навела́ двонаццэць поросят. От такіх! Да се́рэд дво́ру як поля́гуць! Прывела двонаццэць і ўсе кабаны́! От ісцінна праўда!

* * *

Шчэ я була дзеўкою. Да було ў нас дзве свіноматкі. І ўжэ по́дсвінкі велікіе. І гэтые свінье колісь вугонялі пасціць. От жэні да

попасі на болоны свіней. То мы пожэном, попасом, дале прыжэном домоў. Адале ўжэ восень. Ужэ ў нас осталóсо двое велікіх і чэцьверо малых. А тые попрóдалі. Маці загадвае мне: «Прожэні туды за рэку, воны там будуць доўго ходзіць». Мы з другою жонкою загналі туды за мост. Загналі за эты мост. «Ой, а шо воны будуць тут есці? Жэнéм под лес у жолуды́, да хай жóлуду поедзяць». Ну, мы загналі этые свінье ў жолу́д. Седзелі, седзелі, да пошлі домоў. Оны самые прыдуць! Прышлі домоў. Нема іх дзень, нема ешчэ дзень. Да бацько кажэ: «Ідзіце свіней шукаць, дзе вы іх подзелі?» — «Мы загналі туды за рэку». То одна свінья на трэці дзень прышла, а тых не було тры недзелі. Прышлі понаéджваные. Ужэ выпусць онó, так оны туды і хочуць, по жолу́дзью походзіць.

* * *

Гусі у нас на рэцэ й на рэцэ плаваюць. А под осень ужэ людзі розбіраюць. У кажного свой знак, у гусей. Одного дзеда прыгналі гусей, а гусака нема. «Хто-то мого гусака ўкраў»,— вон говорыць. А ў нас було так гумно по гэту сторону, а вон по той бок. Цепер там трава росце, а тоды там таке було болото! Ры́дча вонэ зовецца. Пытае той дзед: «Мікіто, мо ты мого гусака дзе замеціў, ты ж ёго знаў?» Кажэ: «Не, дзеду, ніколі я ёго нідзе не бачыў».— «Мого гусака,— кажэ,— нема, старого,— кажэ,— гусака нема». Ну, й нема й нема. Ужэ і зіма пройшла, ужэ лето проходзіць. Ніхто нічого про этого гусака не говорыць, і нішчó. Ужэ той дзед молоціць у гумне. Летáюць гусі коло гумна. А гумно було веліке, на два так бокі, а там прогумéнок. А коло ёго гумна такі брод буў велікі. Знаеш шчо за брод? Рэчка така, крынічка. Летáюць, летаюць этые гусі. І гэтые ўжэ мушчыны, которых гумна, і з этымі цэпамі вуйшлі: «Шо то за гусі так летаюць нізко?» Эты дзед выйшоў. Як погледзеў, кажэ: «Мой гусак!» А гусей — страшно! Шо тут робіць? Мой бацько подышоў ік ёму. Кажэ: «Ну, шчо робіцьмеш, дзеду? Возьмі, дзеду, ідзі наберы пашнé і посып ускрóзь од брода у прыгуменок». Эты дзед так зробіў. Этые гусі летаюць, летаю́ць... Эты гусак то сядзе, то подлеціць, то сядзе, то подлеціць. Поніжáе этых гусей. А потом усе як упалі на эты брод, так эты брод чорны стаў от этых гусей. І от ґéрґаў, ґéрґáў,—кажэ,—той гусак (я это не знаю, это ўжэ росказвалі старые людзі нам), ґéргаў, ґéргаў,— кажэ,— эты гусак, а потом помалéньку, помалéньку по этой дорожцы, шось стаў ужэ гомонéць до этых гусей. Этые гусі усе по той посыпаной дорожцы, і этою дорожкою да к этому дзеду ў прогуменок. Эты дзед этого прогуменка закрыў, да позваў этых людзей, да поналоўля́лі этых гусей! Кому п'яцеро, кому і дзесяцеро. Попоéлі м'яса!

* * *

Пошоў чоловек мой гуляць. А хлеў не буў зашчэплены, а так прычы́нены. А целя було здоро̀вэ. Этэ целя вускочыло. А му так жылі от, ек і цепер хата, да на вуліцу. Да на вуліцку вубегло да коло крэста й бегае. А я ў одной сороццы, а сорочка ў мене доўга, перкалёва, вушыта. Я ў этой сороццы да ў одной, да за гэтым целя́м, да кругом крэста ловлю ёго. Так этые мушчыны ек побачылі, шо бегае. Ох, это смерць! Розбегліса хто куды! Прышоў мой домоў, а я плачу. Это ж,— кажу,— целя вускочыло, да я попобегала

на селе коло крэста! Ох да божэчко, дзе ж тые,— кажэ,— хлопцы подзеліса, мо позабегалі ў Хочэ́нь із Сторожо́вец. От,— кажу,— попужала. Хоць горэ мне, але ш і смех.

* * *

Було кому смех, а нам і беда. Ек бы я іх не порозрэзвала, этые во́ля то...

Сосед посееў коноплі. А наша от так хата. Вупусцілі мы куры. Мы й не знали, шо вон посеяў. Вон вечэром посе́яў, а му рано вупусцілі. Так оны на этые коноплі ек спалі! А вон і отраву покідаў: насоліў картоплеў, нам'яў, да гэтак і с картоплямі покідаў. Воны ек наеліса этое солі, так воле́ ек бачыш чэрнее. Ох, я ж побачыла, шо, ўхопіла курочку. Ой, да божэ ж мой, да свеце ж мой! Я скорэй у стол да за брытву чоловекову да брытвою этою! Розрэзала да вумула, вумула, голку трапіла, скорэй так зашыла. Да однэ, ту плевочку, зашыла, потом другэе так зашыла. Да ўжэ й пусціла. Вона воду п'е. Ужэ гукае: «Дзя́нно, твоя квоктуха на яйцах?» Она кажэ: «Не, от оттопу́рыласа дай седзіць». «То беры с́корэй да ратуй ее. Бо я пойду свое ратоваць».— «Ой, то поратуй мо мою?» Узелі да ее поратовалі. Да ў мене було шчэ шэсць тых, шо не квоктух, то тые отратовала, а тры пропало. А ў ее ўсёго одну отратовалі. А тые ўсе подохлі. От бачыш, воле́ соль тая проесць, і вона доходзіць, во. От вам еке було дзело. Прышоў чоловек, росказваю ўжэ я чоловеку. «Ох, с цебе ўрач!» Да росказвае: «Онь моя жонка операцыю курам поробіла дай жывые. Не ўправіласа ўсіх поратоваць». А мене, бувало, як зайду: «Ну як там куры?» — «А еке вашэ дзело?»

* * *

У екі дзень родзіласа, у той дзень топіласа. У п'яты клас ходзіла. А я седжу ў школі. Седжу ў школі, а прыбеглі дзеўкі, да: «Цётко, ваша Маруся ўтопіласа!» Ой да божэ ж мой! А я ек пень! Шчо зробілосо? Ох, божэ ж мой! Поседзела, поседзела, а дале помаленьку, помаленьку да йду. На рэцэ там купаліс. І вона із дзеўка́мі. І там хлопец купаўса недалеко. Крычаць: «Іван, о Іван, Маруся Пару́люшчына утопіласа». А той прыбег, да нырца! Да як задаў нырца, так попаў ее за голову за косы, дай дубіць. Дубіць, этые крычаць: «Цягні, цягні скорэй!» Да на рукі ее, да давай качаць, да давай качаць, да качаюць, качаюць. А вода льецца і з рота і з вушэй. А вона нічого ўжэ, ўжэ ее нема. Ужэ як сталі і качаюць, і качаюць. А потом одзін кажэ: «Здаецца дыхнула. Качай, качай!» Качае, качае, качае, а вона — «Ой, ой!» Як ойкнула ўжэ, да поставілі. Поставілі — не стоіць. Там ее дзевочкі зноў под рукі дзержаць. Подзержалі, трохі очу́сьцвеласа да прывелі. Замоталі у кожу́ха да положылі под хатою. А я зайшла. Ох да божэ ж мой! А вона не отзываецца. А вона не говорыць. Прывелі домоў. Дома лежыць, не говорыць. Устане ходзіць — не говорыць. Дзень не говорыць, другі не говорыць. Садзіцца есці. А як она там есць? Хлопцы проціў ее: «То ты ж топіласа, хай бы росказала, як ты топіласа». Мы думалі, шчо ўжэ будзе немка. Дождалі недзелі, того самого, мо та пора прышла, шо вона топіласа. А прышла, тут е ў нас стара жонка, а вона прышла да говорыць: «От, это ўжэ б похавалі, а то от седзіць хоця». А вона седзіць да: «Коб вы чулі, як

там музыкі йграли». Отозваласа! Ох, да господзі, ох, да міленькі! Ох, да дзякуй богу, шо она отозваласа. Нешчо так було ёй зробілосо, шчо ані говорыла.

* * *

Ну, пасом товар. Товар ходзіць у болоці. А мы так градою ходзім. І бежыць одна дзеўка. Она ўжэ ўмерла. Бежыць да кажэ: «Ох, да дзевочкі, конь у товары!» Мы бегом туды, аж лось! Ходзіць собе с товаром, так шо оно тые рогі лежаць на спіні. Коб дзеўкі, то дзеўкі гледзелі б ёго нішком. То перэлогі ж этые, хлопцы, як ускочылі ў тэ болото, да то й собе, коб завернуць, коб мо ёго поймаць. Пошоў, не оглянуўса, і не розгледзелі. І от скажэце, і коровы не бояцца.

* * *

Браціха мне росказвала. Була вона шчэ, дай сестра була ў ее, ўжэ велікіе булі. Ходзілі ены по чорніцы ў лес. Ідуць по чорніцы, а знаходзяцца грыбы. Оны набралі грыбкоў кошэль, понеслі домоў, нагледзелі чорніц багато, так густо. Несуць этые грыбы, зустрэлі дзеда на мосту. А вон: «От, трасца вашой мацер, скоро набралі грыбкоў! От ішлі — от ужэ несуць». Оны зайшлі домоў, позаўтрыкалі. «Ходзем да тые ягодкі вубером». Пошлі оны ў ягоды. Гэта больша сестра берэ й берэ й берэ. «А я,— кажэ,— брала-брала, адале погледзела на дорогу, аж стоіць,— кажэ,— такі ў капелюшэ і з ножэм, і с кошэлем! А я,— кажэ,— подойшла да: «Наталко, поба, онь попоў Сева стоіць». А та глянула да: «Беры! От, Севу ты побачыла! Беры!»— «Я,— кажэ,— не, не беру, ўсе прызіраюса». А вона: «Ой, беры беры ягоды». Кажэ, беры, а мене цягне, цягне далей, далей, далей. Да ўжэ далей цягне, да ўжэ й бежком бежыць. А я за ею бегу. Беглі, беглі, да вубеглі ўжэ з лесу на вугон, а вона кажэ: «Это ж чорт! Ты бачыла,— кажэ,— ў ёго зубы?» Той дзед так от наслаў на іх. Дай прышлі — не набралі ягод. І бувало навек она росказвае гэтэ.

* * *

Колісь мой бацько водзіў коні на ночлег. Погнаў вон з одноею дзеўкою. А ўночы ж не спаў на ночлезе. А ўдзень ужэ трэба зноў пасціць коні. Вон і кажэ: «Орыно, попасі трошкі, я полежу». Лёг дай спіць. «Сплю,— кажэ,— я, ох, шчо ж,— кажэ,— коло мене таке холоднэ? Ох, я лупнуў — аж вуж! Тут голова, а тут хвост. Потпаразаў мене. Эх,— кажэ,— як усхоплюса я, да як завішчу, да закрычу! Тая Орына бежыць: «Шо таке, Мікіто, шо таке?» — «Ох, да чому ж ты мене не погоніла, да ты б побачыла, шчо на мне було, Вуж мене потпарэзаў! І з того у мене год тут холоднэ було. Я,— кажэ,— тут і одзеваю, я тутэка і закрываю — і нішчо не помогае».

* * *

Ох, шо ў ее було тых бородавок на руцэ, божэ ж мой! Уся рука! «Пошлі,— кажу,— Галько зо мною». От мы пошлі на тэ болонье. Ходзім, ходзім. Кажу: «Ото лежыць косточка, беры, угледайса, як она лежыць. Тоею стороною, шо к земле, помаж, помаж, усе-ўсе, усе помаж. Я буду так стояць, шоб на цебе не гледзець, а ты помаж, помаж, положы да бежы. Ні с кім не говоры і не

одзывайса. І шоб мене не бачыла». І побегла вона. Она у школу ходзіла. Я ее не бачыла доўго. А потом побачыла і кажу: «Галько, ходзі сюды. Покажы руку». «Ох, бабочко, ужэ нема! Я і не бачыла, дзе воны подзеліса».

*Жукоўская Праскоўя Мікітаўна, 1907 г., в. Старажоўцы. Запісаў у 1981—1982 г. на магнітафоне і зрабіў транскрыпцыю П. А. Міхайлаў*

## ПЕРАД ВЯСЕЛЛЕМ

### СВАТЫ

Колісь маці дочцэ после дваццаці годоў казала: «Ты мне ўжэ не сем'янін». Вугодовалі ж, пароваццa ўрэм'е, хозяіноваць.

У пост не гулялі веселлёў, на масленой недзелі — не і ў петровіцу — не. Са́мо на тройцу — чотыры святых дне. Уполе́ту на Петра навек робілі веселле, на жніва́. От роздва до крэшчэння — не. Которые хочуць жэніцца, то, ек крэшчэнне да з цэркву пойдуць ці коньмі поедуць на ёрда́нь, дзе воду свецяць... Дзеўкі поўхоро́шваные стануць на берэзі, берэг вусокі. А хлопцы на лёдў, коло крэста, вугледаюць. Да вугледзяць да ўжэ йдуць у сваты. Ек святое воды коўценуць, прослі крэшчэння.

У недзелю ходзілі. Йдзе вон, маці й бацько, і хросных шчэ беруць. Бацько пірога несе. У вереньцы, а то і ў торбі. Обма́таны рушніком пірог. І пляшку гарэлкі ці квасу несе. У хату заходзяць да: «Дзень добры. Прышлі к вам куповаць целушку». А хатніе отказваюць: «Е целушэчка, маленька. Таку мо й не захочэце». А тые: «Чого. Дзеўка е ў вас. Ек на дзелечко охочая да оддасце́, то годоваціме». А хатніе: «Е дзеўка ў нас, гледзе́це. Ек наравіцца (ек хороша вам), то седаймо да погово́рэмо». Такое шо-небудзь кажуць, седаюць за стол да ўжэ договора́юцца.

Пута́лі ж і дзеўкі, ці пойдзе. От ек договора́юцца, то тые кажуць: «Цепер ужэ наша дзеўка». Да вуп'юць з тое́ пляшкі кажнэ́ по чарцы да пірогом тым закусяць. Да пойдуць сваты з хлопцэм. Шо остане́цца, на поліцу ставяць. З некім другім разом шчэ вуп'юць да закусяць. Ек не договора́юцца, то сваты піро́га і пляшку не несуць. Дзеўка назаўтра ці позаўтра односіць. Ці ека друга дзеўка.

Пры нашых дзедо́х не ходзілі молодые ў сваты. Ек у другом селе́ дзеўка, то вона не знае, за кого йдзе, а той не ведае, кого берэ. Прыведуць молодого на запоіны, не знае, котора молода. Его́ не пута́лі і дзеўкі не пута́лі.

### ЗАРУЧЫНЫ

А ўжэ ў ту суботу ўвечор у ее запоіны. Запівалі дзеўку. Людзей небагато було, родне́йшые которые. Да хросные, да старшы маршалок, старша дру́жка. Столоў тры-чотыры ўсіх. Зноў і з пірогом, і з гарэлкою йдуць. Занесуць ее больш, у пляшках, ці ў барылі, ето ж запоіны. І кусок сала неслі. Его́ гарэлка перва, ее потом.

Молоды коло молодое садзіўса. Песён багато спевалі, только не веселные. Молода дарыла — наметка́мі, полотно́м. Сама ткала

к веселлю. Полотно, полотно, полотно колісь давалі! Колісь краму етого не було. Вон буў, але ж не було грошэй ёго купіць.

Ек росхо́дзіліса, то спевалі:

На заручынках булі
Да гарэлочку пілі.
Гарэлочка соло́дзенька,
А дзевочка моло́дзенька.

Дружкі прыдуць на запоіны, помераюць молодого да ой — цылы тыздзень шыюць! Трэ ж нашыць п'яцеро сорочо́к да п'яцеро штаноў, сподне. Да дзежо́ўку, да шчэ шо. І перкалёву ж сорочку. Молода сама нашывала — на пазухі, коўнерыкі, чохлы.

Венка молодой робілі. Скруцяць дроціну. З бумагі ўсякого цвету шышкі зроб'яць да на ее чэпля́юць. Ленты чырвоные, вішнёвуе, голубо́вуе... Навешаюць... Бувало, дроціну з шышкамі куповалі готову. Да багато дзево́к пользуюцца. А ленты свое вешалі. Дружкі вешалі.

Колісь дзьяк з Па́секі жонку браў да ў капліцы погоцкой венчаўса. То на ёй венок з цветочкамі, ек на цёрну. І лісцейко зелёнэ і белэ, больш ніякого.

Молодого маці з госцінцэм ходзіла к молодой серэд тыжня. Ето ўжэ ў чэцвер ці ў п'ятніцу, проці веселля. Пірога рушніком обматае. Шчэ там екого м'яса зварыць, рыбу ці шю ўжэ там. Холоднэ, пампушок спечэ. І молодой, і дружкам жэ. У кошэль покладзе. І подарка несе, на плацце шо. А та ўжэ свого подарка дасць — на́метку ці полотна отрэжэ.

У п'ятніцу строяцца кажнэ к своёй беседзі. Вараць, пекуць. П'ятніца — почынальніца, казалі.

## У СУБОТУ-КАРАВАЙНІЦУ

А субота ето ўжэ коровайніца. Корова́й пекуць. На тройцу то первого дня пеклі, у недзелю, а так у суботу ўвечор, перэд недзелею. От поснедаюць, сонцэ трохі вушэй, да старша коровайніца прыдзе. Росчыніць у дзежцы да домоў пойдзе. Жытнім росчынялі. Упорану — не, прокісне ж до вечора. Ек не ўдова, то хросна маці за старшу коровайніцу.

Под вечор молода́ по хато́х, трэ ж на корова́й і на веселле позваць. Ек ідзе на тройцу, людзей на селе, то ўсіх боруха́таецца. Дзве дружкі з ею шлі, старша сперэду, друга́ ззаду. Шоб не молода дзверы одчыняла й зачыняла — дружкі. Воны стояць коло порога, а молода подыйдзе, дай боруха́таецца: «Прыдзе́це на корова́й». А та ўжэ хрысціць ладонею: «Шчасце, долю і век доўгі». Котора кожу́хом накрые. Наборуха́таецца. На веселле звала, то не борухаталаса і не хрысцілі ее. Сусед на коровая звала з кажно́е хаты, своіх і так екіх жонок. Дзево́к — не. І от молодого звалі, дружкі, вона не йшла ў ёго хату. К ёму на коровая мо сестра е, мо хто там, дзеўкі звалі. Вон не ходзіў.

От подояць кароў, устрояцца да ўжэ на коровая йдуць. Сонейко на нізу, ек уполету. І ўдо́ву шлі, ек звала, только воны коровая не пеклі. От ёго к ей прыдуць там браціха, сестра да ўжэ к ёму от ее йдуць, прытама́нные которые. Кажнэ несе місу мукі, на муку дзве ейцэ ці кусок сала покладзе.

Старша коровайніца месіць, пшэнічным. Сыро́воткі ў цесто, еец, шчэ там... Да во́зьме двома рукамі з дзежкі да на стол дай качае. Одзін раз брала. Коровая робіць. Дай спеваюць коровайніцы:

Ніхто не ўгадае,
Шо ў нашом да короваі:
З трох нівок пшэніца,
З трох бочок мучы́ца,
З трох рэчок водзіца
І дзве кваскі масла,
А трэйця доля шчасна.

І коровайніцы цесто з дзежкі беруць, по ма́ло. До дна дзежку вускрэбуць. Шышкі роб'яць. Вуплетаюць, качаюць. Накачаюць, ек кулачок, кругленькіе. І баранкі робілі. Цестом пообле́пваюць хусткі одна другой, смеюцца. Дома обпіра́лі хусткі, на корова́е не. Да заспеваюць:

Нашы коровайніцы п'яны
Да ўсе цесто покралі,
По кішэням да похавалі.

Ека свечку на коровая сучэ. Хросны бацько свецёлцы свечку сучэ, веліку. Шоб не ўдовец буў.

Бацько хросны ці брат, шоб мужчына — у сад ідзе да з яблуні ро́зкі вурэзвае, тры, кажна з трома ра́лцамі. А хто, бувало, дну з трома ралцамі, а дзве розкі з двома. Прынесе, да ўжэ коровайніцы на іх цесто — матаюць, матаюць скрозь до коица, і знізу цестом.

І печ топілі. Тры раз закідалі дрова. Перву раз — берэмок, шоб зыр буў. Згорацць етые — дзве-тры полені ўкінуць. Схопіць іх огнем, згорацць — шчэ дзве-тры полені ўкінуць. Зноў огонь у печэ́... Старша коровайніца ўжэ коровая зробіць. Круглы, велікі. Стаканом кружкі на ём поробіць, ладо́нею крэст. От прочахне печ да ў ее розкі садзяць. Прыпекуць, вуймуць. Да така ўжэ песня коровайна:

Прачыстая маці,
Прыдзі к нашой хаці
Веселле зачынаці,
Корова́я у печ саджаці.

Да хросна маці берэ лопату, сцены ею хрысціць, дэ́тту (на поўнач), у порозі другу (на поўдзеиь), дале з вокнамі трэйцю (на ўсход), дале чэцвёрту (дзе печ). Которые, то хрысцілі перэдпе́чнэ окно і дзверы, больш не. На лопату жыто сыплюць — шоб жытка ў молодых добра була, хмель — шоб дзеці веліса. Коровая́ хросна маці з стола на лопату. Да до печэ. Коровайніцы за ею йдуць, спеваюць:

Наша печ кроко́чэ,
Коровая́ хочэ,
А прыпечок колова́ецца,
Коровая сподзева́ецца.
А коровай ножкі гібле
Да до пе́чонькі дзы́бле.

Ёк саджаць, то заспеваюць:

Благослові, оцец і маці,
Благослові, уся родзіна ў хаці,
Коровая ў печ саджаці.

Да ўсадзіць хросна ў печ, на чэрэн, очэлье за́слонкою закрые. Да ўжэ молоду по голове лопатою тоею б'е, тры раз біла. І молодого білі. Б'е й прыказвае: «Дай бог шчасця». А ека прыказвала: «Ето на сына, ето на дочку». Да колько разоў удырыць, то ето шоб столько дзецей у ее було.

Да ўжэ будуць стола муць. Спеваюць:

Мішу наш, Мішу,
Да нальёмо́ воды ў місу,
Да будом ручкі му́ці,
Да на вішэнькі ліці,
Шоб вішэнькі розвіва́ліса,
Шоб молодые красова́ліса.

Змуюць тэ цесто й муку, вуцеруць стола. У сад пойдуць да ліну́ць там ету воду под яблуню ці там под грушу. Да ўжэ йдуць з сада, спеваюць:

Мы на сад воду носілі,
Соловейка просілі:
— Леці, соловей, з намі,
Ужэ коровая згіба́лі.

У хату зайдуць, заспеваюць:

Му на сад воду носілі,
То ж му дзело зробілі.
От то ву е́тэ знайце,
Нам гарэлочкі дайце.

То ўжэ за столы саджаюць коровайных, столоў тры ці чотыры іх. Назбірвалосо! Квас п'юць, трохі гарэлкі хто коўцене́. Мало тое гарэлкі ко́лісь було. Едзяць. Гомоня́ць. После песню коровайну заспеваюць коровайніцы:

Наша печ поклёвана,
У серэдзіні помулёвана,
На золотых стоўпох стоіць,
У серэдзіні коровай седзіць.

Два часы седзіць коровай у печы, да вуймаць трэ. То ўжэ спеваюць:

Ой, у печэ коровай гічэ,
Корова́йночок клічэ:
— Дзе ж нашы коровайночкі,
Дзе ж нашы недбайночкі?
Ці на меду да запіліса,
Шо про мене да забу́ліса?

З-за столоў выходзяць, до печэ́ йдуць. Маці хросна коровая з печэ́ вуйме. Да кладзе на ве́ко з дзежкі, шо цесто росчыня́ла. То ўжэ така песня:

Жаловаўса коровай све́чы:
— Ой, буў жэ я ў пе́чы,
Засмаліў плечы.
Ой, коб жэ сыр да масло,
То б усе е́тэ згáсло.

Да мажуць коро́ўячым маслом, шоб блішчэ́ў. Старша коровайніца берэ веко з короваем да по хаці ўкружкі несе — у одзін бок, у другі бок. Коровайніцы за короваем ідуць. Да за веко одное́ю рукою дзе́ржацца. Спеваюць:

Коровай ку́бком, ку́бком,
Под зелёненькім ду́бком
Да ў чысценьком полі
Да на воро́неньком ко́ні.

Ставяць коровая на столе коло вугла, дзе вобраз.

Шышэчкі ў печ прослі коровая саджалі, бара́нкі. Воны хутко пекліса. Шышкі і ўпарану пеклі, ячные, з картоплёў, абу-екіе тые шышкі, шо іх есці не можна. То на коровае ў рэшэто іх, ву́сып'юць за порог у сенях да дзеці хапаюць.

Да ўжэ радзяць коровая́, сад роб'яць. Ро́зкі нарадзяць лентамі, бумагою крашэною. Шышэчкі з бумагі кра́шэное воўязваюць, до ро́зок ніткамі прыўязваюць. Да застры́каюць тры розкі по боках у коровай. Лентою красною обоўяжуць іх разом. Которые, то дну розку ў цэнтры, то ета з тройма́ ра́лцамі, а дзве по боках, то етые з двойма́. І лентою одное́ю обоўязвалі. А як жэ! Баранкі на красну горпі́нку да кругом коровая обоўяжуць. І спеваюць:

Коровою, наш ра́ю,
Коло цебе хо́рошэ граю —
Да з дудкамі і з скрыпкамі,
Да з молодымі молодкамі.

Молода не радзі́ла. Коло по́ла стояла ці седзела там... І зелле чэплялі — еке е. Зімою і барвенок, бувало. І ўсе-ўсяке. І веткі. Спевалі ж:

Му свого коровая́ радзі́лі,
У луг по каліну сходзілі,
Половіну луга сходзілі (обломілі),
Покуль свого́ коровая́ нарадзілі.

Таке було, шо ёлочку ўвоткну́ць, з ёлкі обломяць. Свечку станоўля́лі ў цэнтры. І ее радзілі. От нара́дзяць да спеваюць:

— Короваеньку нараджоны,
Да хто ж цебе нарадзіў?
— Нарадзіла мене маці (Іва́нова там, Рома́нова)
Ручкамі да беленькімі
З перснямі золоценькімі.

Настрояць, шо й гледзі. Ёк нарадзяць да хто подходзіць к корова́ю, спеваюць:

Не йдзе́це, молодзіцы,
Коровая́ радзіці,
Му ж радзілі самі
Да яснымі свеча́мі.

Да ўжэ другі раз за столы садзяцца. Вупіваюць. Колісь не вельмі коровайніц напо́йвалі. Квас больш пілі́. Закусваюць там екімі пампушкамі...

Песне́ спеваюць. Старшой — коровайніцы от таку:

Старша коровайніца,
Да не садзіса на покуці,
Да сядзь собе на порозі
Да на бітой дорозі,
Шоб хло́пчыкі не надпілі
Да коровая не ўхопілі.

Так коровайніцы спеваюць:

Хваліласа коровайніца,
Шо веліка да роботніца,
Шо ў мене сем сорочок —
Одна на мне,
Дзве ў пранне́,
А чотыры ў кудзелі.

Трэ́цёй екой:

Наша коровайніца п'яна
Да на порозі ўпала.
Да чого вона п'яна,
Чого вона ўпала
Да ногі задзірала?
По чарочцы по поўненькой
До дна вупівала.

І таку спевалі:

За колодою за дубовою
Да там барано́ву ро́гі,
Там наша коровайніца
Да за́дзірае ногі.
Да чого вона
Да ногі задзірае?
Шо по чарочцы по поўнай
До дна вупівае.

Смеюцца, рогочуць.

Танцоваць у другу хату шлі, ек ета мала. Смук граў ці гармонь, барабан буў. До часоў чотырох гулялі. Ек уполе́ту, то дне́ло, ек домоў шлі. Светова́ зара́ на небі. Міскі свое бралі. Шышкі ім у міскі клалі, шо на коровае пеклі. Без гармоні йдуць і без смука. Спеваюць:

Му ж булі на корова́і,
Там нас частовалі
Куркамі печонымі,
Гу́скамі смажо́нымі.

І ету:

Коровайніцы грозно
Росхо́дзіліса позно.
Ек сонейко ўзойдзе,
Кажна свой дом нойдзе.

Пры́дуць домоў да короў дояць.

*Ліцвінка Васіліна Мікалаеўна, 1898 г.;*
*Кузьміч Домна Пятроўна, 1907 г.;*
*Герман Вусціма Рыгораўна, 1907 г.;*
*Ліцвінка Анастасія Рыгораўна, 1913 г., в. Пагост.*
*Запісаў у 1982—1983 гг. М. А. Саскевіч*

ТУРОВСКИЙ СЛОВАРЬ

В ПЯТИ ТОМАХ

ТОМ 3

Издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Загадчык рэдакцыі Г. Ф. Юрчанка
Рэдактар Н. М. Тарасевіч
Мастак В. В. Саўчанка
Мастацкі рэдактар В. А. Жахавец
Тэхнічны рэдактар Т. В. Лецьен
Карэктар Т. А. Зайцава

ІБ № 2111

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР.
Здадзена ў набор 20.02.84. Падпісана ў друк 11.05.84. АТ 18726. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 2. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 16,38. Ум. фарб.-адб. 16,38. Ул.-выд. арк. 17,5. Тыраж 1210 экз. Заказ № 274. Цана 1 р. 40 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.

